# ПАВЕЛ МІСЬКО

Выбраныя
творы
ў двух
тамах



# ПАВЕЛ МІСЬКО

Том 2

# ГРАДАБОЙ

Раман

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1991

ББК 84Бел7
М65

Во второй том избранного вошел роман «Градобой». В сложных, иногда драматичных и даже трагических обстоятельствах подается жизнь трех поколений механизаторов Суховеев. Нелегкие испытания выпали на их долю.

**Місько П.**

М 65 Выбраныя творы. У 2 т. Т. 2. Градабой: Раман.— Мн.: Маст. літ., 1991.— 600 с.

ISBN 5-340-00809-6.

Мисько П. Избранные произведения. Том 2. Градобой.

У другі том выбранага ўвайшоў раман «Градабой». У складаных, часам драматычных і нават трагічных абставінах паказваецца жыццё трох пакаленняў механізатараў Сухавеяў. Нялёгкія выпрабаванні выпадаюць на іх лёс.

М $\frac{4702120201-069}{М302(03)-91}$ 114—91

ББК 84Бел7

ISBN 5-340-00809-6 (т. 2)
ISBN 5-340-00807-Х

# Частка першая

## ПЫЛ ПАЛЫНОВЫ

*Хор*

— Такі праўда... Ай-ей-е-е... І хто б мог падумаць?

— Сухавей... Адно слова — Сухавей.

— Такая несусвеціца — божа, твая воля...

— Ну але-але: думаеш, спраста ён хату перасыпаў? Неспраста! Будзе жаніцца...

— І сельсавета не паслухаўся. Дамашэўскі сказаў, каб раскідаў старую — від псуе. А ён — у хамут. Поднаў даў, шыфер на стрэху...

— Яшчэ пяцьдзесят гадоў прастаіць. У хаце галоўна страха.

— Чаго я хацела сказаць — не перспякціўны наш пункт. У целявізары казалі, што толькі некаторыя сёлы развівацца будуць. На астальныя — запрэт. Наша падпадае пад запрэт — прадставіцель з раёна казаў.

— А чаго ж тады дазвалялі ставіць мураванкі? Вунь Беразань не перасякці... ой... Ну — гэтае самае... Дак там і дзеравяных не даюць ставіць. А Вольчын хутар і рамантаваць не даюць: перасяляйся — і ўсё!

— Ха! Адзін хутар — ерунда.

— Дзякі, а помніце — Сенька Патапаў прыязджаў? «Дзе гэта,— кажа,— маці жыве?» Не пазнае сяла!

— Ведама — пустадомак...

— А чорт яго пазнае!.. Во, толькі на нашым узгорку пяць дамоў з цэглы.

— Шэсць! А Загаецкія?

— У Загаецкага шлакаблочны. Яшчэ цяплей, чым з цэглы. І суха-суха ў хаце!

— Суха! Палі добра ў печы раніцу і вечар, то і ў цябе будзе суха.

— Чаго я хацела сказаць — няма лепш, як вадзяное... Кацёл на кухні, не смеціцца, а па ўсёй кварціры цяпло ідзе.

— У Патапа батарэі, а сцены ўсядно чорныя — пацвілі.

— Ха! Патап! Ён раз у тыдзень паліць... І фортачку ні разочку не адчыніў: баіцца цяпло выпусціць.

— Мішка, трасца тваёй мацеры!.. Куды ты палез? Там яшчэ і завязь добра не завязалася!

— Дзяўкі, чуеце? Дак Сухавей ужо ў роспыты ездзіў... Не ў сваты, а ў роспыты. На веласіпедзе!

— І гэта ў яго веку?! Бож-жа, твая воля...

— А мог бы адразу ў сваты. Але, кажуць, толькі ў брата, у Пятра, паначаваў. Усё пра тую ўдаву выпытваў...

— І ўдава тая з Буславіч?

— З Буславіч... Блізка ад Пятра жыве.

— Здурэў на старасць... Трэба яму тая жонка!

— Э, не кажы! Чырвоны як бурак. Ты не глядзі, што галава белая.

— А я, на месцы Яся будучы, то не жанілася б. Смеху дабыць на старасць? Добра, як тая ўдава ў гадах, а калі пачне хвастом круціць?

— Не будзе круціць... Не наўме ўжэ ёй гэта.

— А я прывыкла адна ў хаце, то мне дзіка, каб яшчэ хто шастаў.

— Ведаем, як адна шастаеш. Ведаем!..

— А што ты ведаеш? Што? Ты унь за сабою глядзі!

— Ціха-це! А то яшчэ за чубкі пацягаецеса!

— Манька, дзе ты там... Лесік пуп надрывае! Пакалыхні каляску!

— Дзяўкі, у газеце было пра аднаго напісана... Восем жонак знасілася, а ён хоць бы што... Трыццаць шэсць дзяцей прыдбаў! Старэйшаму сто тры гады, а меншаму тры.

— Бож-жа, твая воля... То самому ж колькі год?!

— Сто трыццаць... Яшчэ ўсё робіць пры доме і па гарах лазіць, авечак пасе.

— Ха! Дак у іх жа клімат... Горы... Горцы называюцца. Я ў целявізары такіх бачыла. Даўгажыцелі мяса не ядуць, адно расціцельнае і малачко. І сыр авечы, брынзу...

— Бож-жа, твая воля! То ў іх авечак дояць?!

— Дояць! Кажуць, іхняе малако лячэбнае.

— Гэта казінае малако — лякарства, а не авечае... І гэтых, як іх... Нейкіх анцілопаў, у целявізары паказвалі. Таксама лячэбнае...

— Вой, мне раз Волька Канапелькава давала паспытаць казінага... То ўзяла ў рот і выплюнула — не магла пракаўтнуць.

— Жыроў у казіным малацэ многа.

— Дзяўкі, а Марфачка? Забылі Марфачку? Сто пяць гадоў жыла. От табе і клімат!

— Ты на Марфачку не глядзі. Тая і звекавала ялаўкаю. Хіба яна гаравала, дзяцей гадавала? А гэта ж крыві колькі на кожнага трацішǃ А нервы гарацьǃ, што порах! Манька, ці заклала табе там? От рыштанюга, ну — я ж табе!.. Пакалыхні Лесіка!

— А колькі Аўдотцы? Мо скора ўжо Марфачку дагоніць.

— Восемдзесят другі... Яна таварышка майму бацьку. Дак бацька шосты год косці парыць, а яна...

— Ха! Возьме Ясь маладуху, то можа яшчэ дзіця прывесці ці двух... Маладзейшыя будуць, чым унукі.

— Але-ле... З праўнукамі могуць зраўняцца. У Ясевага Гардзея хлопец ужэ вучыцца недзе. Студэнт...

— Дар'я, а колькі той удаве з Буславіч?

— На пенсію збіраецца. Кажа, спраўлю ўсе паперкі, каб на пенсію ісці, а тады замуж. За адным рыпам...

— Дзяўкі! То вы ж ведаеце яе! Спявала ўсё, прытанцоўвала, як да Уманскіх на вяселле прыязджала.

— А-а-а, дак гэта та-ая?! Аляксана! Ты ж бы зразу так і казала, што Аляксана. Я Аляксану дзеўкаю яшчэ ведала. Гаруе ўсё жыццё. Сухая, як шчэпка... Маці ў яе чыста ведзьма была. Гэта ж як узялі прымака, то мо і дала ім адну ноч разам паспаць. А то ўсё гнала ды забараняла.

— Во-ой, то нашто тады і замуж ісці... Дурная Аляксана, папусцілася. Я, Аляксанаю будучы, выкаціла б разок з хаты, то паласкавела б!

— Што ты хоць чаўпеш! Як гэта можна — маці?!

— Чакайце, а сын жа ў яе ёсць! У сына цяпер Аляксана жыве.

— Ха! Прыхваткамі, прыхваткамі, а сына такі зрабілі.

— Падгадавала сыну дзяцей, а цяпер непатрэбнаю стала. Кажуць, куском хлеба папікае...

— То пойдзе за Яся, калі німа жызьні...

— От жа дзеткі! На горкай асіне павешаць...
— Дзіва што пойдзе! Такая хата на аднаго...
— Пчол восем калод! З аднаго мёду можна пражыць, прадаючы.
— Дзяўкі! У газеце было пра адных... Прадалі хату, паехалі да сына ў Мінск. Ну, пажылі трохі, сын выманіў у іх усе грошы, адале выгнаў. Вярнуліса ў сяло, а хаты няма, грошай — няма. Папрасіліса ў таго чалавека начаваць, што хату купіў... Плачуць, як бабры, комін цалуюць-абнімаюць... То гэтак ужо савясцілі таго сына ў газеце, гэтак савясцілі!
— Дурныя старыя... У суд трэба было падаваць на сына.
— Бож-жа, твая воля! На сына — у суд?!
— У Яся і не такая магла быць гаспадарка. Рыгораву ж дзель не аддаў.
— Рыгор так і не адсудзіў з бацькаўшчыны нічога?
— Не! Суд жа як глядзіць? На душы дзеліць гаспадарку. Робяць ацэнку — і на душы. То Рыгору з бацькавай сялібы адна толькі сцяна хлява і пападала. Дак хіба ж будзеш выломваць сцяну?
— І Ясь казаў: «Дурны ты, мой сынок... Я ж табе у чатыры столкі больш даў бы, каб ты па-харошаму, пазору не рабіў. А так — толькі тое, што па суду. Толькі тое!»
— Шэсць душ у іх тады было. Тры сыны, дачка... Жонка яшчэ жыла — шостая...
— Божухна, твая воля! На бацьку — у суд!
— А Гардзею таксама нічога не выдзеліў...
— Гардзей жа ў прымы пайшоў... Мо дваццаць гадоў, як не жыве тут. От Федзю то праўда — нічога. Вывучыў толькі яго.
— Федзя — бабыль... Жаніцца няма калі з-за навукі.
— Дзяўкі, я ведаю: ён у аспірантуры вучыцца.
— Дзяцей вучыць і сам вучыцца. Завочна...
— А пра Настасу забылі? Такую камяніцу ёй адгрукаў... Каб думаў Ясь, што не ўжыве разам, то не будаваў бы такую хароміну. Пры дачцэ думаў век дабываць.
— Мо з-за кульгавага не ўжыў, з-за кладаўшчыка. Але ж той, здаецца, ціхі, муху ■ носа не згоніць.
— У ціхім балоце чэрці вядуцца.

— А кажуць, што і Лявошка дакладáў грошы на камяніцу...

— Што ты хоць гаворыш! Як муравалі, то ён яшчэ і ў той бок не глядзеў, адзін жыў.

— А от жа Лявошка не прадае свае, кватарантаў пусціў, настаўнікаў.

— А каму трэба тая парахня?

— Мураванка на Настасу запісана, ці як?

— Дзяўкі! Не-е! У том-та і дзела.

— Прадасць Лявошка старую. Не можа такога быць, каб два дамы. У целявізары нават сам юрыст гаварыў...

— Дак жа ж мураванка не яго!

— Гэта ў Сухавея два дамы, а не ў Лявошкі.

— Настаса тожа штучка добрая. Кажуць, закамандавала Ясю, каб грошы з пенсіі ёй аддаваў.

— Дзяўкі! Не ведаеце, то не пляшчэце... Надвараты́, Ясь усе грошы сабе забіраў.

— Добра Настаса з бацькам усю дарогу, даглядала яго як трэба. І ён да яе добра...

— На два хаджайствы жывуць. А колькі пляцоў сеюць — два?

— Адзін. Але сотак яшчэ дабавілі.

— О-ха-ха... Чужую бяду рукамі развяду. А ў сваёй паспрабуй разбярыса!

— А з Рыгорам, мабыць, так і не будзе ладу. Соўгаецца, бачыла, як хмара. Хілабокі зрабіўса...

— Вычухаўса ўжэ?

— Па двары тупаў — у кажушку. Па гароду хадзіў... Твар выбеліўса, дзе і чарната дзеласа!

— Ха, адмыўса хоць трохі ад мазуты.

— Хвароба аднаго рака красіць... І прыглушыла тады, і ўспаленне з двух бакоў. Мо больш за месяц у бальніцы качаўса, і дома ўжэ з месяц, на бюлецені.

— Гэта ж трэба так здурэць — у зямлю мокрую закопвацьі!

— Прадрассудкі! Адзін прафесар у целявізары казаў: такое — прадрассудкі.

— Аўдотка камандавала. Аўдотка ж ведае...

— Божа, твая воля! Як ішло ў яго на тое: і каб громам стукнула, і каб успаленне схапіў!

— А я, Каменскім будучы, то не дала б яму бюлеценя. Не дачакаўса б!

— Дзяўкі! Пастанаўленне ёсць — толькі тады ап-

лочваць, калі на рабоце траўму зрабіў. Юрыст у целявізары...

— Дак ён жа ж на калгаснай рабоце! Салому вёз...

— Вёз, але куды? Дуброва вунь дзе, а ён да Волькі павярнуў... А яму яшчэ і бюлецень!

— Чаго я хацела сказаць — пуцёўку яму прафсаюз дае, у санатору паедзе...

— Зрабілі б яшчэ і пенсіянерам які прафсаюз. А то сядзіш пад плотам, як сава.

— Дар'я! Узяла б гармонік да парыпала трохі. А мы б якіх «уланаў» станцавалі.

— Маню шкода: чацвёра дзяцей!

— А я, Маняю будучы, то й не жыла б з Рыгорам. Вытурыла б — і ўсё. Хай бы ішоў да Волькі.

— Ох, якая храбрая... Гаворыш, бо сінякоў не насіла. А яе як расфарбуе Рыгор — бож-жа, твая воля! Згаркавееш ад такой жыткі...

— І ўсядно б не жыла!

— Ціха-це! Яны ж разыходзіліса — забылі? Сама ўцякала да маткі. Мо паўгода з дзецьмі ў маткі жыла.

— Цяпер і ўцякаць няма куды. Матка з імі жыве, хаты другое няма.

— Перапрасіў, кажуць, на калені станавіўса...

— Ну але! Сагнеш Рыгора на калені!

— Але ж нейк перапрасіў! Дурная Маня, што паслухаласа. Тады хоць трое дзяцей было, а цяпер...

— У Мані тожа цемпераметр — не дай бог такую ў хату. Як самашэдша робіцца.

— Не пара яна Рыгору. Не пара! Ён такі бугай, а яна — як перапялічка.

— Мыш капы не баіцца...

— Ха! Ха...

— Федзя, кажуць, пісьмо Рыгору прыслаў... Так ужэ савясціў, так савясціў! Дакуль ты, кажа, будзеш дзёгцем усіх нас квецаць?

— А вы хіба, цётка, чыталі тое пісьмо?

— Маня сама казала.

— І Гардзей прыязджаў на легкавіку гаварыць з ім. «Жыгулі» ў Гардзея...

— Гэта праўда, што Гардзею ордэн за пшаніцу далі? За ўборку?

— Праўда. Прыязджаў на радзіны да Настасы з ордэнам.

— Аднае маткі, а такія неаднакавыя... Не скажаш, што і брат Рыгору.

— Чаму? Усе яны звераватыя ў рабоце...

— Сухавеі! Прыгледзьцеса... Усе тры — Сухавеі. Цыганчукі... Такі і Ясь малады быў — я помню. Гэта цяпер выбеліўса, раздабрэў. А раней — ого!

— Федзя больш па мацяры пайшоў. Святлейшы і кучаравы...

— Ха, ну й кудравец!.. Прыязджаў нядаўна, гляджу — ён ужо наперад валасы горне, лысіну прыхоўвае.

— З вялікае навукі палысеў. Яшчэ як у школе быў — утупіцца ў кнігу і крукам сядзіць.

— Ха-ха, Гардзей тожа з навукі? У яго мо сем класаў, а лысіна — на ўсю голаў! Хоць аўчынкаю абшывай.

— Дзяўкі, пасціхайма! Да лысін ужэ дабраліса...

## Раздзел першы

I

Марфа, Рыгорава цешча, невялічкая, сухая, але яшчэ вёрткая і куслівая, як асенняя муха-жыгучка, цешылася з яго няшчасця, з яго немачы і не хавала, што цешыцца. «Пачуў гаспод малітвы... Пачуў! Адрыгнулася табе ўсё... Во-о-о... Ляжы цяпер, як калода... Як завала...» Або: «Во-о, хадзі цяпер — цішэй вады, ніжэй травы...— Яна бубнела і бубнела сабе пад нос — на розныя лады, дабаўляла ўсё новыя і новыя папрокі.— Ач — як пыльным мяшком здзяжылі...» Рыгор сноўдаўся па пустой вялікай хаце (так і не сабраўся адбіць дошкамі кухню і спальню), не знаходзіў сабе месца. Трапляўся на Марфінай дарозе часта, замінаў увіхацца па гаспадарцы. Першыя дні, як стаў ачуньваць Рыгор, Марфа прашмыгвала міма моўчкі. Потым, калі пабачыла, што ён не аскірзаецца, не абзываецца да яе ні словам, ні паўсловам («Нямко, чысты нямко!..»), падумала, што і праўда настаў час, калі можна ўжо камандаваць Рыгорам, «ехаць» на ім. «Во, сеў зноў... Каб цябе скулле абсела... Нават вады не ўнясе. Яму нічога ўжо ні ў галаве, а ты хоць трэсні, хоць лусні, хоць драбней маку рассыпся... Тая начаваць скора будзе на ферме, а гэты не ў сабе... Дзеці ад рук адбіліся... І Саша недзе збег...» Праз які момант

зноў заводзіла: «Хоць бы з Таняю пагуляў... Каб не лезла абы-куды... Ідзі, ідзі, Танька, да таты!»

...Рыгор сядзеў на лаве пры стале. У кажушку і валёнках, у зімовай шапцы, рукі звісалі з каленяў, як нежывыя, вочы — невідушчыя... Худыя, скура ды косці, пашчэнкі зараслі шматдзённай шчэццю. Ад Марфіных слоў Рыгор раз-пораз сціскае зубы, і па шчоках перакатваюцца жаўлакі.

Не чуў ён, здаецца, як шалахцяць старонкамі кніг, прынеслі з бібліятэкі, Алена і Ваня. («Тата, я адну прачытаў, пакуль прыйшоў, ну й кніжка!» — хваліўся сын.) Алена напаўголаса прыгаворвае сабе нейкі верш. Абое кідаюць на яго насцярожаныя і спачувальныя позіркі: «Тату прыбіла... Тата хворы... Тата маўчыць...» Рыгор не бачыў, здаецца, не заўважаў, як лезе да яго на калені, шчамляецца Таня. Зняў яе рукі з каленяў, пайшоў на двор — ні гуку не абраніў. Нібы яшчэ не вярнуліся да яго ні мова, ні слых, як у першы дзень хваробы.

Прайшоў у одуме паўдвара, пастаяў, штосьці натужліва прыпамінаючы. Пацепнуў плячыма, нібы яго пранізала холадам. Угнуўся над плотам, абапёршыся на планкі, глядзеў у агарод.

— Во-о, стаў ужо, уталопіўся, каб табе вочы стаўпом пасталі...— пратупала міма цешча.— Ад роднага дзіцяці нос верне, ад дзяцей уцякае... Залез бы ў пограб, каб і людзі не бачылі. Картопель там яшчэ з мяшок, перабраў бы. Па метру храсткі павырасталі...

Праз колькі хвілін цешча імчала назад з хлява, прыпынілася ў яго за спінаю.

— Шыфер вунь выпісваюць у сельсавеце, у каго град пабіў. Так і будзем начоўкі і тазікі падстаўляць? А мог бы і больш папрасіць, хлеў перакрыць... І блокаў шлакавых на хлеў. У людзей ужо як цацкі хлявы, даўней і хат такіх не было...

Рыгор не зважаў на яе звягню, сышоў толькі з месца, намацаў дзверцы ў сад. Прайшоў туды, сеў пад слівою пры плоце, дзе змайстраваў лаўку са спінкай. Дзверцы забыў за сабою прычыніць...

Пабіты сад... Толькі сям-там завязь засталася. А столькі ж цвету было! Грушы — як малаком былі абліліся, яблыні пачыналі ружавець, цвісці. Валяеццаназбіваных галінак, хоць граблямі грабі. Шмат збітага, учарнелага ўжо, спарахнелага цвету.

«Як нажом... Як нажом, градам паадцінала...»

«Шыфер, шыфер... А што — шыфер? — перавёў цяжкі погляд на страху.— На страсе шыфер... Ёсць пабітыя лісты... Трэшчыны... Нават прабоіны, праломы... Колькі такіх набітых набярэцца?» Але забалела галава з думак, забалелі яблыкі вачэй, і ён адвёў хутчэй позірк са страхі, апусціў галаву, прыплюшчыўся. Зняў шапку, у каторы раз памацаў цемя — мо і ў галаве, у чэрапе трэшчыны, пралом? Надзеў шапку, сцішыўся на сонцы. І мо прыдрамаў, бо калі абазвалася каля яго Таня, уздрыгнуў.

Моўчкі пасадзіў яе на калена.

— Тата, ты хочаш быць вожыкам? Тата, ты — вожык? — памацала пальчыкамі Таня яго бараду.— Ой, якія злючкі-калючкі! І белых — многа-многа... У цябе былі толькі чорныя іголкі!

— Ага...— выдыхнуў ён, расшпільваючы кажушок і тулячы яе да сябе.

Рукі нібы ўпершыню пачулі цеплыню кволага, роднага цельца. І гэтая зварушлівая цеплыня тоненькімі струменьчыкамі ўлівалася ў яго аслабелае, здавалася, схаладнелае назаўсёды, такое дужае і бунтоўнае цела... Цеплыня, якое ніколі не меў ні ад каго ў сваім доме, якая рабіла крохкай, трушчыла і рыхліла душэўную зледзянеласць. Таня таксама нібы пачула сваім сэрцайкам, што яна патрэбна яму. Залезла на калена з нагамі, зыбалася і саскоўзвала, але тулілася моцна губкамі да лоба, нібы слухала, ці ёсць у яго тэмпература, няўмела цокала языком — называецца, цалавала. А ручкамі ўсё ціснула і ціснула яму на патыліцу, каб мацней прытуліць да сябе.

— Я цябе люблю... Крэпка-крэпка... Во так!.. І яшчэ мацней: о-о-от та-ак!

І зноў нешта дрэгнула ў Рыгоравай душы, вочы заказытала... Штосьці гарачае заклакавала горла. Сціскаў зубы з усяе моцы, але сутаргавы ўсхліп ірваўся з грудзей, і Рыгор угнуўся, утуляючы твар у Таньчына адзенне — каб не ўбачыла слёз.

— Ой, татка... Я цябе прыдушыла? Табе баліць? Я больш не буду! — адхілялася малая, адціскала ад сябе далонькамі яго лоб, каб зазірнуць у твар.

— Не-не... Хадзем са мною... Пагуляем... Далёка-далёка пойдзем...

## 2

Ён не пачуў, як выйшла на ганак і зноў бубнела сабе пад нос цешча: «Куды яго панесла? Праўду Аўдотка казала: «Пільнуйце, бо можа па полі пайсці...» У поле пацёгся! Божачка, такі тронуўся... Яшчэ дзіця ўтрубіць...»

— Куды ты? Вярніся!.. Сельсавет не там! — закрычала яна віскліва.— Дзіця хоць пакінь, не знось!

Марфа спуджана-вёртка крутнулася на ганку, знікла ў сенцах.

А Рыгор ішоў, то паскараючы, то запавольваючы хаду, тулячы да сябе аберуч дачку.

Ён то ўгінаўся, нібы ішоў супраць ветру, то выпростваўся і выгінаўся, як не завальваўся назад. Ногі часам самі падкошваліся, аж прысядаў, яго вадзіла ў бакі слабасць і спустошанасць. Ён прыстойваў, сапучы, як загнаны, і чуў колкі боль у грудзях. Што балела — лёгкія, як нядаўна, пры запаленні? Але ж яго выпісалі з бальніцы, палічылі, што паправіўся. Ні ўколаў, ні парашкоў не прымае. А мо сэрца? Паколвае, падціскае...

— Ножкамі прайдзі... Ножкамі...— пусціў малую дадолу.

— Я красачак нарву... Ой, пчолкі на іх! Кыш, кыш, кусачкі...

Рыгор паволі — нага за нагу — падыходзіў за малою. А то забываўся на яе, абганяў, і Танька ўжо сама ішла за ім.

Куды ён ішоў?

Ён не цяміў, куды і што яго цягне. Хто і што яго вабіць.

Не, ніхто яго не цікавіць... І нішто... Ён адрынуты ўсімі, і ён адрынуў усіх. Чарната ззаду, чарната ўперадзе... Як пасля таго ўдару перуна. Нібы і не існуе ён, а калі існуе, то ўжо — не ён. Не яго гэта няўклюднае, ачужэлае цела, што ніяк дасюль не можа сагрэцца. Не яго спустошаная душа, дзе няма месца ні жонцы, ні дзецям... Ні Вольцы... Нават Вольцы...

— Тата, а чмялі таксама кусаюцца? У іх такія шубачкі мяккія, прыгожанькія...

Між палеткаў цягнуўся доўгі луг. Ён дугою заварочваў аж туды, да «стаўбавой» дарогі, і мо з-за гэтай крывізны і называўся Кавенькаю. Па самай нізовіне калісь была прагнана вялікім плугам-канавакапальнікам канаўка. Толькі ранняй вясной бегла па ёй ці ста-

яла вада. А летам канаву толькі можна было заўважыць па няроўных, удзірванелых камлыгах на берагах, па драсёне, прастрэле і жабніку, што густа ўкрывалі ручво.

Рыгор сеў на дзярон-купіну, валёнкі спусціў у зелле. Цярнуў з ілба халодны і ліпкі пот... У яго вачах нібы ўвесь час штосьці ўспырхвала з зямлі, распасцёртае, нібы гіганцкая празрыстакрылая стрэлка, чулася нават шаршэнне крылаў. Нарэшце даўмеўся: шыпяць правады высакавольтнай лініі, да яе метраў пяцьдзесят... Неўзабаве мільтуханне крылаў пагусцела, пабялела, аддалілася, нібы матылёк-капусніца... І вось ужо не матыль-прывід, а Волька замест яго... У белай сукенцы, з белай касынкай, што рвецца з шыі, трапеча за плячыма... Валасы льюцца ззаду, як сцяг на ветры... Бяжыць ад яго, Рыгора, насустрач ураганнаму ветру і чарнаце хмары, у якой жыхаюць маланкі. Адбягае, хістаючыся, падныраючы пад ветраныя патокі, спатыкаючыся... Знікае і зноў паўстае з трымцення — агромніста, засцячы ўвесь свет беллю, нібы ён уткнуўся тварам ёй у сукенку, у грудзі...

— Тата, я чмяля ў жменькі злавіла! Ён лапкамі казыча... І плача тоненька: «І-і-і-і!»

Волька... Запала яна ў вока даўно. А вось пацягнула да яе безутрымна зімою. Прывёз ім якраз брыкет... Так выпала, такую разнарадку далі...

Прычэп затаўхаў на двор заднім ходам. Сам разгружаўся, гідраўліка пераварочвала кузаў. Шухнуў пад ногі Вольцы, у снег. Хай забаўляецца, прыбірае, носіць.

Але выйшаў з хаты стары бацька, пачаў увіхацца з кашом. А Волька паклікала Рыгора ў хату: завядзёнка такая, трэба пачаставаць... Ён і аднекваўся нібыта — сярэдзіна ж рабочага дня. «Ну, хіба вады каўтну... У роце смагне...»

Зайшоў, і Волька мігам сабрала на стол — масла, сыр, сала. Паўлітэрку паставіла. «Віна трошкі, калі гарэлкі баішся...» Кульнуў шклянку на скорую руку, кінуў у рот кавалачак сала. І сам у парог. А Волька стаяла каля дзвярэй, усміхалася, і вочы яе праменіліся ласкай і цяплом...

Ён ніколі раней не задумваўся, чым яна падабалася яму. А цяпер разгледзеў, зразумеў: во гэтай цеплынёй і ласкавасцю вачэй. Бо твар звычайны, крыху па-

доўжаны, не такі круглавіды, як у Мані... Загар не браў яе, на носе і каля носа праклюнуліся дробныя кропачкі рабаціння. Валасы густыя, пышныя, каштанавыя — капа на галаве, вадаспад за спінаю... І сама вышэй сярэдняга росту, не такая карантышка, як Маня. Станам хлёсткая, гнуткая... Ішоў у парог, ішоў проста на яе. І абхапіў за сярэдзіну, прыціснуў да сябе — адною рукою, праваю, а леваю вышэй — пад плечы, пад шыю. А губы ўжо шукалі яе губ. Якім няўклюдным, непатрэбным здалося тады адзенне на ім — і ватнік, і ватныя штаны... «Адстань... мазут... чык... Ад... стань...» — круціла яна галавою, вырывалася, адгіналася назад. А ў яго ўжо кружылася галава, бухала ў скроні — ён не валодаў сабою... «Бацька... вунь... ідзе!» — выкаўзнулася яна, страпянула галавою, правяла рукою па валасах, папраўляючы прычоску.

«Бацька торф прыбірае, не да нас яму!»

«Усядно — знайшоў час!»

Ракавое слова было сказана, папрок быў толькі за адно: не ў пару ён намысліў такое, у нязручны час. А як выбера момант, як выдасца зручны? Тады... усё будзе?

«Ну, заяц, пачакай!» — заскаліў цыганскія вочы: даў зразумець — не адстане. З усмешкаю таўхануў дзверы — паволі, не адрываючы позірку ад вачэй Вольжі. І штосьці ўлавіў у іх, нейкае абяцанне.

Ішоў міма Вольчынага бацькі, які ўкленчыў каля кучы, нагортваў аберуч у кош брыкет. Рыгор усміхаўся сам сабе — як дурны, усмешка была неўтаймоўная. Яна проста раздзірала яму губы — не мог стрымаць, хоць мо сто разоў спахопліваўся, рабіў твар сур'ёзным. З такою ўсмешкаю працаваў да канца дня, шчаслівы — да сораму. З усімі дома быў ласкавы, як ніколі да гэтага і пасля гэтага. І нават Маню гарнуў да сябе ўночы з небывалай страсцю. Мо і Маня дзівілася з яго, але не здагадвалася, што ён у час гэтай ласкі ўяўляў ужо на яе месцы другую.

Але хіба мог такі самападман доўга цягнуцца?

Усё не надаралася зручнага моманту зноў завітаць на хутар. Пасля работы па звычцы таптаўся каля магазіна з такімі ж, як сам, «мазутчыкамі». Стаялі, перакідваліся словамі, жартамі, курылі: за дзень назбіралася, пра што пагаварыць. Але нават і памаўчаць разам адчуваў як не фізічную патрэбу. За рулём жа

ўвесь час адзін і адзін... Былі і заўсёднікі, што аціраліся тут штовечар, чакалі выпадку выпіць на дарэмшчыну «кака-колы». Пасля чаркі «на сон градушчы» таксама яшчэ стаялі. У такія моманты ўчашчала да магазіна і Маня або пасылала замест сябе маці — Марфу. У апошнія гады — ледзь не кожны вечар. Думалі мо, што такім чынам не давацьмуць яму «набрацца як жаба гразі», прысаромяць. Глядзелі на яго людажэрнымі вачыма — і ў магазін.

«Хо... Прымчаў ужо твой страж парадку... Рыгор, не трусь! Мы ў крыўду не дадзім!» — падколваў хто з трактарыстаў. А для Рыгора гэта быў нож у сэрца. Ён адчуваў сябе зняважаным і прыніжаным. Ну хіба ён піў? Хіба так людзі п'юць? І ў ім закіпала злосць. Яна ўзнімалася з нейкіх патаемных і цёмных закуткаў, нібы кіпнем запаўняла ўсё цела, затуманьвала мозг. Калі яшчэ Маня стрымлівала сябе, адно што зыркала вачыма, то і ён маўчаў. Хаця гэтае маўчанне давалася яму вельмі цяжка. Калі ж яна спрабавала пакіраваць, пакамандаваць, а хто-ніхто ў гэты час абавязкова падколваў і яе, і яго, у ім узвірвала шаленства. Ён знарок тады даўжэй затрымліваўся каля магазіна, больш напіваўся, прыходзіў дадому і «даваў разгон». І Маня, і Марфа, і дзеці хадзілі тады і не «бзыкалі», часцяком цешча не начавала дома, а па суседзях...

Быў такі выпадак, што... Калі? Здаецца, да Маніных уцёкаў... Тады яшчэ ў цешчы была свая хата, было куды ўцякаць...

...— Тата, а жабяняткі, як чалавечкі! І ручкі з пальчыкамі, і ножкі! Хало-о-одныя-я!..

Як кручаная зрабілася Маня. Убіла сабе ў галаву ці хто ўбіў, што жонка з характарам можа вылепіць сабе мужа, якога захоча. Нібы з воску... Нават знячэўку падслухаў раз, як Маня скардзілася Аўдотцы: «Ой, бабка, не памагае ні сельсавет, ні ваша нагаворная... У капусту падлівала, у супы, а ён які быў, такі і ёсць».— «Э, не кажы, маладзіца... Я нават воўка магу загаварыць... Але ж так загавару — прыйдзе да каровы, і ён будзе яе лізаць, а яна — яго...»

Прымчала раз Маня да магазіна... Загнула на ўсю вуліцу трохпавярховага мацюка... «Я!.. гэта!.. кодла!.. зараз!..» — выкрыквала немым, не сваім голасам, косы распушчаныя. Схапіла з нейчага воза пры плоце аха-

пак саломы, паперла перад сабою, не бачачы свету, у магазін (нават пуга тырчала з саломы, прыхапіла разам). Утахціла ў тамбур паміж першымі і другімі дзвярыма. Выскачыла ўся, чырвоная, вочы блішчаць. «Х-хэ... што гэта яна?» — у неразуменні таропіліся на яе людзі. А яна выхапіла з рук у некага запалкі, бягом назад. Не паспелі ні ахнуць, ні сцяміць — з-за дзвярэй паваліў дым, зырка пыхнула полымя. «Як прусакоў я вас!.. Як прусакоў!..» — крычала, вырывалася, а Рыгор, позна хапіўшы яе ззаду ў ахапку, не мог стрымаць — столькі шалёнай сілы бушавала ў ёй.

Кідаліся трактарысты ў тамбур, таптаді агонь, выгрэбвалі нагамі салому — і выскоквалі, задыхаючыся ад дыму, ахкаючы, збівалі з сябе полымя: прамасленае адзенне хапалася гарэць. А ў магазіне чуўся лямант, там былі не толькі выпівохі, былі і проста пакупнікі — жанчыны, дзеці. І ўсе галасы перакрыкваў голас магазіншчыка Макароні: «Ціх-ха, дурні! Магазін не загарыцца, ён цагляны!» Але некалькі чалавек прарвалася з дзвярэй скрозь агонь і дым, якія ўжо меншалі, нехта справіўся пабіць шыбу ў акне і лез, раздзіраючы сябе асколкамі-зубамі, што тырчалі з рамы, лямантаваў... На таго ззаду напіралі людзі, вішчалі, сплятаўся клубок...

Але салома спалнула, а дзверы ўгарэліся не вельмі ахвота, і іх заліў знутры, носячы вядром ваду, Макароня. Тады і міліцыянер прыязджаў, і следчы. Але прызналі, што Маня была ў «невменяемом состоянии», не сталі засуджваць. А «нанесенный ущерб» давялося выплочваць — дзвесце рублёў.

...— Тата, а дзе жабы сабе дзетак купляюць? Таксама ў магазіне? А ў жаб магазінаў не бывае! От!

А другі раз, у час другога спаткання з Волькаю, было ўжо ўсё. Усё!

Ехаў міма, слепнучы ад стрэчнага сонца, ад снегу, вёз тарфакрошку — завярнуў на хутар напіцца вады. Вада ў Вольчыным калодзежы смачная, гэта любы ў сяле ведае. Бабы, калі трэба ісці на поле міма хутара, ніколі з дому не бяруць. Спыніў трактар ля плота, скокнуў на падатлівы, размяклы на сонцы снег... Драўлянае, акаванае жалезам старое вядро паволі разгутвалася над ліхенькім тынам студні: туды і сюды, туды і сюды — падзімаў ветрык... Падчакаў, злавіў... Перабіраў рукамі выслізганы шост, апускаў вядро, а сам

цікаваў, ці не пакажацца на скрып пругла Волька. Пачула-такі, таксама выбегла з вядром, лінула ўбок рэшткі вады, хуценька падышла да тына — з другога боку, з двара. Усміхнулася яму яшчэ здалёк, і гэтак пагодліва, што і ён заўсміхаўся, забыўшы пра ваду.

«От добра, і мне заадно выцягнеш... Груз з пругла скінуўся, ваду цяжка даставаць... Бацька ўсё абяцае прывязаць. Няма сёння, пайшоў недзе ў брыгаду...» — гаварыла, а сама глядзела на яго. Ці гэта сонца так асабліва падала, а мо і напраўду яе вочы свяціліся жоўта-залацістым, нейкім фасфарычным святлом. «Ага...» — скаўтнуў сліну, баўтануў паспешліва вядром — дзесьці там, у глыбокім прыцемку, з якога патыхала вільготным холадам. Пакуль цягнуў, з вядра цурчала, і ў бездані звонка, ажно рэха вылятала, разбіваліся вадзяныя шарыкі.

«Не заплывае яшчэ ваш калодзеж?» — спытаў так сабе, абы не маўчаць, паставіў вядро на выгрызеную жалезнай акантоўкай-абручом верхнюю плаху тыну. Расставіў шырэй ногі, каб не абліцца, прыпаў губамі да такога ж згрызенага і зялёнага беражка вядра. З сярэдзіны яго ўкрыла ізумрудна-сіняя, слізкая ціна, не баялася яна ні снегу, ні марозу. «Прастудзішся, глядзі... Нечым салодным цябе жонка накарміла...» — гаварыла ціха, з ласкавай насмешлівасцю, адкрыта любуючыся. Рыгор піў і не мог напіцца — такою смачнаю здавалася вада. Нарэшце адарваўся ад вядра, ш-шух астаткі пад плот. «Ой, нашто ж ты... Я ж бы ў вядро выліла...» — «Свежай дастану... Поўненькае...» — не зводзіў з яе вачэй, а рукі няспешна перабіралі шост. Волька раптам засаромелася, не глядзела ўжо на яго, глядзела ў калодзеж. «Цяпер там лёду намерзла... А летам — свеціцца ў калодзежы, дзе вядром паабіваем... Як у казцы, нібы ход у пячору...» — «А-а, гнілушкі... Фосфар... Мы дзявок некалі пужалі. У вачніцы во так уставіш, брывом заціснеш. І ў зубы возьмеш... Усядно як чэрап чалавечы свеціцца. Вішча-а-аць! Маня ажно ў вобмарак брыкнула з перапуду...» — «Твая?» — «Ну-у... Ратаваць давялося раз, ваду ў прыгаршчах насіць. Ачухалася — плача... Давай уцяшаць, слёзы выціраць... І даўцяшаўся — прыйшлося замуж браць...»

Пакуль Волька вылівала ваду, ён зайшоў у вароты, забраў з яе рук вядро: «Памагу давай...»

«Вясною ўжо запахла... На грамніцы нап'ецца певень вадзіцы».— «Ага, стрэчанне сёння,— успомніў і Рыгор.— Ні курыца, ні качка не бываюць з яйцом у гэты дзень. А як знясецца — усядно з яго нічога не выведзецца...» — «Ха-ха-ха! Ну й выдумаў!» — «Праўда. Аўдотка казала...» А Волька паспяшыла перавесці размову на другое: «А з гэтай тарфакрошкі ёсць толк?» — «Будзе, толькі трэба з гноем перамяшаць».— «Скора ўсё балота перавозіце... Горы панастругвалі за Блюдзейкам... Сыпнуў бы нам у агарод, а? Колькі ты возьмеш за скрынку?» — Яны былі ўжо ў хаце, і Рыгор, паставіўшы вядро, паволі пайшоў да яе. «Нядарага, тры пацалункі...» — выскаліўся. І раптам ірвануў з сябе, кінуў пад прыпечак замазучаную фуфайку. Рашуча ступіў да Волькі, абхапіў яе. Так, не выпускаючы яе, зацалоўваючы, павёў-панёс перад сабою да ложка...

Так, было тады ўсё — да бяспамяцця бурна, выбухова. І так не падобна на тое дзяжурнае, што зрэдку адбывалася ў яго з Маняю! Маня ў інтымныя моманты як нежывая рабілася, палахліва-пакорлівая. Абы не разгневаць яго... Ну... як гатаваная вада — п'еш, а смагі не наталяеш, не ахалоджваеш нутро. А тут яго проста ператрэсла ўсяго, кожную жылачку. І ў той жа час толькі расцвяліла, ён быў не задаволены сабою як мужчынам. Яго так цягнула да Волькі — гатоў быў на кавалкі яе рваць. Ён зразумеў тады, што не зможа далей жыць, як жыў дасюль...

Выскачыў з хаты, нібы ашпараны. Крутнуў трактар у агарод, не пачуў нават, як пэнкнуў, разляцеўся дрот.

... — Тата! Боцян сеў блізка!.. Ой, ён жабак каўтае! Ім жа балі-і-іць!

І яшчэ быў выпадак, у канцы красавіка.

Заатэхніца Жухалава, няўрымслівая гром-баба, вывела сваіх даярак і свінарак на падмогу калгаснікам. Хто памагаў бульбу садзіць, хто салому прыбіраць. Гэта і звяло зноў умесца яго і Вольку...

## 3

Не, у яго не адбіла памяць...

Сонца ў той дзень узышло ў сіняй смузе. Пад абед гэтая смуга так і не рассеялася, а яшчэ больш загусла. Каля небакраю стужкі смугі трапяталі, пераліваліся, быццам на іх струменіў з зямлі гарачы дух.

Дрэвы на даляглядзе, над Баравухаю, як не адрываюцца ад зямлі, выгінаюцца, прытанцоўваюць. Пад абед і жаўранкі ўжо не спявалі, а толькі ўскрыквалі ў сонным ачмурэнні, падалі з неба каменем і шыліся дзе ў цень. Гракі хадзілі за бульбасаджалкай, разявіўшы дзюбы. Бела-шэрыя чайкі пікіравалі зверху на раллю, выхопвалі, як [redacted] вады, спажыву і зноў рэзка ўзвіваліся ўгору — «Ке-е-е!..». Раней іх не ведалі ў гэтай сухаземнай мясцовасці, а цяпер наляталі аднекуль з поўдня, з палескіх вадаёмаў. Часта заставаліся начаваць у вадаёме ў Хітруна, некаторыя, казалі, нават гняздзіліся там на востраве.

Пасля абеду аж дыхаць не было чым. Зямны чад кружыў галаву, змешваўся з выхлапнымі газамі. Добра, што Рыгор надумаўся скінуць Русаку на рамонт кабіну з «беларуса» (рамонту таго на дзесяць мінут — зварыць раму).

Калі ехаў паражняком, трымаў скорасць, і ветрык лагодзіў, ахалоджваў твар, грудзі. Рубашку Рыгор зняў даўно, хоць і саромеўся — вельмі ж валасатая ў яго грудзіна.

«Стаўбавая» дарога старая, выезджаная і вынашаная коламі так, што замест дарогі зрабіўся шырокі роў. І гэты роў быў запоўнены дымам, каля самых Капуснікаў, далёка за Вольчыным хутарам, хтосьці падпаліў рэшткі саломы на «балалайках», [redacted] якіх прыбралі сціrты.

І едкі дым не ішоў угору, а слаўся па зямлі, збіраўся ў нізкіх месцах, змешваўся з кіславата-п’янкім духам свежа разварушанай зямлі, нашатырна-рэзкім пахам растрывожаных тарфагноевых буртоў, удушлівым смуродам дыму з саляркі.

Парыла нясцерпна, збіраўся дождж... Неба паступова сшарэла, а з палавіны дня скрозь па гарызонце клубіліся ўжо важкія, цёмныя хмары.

— Заганяў ты нас, хлопец... Заганяў — ох-ха...— стары Дзям’ян Пахвалёны, які вечна ўсім усміхаўся, з крэктам устаў, апёрся на ражкі. Паказваў сваю гатоўнасць тут жа ўзяцца за работу.

— Чаму не нагрузілі? — Рыгор нічога не хацеў знаць. Калі павёз нагружаны прычэп на ферму, узамен пакінуў ім парожні, з паламаным бортам (узяў часова ў Русака). Тры разы ўжо так мяняў.

— Мы табе не машыны! Не стагакіды! — загамані-

лі Жухалава і Волька.— Стагакіда трэба было заказваць!

— Тары-растабары... Дождж ото хлыне! А вы — «заганяў»! — кінуў раздражнена Дзям'яну. Але больш адрасаваў гэта заатэхніцы і Вольцы: яны падавалі на прычэп, а Дзям'ян укладваў, таптаў.

— Давайце падпалім астатнюю, тут крыха яе,— сказала Волька.— І пабяжым!

— Я на табе спадніцу падпалю! Я залезу ў прычэп, усе падавайце!.. Два разам падчаплю!

— Жылы палопаюць у трактара! Не возьме два! — пакруціў галавой Дзям'ян.

— Падпàліць спадніцу, ой падпàліць...— [redacted] намёкам глянула Жухалава на Вольку.— Ану — пакажам яму!

Высокая Жухалава, мажная і здаравушчая. Раз нейкая дэлегацыя любавалася на ферме парасятамі, ахкалі і вохкалі. «А вы бліжэй паглядзіце, у рукі вазьміце!» — схапіла адну свінарку ў ахапак перад сабою, тая і войкнуць не паспела, перасадзіла за плацец. «Ой, праўда... Такія таўсмацікі...» — прысела свінарка каля парасят, пачала гладзіць. А цяпер Жухалава набірала на вілы салому, колькі можна было падчапіць, ледзь не па капе. Рыгора закідвалі [redacted] усіх бакоў, і ён варочаўся сярод саломы, як мядзведзь. Толькі Пахвалёны ўсё торкаў сумятліва вілы ў салому, торкаў, а яна не наколвалася, і ён невядома каму збянтэжана і выбачліва ўсміхаўся. Жанкі па два разы паспявалі падаць, а ён па разу — і то нейкую жменю.

— Вой, не забярэм усяе... Дабро бо такое! — Волька цяжка дыхала.— Дзядзька Дзям'ян, у вас запалкі ёсць? — Яна нібы знарок пацвельвала Рыгора. Грудзі яе ўздымаліся рыўкамі, востра напіналі сукенку. Як канчалі накладваць першы прычэп, Волька падавала знарок асцярожна, пад самыя рукі Рыгору. У апошні момант пераварочвала вілы выпуклым бокам угору, патузвала іх, вымаючы, і ажно адгіналася, каб убачыць Рыгораў твар, улавіць яго погляд-адабрэнне, усміхнуцца яму ласкава. А ён сурова нізаў яе вачыма, хмурыў бровы: «Схамяніся, дурніца! Афішыруеш нашы адносіны?!» Калі адварочваўся, то Волька знарок падавала так, каб заехаць трохі віламі ніжэй спіны. І ён паказваў ёй кулак: «Дачакаешся!»

— Падпаліць... і дурань надумаецца...— Пахвалёны, нібы падтакіч які, падтрымаў Рыгора. Абапёрся

на тронак перапачыць і прастарэкваў: — Спалне — і як ні было. А на ферме з подсцілам туга... Нашто ж глуміць дабро? А летась вунь нейкія па сёлах ездзілі, салому скуплялі, скаціну да вясны дадзержаць не было чым.— Ён кехкаў, пакашліваў, уздыхаў — і ўсміхаўся.

Уціскалі рублём салому на першым прычэпе, а стары ўсё стаяў, сіпавата дыхаў і вінаватаю ўсмешкаю нібы гаварыў: «Ото-то... Я зараз... Адсапнуся і памагу...»

Нагружалі другі прычэп, а чорна-сіняя гара на захадзе ўстала ўжо на дыбкі, спалавела і заняла паўнеба. Змерклася, нібы настаў вечар. Незаўважна зніклі чайкі і гракі. Пагрымвала глуха, з рокатам і раптам загрохала, забамбіла моцна, з поцягам. І тады пакаціўся над палеткам прарэзлівы жаночы крык: «А чаго ж мы ждо-ом, жаначкі-і-і-і?!» А за ім і мужчынскі: «Палундра-а-а, нашых б'юць!» (Мо Юра Расолька, былы марачок?) Жанчыны ад бульбасаджалак, ад кучы бульбы, дзе нагружаліся кашы, сыпанулі цярэспаля — віск, рогат. Рыгор бачыў зверху, што і Расолька адчапіў бульбасаджалку, пакіраваў трактарам на «стаўбавую» дарогу, і Будай разварочваецца, ён толькі-толькі ссыпаў з прычэпа насенную бульбу. Жанчыны замахалі яму і рукамі, і кашамі: «Стой, спыніся, трасца тваёй...» Палезлі ў кузаў, ускрыкваючы і вішчучы, бліскаючы заголенымі белымі каленямі і сцёгнамі. «Шылахвосткі! Картоплі трэба прыкрыць! Карто-оплі!» — надрываўся Каляда, паляводчы брыгадзір, трос услед жанчынам рукамі. «Сам прыкрый! Сам яшчэ не зломак!», «Чэрці за ноч не возьмуць!» — выкрыквалі яны.

— Вы ўжо самі вяршэце... Я хоць на воз ускінуся...— Пахвалёны просьбітна пасміхнуўся, ускінуў, як вінтоўку, вілы, пачапаў да брыгадзіра. Там яшчэ стаяў запрэжаны ў калёсы конь.— Ко-остусь! Ко-остусь! Ты ж мяне не кідай!

— Гвардзеец здрэйфіў...— пракаменціраваў Рыгор, і ўсе іранічна паглядзелі ўслед Пахвалёнаму. Некалі на сходзе ўсіх старых калгаснікаў старшыня Дзеньдобры назваў «гвардзейцамі працы». Ні да кога не прыстала мянушка «гвардзеец», а толькі да Пахвалёнага.

— Ну во, тут ужо няма чаго двум рабіць... Я таксама пабягу, а вы ўціскайцеся! — Жухалава хітравата зіркнула на Рыгора і кінулася з месца бягом.

«Знарок нас адных пакінулі... Знарок!» — падкаціў Рыгору жар да галавы, забухала сэрца.

Гэта быў той прычэп, што не паспелі адрамантаваць Русаковы хлопцы,— з паламаным бортам. На яго нагружалі менш, з аглядкай.

Начапіла Волька ланцуг-пярэдніцу на зазубень рубля, і Рыгор пацягнуў бярвенца на сябе, потым прыгнёў яго. Дайшоў да канца прычэпа і ўзлёг усім цяжарам на рубель: «Ну! Скарэй жа... Эх, ты!» — прыспешваў зверху Вольку. А яна як не стагнала, развязваючы зубамі вужышча,— заціснуў яго па-свойму, па-мужчынску. Вецер абрываў на ёй сукенку, скуб з прычэпаў, растрэсваў далёка па полі салому, халадзіў потныя спіны.

І раптам пад хмарай стрэльнулі вогненным гарапнікам — ажно вушы заклала... Над Дубровай узбурліла, нібы выплеснула белую пену, узнялося воблака пялёсткаў і пылу.

— Лаві! — урэшце падкінула ўгору жмут вяроўкі Волька.— Ой, вымакнем тут, як цюцькі! Гарэла б яна, гэта салома...

Рыгор перакінуў вужышча цераз рубель і рынуўся, не пускаючы вяроўкі з рук, на Вольку. Яна віскнула і адскочыла, але ўсё роўна цярнуўся аб яе. Хуценька зачапіў вяроўку за кручок унізе кузава, яшчэ раз перакінуў цераз рубель.

— Во за гэту бярыся... І разам...— ён махнуў сабе пад сцёгны вяроўку, нібы сеў у пятлю-качэлі, канец закруціў за другую столку.— Р-раз! — адкінуўся на спіну.— Яшчэ — р-раз! Яшчэ — р-р...

Пэнк! — кручок адляцеў, рубель пстрыкнуў угору, тузануў за сабою вяроўку. Гэпнулі абое плячыма на зямлю...

Рыгор адразу пачуў голым плечуком яе гарачае цела.

— Крук...— Волька зірнула на яго са спалохам, абпамкнулася ўстаць. Ён імгненна крутнуўся да яе, абхапіў рукамі, злавіў губамі яе губы. Трах-ра-рах! — імпернула як не над самымі іх галовамі. Рыгор на імгненне аслабіў націск, і Волька вырвалася...

Бегла ад яго, ад прычэпа, бегла насустрач ветру — дадому... Спатыкалася, угіналася пры моцных парывах, паварочвалася спінаю да шалёнага ветравога патоку, каб перавесці дух. А ён не ўставаў, глядзеў з-за

колаў услед. Потым усхапіўся... «Да яе... Дождж у яе перачакаю...»

Асцярожна пацягнуў за вяроўку, завёў яе за ўломак дошкі. Крыху паціснуў, сяк-так увязаў. «Мо даеду... А не дык у яе згружу адзін...» Аббег вакол прычэпа... «Во, і ражкоў адцуралася...» — падхапіў Вольчыны вілы, уторкнуў ззаду за борт, завёў тронак за вяроўку.

Пускач траскацеў, а трактар, як назло, не хацеў заводзіцца. А толькі завёўся — лясь! — над галавою, ажно самі ногі падкасіліся. У перапонкі балюча кальнула...

І тут убачыў і пачуў — на яго з шумам валілася сцяна дажджу. Манеўраваў ужо, счэпліваў прычэпы пад ліўнем, крыў і сябе, і ўсіх мацюкамі.

«Дурань!.. Боўдзіла!.. Кабіну скінуў!» — руляваў, калываўся па разорах, а яго абдавала, нібы з цэбра, патокамі вады. Цёр, хапаўся за твар, здзіраў наліплыя валасы, каб бачыць у мутнай калатнечы кропель і шроту-градзін, куды кіраваць. «Дурань, от жа дурань... Пад прычэп трэба было, перачакаць. А цяпер усядно ўжо... Усядно...»

У рове «стаўбавой» дарогі пеніўся паток. Аж рот разявіў: «Ог-го!» Бліжэйшы слуп да самага нізу быў расколаты, нібы хто здзяжыў па макаўцы гіганцкім калуном. Слуп не разваліўся на палавінкі, а стаяў. Стагналі, енчылі ад граду правады, барабанам абзываліся капот і крылы над коламі. І яшчэ слуп расколаты, далей, і яшчэ...

Градзіны секлі голыя рукі, плечы, галаву — нібы прыпякалі папяросамі. І раптам загуло, затрашчала, па трактары замалацілі вялікія, па жалуду, па каштане льдзіны. Пляхнуў на галаву рубашку, крутнуў руль, выварочваючы з рова дарогі на сценку — яна вяла на Вольчын хутар. І адчуў, што трактар павяло юзам, прычэпы сцягвалі трактар назад у роў. Загайдаўся туды-сюды, шалёна круцячы руль, пераключаючы хуткасці. Другі прычэп адчапіўся сам, але трактар усё роўна коўзаўся, не вылазіў. Зноў нагнуў мацюкоў, не заглушыў нават матора — схапіўся за пабітую галаву і скокнуў дадолу. «Пад прычэп!..» Не паспеў дадумаць, як трэснула так, нібы нябесны калун уцэліў па самым цемі.

І — чарната...

— Татка, а куды мы ідзем? Мае ножкі на рукі просяцца...

Рыгор моўчкі ступаў.

— Ой, Саша нас даганяе... Не цісні, тата, ручку, я к Сашу пабягу!

Ён пусціў Таніну руку, азірнуўся. І праўда, іх даганяў, крычучы і махаючы, Саша.

Больш не азіраўся, не бачыў, ці пастаяў старэйшы сын, ці адразу забраў Таню і павярнуў дадому.

Рыгор ішоў, уцяўшы галаву, пацепваючы плячыма — церла холадам. Здавалася, што гэты холад прабіраў да самых пячонак. «Кажух нават не памагае... І дыхаць цяжка...» Не ведаў, ці больш захутвацца, ці расшпільвацца, каб лягчэй было дыхаць. Здавалася, што яшчэ і зараз цісне, душыць яму грудзі мокрая, ледзяная зямля...

Кавеньку перабегла «стаўбавая» дарога. За дарогай луг расшыраецца і называецца ўжо Капуснікамі. Звярнуў на «стаўбавую», назад да вёскі... Вось тыя слупы... Не, не тыя!.. Гэта ўжо новыя — чорна блішчаць бітумам ці нейкаю смалою... Два... Чатыры... Пяць... Пяць слупоў заменена на самым пуку, на пагорку.

Вось тая сценка — паварот на Вольчын хутар. Пазнаць можна, дзе была нацярушана салома. Жмукі яе ўтаптаны ў зямлю, укарэлі і ўчарнелі... Ён абвёў вачыма наўкол — увесь палетак у шнурах-радках бульбы. А дзе ж яго сіненькі «беларус», прычэпы?.. Трактар са скрыўленай трубой-камінком, прарванымі, прагарэлымі пярэднімі шынамі — след выхаду электрычнага разраду. Хтосьці гаварыў яму пра гэта, бо не бачыў ён трактара пасля ўдару...

А вось тая яма... Напаўзасыпаная, з гурбамі пяску і зямлі на беражках. Растоптанымі, раскоўзанымі...

Замёр... Заварожана ўтаропіў вочы ў выемку, нібы ў бяздонную прорву...

Заплюшчыў вочы...

І ўявілася да жудасці: лес ног вакол галавы... Чырванню гарацъ лужыны, мокрая, вывернутая і абы-як наляпаная зямля — каля самага твару. Камлыгі ля вачэй, нібы горы, зласвесны марсіянскі пейзаж. Непадалёку ўторкнутыя брудныя рыдлёўкі, лязы адсвечваюць вішнёвым, як распаленыя ў горне... Ліхтары дзесьці над галавою, ад іх скачуць, роспачна кідаюцца жахлі-

выя цені. І — пракаветная цемра за гэтым частаколам ног...

Можа, гаварылі людзі, можа, крычалі... Ды пэўна ж гаварылі, пэўна ж крычалі, бо нахіляліся да яго чырвонымі тварамі: вочы — унізе, разяўленыя чорныя раты — уверсе. Твар Аўдоткі пазнаў — распатланая, яна няспынна шаптала-малілася, клала крыжы на сябе, на Рыгора, на людзей. І яшчэ мужчынскія і жаночыя твары: некалькі Вольчыных, некалькі — Маніных. А самому не хапае духу застагнаць, не можа сцянуцца, паварушыцца, нават уздыхнуць добра. Душыць ледзянымі абдымкамі зямля, патыхае жудасцю і бляскам у самы твар...

Потым сліпучы агонь фар, чалавечая мітусня... Людзі ў белых халатах... Размахваюць рукамі, сварацца... Паспешлівае мільтуханне рыдлёвак — яго адкопваюць...

Другі раз ён ачнуўся ў машыне — ад калывання, падтрэсвання.

Трэці раз — як мылі ў прыёмным пакоі раённай бальніцы...

## Раздзел другі

### 1

— Настаса-а-а-а! О, Настасо-о-о-о!..

Ад нямоцнага выгуку пад акном Настаса спуджана ўстрапянулася: не заўважыла, як і сама задрамала на палавічку каля Свецінага ложка.

Выбегла на пальчыках на двор.

— Ціха-а! — прыклала пальцы да губ.— Ціха, цётачка... Заснула Светка...— Настаса забрала з рук суседкі Дар'і павязанае хусткаю вядро з малаком.— От дзякую, што падаілі...

— А нічога, спакойная твая карова.

— Гэта ж як калі на яе крут уссядзе.

— Што — мо палегчала? — Дар'я кіўнула на акно дома, паставіла на дол і сваё вядро, памахала далоняй на твар.— Ф-фу-у-у...

— Дзе вы бачылі! Знебылася, бедная... Цэленькую ноч прамучыліся: і яна наплакалася, накрычалася, і мы на волас не замгнулі. Дрэмле недзе мой Лявошка на рабоце...

— Можна і падрамаць — халадок у свірне. Пасяўная даўно скончылася.

— Няма калі, цётачка... Перавучот рабілі астаткаў. А цяпер, во, праполкі ўсякія, хімікаты выдае. Прыедзе другі раз, надыхаўшыся, ажно, кажа, блявадь хочацца. І свіран пачынаюць чысціць, прэтраўліваць — новы ж ураджай вот-вот...

Дар'я і не думала адыходзіць. У яе было што сказаць. І Настаса ўнесла і яе і сваё вядро ў веранду, паставіла на кароткую лаўку каля газавай пліты. Сама села на другой, насупраць, і цётку ўсадзіла.

— Во, у цянёк... А то яшчэ малако скісне, як у той Анэлі.

— Ха-ха...— Дар'я села і сцягнула з галавы хустку,— трэпнула ёю ў дзверы, склала трохкутнікам на каленях і разамлела расслабілася.— У тае Анэлі мо вядро зроду не мылася. Ды яна як загаворыцца, да вечара можа прастаяць, забывае, куды і чаго ішла.

— Праўда: ну й малатарня!

— Дак гэта... Чаго я хацела сказаць... Да Аўдоткі забягала па дарозе, малака ёй адліла. І кажу — так і так... Пра тваю дзеўку. То яна кажа — ідзі, я зараз прыбягу, пагляджу.

— Ой, я даўно казала свайму: трэба пазваць Аўдотку, трэба Аўдотку. А ён яшчэ і накрычаў на мяне: «На сабе забабоны спытвай, а не на дзіцяці!» Прывозіў на сваёй тарахцёлцы Каменскага з медпункта... То, думаеце, што добрае сказаў? Саграваць, кажа, трэба... Застудзіла. А лепш, кажа, у бальніцу, бо як будзе запаленне сярэдняга вуха, то папацацкаецеся. Чэрап дзяўбці прыйдзецца.

— Не дай бог, што ты! Колечкі таго дзіцяці...

— Ой, цётачка, напужаў! Так напужаў — рукі дасюль трасуцца. То заўтра павязем у бальніцу. Лявошка ўжо прасіў машыну ў старшыні.

— А мо й абыдзецца... Аўдотка паглядзіць, то скажа — у бальніцу трэба ці па бабах хадзіць. Казалі, яна ўмее лячыць вушы...

— Ой, то дзе ж яна забавілася, хай бы паглядзела!

— Дак гэта... Чаго я хацела сказаць...— Дар'я прыціснула голас да шэпту і нават устала, выглянула з дзвярэй веранды на двор, нібы хто мог падслухаць яе сакрэты.— Чаго сказаць...— села зноў на лаўку і загаварыла смялей: — Такога нарабілася каля кароў!..

Сама не бачыла, Анэля, кажуць, бачыла. Там блізенька і калгасныя каровы... Падвялі даяркі Маню: «Да як ты церпіш? Да ці праўда, што Рыгор на дзве сям'і жыве?» І скузуюць, і скузуюць... Дак яна не ім адпор дала, а... Волька яшчэ сядзела пад кароваю, даіла. А Маня ішла выліваць малако... Міма яе! І шух вядро ёй на галаву! Адзела!.. То кажуць, так перла Волька з поля, так перла!..

— Абедзве роўныя... Не хадзіла б каторая на работу, калі не можаце адна адну пераварваць. Хіба мала ў калгасе другое работы?

Настаса ўстала, ступіла два крокі да лаўкі з вёдрамі, не знімаючы з сябе фартуха, прыгнулася і давай змахваць ім нейкія крошкі. Мабыць, проста хавала ад Дар'і твар. Каму гэта прыемна слухаць? Не пра каго ж небудзь, пра брата Рыгора і яго жонку плешчуць людзі каторы ўжо месяц. І невядома яшчэ, калі скончаць, чым скончыцца. Настасе шкада і няшчасную Маню, якая не ведае ўжо, як бараніць сям'ю, і яшчэ горш — брата: заблытаўся чалавек. І да чаго дайшоў — цень! Адзін цень застаўся...

Села зноў каля Дар'і.

— А тады ж, як з Рыгорам няшчасце здарылася... гром гэты... Абедзве так шчыравалі каля яго, круцілі-ся — на ўсё забылі! — Дар'я наклала хустку на галаву, засабіралася быццам ісці.

— Ага, забылі... Гэта ж Волька першая і знайшла Рыгора каля трактара — без памяці. Крыку нарабіла, думала — забіла зусім. А ён як нежывы быў і не дыхаў, здаецца. Тады бацька яе прыбег, пачаў катурхаць, цягаць... А Волька ляціць па сяле, ляманту: «Забіла! Забіла!» — «Каго, дзе?!» — людзі перай-маюць. А яна як звар'яцела: «Забіла! Забіла!»

— Не дай бог!..— гаротліва пахітала галавою Дар'я.— Гэта ж мне сёмы дзесятак пайшоў, а такое калатнечы не бачыла. Іградабою такога не бачыла: так змалаціў усё, спляжыў!

— Больш за сто гектараў азімых перасявалі — Лявошка казаў... Добра, што ячмень насенны быў, не ўпатрэбілі...

Чуваць — зашорхалі крокі, і абедзве порстка падхапіліся на ногі, бы змоўніцы, якіх якраз і засталі за змовай. Выглянулі з дзвярэй, ледзь не стукнуўшыся галовамі...

З агародаў сунуўся, як хмара, Рыгор.

— То я пабягу... Бо і праўда скісне...— Дар'я схапіла за восілку сваё вядро, борзда сышла з прыступак. Павярнула назад галаву, кінула Рыгору: — Здароў, здароў! Што гэта ты лета пужаеш? Скінуў бы ўсё, пазагараў... Адразу паздаравеў бы.

Рыгор толькі кіўнуў на яе здароўканне, а на астатняе змоўчаў, і Дар'я паспешліва прайшла на Ясеў двор. Мінала Ясеў хлеў і азірнулася некалькі разоў на Рыгора, потым кіўнула ў прыадчыненыя дзверы падпаветкі,— адтуль выляталі рытмічныя ўдары.

## 2

У веранду Рыгор не заходзіў, прысеў на прыступку, на сонцы. Некалькі разоў гучна ўдыхнуў і выдыхнуў паветра. Настаса стаяла над ім, выглядваючы з дзвярэй. Першая размову не пачынала.

— Азіраецца... Не пазнае...— прамовіў Рыгор, уздыхнуў.

— А цябе і маці, каб жывая была, не пазнала б. У дамавіну лепшых кладуць.

— Ага-а-а...— зноў выдыхнуў Рыгор на ўсе грудзі.— Як капшук... Дай хіба вады...

Настаса крутнулася ў веранду, але зноў выглянунула.

— А мо малака? Дар'я толькі што падаіла...

— Вады.

— А то і паабедаў бы. Ото Лявошка пад'едзе, яшчэ не прыязджаў.

— Не хочацца.

Настаса з веранды пайшла ў кухню. Чэрпала ў вядры так ужо асцярожна, а... ўсё роўна стукнула конаўкаю аб беражок. Схапілася за вядро (вады было ў дне), каб хутчэй атушыць брынклівы гук. А Света ўсё-такі пачула, усхліпнула: «Мама-а...» Так і пайшла з вадою да ложачка. Пачала калыхаць моцна, а потым усё памалей, памалей — і звяла на нішто. Нават яшчэ трошкі пастаяла ў насцярожанасці, трымаючы руку над білам. Потым ціха павярнулася, на дыбачках пайшла да Рыгора.

«Сказаць яму ці не? Чаго Маня на полі нарабіла... Мо не ведае яшчэ. Лепш я скажу, чым праз дзесятыя рукі пройдзе...»

Працягнула з дзвярэй конаўку, патрымала каля са-

мага вуха, а ён не заўважаў, нібы драмаў. Потым прахапіўся: «А-а...» Браў ваду, і рука дрыжала. Хутка і вярнуў конаўку, скрывіўся — не спадабалася.

— Ой, братка, які ты вырабіўся...— Настаса ажно ўсхліпнула.— Зайшоў бы — брытву Лявошкаву дам...

— Свая ёсць... Нічога, пераб'емся...

— Каб жа! А то нікуды ў цябе не выкіроўваецца. Маня унь сёння.. бабы казалі... Вядро з малаком Вольцы надзела на галаву!

Рыгор доўга маўчаў, унурыўшыся.

— Хай бы насы... адна адной...

Настаса не ўлавіла з яго слоў, чый бок ён бярэ.

— Дзеці ж у цябе! Чацвёра дзяцей!..

Рыгор зноў памаўчаў.

— Пагадуюцца...

— І крапіва пад плотам гадуецца... Па-ўсякаму ж можна гадавацца.

— Крапіва — карысная...

— Я магу і не гаварыць... А людзям жа рот не залепіш!

— Людзям... кіно...

— Ой, кіно! Ні ў адным целявізары такога не ўбачыш!

— Перастань... Лепш скажы — ездзіў бацька ў сваты? Балбочуць па сяле...

Цяпер памаўчала Настаса. Пачала працэджваць у трохлітровы слоік малако.

— То... што?

— А хай ім пазапухае, гэтым людзям! Я на адным двары жыву і то нічога не ведаю. Яны ж і мне аб'елі ўсе косці: «Не ўжылася з бацькам...», «Выгнала бацьку...», «Не варыла, не карміла...» А я што сабе варыла, то і яму. І абшывала, і абмывала, ні з чым не лічылася...

— А от жа пайшоў... Сам жыве...

— Пайшоў... Хіба я не пушчу ці забараню? Здуравала, што не папрасіла бульдозера... Як стаяла яшчэ хата без рамонту... Ссунуў бы ў кучу, згроб. А цяпер... нарабіў сораму на ўсё сяло!

— От бачыш... А ў мяне вузел тужэйшы...

— На мой характар, то я секанула б — і па вузле!

— Маня ж сячэ... Сама ведаеш. І я сек — мо год не жылі разам. А толку?..

— Толку? Бесталковіца, а не толк.

— Ты гаварыла... з ім? Пра жаніцьбу...

— А што я буду гаварыць — не знай, не ведай нічога? І як падступіцца да такое гаворкі? З чаго пачаць?

— Да-а-а-а... А з Лявошкам — ладзіў?

— Усё добра было. Братухна, як перад совесцю кажу...— Настаса зноў усхліпнула.— Ніякіх ні сварак, ні звад не было! Каб таму, хто плешча абы-што языкі пазавязвала. Тады яшчэ, як хату надумаў рамантаваць, гаварылі мы з ім... Што на чорта... І тое, і сёе... «От хай будзе!» — і ўвесь сказ. Тады ж пра жаніцьбу і не заікнуўся... Мы ўсяк ужо думалі. Мо пра маці хоча памяць захаваць, мо што... Мо пра Федзю думае. Скітаецца ж Федзя па чужых людзях, усё на часнай ды на часнай. Мог бы і праўда сюды перабрацца, не ўсядно школа — там ці тут?

— Грамацей... У таго свае планы.

— Сугнеі, а не Сухавеі... Усе скрытныя, усё штосьці намышляюць, штосьці робяць цішком. А мо ўведаеш? Ніколі!

— А ты — хто?

— Я? Я... І я такі ж чорт лазаты. З аднаго кодла.

— І пра завяшчанне гавораць...

— Гавораць! Як маці памерла, гаварылі. І зноў пачалі...

— У цябе ж ён тут... жыў. І не бачыла?

— А што я — па кішэнях яго лазіла? Калі ты добры бацька сваім дзецям... Ну — няхай мы ўсе дарослыя, свае сем'і, свае хаты... Але ж, калі ты бацька, то скажы, што ты там панапісваў. Мы ж усё-такі твае дзеці... «От памру, тады і ведацьмеце...» То нашто ж паміраць? Ты жыві, але калі хочаш распарадзіцца чым, то... У яго ж і грошы на кніжцы, і аблігацыі выйгрышныя ёсць... То збяры ўсіх дзяцей на раду, раскажы, размяркуй... А мы ўжо будзем слухаць, як скажаш.

— Тайна ўклада... Тайна завяшчэння... Тайна жаніцьбы — адны тайны. І... кніжкі не бачыла?

— Не-а... Ну, зверху бачыла. Вымае дакументы з кішэні рубашкі, як дае мыць, перакладае ў другую — бачыш, што ашчадная кніжка. А што ў ёй?

— У кніжках таксама пішуць... Як і каму што... Калі што...

Рыгор не хацеў вымаўляць — «калі памрэ».

— Мо і пішуць... Лявошка таксама кніжку завёў... Якія пару рублёў ёсць. То нічога на ёй не пісаў.

— Рана вам... такое пісаць.

— Э, не кажы... Тут жыў чалавек, а тут і няма. Хіба ты думаў ці сніў, што з табою можа такое быць? Шчасце, што не ў цябе тая страла ўцэліла, а ў трактар.

— Ага... шчасце...

Рыгор устаў. Пастаяў, нібы хацеў добра астояцца на нагах ці раздумваў — куды яму павярнуць? Зноў на агарод, на загуменне? Ці на вуліцу? Павярнуў да вуліцы, у бацькаў двор.

Настаса высунулася на ганак, праводзячы яго поглядам. Пройдзе дваром — і дадому? Ці зойдзе да бацькі? Хай бы зайшоў, хай бы ж сам усё распытаў і выпытаў. Ну — не ўсё, а хоць пра жаніцьбу. Як высветліцца гэта, то і астатняе хоць трошкі прасвятлее. Гэта ж як прыйдзе ў бацькаў двор новая жонка, то яна і будзе гаспадыняй на ўсё. І на хату, і, мабыць, на грошы. «Не знай, не ведай хто — збоку! — прыйдзе і будзе ўсім распараджацца...»

Настаса зразумела, што і Рыгора ўсё гэта мучыць, інакш бы ён не прыйшоў да яе, не заводзіў бы размовы.

«А-а, завярнуў-такі... у падпаветку... Бандарыць, мабыць, бацька...»

Ёй нібы запякло ў пяты. Ці бегчы следам, паслухаць, пра што яны там... ці заставацца пры дзіцяці? «Прыскочыш, то мо і не выйдзе ніякай гаворкі... Хай лепш адзін... калі выведае што. А тады ўжо распытаю ў яго. Брат — павінен сказаць...»

«Перайшоў у старую хату... А новы дом — за кім лічыцца? Як разам жылі — ён усім распараджаўся... За яго грошы ў асноўным будавалася... А як перайшоў туды — то як цяпер? Не думала, дурная, пра гэта... А трэба ж, каб ясна было — чый дом, на каго запісаны. Бо прыедзе... тая... яшчэ і на гэты дом лапу накладзе. Калі, вядома, законная будзе, распісаная! Лявошка казаў: калі запішуцца — першая наследніца *яна* будзе. А вы, родныя дзеткі,— ніпгто. Вы — прышый кабыле хвост!»

Думалася Настасе ўсякае, і яна ўсё распаляла і распаляла сябе гэтымі думкамі. І адчувала: не ведае тую будучую мачыху, не бачыла яшчэ, а пачынае ўжо ненавідзець.

3 — Смяшым, значыць, людзей... Так, так...
— Ага... Даўно я табе казаў: сынок, вазьміся за розум, табе не васемнаццаць.

Ясь тупаў кругом сабраных у бочачку клёпак, на якіх набіты былі два абручы. Прыкладаў рабром да сярэдняга, што сядзеў амаль на самым пуку, лязо долата, пастукваў па ім абушком. Абруч патрошкі паддаваўся на ўдары, пасоўваўся ўніз.

— Я пра цябе, бацька...

— А я пра цябе, сын.

— Не сорак табе... Нават не пяцьдзесят. Шэсцьдзесят пяць!

— Ага... Калі б, скажам, ты жыў, жыў — дзяцей няма. Ну — тады ладна, можна думаць... пра другое што. А то ж шаснаццаць гадоў пражыў! Чэцвера дзяцей!

Ясь перакуліў бочачку растапыранымі клёпкамі ўгору, узяў з варштата нацягівач, сунуў у рукі Рыгору. (Простая штука: драўляны брусок-рычаг, саструганы з аднаго канца, як ручка; з другога пры боку целяпаецца на шпяні «язык» — загнутая літарай «Г» жалязяка.) Зняў з крука, убітага ў сцяну над варштатам, адсечаны з нейкага ржавага абруча, паменшаны і нанава скляпаны абруч.

— А дно — дзе будзе?

— Тут...— торкнуў бацька сандалетам у ніз бочкі, дзе сядзеў першы абруч. Той, што зняў са сцяны, накінуў на верхнія канцы клёпак. Толькі палавіну занялося ў абруч... Напружыўся, прысеўшы, націскаючы грудзьмі, абдымаючы бочачку за вяршкі, цісну чы з усіх бакоў. Вялікімі пальцамі знутры распінаў абруч, астатнія, усе восем, тоўстыя, моцныя, збялелыя ад насільвання, цiснулі на клёпкі звонку, падпіхваючы вярхі пад абруч. Твар Яся, і без таго барвовы, зрабіўся ажно шызы.

Рыгор глядзеў на яго патугі скептычна. Пабразгатаў «языком»...

— Глыбока заняў...

Бацька перастаў напружвацца, ссунуў абруч са свайго боку як мага ўгору, заняў клёпкі толькі за самыя вяршэчкі, мо па якіх міліметраў чатыры-пяць. Зноў наспрабаваў нацягнуць абруч голымі рукамі. Захапілася на дзве клёпкі больш. Але яшчэ пяць не пад-

лазілі, вытыркаліся за абруч на палавіну таўшчыні, а то і на ўсю таўшчыню клёпкі.

— Займай во тут...— Ясь двойчы на ўсе грудзі выдыхнуў паветра.— А я тут...— узяў другі нацягівач, заклаў «язык» за абруч, упёрся «пяткаю» ў суседнюю з Рыгоравай, самую адтапыраную клёпку.— Н-ну!

Націснулі на рычагі, топячы «пяткамі» пад абруч самыя ўпартыя клёпкі. Ясь другою рукою пастукваў абушком то па абручы збоку, то па клёпках, што не заняліся пад «пяткі» нацягівачаў, то па суседніх, то па рабры абруча зверху.

— Хоп! — скамандаваў Ясь: абруч узлез трошкі, захапіў усе клёпкі.

Паклалі нацягівачы на варштат, выдыхнулі... Рыгор выпрастаўся, адчуваючы, як аслабела трымцяць калені. А пабыў жа прысеўшы хвіліну ці дзве.

— Дзякуй, што памог,— сказаў бацька. На Рыгора не глядзеў.

Тут бы самы раз ім закурыць — для пачатку гаворкі. Пасядзець, пapляваць пад ногі... Але бацька не курыў, а Рыгор курыў, ды кінуў: не цягнула яго пасля тапхваробы ні на курэнне, ні на выпіўку. Ні да Волькі. Тапталіся, адчувалі сябе няёмка, няўтульна, нібы стаялі на сіверы. Падзякаваў бацька, а Рыгору пачулася; ўсё, можаш ісці, добра, што адведаў...

Ясь крактануў і зноў узяўся за бочку. Прастукваў па абручы збоку — кругом, кругом, потым па клёпках знутры бочкі, падраўноўваючы. Пастукаў і па вяршках клёпак, асаджваючы ніжэй, а тады па рабры абруча — часценька, па некалькі разоў над кожнай клёпкай. Туга ішоў абруч, не налез і да палавіны свае шырыні, а ўжо ўеўся ў клёпкі, пагнуў сабою стружку.

— Малы...— зазначыў Рыгор.

— Нічога... Уціснецца...

— Металалом... Ямы ржа павыбівала...

— Хопіць на мой век.

— І заклёпаны слаба.

Бацька змоўчаў.

— Цячы будзе... Клёпкі не падагнаў добра.

— Замокне! Папастаіць з вадою, то...

— Не замокне... Вунь шчэлькі якія...— Рыгор ухапіў бочку, задраў яе вышэй галавы, паглядзеў на святло, нават трошкі надзеў сабе на галаву.— Во, каля дна... Каля кожнай клёпкі свіціцца...— Паставіў зноў

на зямлю.— Гарох толькі ў яе сыпаць. Калі не падагнаны адна да адной клёпкі — ніякія абручы не памогуць.— Рыгор сам з сябе падзівіўся, як добра сказалася: за словамі быў і другі сэнс.

Бацька падцяў губы. З нейкай злосцю зноў застукаў па рабры абруча. Усё глыбей уядаўся абруч у дрэва, задзіраючы стружку, псуючы клёпкі. У некаторых месцах шына была такая саржавелая, што саслабелы беражок загінаўся, круціўся ў трубачку ці крышыўся.

Яшчэ ўдар, яшчэ... Дрынк! — абруч лопнуў, саспружыніў пад ногі ў габлюшкі.

— А што я казаў...— цыркнуў слінаю, стоячы ў прачыненых дзвярах, Рыгор.— Не так усё проста.

Бацька таксама плюнуў, кінуў сякерку на варштат. Не стаў падымаць абруч, трэпнуў рукою па штанах, рыхтаваўся выйсці. І Рыгор першы выступіў з дзвярэй на двор.

Ясь выйшаў і тут жа прысеў на лаўку пры сцяне.

— То ты курыш ці не курыш? — спытаў у Рыгора, нібы і сам намерваўся закурыць.

— Не...— наблізіўся да лаўкі, сеў побач, за які метр ад бацькі.— Тыя, што нагнаў, таксама лопнуць... Яшчэ па разу стукні — і капут. І не таму толькі, што ржавыя... Стаміўся метал... І метал стамляецца.

На гэты раз другі сэнс у Рыгоравых словах улавіў, мабыць, і бацька. Толькі аднёс гэтыя словы да сябе аднаго.

— Усё стамляецца... Час прыходзіць — лопае, рассыпаецца. Але жыве чалавек, то і адно думаецца, і другое. І так мяркуецца, і гэтак... А як лепш? От вочы ўжо саслаблі... І акуляры не памагаюць...

Можа, і больш чаго сказаў бы бацька. Але ўбачыў і ён, і Рыгор — хуценька ідзе ад мураванкі Настаса, нясе ў руцэ літровы слоік малака. Пачала гаварыць яшчэ здалёк:

— Во... Свежанькага...

— Нашто ж ты... Яшчэ ж ранішняе стаіць... І вячэрняе ўчарашняе абрыскло.

— А ты не запасай, а еш... Калі абрыскло тое — хай кісне, з картопляю добра яго... А гэтага, свежага, напіся...— Бацьку ў твар глядзела, а лавіла Рыгораў пагляд: дасць які намёк ці знак? І нічога не прачытала ў Рыгоравых вачах, мабыць, нічога ён не вызнаў.

— То нясі ў хату... Потым я...

Да варотцаў з вуліцы падышла Аўдотка, перагнула руку цераз верх, зашкробала пальцамі, ловячы зашчапку.

— Э-эт... От жа, ліха на іх...

— Чакайце, баба! — Настаса аддала ў рукі бацьку слоік і подбежкам кінулася адчыняць.

З'явілася з-за плота, нібы знарок падцікоўвала, і Дар'я.

— А мы вас прачакаліся,— сказала яна Аўдотцы за сябе і за Настасу.

Аўдотка і зімою, і летам хадзіла так, што абавязкова што-небудзь у адзенні было чорнае: ці хустка, ці спадніца, ці кофта. Сёння — спадніца і хустка.

Бацька здалёк яшчэ кіўнуў Аўдотцы, пайшоў з малаком у хату.

Устаў і Рыгор. Хай праходзяць... Цярпець не мог ён гэту дзівакаватую старую, якая ўсюды, просяць яе ці не, утыкала свой нос. Во, і сюды прыперлася... А левая нага босая!..

Размовы з бацькам не атрымалася. «Хай... другім разам...»

А цяпер — пойдзе. Толькі куды?

Так не хацелася ісці дадому!

## 4

Праз колькі хвілін Ясь выйшаў з хаты. Выцер бараду, пашорхаў далоняй па белай шчэці. Паглядзеў налева, дзе знік за прысадамі на вуліцы Рыгор, направа — куды пайшлі двaром жанчыны.

Зайшоў у падпаветку. Пастаяў каля бочачкі, падпёршы кулакамі бакі...

Рашуча ўскінуў бочачку над сабою, як нядаўна Рыгор, паглядзеў на святло.

І паставіў на варштат. Не «шуцейнае дзела» — зладзіць бочку.

Дзе тое долата? Дзе сякерка?

Сагнаў адзін абруч... Збіў і другі...

Клёпкі са звонам рассыпаліся ў бакі.

Ён падстругае клёпкі, падгаблюе. Калі нельга падціснуць — падгоніць, быць не можа! Толькі дзе вось дабыць моцную палоску на абручы?

Ён яшчэ зладзіць добрую бочку — быць не можа!

5 — Спіць? І даўно спіць? Трэцяя гадзіна. Гэта добра...— пракульгала па пакоях Аўдотка, зазірнула ў ложачак. Глядзела ў вушка Светы доўга, не будзячы... Што яна магла там убачыць без інструментаў?

Зноў выйшла на кухню...

— Хворым вушкам угору спіць... Нядобра...

— Ой, баба... Хіба вы забылі абуць адну нагу? Во, босая...— Дар'я ажно рагатнула.— То ўжо і другую разуйце, каб не кульгаць.

— Не, дзеўка, не забыла... Так сэрцу лягчэй. Насця, палі мне на рукі! — скамандавала Аўдотка, і Настаса з гатоўнасцю, паслужліва скрабанула па дне вядра конаўкаю.— Гэ, хіба ў вас куры калодзезь загрэблі?

— Я прынясу...— Дар'я хуценька падхапіла вядро. Яна спяшалася, каб не прапусціць чаго цікавага з таго, што збіралася рабіць Аўдотка.

— Можна было на двары, з рукамыйніка,— гаварыла Настаса і палівала бабе на маленькія, у чорных барознах і трэшчынах, далоні.

— Знойдзеш чаго парцянога,— гаварыла Аўдотка, старанна, з камічнай сур'ёзнасцю, нібы які доктар у бальніцы перад аперацыяй, намыльвала рукі.— Нямнога: на пядзю ўпоперак, на тры ўдоўж...

— У мяне паркалю ёсць трохі, навалочкі шыла — засталося. Тоненькі — гэтак рукамі не спрадзеш,— сказала Настаса.

— Не, лепш льнянога палатна, добра выцягвае... Калі ў цябе няма, у Дар'і папытаем. А воск ёсць?

— Ёсць! Воск ёсць, і праполіс ёсць, клей пчаліны. Тожа лякарства — бацька недзе вычытаў.

— Клей пакуль не трэба. Воск! Накладзі з паўфунта ў міску ці ў што... Растапі.

Настаса падала Аўдотцы, выняўшы з шафы, чысты ручнік. Рукі Аўдоткі пабялелі не намнога, чорныя парэпіны відаць былі здалёк. Выцірала старая так: скамячыла кончык ручніка ў далоньках, прамакнула зверху і адну, і другую — паклала за комін.

Прыйшла Дар'я з вядром вады, паставіла яго на табурэтку пры парозе справа.

— Дар'я, узялася памагаць, то памагай,— зноў распарадзілася Аўдотка.— Схадзі да Яся, хай адрэжа на пядзю ці на дзве калок. Тэўсць — як тронак у рыд-

лёўцы... І хай адзін канец звядзе. Састругае... акуратна, роўненька — як алавец вострацЬ. Самы кончык каб быў, як сернік. Во... І сюды нясі! А яму не кажы — для чаго, а то яшчэ прыпрэцца.

Дар'я ходу з кухні, за ёю Настаса і бабка — у сенцы.

— Ой, а нашто той калок? Куды вы яго хочаце заганяць? — Настаса дастала з куфра тонкі сувойчык палатна, спуджана замерла з ім. Яшчэ матчынага палатна, ткалася мо гадоў пяцьдзесят назад.

— Што ты, што ты!.. Нікуды нічога не заганяцьмем. Рэж палатно, не стой! — Прысела на заслон каля пярэруба-кладовай.

Настаса паклала сувойчык каля Аўдоткі, сама пайшла ў хату. Недзе ў прыстолку швейнай машыны былі ножанкі.

Знайшла, вярнулася...

Аўдотка ўжо стаяла, палатна наразгортвала, накруціла на сябе — нібы якая індуска ці арабка.

— Тонка, хараша спрадзена... Сарочку з такога пашыць — няма нічога здаравей. А ад гэтай сіняцецікі ўсе хваробы!

Наста памагла ёй разблытацца, адрэзала кавалак.

— Некалі ў мяне было столькі палоцен, столькі палоцен! На калясцы вазіла на рэчку... І маці тады прала, і сястра меншая... панамочваем, парасцягваем — увесь луг беллю ўбелім...— Села зноў на лаўку, склала рукі на прыполе, замаркоцілася.— А Макарка мой зазлаваў... на бацьку майго... Не хацеў бацька аддаць мяне за яго: бедны Макарка быў... То што зрабіў той малахольны? Папсаваў мой пасаг: здратаваў палотны канём... Шыпы ў падковах... На рэшата папратыкаў шыпамі!.. Усе чысценька палотны!.. Ой, што тады заварылася-я-а... І сем'і, і сваякі — адны на адных... З каламі, з каменнямі. Падпалы рабілі... Ох-ха-ха... А я так любіла Макарку, усё яму даравала... Бацькі б'юцца, а мы ўцяком куды з сяла... Мілуемся-я-а...

У верандзе на пліце Настаса прыладкавала старую алюмініевую місачку з воскам. Глядзела, як жоўтыя ядравыя кавалкі губляюць форму, вадчэюць, спадыспаду, шыпяць і пухірацца. Глядзела, слухала бабу і ўсміхалася сама сабе: пра што ўспамінае старая! Пра каханне... Мусіць, і паміраць ьме чалавек, а пра тыя

шчаслівыя хвіліны не забудзе. А ў яе, Настасы, ці было каханне? А мо проста пабаялася застацца ў дзеўках, выскачыла за бязногага ўдаўца з дзіцем?

— А выдалі за нялюбага...— уздыхнула Аўдотка.— Больш за трыццаць гадоў разам пражылі. Дзяцей пагадавалі... А нашто было радзіць-гадаваць? Вайна паела ўсіх...

Засопшыся, зайшла Дар'я з калком.

— Ці добры хоць? Не мог дацяміць, які нам трэба... І для чаго...

— Добры! Не будзі малую, Настаса... Пасядзім трошкі ў халадку... Сілком пабудзіш — вельмі ж галаве няздарава. Аж у мазгах коле...

Але пасядзець, пагаварыць не давялося. Брала Настаса з падаконніка лыжку і ўпусціла. Звону, бразгату! Светка адразу ж прачнулася, паклікала плаксіва: «Мам-м...»

— То ідзі, ідзі да яе... Мо ёй гаршчок трэба. А я сама...

Настаса пабегла ў хату.

— А ты — сюды, Дар'я...— Аўдотка пратупала да пліты.— Дзе твой калок? І палатно вазьмі, што адрэзалі. Будзеш пераймаць усё. Я скора памру, то трэба, каб хто ведаў...

Дар'я схапіла і калок, і палатно, падступіла бліжэй да пліты. На твары адбіваліся і страх, і цікаўнасць.

— Я столькі ўсяго ведаю! І замовы, і травы ўсякія... А от памру — і ўсё прападзе. Каб хто знайшоўся, узяў клятву на сябе,— то я перадала б, пераказала... Не ўсякі чалавек гадзяшчы для такога дзела...

— Ой, баба... Я, мабыць, негадзяшчая. Я вельмі баюся: а раптам што не так? А раптам — на ўрэд пойдзе?

— Во-о, растаў... Выключы пліту...— Бабка ўзяла анучаю за беражок міскі, хацела несці ў кухню, але пакінула на той жа канфорцы, дзе і грэлася.— Нашто ж думаць — на ўрэд? Ты думай, каб на дабро пайшло, не на шкоду. Тых, што робяць, ліхое травамі ці шэптам, я судзіла б па вялікай строгасці.

Бабка мачала палатніну ў вадкім воску і зацяжліва — «А-а-а-ах...», з нейкім задавальненнем і смакам ахкала: пякло ў пальцы.

— Дзяржы калок!... Гострым — да мяне... Ніжэй, што ты ў нос соўгаеш...— чукавала яна Дар'ю. Заво-

страную частку калка яна абгортвала намочаным кавалкам. Нібы майстравала высокую завужаную лейку ці кулёк на семкі. Палатніны хапіла абкруціць той калок разоў тры-чатыры. Краечак, каб не адставаў, прыціснула, прыгладзіла, прыклеіла рэшткамі воску.— Бач, як скоранька загус... Нясі ў кухню на стол. Паляжыць, застыне добра, тады вымем калок.

Дар'я, а за ёю Аўдотка таропка пратупалі ў кухню.

— Травы трэба доўга вывучаць. Ды цяпер і кніг многа па травах... От дзе шкоды нарабілі — ай-яй-яй... Гэта ж каму трэба, а каму і не трэба пачалі рваць, драць, таптаць... Не глядзяць, у якую пару рвецца, у якую пагоду, які месячык на небе... Панішчылі, паглумілі і карысці не займелі. Цяпер, каб знайсці якую зёлку, трэба ногі адбіць. Не скора адродзяцца травы...

— Ой, праўда, цётухна!

— Ты прыйдзі да мяне, Дар'я... У цябе пойдзе. У цябе душа добрая. Перапішаш, што я гаварыць ад падымку буду... ад пярэпалаху... ад ліхога вока... ад колікаў у жываце... Як качаць жывот хлебнымі галушачкамі, каб не балеў... Як уварэд навязваць... Як вывіхі ўпраўляць... Як рожу выкрасаць і выгаворваць...

Аўдотка сядзела пры стале на заслоне, рытмічна пакіўвалася ў бакі. Галаву трымала праменька і глядзела проста ў Дар'іны вочы. Гаварыла роўным голасам, нібы вада з-пад каменя гула-журчала, і ўжо гэтым заварожвала Дар'ю, і тая таксама паціху пачалаківацца ўправа-ўлева, зарыпела пад ёю табурэтка. І нібы штосьці падцягвала яе з табурэткі ўгору, наструньвала, адбірала волю.

— Я табе самыя лепшыя травы паказала б, як з імі што рабіць. Ад сэрца... Ад нырак... Ад печані... Ад катара кіндзюка... Возьмеш во такі пучок кузьмічовай травы, абпаліш на скаварадзе, каб трохі зрудзела. Разатрэш на парашок, замочыш у трох шклянках вады, тры дні хай нацягваецца. Потым закіпяці і астудзі, улей яшчэ восем шклянак гатаванай вады... Тады бяры яйка ад чорнай курыцы, абпалі і ператры з трыма лыжкамі соды — і ў тую ваду... Піць трэба па лыжцы пасля яды. На чацвёрты дзень палягчэе, ірвоты не будзе. Будзеш есці і кіслае, і салёнае... Ад жаночых хвароб многа ведаю... Ад укусу шалёнага сабакі — шаленец-трава ёсць, вішнёвенькім цвіце... Ад падучай хваробы... Ад падучай можна пярэпалахам лячыць. От

як каго хаваюць... Падвесці хворага да самай ямы... Таўхануць знячэўку ў магілу... А можна парашкамі... Узяць з дзвюх парасят, малых, па два тыдні... Костачкі-красточкі ёсць такія ў чэрапе... Высушыць іх, растаўчы, расцерці...

Дар'я, закалыханая яе роўнай, як гудзенне чмяля, гаворкай, была блізкая да страты прытомнасці. У роце высмагла, язык прыкарэў да паднябення: не варухнуць ім, не скаўтнуць,— як паралізавала.

— Ну — то што? — стала ў праёме дзвярэй з дзіцем Настаса. Паглядзела на адну, на другую.— Света сцішылася, возьме зноў засне... І Лявошка ото-то павінен быць... Не дасць рабіць, прымхі — скажа...

Аўдотка і Дар'я ачомаліся, варухнуліся.

— Гэта не прымхі... — устала бабка.— Не прымхі! Сядай во сюды... Дзяржы Светку, каб хворае вушка ўгору... І закрый кругом вуха ўсё, мо якая хустка старэнькая ёсць. А то яшчэ воск капне на цела. І вочы ёй прыкрываць будзеш, каб не бачыла агню,— яшчэ спужаецца...

— Ой, мо ёй будзе балець?! Ой, а... агонь нашто? — Настаса са страхам прыціснула да сябе дзіця. Трывога перадалася і Светцы, яна зноў захныкала.

— Не будзе балець... Лёгенька зробіцца, ажно засне. Дар'я, бяры сернікі — падпаліш, як скажу...

А сама Аўдотка ўзяла са стала тую нагорнутую на калок палатніну, лёгка выцягнула з сярэдзіны дзеравяшку. Кулёк-леечка быў моцны, нібы з бляхі.

— О, і кончык добры... Тоненькая дзірачка.

Настаса сядзела з дзіцем на заслоне, дрыжучы і войкаючы. Светку трымала на згібе левага локця тварам да сябе.

Аўдотка злёгку прамацала пальцамі вакол вуха, паправіла хустку-пакрывала. І ўставіла леечку вострым у вуха.

— Падпальвай... Скрозь па беражку...— прашаптала Дар'і. А Настасу прысароміла: — Ды не калаціся ты!

— Ой, не дай бог чаго,— хоць тапіся тады! — Настаса сама адвярнулася, каб не бачыць агню.

Лейка гарэла зырка, як факел, шыпела і патрэсквала. Завіваліся струменьчыкі пахучага васковага дыму. Светка спачатку айкала, парывалася ўстаць, а потым заціхла.

Усе сядзелі наструнеными, Дар'я вачэй не зводзіла з агню, забывала нават міргнуць. Аўдотка бязгучна варушыла губамі — шаптала замову ці малітву. У Настасы дробненька стукацела аб падлогу нага.

Дзверы ў верандзе, у сенцах і з сянец у кухню былі адчынены ледзь не насцеж. Але ніхто не пачуў ніякага стуку і рыпу. Не чулі і трэску Лявошкавай «тарахцёлкі» — пакінуў, мабыць, на вуліцы. І толькі як спатыкнуўся ён пратэзам аб парог, усе схамянуліся, уздрыгнулі. Лявошка пастаяў, у непаразуменні ўглядаючыся ў іх маніпуляцыі. Мармытнуў, расцягваючы: «Здрастуйця-я...» І раптам рыўком, шырока ступіў да Настасы, ірвануў свечку-лейку з вуха, шпурнуў пад прыпечак.

Настаса ўсхапілася на ногі, тулячы да сябе Светку, кінулася ў пакой.

— Во-он з хаты!..— голас Лявошкі сарваўся на хрып на першым жа слове.— Каб і духу!..— выставіў палку на дзверы.

Дар'я першая шмыгнула пад гэты «семафор».

Аўдотка ж пайшла нетаропка, падняла з-пад прыпечка недагарэлую лейку, разгарнула яе, сунула Лявошку як не ў самы нос:

— Глядзі! Глядзі, а тады ўжо крычы!

На палатніне, на тым месцы, дзе «лейка» была звужаная, чырванеў вялікі, ледзь не з напарстак, згустак гною і сукравіцы.

Не аддала, не пакінула Лявошку недагарэлы кавалак палатніны, ступіла ў сенцы.

Таропка праходзячы пад вокнамі дома, Аўдотка і Дар'я яшчэ чулі, як бушаваў у хаце ціхі і, здавалася, пакорлівы Лявошка:

— Я намеснік сакратара парткома! Ты гэта разумееш?! Варыць у цябе мазгаўня ці не?! На ўсю Дуброву сораму! Ты мне яшчэ абразоў начапляй, малебны ўстрой!

— І начаплю, як трэба будзе...

— Замоўч! Я не ўсё яшчэ сказаў!

Аўдотка і Дар'я наддалі ходу.

## Раздзел трэці

I

Буславічы, калі параўнаць з Дуброваю, вёска зусім малая — трыццаць дзве хаты. Тут на вуліцы нават траўка-мураўка, пасуцца гусі, купаюцца ў кучах попелу і пяску пад платамі куры. На самай сярэдзіне, як каляськмі праехаць, травы няма. Сям-там, не ўсюды, праўда, растуць паўз платы бярозы і клёны. Некалі іх садзілі скрозь па вуліцы — рад каля аднаго боку, рад каля другога. Добра, калі захавалася палавіна. У тых дрэўцаў, што выжылі, ацалелі, на баках як высмакталі ці выгрызлі: пляшыны-правалы, напалову зацягнутыя губастай плоццю-карою. Таўставатыя ўжо дрэўцы, далонямі не абхопіш.

Каля хаты Пятра Сухавея, трэцяя з канца вёскі, дрэўцы ёсць толькі ўлева ад варот — уцалелі ўсе. Некаторыя дасюль яшчэ, хоць і тоўстыя, абгароджаны каламі, калы ўкручаны дротам. Управа ад варот цэментавы калодзеж, тырчыць ад яго ледзь не да сярэдзіны вуліцы выдлубанае з калоды старое карыта. Тут заўсёды п'юць каровы, калі вяртаюцца з пашы. Ваду наліваюць у карыта па чарзе, звычайна — сям'яне з той хаты, каму выпала гнаць чараду. Але часцей за ўсё рабіў гэта Пятрок Сухавей. Адзін! Выходзіў надвячоркам, за якую гадзіну да кароў. Круціў корбу спаважна, выліваў кожнае вядро яшчэ памалей — свяшчэннадзейнічаў. Усім сваім выглядам нібы паказваў людзям: во які я. Нават дзякі не патрабую, стараюся. Хоць самому хацелася, каб заўважылі людзі яго ахвярнасць і бескарыслівасць, ахкалі: «Ну й чалавек!»

Праўда, ён і любіў гэты міратворны плёскат, які ўціхамірваў душу. Вядро за вядром, вядро за вядром... Бывала, што з другога канца карыта, куды ёсць нахіл, вал за валам выкатваецца, плюскоча вада, а Пятрок усё лье і лье, нібы забыў пра ўсё на свеце. Урэшце сядае на лаўку пад плот, спаважна закурвае.

Ля карыта заўсёды гразка, усё спорана капытамі, ля канца, дзе выліваецца цераз верх вада, вялікая лужына. Гусі таксама любяць штодзённае абнаўленне лужыны, сыходзяцца з усяго выгану, гагакаюць, няйначай горача адабраюць Пятроў учынак. З асалодаю п'юць ваду, задзіраючы галовы, топчуцца лапамі ў прахалодзе, нібы яны ў іх смыляць і гараць ад доўгага шпацыру па сухім выпетраным выгане.

— Баба, ой смех! Гусі ў шкарпэтках... У шкарпэтках па гразі лазяць!

— Ага, ага...

Аляксана ўжо другі раз праходзіць вуліцаю ў канец вёскі. І за ёю пакорліва тупаціць Вова, меншы Лёнеў сын. Пастаіць Аляксана, агледзіць пашу аж да ўсохлай рэчкі-канавы, паўзіраецца за канаву. Чые там каровы? Ці не прыбліжаецца ўжо чарада? Большы ўнук пасе, падмяніў яе пасля абеду...

Магла б і не хадзіць, і не глядзець. Яшчэ першы раз ішла, то ўбачыла, што карыта амаль поўнае, можна і не даліваць. Але вярнулася дадому, пастаяла каля варотцаў — і вось зноў ідзе ў канец. Зноў чакае, што з'явіцца каля калодзежа Пятрок. Каб паявіўся, то зачапіла б, слова за слова — вывела б на патрэбную гаворку.

І прычакала — пачула за сабою віск корбы. Але яшчэ глядзела ў поле, хоць сама адлічвала вылітыя вёдры: «Адно... Другое... Трэцяе... Чацвёртае...» І ціхата, пайшоў дзядзька садзіцца на лаўку. Цяпер, мабыць, закурвае... Ну — цяпер можна.

Аляксана паварочваецца і ідзе ў вуліцу.

— Добры вечар вам... Я толькі-толькі збіралася падліць, а вы ўжо... Ну й стаханавец, дзядзька Пятрок!

Гэта Аляксана прагаварыла з сярэдзіны вуліцы, чакаючы, што скажа Сухавей.

— Гэ, хіба мне цяжка...— Пятрок запаволена, нібы таксама які абрад выконваў, выпускае з рота дым.

Во, цяпер можна падыходзіць бліжэй. За якія метры два ад лаўкі спыніцца, сказаць што-небудзь яшчэ.

— Вы ўжо накасілі сена?

— Але! Дзе ты яго вельмі ўхопіш.

— Па канаве! Вы ж летась нават прадавалі.

— Колькі я там прадаў — дзесяць пудоў. Выручыў проста чалавека... А цяпер не вырасла, адзін драсён і асот. Няма сена!

Цяпер ужо можна Аляксане садзіцца на лаўку.

— Добрую вы сабе работу найшлі. А мы ждом, калі ўжо нам намераюць якога шчаўя ці падалешніку.

— Летась добра панакошвалі людзі.

— Як хто.

— Справіла... усе паперы?

— Усе! Хай іх... З першага жніўня будзе ўжо ісці пенсія, сказалі.

— Ну во... А цяпер — замуж. Не перадумала ж мо?

Аляксана ўздыхнула:

— Вова, не лезь у гразь!

Вова ў гразь не лез. Ён падступаў бліжэй да гусей, выстаўляючы ўперад правую нагу. Крок... Яшчэ крок... Яшчэ паўкрока...

Гусыня пусціла ў лужыну гусянят — вялікіх ужо, падцыглястых, нібы мама дзяцей у пясок. А сама выбрала каля сярэдзіны карыта маленькае, чысценькае акенца вады, у якое густа капалі з карыта буйныя кроплі, і пачала прыхарошвацца. Плюхала нагою, спалосквала перапонкі ў чыстай вадзе і далікатненька, асцярожненька — драп, драп, драп — чухала каля правага вока сярэднім кіпцікам. Зноў плюхала, зноў — драп, драп, драп, драп... Тоненька, каб не замуціць вады, заняла, паднырнула дзюбаю, ускаціла трошкі вады на галаву, на шыю, страпянулася: «А-ах...» Гусак стаяў крыху наводшыбе ад гусыні і гусянят, бліжэй да Вовы. Шыю выцягнуў праменька ўгору. Пагрозліва ўскрыкваў...

«Не перадумала...» Гэта ж смех састроілі. Сам Ясь сядзіць у Пятровай хаце, саромеецца, а яго падаслаў у роспыты. Тое ды сёе... «Як ты глядзіш, калі... Ён, канешна, не маладзён, але ж... Але ж і ты не нявеста на выданні. Сышліся б пад старасць. Глядзелі б адно аднаго... Калі ты згодна, то і ў сваты неўзабаве прыйдзем. Баіцца ён зразу ісці — раптам прагоніш. Сарамаццё!»

— Вы на колькі, дзядзька, за Яся старэйшыя? — папыталася, хоць і так ведала.

— На тры... Мне праз два семдзесят, а яму праз пяць. Сама жаніх, хе-хе-хе... Кхы, кахы...

— Вы ж казалі — пасватаецца. А гэта маўчок?

— Ну... Мо няўпраўка якая... Ці мала што? А табе, Ляксана, нечага цяраць... Кроме сваіх цапей — як у тым Інтарнацанале... Горш не будзе, як тут, у сына! — Пятрок пускае кольцы дыму, а потым плюе пад ногі.

Што сказаць на гэта Аляксане? Праўда... Што праўда, то праўда, ад людзей не ўхаваеш. Не мёд ёй цяпер у Лёні. Гарчэй палыну...

Цяжка было маці ды на каравацці,
Пакуль сына зрадзіла...
Пабіла ногі аб чужыя парогі,

Пакуль сына жаніла.
Закалоў сын свінку
Ды замкнуў у скрынку,
Каб маці не спажыла...

— Вы так хваліце... «Горш не будзе»... Хто ж гэта пойдзе, калі горш?

— Горка рэдзька — ды ядуць, цяжка замужам — ды йдуць.

— Гэта пра маладых.

— Ясь — маладзец яшчэ. Ясь — багатыр. Гэта я здрабнеў, не скажаш, што і брат родны. А старэйшы за мяне яшчэ быў — Конан, о-о, той двух такіх, як я, за пояс заткне.

— Ой, дзядзька...— павесялеў голас у Аляксаны: — Вы не курыце, а так дым пускаеце! Не ў зацяжку!

— Чорт яго вытрывае — усё ў зацяжку ды ў зацяжку. Трэба і ўлегцы прабегчы.

Раптам каля лужыны важка, шугаста забілі аб зямлю крылы, крэкнуў гусак. «Ба-аба!» — спалохана крыкнуў Вова. Ён і хістаўся, і рэзка падаваўся ўперад, нібы яго патузвалі — «А-а-а-а... а-а-а!» — і з усёй моцы сціскаў шыю гусака. А той шыпеў разяўленаю дзюбаю яму ў твар, вырываўся і біў па Вове і па зямлі крыламі.

Аляксана як бач даскочыла туды. Сілаю расшчапіла хлапчуковыя пальцы, з плясакам паддала гусаку ступаком пад важкі жывот: «Гыля, каб цябе...»

— Ну, ты й футбалістка... Так і забіць можна! — не ўтрываў Пятрок. І гусак, і гусыня з гусянятамі былі ягоныя.

Вова ўсхліпваў і ўсё паўтараў з пярэпалаху:

— Кінуўся на мяне... А я хап! Укусіць хацеў... А я — хап!

Аляксана стрэпнула з Вовінай куртачкі пер'е, павяла за руку дадому. На лаўку больш не вярталася, не схацела чакаць і кароў.

Азірнулася, як успомніла, і ўсміхнулася:

— Дабранач, дзядзька.

Пятрок кіўнуў. Глядзеў услед ёй, дзівіўся — як матляецца на Аляксане спадніца! Як на калу...

— Хай сабе і дабранач.

2 Аляксана ішла дадому і не чула, што ідзе, што босыя ногі шлэпаюць па ўбітай, як ток, сцежцы, шалёстае па лытках спадніца... Яна чула толькі «ликующий» сярэбраны голас трубы з той далёкай далечы — з маладосці... Цераз поле, цераз балота, цераз сад, за тры кіламетры — са Старычаў. Нібы гэта падавала голас, выспеўвала яе мара.

Голас даваеннага далёка...

У Старычы пайшла замуж яе лепшая сяброўка — праз паўгода пасля Аляксанінага вяселля. А яна — не ўдава і не замужняя, з новым жыццём пад сэрцам аблівалася слязьмі, хадзіла з мяшком па межах у калгасным садзе, ірвала свінням малачай. Хоць хапала зелля на ўвесь выхадны, хоць быў грэх (нядзеля!) і маці адчытала яе за гэта. Але — пайшла... Абы з хаты, абы не чуць матчыных папрокаў і ўпічак. І чым далей адыходзіла ад вёскі, тым мацней голас трубы, узлятаў як не ў нябёсы, і ўжо адтуль, нібы адбіўшыся ад крыштальна-звонкага скляпення, ападаў уніз, разлягаўся па наваколлі, пагойдваў і пагушкваў на нябачных хвалях Аляксаніна сэрца, і раслі ў ім горнасць і боль. Як спынішся, не шастаеш нагамі па быльніку, то чуваць і рокат-вухканне тоўстай трубы — «Ру-ра-рэ... «Ра-ро-ру...», вытылінгванне скрыпкі і кларнета. Ігралі шулаўцы, знакаміты на ўсё наваколле аркестр. Шэсць чалавек...

А на яе вяселлі рыпаў адзін гармонік, і не стукацела, а пляскала па надарванай скуры бубна булавешка — як пранік па мокрай бялізне. Музыканты, самі сумныя і галаднаватыя, не вельмі стараліся каго развесяліць — абы адбыць. Маці шкадавала карміць іх з вясельнага стала («Пра кармёжку не было ўгавору!»), зварыла ім спецыяльную «музыканцкую капусту» — нішчымную, толькі і заскаромленую лыжачкай льнянога алею. Нават людзі папракалі маці: «Як жа так?! Не сарамацецеся!..» А яна сваё: «Даўней заўсёды так рабілі, і ніякага сораму не было».

Нявесела, абы збыць клопат, ішло вяселле. Маці прымушала яе плакаць, нават галасіць — «Так усе нявесты павінны рабіць!». Нявесела і закончылася вяселле. Не хадзілі ў хату да Івана, не пасылалі «прыданых». Не было ў Івана прытулку. Сірата Іван, жыў па чарзе па хатах, быў пастухом... «Не раўня ён маёй Аляксане... Не раўня!» — цвердзіла кожнаму сустрэч-

наму маці. Нават на вяселлі, адкрыта, не баючыся, што пачуе Іван.

Хата іх была маленькая, з аднаго пакоя. Чвэртку месца займала печ. Палавіну — драўляны ложак паўз вулічную сцяну і палок — упоперак да яго, упрытык да печы. Ад цаладзённай мітрэнгі Аляксана валілася з ног, не лепш адчуваў сябе Іван. Каб летам, а не на каляды, то пайшлі б начаваць дзе на сена. А так... Прыбіў Іван да ложка з краю біла кій, увагнаў у сцену цвік. Разапнулі на аборцы посцілкі, адгарадзіліся, хоць і бурчала маці: «Не смяшыце людзей... Даўней па дванаццацера ў хаце жылі, і жанатыя, і нежанатыя...» — «Дык то ж даўней... Цяпер не той час»,— не выцерпела Аляксана.

І не нацешыліся яшчэ самі сабою, не паспалі мо і гадзіны, як маці паўспорвала абаіх. Хоць стаяла зіма і ніякай пільнай работы не было. Яна знаходзіла ім работу, камандавала і ганяла з нейкай зларадналю асалодаю, асабліва Івана. Быццам у хату прыйшоў дармовы парабак, і гэты парабак у дадатак яшчэ і правініўся перад ёю. Аляксана прала воўну, а Іван паабколваў лёд каля калодзежа, выграб і выкідаў за платы з двара ўвесь снег, да самай зямлі (і маці тут жа палаяла яго: «Як жа санмі заедзеш, калі трэба будзе?»). Нанасіў вады — заліцца можна, раскалоў са злосці дзве сукаватыя калодкі, што валяліся мо гадоў дзесяць і на якія ўжо махнулі рукою. Маці ж абарвала посцілкі, абламала кій на другі дзень. А вечарам загадала Аляксане: «Са мною ляжаш! Ад сцяны!» І кожную ноч так клала з сабою. І праз усю ноч чула Аляксана, абліваючыся слязамі, як варочаецца на ложку, нібы мулка ляжаць, Іван, як горка ўздыхае. Зрэдку ўдавалася пад раніцу прыспаць здурэлую старую, перабрацца на яго ложак...

А вясною саракавога падаўся Іван упрочкі. Ён яшчэ не ведаў, што яна цяжарная. Завербаваўся недзе на Урал будаваць завод — блізкі свет! Ні пісьмочка не прыслаў, як камень у ваду шчабоўкнуў... Ці жывы, ці мо ў вайну загінуў — ніхто не ведае. Да вайны ў НКВД пасылала пісьмо, каб памаглі расшукаць Івана. А тут і вайна нахапілася, немцы прыйшлі. Пасля вайны ў Міністэрства абароны пісала. Адтуль спыталі: у якім годзе, якім ваенкаматам прызываўся? А што яна магла напісаць, што яна ведала?

Рос Лёня, гадаваўся без бацькі. Бабка, пакуль жывая была, выхоўвала ўнука па-свойму: «Не слухай маму, дай ёй дулю... Яна мяне таксама не слухала. А цяпер дзе твой бацька? Сабакам сена косіць...»

Хата, у якой яны цяпер жывуць, новая. А са старое скідалі на задворках хляўчук-прыбудоўку. Ставіў новую Лёня, будучы ўжо шафёрам — і жанатым, і дзецьмі. Валачыў дадому ўсё, што толькі мог запарваць. Прасторная хата, дом, а не хата — восем на дзесяць метраў. А матцы знайшлося месца толькі ў запечку, у кухні. Аляксанін тапчан засунулі ў цемрань, завесілі драпястаю посцілкаю ад людскіх вачэй...

...Чым бліжэй падыходзіла яна да хаты, тым больш глушэлі і перарываліся ўяўныя клікі трубы. Вось і зусім заглухлі... «Дурніца ты, дурніца...— уздыхнула Аляксана.— Хто ж гэта цяпер табе сыграе на трубах!.. Якое ж можа быць вяселле!.. Ды каб яшчэ з трубамі!»

Але ўвесь вечар, што ні рабіла, што ні думала, пра што ні гаварыла з дзецьмі, з Лёнем ці нявесткаю, час ад часу ўрываўся ў яву жураўліны покліч трубы. І спаць забралася за сваю посцілку, змораная дашчэнту, а ўсё чула гэтыя трубы, і сон яе абмінаў.

Заснула толькі пад раніцу з летуценнай усмешкай на вуснах...

3 Брыгадзір Каляда звычайна даваў нарад каля канюшні. Мо таму, што яна была бліжэй да сярэдзіны Дубровы, а мо па звычцы: так рабілася з тых часоў, калі коні значылі для гаспадаркі ўсё, калі тэхнікі ў калгасе амаль не было. Сюды і прыйшоў раненька Ясь, думаў, што застане, як і ў тыя гады, гаманлівы натоўп. Ажно нікога і нічога. Не вісела нават на сцяне каля кладоўкі паперка-нарад — што каму рабіць. Усе і так ведалі яшчэ звечара. Калі і падыходзіў хто цяпер да брыгадзіра, то перакінуцца словам ці закурыць. З машыннага двара далятала татахканне і гуд матораў — раз'язджаліся касілкі, валкавацелі, стагакіды, цюкавальшчыкі, аўтамашыны.

— Ты мо ўсіх коней ужо расправіў,— сказаў Ясь, падаючы Калядзе руку.

— А куды іх... распраўляць. Пяцёра падвод на луг баб павязуць, сена варочаць. Астатніх на пашу... Бу-

дзем, казаў Дзеньдобры, яшчэ чатырох на мясакамбінат адпраўляць.

— От дажыліся... Каб хто да вайны сказаў, што такое будзе — вочы выдралі б.

— Ну. Раней хоць бульбу коньмі абганялі. А цяпер і гэта трактар робіць. Усляпую. У асноўным для патрэб калгаснікаў трымаем коней,— у голасе Каляды былі інтанацыі самога старшыні.

— Дай мне сёння якога... Ну — не стаенніка, але каб у целе... І каб рухавы...— Ясь, бянтэжачыся, пахлапчукоўску шморгнуў носам.

— Аг-га-а...— разумеючы, працягнуў Каляда.— То мо і брычку? — Брыгадзір гадоў на шэсць маладзей за Яся, але трымаўся з ім на роўных. Пасля такіх слоў з лёгкім усмехам глянуў Ясю ў вочы. Але не пачакаў адказу ад «жаніха», дадаў: — У Піліпа саломы возьмеш з кладоўкі, вытапчы вазок добра. І травы ўкінь, накошаная ёсць... Не скора ж ты там завінешся? — Каляда ўсміхнуўся яшчэ шырэй, на кастлявым твары нарабілася маршчын.

— Паеду... Кхым... Мо сёння і перабяру сюды. Калі згадзіцца... Не шуцейнае дзела.— Ясь выцер далоняй узмакрэлы лоб.

— Згадзіцца, Іван Іванавіч! Усё будзе а'кэй, як мой зяць гаворыць. А калі якая няўпраўка будзе — на падмогу кліч. Не кінем у бядзе! — Каляда рагатнуў, і Ясь збянтэжыўся яшчэ больш: брыгадзір рабіў непрыстойны намёк.

— Дзе там... пра такое думаць! — і сам змушана засмяяўся.— Хоць і ты, Кастусь, у гэтым дзеле ўжо не памочнік.

— О, не! Не кажы... З маладою жонкаю і сам маладзееш.

— Дык то з маладою... От абы каб аднаму не кукаваць. Жонка ёсць жонка, не ўсякая дачка так дагледзіць.

— Не злуйся — я так. Я й сам ужо не герой... больш языком...— І Каляда прымірэнча дадаў: — То што — і вяселле будзеш спраўляць?

— Адчапіся ты з гэтым вяселлем! — махнуў на яго Ясь, пайшоў у канюшню.

— Кветку запражы! — крыкнуў наўздагон брыгадзір.

...Да Буславіч кіламетраў восем. Кветка трухала

рухава, ахвотна, ледзь толькі Ясь паварушваў лейцамі. Спачатку гравейкай, потым па «стаўбавой» за Капуснікі, а потым звярнуў і на палявую. Праз які кіламетр збегла яна на грэблю-загату, каля якое разлілося нешырокае, але доўгае, гектараў на пяць, возера. Самую грэблю вада павыгрызала, павыломвала, кавалкі абрушыліся ўніз. У прыбоі жаўцеў намыты пясочак. Скрозь каля гэтых вырвішчаў стаялі і сядзелі з вудоўямі дарослыя і дзеці, нават жанчыны. «Відаць, з горада, адпускнікі...» — вызначыў па адзенні Ясь. Разпораз рыбаловы размахвалі сваім прыладдзем, і ў паветры штосьці паблісквала. Спыніў кабылу, здзіўлены.

— І што — ловіцца?!

— Ловіцца...— паказаў локцем вышэй на бераг, на вядро, малады мужчына.

Ясь спачатку перагнуўся з брычкі, але нічога ў вядры не разгледзеў. Злез на дол, павярнуў вядро к сонцу. Разам з вадою важка баўтануліся карасікі і карпы — з палавіну далоні, з трэць.

— Хэ... Глядзі ты...

Сеў зноў, цмокнуў на Кветку.

Дзе канчалася грэбля, груба дзёрся ўгору пагорак з сасоннікам на хібе, а пад узгоркам, на ўтравелым паплаўцы, і нават пазашываліся між дрэўцаў, чырванелі, сінелі і зелянелі легкавікі, стаялі дзве палаткі. Каля аднае гарэў агонь, і нейкая маладайка ў лёгкім сарафанцы, з голымі плячамі і рукамі, памешвала ў кацялку варыва. Потым разагнулася, павярнулася ў бок рыбакоў.

— Коля! Дзеці! Юшка зварылася! — звонка разнеслася над гладдзю вады.

Ясь адчуў пякучую зайздрасць. Як у людзей усё добра і бесклапотна! Адпрацавалі адзінаццаць месяцаў — і законны адпачынак... «Хітрун, ох і Хітрун! Недарма ў яго такое прозвішча... Наш Дзеньдобры не дадумаўся да гэтага — ні возера, ні карпаў... А той білецікі адпускнікам прадае. Рубель за дзень — хоць злавіў, хоць не злавіў. Але ж ловяць людзі, ды яшчэ ж як!»

Кончылася грэбля, не так стала падчэкваць на рысорах, пад шынамі зашуршаў пясок. Кветка натужна цягнула брычку ўгору, у хвойнік. І Ясь успомніў, як аднойчы ехаў ад Пятра (той сына жаніў) і натрапіў у

гэтых хвойках на грыбы. Але ж столькі высыпала маслякоў — ступіць не было дзе. Прывязалі каня за дрэва, разаслалі на зямлі брызентавы плашч і скалупвалі без нажа, кідалі на яго адны шапачкі. Жонка, Сарафіна, так змаглася, стараючыся (і ракам хадзіла, і на каленях поўзала), што села каля воза, схапілася за сэрца і ўсё зяпала ротам, як тая рыба на пяску. Прывезлі грыбоў пудоў тры, а не ведалі толкам, што з маслякамі рабіць, ніхто не падказаў, што шапачкі трэба лупіць. Адварвалі і смажылі нялупленыя, і дзівіліся, чаго яны гарэняць? І за што іх людзі хваляць? Здаволіліся адною скавародою, астатнія за хлеў выкінулі...

Добра пражылі з Сарафінаю. Дзяцей пагадавалі, унукаў прычакалі...

А пра другую жаніцьбу Ясь спачатку і думаў і не думаў, надумваў і зноў перадумваў, наважваўся, рашаўся і зноў вагаўся. Падбівала яго на другую жаніцьбу Аўдотка. І ён не крыўдаваў на яе за гэта падбухторванне. Яна была свая ў кожнай сям'і. Раней, як менш было дактароў, яна і роды прымала. Яна і хавала людзей, лепш за яе ніхто не ведаў, як пакамандаваць. Аўдотка і надудзела яму ў вушы: «Нягожа аднаму мужыку век дажываць... Нядобра... Дзічэе тады мужчына... Што ад дачкі аддзяліўся — добра. У маладых і клопаты маладыя — не перашкаджай... Але аднаму жыць? Не, не, не... І доўга не тапчыся, не чухайся: намерыў — і ўдыр! І пра Сарафіну не думай... Мёртваму — пухам зямля. А жывому — жывое!»

Гэта было пасля нядаўняй паездкі да Пятра, пасля розведаў. І, можа, яшчэ вагаўся б не адзін месяц, каб не гэты візіт Рыгора... Яго падсміхванне з новай «бочкі», якую ён хоча змайстраваць. «А ў самога і старая рассохлася, вось-вось рассыплецца, і новай няма... А я змайструю, я — зладжу!» — шаптаў Ясь зацята і з нейкай пагрозлівасцю.

Разумеў ён і другую прычыну, якая прывяла Рыгора. Раней, і здаровым будучы, не вельмі заглядваў. А гэта ж... «Пакрыўдзіў, лічыць, я яго... Дасюль не можа забыць. А ён мяне не пакрыўдзіў? Згнюсіў, можна сказаць, на ўвесь раён. У Слуцку нават ведаюць... На бацьку — у суд!.. Але ж я не помню злога, я сплаціў яго долю... А колькі сякераю памахаў, пакуль складвалі яму хату! А сталярку яму ўсю новую зрабіў — за дзякуй... Ды нават дзякуй не сказаў, дальбог

жа! Чаркаю ўсё хацеў адбыць... Настаса, то ў самым большым выйгрышы, канешна... У Настасы дом — як крэпасць. Трэба перапісаць на яе — хай... А ў Федзі нічога няма. Каб, скажам, дзе ў Мінску жыў, то даў бы на капераціўную кватэру...»

Гайданулася брычка, трапіла кола ў прамоіну-калдобу. Падгушкнуўся Ясь, пачэкаўся — брычка доўга не супакойвалася.

Як я е-ехаў да яе-е-е-е-е —
Бры-ычка на рысо-ора-а-а-а...
...ах!

А прыехаў ад яе-е-е —
Хата на падпо-орах!

Ясь страпянуў галавою: «От напасць...» Але мелодыя настырна лезла ў вушы, выплывала з памяці. Сашка Рыгораў прыдбаў недзе пласцінку «Песняроў», усім вушы прасвідраваў, круцячы.

«А ў Аляксаны хата не на падпорах... Бачыў, як прыязджаў. Добры дом... Толькі не яе — сын паставіў».

«Аўдотка забягала... У той дзень, што і Рыгор... З Дар'яй... Зноў прыставала: «Чаго сядзіш карчом? Чаго не варушышся?» — «То от жа варушуся, во... еду! Бачыш! — звярнуўся ў думках да Аўдоткі, папікнуў: — Намерыўся! І ўдыру!»

І адразу ад такой храбрасці захаладала пад сэрцам: «Як яно будзе? Як павернецца?»

Як я ехаў да яе-е-е-е...
Эх-ха...

## 4

«Вылежваюцца... Маці для іх кухарка, маці — парабчанка... Устань... навары... падай... прыбяры... Дагледзь усё — і дзяцей, і жывёлу... Ды яшчэ ж — «не так наварыла, нясмачна. Не так падала...» Калі ўмееш смачней — вазьмі ды навары. І я пад'ем гатовага, і слоўца не скажу. А то і есці з-за работы няма калі — адно толькі спытваеш цэлую раніцу, каштуеш... Жывот перабаліць, перакруціць — не жыў бы, здаецца. Сала, бачыш, хутка ідзе... Купляй прысмакі — прысмакі буду гатаваць. «Сала паядаеш...» То еш сам! Чаго ж перакорпваеце яго на скавародзе па тры дні? У карыта, свінням выкідваць? А я і глядзець бы на яго не глядзела... Печань ад яго толькі баліць...»

Аляксана таўклася пры печы, і такія думкі раз'ядалі ёй душу. Як бы хацелася ёй ад усяго гэтага адпачыць — госпадзі, божа! «Хай бы Валя сама і дагаджала яму...»

«Каралева бо такая... На кнопкі націскае ў канторы, нават не лічыць сама, машынка лічыць. Пакажы мне, то і я патыркаю пальцам, невялікая навука. Ты от тут пакруціся, дома, ды яшчэ на работу збегай — тады будзеш гераіня...»

— Лёня, уставаў... Уставайце снедаць! — Перайшла пакой, прачыніла дзверы ў спальню.— Людзі ўжо гамоняць пад плотам...

Яшчэ, праўда, ніхто не гаманіў, толькі адзін Пятрок Сухавей праходзіў з касою міма, спытаўся: «Куды сёння Лёня з машынаю?» Мо таксама хацеў пад'ехаць. Але не чакаў транспарту, пасунуўся пехам на свае канавы.

Думкі яе перакінуліся на ўчарашнюю размову з Пятром. Рупілася каля печы падавала сняданак, рабіла ўсё, як заведзеная, і, здаецца, нічога не чула і не бачыла на кухні, усё перабірала ў думках Пятровы словы і тое, што сама яму сказала. Труб, сярэбраны голас труб больш не чула. Была гнятлівая нуда і неадольнае жаданне вырвацца з гэтае хатняе кабалы, пажыць на старасці новым жыццём. «Вольным» — гэтае слова не адважвалася вымавіць нават сама сабе. Якая можа быць воля — замужам? А мо ў нейкай меры і воля?.. Ад мужыка многае залежыць.

«От... Хай адны пакруцяцца... калі маці не можа ўнаравіць. А закруцяцца! Насыплю ім солі на хвост! Пытаў Лёня пасля тых Пятровых розведаў — ці праўда... Адбрахалася: . яшчэ бог-бацька ведае, што і як. Дык рагатаў, як ускрыкваў, галаў закідваў на каўнер. «Замуж! Валя, ты чуеш?! Гэта ж дадумацца — замуж! Жывот парвеш ад смеху...» А што запяе, як пабачыць сваты? Во закруціцца, не да рогату будзе!»

«Ой, не радуйся... Мо яшчэ ніякіх сватоў не будзе...» — але ад такой думкі-перасцярогі рабілася млосна на сэрцы. Не можа быць, каб не пасватаўся... Ясяна трохі ведае — сур'ёзны чалавек, не шантрапа. «Самастаяцельны... Салідны... Пятрок мітуслівы, у яго сур'ёзнасць не выходзіць. А ў Яся сама сур'ёзнасць. Бачыла яго, як на вяселле прыязджаў да Генадзя, меншага Пятровага сына. Аж любавацца хацелася: і га-

ворыць — спаважна, і ходзіць — спаважна... Як бы і не калгаснік, а... дыпламат... ці як іх...»

Уявіла, як яна пойдзе з такім чалавекам рука аб руку, і ад хвалявання затуманілася галава.

«Маладыя цяпер і без пасага сходзяцца і жывуць. Многія самі ўсё набываюць, з капейкі... А што Ясь запатрабуе? Хоць бы не загарадзіў вялікі пасаг... Сам то ён багатыр — Пятрок казаў. А што я вазьму з сабою? Што Лёня дасць? Нічога са старое хаты не асталося — з абстаноўкі. Валя ўсё муштруе Лёню, каб па-гарадскому ў хаце было. Шафы чорныя, хоць глядзіся... Тэлевізар на ножках... Дурная, якая я дурная! Хоць бы трохі грошай прыхавала, не аддавала ўсе Лёню... Ні адна маці ў свеце так не робіць. Наадварот, мацяркам аддаюць дзеці грошы... А цяпер сышчы ў яго паспрабуй, вырві... І капейкі не дасць! На жыўнасць трэба біць — ёсць карова, цяля... Мо цяля прасіць? Свіння, двое падсвінáк, парасяты... Зелля толькі не набрацца... Парасят дзевяць... Парасят хоць бы парачку... Цікава, якая ў Яся гаспадарка? І ён жа ад дзяцей аддзяліўся... Што яму аддзялілі? Нічога пра гэта Пятрок не казаў... А мо і Ясь не багатыр, а гол як сакол? Во збярэмся — два сокалы пара...»

Не, не трубы чуліся Аляксане. Ад трывогі і ўзрушанасці яна не знаходзіла сабе месца. Даўно ўжо і Лёня, і Валя на рабоце. Вось дачакацца б толькі, каб усталі ўнукі, іх пакарміць...

Сядзела Аляксана за сталом на кухні, села нібыта снедаць, а нічога не лезла ў рот. А мо пабудзіць дзяцей? Хопіць ім ужо, выспаліся... А тады ўжо сыдзе куды з хаты, бо не вытрываць на адным месцы, не выжыць.

Недзе пад адзінаццаць гадзін, адправіўшы большага ўнука ў школу (збіраўся іх клас палоць градкі на прышкольным участку), а Вову, па звычцы, прыхапіўшы з сабою, Аляксана выйшла на вуліцу. У адзін канец вёскі паглядзела, у другі. Пайшла ў той бок, куды несвядома цягнула — міма Пятровай хаты. Можа, што праясніцца, мо ўжо вярнуўся Пятрок з кошлі...

Абыходзіла на вуліцы карыта і гразь каля яго і наважылася, калі не вярнуўся Пятрок, выйсці за канец вёскі. «А можа, і на балота схадзіць? Пагляджу, якая ў яго сёльта трава... Накошвае трохі ці не...» І толькі абмінула карыта, як убачыла свежы след калёс. Уна-

чы трошкі пакрапаў дождж, і на падзяўбанай, у цёмных воспінах, зямлі гэты след выпрасаваўся выразна і бела. Чатыры асобныя палосы ад чатырох колаў, і заварочвалі яны на двор Пятра. «Мо Пятрок вярнуўся з кошлі, мо паедзе па сена...» — паспела мільгнуць у галаве. Але тут жа спатыкнулася на роўным месцы: на Пятровым двары стаяла брычка. Конь выпражаны і павернуты ў аглоблях, перабірае ў брычцы траву. Салома ў задку брычкі заслана паласатаю посцілкаю... Скмеціла, што адчынены і дзверы адрынкі, адтуль далятаюць мужчынскі і жаночы галасы. Жаночы — Пятровіхі, Зосі, мужчынскі — не Пятроў. Не!..

«Прыехаў-такі... Ясь прыехаў...»

Ісці далей? А куды? Мо бегчы на канаву, гукаць Пятра? Можа, і ён яшчэ не ведае пра госця.

Прайшла колькі крокаў саслабелымі нагамі... «Не, не, не, не... Здурэла?!» — Аляксана крута павярнула назад.

Імчала зноў міма двара подбегам, не заўважаючы, як тупаціць побач, спатыкаецца, уплёўшыся за спадніцу, Вова. Касіла вочы на Пятроў двор, у канец яго: там выйшла ўжо з граблямі Зося і штосьці гаварыла, павярнуўшыся тварам у дзверы адрынкі. Адтуль высоўваліся яшчэ адны граблі, выступала вялікая мужчынская нага ў хромавым боце.

«А госпадзі... Чаго гэта мяне так трасе? І ў дзеўках так не хвалявалася, як за Івана ішла...» — Аляксана прыпусцілася яшчэ шпарчэй.

Дома схапіла матыку-драпач і ўскочыла ў агарод. Усё расло ўжо, лапушылася, не ўлезці між радкоў, а яна секла і секла... Перагрэбвала пасечанае, штосьці выбірала. Але не бачыла добра — што секла. Мо буракі, мо гуркі. Не заўважыла, што выбірала з насечанага: мо зелле, мо тыя ж буракі ці гуркі...

5

— Добры вечар вам! Ці рады вы нам? Хоць рады, хоць не рады, прыйшлі палоць вашы грады! — ступіў цераз парог у хату і адразу сыпануў прыгаворкамі Пятрок. Дзверы пакінуў адчыненыя, і ззаду яго таптаўся, паглядаючы то з-за правага, то з-за левага пляча, Ясь. Не хапала духу зрабіць яшчэ адзін крок.— Добры ў вас род, добры агарод... Ой!..— усклікнуў Пятрок і адхапіў нагу, хіснуўся, кульгануў-

шы, у качарэжнік. Гэта ступіў-такі цераз парог Ясь і... якраз яму на пятку. Дзярнуў, мабыць, добра, бо Пятрок забыў пра гаварэнне, а паставіў сумку, падагнуў нагу, закруціў туды, як певень, голаў — абгледзеў абадранае месца, памацаў.

Можа, і неспрыяльны момант быў на сваты. Мо трэба было хоць на гадзіну, хоць на паўгадзіны пазней, бо Валя сама карміла на кухні дзяцей (сядзелі тыя пры стале і брыкалі адзін аднаго нагамі). А Лёня, прыхаваўшыся за посцілку-занавес каля Аляксанінай пасцелі і агаліўшыся да пояса, змываў з сябе копаць і пыл. Аляксана ж, прычапурыўшыся зараней, сядзела ў гасцінай і глядзела па тэлевізары праграму «Час», хоць нічога, здаецца, не разумела з чутага і бачанага. Як пачула на кухні Пятроў голас, усхапілася адразу. Стала ў дзвярах, учапілася за штору. Якой музыкай гучалі для яе сватавы словы! І як усё было хораша, пастарому, гэтак, як вялося спрадвеку... Выглянуў у непаразуменні з-за посцілкі Лёня, скамлычаныя мокрыя валасы прыліплі да лба, здзьмухвае з губ ваду. Павярнуліся да прышэльцаў, паразяўлялі раты дзеці. А Валя гыкнула ад смеху, але прытуліла рот рукою — пачакала, што будзе далей.

І Пятрок, ачомаўшыся, зноў сыпануў:

— У вашым родзе, у вашым агародзе ёсць чырвоная кветачка — вяргіня. Можа, хто яе і абміне, можа, хто і пакіне. А мы хочам вяргінечку сарваць і з сабою забраць... Вітаем вас, ягамосьці, прыміце нас на госці!

Валя зноў чмыхнула, панесла на прыпечак скавараду, але спачатку ішла проста на старых, і тыя ажно адступілі на паўкрока назад...

Звычайна, калі прыходзяць сватаць дзяўчыну, то бацькі запрашаюць: «Просім! Просім! Праходзьце далей у хату...» А тут усё было перамешана, павінны былі, раз такая справа, запрашаць Лёня і Валя. Але тыя маўчалі, мо не ведалі, як у такіх выпадках што робіцца. Тады Аляксана сама паклікала сваты далей:

— Добры вечар і вам! Праходзьце да гасподы!

Цяпер ужо і Пятрок і Ясь таптануліся ў парозе смялей, пацерлі падэшвы аб звязаны кручком з трантаў палавічок. У Пятра на нагах былі туфлі з вострымі, як падвірка, насамі (пэўна, калісь скінуў іх, не стаў насіць унук). І трэба ж так здарыцца, што востры нос левага туфля як знарок знайшоў дзірку ў палаві-

ку і глыбока ўлез у яе, ублытаўся. Пятрок, цярнуўшы, хацеў ступіць далей, але... расцягнуўся на падлозе, грукнуўшы не то сумкаю, не то старымі касцямі. Нага вылузалася з туфля, туфель застаўся ў палавічку. Пакуль Пятрок вохкаў і падымаўся, заглядваў у сумку — ці ўсё там цэла, Ясь выблытаў туфель, падсунуў да братавай нагі — «Абувайся!».

Лёня і Валя рагаталі, пабраўшыся за бакі... Збянтэжана пакашліваў Ясь, не асмельваючыся выходзіць наперад Пятра. Урэшце Пятрок даў рады туфлю, прайшоў міма Валі ў гасцінную, за ім, тулячы рукі да бакоў,— Ясь. А тут і Лёня адхінуў штору, зайшоў следам. Тоўхаў кулаком падол рубашкі ў штаны, падціналючы жывот, мераў поглядам то аднаго, то другога. А старыя тапталіся, паварочваліся, як на агледзінах...

— Во-о... Пагуляюць дзяды ў нас...— сказаў Лёня.— Скора міравецкі дзюдзякціў пачнецца. Пра разведчыкаў!

— Сядайце, калі ласка, сядайце,— змякчыла яго тон Аляксана.— Хоць сюды, на крэсла... Хоць на канапу — тут лацвей і мякчэй. Во тут — пры печы...

— Пры печы лепш... Або на печы! — ужо не толькі з намёкам, але і з выклікам сказаў Лёня.

Міма іх праз пакой пратупалі ў спальню, хныкаючы, дзеці: «І мы, кіно... хочам...» Іх гнала, падштурхоўвала ў спіны Валя: «Я от вам дам кіно... Такое кіно будзе — не захочаце!»

Пятрок першы сеў на канапу, справа ад дзвярэй, паказаў далоняй, палопаўшы па канапе, месца Ясю. Аляксана села на крэсла злева ад дзвярэй, каля швейнай машыны. Усе моўчкі ўтаропіліся ў тэлевізар, быццам і сапраўды дзеля гэтага сабраліся сюды.

Калі Валя з дзецьмі заціхла ў спальні, Пятрок пакашляў і пачаў зноў:

— Мы прыйшлі пасядзець, мы прыйшлі паглядзець... Патаргаваць куніцу, красную дзявіцу... Кахегм... Кых-гм...— закашляўся стары: ніяк не вязаліся яго словы пра «вяргіню» і пра «куніцу, красную дзявіцу» з тым таварам, які яны хацелі вытаргаваць.

— Штосьці я вас, дзядзька Пятрок, не разумею...— падышоў Лёня да тэлевізара.— Ач ты, дождж на заўтра сказалі... Мо вы заблудзілі? — пераключыў праграму, пайшоў ад тэлевізара назад, гледзячы ў вочы Пятру.— Вам да суседа трэба было. У іх ёсць «красная

дзявіца»... чырвоная, кроў з малаком... Толькі трохі касавокая... А ў мяне двое сыноў і тыя яшчэ малалеткі...— стаў побач з канапай, пачаў прычэсвацца.

А з экрана ўжо вытрашчыла вочы дзеўка, прыцэлілася з пісталета ў Яся, у Аляксану, у Пятра, і чорная зрэнка дульца шырылася, зеўрала, як бы напаўзала на кожнага...

— Ага... Дождж ідзе не там, дзе просяць, а дзе косяць, не там, дзе ждуць, а там, дзе жнуць,— загаварыла Лёню зубы Аляксана.

Пятрок паставіў на пяткі свае вастраносыя туфлі, паківаў наскамі ў бакі. Ясь пачаў выціраць чырвоны твар насоўкай. Засоўваў яе назад у кішэню і тузануў ззаду за Пятроў пінжак (таксама, відаць, сынаў). Ці хацеў падспешыць брата, каб выручаў, ці даваў знак, каб зусім пайсці, як пабітым палкаю. І тады Пятрок дастаў з сумкі паўлітэрку «Экстры», кансервы і кліновы сырчык, загорнуты ў вырваны са сшытка двайны ліст. Данёс гэта да тэлевізара і прыладкаваў на невялікі круглы столік. Вярнуўся да сумкі, выцягнуў доўгі, затканы на канцах узорамі-арнаментам, ручнік, ускінуў цераз плячо, завязаў накрыж.

— Не хочаце даваць дзявіцу, забярэм жар-птіцу...— не здаваўся ён, не збіваўся з тропу.— Аляксана, б'ём табе чалом...— пакланіўся ёй Пятрок і, трошкі павярнуўшыся, зашаптаў да Яся: — А ты чаго прыкіпеў? Кланяйся, прасі яе ў жонкі... Што — я адзін павінен тут спіну гнуць?

Ясь паспешліва падняўся, зрабіў лёгкі паклон.

— Прашу цябе, Аляксандра Піліпаўна...

Аляксана ўстала з крэсла, таксама пакланілася ім. Лёня круціў галавою туды і сюды, аглядваючы гасцей, і рот яго разяўляўся, як каробачка.

— Ха! Ха! Ха! — закінуў голаў, як і тады, пасля розведаў.— Ды вы што — усур'ёз усё гэта?! Валя, ідзі паглядзі на камедзіянтаў! Валя!

Валя выйшла са спальні і знарочыста схапілася за жывот, зацяклася рогатам.

Гэта ўжо была знявага — і для Сухавеяў, і для Аляксаны.

— «Кветачка-вяргіня»! О-хо-хо! «Куніца — красная дзявіца»! Ха-ха-ха! Схадзі, куніца, карову зачыні...— здзекліва гаварыў Лёня.

— Павар'яцелі пад старасць,— дабавіла Валя.—

Ведама, пенсіянеры, рабіць няма чаго... Вам пра другое «вяселле» пара думаць!

У Пятра лопнулі «тармазы». Ён разявіў шчарбаты рот раз, другі — набіраўся духу.

— Мы... да вас!.. з усёй душою! А вы... памыямі? За што ж, га? Што мы вам такога зрабілі — у надзел ваш залезлі, перааралі? А мо ўкасіліся, ужаліся?! Ай да дзетачкі... Нелюдзі вы... Сынок родны — і гэтак... на маці! — Пятрок ужо крычаў, каб перакрычаць тэлевізар.— Прычакаеш і ты, калі галавы не скруціш, не ўшчэміш дзе!.. Прычакаеш і ты такога ад сваіх дзяцей!.. А я нічога больш і не хацеў бы — абы каб на цябе тады паглядзець!..

Аляксана заплакала — горка, наўзрыд. Лёня ступіў вялікімі крокамі да тэлевізара, вырваў штэпсель з разеткі, і ў хаце на імгненне стала па-мёртваму ціха.

— Не дачакаешся, стары! Табе колькі зараз — семдзесят! Ну во, а хочаш яшчэ дваццаць пражыць!

— Сабірайся, Ляксана! Табе тут няма чаго рабіць,— як пра даўно вырашанае цвёрда сказаў Пятрок.— Сёння ж і паедзеце! А пасядзець, пагаманіць і ў нас можна.— Ён даскочыў да круглага століка, запхнуў бутэльку ў адну кішэню, кансервы — у другую, а сырчык пакруціў у руках і толькі тады ўспомніў пра сумку, падбег да канапы. Зніякавелы, Ясь ступіў крок — на адзін крок бліжэй да Аляксаны.

— Ды як жа ж так... Так вось — як стой? — плакала Аляксана, пахістваючыся на крэсле ў бакі.— З голымі рукамі?!

І тады Ясь зрабіў спаважна яшчэ тры крокі, нясмела паклаў ёй на плечы рукі:

— Нічога не трэба, Аляксандра Піліпаўна. У мяне ўсё ёсць, а чаго няма — купім!

Аляксана першы раз прытулілася тварам да яго грудзей, а потым, як спахапіўшыся, адхіснулася, выцерла далоняй шчокі. Яна пачула моц і далікацтва Ясевай рукі, і ёй хацелася, каб гэтая рука заўсёды была на яе плячы.

— Я зараз... Ага... Пасцель хоць звяжу... І куфар... Куфар — мой!

— Гэта барахло можаш браць! Калі ласка! Усядно анучніку выкіну! — Лёня націснуў на слова гэта, а на большае, маўляў, і не спадзявайся.

Аляксана, а за ёю Пятрок і Ясь пайшлі ў кухню.

Перш тузанула яна з дроту посцілку-занавес, пачала згортваць у яе, складваць пасцель. Чула, як у пакоі Валя папракала Лёню моцным шэптам: «Адгаварыць трэба было яе... А іх выправадзіць... Што я адна буду рабіць — і дома, і з дзецьмі, і на рабоце?» — «Справішся!..» — крыкнуў Лёня. Ясь таксама ўсё гэта чуў, ён неадступна стаяў за спінаю Аляксаны, нібы ахоўваў яе з тылу. А Пятрок, чутно, ужо грукаў нечым у сенцах.

Як толькі Аляксана раз завязала і другі, пазагінаўшы рагі посцілкі, Ясь асцярожна зняў са сцяны, з кручка, яе плюшоўку. Разгарнуў і паслужліва патрымаў, як гардэробшчык у рэстаране. Аляксана не ведала, як пакруціцца перад ім, каб патрапіць рукамі ў рукавы, і збянтэжана ўсміхалася яму, тыцкала кулакі абы-куды. «Нічога, нічога...» — падбадзёрваў яе жаніх. А ў сенцах ужо і грукала, і вішчала — мабыць, Пятрок валачыў да выхада Аляксанін куфар, і гэтак адзываліся нязмазаныя драўляныя колцы.

Ступалі ў сенцы, у прыцемак, і Ясь падтрымліваў Аляксану пад локаць, як гжэчны кавалер, накіроўваў, куды ісці, бо з-за клунка Аляксана не бачыла — куды.

Пятрок хрыпла, з перахопамі дыхання, спяваў:

Доўга ў цапях нас... дзяржалі
Тум туру-тум...турурум...
Чорныя дні... мінавалі...

Пастаяла з клункам, а Ясь памог Пятру выбавіць куфар цераз парог на двор.

— Пастойце, я зараз каня падганю! — Пятрок памаладому скокнуў з ганка.

Аляксана сышла ўніз, Ясь памог ускінуць клунак на куфар і зайшоў з другога боку. Стаялі так і глядзелі адно на аднаго, паўзверх клунка,— усміхаліся.

Выглянуў з сянец Лёня.

— А назад...— выкрыкнуў у спіну Аляксане.— Назад!.. прасіцца будзеш! — не прасіся!

Грукнуў дзвярыма і тромкнуў засаўкаю.

Аляксана падняла на Яся слёзныя вочы: у іх была і жальба, і просьба выбачыць — за такога сына.

## Раздзел чацвёрты

Зусім блізка, пад самым самалётам была бялюткая снежная раўніна. Разлягалася яна ў бакі, на колькі сягала вока, расплывалася ўдалечыні сінім туманам, злівалася з небам. Уява была поўная: снег, пульхны снег з невялікімі гурамі, хочацца нават кульнуцца ў гэтую пухкасць, паваляцца ў ёй — як колісь, як у дзяцінстве... І хоць вакол самалёта было светла і празрыста і недзе зверху сліпуча свяціла сонца, гэты ўяўны снег не бліснуў ніводнай іскрынкай, нібы дзень быў пахмурны...

— Наш палёт праходзіць на вышыні дзевяць тысяч пяцьсот метраў...— загаварыў прыемным дзявочым голасам дзесьці зверху дынамік.— За бартом самалёта мінус трыццаць сем градусаў. У Сочы тэмпература паветра плюс дваццаць восем градусаў, тэмпература вады ў моры — плюс дваццаць два...

Размоў пасажыраў з-за роўнага гулу турбін было не чуваць, а гэтае паведамленне, асабліва пра цёплую ваду, выклікала ажыўленне: заварушыліся ў крэслах, заўсміхаліся, заўздыхалі. Пасыпаліся каментарыі.

«Ай-я-яй...— уздыхнуў і Рыгор.— Трыццаць сем мінус, у самае лета! Кульніся ў такі «снег» — у ледзяшаператворышся».

Ляцелі над воблакамі нядоўга, з паўгадзіны, і пачалі зніжацца — калола ў вушах. Паўз ілюмінатары мільтухалася густое клочча белага туману, у салоне пацямнела, самалёт задрыжаў. Потым зноў пасвятлела і паспакайнела, скрозь сінюю смугу праступіла зямля: жоўтыя і жаўтлявыя шматвугольнікі і чатырохвугольнікі, зялёныя палосы, блакітныя звілістыя ніткі рэк, плямкі вадаёмаў. Потым жоўтае і бурае пабіла блакітнымі плямамі азерцаў. «Ліманы...» — заўважыў пасажыр, што сядзеў першы ад акна і ўвесь час чытаў кнігу. Хутка блакіту ўнізе стала многа, ён разліўся вялікім, наколькі хапала вока, паўкругам і быў нібы жывы, пабліскваў іскрамі. «Азоўскае мора...» — зноў коратка глянуў у акно сусед, зноў уткнуўся ў кніжку. А мора пачало адплываць управа, раставаць у смузе.

«Нецікава яму... Мо сто разоў лётаў ужо... Відаць, начальнічак...» — Рыгор прыўстаў, пакруціў галавою, азіраючы салон. Чыталі многія, а многія і драмалі: мужчыны, жанчыны, старыя, дзеці, многа моладзі...

Роўны, аднастайны гул, і ніхто не трывожыцца. «От, скажы ты... Ні страсяне, ні скалыхне — не тое што аўтобус... Дабрыня! Што дабрыня, то дабрыня...»

Ён зноў выцягнуў шыю да ілюмінатара. Зямля ўнізе была нібы знарок прыгожа размалявана. «Карта... Вельмі падобна на план-карту, як у Аленкі ў кніжцы... І на гэтых квадраціках і плямах жывуць людзі... Мітусяцца, як мурашкі, нешта робяць... Хто добрае, а хто...»

У белавата-блакітнай перагародцы салона адсунуліся дзверы. Паказалася бортправадніца ў сіняй форменцы, з падносам у руках. Пластмасавыя кубачкі з мінеральнай вадою і «крушонам», з цукеркамі-смактушкамі. За першым разам да Рыгора не дайшла, параздавала ўсё па дарозе: Рыгорава месца было ў хвасце. Дачакаўся за другім разам: выпіў «мінералкі», узяў у рот цукерку. Адкінуўся на спінку, заплюшчыў вочы...

Вось так... Ляціць на курорт. У Сочы, у санаторый «Беларусь». Сам толькі білеты купіў, за свае грошы. На аўтобусы што — ерунда... А от на самалёт то папасядзеў бы на вакзале. Хітрая даведачка памагла, Дзеньдобры напісаў... «Сухавей — інвалід працы...» Я — інвалід! Гэта ж дадумацца да такога... Сорак гадоў — і інвалід».

А пуцёўка атрымалася бясплатная. Што калгас заплаціў, што прафсаюз. І немаленькія грошы — сто восемдзесят рублёў. І Дзеньдобры, і мясцкомаўскі старшыня Будай, як змовіліся, уталкоўвалі яму амаль аднолькава: «Ну — ты ж глядзі там... На поўную катушку... гэта самае... Лячыся, адпачывай». З усімі паперкамі «правярнулі» справу мо за гадзіну: пуцёўка «гарэла», выязджаць трэба было ў той жа дзень, у які і прыйшла яна, нанач. Бо раніцаю трэба было ўжо садзіцца на самалёт у Мінску. Ледзь паспеў збегаць у магазін, купіць пару новых трусоў і маек, купіць чамадан — малых не было, купіў вялікі. Але добра, што не ехаў са старым, аблезлым.

Забег і да бацькі, хацеў пагаварыць напрамую, без намёкаў: не дурней, не жаніся. Можаш і асобна, у сваёй хаце жыць, але не дурней... «Жыві, памагаць будзем... Але не прыводзь чужога чалавека». І не застаў: Настаса сказала — запрог каня ў брычку, з'ехаў... Куды? Ды пэўна ж у Буславічы...

Прымчаў дадому, наскора пакідаў у чамадан рубашкі, мыла, ручнік, брытву — пагаліцца не было калі, паедзе з барадой. Павагаўся: класці святочны касцюм і выхадныя туфлі ці не?

Уткнула нос цешча: «Во, Маня, бачыш? Во, глядзі... На танцы там будзе бегаць, кавалера з сябе строіць». Маня ўжо некалькі дзён маўчала (новая тактыка), была як пад токам высокага напружання і нібы чакала — калі кране яе Рыгор. Тады б узвілася і — як разрад маланкі! А пасля матчыных слоў не ўтрывала: «А чаму ж не прынарадзіцца?.. Там жа наз'язджаецца... гуляшчых...» Яна пляснула яшчэ і не такое слова, не пасаромелася, што ў хаце меншыя дзеці. «Ага!— жыгнула і Марфа.— Тут адна Волька... прасці гаспадзі... і то свет дубала стаўляе. А там жа...» Рыгор якраз ішоў міма — цоп жменяю, зацісную цешчы рот. І яшчэ ціскануў за пашчэнкі, адчуваючы пад пальцамі вяласць старэчых шчок, правалы не месцы зубоў, тарганую управа-ўлева. Замычала, расставіўшы рукі і нібы хапаючыся за паветра. Штурхнуў ад сябе, і старая дробна затупала, адбягаючыся задам. Вочы ўжо былі вялікія і белыя, у іх адбіваўся нялюдскі жах. Выставіла перад сабою рукі — і з хаты. Толькі дзесьці на вуліцы залямантавала нема: «Людцы!.. Ра-ату-уйце!.. Ой, смертухна!..»

Пакідаў у чамадан усё, што нават і не хацеў спачатку браць і што трапіла пад руку. «Душагу-уб!» — крычала і Маня, лезучы ад яго на печ, быццам была там бог ведае якая схованьь. Сыпанула адтуль праклёнамі, пачала прыказваць, ламаць рукі...

Падняў Таньку, расцалаваў у шчокі. Хацеў гэтак і большых, Алену і Ваню, але Ваня адвярнуўся, і ён чмокнуў яго недзе каля вуха, Аленка ж угнулася — пацалаваў у лоб. А Мані нічога не сказаў, пайшоў за дзверы. Дзесьці яшчэ Саша быў на рабоце, згрэбаў коннымі граблямі сена, падзарабляў на канікулах. Пра Сашу забыў начыста...

«Прападзі яно пропадам... такое жыццё...» — бег, задыхаючыся, напрасткі, цераз аселіцу, каб хутчэй дапасці да гравейкі, перасцігнуць слуцкі аўтобус. «ПАЗ» ужо каціўся з горкі — бясшумна, выключыўшы матор. І добра, што шафёр заўважыў яго, а мо пасажыры закрычалі, убачыўшы,— прытармазіў. Сеў на першае сядзенне справа, што каля матора. І пачуў, што

ўвагрэўся добра — спіна мокрая. Упершыню яму было цёпла за апошнія два месяцы, хоць быў у адным касцюме.

... — Пристегнуть ремни! — гучна аб'явіў дынамік над галавою.

Рыгор спахапіўся: праўда, мусіць, заходзяць на пасадку, гул турбін змяніўся, стаў больш нізкім. «Як тут разабрацца з рамянямі...» На ўзлёце, калі была пададзена такая ж каманда, ён змахляваў: прыгледзеў, што сусед не зашпільваў, а толькі паклаў іх на калені,— зрабіў гэтак і ён. Цяпер жа сусед зашпіліўся старанна, нават Рыгору памог: «Во гэтае... І сюды во працыкайце».

Зірнуў у акенца... Ого, дык жа самалёт зноў над морам. Добра пазнаць можна белыя грэбні хваль, і нідзе да самага гарызонта ні лапінкі зямлі.

— Адлер... Падлятаем...— пракаменціраваў сусед і пачаў засоўваць кнігу ў партфель каля ног.

Рыгор глядзеў у акно насцярожана, але без страху. «Ды што яны... Ды што гэта? У мора ото-то плюхнемся... Дзе ж зямля?» — І недзе варухнулася другая думка: «І тут не шанцуе! У ваду... А чаму б не рэзнуцца ў зямлю? І было б усё па ўсім... Выкрутка з нявыкрутнага становішча...»

Самалёт зрабіў невялікі крэн на левае крыло, выпрастаўся... І Рыгор убачыў, як вынырнуў справа бераг, замільгалі невысокія салатавыя, ружовыя і жоўтыя домікі.

## 2

«...А на канверце я свайго адраса не буду пісаць. Напішу ў канцы пісьма. Каб не вельмі кумушкі абгаворвалі. Мо не дойдуць да таго, каб распячатваць канверт, дазнавацца — ад каго. А калі твой бацька і разарве, то нічога, бацька твой чалавек што трэба.

Прашу адразу ў цябе прашчэння, што не заходзіў і не змог заскочыць у апошні дзень. Зразумей — мне было не да гэтага.

Заляцеў я добра. Ад Мінска ўсяго дзве гадзіны — і я за Каўказам. Сёння пахадзіў трохі па цэнтры Сочы. У самім Сочы самалёт не садзіўся, а ў Адлеры. У Сочы няма дзе — плішчыцца горад паўз мора, лепіцца да гор. А сам «вялікі Сочы» цягнецца паўз мора на сто сорак кіламетраў. Адлер тожа ўваходзіць у Сочы.

З Адлера да санаторыя «Беларусь» ехаў на таксі яшчэ з двума мужчынамі і адною бабай. Шафёр ведае тут усё назубок, прывёз да самага прыёмнага аддзялення. Але ж і дарога ад Адлера! Адны звіліны, вілялі ўправа-ўлева, а ўперад амаль не прасоўваліся. Шаша лепіцца па схілах гор, па берагах цяснін. Горы тут зарослыя лесам, самі дрэвы таксама аплецены гірляндамі нейкіх раслін.

Пасялілі мяне ў прыморскім корпусе. Сказалі — адпачывайце, а ў панядзелак на прыём (ні сёння, у суботу, ні ў нядзелю ўрача не будзе). От табе і на...

Пішу гэта пісьмо ноччу, позна. Не спіцца. Сяджу ў адных плаўках, з акна — ніякай прахалоды, духата і мапарнасць. Свіргочуць нейкія цвыркуны. Але гэта, мабыць, не цвыркуны. Нашы цвыркуны жывуць у хатах, цвырк-цвырк, а гэтыя на дрэвах і верашчаць, аж глушаць. Скрозь іхняе «цір-р-р-р-р-р-р-р-р» чувацъ шум мора.

Майго напарніка, ён нейкі прараб ці начальнік будаўнічага ўпраўлення, няма. Пайшоў спаць на бераг мора. Там ёсць такія дашчаныя павільёны, дзе кладуць спаць. Сон ля мора — таксама лячэбная працэдура, урачы прадпісваюць. Дык от сяджу адзін і сумую. Адзін дзень прайшоў, а ўжо стала сумна. Тут усе ходзяць парамі, і маладзейшыя, і старэйшыя. Многія прыехалі з жонкамі, але ўладкавалі іх у горадзе, на кватэрах, а ў санаторый ходзяць толькі есці і на пляж. Той прараб з Пінска гаварыў, што гэта не абавязкова жонкі, могуць быць сяброўкі ці каханкі. Знарок з'язджаюцца за тысячы кіламетраў, едуць на край свету, абы каб пабыць разам. Эх, Волечка, Волечка, от прыехала б ты сюды да мяне, я табе і кватэру падшукаў бы... Во пажылі б, а? І чаму мы такія няшчасныя, што не можам быць разам? Я тут адчуў, як засумаваў па табе за гэтыя два месяцы...

Сёння я ўжо купаўся. Перад вячэрай. Хацеў і ўдзень, перад абедам, прыйшоў на пляж — усе ў плаўках, у купальніках, толькі я ў «сямейных» трусах. Павярнуўся і палез у горад, шукаць плаўкі.

А мора я не магу апісаць. Гэта столькі вады — да гарызонта, і яшчэ сотні кіламетраў, кажуць, што да самай Турцыі. Сіняя вада і цёплая, цёплая. А мне яна здалася яшчэ прахладнаю. А салёная — як капусны расол ці агурочны.

Прайшоў адзін дзень, я раз пакупаўся. А мне ўжо здаецца, што я адпачыў, што зусім здаровы — хоць заварочвайся ды едзь назад.

Ага — тут увесь бераг усыпаны шэрымі камянямі. Такімі абточанымі, абшліфаванымі, пляскатымі, круглымі, доўгімі — усякімі. Такія харошыя, што ў нас не знойдзеш: вельмі добра прыкладваць такімі капусту ці гуркі.

Я ўсё пра сябе і пра сябе. Напішы мне хоць колькі слоў — як ты там... Мне як сказалі, што Маня гэтак з табою зрабіла, як каровы даілі, месца сабе не знаходзіў. Здаецца б, забіў яе. Я ведаю, што табе вельмі нялёгка і нясоладка. Але пацярпі яшчэ трошкі. Я толькі цяпер, як ад'ехаў за такую далеч, зразумеў, што мы не ўсё рабілі так, як трэба. А трэба было рашыцца на штосьці больш пэўнае і не хавацца ад людзей.

От выгаварыўся трохі — і лягчэй стала. Малю цябе — напішы і ты. Толькі не кідай у скрынку ў Дуброве. Пад'едзь на веласіпедзе ў Паддубцы ці Баравуху. А мо ў Слуцак паедзеш, то ўкінь там...

А ведаеш, колькі да мора ступенек, як спускаешся па лесвіцы ад нашага корпуса? Дзвесце трынаццаць... Уніз нічога, а ўгору — ого-го. Мне здаецца, што гэтую лесвіцу знарок пабудавалі, каб выпрабоўваць: ну як — моцны ўжо ў каленках?..»

**3** Рыгор заклеіў канверт і яшчэ доўга сядзеў нерухома, таропячы вочы ў столь. Паціраў, пагладжваў, чухаў бараду — мабыць, нядобра спаласнуў пад душам, соль шчыпле. Не пагаліў яе, а пачаў гадаваць. Сочынскі цырульнік узяў яго за скіўцу, паварочаў твар управа-ўлева. «Вам ана ідэт»,— сказаў і падправіў сям-там, падстрыг, правёў брытваю — «Руп!».

«А мо і Сашу напісаць? Не Мані — Сашу... Хай заўтра...»

А Вольцы адразу напісалася, захацелася пагаварыць з ёю. Пісьмова лягчэй гаварыць, выліваць душу. Толькі ёй напісаў... Яна магла яго зразумець. Яна яго, хоць і маўчаў, разумела — у тыя рэдкія іх сустрэчы...

Дзесьці з верхняга паверха далятаў выбухі смеху, мужчынскія і жаночыя галасы спрабавалі спяваць кампаніяй, а адзін жаночы, уперарэз ім, віскліва выспеўваў: «А я люблю-ю жана-атага-а-а-а!..»

Перабіраў у думках тое, што заклеілася ў пісьме, і тое, што не напісалася... І ці напішацца?

Паказала яму дыэтсястра, дзе сесці. І ўжо ў абед выявіў, што па дыяганалі за яго сталом сядзіць «штучная брунетка» з пунсовымі шчокамі і яшчэ больш яркімі губамі: адчуў на сабе яе клейкі позірк. Падняў галаву — сустрэліся вачыма. Усміхнулася крыху яна, зноў пачала глядзець у талерку. І раптам сказала: «А навічок не хоча знаёміцца з намі...» На гэта яшчэ адзін мужчына, стары, памаўчаўшы, сказаў: «Пазнаёміцца...» Чацвёртае месца, побач з Рыгорам, пуставала — мо пазніўся ядок на абед.

Сёрбаючы халаднік, яшчэ колькі разоў украдкаю паглядваў на «брунетку»: культурна, манерна ела яна, талерку злёгку нахіляла ад сябе, набірала толькі жыжачку, падносіла да губ. Уцягвала змесціва нячутна, ледзь дакранаючыся да лыжкі. А Рыгор сёрбаў гучна, наганяючы апетыт яшчэ на тры суседнія сталы. Другую патраву «брунетка» таксама ела з фокусамі. Відэлец і нож зусім не выпускала з рук, усё драбіла, нарэзвала і ні разу не ўкалола відэльцам, а толькі награбвала на яго нажом трошкі мяса, трошкі гарніру. Мезенчыкі ў меру адтапыраныя, лак на пазногцях у тон губам — яркі. А сам Рыгор еў без нажа, трымаў відэлец у правай руцэ, замахваўся ім то як шуфлем, то як віламі, падмагаў кавалкам хлеба — справіўся з'есці ўсё першы, хоць прыйшоў пазней за сваіх застольнікаў.

«Брунетка» цмокнула раз ці два кампоту, выйшла раней, а ён падаставаў увесь ізюм, усе яблычныя крышэнікі, костачкі з чарнасліву. Яна чакала яго, папраўляючы шыньён каля люстры-трумо ў вестыбюлі. Павярнулася да яго, зняла з вешалкі сваю яркую плёнчатую торбу: «Вы — геолаг?» Сам не ведае чаму, Рыгор зрабіў здзіўлены выгляд: «А вы па чым пазналі?» — «О, у мяне натрэніраванае вока... Я так вам зайздрошчу! У вас такая рамантычная прафесія: увесь час у падарожжах, жывяце ў гарах, у тайзе, у палатках... Без людзей... Сам-насам з прыродаю чалавек робіцца непасрэдны, прамы ў пачуццях і паводзінах. Ах, рамантыка!..» — «Не ведаю я такога слова... з чым яго ядуць... Я адно ведаю — работу. Да сёмага поту, да кругоў у вачах, да хрусту ў касцях».— «О, геолагі, мабыць, многа зарабляюць... Адны жывуць, без сем'яў, расхо-

даў у лесе ніякіх... Ды яшчэ камандзіровачныя ці... як іх... палявыя? А адкрыеце што — прэміі сыплюцца!» — «Ну, як пачнуцца палявыя работы, то нічога зарабляем. А зімою — не вельмі...» — «Ну — зімою можна адпачываць, піць, гуляць... А чаму ж вы летам — і тут?» — «Бывае і на старуху праруха... Прыхварэў, прастудзіўся ў навальніцу...»

Яны ішлі ўжо міма пальмаў па цэнтральнай алеі да прыморскага корпуса — паволі, нага за нагу, і «брунетка» яшчэ раз задумліва паўтарыла: «А зімою — гуляй, адпачывай... Як вас завуць, можа, пара пазнаёміцца? У вас дзіўны акцэнт — вы беларус?» — «Беларус...— Рыгор спыніўся, знарок здзіўлена расплюшчыў вочы.— І гэ-эта ўгадалі... Вы што — у цырку працуеце? Мо ў якога Кіо памочнікам?» — «Ха-ха, хіба я падобна на цыркачку?» — «Не-а... Але ўсё з нейкімі фокусамі».— «Вабшчэ я па культурнай часці... Дык што, чорны беларус, будзем знаёмы? Тамара!» — працягнула яму руку ў пярсцёнках. «Ры... Мікола...» — «О, як добра гучыць — Мікола! Я і буду вас Міколам зваць».— «Хоць гаршком, абы не ў печ...» — «Ой, з вамі не засумуеш... Вы такі дзіўны, непасрэдны... неабчэсаны... Нічога, што я так сказала? Не крыўдуеце?» — «А чаго? Мы людзі простыя...» — «Я вазьму над вамі шэфства, лады? Вас трэба падшліфаваць».— «Шліфуйце...» — «З алмаза, калі грані кладуць, шліфуюць,— брыльянт атрымліваецца...»

Дамовіліся сустрэцца на пляжы ў шэсць гадзін, перад вячэрай.

«А вечарам вы прыйдзеце на танцы?»

«А што — тут і танцы бываюць?»

«Ой, якія вы, геолагі, адарваныя ад нармальнага жыцця... А як жа,— у восем гадзін, каля фантана».

«А дзе той фантан — штосьці я не бачыў...»

«Як толькі спускаемся ад галоўнага корпуса, у пачатку пальмавай алеі. Не працуе ўдзень фантан... Арэвуар!» — памахала далоняй каля вачэй.

«Рэзервуар!» — падняў і ён руку.

«О-ой, які ты пацешны, Мікола...» — яна захоплена засмяялася, звярнула з галоўнай алеі на кіпарысавую. З-за дрэў у канцы ледзь выглядаў жоўты двухпавярховы дом.

«От так... А я дзівуюся, што ўсе па парах. Тут, каб і не хацеў, то спарыкуешся. Вырвалася мадамачка на

прастор... Хоча даць раскрутку, але яшчэ не выбрала — з кім...»

Узяў унізе ў дзяжурнай ключ з булавешкай — «113».

«Хо-хо... Думае, у мяне грошай — куры не клююць...»

Зайшоў у пакой і адразу палез пад душ.

Пастаяў перад люстэркам, разглядваючы бараду.

«А чо? Інцярэсны мужчына...»

Прылёг на ложак, не разбіраючы пасцелі, пацягнуўся рукою да кацёлачкі радыё...

— ...пры-ня-лі зруч-ну-ю по-зу? Пры-мі-це зручну-ю по-зу... Не на-пруж-вай-це-ся... Зні-мі-це на-пружан-не з ле-вай рукі... Рас-слаб-це ле-ву-ю ру-ку... Расслаб-це... Ле-ва-я ру-ка ў вас рас-слаб-ле-на-а-ая... Пальцы рас-слаб-лены-яя... Рас-слаб-це пра-ву-ю ру-ку... Расслаб-це... Ваша пра-ва-я ру-ка рас-сла-бі-ла-ся-я... Пальцы ва-шых рук цяп-ле-юць... Цяплеюць... Цяп-ле-юць кіс-ці... Пацяп-ле-лі ру-кі да лок-ця-я...

«Чартовіна нейкая... Тут і радзіва нармальнага няма. Вясёленькая праграма!»

Манатонны, замаруджана-занудлівы голас з нейкім пазвоньваннем-бульканнем цымбалаў усё паўтараў і паўтараў сказы, угаворваў расслабіць рукі, ногі, жывот, плечы, мышцы твару, разгладзіць маршчыны на лбе, адкаснуцца ад цяжкіх турботлівых думак...

«Вам зручна... Вам цёпла... Вам у-туль-на-а... Вы ні пра што не думаеце... Вас ні-што не тры-во-жыць... Сэрца б'ецца спакойна і роўна... Вы спа-кой-на за-сы-наеце... Вы за-сы-на-е-це... Вы спі-це...»

Рыгор заснуў...

Пад вечар выйшаў на пляж. І мужчынскі злева, і жаночы справа, і сямейны яшчэ далей управа былі запоўнены целамі, а ў моры як не кішэла. Выкрыкі, віск...

У ваду на які дзесятак метраў заходзіў бетонны хвалярэз. Над ім на шырокіх бетонных апорах узвышаецца паднавесік, на рашотчатай падлозе двума радамі стаялі параблёныя з рэек-брускоў высокенькія лежакі. Такія ж, толькі без ножак рэйчатыя лежакі былі скрозь параскіданы па камянях, на іх сядзелі, ляжалі, чыталі, гулялі ў карты, раздзяваліся, адзяваліся, выціраліся, стаялі, расставіўшы рукі, загаралі... На бетонны хвалярэз увесь час карабкаліся маладыя за-

гарэлыя хлопцы, тоўпіліся на дальнім краечку і адзін за адным — боўць! боўць! — ныралі ў мора.

Рыгор прыгледзеўся — з хлопцамі скакаў уніз галавою і пінскі прараб.

Раздзеўся на хваляРэзе, пастаяў спінаю да сонца, пагрэўся. А потым разагнаўся і... таксама нырнуў з хваляРэза... Паплыў морысцей уздоўж жаночага пляжа, новаспечаная знаёмая зусім выпала з галавы. Але яна сама выгледзела яго, падплыла.

«Я любавалася вамі, як вы стаялі на ўзвышэнні... У вас будзе цудоўны загар... пад канец... Але папраўляцца вам трэба... І есці пабольш! Заказвайце па дзве порцыі!» — і пачала пырскаць на яго вадою.

Пырскаў і ён, а потым нырнуў пад яе ў ваду, расплюшчыў вочы. Было лепш відаць, чым у прэснай вадзе, і чамусьці не вельмі рэзала вочы. У зеленавата-блакітнай вадзе спуджана боўталіся яе бронзавыя ногі. Злавіў за адну, але Тамара вырвалася, бязладна задрыгала нагамі, спрабуючы ўцячы ад яго. Вынырнуў, і абое доўга аддыхваліся, смяяліся. Яны трымалі за локці адно аднаго, і Тамара злёгку падскоквала на пальчыках — вада займала ёй па рот.

Рыгор адчуў, як у ім абуджаецца прага жыцця...

Мо перакупаўся, а мо давала знаць былая немач — яго доўга трэсла холадам, і ён баяўся, каб зноў не адкінулася запаленне.

Вечарам на танцах яна запрасіла яго на «белы вальс». Спачатку не пазнаў яе — у доўгай, да зямлі, цёмнай сукні, якая рабіла яе больш стройнай і высокай. На грудзях залаты кулон, нейкая дарагая заколка блішчала і ў высокім шыньёне. Пайшоў танцаваць, хоць сто гадоў не танцаваў. Ды і як было не танцаваць, калі адзін сівы дзед хвацка вытанцоўваў і пакручваў сваю партнёршу, смешна, па-старасвецку тупаючы і прытупваючы. Рыгор больш паводжваў, чым кружыў Тамару, бо адразу замарочвалася галава.

«Вы на сірыйца падобны... ці на персіяніна... Вам белую чалму на галаву — неатразімы проста былі б...» — «А без чалмы?» — «І без чалмы... Вочы ў вас чорныя, як віры... Прыцягваюць... Баюся ўтапіцца, аж галава кружыцца ад страху...» — «У мяне таксама кружыцца... Давайце адпачнем, я слабы яшчэ...» — «Бачу, што вы не любіце танцаў...»

Яны павольі хадзілі па санаторскіх алеях і лесвіцах.

Потым спусціліся паслухаць начное мора. Тамара ўвесь час трымалася за яго левы локаць. А селі на лавачку каля паднавеса, на набярэжнай,— схіліла галаву яму на плячо.

«Я таксама стамілася за дзень... А тут так добра, утульна... Нікуды не хочацца ісці...»

«А мой напарнік па пакоі і спіць на беразе, у павільёне...»

«То вы адзін у пакоі?»

«Адзін».

«Зайздрошчу... А ў нас корпус стары, даваенны... Тры-чатыры чалавекі ў пакоі... На яго месцы будуць трынаццаціпавярховы ставіць».

«Пераходзьце да мяне...» — пажартаваў Рыгор.

Тамара адхіснулася, але, мабыць, толькі для таго, каб зазірнуць яму ў твар. І памахала пальчыкам, грозячы, бліснулі ў прыцемку зубы:

«А яшчэ кажаце, што хворы...»

Зноў прытуліла да яго пляча галаву, і Рыгор насмеліўся, абняў яе за плечы.

«Як цыкады спяваюць... пераклікаюцца... Самка на адным дрэве сядзіць, а ён — на другім. Потым спаўзаюцца...»

«Гэта што — птушкі такія?»

«Ой, Мікола, які вы забаўны...»

«У нас толькі цвыркуны».

«Давайце на «ты», а?»

«Давайце!»

«Мне здаецца, я вас ужо цэлы год ведаю... Маўчун... Характар у вас моцны, валявы...»

«Не ведаю, які ў мяне характар... На нашай рабоце размазня не затрымаецца. Дый увесь час аднаму прыходзіцца — з кім пагаворыш?»

«Тыя, што адны... дзівакамі робяцца... Яны або гавораць самі з сабою, або спяваюць. Вы і ёсць дзівак. А спяваць любіце?»

Дывлюсь я на нэбо тай думку гадаю:
«Чому я нэ сокіл? Чому нэ літаю?»

Голас у яе быў прыгожы, не вісклівы.

«Добра, што ты не сокал... не сакаліца...» — пасміхнуўся Рыгор, і яна ўлавіла іронію ў яго словах.

«А што?»

«Драпежная птушка — сокал...»

Тамара павалі адняла галаву ад яго пляча. Пасядзела...

Дзесьці там, унізе, у цемры, у начным моры купалася парачка. Плюхаліся і рахталі, як дзеці, потым прыціхлі. Тамара ўстала.

«Пойдзем... Ужо і танцы, мабыць, закончыліся...»

Яны пачалі падымацца па лесвіцы — дзвесце трынаццаць прыступак угору. Тамара ўжо не трымалася за яго локаць, проста цокала абцасамі побач, аберуч падтрымліваючы сукню.

«Чорт яе ведае... Мо пакрыўдзілася? Папрасіць прабачэння? А што я такога вельмі сказаў?»

Не ў натуры Рыгора было прасіць прабачэння. За ўсякую драбязу.

«О, там яшчэ вытанцоўваюць...» — сказаў, калі падняліся. Ён зусім засопся.

«Не пойдзем больш на танцы. Правядзіце мяне да корпуса, штосьці галава разбалелася... Цёмна тут, у зарасніках...»

Рыгор узяў яе пад руку, і яна не вырывала сваю.

Ля ганка падала далонь. А сказала з халадком і самотай:

«Заўтра пасля абеду падарожжа на гару Ахун. Вы не запісваліся?»

«Калі тое было... Я ж толькі што прыехаў».

«Ой, я й забыла... А вы б хацелі? Кажуць, так цікава — з вежы Галоўны Каўказскі хрыбет бачыш... І там такія шашлыкі смажаць!»

«Ну-у-у?!» — шашлыкі Рыгора зацікавілі. Дый трэба было неяк прыгладзіць тую грубасць з «сакаліцай». «Мо падумала, што яе драпежніцай лічу?»

«У мяне ёсць лішні білет... Сяброўка мая прыхварэла... Абпалілася на сонцы, ляжыць — стогне...»

«Паедзем!.. А сяброўку адзікалонам змыйце».

«Ой, дык гэта ж, мабыць, шчыміць? А духамі можна?»

«Можна і духамі...— усміхнуўся Рыгор.— На ўвесь санаторый «благаўхаць» будзе».

## 4

«...Ну й жывуць жа тутака... Ты не паверыш, Волька: лаўровымі кустамі абсаджаны двор галоўнага корпуса (дзе сталовая). Я спачатку думаў, што гэта са сталоўкі такі пах. Потым машынальна шчыпнуў

лісток, паднёс да носа — ёлкі зялёныя! Лаўровы ліст! Той самы, што мы купляем, у суп кідаем, у каўбасы тром, таўчэм. Плот-сцяна з падстрыжаных лаўровых кустоў, і ніхто не рве лісця, не пхае ў сумкі.

І ў горадзе шмат дзе бачыў такія кусты, і ў дэндрарыі. Гэта такі батанічны сад. У ім усё тое расце, паўднёвае, чаго ў нас і заваду няма: абрыкосы, персікі, апельсіны, лімоны, вінаград, нават бананы. Лісце ў бананаў велізарнае, па два метры, расце з аднаго пучка. А ёсць яшчэ магноліі, кіпарысы, усякія пальмы. У нас пальму сустрэнеш толькі ў вазоне дзе ў рэстаране, а тут — дрэвы, вялізныя дрэвы з тоўстым ствалом. А сосны тут такія —ні адна на нашу не падобная. Іголкі — на пядзю, шышкі — тоўстыя, па кулаку, луска грубая. Думаеш — вярба, ажно не, на ёй кветкі, як на ружы. Думаеш клён, а на ім шышкі-шарыкі, як на каштане. Калі знайду якую дулю на вярбе,— прывязу. Бачыў у дэндрарыі дуба, у якога лісце калючае, бы ў асота, бачыў бамбук (лісце, як вярбовае). За горадам, як ехалі глядзець гару Ахун, растуць паўз дарогу эўкаліпты. Нейкія голыя, без кары, лісце іх у аптэках прадаецца, напар-паласканне з іх робяць.

Эх, кінула б ты ўсё, прыехала сюды на гэты месяц — наглядзелася б усяго ўсякага. Я ўжо і кватэру напытваў, недалёка ад санаторыя. Катушок у дашчаніку, як ложак усунуць,— «Руп!». А калі што лепшае — паўтара рубля за суткі. Але чорт з імі, з гэтымі грашыма. Раз у жыцці можна і за такое плаціць.

А на базары прадаюць на цурках вяленых стаўрыдак. Восем штучак на адным пруціку — «Руп!». З півам яны добра, купіў тры нізачкі ды ўсё думаю — мо больш набраць? Тут многія курортнікі ходзяць самі лавіць на прыстань. Лескі ў вудах такія — па дзесяць кручкоў адразу. Бачыў у галоўным корпусе — сушаць на нітках у акне рыбу...»

5 Вежа на гары Ахун чатырохкантовая, на некалькі ярусаў, кожны наступны вузейшы за ніжні. Навакол вежы заломваецца каменная лесвіца. Як узабраліся на гару на аўтобусе, а потым шумным натоўпам ішлі да вежы, яна расла ў вачах, насоўвалася, а знекуль, Рыгор не адразу разабраўся адкуль, цягнула дымам і пахам смажаніны.

Пакуль чакалі, каб вызвалілася і на іх долю экскурсаводка, міма ўсё ішлі раскіданымі групамі тыя, што злазілі з вежы. Многія адразу заварочвалі пад вежу, у харчэўню, гэта адтуль валіў дым, патыхала шашлыкамі. Рыгор і Тамара стаялі ў натоўпе, не знаходзілі, пра што гаварыць. Як раптам: «О, царыца Тамар!» — выгукнуў мужчына з чужое групы. Да іх падваліла шумная кампанія — дзве жанчыны і двое мужчын. Мужчыны не рускія, недзе з Сярэдняй Азіі, як вызначыў Рыгор: і чарнявыя, і ў цюбецейках, і гавораць з акцэнтам, а часам і няправільна. Абдымаліся ўсе з ёю шумна, па-сяброўску. «Во, гэта геолаг Мікола, з Беларусі...» — пазнаёміла яна, і ўсе паціснулі яму руку, назвалі сябе (Рыгор тут жа забыў іх імёны, толькі ў аднаго было штосьці падобнае на «буль-буль-буль Оглы»).

Усю дарогу на Ахун Тамара паводзіла сябе сціпла, сядзела смірна і толькі падтрымлівала размову. А цяпер, пасля сустрэчы з гэтай шумнай кампаніяй, зразу ажывілася, зачырванеліся шчокі, заблішчалі вочы. «Не лезьце ўгору, на гэта башня!», «Умны на гору не пайдзёт, умны гору абайдзёт!», «З намі, Тамар, ■ намі! І Мікола-беларус з намі! Харошы чалавек — беларус!» І рукамі паказвалі на харчэўню, і за рукавы тузалі, і загароджвалі ім дарогу на лесвіцу. Але Тамара адгаварылася, паабяцала, што доўга не затрымаюцца. «На вас заказ робім! Вы быстра — на адна нага!»

— Адкуль ты іх ведаеш? — спытаў Рыгор, калі паволі, услед за экскурсаводкай лезлі па прыступках наверх. Мо яна пачула ў яго голасе раўнівыя ноткі, бо сказала, нібы апраўдваючыся:

— На возера Рыцу ездзілі разам, у адной экскурсіі ў тую нядзелю. Яны таксама з нашага санаторыя. А на возеры шашлыкі — во... во такія! — развяла яна на метр рукі, нібы рыбак паказваў улоў. Уздыхнула летуценна: — Ох, і пабясіліся там...

На самым версе, на пляцоўцы агляду патыхаў з гор востры вецер. Убачыў, што Тамара абняла сябе за плечы рукамі, і ўскінуў на яе пінжак, хоць і самога праймала. Яна ўдзячна і цёпла глянула яму ў вочы.

Віды на Сочы, на мора, на горы — Галоўны Каўказскі хрыбет — былі цудоўныя. Мора сіняй вады, мора зеляніны — куп'істае, нібы застыглі неверагодных памераў хвалі. І мора гор, скал — спачатку ў зеляні-

не, потым проста рудаватых, у блакітнай смузе, а на самых вяршчэчках нават «бялкі» — снег. Экскурсаводка паказала на натуры, а потым і на вялікай карціне — як называюцца самыя высокія пікі. Рыгор іх тут жа забыў. Тамара рвалася ўніз, і яны сышлі ледзь не першымі. «Сюды, сюды...» — павяла яна за руку пад вежу, у харчэўню, нібы тут была ўжо не першы раз.

Дым, гам, звон бутэлек і шклянак... Чэргі-натоўпы да прылаўка буфета (віны, піва, пепсі-кола, цукеркі, хлеб), чэргі да велізарнай печы-жароўні з такім жа велізарным бляшаным раструбам-дымаўлоўнікам над ёю. Рыгор зазірнуў паўзверх галоў — шашлыкі на доўгіх шампурах у радочак прымайстраваны над жарам, яны сквірчэлі і дымелі. «Я січас, січас!» — азваўся адзін Тамарын знаёмец, з чаргі, што чакала шашлыкі. «Суды! — паклікаў яго другі, ад буфета.— Мікола, нада чатыры рука!» І Рыгор праціснуўся да яго, памог пабраць заказаныя бутэлькі і цукеркі, многа бутэлек! «Сюды, сюды!» — замахала яму і Тамара — з кутка, знайшла сваіх сяброўак. «Суда, Мікола-беларус!» — паклікаў і той, што чакаў шашлыкоў, і Рыгору было хоць парвіся. Але занёс на стол, паспяшаўся да печы, і яму ўручыў Тамарын знаёмец дзве глыбокія талеркі сашморгнутых, падгарэлых кавалачкаў мяса і скрылёчкаў цыбулі. А следам і сам прынёс — яшчэ дзве поўныя талеркі. Загрувасцілі бутэлькамі і ядой увесь стол...

Спачатку выпілі — за знаёмства. Другі тост — за дружбу. Трэці — за жанчын, чацвёрты — Тамару і Міколу разам, з празрыстым намёкам. Чацвёрты, пяты і шосты — за Веру асобна, за Надзею — асобна... «Тамара, хоць ты не Любоў — за цябе асобна вып'ем!» — «Будзе любоў!» — «Должна быць!» Сёмы раз пілі на брудэршафт. «Не так... Во так сашчэпваць рукі трэба!» — павучала Рыгора Тамара. Пілі кожны са сваёю дамаю, Рыгор з Тамараю, потым Рыгор пад рогат і віск цалаваў яе.

Увесь час ён парываўся да буфета, каб захапіць яшчэ бутэлек. Ён жа не нахлебнік, не жабрак, каб піць толькі на чужы кошт... А яго не пускалі, дружна крычучы і пратэстуючы. «Ну, калі так хочаш, то адну ці дзве!» — урэшце згадзіліся. Вырваўся, прарваўся да прылаўка без чаргі — «Вунь нашы сядзяць ужо, дабавачка трэба!». Узяў яшчэ тры бутэлькі, сунуў дзесятку.

Патрабаваў рэшту з чырвонца, хоць нідзе не бачыў этыкеткі з цаною. Але на яго наваліліся тыя, што ў чарзе, і сам буфетчык: «Без чаргі лезе ды яшчэ здачы патрабуе!» Пайшоў, сканфужаны, назад да століка.

І яшчэ былі тосты... Рыгор ужо кепска цяміў — за каго і за што. Здаецца, зноў пілі на брудэршафт, але ўжо кожны з іншаю жанчынаю, потым зноў — ён і Тамара. А як селі на месца, то ўбачылі, што «буль-буль-буль Оглы» і ўся кампанія зніклі, пакінулі іх адных у гэтым шуме і гаме.

«Трэба і нам...» — «Трэба, Колечка, трэба...»

Тамара забрала са стала ў сумку непачатую бутэльку, загарнула ў абрывак газеты з дзесятак кавалачкаў мяса і цукерак — усё разам. «Пайшоў наш аўтобус...» — «Нічога, Мікола, мы гарадскім...»

Нібыта шукалі прыпынак гарадскога аўтобуса, нават выкрыквалі дурашліва — «Аўтобусік, ау-у-у!». А самі блукалі не так па дарозе, як па нейкіх кустах, у нейкіх цяністых ярах. І бязбожна цалаваліся, Рыгор прыціскаў яе да сябе, і Тамара стагнала і задыхалася ад жалезных абдымкаў.

Потым усё-такі знайшлі нейкі аўтобус, прыехалі ім у горад, потым спрабавалі залезці яшчэ ў адзін, набіты па самыя люкі ў столі, і доўга, да знямогі ішлі пешкі.

Тамара давяла яго да прыморскага корпуса. Яшчэ каля дзвярэй зарагатала, як дурніца, пачала разыгрываць з сябе рагатушку-выратавальніцу небаракі мужчыны, слабака. «Ой, як цябе развязло... У душ, у халодны душ...» І дзяжурная спачувальна ўсміхалася ім, мабыць, бачыць такое ёй была не першыня, не пярэчыла, каб Тамара ўзяла ключ, завяла ў пакой.

Завяла і памагла нават раздзецца, упіхнула ў плаўках у душавую. А сама тым часам выгрузіла на стол закуску, паставіла бутэльку. Ступіла да ўваходных дзвярэй, павярнула асцярожна, каб не забразгала булдавешка, ключ...

## 6

«...Ты мяне не слухаеш. Я падлічыў, што ад цябе ўжо магло прыйсці пісьмо, магла і сама ты прыехаць. Няма ні таго, ні другога... І як мне цяжка без цябе, каб ты ведала!

Ты мяне ўжо не пазнаеш. І абгарэў, і адпачыў. Пят-

кі ад таго, што сціраю на камянях, на жвіры, парабіліся ружовенькія і далікатныя, як у дзіцяці. Купанне ў моры — гэта здорава, дзеля гэтага варта ехаць сюды, на край свету. І я стараюся купацца на дзень разоў тры мінімум, а часам і ноччу, пры зорках. Спрабаваў нават пры трох-чатырохбальным шторме. Хвалі гайдаюць страшна, спяшыш, каб прарвацца цераз паласу прыбою. А то можа і з ног збіць ды яшчэ аб камяні абадраць, абабіць. Гайдаюць, гайдаюць хвалі, а потым як гахне каторая ў вуха — быццам цяжкаю падушкаю, глушыць адразу.

Тут такая завядзёнка — перад сном, з 21.30 да 22.00, ходзяць у сталоўку піць кефір. Я спачатку не хадзіў — забаўка. Потым паспрабаваў — нішто. І смага праганяецца. Некаторыя п'юць па дзве, па тры шклянкі. Учора трохі прыпазніўся, заходжу пасля кіно — няма, выжлукцілі. Зло ўзяло: «Ах, паразіты...» Прыйшоў сёння раней, выпіў тры кубкі. Вось так вам...

У Сочы за год перабывае больш трох мільёнаў народу. І кожны пакідае тут не менш ста рублёў. Грошы тут, як вада між пальцаў, не заўважаеш, як і расходзяцца. І ўсё — па дробязях.

Урач выпісала мне мацэсцінскія ванны. Ужо два разы ездзіў — шэсць мінут і восем мінут. Пах ад гэтых ваннаў — нібы нужнікі чысціў. Толькі мне гэтыя ванны не даюць мацунку, а наадварот — слабееш. Пінскі прараб выскаляецца: тыя, што па парачках, на Мацэсту не ездзяць. Пайду заўтра да ўрача — хай мо што другое прапіша...»

«Здрастуй, дарагі мой сынок Саша! Здрастуйце, Ваня, Аленка і Танюша! Ну і ўсе астатнія.

Даехаў я да гэтага курорта скора і добра. У паветры былі менш дзвюх гадзін. Табе, Саша, трэба абавязкова палятаць на самалётах, гэта здорава. Жыву я ў прыморскім корпусе, пакой на двух чалавек, са мною яшчэ адзін дзядзька, будаўнік з Пінска.

Кормяць тут добра, з'ядаю ўсё. Некаторыя нават дабаўку заказваюць, а я саромеюся. А тут як пакупаешся ў моры, то, здаецца, з'еў бы вала. У моры плаваць лягчэй, ты правільна чытаў пра гэта ў кніжцы. Я спрабаваў нават ляжаць, калі спакойнае мора. Раскінеш рукі і ногі і ляжыш на вадзе. Я перастаў мерзнуць, мабыць, ужо адагрэўся.

Урач прыпісала мне ўрачэбную фізкультуру, серавадародныя ванны (серавадарод вельмі смярдзючы), сон каля мора. Але на гэты сон я не хаджу, у пакоі спакайней, вельмі верашчаць цыкады.

Народу тут процьма. У нашым санаторыі ў асноўным людзі з Беларусі, але часам бачыш і з іншых рэспублік. Мабыць, туды таксама пуцёўкі прадаюць.

Тут такія смешныя каменьчыкі-блінчыкі на беразе мора — як шліфаваныя. Назбіраю — прывязу, пабачыце. Купіў тры ракавіны па рублю штука, усярэдзіне ружовыя. Усе купляюць. Прыкладзеш да вуха — чуеш шум, кажуць, мора заблудзілася, шуміць.

Саша, ты вялікі ўжо хлопец. Многае ўжо разумееш. Ты там як гаспадар у хаце. От і трымай сябе гаспадаром, прыглядвай за меншымі. Што ходзіш на работу — гэта добра. Работа яшчэ нікога не саслабіла, а, наадварот — загартавала. І ты правільна рашыў: не трэба канчаць дзесяць класаў. У цябе ж не пяцёркі і чацвёркі, а ёсць і тройкі. Спраўляй усе дакументы ў вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, у Слуцак. Там рыхтуюць механізатараў шырокага профілю, здаецца, і сярэдняе абразаванне даюць. Ты тэхніку любіш, я гэта даўно прыкмеціў. Пачнецца ўборка — вазьму цябе памочнікам камбайнера...»

**7** Пінскі будаўнік прыйшоў «дадому», хацеў прыняць душ, змыць соль з цела. На стале знайшоў запіску:

«Друг! Я не ўтапіўся і не заблудзіўся. Проста надакучыла гэта курортная сіньфонія. Не па мне яна. Бывай! Мо пытацьме пра мяне такая чарнявая — перадай прывет і масу найлучшых пажаланій».

Пад запіскай подпісу не было.

## Раздзел пяты

**1** Волька бачыла раз, як ірвецца сталёвы канат. Таўставаты, сплецены з мноства столак-драцінак...

Сеялі па тала-мёрзлым тарфяніку, за Блюдзейкам, авёс. Няўдала развярнуўся каля рова-калектара трактар «Беларусь». Падатлівы ўжо, як каша, насыпбруствер раптам глыбока абсунуўся пад левым заднім

колам, і трактар асеў на бок. Можа, каб не была прычэплена сеялка, удалося б зманеўраваць. А Расолька разгубіўся, газануў. Пад колам імгненна ўтварылася прорва, трактар пагрозліва нахіліўся... Жухлы зжоўклы лёд быў узняты талаю вадою ўпоравень з берагамі — ён не крэкнуў, не трэснуў — проста расступіўся, калі ўзлёг на яго трактар... Настармачыліся крыгі, цяжка вухнула-ахнула, гайдануўшыся, вада. У апошні момант Расолька адчыніў кабіну і скокнуў — па грудзі ў ледзяную ваду. Глядзеў, вылупіўшы вочы, здзьмухваючы з губ кроплі-пырскі, як цяжка паварушваецца каля яго ў крыгах, нібы выбірае зручнае месца ўлегчыся, хаваецца трактар, а вада шыпіць і булькае. Засталося толькі крыху відаць правае задняе кола.

Тады Расолька, мокры і насклелы, бегаў у сяло па гусенічны трактар, потым зноў лез у ваду, у крыгі, крычучы сам сабе — «Дзяржысь, Балціка!», акунаўся з галавою, каб зачапіць трос...

Гусенічны зароў, папоўз задам ад канавы. А Волька не так глядзела на Расольку і гусенічны трактар, як на трос. Скрозь надрыўны роў-крэкат яна чула, як звініць, ажно напінаецца струною сталёвы канат. А ў адным месцы, дзе, мабыць, быў надарваны, адна за адною — пэ-энк! пэ-энк!! — лопалі, адгіналіся, закручваючыся і пахістваючыся, драціны.

«Адыдзі!!!» — не сваім голасам закрычаў на яе Расолька — стаяў на беразе, растапырыўшы рукі, брудны і мокры, і, здаецца, холад яго не браў.

І толькі адступіла, пасміхнулася ў непаразуменні — чаго гэта ён так? — як канат пэнкнуў, каля самага яе твару свіснуў размохраны канец — звіўся каля гусеніцы гадзюкай...

«Паласне, што шабляй,— будзеш знаць!» — крыкнуў пасля ўжо Расолька, больш спакойна. Падняў хвост, які застаўся пры гусенічным трактары. Да яго вылез трактарыст гусенічнага, таксама паглядзеў, памацаў. Пакрычалі, памахалі рукамі. Селі абодва ў кабіну, пагулі зноў у сяло. А яна пастаяла яшчэ каля сеялкі, адкінула адно і другое вечка бункера — зерня было не так і многа, па паўмяшка. «Мо ніхто не пазарыцца...» — пайшла ў кароўнік.

І пакуль дабіралася, усё дрыжаў перад вачыма, звінеў канат, пэнкалі і загіналіся ў кручок драціны...

Адна... другая... трэцяя...

І колькі разоў у яе жыцці былі такія моманты, што той наструнены канат яскрава паўставаў уваччу. Пэнк! — не вытрымлівала адна столка. Пэнк! — другая... А ці многа засталося цэлых? Ці доўга яшчэ можна вытрываць, на колькі хопіць у чалавека трывучасці?

Былі такія чорныя дні — жыць не хацелася.

Тады, як прымчала, трасучыся, з поля, уся ўкарэлая ад засохлага малака,— схапіла лейцы, пачала рабіць пятлю... І каб не нарваўся якраз бацька, то быў бы ўсяму канец. Кінуўся да яе, выхапіў вяроўку. Ціхі такі, нямоглы, а гэта адкуль і сілы ўзяліся. Склаў лейцы ўдзвейгу, як пачаў хрысціць, як пачаў... Ні вока, ні бока не глядзеў!

Зацялася пасля таго, учарнела. Хадзіла як у сне...

Магла па паўдня не абазвацца да бацькі. Рабіла ўсё дома, як заведзеная. А не знаходзіла за што зацяць рукі, садзілася на парозе сянец, падпірала галаву, узлокціўшыся на калені. А калі ў хаце — убівалася ў акно, узлягала на падаконнік...

— Пайшла б у брыгаду... на якую работу... калі так...— у каторы раз пачынаў бацька.— Што мы выседзім удваіх... колькі там мае пенсіі.

Маўчала Волька. Скамянела, мабыць, усё ў грудзях. Захутаецца ў хустку, як бабулька ці манашка,— адно вочы ў чорных вачніцах. Неяк раптам стала відаць, што яна ўжо не маладзенькая, трыццаць першы з вясны пайшоў.

У гэтыя дні стары Апанас канчаткова зразумеў: не выйсці Вольцы замуж, не прычакаць яму ўнукаў. Пакуль не скруцілася з гэтым Рыгорам, яшчэ былі нейкія спадзеўкі. А цяпер — каму яна такая трэба? Ды дзе тыя хлопцы ў сяле? Некалькі падлеткаў, да арміі, некалькі чалавек — пасля арміі. Але і тыя, што пасля арміі,— не раўня Вольцы.

І вельмі ж няўтульна і непрыветна зрабілася яму ў роднай хаце. А як уяўляў, што памрэ, а Волька адна астанецца ў хатняй пустэчы, то і зусім рабілася горка і зябка, душыла немаведама на каго крыўда.

Волька таксама лічыла, што шчасце канчаткова мінула яе. Як далей жыць-векаваць? Бацька нядужы, не кінеш аднаго, каб і хацеў куды з'ехаць. А можна ж было з'ехаць — хоць у Слуцак, хоць у Салігорск, усюды рабочыя патрэбны: і на калійных камбінатах, і на цукровым заводзе. Там лацвей прыхавацца ў люд-

скім мурашніку, там і халасцякоў больш, калі на тое пойдзе. Дзеньдобры пусціць, хіба ён не разумее яе становішча? А мо і не дасць даведку, людзей у калгасе вобмаль. Летась столькі бульбы і морквы ляснула, не паспелі выбраць. Нахапіліся раннія маразы, укавала зямлю на пядзю. Нагналі, праўда, з горада нейкіх інтэлігентаў, дзяўблі ломікамі, адколвалі глыбы. А хіба выкалупіш бульбіну з тых камлыг? І што толку з іх, калі выкалупіш? Пампушкі, каровы елі-елі ды здаволіліся, пачалі нос вярнуць, свінні не схацелі есці. На крухмал спіртзавод не прымаў. Спрабавалі варыць, сіласаваць — чамусьці і сіласу не атрымалася, сплеснеў, згорк, баяліся каровам даваць.

«Ой, Рыгорка, будзе нам горка...» — яшчэ тады падумала, пасля першай іх стрэчы, як брыкет прывозіў. Яна сто разоў і да гэтага Рыгора бачыла — адзін жа калгас, нічога, што жыве на хутары, што работы розныя. Але каб хто сказаў, што яе так нястрымна пацягне да яго, жанатага, што ў іх дойдзе нават да пасцелі — у вочы плюнула б. Праўда, і раней шкадавала чамусьці яго, калі чула, што ў сям'і нелады, што зноў скандаляць. Селавыя мо ўсе Мані спачувалі, а яна — Рыгору. Нават уявіць не магла, каб Рыгор быў без дай прычыны вінаваты. «Усё скочка гэтая куслівая... Пілка... Матухна...— абзывала ўсяк Маню ў думках.— Ды які ж мужык вытрывае, калі дзяўкаць і дзяўкаць! Любы ўскруціцца!» І ніколі не задумвалася, чаму самой шкада Рыгора, чаму так хочацца сустрэць яго адненькага, супакоіць, паспагадаць па-чалавечы. «Няўжо я... даўно любіла яго? А чакала ж некага другога. Чортведама каго чакала... Каб ведала зараней, што ён — мая доля... Каб ведала! Усё іначай магло б скласціся...»

Так мала хлопцаў халастых —
І я люблю жанатага-а-а...

«Не так сабе перакручваюць гэту песню... Не адной мне прыпякала і прыпякае... У чым жа мая віна, што жанатага люблю? І ён жа мяне кахае... І як яшчэ кахае!.. Тады, другім разам... Ажно плакаў пасля, зубамі скрыгатаў — чаму раней не сышліся?.. Божа, як мы маглі б жыць разам! Як бы я яго даглядала!.. А Маня ж ніколечкі не глядзіць яго... Майка брудная, заношаная...»

Волька не адчувала рэўнасці да Мані... Рэўнасць — гэта што? Зайздрасць? Нянавісць? І калі неахвота дзяліцца абраннікам з кім бы там ні было — «Мой!». Бараніць яго, грызціся з іншымі за гэтага «майго» да канца. А ў яе няма такой ненавіднай рэўнасці. Яна і Маню трохі шкадавала, толькі неяк своеасабліва: як шкадуюць недапеку дзіця, якому не дадзена разумець, па-сапраўднаму цаніць тое, што маеш.

Рэўнасць-шкадаванне? Рэўнасць-папрок?..

Тады, у той градабой і грамабой... І Маня круцілася каля Рыгора: як аслепла, як уздурнела. То крычала-лямантавала на ўсё поле, праклінала і сябе, і сваю жытку, то кідалася да Рыгоравай галавы, нібыта хацела абняць яе, прыціснуць да сябе, а сама хапала за валасы, тузала ў бакі, і галава яго матлялася, як нежывая, кляла Рыгора і Вольку страшнымі праклёнамі, і людзі хапалі яе пад рукі, адцягвалі падалей. А Волька гладзіла гэтую галаву і ў той момант нікога не саромелася, адкідвала з чорнага, бруднага твару прыліплыя валасы, выцірала шчокі, і ёй хацелася цалаваць яго ў сінія, прыплюшчаныя павекі, хукаць у вочы, саграваць яго твар сваім дыханнем... Бегла да прычэпа, скубла салому, масціла, прытоптвала вакол галавы да самых вушэй, нібы хацела ўратаваць яго ад бруду, ад гразі, затуліць ад людскіх вачэй. І добра чула яна цянюткі звон у сваёй галаве і рэдкае, аглушальнае — пэнк! Абрываліся нябачныя ніці. Тады яны не ўспрымалі адна адну, быццам і яе, і Маню прыгаломшыла, не разумелі ў поўнай меры, чаго нарабілася і што робіцца...

Як ляжаў Рыгор у Слуцку, у бальніцы, двойчы ездзіла да яго. Не ў тыя дні, калі пускалі хворых, не ў сераду і нядзелю. Раз з'ездзіла ў чацвер, а раз у суботу — каб не сустрэцца з Маняю. Першы раз перадала яму перадачу — і ўсё, нават запіскі не напісала. Ці здагадаўся — ад каго? Другі раз папрасіла дзядзьку-хворага, каб паклікаў Рыгора ўніз, калі ён ужо «хадзячы». І не дачакалася, бо раптам убачыла, як міма прайшла з сумкай Патапава дачка Галя, тая, што жыве ў Слуцку: «Хто з трэцяй палаты? Цётачка, вы наверх? Падыдзіце мо да трэцяй, скажыце — хай Янушка Патап сыдзе...» Каб Галя не пазнала яе, сышла з вачэй.

Хадзіла, бадзялася па горадзе, пераходзіла з мага-

зіна ў магазін, нібыта і тавары глядзела, а сама думала пра адно: «Пайшла ўжо Галя з бальніцы ці не? А калі — не? Ткнуся... Ну і што, калі — не? Усе ўжо і так ведаюць пра Рыгора і пра мяне... Галя ў Слуцку жыве, не скора будзе ў Дуброве. І Патапа не скора выпішуць — на ладан дыхае...»

Праз якое паўгадзіны зноў пайшла ў бальніцу. Хацела ўжо на ганак падымацца, як з-пад сцяны, з санцапёку пачула: «Волька!» Пайшла да Рыгора, нібы на прызбу, на хаду расхрыстваючыся,— упарылася ад бегатні.

«Хай бы ж ты ў цянёк схаваўся...» — сказала, запавольваючы крок. Глядзела на ўсе вочы: «Божа, як змяніўся... Твар — зямля зямлёю...— А ўголас сказала: — То мо скора дадому?» — падала руку, як простаму знаёмаму, і ён падаў — халодную, вялую, потым спахапіўся, прыкрыў другою рукою, пацяг Вольку да сябе. Яна паддалася, села побач.

«Сонца смаліць, а ў мяне нібы халадзільнік усярэдзіне...»

«Ад слабасці гэта... Духу не збярэш. Еш больш, скарэй адужаеш...» — Хацела забраць сваю руку, распакаваць сумку. А ён не аддаваў, злёгку пагладжваў трымцячымі пальцамі па набухлых венах, паціраў, нібы ў яе былі халодныя, а не ў яго. Нагнуўся — мо пахукаць хацеў, а не пацалаваць,— і з галавы ўпала ў траву папяровая цюбецейка. Велікаватую зрабіў... І тады пусціўся адною рукою, нагнуўся падняць. Волька забрала руку, выняла піражок з тварагом, піражок з вішнёвым варэннем.

«Еш, смачныя вельмі... Шкада, што астылі... От каб цёпленькіх пакаштаваў! Мой стары дык кожную нядзелю іх заказвае...» — «Нічога... Смачныя...» — Жаваў напоўніцу, і на худой шчацэ нібы вытыркалі бульбіны. І, мабыць, яму было сапраўды смачна, бо ажно прыцмокнуў, нібы пацалаваў сабе пальцы, і яна, узрадаваная, захапіла астатнія піражкі прыгаршчамі, сыпнула яму ў цюбецейку.

«Што там... у сяле?» — спытаў нібы між іншым, жуючы. І яна зразумела, пра што ён хацеў спытаць, што прыхоўваў за абыякавасцю.

«Прыціхлі, здаецца...»

Яшчэ пасядзелі, больш маўчалі, чым гаварылі. Вольцы было ўцешна бачыць, як ён стараецца есці,

які ў яго добры апетыт, нібы гэта сядзеў побач не дарослы чалавек, а яе ўласнае дзіця.

Па бальнічных дарожках-сцежках блукалі хворыя, абыякава паглядвалі ў іх бок. І Вольцы пачало здавацца, што яны знарок ходзяць, каб паглядзець на іх, што яны шэпчуцца пра іх. І ёй было не вытрываць гэтых позіркаў, быццам стаяла навідавоку і голая. Усе, здаецца, разумелі, хто яна яму, ніхто не думаў, што гэта жонка ці сястра. А хто яна?

Хто?

«Палюбоўніца... Зладзейка, украла чужога мужыка ў жывой жонкі, у дзяцей... Пасіраціла дзяцей...» — нібы чула яна чужыя думкі-дакоры — колкія, колкія.

А Рыгор сядзеў сабе сцішаны, халодны — і не шманаў. Быццам яму было ўсё роўна, ці бачаць іх, ці абгаворваюць. Мабыць, і тое пытанне — «Што там... у сяле?» — задаваў так сабе, для прыліку. Бо мог бы і занепакоіцца, мог бы і працягнуць гаворку... Не толькі ж ёй баліць і карціць — а што далей, а як далей будзе? У які бок пакіруецца, зменіцца? Бо гэтак, як яно ішло дасюль, як склалася, не магло працягвацца. Патаемныя любоўныя сустрэчы маглі быць, пакуль людзі не ведалі. А людзі ж усё ведаюць, з першага яго візіту,— ад старога да малога. Патрэбен рашучы крок — або туды, або сюды.

Чакала і ўсё больш разумела — сёння не дачакаецца яснасці. Ён яшчэ не саспеў для такога рашэння, не ўсё дадумаў і прадумаў. А як надумае — на што рашыцца? У які бок ламане?

Волька хутчэй чакала разрыву — канчатковага, беспаваротнага. Нават прыкметы гэтага разрыву бачыла: патух жар у вачах. «Рукі... Рукі — ледзяшы... А тады ж палаў проста...— І тут жа лаяла сябе: — Трасца тваёй матары... Чалавек з таго свету вярнуўся... З-пад зямлі вылез... А ты хочаш...»

Прайшло многа дзён. Рыгор ужо дома быў, як пачула Волька пушчаную Настасаю па сяле пагалоску — людзі пераказалі: «На маім двары гаварыў, Дар'я была — не дасць схлусіць... Казаў Рыгор: мала дала ёй Маня тым вядром. Хай бы яшчэ нос адкусіла, каб больш ні к каму не вязалася...» І верыла ў гэта Волька, і не верыла: «Не можа быць... Не можа быць, каб такое сказаў... Але ж ён паздаравеў ужо... Выздаравеў... Хай бы ж прыйшоў калі... Кожную ночку

чакаю, кожны дзень. А то даў бы вестачку — куды прыйсці. Сама прыбегла б... Хоць за трыдзевяць зямель...»

Не заходзіў Рыгор. І нікуды не выклікаў. І на курорт з'ехаў раптоўна — як у космас паляцеў.

Заходзіла Жухалава. І лаяла, не выбіраючы слоў: «Гавораць? Хай гавораць... Руку на цябе падняла? А ты здачы дай! На пахілую вярбу козы скачуць...» І ўгаворвала: «Ідзі на ферму, вяртайся! Калі не даяркай, то свінаркай... Ёсць месца — падменнай свінаркай у адкормачніку. Якраз сем груп, сем свінарак, будзеш кожнай даваць раз у тыдзень выхадны...» — «Усім — выхадны. А я? Каменная? Ці мне і выхадны не трэба?» — «Ну... сальем дзве групы ў адну, каб шэсць было. Павер, табе будзе спакойна ў свінарніку!»

Адмовілася.

Хадзіла ў магазін па хлеб, па цукар — сустрэла паштальёнку. Не Волька ёй узрадавалася — паштальёнка.

— Ой, Канапелькава... Два дні нашу ў сумцы пісьмо. Ніяк не выберуся на твой хутар — занесці. Во, адкуль і ад каго — невядома. А на штэмпелі — Сочы...— і ўсміхнулася здзекліва і цікаўна.

Забрала пісьмо, сунула ў кішэню, не распячатваючы. Усю сілу сабрала, каб здацца спакойнаю і абыякаваю. А сэрца ўжо затахкала, і хацелася прыпусціцца бягом, каб хутчэй застацца адной.

Яна ніколі ні ад каго не атрымлівала пісем. Пісьмо магло быць толькі ад яго.

Яно і было ад Рыгора. Першае пісьмо. І чысло стаяла — тыдзень назад пісаў.

## 2

У талерцы сонечна свяціўся мёд. У акно ўлятаў шчэбет ластавак.

— Смялей, смялей! Лыжкаю бяры... Даўно мо і не каштавала...

— А ты чаго не...

— Я бяру... во... бачыш...

— І я... Нова навіна на стары жывот, каб не балеў цэлы год.

— У нас не так гавораць: каб мядзведжу сілу, заечы паварот.

— Ага-а: нова навіна на стары жывот, заечу сілу, мядзведжы паварот.

Ясь зарагатаў, ажно закашляўся, счырванеўшы.

— Чаго-о-о ты? — у непаразуменні паглядзела на яго Аляксана.

— У нас ёсць Кірэйчык, свіней добра коле... Дык яго бацька некалі кончыў сеяць жыта на сваёй палосцы, наслаў густа саломы ў канцы загонкі, прыгаціў грудамі і кажа: «Зарадзі, божа, з асьміны ды паўасьміну!» Адале ўшалопаў. «Стой! Стой! Не радзі, я не так сказаў!»

Ясь і Аляксана рагочуць.

— Вой, насаладзіла душу. Ажно губ не разляпіць. Вадою хіба запіваць.

— З вадою нанач добра. Сон спакойны.

— Светленькі які...

— Ліпавы. Чыстае лякарства — ад прастуды.

— Рэдзенькі, хоць нагінкам пі...

— Дык і пі. Перагні талерку і... А не дык у шклянку пайду налью.

— А я купляла Лёневым дзецям — грудачкамі, крупчаты.

— На базары? Па шэсць рублёў?

— Ага.

— Гэта амаль адзін цукар перагнаны. А мой без усякіх прымесяў, і свежы — два дні, як гнаў.

— Вой, а нам, малым, некалі казалі: не еш многа, а то на жываце выступіць... Ха-ха-ха!

— Хо-хо! — падтрымаў Аляксану Ясь.

Абое сядзелі за сталом насупрацькі. Аляксана — на крэсле ад дзвярэй, Ясь — на лаве, ад агародчыка. Сарамліва дзівіліся адно на аднаго, быццам не пазнавалі сябе пасля першай сумеснай ночы.

«Бровы — смоль, як у маладога... Густыя, доўгія. А галава — белая. Каб доўгія валасы — як снег былі б... Як груша-дзічка ў цвеце...» — думала Аляксана і апускала вочы. На міг і Ясь бянтэжыўся, але пачынаў зноў глядзець і ўсміхаўся лагодна-сцішана. «Прыгожая была Аляксана... у маладосці...»

А яна адчувала на твары яго пільны позірк, і шчокі ўспыхвалі заранiцай. Дранцвелі рукі — упусціла скарынку, і яе пачало засмоктваць у мёд. Выхапіла, патрэсла. Чакала, пакуль трохі сцячэ, і гаварыла:

— Якраз, як у таго на базары, што ўсё спытваў і

каштаваў. Пакуль пройдзе з канца ў канец — пад'есць... Дайшоў да бочкі мёду. «Дзядзька, пачом? А які на смак?» Дзядзька хацеў яму капнуць з лыжкі на далонь. А той дастаў скарынку з паўбуханкі — «Ой!». Упусціў у бочку... З паўфунта набралася мёду, пакуль вылавіў. Гаспадар яго кляне, а пакупнік — гаспадара: «Толькі хлеб з-за вашага мёду сапсаваў...» — і ходу сам.

— Хо, хо,— рагатнуў Ясь, хоць даўно ведаў байку.— У мяне яшчэ не такі ёсць. Эксперымент рабіў... Я зараз... А ты скажаш, з чаго ён.— Ясь рухава, нягледзячы на грузнасць, падхапіўся з-за стала.

— Ой, не трэба, я ўжо і так не паднімуся,— як не прастагнала Аляксана. Але не ўставала, павярнулася толькі на бразгат: Ясь браў з кухоннага стала слоік і нешта там перакуліў.

Ступіў Ясь у сенцы, а яна павяла вачыма па хаце.

Хата як хата, не такая і маленькая. На стары лад — ніводненькай перагародкі! Ступіць хто на парог, то адразу і відаць, дзе, што і як, якая пасцель. Сцены — голыя бярвенні, ні тынку, ні шпалераў. Ніжэй падаконнікаў белыя бёрны, новыя, а вышэй — карычнева-чорныя, старыя. А некалі былі, мабыць, жоўценькія... Скрэблі іх, мылі... «Пры Сарафіне яшчэ, як Сарафіна жывая была. Цяпер ужо не адскрабеш — шпалеры трэба. І мэбля трэба, стол, стулы... Шафа...»

Устала, падышла бліжэй да сцяны, дзе была рамка з карткамі. Фотаздымкаў не многа, размешчаны ў тры рады. У ніжнім картачка з пахавання, труна, людзі кругом. Па той бок труны стаяць, тварам да фатографа, людзі. Сам Ясь амаль такі белы, як і зараз. Стаяць мужчыны, жанчыны, дзеці. Адну жанчыну пазнала — Настасу. Настасу бачыла ўжо, ведае. Малако нядаўна прыносіла. «А ў яго ж яшчэ трое сыноў. І ўнукі. Колькі, ён казаў, унукаў? Сямёра?»

— Ну — пазнае́ш каго? — нячутна зайшоў Ясь, прынёс у слоіку нечага ружовага, нібы якога кісялю. Асцярожна паставіў на стол, сам пацягнуўся па рамку — зняў. Панёс пад прыпечак, пашоргаў анучаю, вярнуўся, сеў на лаву, крыху залезшы за стол. Аляксана прысела побач.

— Во, верхні рад... Першая картачка — я. І во я, на Карэльскім фронце...

— Ух ты, пан Шмігельскі... Кант на коляна...—

Аляксана ласкава прытулілася да яго плечуком, нібы выбачалася за такую крытыку.

На першым злева здымку Ясь стаяў яшчэ хлопцам, у доўгіх бліскучых ботах гармонікам, у галіфэ, рубашцы навыпуск, падпяразаны вітым паяском з кутасамі. Валасы нечым бліскуча змазаны і ўкладзены набок. Левую руку Ясь паклаў на высокую, сплеценую з белых дубчыкаў этажэрку-падвазонніцу. На другім здымку, што з Карэльскага фронту, сядзелі ўтрох ваенныя ў зімовых шапках і белых паўкажухах, сярэдні — Ясь.

— А во гэта — Сарафіна...— Ясь паказаў на левую з дзвюх дзяўчат, што сядзелі, прытуліўшыся галовамі (мо фатограф так загадаў). Левая была ў хустачцы пад бараду, правая — у белым, з пупсікам, берэце набакір.— Справа — сястра яе, Кацярына, жыве яшчэ. А тут мы з Сарафінай перад самай вайною. Пасля прэміроўкі... Фатограф са Слуцка здымаў... Мне тады веласіпед у прэміроўку далі. А гэта во — Гардзей, старэйшы... Дзевяць на дванаццаць. А гэта — Грыша, любіцельская, Федзя рабіў. А гэта сам Федзя ў той год, як універсітэт скончыў, во, бачыш, які ромбік яму далі. У нейкім атэлье здымаўся.

— Які харашэнны... Як намалёваны...

— А тут, у другім радзе, Гардзей з сям'ёй... Гардзееў Сяргей, у Мінску вучыцца... Наташка Гардзеева, у дзевятым класе... Не, здаецца, ужо ў дзесяты перайшла... Настаса во, асобна... Сарафініна маленькая, на нейкі дакумент здымалася... Да-а-а... А гэта — Сарафіну хаваем... кгы-км... Федзя здымаў...

— Завочна з усімі ўжо знаёма.

— Паступова абзнаёмішся.

— Ну, то што гэта за кісель? У-у, пахаціць на ўсю хату. Чым жа гэта... Малінаю! Дальбог, малінаю!

— Ага, малінавы мёд.

— Гэта такі з цвету маліны бывае?! Дзе ж яго набрацца, каб столькі насмакталі...

— З малінавага сіропу. Варыў сіроп з малінамі, даваў пчолам. Рой адзін слабы быў... Дык яны, чэрці, і перагналі на мёд.

— Смачны... А той усё-такі праўдзівейшы.

— Параўнала! Той з цвету... Не толькі з ліпавага.

— Ой, як мы позна сёння за сталом! Паўдня скора, а мы ўсё снедаем.

— А куды нам спяшацца? Нам цяпер ужо, Аляксана, няма куды спяшацца. Колькі за сталом, столькі і ў раі... Дзяцей сваіх мы пагадавалі, будзем жыць толькі для сябе. І ў калгасе сваё адрабілі, стажу на дзве пенсіі хапіла б... Будзем адпачываць! От у рыбу з'ездзім, у грыбы...

— Ты мо і на паляванне ходзіш? Стрэльба на печы.

— Гэта на шасцідзесяцігоддзе калгас падарыў. Зімою пару разоў хадзіў.

— І ўпаляваў што?

— Здаралася... Але памацаеш зайца — худы, зноў пусціш.

Зарагаталі абое.

— Ой, Ясічак. Пасядзі хіба, я са стала прыбяру...

Але Ясь не сядзеў, парываўся нешта памагаць, несці ў мыцельнік. А несці не было асабліва чаго.

— Гэта і ўвесь твой посуд — адна талерка, адна міска, дзве лыжкі? Ха-ха-ха...— не вытрывала Аляксана.— І збаночак адзін шчарбаты, а то ўсё слоікі і бутэлькі. А гаршкі хоць, чыгункі ёсць?

— Па аднаму... Во такія, з кулак...— Ясь па-дзіцячы шморгнуў носам, пацёр аб штаны спацелыя далоні.— Купім! Усё, што скажаш,— купім. Грошы ёсць... А мне аднаму нашто ўсё гэта было?

Праз колькі хвілін выйшлі ў сенцы, потым у кладоўку.

— Гэта столькі мёду-у?! — зжахнулася Аляксана.— І загуслы ёсць... Трэба прадаць, на чорта яго столькі трымаць дома.

— Рукі не даходзяць. Ды ленаваўся везці на базар...

Ясь паказваў, колькі ў яго збожжа, мукі, крупы, і Аляксана зноў дзівілася, ужо другому: жыў чалавек без запасу — як набяжыць, абы дзень да вечара.

— Не хацеў я нічога з барахла браць ад Настасы. А цяпер усё завядзём... Купім!

— Добра, калі купіла ёсць.

— Ёсць, не бядуй.

На двары, калі паказваў сядзібу і гаспадарку, Аляксана зноў рагатала ўголас. Ясь паклікаў курэй, каб сыпнуць пшаніцы. Прыбег певень, дзве курыцы і квактуха з трыма куранятамі.

— Ох-ха...— не магла супакоіцца Аляксана.— Тры кураняці! О-ха-ха-х...

— Гэта ж, каб яе... Сама вывела, не бачыў і калі. Думаў — прапала... Адале вылазіць з падпаветкі, з-пад варштата. Чатыры кураняці было, адно кот Дар'ін з'еў... Я сам не паверыў, што так мала вывела: пагроб палкаю пад варштатам — яшчэ пяць яек выкаціў. Што замораныя, а што — баўтуны.

— І ніякага парасяткі няма? — ужо з нейкай кволаю надзеяй спытала Аляксана.— Ад стала, бывае, што застанецца — куды дзяваць?

— Няма-а...— развёў рукі Ясь. Яму сапраўды было няёмка за сваю безгаспадарчасць. А ці ж такім гаспадаром ён быў яшчэ зусім нядаўна! — Во, вуллі ў садзе, глядзі... Восем штук.

— Вуллі добра. За пчолы ты маладзец. Але як жа жыць, каб нічога ні ў хаце, ні ў хляве не было? А, Іван Іванавіч?

— Сала, ведаеш... Свініна мне не вельмі. Печань абзываецца...

— То кароўку трэба... Хоць невялічкую, як казу. Малако, масліца свежае, смятанка, сырчык... Як на дзіеце будзеш.

Ясь маўчаў, і Аляксана спахапілася — хаця б чаго не падумаў!

— Ведаеш... Хацелася пабыць вольным казаком. Каб ні каровы, ні свінчаці... Што хочаш, тое і рабі, куды хочаш, туды ідзі... Усё думаў: «Эх, закачуся ў рыбу!.. Ды з начлегам, з аганьком, з юшкаю... Як гарадскія...»

— Ясік, ты толькі не крыўдуй...— Аляксана асцярожненька ўздыхнула.— Можна было б і без кароўкі абысціся. Але ж цяпер мы ўдваіх. Ну — будзе прыносіць нам Настаса малако, ці, скажам, сама заходзіцьму да яе... Дык гэта ж як старцаваць з торбаю! Мне ж воч не падняць будзе... «Во прывёз бацька кралю на шыю!» — скажуць.

— М-м... не скажуць,— у голасе Яся не было ўпэўненасці.

— Мы маглі б плаціць ёй за малако. А што людзі скажуць? Родны бацька ў роднай дачкі купляе... Маглі б адмовіцца ў яе браць, а ў каго чужога... То зноў жа — што Настаса скажа? А людзі? «Во, нос верне мачыха, пачужацца хоча... Бацьку падбівае...»

— Будзем плаціць Настасе, і ўсё. Чынна, законна...

— Ох, Іван Іванавіч... Ну, што ты хоць гаворыш?

— Купім карову, купім! — голас яго раптам адразу пацвярдзеў. Нібы толькі зараз чалавек зразумеў, што пачалося ў яго інакшае жыццё.— Купім! — яшчэ раз сказаў, нават руку паклаў ёй на плячо.— Будзем мы — усё будзе!

— Ціп-ціп-ціп-ціп! — пачулася каля мураванкі, і адразу там залапатала крылле: зляталася і збягалася птаства.

Ясь борздзенька прыняў руку з Аляксанінага пляча: ці не бачыла дачка? «Стары пень, выйшаў на двор абдымацца...»

— Не, ты як хочаш, Ясь... Табе відней,— нібыта пайшла на ўступкі і Аляксана.

— Не — як ты хочаш, так і будзе! Купім карову, купім сена... Грошы ёсць! Во, я чуў, Аміля Патапава прадае карову. Таксама двое старых у хаце, няма ўжо каму сена рабіць, пасвіць.

— У сваім сяле — добра. Карову лепш людзі ведаюць. Трэба, каб малочная была, ногі тонкія... Каб даілася лёгка... Малако на смак трэба паглядзець... І як адстойваецца, колькі смятаны...

— Добрая ў іх карова. Зборшчык казаў: і раніцаю, і вечарам выносяць яму па вядру малака.

— Іван Іванавіч, то мо сёння і сходзім? Каб хто дарогу не перабег... А сена ў брата папытай, у Пятра... У яго яшчэ леташняга стажок за хлявом стаіць...

— Ты бачыла калі, што ў вуллі робіцца? Не? Гэ-э...— Ясь тузануў дзверы падпаветкі, зняў са сцяны сеткі — закрываць твар, узяў дымар. Рады быў памяняць гаворку.

3 Волька чытала і перачытвала Рыгорава пісьмо. І чым больш чытала, тым больш не знаходзіла сабе месца. Ёй рабілася то душна, то млосна, пачыналі дрыжаць рукі. І то спяваць ёй хацелася, то плакаць. Ёй так не хапала выплакацца — хоць раз!

Чаму не прыйшоў,
Як месяц ўзышоў?
Ці сцежкі не знаў,
Ці каня не меў,
Ці маці не пускала?

«Прашу прашчэння, што не заходзіў...»

«Ну што ён хоць піша!.. Я даўно ўжо даравала — усё-ўсё-ўсё... Хіба я не разумею, чаму не заходзіў. Я больш нават разумею, чым ты, Грыша...— думала і шчыра верыла сабе.— Я тут больш перажыла, чым ты... Фільм нядаўна па целявізару паказвалі — ну проста як пра нас з табою... «Сладку-у ягоду рва-ли вме-есте, горьку я-я-ягоду я одна-а-а...»

«Эх, Волька, Волька, от прыехала б ты сюды, да мяне, я табе і кватэру падшукаў бы...— заплюшчвала вочы, а гэтыя радкі выплывалі з памяці.— Во пажылі б, а? І чаму мы такія няшчасныя, што не можам быць разам? Я тут адчуў, як засумаваў па табе за гэтыя два месяцы...»

«А я хіба не засумавала? Ты от паехаў, загараеш там... Людзі новыя, усё новае... А ў мяне ж тут усё-ўсё старое, і ўсё па сэрцы б'е... «Прыехала б ты сюды...» Напісаць лёгка — прыедзь! А гэта ж не ў Слуцак, не пятнаццаць кіламетраў. У сто разоў больш! Ды як кінеш-рынеш усё... Бацька нядужы... А так бы ўга — можна было б і пад'ехаць, і прыляцець... Дзве гадзіны лёту — гэта ж як у Мінск са Слуцка на аўтобусе...»

Яна распальвала сябе думкамі, загаралася і зноў, таксама думкамі, атушвала, ацішвала. А пакуль вагалася, што рабіць, пакутавала, дагарэў і дзень. Ноч была бяссонная, поўная цяжкіх уздыхаў, і бацька некалькі разоў пытаўся — што з ёю, ці не захварэла.

Назаўтра прыйшло яшчэ адно пісьмо ад Рыгора — «Я ўжо і кватэру напытаў». Ад хвалявання і слёз (урэшце яны з'явіліся!) нават не расчытала добра. У пісьме было «напытваў», а не «напытаў», хоць маленькая, ды розніца.

Раптам адкінула ўсе сумненні. «Паеду! Згараць няхай тыя грошы... Не на месяц, хоць на дзён колькі...»

— Тата, я пад'еду ў Мінск, на дзён тры. Разведаю, як там з работаю... Ты тут, глядзі, не памірай без мяне,— пажартавала і адразу ўбачыла, што жартуе недарэчы: бацька яшчэ больш спахмурнеў і згорбіўся.

— Едзь, хіба я цябе дзяржу. Начаваць от дзе будзеш...

— Гасцініцы ж ёсць.

Бацька пайшоў з хаты, бо на двары чуліся дзіцячыя галасы, віск нейкіх колаў, потым жаночы голас. Волька падышла да акна — што там такое?

Каля клеці, дзе стаялі пад навіслай стрэшкай клеткі з трусамі, круціліся хлопчыкі і дзяўчынкі, вішчалі ад захаплення, іх уціхамірвала настаўніца гісторыі Лідзія Багданаўна.

Калі выйшла на двор і яна, ужо з сумкаю, каля адчыненых нахлашч дзвярэй клеці стаяла каляска-двухколка. Піянеры шабуршылі недзе ўсярэдзіне, адтуль, з паўцемры чуўся і стукат сякеры. Заглянула — бацька стукаў абушком, разбіраў станок жорнаў. Настаўніца штосьці падтрымлівала, памагала, дзеці шныпарылі па кутках. «Лідзія Багданаўна, глядзіце, які карабец з саломы сплецены!» — адзін хлапчук падняў круглы, з невялікую бочачку, карабец, надзеў сабе на галаву. На плечы нацерушылася мукі. «Што ты вытвараеш?! — засердавала настаўніца.— Зараз жа пастаў на месца!» — «Гэта ж таксама экспанат!» — крычала некалькі галасоў. «І во экспанат! — падбегла бліжэй да святла рыжая дзяўчынка.— Глядзіце, які коўшык з ручкаю!»

Настаўніца заўважыла ў дзвярах Вольку.

— Добры дзень, Вольга Апанасаўна! — ветліва паздароўкалася яна.— Вось... Раскулачваем вас... Нідзе — ні ў суседніх вёсках, ні ў Дуброве — не знайшлі жорнаў для школьнага музея. А потым падказалі — калі тут няма, то больш і не шукайце... Апанас Мікалаевіч дорыць іх нам... Дзядзька, то вы мо і сабраць іх у школе паможаце? Ніхто ж не ведае, як з імі і што...

— Ды ўжо ж...— буркнуў бацька.

— Вялікі вам дзякуй... Бо ў нас і ступа ёсць, і кросны знайшлі, а жорнаў не было.

— Дзеду-у-у...— выў хлапчук, не знімаючы карабец з галавы.— Ап-пчхі!

— Васька, ты як касманаўт-марсіянін у гэтым карабцы! — крычала ад захаплення рыжуха.

— Дзеду-у! Аддайце нам карабе-е-ец... У вас вунь яшчэ стаяць!

— Васіль, я каму сказала: знімі і пастаў на месца! — загадала Лідзія Багданаўна.

— А-а... бярыце і яго. Ну й цыганы вы!

— Ой, а лапцей у вас няма? З лыка? — зарадавалася, як дзіця, настаўніца.

— Няма... але магу сплесці.

— Апанас Мікалаевіч, дарагі! Мы вашу картачку павесім побач з экспанатамі! — настаўніца парывала-

ся пацiснуць старому руку, але той не выпускаў сякеркi.

Волька, дачакаўшыся, пакуль бацька гляне на яе, сабраную, пайшла ад дзвярэй. Так i не сказала нi слова нi да настаўнiцы, нi да бацькi. Адышла з усмешкаю на твары: дзiвацтва настаўнiцы яе смяшыла i нечым замiлоўвала.

**4** Вольцы не пашанцавала ўжо з самага пачатку падарожжа. На другi рэйс аўтобуса, якi iдзе ў Слуцк, яна спазнiлася. Трэцi рэйс будзе не скора, i яна пайшла на шашу-вылiванку. Там аўтобусы iдуць адзiн за адным. Можна на любы падсесцi, i выгадае цэлую гадзiну.

Iшла лёгка, не чуючы свайго запыханага дыхання. Дарогi не заўважала — галава была забiта думкамi, i гэтыя думкi беглi вельмi далёка ўперад, за туманную далеч вёрст — у казачна-раскошныя Сочы, дзе людзi жывуць гэтак непадобна да iхняга жыцця, дзе столькi ўсякiх дзiвос.

«Я толькi цяпер, як ад'ехаў у такую далеч, зразумеў, што мы не ўсё рабiлi так, як трэба. А трэба было рашыцца на штосьцi пэўнае i не хавацца ад людзей...»

«А на што рашыцца, Грыша? На што? Лёгка табе пiсаць... Папера ўсё вытрымае... А ты б напiсаў — на што рашыцца. Хаця не, не трэба пiсаць... От прыеду ў Сочы, разам i памяркуем. I так людзi ведаюць, што ад цябе пiсьмы. Паштальёнка, як другое ўручала, на хутар прыджгала, не паленавалася. I так ужо малiла вачыма, так зубы загаворвала, каб якое слова цi паўслова пачуць ад мяне. I не пачула, не дачакалася...»

На шашы ў аўтобус ушылася хутка, праўда, ехала да Слуцка на адной назе. Нават у сваю кiшэню па дробязь не магла адразу прасунуць руку, хоць i надрываўся шафёр у дынамiк: «Хто зайшоў — перадавайце на бiлеты!»

На станцыi ў Слуцку таксама не было куды носа ўбiць. Ля касы, што прадавала бiлеты на Мiнск, была доўгая i бязладная, радоў у восем, чарга. Бiлетаў на сёння не было. Спадзеўка была на «прахадзяшчыя» аўтобусы. Але на такiя прадавалi лiчаныя бiлеты, i то «стаячыя», чарга нiколькi не меншала.

Прастаяла гадзіну, прастаяла другую...

Ужо кляла сябе за паспех, за неабдуманасць рашэння. Але стаяла, спадзявалася на цуд.

Сфарміраваўся адзін дадатковы аўтобус, але чарга зменшылася на які метр. Пайшоў на Мінск і другі дадатковы аўтобус, а Вольцы ўсё было далёка да касы.

— Што гэта за канец свету сёння? — не вытрывала, каб не папытаць у пажылой жанчыны, што стаяла перад ёю. Ехала тая да сына ў Мінск забіраць на лета ўнучку.

— А кожнае лета так... Абітурэнты едуць.

— Хто гэта за яны?

— Ну... тыя, што паступаюць у інстытуты, дакументы вязуць. Ды не адны едуць, а з таткам ці мамкаю. От і забілі ўвесь транспарт. Мае, слава богу, прыстроены ўжо... Летась малодшая дачка паступіла, у політэхнічны...

Цётка ахвотна расказвала не толькі пра дачку, але і пра ўсіх траіх сваіх дзяцей: ніводзін не астаўся ў вёсцы, усе раз'ехаліся па Саюзе.

— Свет які настаў... Ніхто не хоча дома сядзець,— уздыхнула цётка.

Невядома, колькі б яны яшчэ прамучыліся ў душнай гарачыні, каб не прыватнік. Малады, цёрты, у кароценькай старой тужурцы... Патаптаўся каля чаргі, штосьці мармытнуў паціху.

— А дзе стаіць? — адразу да яго некалькі чалавек. А цётка схапіла Вольку за руку і бягом пацягнула з вакзала: «Прапусціце... Дайце прайсці!»

— А што такое... Куды? — толькі на ганку змагла папытаць Волька.

— Легкавік!.. Вунь!..— паказала ў канец вакзальнай плошчы, пад чырвоную вадакачку. Там стаялі, стаіўшыся, зялёныя «Жыгулі».

Дабеглі ў ліку першых чатырох. Цётка адразу затузала за ручку пярэдніх дзверцаў.

— Па пяцёрцы... З камфортам, без прыпынкаў,— сказаў, падышоўшы, маладзік у тужурцы.

— Дамо, дамо! Едзем хутчэй! — І за Вольку адказала цётка.

Даехалі і праўда хутка. У дарозе малады чалавек сказаў, што ён аспірант, халасцяк. «Даў бог машыну, ды не даў кватэры... У будатрадах на машыну зарабіў, тры разы ездзіў у Казахстан. А цяпер на машыне за-

раблю на кватэру... Пакуль што здымаю пакой, сорак рублёў як лёду...»

— А будзе кватэра і машына, то і жонка знойдзецца,— сказала цётка.

— Ужо знаходзяцца... Але я вуха трымаю востра!— засмяяўся багаты жаніх.

Вольку ўладальнік машыны завёз на самы аэравакзал, пажадаў шчаслівай дарогі, нібы здагадваўся, куды яна і да каго едзе.

— І вам шчасліва,— адказала. І падумала: «Вельмі ж ты ўжо вастравухі... Дзялок і зух!»

Ёй зноў не пашанцавала. У касе вакзала сказалі, што білетаў на сёння няма на Сочы. «У горадзе ёсць касы папярэдняга продажу... На вуліцы Карла Маркса... Звярніцеся туды».

Яшчэ не верачы ў сваё поўнае паражэнне, Волька паехала ў горад, знайшла касы «Аэрафлота».

«Божа, і тут парылка... Як у Слуцку на аўтобуснай...»

Прымайстравалася спачатку ў чаргу да акенца «Справочное бюро». І дачалася: білеты, сказалі, распрададзены на дзесяць дзён уперад.

Галодная, змардаваная (не было калі і падумаць пра яду), прыехала назад у Слуцк апошнім аўтобусам, на сыходзе сонца. Не хадзіла ні па магазінах, не распытвала і пра работу...

Дадому прыпешкавала ў дванаццатай гадзіне, ноччу.

Паўз плот рос вішаннік, голле звешвалася далёка за агароджу, і сцежка выкручвалася, паўтараючы абрысы дрэў. Плялася і трымала перад тварам руку, адчуваючы, як стукаюць, прарываюцца між пальцаў яшчэ не даспелыя і цвёрдыя, халаднаватыя ад туману вішні. І раптам уперадзе аддзялілася ад плота высокая цёмная постаць.

— А-а!..— вырваўся ў яе здушаны крык, варухнуліся валасы на галаве.

— Воля! — коратка і нібы таксама спуджана аклікнуў чалавек.

«Рыгор!» — ухапілася за плот, каб не ўпасці.

## Раздзел шосты

I

— Ну — усе? Каго няма? — Зянон Сташэвіч нецярпліва нахмурваў густыя, у адзін шнурок, бровы. Ён сядзеў за сталом старшыні, а сам Дзеньдобры прыладкаваўся на першым крэсле за прыстаўным сталом.— Старшыня тут... (Дзеньдобры кіўнуў галавою, але не перастаў праглядваць і падпісваць паперы.) — Сташэвіч перавёў позірк на Лявошку.— Намеснік сакратара і Жухалава тут... Вы канчайце ўжо фінансавыя справы...— (Лявошка сядзеў тварам да яго за тарцом прыстаўнога стала, браў узносы ў заатэхніцы: «Адна зарплата? Прэміі? Пабочныя даходы?» — «Няма, зачыніла сваю фабрыку на рамонт...») — Сташэвіч павёў вачыма па другой шарэнзе крэслаў, каля акна: — Мясцком тут, брыгадзір тут, Ёрш тут...— Будай, Каляда і аднарукі пастух таксама паківалі галовамі.— А дзе Сердзіч? Курэц гэты ніколі не накурыцца.

Пры гэтых словах Будай павярнуўся да акна, таўхануў створкі, каб адчыніліся шырэй: «Эй, заходзь!»

— Аднаго Загаецкага няма, у «Сельгастэхніцы»,— сказаў Будай.

— Запрошаныя загадчык майстэрні Русак тут, загадчыца клуба Пахілька тут, загадчыца агіткалектыву Лідзія Багданаўна — тут... Таварышы члены парткома, сядайце за стол, каб больш кампактна было.

Жухалава, наадварот, выйшла з-за прыстаўнога стала і села побач з Лідзіяй Багданаўнай і Пахількай каля глухой сцяны.

Сташэвіч адшпіліў з рукі гадзіннік, паклаў перад сабою.

— Парадак дня ведаеце: аб гатоўнасці да ўборкі збожжавых. Дакладчык — Іван Кузьміч Дзеньдобры. Заслухаем таксама інфармацыі Русака, Лявошкі, Пахількі, Лідзіі Багданаўны Шарамет. Ёсць прапанова: Дзеньдобраму даць часу, колькі папросіць. Інфарматарам — пяць-сем мінут, для выступленняў — не больш пяці мінут.

— Што-та ты сён-ня ўзур-пі-ру-еш ула-ду,— Дзеньдобры падпісаў апошнюю паперу, склаў іх акуратна ў стосік і пайшоў да дзвярэй. Ён заўсёды гаварыў спаважна, з кожнага склада рабіў асобнае слова.— Зоня! — крыкнуў у агульны пакой, дзе сядзелі сакратарка і рахункаводы.— Вазь-мі...— вярнуўся на сваё мес-

ца.— Давай-це так: ін-фар-ма-та-рам не больш дзесяці, а тым, хто будзе выступаць,— не больш сямі. Пытанне ж важнае!

— Толькі коратка і па справе, не пачынаць з міжнароднага становішча і леташняга снегу,— Сташэвіч вёў сваю лінію.— Ёсць у нас яшчэ «Рознае», але я не ведаю, ці будзем пра гэта сёння гаварыць...— сакратар узяў у рукі гадзіннік і паглядзеў на свайго намесніка па кантролю — Сердзіча.— У яго ёсць заява Марыі Сухавей... Але пра гэта пагаворым у канцы — што з ёю рабіць. Прабачце, адну хвіліначку...— Сташэвіч паклаў на стол гадзіннік, адвярнуўся да краю стала, дзе стаялі два тэлефоны — чорны, стары, і новы, элегантны. Набраў на чорным тры лічбы, напружана сціснуў трубку, а з яе чуваць былі доўгія гудкі — трэці... чацвёрты... шосты... Урэшце — «Алё-ё-о...». Слабае, з плачом. Прыціснуў трубку як мага мацней да вуха, і ўсе ўбачылі, як твар сакратара бялее, бялее... Узяў праваю трымцячаю рукою гадзіннік, зноў паклаў. Палез у кішэню па цыгарэты, упусціў іх каля сябе на стол. Замахаў Жухалавай, паказваючы на трубку,— «Вазьміце!..». Заатэхніца мігам апынулася каля тэлефона, выхапіла з яго рук трубку. А Сташэвіч пачаў выціраццa насоўкай.

— Жэня, гэта я — Жухалава... Мне кажы... Так... Та-а-ак... І воды адышлі?! — Яна пачала паказваць Сташэвічу на зялёны элегантны тэлефон, прыкрыла трубку далоняй: — Круці ў Слуцак! «Хуткую!..»

— Такі пачынаецца...— прагаварыў Сташэвіч непаслухмянымі губамі, пачаў набіраць нумар на зялёным тэлефоне. Не набраў, заблытаўся.

— «Хуткая» — ноль-тры?

— Тры-ноль-тры! — гукнула некалькі галасоў. Усе зразумелі, што здарылася: яго жонка даношвала апошнія дні.

— Ну дык што? Ну дык чаго ты? Я чула, бывае такое... А схваткі... яшчэ? Я зараз падбягу... Каменскага не зваць? Аўдотку каб? А што тая Аўдотка... Бягу, бягу! — І да ўсіх, шыбуючы да дзвярэй.— Вы без мяне! Кворум ёсць!

Грукнулі за ёю дзверы.

— Гэта ж трэба!..— уздыхнула на ўвесь кабінет Лідзія Багданаўна.

Дазваніўся Сташэвіч да «Хуткай дапамогі».

— Вуліца Калгасная! Ага... Арыенцір — двухпавярховы дом. Ага...— усім абвясціў: — Выязджаюць...

— Усе ўжо забылі пра парадак дня парткома.

— Ты глядзі, Зянон... Мы і заўтра можам сабрацца...— сказаў памяркоўна Дзеньдобры.— Не кожны дзень жонкі раджаюць.

— Але... Дзень сюды, дзень туды,— падтрымаў і Русак.

— Зянон, ты — бяжы... Мы самі тут — кворум ёсць,— сказаў Сердзіч.

— Ага! Бяжы, бацька! — дабавіў Ёрш.

— А што я там памагу? Мяне бабы і ў хату не пусцяць... Давайце, таварышы!

Гэтакага пасяджэння парткома яшчэ ніколі не было. Сапраўды дзелавіта, сапраўды — коратка. Потым жартавалі: «Як у траншэі, перад боем...» Хоць пра траншэі і баі мелі ўяўленне толькі Дзеньдобры, Русак, Каляда і Лявошка. Астатнія былі ў вайну або зусім малыя, або нарадзіліся пасля вайны — як настаўніца Шарамет ці загадчыца клуба Пахілька.

Ужо адгаварыў свой даклад Дзеньдобры... «Ча-тыры ста-рыя СК га-то-выя. Но-выя «Ко-лас» і «Ніва» аб-ка-та-ны... Не хапае камбайнераў: калі запозніцца з курорта Сухавей, адзін камбайн будзе стаяць. Трактары на хаду за выключэннем аднаго «беларуса» — у «Сельгастэхніцы»... Купілі яшчэ дзве касілкі, два прэс-падборшчыкі і адзін стагакід. Яны працуюць на сенаўборцы... Збожжаток у парадку, сушылка... у сушылцы трэба паглядзець фарсунку ў печы... Па плану ўборкі раздзельным спосабам убяром сто гектараў, прамым камбайнаваннем — пяцьсот га азімых і ўсе яравыя...» Потым сказаў пра запчасткі, лятучку і палявую рамонтную брыгаду Русак. Пра засекі, мяшкі, людзей для начной змены на таку, пра паліва для сушылкі — Лявошка... Загадчыцу клуба Пахільку паслухалі і пасмяяліся. Яна сказала: «Ствараем агітбрыгаду...» Летась гаварыла гэта самае, а брыгада так і не стварылася, не знайшлося людзей, і Лілі Пахільцы на ўсю ўборку давялося перакваліфікавацца ў повара і самой вазіць камбайнерам на поле абеды. Сказала сваё слова і Лідзія Багданаўна, паабяцала, што агіткалектыў і лектарская група не будуць стаяць убаку, а пастараюцца выступаць перад механізатарамі непасрэдна ў полі, у майстэрні, перад калгаснікамі на таку...

— Калі тыя лекцыі слухаць? Ды яшчэ ў полі!..— не ўтрываў Ёрш.

— А ў нядзелю, у выхадны?

— Пакуль хоць адзін гектар у полі — ніякіх выхадных! — адчаканіў Дзеньдобры.

— Вы недаацэньваеце палітыка-масавую работу! — кінуў рэпліку Сташэвіч.

— Самая лепшая масавая і арганізатарская работа — каб працавала бесперабойна тэхніка, каб людзі не трацілі на абеды лішні час,— сказаў Сердзіч.

— Агітбрыгада... Летась ні разу не выступілі, цяпер канчаецца сенаўборка — ні разу! — падаў голас Русак.

— Летась мы былі невінаватыя! — пакрыўдзілася Пахілька.— Не трэба было прымушаць абедамі займацца, вазіць на поле.

— Трэба было сумяшчаць і тое, і гэта!

— Цяпер сталоўка ёсць, сталоўка будзе забяспечваць...

— Людзей няма! Дзе браць людзей у тую агітбрыгаду?

— Русак, а сам ты не забыў, як на камбайне ўпраўляцца? Бо як не паспее да ўборкі Рыгор, прыйдзецца табе садзіцца.

— А што тут забываць... Я за кулямёт, а сын другім нумарам.

— Будай, ты да якога чысла пусціў Рыгора?

— Дзесяць дзён яшчэ яму.

— Ну во! Канешна, не паспее... Чуеш, Русак?

— Чую.

— У суботу, мабыць, зажнем. Праз пяць дзён...

— Мітрэнга — гэтая раздзельная ўборка. Пачакалі б, і на прамое камбайнаванне... У нас жа сем камбайнаў сёлета!

— А трэба дзевяць, калі ўлічыць, што нехта будзе стаяць, рамантавацца.

Прыкладна ў гэты час і прыехаў Загаецкі. Запылены, нібы не ў «Сельгастэхніку» ездзіў, а цэлы дзень гайсаў на «газіку» па полі.

— Ваявалі там... Юра Расолька — маладзец. Глаз — ватэрпас. Пазнімалі пад шумок не толькі паламаныя дэталі, але і цэлыя, можна сказаць, новыя, а ўзамен паставілі рэстаўрыраваныя. А нашто нам чужое старое?

— Цэлымі вузламі, агрэгатамі мяняюць. Хутчэй так...

— Гэтая хуткасць нам у капеечку ўляціць.

— Некаторыя цэлымі трактарамі мяняюць. Прыцягнуць свой у рамонт, а на іхні садзяцца — і пагулі. За паўдня — капітальны рамонт. От і палічы капеечку.

Пагаварылі і хацелі ўжо разыходзіцца, як Сердзіч замахаў рукамі:

— Пачакайце, давайце ж параімся, што з заявай Манінай рабіць... З камітэта народнага кантролю пераслалі. І чым толькі людзі думаюць! Гэта ж трэба даўмецца, куды напісаць!

Сташэвіч не згадзіўся:

— Паменш трэба эмоцый. Людзі робяць так, як разумеюць. А наша справа памагчы...

— Як ты ёй паможаш?! Смех проста...

— Ты пачытай заяву, а тады абгаворым.

Сердзіч узяў у Сташэвіча ключ, адчыніў сейф — той, што стаяў у левым кутку. Бо стаяў яшчэ адзін і ў правым — старшынёў. Пакорпаўся, дастаў двайны лісток, выдраны з вучнёўскага сшытка ў вузкую лінейку. І адразу, ідучы да стала, пачаў чытаць:

— «Народнаму кантролю раёна і ўсяму райкому партыі. Ад даяркі калгаса «40 год Кастрычніка» Сухавей М. М.

*Заява*

Так як вы ёсць пастаўленыя ад народа і правіцельства для кантролю і кіравання, то і павінны кантраляваць і кіраваць, а не толькі браць дарэмна грошы. Бо што ж гэта будзе, калі кожны будзе, як той лебедзь, рак і шчупак, цягнуць абы-куды. Так паразвальваюцца ўсе сем'і, і будзе не калгас, а анархія, як у таго кудлатага Махно, што ў кіно паказвалі. Цяпер перасталі піць у магазіне, дык затое ў Дубровенскай сталовай мора разліванае. Не для чэсных калгаснікаў пабудавалі, а для выпівох і п'янчуг. Ім было там няўдобна, рукавом закусвалі, стаялі стоячы, дык наце вам удобства, і столікі, і стулікі, і закусачку на выбар. Мой муж Рыгор Сухавей два месяцы прахварэў і не піў. Але ж яму курорт падсунулі, паехаў на курорты. То прыедзе, адхаяўшы, зноў будзе піць-гуляць, здзекавацца з мяне і з маці. Як ад'язджаў, то чуць маму не задушыў, так ёй рот заціскаў. Нічога Р. Сухавей дома не глядзіць, як

быццам гэта чужы для яго дом. З жонкаю не жыве, як людзі, а ўсё пра тую лярву Вольку Канапельку думае, хутаранку. Гэты хутар даўно пара скалупіць ліца зямлі, як бародаўку, каб не замінаў, а яе, каб хвастом не круціла, сем'і не разбівала, выслаць з калгаса за дваццаць чатыры часа. Калі не знойдзецца на яе ўправы, то сама знайду, хоць у цюрму сяду. Гэтак жа і Рыгорам. Ні сельсавет, ні праўленне калгаса нічога не хочуць памагчы. А трэба, каб ён дзяцей гадаваў, як усе бацькі, а не бегаў па сабачых вяселлях. Калі не прымеце, народныя кантралёры, меры, то буду і на вас скардзіцца ў вобласць, пракурору або першаму сакратару».

— От, халера... А яна і праўда можа падпаліць той хутар,— першы азваўся Дзеньдобры.

У гэты час за акном прагула машына, Сташэвіч адразу прыліп да шыбы.

— Праваронііў!.. «Скорая» праляцела... Не будзе ведаць куды... Сердзіч, закругляй тут сам, я пабег! — ірвануў да дзвярэй, нібы яго ўвесь час трымалі пад напружаннем — і раптам адпусцілі цеціву.

— А што ж тут разбіраць — самога Рыгора няма.

— Ён беспартыйны. На партком не выцягнеш.

— А чаму — не? Ну й што, калі беспартыйны?

— На мясцком! Хай прафсаюз разбіраецца, таварыскі суд.

— Чхаць ён хацеў на прафсаюз!

— Ні партком, ні прафсаюз не памогуць жыць з жонкаю.

— Чаму? Калі даць добрую прачуханку...

— Дзівак гэты Рыгор... ці Маня... Калі не могуць разам жыць — то развяліся б, і ўсё!

— А дзеці?!

— Не прападуць дзеці... Думаеце, ім лягчэй у такой сітуацыі? Такога наглядзяцца, што... на ўсё жыццё траўма.

— Ціха, таварышы! Трэба да нейкай згоды прыходзіць. Пісьмо-скарга ёсць? Ёсць... Трэба на яе рэагаваць.

— Рыгора няма, а што без яго мянціць языкамі? Прыедзе, тады і пазавем, пагаворым.

— І Маню трэба! Адкуль мы ведаем, мо яна вінаватая больш?

2 Рыгор і Волька прачнуліся амаль адначасова. Не ад таго, што ва ўсе шчыліны білі сонечныя прамені. Каля дзвярэй хлява раскашляўся бацька, нібы знарок падаваў ім сігнал: «Падрыхтавацца...» Потым рыпнула кватэрына дзвярэй, і ў хляве, там, дзе некалі стаяла карова, а цяпер разгульвала на шворцы каза, стала светла-светла... Пад вільчыкам спуджана закрычала, замітусілася ластаўка — і раптам нырнула ў дзвярны праём.

Завішчалі парасяты, мегегекнула каза, і бацька тут жа засварыўся на яе напаўголаса:

— Пі-і... І не круціся — разачка вельмі рэжа.

Волька і Рыгор прытаіліся, як два зладзеі, якіх ледзь не цапнулі за руку.

— Не тупаці, бо спутаю... От, сатана барадатая... Як ад казла — ні воўны, ні малака...— ушчуваў бацька казу.— І які вас чорт выдумаў... Паслухаўся, дурны, звёў карову...

Ластаўка зноў заляцела ў дзверы, пакідалася сюд-туд, цьвікнула і знікла з вачэй. Дзесьці на двары, мо на пругле, сядзела іх цэлая плойма, бо пераліўчаты шчэбет-чывіканне сыпаўся адтуль.

— Во — хіба гэта вымя!.. Хіба гэта цыцкі! У каровы хоць ёсць за што падзяржацца...

Рыгор не ўтрымаўся, чмыхнуў, і Волька тут жа затуліла яму рот далонню. Рыгор накрыў яе руку сваёю. Волька таксама кісла ад смеху і ціснулася тварам у яго плячо, каб не зарагатаць уголас.

Бацька ўрэшце скончыў цыркаць-даіць, павёў казу — прыпне дзе-небудзь за плотам, на ўзбалатку.

Рыгор пацягнуў Вольку бліжэй да сябе, яны прыпалі губамі да губ, быццам сасмаглі ў гарачыню, і цяпер п'юць, ніяк не могуць наталіць прагу.

— Ой, якую мы тут яму выгарцалі,— першая апаміталася, пачала выцярэбвацца з яго рук Волька.— Дзе тая посцілка?.. Згамтарылі... Пусці, ото бацька вернецца, пачуе...

Рыгор неахвотна расціснуў рукі.

— А колькі там... малака? Піць — паміраю проста...

— Я зараз...— Волька саскаўзнула з сена на тачок, перагнулася цераз загарадку, за якою адразу стаяў каровін жолаб (не выкідвалі пакуль што), узяла збанок.— З літру будзе! — прашаптала гучна знізу.

— Давай! — Рыгор, седзячы, падсунуўся да краю, працягнуў руку, і яна падала малако.

Піў, аж пакуль не засталося ў дне колькі глыткоў. І тады схамянуўся, падаў збанок назад, а сам крэкнуў, выцер губы тыльным бокам далоні, правёў па вусах і барадзе, папоўз назад у логава.

Волька мацнавата грукнула, ставячы збанок, і таксама пакарабкалася на сена. Наверсе ўстала, хістаючыся на зыбкім, углядаючыся (сарочка з'ехала з аднаго пляча), і Рыгор абхапіў яе за голыя ногі, кульнуў на сябе.

Дурэлі і калашмацілі адно аднаго, як дзеці...

— Ой, Грыша, я такая шчаслівая — каб не адплакаць потым.

— Ну от яшчэ — плакаць... Хай нашы ворагі... А хочаш — я цябе рассмяшу...

— Ну...

— Нас у санаторыі пасля абеду ўсыплялі па радыё, гіпнатызавалі...

— Ха-ха,— нервова рагатнула Волька.

— Не, не гэта смешна. Раніцаю таксама перадача ўнушэнне, псіхатанічная аўтагенная трэніроўка называецца. «Паводзьце сябе так, быццам вы ўжо шчаслівыя, і вы сапраўды адчуеце сябе шчаслівымі... Кожную раніцу паўтарайце сабе, што вы здаровыя, шчаслівыя, працаздольныя, што ў вас цудоўны настрой... На працягу ўсяго жыцця паўтарайце...»

Тут ужо Волька рассмяялася шчыра.

— Бачыш, як проста ўсё. А мы, дурні, пакутуем, ускладняем сабе жыццё.

— І як ты даўмеўся? Гэта ж трэба — уцёк з курорта!

— Да цябе, да цябе!

— Там хіба не знайшоў сабе...

— Вязалася адна... Таму і ўцёк... З білетам пашанцавала: прадаў адзін курортнік, а сам застаўся яшчэ на тыдзень. Я і ляцеў пад чужым прозвішчам. Грабануўся б — і не ведалі б, дзе падзеўся...— Рыгор зноў цалаваў яе, чуючы губамі слёзы на шчоках.

— Перастань... Ну!

— І ты перастань... Нацёр твар вусамі і барадою... гарыць проста...

— У цябе ў сумцы... больш нічога няма?

— Булку з'елі... Хлеб яшчэ ёсць, масла ёсць... Мас-

ла ў крошках, мабыць...— Волька папаўзла да сцяны, дзе была прыхавана ў шчыліну між сцяною і злежаным сенам сумка. І тут жа зацыкала: «Цс-с-с-с!», стаілася сама.

Чуваць былі крокі і пакашліванне бацькі. Вось ён зайшоў у дзверы — у хляве крыху пацямнела... Вось грукнуў збанком аб сценку жолаба.

— Што за праява! Здаецца ж, і дзіркі няма ў збане...— голас яго быў і здзіўлены, і гучала ў ім нейкая вясёлінка.— Кот, мабыць... Ну, канешна!.. Развялося памаўзлівых, марцаўскіх...

Пайшоў з хлява, потым вярнуўся, патупаў у дзвярах і нечакана голасна сказаў:

— Волька, ты гэта самае... Я там блінцоў навадзіў паўдзежачкі... Каб не прапалі, глядзі...— і пайшоў.

Волька дапаўзла з сумкай да Рыгора, упала на яго з рогатам.

— Канспіратары! Стары ўсё ведае, усё, мабыць, чуў...

— Можа, і чуў... Як пасцілку брала ноччу. А мо здагадаўся...

— Што ж будзем рабіць?

— Трэба ісці ў хату. Блінцы есці.

— Не хацеў бы я нідзе паказвацца... Няма мяне яшчэ — разумееш? На курорце!

— Бягом перабяжы.

— Ты — як малая... Ну, добра, ідзі ты першая. Падрыхтуй там... глебу. Ну — трэба ж нейк растлумачыць, адкуль я тут узяўся.

— Сам растлумачыш, як трэба будзе.

...Волька выпекла блінцы, склала іх стажком. І яшчэ пачакала хвілін дзесяць. Няма Рыгора!

«Дзе ж ён забавіўся?» — пайшла паглядзець.

Забралася на сена і ўбачыла: Рыгор вольна раскінуў рукі і ногі, храпе, як асілак-касец пасля ўтомнай і доўгай касьбы.

## 3

Наеўшыся, намачаўшыся блінцоў у смятану, Рыгор ацяжэў і крыху асалавеў — адкінуўся спінаю да сцяны. Яму зноў захацелася спаць. Абвёў сонным поглядам стол: недапітая бутэлька «Цынандалі» (сам дастаў з чамадана), недагрызеныя вяленыя ставрыдкі. Асобна на талерцы салата з гуркоў і памідораў,

нарэзаная вялікімі кавалкамі, зваранаяі падсмажаная, свайго вырабу каўбаса, клінковы сыр, масла на сподачку. Абвёў хату; старая, і ўсё па-старому ў ёй, як і ў яго хаце: адрына, ні адненькай перагародкі.

— Каровы няма, а смятаны міска, сыр... Добрая ў вас каза!

— У сяле купляем. А з казы — што?

Волька сядзела на заслоне насупраць Рыгора, узлокцілася на стол, падперла рукою шчаку. На гэтай жа лаўцы зводдаль, угнуўшыся, ужо спінаю да стала, сядзеў бацька, курыў.

— От ты, бачу, і смятану любіш... І малако. А каровы ў нас няма!..— Апанас разагнуўся, коратка зіркнуў цераз плячо на Рыгора, пацёр папяросаю ў далоні, хоць попелу і не было абціраць, пакашляў убок.

— Падсвінак яшчэ ёсць, трусоў пяток,— дадала Волька.— А карову збылі. Абрыдла вадзіць яе ў сяло, у чараду. А вечарам перааймай, зноў вядзі ці гані.

— Я цяпер на пенсіі, то мог бы, канешна, і з рук падпасваць дзе... На дарогах... Але ж...

— Тата, то давай зноў купім! — лёгка загарэлася Волька.— І я цяпер не на кароўніку, то больш мецьму часу...

— ...але здароўя ўжо зусім няма. Добра, калі ціхая пападзецца. А калі лахудра якая? Ірванецца і паляціць па пасевах... Дзеньдобры тады голаў зніме!

— Патапава Аміля прадае — я чула...

— Прадае... Прадала ўжо! Бацька твой, Рыгор, купіў.

У Рыгора прапаў сон.

— Што ён — здурэў? Нашто яму аднаму карова?

— Х-ха, хіба ты не знаеш? Жонку ж прывёз.

Рыгор прыўстаў за сталом.

— Прывёз-такі?! — І сеў зноў.— А чаму ж я нічога... Волька, ты ж мне ні слова не сказала!

— Я думала — ты ведаеш. А-а, ты якраз паехаў, а ён тут жа і прывёз яе.

Доўга маўчалі. Потым Рыгор заварушыўся.

— Волька... Я табе лісту лаўровага прывёз.... нашчыпаў там... І камень знайшоў — капусту прыціскаць ці гуркі...— ступіў да чамадана, які ляжаў ужо ў хаце, у канцы лавы, пры ложку. Адкінуў вечка.— Во...— дастаў газетны скрутак, нібы ў яго быў загорнуты невялікі, з два кулакі, качан капусты. Ішоў да стала, раз-

рываючы газету, над самым сталом камень нечакана вылузнуўся, бомкнуў аб стол, ажно паляцелі па хаце відэльцы.

Волька хуценька падняла відэльцы і подбежкам да стала, як дзяўчынка.

— Ой, які харашэнны... А гладзенькі! І паяскі белыя, як апяразаны імі.

Камень і праўда быў прыгожы, цёмна-шэры, гладка адшліфаваны морам, а тыя белыя паяскі трошкі нават тырчалі, як рубчыкі.

— Ну во... Ёсць ужо ў вас на разжытак... Ёсць за што рукі зацяць... Радуюцца, як дзеці! Ох-ха-ха...— бацька ўздыхнуў голасна, на ўсю хату. Рашуча ўстаў, пайшоў у парог, каб выкінуць недакурак, стрэпнуць з далоні попел. Сплюнуў яшчэ ў цэбар, вярнуўся, але не сеў.— Жыць як думаеце? Як у вас што далей будзе? — цярнуў далонь аб штаны, зноў сеў, але павярнуўся ўжо да іх у паўабарота.

— Неяк жа будзе, дзядзька Апанас... Не прападзем! — голас Рыгора гучаў не цвёрда, былі ў ім адценні трывогі.

— Хіба мала бывае, што людзі новыя сем'і заводзяць? — сказала і Волька.

— А ты памаўчы... адвакатка! — нечакана павысіў на яе голас Апанас.— Чацвёра дзяцей — і другую сям'ю заводзіць?

— Памагаць буду... Ну, і аліменты...— яшчэ больш пацішэў Рыгораў голас.

— Аляменты, аляменты... Хіба аляменты заменяць дзецям бацьку? Ну — хай-то мая дурная, улезла, як муха ў саладуху... А ты ж старэйшы! Ты ж разумнейшы! Ты ж сталы мужчына, бацька!

— А я не адмаўляюся ад дзяцей, дзядзька Апанас!

— «Адмаўляюся»... Не хапала, каб ты зусім ссабачыўся, дзяцей выракся...

— Мы з Волькаю любім адно аднаго... Любім! Вы можаце гэта зразумець? Сцішкі яшчэ я такія чуў, вельмі праўдзівыя: «Яна мяне за мукі палюбіла, а я яе — за састраданне к ім».

— Ага... Кахаем...— абазвалася сарамліва Волька, прыціскаючы халодны камень да грудзей, пагладжваючы яго.

— А ты памаўчы... кажу... Я з ім... Дык от: а Маню ты не любіў? Чатырох дзяцей нажыў — і не любіў?

— Вядома, у гэта цяжка паверыць... Проста жыў. Цярпеў, а цяпер не магу цярпець! Кончылася цярпенне!

— Ты на мяне крычыш, усядно як я вінаваты... Крыкам не паможаш.

— Бацька, вы ж мужчына... Вы павінны мужчыну зразумець: не ма-агу-у!

— Я ўжо забыў, калі быў мужчынам.

— Бацька мой жонку ў хату прывёў, а вы — «забылі».

— Ясь на чатыры гады за мяне маладзей. А дай яшчэ чатыры гады! У нашым веку кожны дзень многа значыць.

— Рыгор, дай хіба касцюм... папрасую. І, можа, мыць што ёсць? — Вольцы хацелася хутчэй перамяніць гаворку.

— Ёсць — рубашкі...

— І гэту здымай, што на табе... Каўнер ужо які. А трусы, майкі?

— Гэта я сам мыў. У Сочы, пад душам...— Рыгор прайшоў да чамадана, пачаў перабіраць тое, што было ў ім, грукнуў яшчэ адным газетным загорткам. Да яго падышла Волька: «Ой, якія ракавіны!» І Рыгор дастаў самую большую ракавіну, даў ёй.

— Табе... Паслухай, як у ёй мора шуміць.

Волька прыціснула ракавіну да вуха, замерла з дзіцяча-шчаслівым выразам на твары. Не міргала нават... На бацьку забылася зусім. І Апанас устаў, пайшоў з хаты, у парозе яшчэ раз плюнуў у цэбрык.

Волька спахапілася, адняла ракавіну. Стары бацька, ой стары... Сціснулася сэрца: на колькі яго можа хапіць? А тут яшчэ перажыванні ўсякія... Сядзе недзе на ганку, будзе смактаць валідол...

— А гэтыя ракавіны дзецям занясу...— прагаварыў Рыгор да яе, зашамацеў папераю.

Волька зазірнула ў чамадан.

— Дык у цябе ж не хопіць аднае! Не-не, я не вазьму, нясі малым. Параўнаў мяне з імі!

— Тані я цукерку дам.

— Не-не-не... У цябе мала будзённай адзежы. Я пад'еду заўтра ў Слуцак, куплю тое-сёе... Які ты памер носіш — чаравікі, штаны, касцюм?

— Пачакай з пакупкамі... Я пакуль што ў Сочы — разумееш? А прыеду з курорта, схаджу дадому, пабяру

сваё адзенне... Спаражні вёдры, вады нанашу, калі задумала мыццё... А дзе ты будзеш грэць — у печы?

— На керагазе.

— О, божухна... Людзі забылі даўно пра керагазы. Газавыя пліты паставілі, балоны — дабрыня! У вас жа і электрыкі няма?

— Няма. Лямпа во...

— Дзевятнаццатае стагоддзе! А трэба ў дваццатае перасяляцца.

— Па мне то я даўно б перасялілася. Бацька не хоча варушыць хату — рассыплецца, то і не збярэш. А на новую не хопіць сродкаў.

— Хто ссяляўся — калгас пазыку даваў, а то і дапамогу.

— Бацька пра пазыку і слухаць не хоча.

— І бацька твой старасвецкі... У Амерыцы ўсе з пазыкі жывуць, выплачваюць да смерці.

— Дык то ж у Амерыцы. Бацька кажа: хай лепш табе людзі будуць вінны, а не ты ім.

Рыгор пабраў восілкі ў руку, вёдры звонка бразнулі адно аб адно.

Выйшаў на двор босы, у майцы і штанах. Да калодзежа дайшоў, не гледзячы ў бакі. А даставаў ваду — убачыў: Апанас пад вішнямі, каля плота. А за плотам паштальёнка — працягвае старому пісьмо. Няйначай тое, трэцяе яго пісьмо. Волька казала, што трэцяе яшчэ не прыйшло.

Рыпнула пругло, паштальёнка зіркнула ў яго бок — і рот разявіла.

«Пазнала, мабыць... А мо не? З барадою ж...» Паналіваў вёдры, павярнуўся спінаю ў той бок, падняў — панёс у хату. Мусіць, паштальёнка яшчэ глядзела ўслед, бо, здаецца, адчуваў яе погляд патыліцаю. А мо пабегла хутчэй, задыхаючыся ад такое навіны?

## 4

Ясь старанна падмёў двор, смецце ўкінуў у хлеў. Больш будзе гною.

Выцягнуў з падпаветкі новы вулей, пахадзіў наўкола. Здаецца, і з сухіх дошак рабіў, а ўсохся яшчэ больш, ёсць шчыліны. Нешырокія, як запалку сунуць, але ёсць. «Фарбы пабольш... Зацягне ў шчыліны... А мо закітаваць спачатку?»

Пайшоў у падпаветку, знайшоў у прыскрынку вар-

штата загорнуты ў цэлафанавую плёнку злёпак кіту. Ададраў плёнку, выкалупіў з сярэдзіны мякчэйшы кавалак, доўга мяў яго ў пальцах, а потым камячок раскатваў далонямі, пакуль той не стаў макаронінай, а потым — чарвяком.

Добры ў Яся настрой, лагодны. Усё ішло на лад у яго хаце. І дом, і гаспадарка, і сам ён перажывалі перыяд абнаўлення і амаладжэння. «Дурны... От жа дурны быў! Мог бы гадоў тры назад ажаніцца... Пажыў бы хоць чалавекам... Аўдотка, дзякуй ёй, надаўміла... Ты, кажа, так і будзеш сірацінаю жыць? «Нягожа... Нядобра... Дзічэе адзін мужчына». От старая... І слова якое ўляпіла. А мужык і праўда без жонкі сірата».

Карову набылі, на пашы недзе... Не прывыкла, праўда, яшчэ да новага месца, кожны вечар пераймаць трэба. А да Аляксаны скоранька прывыкла. Яна ёй і хлебца кавалачак, і бульбінку, і зелля ў прыполе смачнага прынясе, і прылашчыць, пачухае за рагамі. Здалёк яшчэ выбягае з чарады, ледзь толькі ўчуе яе голас. Сам бачыў, каб не бачыў — не паверыў бы.

І ў хаце абнаўленне... «Во, радыё як спявае... Нейкія вясковыя песні перадаюць... Ды харошыя ж!..» Вытурылі бабы з хаты, каб не перашкаджаў, не замінаў. А самі наварылі клею з крухмалу, прыхапіліся клеіць шпалеры. Аляксана і Дар'я... Пасябравацъ паспелі. І вельмі ж хутка: раз прыйшла Дар'я пагуляць, другі... А баб хлебам не кармі, дай пагаварыць... «Во, рагочуць нечага, зацекаюцца... Зноў песню ўключылі... Не, дальбог, мабыць, самі спяваюць — не радыё!»

Ясь вынес з хлява маленькі заслончык, што спецыяльна зрабіў Аляксане карову даіць, каб ногі, спіна не балелі, паставіў каля вулля і сеў сам. Чаго яму згінацца крукам? Замазваў шчыліну за шчылінай, пакручваў вулей... Трошкі пасядзеў, слухаючы спевы, а потым пайшоў у падпаветку, знайшоў на паліцы пэндзаль і фарбу. Ёсць яшчэ з палавіну літровай бляшанкі фарбы, павінна хапіць пафарбаваць і гэты вулей. Хай будзе гатовы запасны... Быў запасны, ды ўжо спатрэбіўся: на пчолы сёлета таксама год, аддзяліўся адзін рой. Вунь ён, дзевяты вулей, у садзе ўжо.

Сеў. Мазнуў раз, мазнуў другі... Не, трэба спачатку пакрыць пакостам. Тады і фарба лепш возьмецца.

Зноў пайшоў у падпаветку — шукаць пакосту.

А з хаты вылятала самотнае і тужлівае:

Запражэце коні,
Коні вараныя,
Буду даганяці
Леты маладыя.
Даганю я леты
На кляновым мосце...
— Вярнецеся, леты,
Хоць да мяне ў госці!..

«Ага — чакайце... Дзіва што вернуцца!..— У Яся раптам стала журботна на душы.— От жа свет устроены... Пажыў — злазь, дай другому падсесці, праехацца... А калясніца ўперад, уперад, уперад... Грукоча, ляскоча, коціцца... Круціцца зямля: зіма-лета, зіма-лета...

Валоў патаміла,
Коней перагнала,
Гадоў маладзенькіх
Так і не дагнала.

Вулей рабіўся рудавата-жоўты, на свежых мазках пакост бялеў, пеніўся шумам, пухіркі хутка ўсмоктваліся ў драўніну, дошкі сушэлі. Добра пакрываць пакостам, хутка, не тое што фарбаваць. «Не высахне сёння пакост. Заўтра давядзецца фарбаваць».

Ясь успомніў пра бочачку. Так і не дарабіў, хоць кожную клёпку перагледзеў, падгабляваў. «Трэба скончыць яе, добра, што бабы ў хату не завуць...» Пакінуў вулей пасярод двара, на сонцы. «Смаліць, як агнём...» — схаваўся ў падпаветку.

Вось яны, клёпкі, вось абручы. Новыя палоскі жалеза знайшоў, скляпаў старанна, ажно па тры заклёпкі даў. У першы абруч збяруцца клёпкі лёгка. А другі мо хто паможа нацягнуць, Лявошка скора павінен прыехаць. «А не дык і Аляксана паможа... Самі кашу... заварылі... Самі і расхлёбаем...»

Ясь самому сабе яшчэ не прызнаваўся, што яго цягне да Аляксаны, быццам скінуў з сябе груз гадоў. Не, не памыліўся ў ёй, яна сапраўды падабаецца. Да яго, старога пня, прыйшло бабіна... Не, «дзедава» лета! І быццам яму якіх сорак — пяцьдзесят гадоў — не болей. Эх, каб не задышка, не лішнія кілаграмы! «Не змяншаецца вага, каб яе... Здаецца ж, і не ляжыш, нешта робіш, варушышся... Хоць бяры ды трушком бегай вакол Дубровы, як у целявізары паказвалі...»

Толькі і паспеў, што саставіць клёпкі ў абруч.

— Ясю-ю! Іван Іванавіч! — пачуўся лагодны і кры-

ху гуллівы голас Аляксаны.— Дзе ты там схаваўся, дзе? — нібы яна шукала хлапчука-жартаўніка.— А-а, ты ту-ут? — заглянула ў падпаветку.

— Тут, тут... Зашумела ў галаве — пабыў на сонцы.

— Бо шапку трэба... Ты ж не хлопец, каб фарсіць... А мы ўжо ўсё паклеілі. Такая харашыня стала! Бяры малаток, гваздоў... Паможаш карнізы прыбіць. Цюль павесім, шторы.

— Павесім, павесім... Перадыхні і ты...— Ясь падзьмухаў на калодку, на якой сек дровы.— Ці вось памажы, абруч нацягнем.

Даў ёй у рукі нацягівач, паказаў, як карыстацца, дзе ўчапіць. Аляксана скеміла ўраз, і Ясь, пастукваючы малатком то па абручы, то па клёпках, задаволена прыгаворваў: «Так... Так... А цяпер вось тут... Ага, так-так...» Абруч нацягнулі намнога хутчэй, чым некалі з Рыгорам. Узагнаў крыху больш, абстукаў, узняў бочачку, нібы хацеў надзець сабе на галаву.

— Хараш! А донца я сам урэжу... Хадзем! — голас у Яся быў задаволены.

Зайшоў у хату — і не пазнаў. І дашчаная перагародка, якою ён нядаўна адшаляваў невялікую, на адно акно, кухню, і сцены былі выклеены шпалерамі. На кухні шпалеры жоўтыя, сонечныя, з серабрыстымі ўзорамі-павуцінкамі. А ў пакоі — блакітныя, з ярка-чырвонымі букетамі руж. Ясь некалькі разоў зайшоў з кухні ў пакой, нібы параўноўваў работу ці любаваўся. За ім сюды-туды хадзілі і Аляксана з Дар'яй і прыгаворвалі, нібы свой тавар хвалілі: «Ну во — бач... Харашыня якая...»

Потым Дар'я ўзялася зацягваць шпількаю нітку-шнурок у фіранку (на кухні будуць толькі фіранкі) і гаварыла, як спявала:

— Засталося толькі жыць-пажываць ды дабра нажываць... Красавацца ды адно на аднаго любавацца...

— Ой, якое там дабро нажываць,— насцярожана зірнула на Яся Аляксана.— Хоць самае неабходнае мець.— Абедзве стаялі за яго спінаю, глядзелі, як збірае карніз.

— Трэба вам, суседзі, і вяселле справіць... Ну — чаму б не пагуляць, не адзначыць такую праяву? — гаварыла Дар'я і хітравата, збоку, заглядвала Ясю ў твар. Сухавей з крэктам залез на табурэтку, Аляксана падала яму карніз — бліскучы, з дзвюх паралельных тру-

бак. Адна, танчэйшая,— для гардзіны-цюля, другая — для шторы.

— Глядзеце, камандуйце — роўна? — сказаў нямоцна, як сам сабе. Пытання Дар'і нібы і не чуў.

— Правы бок на санцыметру трэба вышэй,— сказала Аляксана.

— А мо левы... ніжэй...— сказала Дар'я.— Ну, калі не вяселле... Цяпер жа вяселле па тры дні гуляюць... Калі не вяселле, то хоць якую вячэру справіць. Дальбог, трэба, суседзі!

Аляксана маўчала, але пераглядвалася з Дар'яй — абедзве былі ў змове. Пра вячэру яны гаварылі-перагаварылі і цяпер дзейнічалі, як дамовіліся. Але Ясь не адварочваўся, не глядзеў на іх і нічога не бачыў. Глядзеў толькі на карніз. Трымаў яго абедзвюма рукамі, а галаву адхіляў як мага назад — мергаваў сам, ці роўна. Бах! Бах! — пачаў забіваць першы цвік.

Аляксана хітравата паглядзела на Дар'ю, трошкі развяла і апусціла рукі. Выраз твару быў і разгублены, і хітраваты: «Бачыш — не паддаецца... Што паробіш?»

Дар'я супакойліва наставіла далонь — «Нічога, нічога... Яшчэ не канец...».

## 5

«Начная зязюля» перакукавала. Згадзіўся Іван Іванавіч на вячэру, хоць і ўздыхнуў: «Наробімо сораму...» Аляксана перад тым нават паплакала, пахліпала носам яму ў плячо.

— Хто я табе? Палюбоўніца? Прывёз у хату — і ўсё? Ад людзей жа трэба хоць засланіцца, абгаворы спыніць... Можна было б і так жыць, колькі тае жыткі засталося. Але ж людзі! А калі згуляем якую вечарынку... хоць маленькую — раты заткнём. Убачаць — не на адзін дзень... ці ноч сышліся...

— Ну, добра, добра... Хіба я праціўлюся? Раз трэба, дык трэба.

— І мэблю купіць... Хоць трохі. А то хату абнавілі, харашыня. А стол стары, кульгавы, лавы старасвецкія. Шафу, стол, стулы трэба купіць абавязкова. У людзей і серванты ёсць... Але нам не трэба сервант — што мы ў яго будзем ставіць? Ложак яшчэ адзін... Старыя мы, цяжка на адным... Цесна ўдвух...

— Перагародку дарэмна рабіў: цесна ў хаце будзе. Калі нават адных сваіх, блізкіх паклікаць, больш за

дваццаць чалавек набярэцца. Сталоў пяць трэба накрываць.

— І не трэба марудзіць, Ясічак. Скора паўмесяца я ў цябе...

— Час нядобры, уборка пачынаецца... Людзі па восені гулянкі робяць. І Рыгора няма з курорта...

— Мы ж скоранька, Ясік... За адзін вечарок.

— Давай праз тыдзень, у нядзелю. Паспець бы падрыхтавацца! Трэба ж і тое, і сёе... Федзю тэлеграму даць — на Палессі недзе бадзяецца, песні збірае.

— Усядно, як тут, у нас, песень мала!

Ясь асцярожна і моўчкі павярнуўся на бок. Бокам, здаецца, не так цесна...

## Раздзел сёмы

I

Аўтобус газануў, зноў набіраючы скорасць, стрэльнуў чорным кольцам дыму. Аўдотка, злезшы, пастаяла на ўзбочыне, перабіраючы ў думках, ці нічога не забыла. Та-ак — мяшок за плячыма... Вядзерца пластмасавае, каб менш грукала ў лесе, у левай руцэ, плеценая з лубу карзінка — у правай. Паставіла вядро на дол, паляпала па кішэнях: нож тут, запалкі — тут... У мяшэчку за плячыма меншыя мяшэчкі і аборкі — хаваць зёлкі, вязаць у пучкі. Ёсць і асобны вузельчык з хлебам — вялікія скібкі мякішу, без скарынак, а паміж імі сыр і масла. Ёсць бутэлька малака, яблыкі-падалкі з папяроўкі. Да Спаса яшчэ амаль месяц, у чацвер Спас, дзевятнаццатага жніўня. Айцец Маркіян так казаў — Аўдотка запомніла... У каго з жанчын паміралі малыя дзеці, няможна тым да Спаса есці яблыкі. Бо не дадуць дзецям яблычак на тым свеце, у раі, пазірацьмуць дзеткі, бы сірацінкі, на тых, каму ангелы, трапечучы крылцамі, будуць зрываць з самых вяршэчкаў, самыя наліўныя і румяныя яблыкі. Аўдотка так яскрава ўяўляла райскую яблычную дзяльбу, што, каб прымела, намалявала б сама карціну пра гэта, павесіла б у царкве над алтаром.

У Аўдоткі дзеці малымі не паміралі. Бог мілаваў, бог гадаваў іх, пакуль не спатрэбіліся салдаты на вайну. Трое сыноў было ў яе, усе трое і не прыйшлі. Пажылымі ўжо загінулі, бацькамі сямействаў. Двое старэйшых пад Кёнігсбергам, малодшы згарэў у танку ў Бер-

ліне. Старэйшага сям'я недзе ў Маскве ці пад Масквой, селядоршага — у Новасібірску, малодшага — тут, у Слуцку. Жонка малодшага другі раз выйшла замуж, выгадаваўшы сына ад яе Сцяпанкі (ва ўнука ўжо свая сям'я ў Салігорску) і дзвюх дачок ад другога мужа.

Поўна ўнукаў і праўнукаў, а не ведае многіх з іх Аўдотка, і яны, мабыць, не ведаюць, што недзе дажывае свайго веку баба і прабаба.

Адна ў хаце Аўдотка. У хаце — адна, а так усе людзі ёй свае. Пяцьдзесят сем чалавек прыняла яна на свет — не жартачкі. Большасць, праўда, да вайны. Некаторыя ўжо самі бабамі і дзядамі парабіліся, маюць унукаў. А многім яна маці хрышчоная ці кума — месяца не хапае, каб абысці ўсе хаты ў сяле, у кожнай пагуляць, пра ўсіх пацікавіцца, распытаць, як жывуцьгадуюцца, памагчы якою парадаю, а то і палячыць.

Многіх лечыць, не радзей яе зазываюць, чым фельчара Каменскага. Чужых лечыць, а сябе не можа. «Арганізьма такая... Што паробіш — арганізьма...» — знаходзіла яна апраўданне. Смех і бяда: баіцца крапівы горш за дзіця. Калі ў грыбы едзе ў лес, надзене адныдругія панчохі, і добра. Калі ж у маліны — не менш трох. І то прабівае крапіва сваімі стрэламі-джаламі. Яшчэ маладзейшая была — і не вельмі моцна апяклася, а выпухла ўся, што калода. І рук было не падняць, і вочы запухлі, нібы пчолы «пачаставалі». А цяпер заходзіць у малiннік, то спачатку соўгае рукі ў рукавіцы, падшытыя скураю, ірве-выдзірае крапіву, расчышчае сабе пляцоўку для работы. Кожны год нішчыць крапіву ў гэтым малінніку, куды яна прыехала, а пякучкі не меншае. Прыходзіць новым летам сюды — ёсць! Быццам і не рвала. Раскашуе, пахаціць, ажно малінны дух перабівае.

Колькі разоў давала сабе слова Аўдотка, што прыехала ў маліны апошні раз і больш не паедзе. Блізкі свет — з перасадкамі дваццаць вёрст. А прыходзіла пара, спелі вішні ў садах, палавела жыта — і не магла ўседзець. Гэтак мо цягне з выраю дадому птушку, рыбу на месца нерасту, чалавека — да любімага чалавека: неадольна, без патолі, і не хапае моцы працівіцца, супрацьстаяць.

Любіла Аўдотка лес: здаецца б, і спала-начавала ў ім, абы каб бліжэй быў да Дубровы. Хоць і аставалася ў сяла лясная назва, а лесу добрага ў іх блізка ня-

ма — кусты па балотах, пералескі, астраўкі хвойніку на пяску каля Баравухі, у Хітруна. Іх яна абшастае па многу разоў за вясну і лета, за раннюю і познюю восень. Кожнае дрэўца, кожны кусцік ведае «ў твар». Памятае, дзе якую зёлку рвала, а дзе чакала, падгадоўвала, даспельвала, дзе яшчэ можна на ўзбалатку, пад лесам, выкапаць валяр'янаў корань ці «ракавую шыйку».

А ў далёкі лес Аўдотка выбіралася не кожны год. І маліну не везла дадому, чорт яе давязе цэлую. У Падгайнай, во тут, кіламетры два за балотам, жыве знаёмая траўніца і грыбніца, таксама старая ўжо. Да яе і заходзіць Аўдотка з «уловам». Разам перабіраюць ягады, разам вараць варэнне. Бывае, адсюль Аўдотка вывозіць зараз літраў чатыры-пяць варэння, а дома ўжо расфасоўвае ў слоікі па дзвесце, па чатырыста грамаў. Бо хочацца і таму даць, і таму — лякарства ж! Калі ж запозніваецца Аўдотка з лесу, то застаецца ў траўніцы начаваць, і тады яны ўвесь вечар п'юць чабаровы і ліпавы чай, выціраюць ручнікамі з расчырванелых твараў пот і зноў п'юць. Прамываюць «арганізьму»... І гавораць, гавораць, гавораць, аж пакуль ледзь не пазасынаюць за сталом ад стомы.

Усё цяжэй і цяжэй даюцца Аўдотцы гэтыя далёкія паходы-паездкі. Вось і цяпер — злезла з аўтобуса, прайшла крыху гравейкаю, звярнула потым на лугавую дарогу... Азірнулася на Падгайную — схавалася яна за кустамі ўжо ці не? Няхай хаваецца, дарогу Аўдотка ў лес ведае. Вось кончыцца луг, пачнецца асушанае балота. Пойдзе там паўз канаву, будзе глядзець направа і налева. Кожны год бачыла яна абапал канавы новае: то рэдкую, па метру каліва ад каліва, зарослую лебядою кукурузу, то буракі і моркаў, то заглушаны зеллем ячмень і авёс, то густую, у пояс сеяную траву. Урэшце пераходзіла канаву па зыбкай кладцы-карчажыне, перасякала апошнюю «карту» балота ўпоперак. З гэтай, апошняй, выдралі бульдозерамі кусты, выграблі, вывернулі высокім непрыступным валам на ўзлесак. Доўгі вал, мо на вярсту ўправа, на вярсту ўлева. Вал удзірванеў, урос, каторыя кусты засохлі, а каторыя, хоць і зняважаныя, прыжыліся на новым месцы. Маліннік і крапіва выбеглі з лесу, занялі гэты вал, разрасліся непраходнай гушчэчай. На ім хоць і было малін, але нейкія ўсё дробныя, папсаваныя чарвячкамі. Тут, на вале, ірва-

ла маліны толькі самы першы раз, калі не ведала яшчэ, што робіцца за валам, у лесе. А што там рабілася, маці божая! I хіба панаядаліся, панарываліся іх людзі, што маліны спелі і марна асыпаліся, ледзь кранеш рукою. Шызаватыя, сакавіта-набраклыя, духмяныя...

Аўдотка мінула балота, не чуючы яшчэ ніякай стомы. Ішла паўз канаву і дзівілася, што сёлета сцежка нейкая вельмі ж ужо зарослая, ваўчкі вымахалі вышэй каленяў. I хутка панчохі і спадніца ўкрыліся насеннінкамі, нібы восці паўбіваліся. Не чысцілася, не абрывала іх, рабіла гэта ў канцы, калі ўжо выбіралася з лесу, мінала зноў канаву. Саскрэбвала нажом — і хутка атрымлівалася, і чыста.

I сёлета на «картах» была трава. Справа першы ўкос знялі, зелянела трава. Мясцінамі каля канавы густа лапушылася шчаўе. Адны лісцікі, хоць касою касі. «От не ведаюць гарадскія, дзе шчаўе... Кажуць на зіму яго можна рваць, ставіць». Злева, за канаваю, траву яшчэ не скасілі, і яна перастаяла, іржава шамацела пад ветрам. Корч, вельмі падобны на саху з ралам, быў на месцы. Злезла да яго, памацала нагою, ці не хістаецца, перадыбала на другі бок. Мімаходзь заўважыла: вады ў канаве няма і звання. На бераг выбралася рачком... Ішла па траве, і высахлыя, саломістыя мятлючыны звінелі пад нагамі. «Што ж гэта за людзі... Тут жа столькі яшчэ можна было набраць сена... Хай бы ж калгаснікам размералі, калі калгасу была няўпраўка...»

Блізка лес, зусім блізка. Толькі нейкі зрудзелы, засохлы, сям-там сярод мёртвага і рыжага зелянелі елкі і сасонкі. Бляшаны скрыгат-шум далятаў з ветрам да бабчыных вушэй. Ніводная птушачка не падавала голасу з гэтага ўсохлага лесу, толькі недзе высока-высока кружыліся і злавесна крумкалі крумкачы.

Каля вала на ўзлессі тырчаў кол з дошчачкай. I нейкія словы-літары былі напісаны на той пахілай дошчачцы, але Аўдотка не стала іх разглядваць, расчытваць. Ці мала дзе што можа быць напісана?

Калі б нават на той дошчачцы быў намаляваны чалавечы чэрап, яна не павярнула б назад. Ну спынілася б, ну падзівілася б трошкі: каму гэта ўздумалася сярод лесу, сярод балота маляваць страхотлівыя цацкі? Ёй і ў галаў не магло прыйсці, што лес, родненькі лес, і гэтае няскошанае балота могуць таіць у сабе небяспеку. Яшчэ больш неймаверным і пачварным здалося б

ёй, калі б уведала, што гэтую небяспеку ўсяму жывому стварылі самі людзі і што тыя дзіўныя людзі нават верылі, быццам робяць вельмі карысную і добрую справу...

«І маліннік пасох... От жа пошасць нейкая напала... Мо тут якія маразы былі на балоце, у лесе... ці якая хвароба...» — Аўдотка ішла паўз вал доўга, выбіраючы, дзе больш уцалела зялёнага, дзе могуць быць ягады. Убачыла яшчэ адзін калок з дошкаю, але абвалены «тварам» у зямлю. Зайшла на гэтую дошку, патапталася на ёй, папраўліла панчохі — спаўзаюць і спаўзаюць, каб іх... «Лыткі ўсохлі, як у старое курыцы, панчохі не трымаюцца». І палезла цераз вал у лес.

Выпетраныя палкі-ражны падлеску трашчалі, аглушальна пэнкалі, нібы стралялі. За валам было больш зялёных плям, трапляўся жывы маліннік. Узрадавалася: ёсць маліны! Не так многа, як тыя гады, але ёсць. Калі пастарацца добра, то і сёлета не пойдзе з пустым вядром.

На сук усохлай бярэзінкі павесіла мяшок, каб здалёк быў відаць. Каля яго пакінула карзіну. Хай стаіць, грыбоў, мабыць, не трапіцца — суш. Надзела рукавіцы і ўзрадавалася, што крапівы не так і многа...

І яна рвала крапіву, асцярожна выблытвала сцяблы з малінніку, каб не вельмі трэсці. Ягады яшчэ не параспелыя, можна было б і смялей завіхацца, але шматгадовая звычка брала верх. Ачысціла колькі метраў, скінула рукавіцы — і за маліну...

«Ах, калінка-малінка мая...» Што за цуд, што за ягада. Паміраць будзеш, а пра маліну ўспомніш. Шмат дзіўных дзівос на зямлі, і ўсе яны застануцца людзям. Трэба, каб засталіся!.. Нічога, што сёлета тут усох лес, усох маліннік. Ён яшчэ ачуняе, дайце толькі час... І яшчэ шмат гадоў людзі будуць хадзіць у гэты лес, дзівіцца і радавацца ўсяму жывому... Хвойкі зелянеюць, а лаза ўсохла, крушыннік, і кусты грабу, і бярэзінкі, асінкі, дуб шамаціць жоўтым лістам, нібы ў сярэдзіне зімы. «У садзе ягада малінка мая...» Хіба ж параўнаеш садовую маліну вось з гэтаю? Дух нават не той, не кажучы пра смак.

Аўдотка з'ела адну жменю маліны, другую, падумала — і трэцюю. Так заўсёды яна рабіла ў пачатку работы. І каштавала — якія сёлета? І ахвоту зганяла. Потым уляжа ў работу, то не будзе калі і думаць пра

гэта, каліва ў рот не кіне. Нічога непрыемнага ў смаку не знайшла, нейкая гаркавінка быццам прыкідваецца, пахне трошкі дзёгцем. Ёсць кіславатыя, на́дзелень... Але ж ягады яшчэ першыя, на тыдзень раней яна сёлета прыехала.

Як душна ў малінніку, які ўдушліва-густы пах... Акрамя маліны і крапівы нейкай плесняй, нейкім тленам пахне, быццам на старых цяністых могілках. Сонца за сухмаркамі, але ўжо высока і прыпарвае, прыпякае. І вецер прыціх, нават маленькага ветру няма, каб разагнаў, разрэдзіў гэты пах.

Аўдотка цярнула па лбе рукавом, расшпілілася... Памалей трэба ўвіхацца, памалей. Куды яна не паспее? Хіба абавязкова набраць вядро з копам, а калі і менш крыху? Не тыя гады ўжо, не тая вытрываласць...

«Ах, дурная... Мо й зусім не трэба было сёлета ехаць: блізкі свет — дваццаць вёрст... Дурніца, думаеш, зносу табе не будзе, канца? У маліны надумала... Сядзела б дома каменем, чакала свайго часу...»

Яе ўжо трошкі нудзіла, хвалямі накатвала млоснасць, выступаў на лбе ліпкі пот. А язык зрабіўся шурпаты, не раўнуючы што ў каровы. Зноў укінула ў рот жменьку ягад... Слаба паддаецца работа, толечкі дно закрыла ў вядры, а трэба ўжо другую палянку шукаць...

Вярнулася забраць мяшок і карзіну. Куды лепш падацца — управа ці ўлева? А мо глыбей у лес? Але глыбока ў лесе менш малінніку, яна памятае з тых год.

Блыталася ў сухіх цурбалках, наколвалася на патырчакі і вострыя пеньчукі, ішла далей уздоўж вала. Не будзе заглыбляцца сёння. Справа, дзе больш святла,— балота, далёка ззаду — гравейка. Там ходзіць аўтобус, туды трэба будзе ёй выкіроўваць. А зараз працаваць, працаваць... Толькі вось рукі нейкія вялыя, адольвае слабасць... Спынілася, развязала мяшок. Адпіла крыху малака і адразу пачула сябе лепш... Пусты, мабыць, будзе сёння і мяшок, не знойдзе ніякіх зёлак...

Прабралася яшчэ крыху, зноў знайшла маліннік з ягадамі. Надзела рукавіцы, пачала апратваць месца ад крапівы. Пакуль збольшага парвала, прытаптала пякучку-стрыкуху, абяссілела ўшчэнт.

«Што гэта... са мною?! Няўжо... прыходзіць мой час? Божа, што ты надумаў... Мяне ж тут і людзі не знойдуць... І звяры могуць цела папсаваць...»

«Паляжаць крыху, адпачыць... Не трэба было гэтак браць папраўдзе, шчыраваць... І раней жа хапала за сэрца ў лесе. Паляжу крыху пад бярэзінкай — адпусціць. І во — не адзін год яшчэ пратэпала...»

«Або тады... на могілках... Ноч ляжала на сыром, сярод магіл. І чэрці не ўзялі... І шлунне направілася, вантробы. Не парваліся з натугі... Толькі цягліцы доўга балелі на руках і нагах, на жываце і спіне... А між рэбраў сіне было, крыві панабягала... Парвалася, мабыць, мяса між рэбраў...»

Прымеркавала пад галаву мяшок, выпрастала зручней ногі. Раскінула рукі, потым адну, левую, завярнула на грудзі. Пальцы гэтай рукі, і не хацела, а самі ўвесь час варушыліся, нібы абірала маліну ці зашпільвала гузікі. Бясконцае мноства гузікаў...

Выкарабкаецца... Павінна выкарабкацца і на гэты раз. Цяжэй было ў сорак трэцім. А выжыла, не памерла. І цяпер не памрэ.

«Я ж не ўсё яшчэ для людзей зрабіла... І нікому не перадала, што знала...»

«Божа, як у галаве коле... І нібы маланкі ўваччу... красаюць... І ўсё крыжам, крыжам... Як тады, калі Рыгора прыглушыла... І як тады — на могілках...»

## 2

...Яна ішла другі раз да Дзям'яна Пахвалёнага. Ішла мо праз паўгадзіны пасля таго, як вярнулася з Канапелькавага хутара. Ішла зноў міма *таго*. Ляжаў забіты пад плотам усё ў той жа позе — бокам, падняўшы калені, прыціснуўшы пабурэлыя ад крыві рукі да жывата. Без шапкі, проставалосы, валасы перамяшаліся з травою, нібы ўраслі ў дол. «Божачка, які маладзенькі... Мо і дваццаці няма. А недзе матка чакае, бацька...» Толькі паліцэйскі, якога пакінулі браць на заметку тых, хто зацікавіцца партызанам, не сядзеў на лаўцы, не дзёўб абцасам пясок, а хадзіў сюд-туд, закінуўшы карабін за плячо.

Дзям'ян на гэты раз выслухаў яе больш спакойна. «Згадзіўся, кажаш? Ну, Апанас чалавек надзейны...» — «Я яму сказала, каб глядзеў на маю страху... Ты ўзлезеш комін чысціць. Гэта знак Апанасу. Значыць, ты таксама згодны, што ён пойдзе, а не хто другі. Так і паразумеецеся...» — «Я ж твой нядаўна чысціў!» — «Нічога, шмарганеш... І проста ад мяне пой-

дзеш са сваімі прычындаламі да Апанаса, быццам і яму прачысціць трэба. А адтуль ужо нацяныкі, кустамі... Рыдлёўкі і лома не бяры, Апанас свае прыгатуе... Капайце з краю, у куточку,— помніш, дзе той лётчык ляжыць? Калі яшчэ рана будзе, не цёмна, то вернешся дадому — цераз хутар. Нідзе, знацца, не быў, комін у яго чысціў».— «О-хо-хо, як ты труну сама саб'еш?» — «Ды ўжо ж, як-небудзь... Дошкі ёсць, сабе на смерць хавала, пілка ёсць, цвікі... Я толькі нáкаса не ўмею вымяраць, вырэзваць. Каб форменна выйшла, як трэба. Але ўжо ж як выйдзе, так і будзе — нябожчык не пакрыўдуе».— «Чаго ж яму на нас... Ёсць на каго...»

Ішла міма забітага назад (чацвёрты раз!) — паліцэйскі ўжо сядзеў на лавачцы, выпруціў ногі ледзь не да сярэдзіны вуліцы, адкінуўся галавою да плота. Не той, што быў дасюль, а нейкі ж вельмі доўгі. І гэтак варту будуць мяняць тры дні. Немцы не становяцца пільнаваць, усё цюцькаў гэтых падтыкаюць, паліцэйскіх. Застрашыць людзей хочуць, каб не памагалі партызанам. Хто зачэпіць — пакараюць самога.

«Што, цётка, мо ваш знаёмы?» — Нібы прачнуўся вартавы, падабраў ногі, паправіў на галаве чорную пілотку.

«Ага, знаёмы... Гэтакі, як ты...» — агрызнулася, пайшла хутчэй.

Дома паскідала з вышак дошкі. Доўга вымяргоўвала, перш чым адважыцца рэзаць. Высокі, здаецца, той партызан, хоць і ляжыць скурчыўшыся, трэба з напускам рабіць, каб коратка не было. На спод дзвюх дошак хопіць, шыракаватыя дошкі. Іх можна брускамі-папярэчынкамі змацаваць. Але як зрабіць, каб труна «ў галавах» расшыралася і каб стаялі бакавыя дошкі разложыста, а не праменька, як, не раўнуючы ў свіным карыце? Счасаць бы, ды не счэшаш: сякера — тупіца, і не згаблюеш — няма гэбліка. Яна ведае, у каго паблізу ёсць шархебель. Але не пойдзе пазычаць, не... Яшчэ і да таго чалавека прычэпяцца. Хай ужо на яе ўсе грамы падаюць. Добра, што Апанас Канапелька і Дзям'ян гэты, Пахвалёны, згадзіліся... Дык тут ужо нявыкрутка, не абысціся без дапамогі. Праўда, выкапала б і яна магілу, нават не хавалася б ні ад каго. Але калі тое будзе! Цэлы дзень трэба адной капаць. А цела і так ужо другія суткі ляжыць...

«Хай мяне караюць, адну... Я пажыла ўжо... Дый

за што караць? Я гэта і немцам у вочы скажу: за што? Нічога на ўрэд германскім уласцям я не раблю. А мяне скараеце — сабе больш ліха наробіце. Усе ўбачаць, якія вы душагубы, нявінных людзей забіваеце...»

Цвікі былі ржавыя, не хацелі лезці ў дошкі. Ды яна і біць правільна не ўмела, не магла добра выпрастаць перад забіваннем. Каторыя дык скручваліся, як гадзюкі... Ды адкуль ім быць пруткімі? Назбірала на пажарышчы... І яна зноў і зноў выдзірала іх, сяк-так выпроствала на старым, ссечаным на жолаб парозе, зноў заганяла...

І раптам нібы скруціла сэрца жгутом: як яна адна апусціць труну ў магілу? Збівала вечка, а ў галаву шыбала гарачым: як? як? як?! А пра тое, як адна падыме і прывяжа партызана дадому, як будзе мыць, класці ў труну, як будзе адна грузіць тую труну на каляску, сама везці на могілкі — два кіламетры, а там яшчэ і на гару ўзбірацца, пра гэта не думала, быццам усё было ззаду і заставалася апошняе: апусціць труну з целам у магілу. Па чатыры чалавекі нясуць труну з нябожчыкам, а то і па шэсць. І то як панесці ім — без вечка! Апускаюць дамавіну ў магілу на ручніках — учатырох, а то і ўвасьмёх. А што яна зробіць адна? І як?!

Знекуль падпаўзла здрадніца думка: а нашто ўсё гэта яна робіць? Ну, кончацца суткі, ну — пройдуць яшчэ адны, трэція, дазволяць жа ўрэшце пахаваць чалавека, нармальна, спакойна, як гэта робіцца ў мірны час. І спужалася свае думкі: хіба ж можна такое дапусціць! «Яны ж, нелюдзі, над нашым чалавекам здзекуюцца, нават нябожчыка ў спакоі не пакідаюць. Нябож-чы-ка... А гэта ж такі грэх, такое кашчунчаства...» Дый хацелася хоць у нечым процібарстваваць гэтым прыхадням, не скарацца іхнім загадам.

Усцягнула на труну вечка — падыходзіць ці не?

Не вельмі... Але цвікамі захопіцца, прыб'ецца да труны. Толькі трэба пашукаць добрых, непарагарэлых, хоць пару штук.

Пайшла ў хлеў, прынесла бярэмка сена, растрэсла мякка ў труне, «у галавах» намасціла вышэй. Заслала сена старэнькаю посцілкаю.

Хату не замыкала, накінула толькі пятлю на прабой, заткнула палачкаю. Пад плотам стаяла каляска-двухколка: вялікаватая, на добры, у тры полкі, мяшок. Жалезныя колцы моцныя, нават не ведала, дзе ўзяў та-

кія малодшы сын Сцяпан, заказаў пад іх воську ў кузні. Астатняе, скрыню і дышаль, сам рабіў — масцеравіты быў...

Шаргочуць колы, павіскваюць — даўно не мазалі. Цяжка цяпер дастаць якога тавоту ці дзёгцю.

«Сядзіць паліцай, каб яму ляпа села... Што ён хоць будзе рабіць, цюцька гэты... Абы каб прыкладам па галаве не цаляў...»

Пустая вуліца, як вымерла. Ні сабакі, ні курчаці, ні людзей. Каля школы толькі, дзе гарнізон, многа і зялёных, і чорных мундзіраў. Ці строяцца, ці ўжо разыходзяцца са строю... Нейкія каманды-выкрыкі, гамана... «Міма іх давядзецца на могілкі везці. А мо разыдуцца да таго часу?»

Задрамаў, мабыць, паліцай: пілотка на носе, ногі — на сярэдзіне вуліцы. «Не даўмелася салам несалёным змазаць... Каб маўчалі, не піскнулі...»

Рашуча пакіравала да плота, пад'ехала да цела блізенька, ад ног. Задрала ўгору дышаль, і скрынка стала заднім бортам на зямлю. Паштурхала яе ў такім становішчы, каб больш падсунуць, падбіць пад цела. Добра, што небарака ногі падкурчыў...

— Эй, ты што? — ачуняў ад дрымоты паліцай, усхапіўся на ногі.— Стой, страляць буду! — кінуўся з карабінам да яе.

— На ў с... мне стрэль! — павярнулася да яго задам, нават ляпнула па тым месцы. Падхапіла партызана пад плячо — заваліць у скрынку (увесь бок быў цёмны ад крыві). Паспела яшчэ націснуць леваю рукою на дышаль, а праваю прытрымаць, каб неываліўся нябожчык назад. Дышаль упаў на зямлю, дрэгнуў, саспружыніў.

І тут паліцай даскочыў да яе, ірвануў за каршэнь, ледзь устояла на нагах. Рэдкія, ссечаныя валасы вырваліся з «куклы», апалі ёй на твар.

— ...твалю маць! Вывальвай назад! Ты арыштаваная!

— Гіцаль ты! Душагуб! — пайшла на яго, ніжучы вачыма, скурчыўшы пальцы,— атрымаліся нібы вялізныя кіпцюры.— Я табе павырываю іх! Калі бельмамі зацягло! Калі стыду не баяцца! Я табе ў маткі гаджуся, а ты мяне «па матушцы»!

— Не падыходзь!!! — наставіў карабін паліцай.

— Сябе арыштуй! Праспаў усё на свеце: стараста

сказаў — «Пахавацы!», а ты тут...— і падняла дышаль, каб везці.

— А чаму я нічога не ведаю?! Стой! Чаму мяне з паста не знялі?

— От схадзі і папытай! А мне не замінай... божую справу рабіць.

Паліцэйскі разгублена пакруціўся туды-сюды, не ведаў, куды кінуцца спачатку — у бок дома старасты ці ў гарнізон.

А яна ўжо тупацела, угнуўшыся, і за ёй лёгка кацілася каляска — было з горкі. Ногі забітага звешваліся ў левы бок, старыя керзачы церліся аб кола, прытармажвалі. Але папраўляць не было калі, дый наўрад ці ўладкуеш у скрынцы: хлопец у калясцы здаўся як не ў два разы большы, чым там, пад плотам.

— Я ведаю, ведзьма, дзе ты жывеш! Калі схлусіла — жывую закапаем!

У двор забегла ледзь не бягом — набрала разгон. Каляска нібы задала тэмп, і Аўдотка далей рабіла ўсё ў ліхаманкавай паспешлівасці. Ёй здавалася: калі выйграе час, то ўсё і абыдзецца.

Добра, што нявесткі з дзіцем не было дома. Пайшла ў Баравуху да маткі і загасцілася. Ніхто не будзе замінаць... І памагаць. «Хай усе кары — толькі на мяне... Я вінаватая — мяне і вінуйце!» — каторы ўжо раз паўтарыла гэта як заклінанне.

Збегала ў хату, чарпнула конаўкаю вады. Паліла сабе на руку, хуценька прамыла нябожчыку́ твар, больш — тую шчаку, на якой ляжаў. З цяжкасцю адвяла яму здранцвелыя рукі ад жывата, павымывала крывяныя рудыя пацёкі між пальцаў — хоць збольшага.

Развярнула каляску заднім бортам да дзвярэй, нават уссунула трохі скрыню на парог (замест усходцаў быў кавалак дылі). З-пад плота прыкаціла сукаватую калодку, на якой секла галлё, падставіла пад дышаль...

«Госпадзі, памажы...»

Цяжка перад сабою падымаць, жывот адразу нібы схапіла сутарга. Пераступіла парог бокам (замінала каляска), мацаючы нагамі, каб не ўзбіцца на які абрэзак дошкі, дашкрабала да труны, паціху паклала, быццам баялася разбудзіць ці прычыніць нябожчыку боль.

Паспешліва, сілком выпрастала яму ногі, скрыжавала на грудзях рукі. Ледзьве разагнулася сама — кальнула ў крыжы. Перавяла дух, цярнула далоняй па

твары, закінула за вушы пасівелыя космы — матляліся, калолі ў вочы. «Вой, што ж я зрабіла, дурніца? Як жа я пастаўлю дамавіну на каляску? Сценкі хіба ў скрынцы выламаць... Пярэднюю і заднюю... Дзе тая сякера? А во, пад лаўкаю...» Гах! Гах! З двух udaраў абухам адскочыла пярэдняя сценка. Задняя — з трох...

— Вось!.. Вось яна! Гэта яна! — закрычаў хтосьці ззаду віскатліва, на зрыве. Павярнулася — і ледзь не натыкнулася тварам на палец доўгага паліцэйскага.— У-у, сцерва! — замахнуўся наводмаш. Яна не ўздрыгнула, не адхіснулася, толькі рука мацней сціснула тапарышча, тузнулася. Не ўдарыў паліцай, зіркнуў назад, на немца-афіцэра. Афіцэр умэнт папераджальна ўскінуў далонь. (Ледзь не поўны двор навёў з сабою паліцай — і ў зялёных мундзірах, і ў чорных.)

Афіцэр яшчэ раз падняў далонь і палез міма каляскі ў сенцы, а даўгалыгі паліцай вырваў з яе рук сякеру, шпурнуў за плот, у грады. Баяўся, мабыць, каб не пусціла ў ход. І немцы, і паліцэйскія абступілі каляску, разглядалі, мацалі, каторыя паўсоўвалі галовы ў дзверы. Нібы забылі, што яна ёсць на свеце, што стаіць вось тут, побач з імі.

Немцы і паліцэйскія адхіснуліся ад дзвярэй, нібы адаткнулі праём, выглянуў афіцэр.

— Ві это дзелаць адзін? Одэр два? Тры? — і асцярожна ступіў ■ сянец міма каляскі.

Яна маўчала, не разумела, чаго ад яе хочуць.

— Атвець афіцэру: хто яшчэ тут... хто памагае? — крыкнуў, нібы яна глухая, даўгалыгі.

— Ніхто,— зірнула на яго і гідліва зморшчылася.

— Ну-ну! — афіцэр адступіў на крок ад каляскі, каб не замінаць, запстрыкаў запальнічкаю — закурыў.— Это есць твой сын?

— Не,— пакруціла галавою.

— Это есць сын... дзярэфня?

— Нікс,— успомніла яна раптам адно нямецкае слова. «Во зараз... Зараз і мяне стрэльнуць... Во зараз...» Яна паглядзела сабе пад ногі — куды ўпадзе? Ці чыста хоць тут?

— Продолжаць! — дазволіў афіцэр.

«Дазваляюць... А чаго ж не ідуць з двара? Чаго стаяць, лупяцца? Каб ім павылазіла...» — І яна раптам нібы забыла пра іх прысутнасць.

Накрываць труну ці не? Не, спачатку без вечка, усё

такі лягчэй будзе. Падшчаміла пальцы (дол быў няроўны, гліняны ток) — р-разам! Амаль не падымаючы, ірванула на сябе. Працягнулася труна на паўступні, але ад напружання прыліла кроў да галавы, уваччу замільгалі цёмныя мушкі. Яшчэ разок — на сябе... «Во, дурніца... Трэба было пустую ставіць... А тады яго ў труну...» Але валакла, глядзела на другі канец труны, дзе выдзіраліся доле палосы-драпіны. Гэтак, адступаючы, зайшла ў каляску, і каляска захісталася пад нагамі: вось-вось хрупне, «зложыцца» ў кучу або вывернецца з-пад дышля калодка, і тады... Азірнулася — ступаць далей не было куды, трэба злазіць на дол ці пераступаць на дышаль. А пальцы ўжо не свае, вось-вось расшчэпяцца, і яна адразу ўявіла, што будзе: бабухне труна ў скрыню, зашчэміцца між бартоў — не скранеш, не выдзераш. Каляска будзе пераважвацца ўзад, дышаль задзірацца ўгору — не ўтрымаеш. І яна ступіла на дышаль: яшчэ маленькі крок, яшчэ на паўступні працягнула... Больш не змагла, труну заклінілі барты. Выпусціла дамавіну і сама саскаўзнула-ўпала з дышля, абіваючы і абдзіраючы ногі...

Калі пасвятлела крыху ў вачах, калі адхліпнула-аддыхалася, сплёўваючы густую і горкую сліну, убачыла: труна крыху перакошаная, галава партызана павярнулася на правую шчаку.

Сядзела на дышлі да немцаў і паліцаяў спінаю і не бачыла, што рабілі яны, як глядзелі на яе. Але чула: тут яны — саплі, пыхкалі дымам, цыркалі слінаю... Так і ўстала, не паварочваючыся да іх, паправіла партызану галаву — каб ляжаў дагары. Пальцы ўжо слухаліся, хоць і трымцелі — не суняць.

Палезла цераз парог у сенцы...

Вечка ўсцягнулася хутчэй. Прыбіла яго цвікамі «ў галавах», «у нагах», кінула малаток пад сцяну. Узялася за дышаль і адштурхнула нагою калодку, каб не замінала разварочвацца.

Пайшла, угнуўшыся ледзь не да зямлі, на іх — на частакол ног у ботах, у чорных і зялёных штанах. І тыя расступіліся, далі дарогу.

— Гы, ну й старая! Трохжылая...— сказаў хтосьці з паліцаяў і нібы падавіўся.

Дышаль трымала пад праваю рукою, гняла яго ўсім цяжарам дадолу, бо каляска рвалася пераважыцца назад, адарваць Аўдотку ад зямлі. Босыя ногі заглыб-

5 Зак. 347

ляліся ў пыл, падкурчаныя пальцы ажно ўпіваліся там, пад пылам, у цвёрдае. Часам бралася аберуч за палачку-папярэчку, убітую ў канец дышля, і тады гэты канец апынаўся ў яе ззаду, нібы цэліў у крыж, а рукі вырывала, выкручвала з суставаў, нібы хто хацеў падцягнуць яе на дыбе.

«Не стаяць... Не спыняцца ў сяле... Яшчэ трошкі — і на горцы буду. А там спуск у канец вуліцы... Потым роўна з кіламетру будзе... Абы каб дамавіна не з'ехала — не пастаўлю зноў...»

Драла, чаплялася і рукою за зямлю, прыпадала то на адно, то на другое калена, заціскала дышаль то пад левую, то пад правую руку і краечкам вачэй бачыла: то ў адных варотах, то ў другіх з'яўляюцца людзі — жанкі, старыя. Хрысцяцца, здымаюць шапкі, штосьці шэпчуць. Амаль на самым пуку, калі яна ўпала на калені, хтосьці з дзядоў памкнуўся ад варот да яе, каб падтрымаць, памагчы адолець самыя цяжкія метры. Але на яго тут жа «авэкнулі», нават затворам ляснулі, і стары закапыціў на месцы, павярнуў назад. Гэты адрэзачак яна адолела, адпаўзаючы задам, ледзь не кладучыся на спіну. Цягнучы на сябе дышаль, жалубала пясок, выворвала пяткамі раўкі... Скрозь чырвань слёз і поту бачыла, што і немцы, і паліцэйскія ідуць за каляскаю, нібы ваўкі за якою падраненаю аленіхаю. Прыпыняліся, калі і яна прыпынялася. Быццам выбіралі момант: вось-вось зусім абляжа, тады рынуцца зграяй, перакусяць горла, разарвуць на мэтлахі... І будуць глытаць, давіцца, захлёбвацца, ляпаючы пашчамі, аблізваць скрываўленыя пысы доўгімі чырвонымі языкамі. Першым важак кінецца — афіцэр...

Не дасць яна ім гэтую апошнюю пацеху справіць, не дасць...

На самым пуку, на мяжы сіл і змогі ўпала дагары, бо раптам каляска лёгка падалася на яе, ажно штурхнула дышлем у грудзі. Сцямнела ўваччу, і нібы свядомасць адключылася. Але праз імгненне Аўдотка пачала ўставаць. Уставала доўга, абы варушыцца, абы ворагі бачылі, што яна не аблегла, як мёртвая. І гэты час, пакуль пераварочвалася на бок, потым станавілася на калені, падымалася на ногі, заціскаючы дышаль пад пахаю, драбіўся на доўгія секунды і долі секунды. І калі зусім выпрасталася, адчула — зможа брысці, зможа і далей сапернічаць з гайнёй. Трошкі тузанула за ды-

шаль, і каляска з труною лёгка зрушылася з месца і пакацілася на яе, прыспешваючы, падштурхоўваючы. Яна заперабірала нагамі часцей, потым пабегла, ледзь стрымліваючы грубы напор цяжару.

Каля школы прамчала на ўвесь дух, і толькі краем вока скмеціла, як да плота сыпанулі ўсе, хто быў на двары, загалёкалі, занокалі, затпрукалі, як на каня. Рэхт, дзікі свіст, гыгыканне. А яна бегла, і адно было ў галаве: каб не ўпасці, каб не збіла [redacted] ног каляска, каб не кульнулася набок разам [redacted] дамавінай, або каб не з'ехала, не ўпала з яе дамавіна. Забыла нават пра тых, што ішлі (ці беглі?) за ёю, і толькі за вёскаю ўдалося прыцішыць бег. І калі азірнулася, то ўбачыла: ідуць за ёю, толькі зялёныя мундзіры, толькі немцы.

І больш не азіралася. Яна раптам паверыла: і давязе, дадуць ёй давезці нябожчыка, і ўзвалачэ на могілкі, хоць там больш крутая гара, і пахавае... О, божухна, а рыдлёўку яна не захапіла! Прыйдзецца прыгаршчамі засыпаць... Не будзе толькі чым нарэзаць дзёрну, каб абкласці той курганок.

Вось тут, на лужку, за вёскаю, ляжаць рэшткі савецкага самалёта. Цягнуў, густа дымячы, за Ва́верку, каб не ўпасці на хаты, развярнуўся, каб не ўбіцца ў рэчку... Уся сярэдзіна выгарала, паплавілася на лепяхі. Валяліся кавалкі крылляў, тулава, хваста. Квадрацікі і прамавугольнікі бляхі, ад заклёпак да заклёпак, павыдзіралі людзі, рабілі з іх грабянцы. І дасюль патыхала ад самалёта нечым едкім і пахам паленага парашутнага шоўку. Ніяк не выветрыцца гэты пах, хоць ужо два гады прайшло, як упаў самалёт... Расказвалі людзі (на самы той час Аўдотка не паспела, прыйшла пазней), што з самалёта вылезлі двое лётчыкаў (адзін [redacted] абгарэлым тварам, усё трымаўся за вочы), пасядзелі крыху зводдаль, плачучы, слухаючы, як крычыць-енчыць, канчаецца іх паранены таварыш. Залез ад агню, ад гарачыні ў самы хвост. Не маглі яго ўратаваць, не маглі дастаць з-за агню і з-за таго, што ў самалёце пэнкалі-ўзрываліся патроны. Усталі потым тыя двое, пайшлі, падтрымліваючы адзін аднаго, у Беразань за Ва́веркаю. А перад гэтым папрасілі хлапчукоў і дарослых, што набеглі к таму часу, каб пахавалі іх таварыша. А саміх лётчыкаў пераапранулі на пасёлку ў цывільнае, змазалі апёкі гусіным тлушчам, далі хлеба і сала, паказалі дарогу на лес...

Магіла таго лётчыка ў кутку адразу пры ўездзе на могілкі. А дзе выкапалі дол партызану? «Не здагадаюцца самі, каб побач з лётчыкам... А так бы добра было потым абгарадзіць гэтыя магілкі разам... Як нашы прыйдуць...»

На горку, дзе могілкі, узабралася з разгону і без пярэдыху. Ці вопыт набыты памог, ці звыклася яна з гэтымі нечалавечымі высілкамі? Быццам ёй і суджана было апошнія хвіліны жыцця пражыць, цягнучы гэтую жудасную паклажу.

«Малайцы, там, дзе трэба, выкапалі... Побач з лётчыкам, бліжэй да краю... Не трэба па кустах драцца...» Пакінула пакуль што каляску з труною на беражку шырокай і неглыбокай канавы, якою быў абведзены чатырохкутнік могілак. Узышла на пясок каля ямы, і нага адразу намацала дзяржальна рыдлёўкі. Вывернула яе з пяску... «Малайцы... Толькі ці ўдала дадому вярнуліся? Хоць бы не пайшлі душагубы па іх слядах...»

Пастаяла, успёршыся на рыдлёўку, цяжка і пакутліва думаючы: як? Як апусціць труну ў магілу? Расчысціла на беражку пясок з заходняга боку — проста так, яшчэ нічога не прыдумаўшы. Ворагаў, што паселі на траву на беразе канавы і зноў закурылі, нібы не заўважала. А тыя сядзелі цярпліва і зларадна, чакалі самага вялікага прадстаўлення: як яна будзе апускаць труну?

Пачала капаць яму-ровік — нібы працяг магілы, толькі з нахілам у яе. Крыху шырэй нават, чым магіла. Доўга капала...

А ворагі цярпліва чакалі...

Скончыла — падгладзіла дно ровіка-скоса, падскрэбла і выкінула з дна нацярушаную зямлю.

А ворагі — чакалі...

З разгону каляску гайданула ў канаве, ледзь не вывалілася труна. Зманеўравала, каб труна нацэлілася з захаду па даўжыні магілы... Пхала перад сабою ўгору, чуючы, як вылазяць на лоб вочы, як лопаецца шлунне. І дапхала, і вытузала, вырвала двухколку з-пад труны, пусціла каляску ў роў — ажно немцы паўсхопліваліся, каб не наляцела на іх. Падышлі да магілы і яны, пасталі наўкруга з напружана-цікаўнымі тварамі...

«Крумкачы... Во зараз... Каторы толькі — афіцэр ці той, з аўтаматам? Стрэльне — і я ў яму. Замест партызана...»

«Божа, хоць бы не пераблытаць, дзе ногі, а дзе галава... Я во так везла, во так вывернула каляску... Ага, на захад галавою, так і трэба...»

Патузала крыху труну, каб акурат уцэлілася ў выкапаны ровік-жалоб. Цяпер бы развітацца з нябожчыкам, пагаласіць-папрыказваць. Некаму ні галасіць, ні адпяваць. І няма калі...

«Госпадзі, упакой яго душу з самымі святымі з усіх святых»,— перахрысцілася сама, перахрысціла дамавіну і яму.

Цяпер бы сыпануць манетак у магілу, як людзі робяць. Памацала ў кішэнях, звычайна ж валяліся па некалькі штук... Дастала — нямецкія пфенікі... І ніводнай савецкай, нават пятачка! «Не гадзіцца такія сыпаць... Лепш ніякіх...»

«Госпадзі, памажы!..»

Да палавіны ровіка-жолаба труна ўсунулася добра і — стоп! Аўдотка павярнулася на бок, уперлася плечуком — «Р-ра-а-аз!..». З'ехала па ровіку труна, уперлася тарцом у дно магілы. Яшчэ больш павярнулася сама, уперлася плячыма... Ірваліся цяглiцы на нагах і жываце, трашчалі плечы і рэбры... Яшчэ на пядзю прасунула, не болей...

Дастала з берага рыдлёўку, легла на труну ўніз галавою, адкапала, адкідала пясок, што ўздыбіўся валам перад труною. Выпаўзла наверх, зноў уперлася плячыма ў тарэц труны. Цела яе лямантавала суцэльным смяротным болем, ад напругі ў вачах бліскалі крыжы і маланкі... Яшчэ на дзве пядзі прасунулася труна... І ўсё, і ні з месца!

І тады ўкленчыла ў жолабе, прасцерла рукі да чырвонага, як пажар, захаду: «Госпадзі!.. Госпадзі!!! Гос!.. па!.. дзі!!!» І праклён, і здушана-хрыплы лямант ірвануўся з грудзей у неба. Устрэсала кулакамі, ускідвала над галавою сашчэмленыя рукі... Ламала іх, ірвала на сабе валасы... І да ворагаў павярнулася, да іх мордаў і бельмаў працягнула чорнае кручча рук. І яшчэ больш страшны праклён-лямант абрушыла на іх галовы...

Пярэдні з гітлераўцаў стаяў на крок бліжэй да магілы, ён канвульсіўна тузнуўся, і аўтамат сам апаў з-за пляча ў рукі. Адцягнуў затвор, зірнуў на афіцэра — «Канчаць?».

Афіцэр аднабока скрывіў твар, як ад зубнога болю, мармытнуў — «Фэрфлюктар...» — і пусціўся подбеж-

кам з пагорка. Галаву ўцінаў у каўнер, нібы яго пранізвала сіверам. Аўтаматчык даў чаргу над Аўдотчынай галавою, і ўсе затрусілі следам за афіцэрам.

...Яна слаба памятае, як яшчэ двойчы лазіла-саскоўзвала па нахіленай дамавіне ў магілу, спрабавала калупаць, выкідваць зямлю, якую ўзворвала сабою труна. Толькі да палавіны доннага лёгвішча засунулася труна, ды так і засталася нахіленай...

Помніць, што калі першы раз апрытомнела, то ўразумела — ляжыць на прысыпанай магіле. Стогнучы ад болю ў парваных мышцах, павярнулася тварам дагары — над галавою зырка гарэлі незнаёмыя вялікія зоркі.

Другі раз ачнулася пры сонцы. У кустах звонка ценькала пташка...

Трэба было падымаць сябе, дарабляць магілу.

## 3

То калі тады яна выжыла, устала, няўжо сёння не зможа адарвацца ад зямлі?

«Зямліца-матухна... Жываглотка... Як жа прысмоктваешся ты да цела!.. Хочаш выпіць мяне ўсю?.. Растварыць у сабе?..»

І яна ўстала. Зноў ірвала маліны і ўжо не заўважала, ёсць крапіва ці не. Не бачыла добра, якая і ягада бярэцца.

Сноўдалася па лесе, і туман гусцеў у вачах, шукала новы маліннік і не цяміла, у які бок брыдзе, што шукае.

«Хаджу па барах-лясах, па цёмных чашчобах, па балотах-жываглотах... Па шчырых грыбах, па чорных чарніцах, па мілых малінах... Хаджу не блуджу, з сонцам і месяцам, яснымі зоркамі дружу... Табе, лясун-красун, кланяюся... Са мною не вадзіся... Адчапіся, адкасніся, у яловы корч абярніся...»

Недзе пакінула карзіну і мяшок і ўжо не магла іх знайсці. Хапалася за дрэвы, каб перачакаць, уціхамірыць кружэнне ў галаве, млоснасць пад грудзьмі. Садзіцца баялася, думала, што больш не ўстане.

І зноў ішла-брыла, адчуваючы, што на целе то сям, то там дрыжыць лапінкамі скура, не раўнуючы бы ў каня. Плечы змакрэлі, шчокі казыталі кроплі поту. І крычала да хрыпаты, мо хто ёсць жывы, мо паможа, мо выведзе?!

Ціха і глуха было ў лесе.

Зялёна дуброва ты мая...
Ой, хадзіла, заблудзіла я.
Клікала ойчаньку — не даклікалася,
Клікала роднага — не даклікалася....
А, здаецца, той лясок
не высок —
Не выходзіць да людзей
галасок!..

## Раздзел восьмы

Машына моцна гэцнулася на калдобіне. У багажніку штосьці ляснула, звенькнула.

Гардзей больш не вытрымаў.

— Тармазі, артыст... Звярні к боку і стань!

Сяргей скінуў газ, прытармазіў проста сярод дарогі.

— Кажу — да кювета падвярні...

— Дык нікога ж няма! Ніякага руху на дарозе.

— Правіла ёсць правіла.

— Сяргей! — папракнула маці з задняга сядзення. А Наташа дала яму таўхаля ў спіну.

Сяргей нехаця з'ехаў убок.

— А цяпер вылазь...

Сяргей вылез, абышоў машыну спераду. А бацька вылез і пайшоў да багажніка. Памарудзіў, нібы ўспамінаў, што там магло бразгаць.

Сеў за руль сам. Памяняліся месцамі і дзверцамі стукнулі амаль адначасова.

Гардзей глянуў у люстэрка, ці не едзе хто, плаўна зрушыў з месца і прыбавіў газу, пераключыў хуткасць.

— Цімохіна ведаеш? — сказаў, гледзячы толькі ўперад.

— Агранома? Ведаю...— Сяргей трохі крыўдліва, трохі фанабэрыста надзьмуў губы.

— Дык от... Бачыў раз... Пустая палявая дарога, трэба яму з матацыклам на сцежачку між пасеваў з'язджаць... Управа... Выставіў руку! Сярод поля, нідзе ніякага руху... Што значыць дысцыпліна ў чалавека!

— Трыста гадоў пражыве! — буркнуў Сяргей.

— Трыста не трыста, а не скруціць галавы, як ты! — сварліва сказала маці.— Не давай ты яму больш садзіцца за руль!

— У мяне, прамежду прочым, таксама правы ў кі-

шэні...— Сяргей глядзеў перад сабою, пакусваў ніжнюю губу.

Наташа прадэкламавала з фальшывым пафасам:

— «И какой же русский не любит быстрой езды!»

Яна паглядвала ў левую шыбу, але нічога не бачыла: кусты і дрэвы зліваліся ў мігатлівыя палосы, адбягалі ўзад.

Сяргей займеў правы ў інстытуце, на чым толькі не ездзіў. А Наташа была за рулём «Жыгулёў» разоў патры — без ніякіх правоў! Сяргей падвучваў, даваў пакруціць баранку. Але бацька, даведаўшыся пра гэтыя практыкаванні, накрычаў: «Ты яшчэ малая! І ўвогуле — чаму ён цябе навучыць, гэты гоншчык? Ліхачыць?»

— У Амерыцы ў школе вучаць вадзіць машыну. Усіх пагалоўна! — сказала яна, памаўчаўшы.

— І правілы дарожнага руху. Нават спачатку правілы, а тады матэрыяльную частку, ваджэнне. А вы? Вам абы да руля дапасці! — Гардзей прытармазіў: ад сустрэчнага грузавіка валіла з ветрам цераз дарогу, загароджвала бачнасць доўгае воблака пылу.

— Унь міліцыянер у тэлевізары гаварыў, палкоўнік... Тысячы чалавек за год разбіваюцца і калечацца! — сказала маці.

Сяргей прамармытаў сам сабе:

Как памру — пахаронюць
З маладых, юных лет...

Палез у кішэню па цыгарэты.

— Не куры ў машыне...— кінуў на сына кароткі позірк Гардзей. І зноў вочы ўперад, на дарогу.— От я дзіўлюся: адкуль гэта ў цябе?

— Што? — хуценька перапытаў Сяргей.

— Усё! Замашкі нейкія... Не нашыя... Бачыў я, як за рулём сядзіш. Ты і не ведаў, што я за табою паглядаю. Уга-а, колькі пыхі... Локаць з акенца... «небрежно» так... Акуляры чорныя, цыгарэтка... Попел манерна, мезенчыкам — трусь-трусь за акно. Каго ты з сябе разыгрываеш?

— Дэндзі лонданскага... Блакітную кроў! Ха-ха! — падкалупіла сястра. Сяргей не зрэагаваў.— Гэта ён перад Сонькаю суседскаю выпендрываўся,— дабавіла Наташа і абаронна ўскінула рукі, уліпла ў куточак: «Мама!» Бо Сяргей рашуча нагнуўся цераз сядзенне ўзад — «Камарыха!», склаў пальцы даць пстрычку ў лоб.

— Сярге-ей! — маці перахапіла руку, адагнула-кінула назад на пярэдняе сядзенне. Яшчэ і ў карак штурхнула.

— Трэба мне... вашы Сонькі...— выдыхнуў, суцішваючыся, Сяргей.

— Арты-ыст... Яму цяпер графіню падавай! — куснула зноў Наташа, і Сяргей цяжка павярнуўся да яе ўсім торсам, бліснуў вокам. «Ма!..» — зноў ускрыкнула Наташа.

Стрымаўся, але ўсё ў ім кіпела. Адчыніў фортку, хуценька закурыў і пускаў дым, нахіляючыся да яе. Маці ззаду ўсё роўна закашлялася, і Сяргей, моцна зацягнуўшыся, пстрыкнуў цыгарэту за борт.

— Ну — і ты ведаеш, куды яна паляцела? — прытармазіў бацька, скіраваў да кювета.

— Што?

— Цыгарэта! Кругом такая сушыня, тарфянікі... Упаліць лёгка, а патушыць... Чытаў жа мо, як пад Масквою было.

— Чытаў некалі... Ды што вы сёння на мяне наваліліся? — запсіхаваў урэшце Сяргей.

— Наваліліся... Вылазь! На цябе не так трэба наваліцца... Падумаць толькі — тры курсы правучыўся... Тры! І раптам — лейцы пад хвост трапілі.— Бацька, а за ім Сяргей і Наташа пайшлі назад паўз кювет, канаўкаю і па броўцы, «прачэсваючы» сівую ад пылу траву. Знайшоў недакурак сам Сяргей, добра запляваў яго, раструшчыў у пальцах.

— Я ўжо казаў, магу і яшчэ паўтарыць... Не падабаецца мне інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі. Не мая гэта работа! — Сяргей першы ішоў да машыны, гаварыў, не паварочваючыся да бацькі і Наташы. І ў машыну сеў першы.

— Спужаўся, што пашлюць у калгас на работу,— сказала Наташа, заняла сваё месца.

— А што — хіба ў калгасе не людзі жывуць? — дабавіла і маці, ляпнула дзверцамі.— Але ж не абавязкова і вяртацца ў калгас. Людзі, якія тэхніку ведаюць, усюды трэба.

— Наташа — памаўчы... І ты, Ларыса... Дай нам пагаварыць хоць раз. А то прыехаў сын — у вочы не бачу. Дык, кажаш, механізацыя сельскай гаспадаркі — не твая справа... А ты ўпэўнены, што з цябе выйдзе доб-

ры артыст? Нешта я за табою такіх талентаў не заўважаў. Ды не думай, што ў артыстаў хлеб лёгкі.

— Выйдзе! Дай толькі пастуціць...

— Вот-вот! А ці пройдзеш па конкурсу — бабка надвое гадала. І механізацыю кінеш, і ў тэатральны не пастуціш... Тады адно застанецца — у армію. А ваенкамат, павер мне, не будзе чыкацца, не дасць лодырнічаць... А цяпер падлічы: тры гады гэтага інстытута, тры гады арміі — шэсць...

— Два ў арміі служаць.

— У цябе атрымаецца тры, цябе ўвосень прызавуць, у лістападзе, калі не пастуціш. Значыць, і служыцьмеш да позняй восені. Дэмабілізуешся, а ў той год нікуды не пастуціш — позна будзе. Лічы — шэсць гадоў жыцця фюць!.. Шэсць! Толькі ў бяздумнай маладосці можна раскідвацца такімі кавалкамі.

— Не ўгаворвайце, я ўжо дакументы паслаў. З пятнаццатага па дваццаць пятае ліпеня экзамены,— цвёрда сказаў Сяргей.

— Як — у гэты панядзелак?! Паслязаўтра?! — перапужалася маці.

— Паслязаўтра. Першы экзамен... Ранењка са Слуцка на таксі даскочу.

— То ты... усе дакументы забраў... з інстытута? Бразнуў ужо дзвярыма?! — Бацька скінуў газ, адруляваў на ўзбочыну і стаў. Пацёр далоняю сэрца.— Не язда, а... касмічныя перагрузкі.

— Адпачні трохі, паспеем...— сказала маці і адчыніла са свайго боку дзверцы. Але толькі спусціла ў траву ногі, не вылазіла. Божкала, махала на сябе далоняй.

— Нічога не бразнуў... Ніхто й не ведае ў інстытуце, я нікому не гаварыў. Папрасіў толькі атэстат, замест яго копію пакінуў.

— Ач ты... Даўмеўся...— Бацька вылез на дарогу, развёў рукі ў бакі і ўгору, паволі і асцярожна пацягнуўся, удыхнуў на поўныя грудзі, прыслухаўся: кальне сэрца ці не? Вылезлі і Наташа з Сяргеем, а потым і Ларыса. На пясчаным прыгорку злева ззяла чырвоным золатам група выносістых сосен. Лес справа быў лісцяны, забалочаны, нейкі ўсохлы.

Гардзей абышоў машыну наўкол. Задні правы скат быў прыплюшчаны.

— От, халера... Сяргей, падкачай вазьмі! — бацька

прайшоў следам машыны назад: глядзеў, ці доўга так ехалі.

Маці і Наташа перабраліся цераз кювет, падаліся на ўзлесак.

Бацька зірнуў направа, зірнуў налева.

— Вы там хоць ягад не збірайце! — крыкнуў наўздагон ім.— Тут недалёка самалёт лётаў, кусты хімікатамі спальваў.

Сяргей за гэты час дастаў ужо з багажніка помпу, прыладкаваў да кола і напорыста пампаваў.

Гардзей пастаяў у яго за плячыма — рукі ў бокі.

— Чэрці цябе ведаюць... То не трэба было мо ехаць... на гэтае вяселле, а рыхтавацца. Вучыць што... Там жа, кажуць, вершы патрабуюць на памяць расказваць.

— Не толькі... І эцюды ўсякія разыгрываюць. А на вяселлі... таксама цікава пабыць. Не часта ўбачыш... як родны дзед жэніцца.

— Ну — што? — стаў побач з сынам Гардзей.

— Не паддаецца... Мабыць, пракол.

— Во — не хапала... Даставай тады запаску... Да-а-а, а я думаў — папрацуем разам на ўборцы... Дамо дразда — як пазалетась, помніш?

— Помню... Дамо, тата...— сын усё яшчэ пампаваў.— Праз дзесяць дзён я... у тваім распараджэнні!

## 2

«Куды спачатку — дадому ці да бацькі?» — Рыгор ішоў з Вольчынага хутара і прыстояў на гравейцы, што вяла ўздоўж вёскі. На вуліцу? Але ж субота, пад платамі нямала баб — і так перамываюць яму костачкі. Завярнуць у свой двор ці ісці далей? Чамадана не браў ад Волькі, і кішэні касцюма адтапырваліся і адцягваліся: напакаваў іх ракавінамі і плескаценькімі, як аладачкі, адшліфаванымі морам каменьчыкамі. «Каб ведаў, што адны дзеці дома... Але час такі — якраз Маня вяртаецца з дойкі...»

Пайшоў дарогаю далей, пайшоў да бацькі.

Колькі разоў рагатнуў сам сабе, пакруціў галавою: «Ну й ну... Гэта ж трэба — вяселле надумаў спраўляць! Заўтра — вяселле!» Ступаў нагамі то часцей, то запавольваў крок, хоць і не цярпелася паглядзець на мачыху. «Што там за краля такая? Гэта ж так аблапошыла...

Тайком ад мяне вяселле... Я ж яшчэ ў Сочы, ён жа ведаў пра гэта!..» — пачала накіпаць злосць.

Дасюль Рыгор нават сабе не прызнаваўся, якія патайныя жаданні атушваў у душэўных закутках. Спачатку, яшчэ як пуставала старая хата, намерваўся перабрацца ў яе, жыць аднаму. Пакінуць Маню і жыць як набяжыць. Пра Вольку, пра другую жаніцьбу тады не думалася адкрыта. Калі ж бацька адрамантаваў хату і перабраўся ў яе ад Настасы, таксама не вельмі спалохаўся. Няхай, хопіць месца і бацьку, і яму. Упершыню ж адчуў, што падвялі міну пад яго таемныя жаданні, калі пачалі гаварыць пра бацькаву жаніцьбу. «Пацэтна тады... абруч на бочку нацягвалі... Бакі можна парваць ад смеху... Не сказаў напрамую: ага, сынок, жанюся. А я і так зразумеў... І так хутка пракруціў гэту кінакамедзію!.. Хаця не, яшчэ да канца не пракруціў. Сáма рыхтуюцца. Ці не жонка камандуе ўсім?»

Цяпер ясней яснага: варыянт з бацькавай хатай адпаў. Дык што — жыць у Волькі? «Але ж у яе зусім ліхая хата. Зноў распачынацца з будоўляй? Ох-ха... І ў вёсцы ставіць?.. Пабурчыць трохі Апанас — і звыкнецца... А я ж яшчэ ад таго будаўніцтва не адхліпнуў!.. Спачатку хату, а тады — сенцы... Каб ведаў такую трасцу, то і не хлынаўся б, не душыўся. А цяпер што ж — не будзеш у дзяцей адбіраць... Адкінуты на зыходныя пазіцыі... Тады хоць грошы былі, а цяпер і тысячы няма на кніжцы. Забраць от толькі трэба, кніжку тую... Ну, у Волькі, скажам, ёсць тысяч пару — даяркай усё-такі была... А мо і больш? Калі будавацца, то, канешна, у сяле! Але ж людзі... З-за адных бабскіх языкоў не ўжывеш... І штодзённа сустракацца з Маняю, з дзецьмі? Слухаць Маніны канцэрты? Не-не-не-не... Ніякіх нерваў не хопіць...»

«А бацька ж таксама новую сям'ю ладзіць... Хіба лёгка было яму на такое рашыцца? Трэба і старога разумець... Але што з ім раўняцца — такім і чорт дзяцей калыша...»

З'яўлялася нудлівая зайздрасць-дакор: так лёгка ўсё ў бацькі, так гладка. Дзяцей не трэба гадаваць, жыві адно для сваёй уцехі. Дажывай веку... «А дажывеш, тады ўжо... А што тады? Усё дастанецца мачысе, законнай жонцы. Законнай!.. Цікава, распісаліся яны ў сельсавеце ці не? Калі распісаліся, тады, канешна, законная... Закон на яе баку... А яна ж яшчэ і пальцам не

варухнула, каб што зрабіць для бацькавага дома, займець агульны набытак...»

«Ну — што ж... Хай пажывуць-пацешацца... Хай...» — нібыта супакойваўся Рыгор, і потым зноў развярэджваў думкі-олькі.

Ззаду пачуўся трэск матацыкла, і Рыгор саступіў набок, не азіраючыся назад. Матацыкл, зялёны, запылены, праскочыў міма, абдаўшы пахам пылу і бензіну, і праз метраў пяцьдзесят прытармазіў, завіляў укосікі — стаў. Сядок апёрся нагамі аб зямлю, растапырыў іх, нібы дыбы ў козлах, і павярнуўся, каб зірнуць на Рыгора. Ледзь пазнаў у шлеме, твар заціснуты з бакоў, галава, як вялікае пафарбаванае яйка. Сташэвіч Зянон — галоўны аграном, сакратар парткома.

— Здароў! — яшчэ здалёк гукнуў Сташэвіч. Калі Рыгор падышоў, працягнуў руку.— Не пазнаць — выфранціўся... І пыласос адгадаваў — кіўнуў на бараду.— А я думаў, яшчэ ты ў Сача́х. Ажно... Ну й маладзец! Зажынаем сёння. Камбайнеры — на вагу золата.

— А не рана? Летась пазней пачыналі, здаецца,— сказаў Рыгор, каб не маўчаць.

— Не рана. На горках зусім сухое, можна выбарачна напрамую. А калі падрад — на прост будзем класці.

— Летась ужо адмаўляліся ад раздзельнай. А цяпер зноў?

— Патрабуюць з раёна. Некаторых там нецярпячка рэжа... Ага-а, што гэта гавораць — ты ў Волькі?!

— Ну, калі гавораць, то...

— Не чакаў я ад цябе такога выверту!

— А што — лепш таемна?

— Я не кажу, што лепш. Лепш, каб ты не кідаў сям'ю.

— Для каго? — голас Рыгора зрабіўся сухі.

— Што — для каго?

— Ну — лепш было б? Для каго?

— Для ўсіх! І для цябе ў тым ліку...

— Сакратар, сакратар... І з чаго ты ўзяў, што і мне лепш?

— А ты не будзь эгаістам: «мне», «мне», «я», «я»... З раёна Маніну скаргу пераслалі, у народны кантроль падавала... На цябе. Прыйдзецца разбіраць вас.

— Разабраць можна... А от як у кучу складзеш.

— Эх, Рыгор, Рыгор... А пісьмо ж, заява ёсць? Як закрыць паперу?

— Гляджу... засланіла табе вочы папера... Я беспартыйны, не маеце права разбіраць.

— Памыляешся, Рыгор. Маем... Дзеля дзяцей мы на ўсё пойдзем.

— А я думаў, толькі ў кіно такіх... герояў паказваюць. Ты займей хоць аднаго свайго дзіцёнка, тады будзеш гаварыць... як і што.

— Ёсць, сын ужо ёсць! Можаш павіншаваць.

— Віншую...— Рыгор не падаў рукі, пайшоў уперад.

Сташэвіч заводзіў матацыкл і выкрыкваў услед:

— Ладна! Дабывай свой бюлетэнь, а там пагаворым... На поле не хочаш са мною? Паглядзім, як там Юра Расолька ваюе. Ён на новым «Коласе» сёння.

— Сам сказаў: у мяне бюлетэнь,— не паварочваючы галавы, выкрыкнуў Рыгор.

Матацыкл затрашчаў і пранёсся міма, абдаўшы Рыгора пылам.

«Дзеяцель міжнароднага маштабу...— Настрой Рыгораў усё больш псаваўся. Зняў цяжкі фетравы капялюш, выцер далоняй спацелы лоб. Больш не надзяваў яго, нёс у руцэ.— Усе ведаюць, што я ў Волькі. І Маня ведае... Скаргу яна, канешна, да майго прыезду пісала. Бо каб пасля, то... То і сакратар не так гаварыў бы... І каму якая справа да майго сямейнага жыцця? Не пайду на іх разбор, а сілком не зацягнуць. Права такога няма!»

«Цікава, што за мачыху бацька прывёў... Знарок буду «мама» гаварыць — хай хоць пачырванее...»

Па ўзмежку дайшоў да Настасінай хаты. Усе дзверы насцеж, у парозе веранды перакуленае вядро, а нідзе нікога не відаць... Павыскоквалі, бы ад землетрасення. І толькі мінаючы веранду, цікнуў за плот у агарод і сад... «Го, ды там цэлая грамада...» Прайшоў яшчэ трохі, намацаў у плоце дзверцы, зайшоў. Бацьку спачатку не заўважыў. На лужку, што запусцілі пад старымі яблынямі, стаялі паўкругам Настаса з дзіцем на руках, потым незнаёмая жанчына са збітай на патыліцу драпастай хусткай і стрэльбай у апушчанай руцэ, потым Лявошка — трымаў за руку сына, потым Дар'я з вядром у адной і крапідлам у другой руцэ. Усе глядзяць уніз і нічога больш не заўважаюць.

Рыгор падышоў да Настасы злева. «Дзень добры!..» — у самае вуха. Настаса скаланулася спуду.

— Тфу, тфу, тфу...— дробненька і суха сплюнула тры разы.— Вой, сэрца чуць не лопнула.

Усе паварушыліся, не зыходзячы з месца, адказалі ці кіўнулі Рыгору. Нават бацька: ён сядзеў на пятках каля разасланага настольніка. З аднаго краю настольніка стаяў прыкрыты фартухом сяўнік, з процілеглага — новы, пафарбаваны ў блакітнае, вулей. Настольнік не белы, ён ажно шэра-карычневы, па ім паўзлі ад сеўніка да вулля шырокім, на ўвесь абрус, патокам полчышчы пчол. Маса кішэла, трымцела, звінела, кожная пчала зумкала задранымі ўгору крылцамі. Варухлівая грозная маса цякла і цякла з сеўніка, нібы ў ім бурліла, бегла цераз край нейкае вядзьмарскае варыва, і ўсе глядзелі, не зводзілі з яго вачэй — як заварожаныя.

Пастаяў Рыгор, памаўчаў. І раптам захацелася прайсціся па настольніку, пачуць, як хрупацяць пад падэшвамі раздушаныя пчолы. Страсянуў галавою, каб атрапнуцца ад гэтага дзіўнага жадання. Адвёў вочы на румянашчокую смуглянку.

— Узброіліся, як на вайну...

— Ага...— прыязна ўсміхнулася яна Рыгору.

Пчаліны паток канчаўся, рэшткі ар'ергарда зрадзелымі групкамі караскаліся па настольніку ў вулей, даганялі сваіх пчол-сясцёр, нібы ішлі на штурм крэпасці.

— А тут і была вайна... Такое рабілася — у мяне і зараз яшчэ сэрца калоціцца,— Настаса пусціла на траву малую.— Бяжым, галёкаем, свішчам... Бацька са стрэльбы бабахае, Дар'я з вядра крэпіць... Добра, што тут жа і звіўся, на каштане. Агрэблі...

— І для мяне такое дзіва! Першы раз бачыў...— азваўся Лявошка.

— Другак,— спакойна сказаў бацька. З крэктам падняўся з каленяў, не разгінаючыся, перавярнуў над настольнікам сяўнік, пагрукаў у дно. Выпала яшчэ некалькі мёртвых ці напаўзадушаных пчол.— Ніхто на гэты рой не спадзяваўся... Я думаў, калі і будзе сёлета яшчэ, то з другога вулля. Ажно... Усякія сем'і бываюць...

— Добры дзядзька пчалавод,— зазначыла Дар'я і паглянула на Рыгора, нібы хацела яшчэ нешта гэтым сказаць.

Бацькавы і Дар'іны словы мелі і прыхаваны сэнс, Рыгор адразу ўлавіў гэта. Бацька нібы апраўдваў і сябе, і ў нейкай меры яго, Рыгора. І ад гэтага, адчуў Рыгор, гаварыць з ім будзе і лягчэй, і цяжэй.

— Нешта ж ты скора прыджгаў з курорта,— напаўголаса сказала, павярнуўшыся да Рыгора, Настаса.

— Ага! — кінуў з выклікам.

Бацька сунуў сяўнік у рукі чарнявай жанчыны, страпянуў настольнік і ўскінуў на сяўнік. Смуглянка пайшла з саду; пачэпленая на згібе локця стрэльба пакручвалася, гайдалася і біла прыкладам ёй па лытцы. «І ногі... нічога сабе...— адзначыў Рыгор, правёўшы мачыху вачыма.— Неблагі ў старога густ...»

Бацька, мабыць, улавіў яго чыста мужчынскі позірк і звёў калматыя бровы.

— Ну — хадзем, хай супакойваюцца... У навасёлаў яшчэ сёння клопату, клопату...

— Уга! — уздыхнула Дар'я і пайшла следам, за ёю Настаса, узяўшы малую на рукі. Дар'я выліла каля плота сцэдкі, надзела вядро на штыкеціну і тут жа зняла.— Вой, гэта ж маё вядро!

— То вы не разыходзьцеся, паабедаем разам,— сказаў бацька да ўсіх, з двара ўжо.

Рыгор выйшаў апошні, старанна прычыніў за сабою дзверцы.

— Дзякуем, мы там свой абед распачалі — кінулі-рынулі ўсё...— Настаса павярнула ў свой бок.

— Хай ужо заўтра будзем сядзець,— дабавіў і Лявошка.— А Настаса прыйдзе, паабедаўшы, паможа што... Рыхтобы ж у вас хапае.

— Ну, то глядзіце,— не вельмі і наставаў бацька.— А вы хоць заходзьце. Рыгор, Дар'я!

— Я пазней трохі падбягу — свінчаці не паспела даць,— павярнула на вуліцу суседка.

Рыгор памарудзіў крыху на двары, абмацаў адтапыраныя кішэні, адцягнутыя ўніз крысы пінжака. «Нашуся з цацкамі, як дурань з размалёванаю торбаю...» Яму раптам захацелася добра выглядаць перад мачыхай, нават прыхарашыцца. Правёў па вусах і барадзе, прыгладзіў прычоску і надзеў капялюш. Але цяпер, як сталі зусім свабодныя рукі, ён ужо не ведаў, куды іх падзець. І, ступіўшы ў сенцы, зноў зняў гэты дурацкі капялюш, памахаў ім у твар.

Зайшоў у хату і застыў у парозе. Позірк адразу ўпёрся ў выклееную шпалерамі перагародку.

— Ого-о-го-о-о...— працягнуў, абводзячы кухню вачыма. Змены былі і ў тым, што пад акном з'явіўся ўрэзак лавы — ад сцяны да сцяны. Стол, што звычайна стаяў у куце хаты, пад багамі, цяпер быў пры перагародцы. Толькі печ стаяла на месцы ды стрэльба ўжо вісела на печы на сцяне.

Мачыха молада завіхаецца каля стала, нарэзвае і раскладвае закусь, бацька пры парозе мые над цабэркам рукі. Рыгор ступіў у дзверы ў перагародцы, яшчэ нічым не завешаныя, і зноў працягнуў:

— Уг-га-а-а... То вы тут дарэмна часу не церлі... Не-е!

У адгароджаным пакоі лавы не было ўжо. Канапа, новы рассоўны бліскучы стол, крэслы, сервант пры перагародцы — яшчэ амаль пусты. Квяцістыя шторы на вокнах і кветкі на шпалерах былі вельмі зяркатымі і яркімі, надавалі хаце занадта святочны выгляд. «Расшэйгвае бацька грошы... Цікава, а якое прыданае яна ў хату прынесла... ці прывезла? Нешта не відаць нічога. А мо ўсё гэта не за бацькавы грошы, а за яе? Не-не, стары не папусціцца, каб такое сталася... Ганарысты шляхцюк...»

Вярнуўся на кухню і ўжо цяпер заўважыў сляды прыгатавання да вяселля: на ўрэзанай па даўжыні кухні лаве стаялі, прыхаваныя іншым посудам, місачкі і талеркі з разлітым студнем. Студзень яшчэ не застыў, квола парыў і моцна пах часнаком. У канцы лавы на дошцы ўзвышаўся горкаю фарш.

— Дык вам, Рыгор Іванавіч, наравіцца, як мы зрабілі? — з усёй шчырасцю ўсміхнулася да Рыгора мачыха. І ёй хацелася спадабацца яму.

— А чаго ж! Гэта вы добра прыдумалі... А я так і не сабраўся сваю перашаляваць... Во, і на кухні, пры печы ложак памесціцца...— Рыгор адхіліў паркалёвую занавеску — і пусціў, як спужаўся: там стаялі невялікі жалезны ложак, а ў праходзе — скрынкі з гарэлкаю, віном, півам і напіткамі.— Можна было яшчэ і пакой перагарадзіць, каб спальня атрымалася асобная... А можна і так яшчэ: зрабіць у спальню ход з кухні. Во адтуль, з-за печы...

Бацька не ўлавіў у Рыгоравых словах нічога кплівага і стаяў каля яго з ручнікам у руках. Выціраў

рукі, заглядваў у пакой, нібы і ён першы раз усё бачыў.

— Не, мабыць, не трэба больш дзяліць. А то пчаліныя соты атрымаюцца. І так непрывычна ў хаце.

— Ён і на гэта трудна згаджаўся, да я ўгаварыла,— нібы пахвалілася мачыха, усміхнулася бацьку.

«А ты ўгаворыш... І не на такое яшчэ ўгаворыш...» — падумаў Рыгор.

— То сядайце сюды... Каб пчолы садзіліся...

«Бач ты... І яна ўжо пра пчолы...» — Рыгор паглядзеў на бацьку. Той адзежнай шчоткай прыгладжваў свой «вожык».

Мачыха паправіла табурэткі каля стала і вычакальна, ласкава, з неспакойнасцю паглянула на Рыгора: «Ну — што ж вы?!»

«Без мыла лезе... Чуе кошка, чыё сала сцягнула...»

— Дык як мне вас велічаць? — глянуў на мачыху ва ўпор, амаль нахабна. Пачапіў капялюш на цвік каля дзвярэй перагародкі.

— Аляксандрай... Піліпаўнай...— бянтэжачыся, мачыха пачала церці фартухом рукі. Мо думала, што Рыгор працягне сваю для знаёмства

Рыгор і не збіраўся падаваць рукі.

— Ну — правільна... А то я хацеў спачатку «мамай» вас назваць. Але ж якая вы мне мама? Маці ў чалавека адна... Дый па гадах... можна было б яшчэ і паўхаджваць...— Рыгор сеў з тарца стала, амаль на праходзе ў пакой. А пакуль гаварыў і садзіўся, бацька зайшоў і сеў з другога тарца, на лаву. Мачыха прыладкавалася з шырэйшага боку.

— Ну от... Раз пазнаёміліся — давайце за гэта і вып'ем па чарцы,— сказаў бацька і скалупіў нажом сінюю бляшку з «Волжскага».— Па чарцы... Бо сярод белага дня распівацца... работы ж яшчэ да халеры!

— Ага, заўтра ўжо дабавіце... Будзе часу на гэта,— падтрымала і мачыха.

— Па мне, то можна было і зусім не распачынацца,— сказаў Рыгор, але чарку ўзяў.— Можна было б і без вяселля абысціся...— Ён зірнуў у вочы бацьку з выклікам.

— Ой, ну што вы, Рыгор Іванавіч! — як не кінулася напярэсцігі мачыха.— Трэба ж нешта зрабіць, хоць трохі... Як той казаў — ад людзей...— і падняла

чарку, каб пачокацца з Рыгоравай. Але рука спынілася над сталом, апусцілася.

— І мяне не пазвалі... Тайком, цішком...— Рыгор змрочна глядзеў у чарку.

Бацька і мачыха таксама паставілі чаркі. Мачыха закруціла сваю, потым дастала кончыкам нажа з пітва парушынку. У гэты час на двары залапатала крыламі і моцна закрычала курыца, і Аляксана порстка падхапілася, нібы сам бог паслаў гэтае збавенне. «Што там такое — пагляджу...» — кінулася з хаты.

І тады загаварыў бацька. Цвёрда, нават крыху рэзка:

— Адразу відаць, што не дадому вярнуўся... А так бы ведаў: тры дні назад наказваў Мані. Каб усёй сям'ёй былі, з дзецьмі. І каб ты, канешна, калі паспееш...

— Надумаў калі... у гулі пускацца... Збожжа вунь на горках сыплецца, уборка пачалася. Я ж мог і на ўборцы быць заняты.

— І ў мяне... сыплецца...

— Ага... Парахня. Мог бы і пачакаць. Што ў цябе — гарыць?

— Гарыць, няўжо ж...

— Курае. Адзін куродым... Глядзі — жонку закапціш.

— Ну, гэта ўжо не твае дзела,— бацька падняў сваю чарку: — Будзь здароў! — і адпіў глыток.

Рыгор кіўнуў, але не адказаў — «На здароўе!», выпіў чарку адным каўтком. Абодва пацягнуліся відэльцамі да скрылёчкаў свежых гуркоў, палітых смятанаю. Але Рыгор вільнуў, нібы збаяўся сутыкнуцца, і ўкалоў скрылёк маласольнага, у мёдзе, гурка. Запхнуў у рот без хлеба, захрумкаў.

— Я магу, канешна, і маўчаць. Дурней на старасць, як хочаш. Але хіба ты не бачыш, як яна прыбірае цябе да рук? Ужо скачаш пад яе дудку, накупляў абы-чаго. А што далей будзе? Ну, бог з вамі, вяселле дык вяселле... ці вечарынка. Але хоць не распісвайся з ёю, у сельсавет не ідзі. З вас жа куры будуць смяяцца: «Жаніх і нявеста!» І так дабудзеце свайго веку.

Рыгор хацеў дабавіць: «Колькі таго веку засталося, мо пяцігодка, мо дзве...» Але стрымаў сябе. Ён і так заўважыў, што стары пакрыўдзіўся, як дзіця. Во, сы-

шліся ўжо бровы на пераноссі, пазначыліся паміж імі дзве тоўстыя зборкі.

— І гэ-та не тваё дзела! — расцяжліва сказаў бацька.— У сваёй сям'і я сам як-небудзь разбяруся. А калі ты прыйшоў пасварыцца, то... я табе сваіх мазгоў не ўстаўлю: вольнаму воля.

Стукнулі-рыпнулі адны дзверы, другія. Залішне моцна, нібы мачыха знарок папярэджвала, што вяртаецца.

— Віцька курэй ганяў, Настасін... Памідоры клявалі...— голас знарочыста бадзёры. Ступіла да стала, прысела.— Ну, то давайце... За ўсё добрае... О, вы ўжо выпілі?! Стаханаўцы... То будзьце здаровы! — Яна адпіла крыху маленькімі глыточкамі.

— Стаканаўцы,— сказаў Рыгор, а бацька вымавіў падкрэслена зычліва:

— На здароўе, Аляксана.

— Ну, то я пайшоў,— устаў Рыгор.— Дзякую за прывет, за пачастунак.

— То вы ўжо, Рыгор Іванавіч, не пазнецеся заўтра,— устала і мачыха.— Гадзін мо ў дванаццаць і пачнем. І ўсіх сваіх вядзеце!

Бацька глядзеў у стол і нічога не гаварыў — мачаў хлебную крошку ў кроплю смятаны, вадзіў ёю па цыраце. Вусны былі падцiснуты.

3 «Сапсаваў трохі ім настрой... Развялі... рай у шалашы!» Рыгор ішоў, і цяжкая, хваравітая зайздрасць да бацькі, да таго добрага ладу, які ўсталёўваўся ў яго хаце, расла і расла. Нават дзівіўся сам з сябе... Так, ён зайздросціць чужому шчасцю. Не чужому — бацькаваму. Бо чужым сем'ям, дзе быў мір, спакой і радасць, ён і раней зайздросціў, на сваю долю і раней наракаў — патаемна, бо нават у п'янай кампаніі нікому не скардзіўся, як жыве.

«І ўсіх сваіх вядзеце...» Лёгка такое гаварыць. Каго ён павядзе? Маню ці Вольку? З Волькай то ён пайшоў бы ўжо куды хочаш, ды толькі яна не пойдзе з ім на людзі. «Калі Маня пойдзе з дзецьмі, то я не пайду... Не пойдзе яна — пайду я. Адзін пайду. Аніяк не прыходзіць — ці добра? Дый людзі ж... Людзі... От папагавораць ужо! Зусім рассварыцца з бацькам — таксама не гадзіцца...»

Яшчэ падыходзячы да хаты, пачуў, што Маня на дварэ. Крычыць, бы яе ўзяў ланцак, лупцуе за нешта Ваню. Той заходзіцца немым крыкам. Адчыняў варотцы і бачыў: Маня адкінула ўжо фартух з паўрозамі і біла малога па шлёпцы кулаком, нават шчыпала са злосці.

— Ой, мамачка! Ой, хопіць! У мяне і так с... як печ гарачая!

Рыгор у тры скачкі даскочыў да іх, перахапіў Маніну руку, крутнуў ёй за спіну.

— Аа-а-а!..— прарэзліва заенчыла жонка, а сын вылузаўся ад яе, пабег, усхліпваючы, у хату.— І-ізверг!.. Ізве-ерг! Лю-юдзі, забіваюць!..

— Ціха, дурніца... Не смяшы людзей...— з халоднай ярасцю цадзіў скрозь зубы Рыгор і зіркаў коса на вуліцу: ці не ідзе хто, ці не бачыць. Яго заўсёды прыводзіла ў шал вось гэтае «Забіваюць!», якім так лёгка кідаліся і Маня, і цешча. А яму трэба было знайсці сілы, каб стрымаць сябе зараз, не даць волю гневу. «Не, не, не, я цябе не ўдару...» — вёў Маню перад сабою, пхаў у сенцы. Добра, што дзверы за Ванем не зачыніліся, Рыгор і адштурхнуў іх нагою, і зачыніў за сабой нагою.

Пусціў Маню ў хаце, і яна адбеглася крыху, а потым пайшла на Рыгора, крывабока згінаючыся, вочы былі круглыя і збялелыя ад ярасці.

— Прыйшоў?! Заявіўся?! І ніякая трасца цябе не задушыла?!

Рыгор бачыў яе нязвыкла схуднелы, тапорыкам, твар, тонкія і ссінелыя губы. І, можа, скокнула б кошкаю, каб не ўбачыла, што Рыгор прастуе міма яе — да шафы з адзеннем каля вулічнай сцяны. Грэйма кінулася наперахват, стала да дзверцаў спінаю, раскінулася крыжам.

— Не дам! Нічога не дам! Ты ўсё сваё забраў, зацяг да тае прасцітуткі!

Цешчы з Таняю ў хаце не было, не было і Сашы. Толькі Алена і Ваня пазашываліся ў кут за стол і перапалохана зіркалі адтуль на бацьку і маці.

— Ты... не абзывай пры дзецях... А то і язык магу ўкараціць... Адыдзі, мне твайго нічога не трэба! — лёгенька, зусім лёгенька адхіліў, адштурхнуў ад шафы, а Маня знарок — бурдэнц на падлогу, пакацілася да самага ложка і яшчэ аб ложак, аб жалезныя нож-

кі некалькі разоў стукнулася галавою і тварам, каб больш нарабіць сінякоў.— Не разыгрывай камедзію... Ніхто не паверыць, што гэта я цябе збіў...

— Павераць! Пабоі ў Каменскага зніму... Я цябе засаджу! У цюрму засаджу! Усё роўна не дам жыць з тою!

— Сведкі трэба... А Ваня і Алена бачылі, як ты аб ложак... выраблляла сінякі.

Аленка вылезла з-за стала, падышла да мацеры, пачала тузаць яе за рукаў.

— Мамачка, уставай! Мамачка!..

— Гэта такі-ія курорты ў цябе?! Вунь тэлеграма з санаторыя прыйшла! Дырэктар расшуквае... А ён у гэтай... у гэтай!..— Маня заплюшчыла вочы, забарабаніла галавою па падлозе.

— Дзе зберкніжка? — Рыгор трымаў на руцэ сваё паліто і другі, шэры, касцюм, перабіраў на палічцы стос бялізны.

Маня гэта пачула адразу.

— Дзе была, там няма! Не палучыш кніжкі, хоць забі! Гэта дзецям будуць грошы! Ты прапіў свае, прагуляў!

— Дурніца, ты ж не возьмеш з кніжкі ні рубля. Яна — на маё імя. Давай лепш па-добраму, я палучу — частку дам на дзяцей.

— Не дам!!! Судом адсуджу!

— Не адсудзіш. Пакуль не развядуць — не адсудзіш.

— Тады і табе не будзе...— Маня выхапіла з-пад кофтачкі кніжку, не ўстаючы з падлогі, парвала, пашкуматала на дробныя кавалкі.— Вось як, вось!..— Яшчэ і ўгору падкінула, і зарагатала сухім пранозлівым смехам.

Рыгору зрабілася трошкі жудасна і да болю шкада дзяцей. Нагнуўся, згроб кавалачкі, паклаў у кішэню.

— Ну, хіба ж я не казаў, што ты дурная... Мне ж дублікат выдадуць! — і пайшоў з хаты.

Маня падхапілася на ногі, упала на ложак тварам у падушку і замычала глуха, прыдушана.

— Ваня...— спыніўся ў дзвярах Рыгор.— Выйдзі са мною на мінутку.

Калі хлапчук выйшаў, не перастаючы спалохана ўглядацца ў бацьку, Рыгор прычыніў за ім дзверы, каб не чуваць былі Маніны енкі.

— Дзяржы прыпол... Выцягні рубашку...— Рыгор нават памог яму дастаць рубашку са штонікаў, адтапырыць.— Вось так трымай...— выбраў з кішэняў ракавіны і каменьчыкі, усыпаў яму ў прыпол. Кавалачкі ашчаднай кніжкі, што ўзяліся з каменьчыкамі, павыбіраў з прыпола, усыпаў назад у кішэню.— Падзеліш з Аленкаю, Танькаю, Сашам. А Саша прыйдзе... Ты не ведаеш, дзе Саша?

— На работу пайшоў... На зграбалцы сена зграбае...— Ваня шморгнуў носам, слёзы запоўнілі вочы з беражкамі і раптам хлынулі на шчокі — па тры пацёкі з кожнага: — Татка, ты нас кідаеш назусім? Ты больш не прыйдзеш?!

— Прыйду, прыйду... Я буду прыходзіць. Але ж ты сам бачыш, што робіцца, як прыходжу... Скажаш Сашку, хай падыдзе да мяне на Вольчын хутар... Пагаварыць трэба з ім. Хаця не — потым... Потым...

— Татачка, вазьмі мяне з сабою!

— Ты не ведаеш, дзе мае старыя туфлі і боты рабочыя, адзенне?

— Мама на дровы выкінула... У падпаветку. Яна такая стала, такая... Як не наша: абы за што б'е, б'е, б'е...— Ваня зноў заліўся слязьмі.— Можна, і я да цябе буду прыходзіць?

— Можна, а як жа! Абавязкова прыходзь. І ты, і Аленка, і Танька... Ну, бывай здаровы! — узяў Ваню за плячук і адчуў пад пальцамі, якія гэты плячук і маленькі, і востры. «Драздзяня... Худы, як драздзяня...» Спазма балюча сціснула горла і ніяк не пракоўтвалася, не пракашлівалася.— Памагай... глядзець Таню, ты ж вялікі ўжо хлопец.— Рыгор нагнуўся, пацалаваў Ваню ў шчаку. Згроб з лаўкі ў сенцах нейкі стары мяшок і выйшаў. У дрывотні і праўда знайшоў замазучаную фуфайку, штаны, пінжак, стары паўкажушок, боты і туфлі. Ледзь улезла ўся гэтая старызна ў мяшок.

Паліто і касцюм нёс, ускінуўшы на руку, мяшок — на плечы.

Праставаў ад агародаў цярэспаля, блытаўся ў бульбе, спатыкаўся на барозны. Хутчэй, хутчэй... Ён нібы чуў спінаю, патыліцаю калючыя позіркі, нібы сачыла за ім уся вёска. І, пэўна ж, асуджала, папікала, папракала. Не ўтрываў, коратка зіркнуў назад — нідзе нікога... І зноў — уперад, уперад, ужо без аглядкі.

4 Гардзей з сынам сядзелі на ўтравелым вале за кюветам і мірна курылі. Кола даўно памянялі, чакалі, калі з'явяцца жанчыны з лесу.

І раптам пачулі крыкі: «Гардзей! Сяргей!» Нейкія спалоханыя, натужлівыя.

Сяргей першы ўскочыў на ногі. Але і седзячы было відаць: вядуць з лесу нейкую старую. Трымаюць пад рукі, а ногі ў бабулі блытаюцца, чапляюцца адна за адну, падгінаюцца, як васковыя. Бабуля трымае перад сабою блакітнае вядзерца, і тое вядзерца матляецца, б'е па нагах то ёй самой, то Ларысе.

Першы падбег да іх Сяргей, падмяніў маці, і тая ажно рукою патрэпала — самлела ад напружання. А тут і Гардзей даскочыў, і ўсе спыніліся. Зазірнуў, угнуўшыся, у твар старое.

— Баба Аўдоцця, гэта вы-ы?!

Тая квола падняла галаву, паглядзела на яго змутнелымі, у слязах і поце маленькімі вачыма:

— Ты мяне ведаеш?.. Адкуль жа ведаеш, сынок? Здалёк я...

— Ведаю, ведаю. Вы з Дубровы!

— А ў якім баку... Дуброва?

— Гэта Аўдотка з Дубровы...— Гардзей зірнуў, тлумачачы, на жонку, узяў старую пад руку.— Ай-яй-яй, як гэта вы так далёка апынуліся?

— У маліну, мабыць, прыязджала.— Наташа пусціла бабулю, забрала з яе рук вядзерца з ягадамі. На дне была жменька збітых на цеста малін, сок.

— Захварэла старая,— сказала Ларыса.

— Ой, тата... Мы глядзім, а яна ходзіць... Мы глядзім, а яна ходзіць! Усё кругам, кругам, ажно сцежку выбіла вакол трох сосен. Падбеглі, а яна хістаецца: «Дзеткі, выведзіце... Звядзіце мяне з гэтай сцежкі — ніяк не канчаецца... Іду-іду, іду-іду...»

Гардзей заўважыў на грудзях старое брудныя плямы.

— Вы елі ягады?! — спыніўся ён.— Ларыса... ці ты, Наташа! Вытрасі, выкінь іх!

— Нашто ж... З'ешце... Дабро ж прападзе...— Аўдотка падняла галаву, і яна квола, як у нежывой, схіснулася, зноў апала на грудзі

— Што ж вы нарабілі, бабуся! Яны ж атручаныя... Тут жа самалёт кусты выпальваў...

Старая зноў пачала бляваць.

Калі ёй палягчэла, Гардзей падняў яе на рукі, панёс у машыну.

— Давай, сынок!.. У Слуцак, у бальніцу! Ларыса, са мною сядзеш, на задняе... Памагаць будзеш, калі што — зрыхтуйся...

— Скарэй, Сярожа, скарэй! — Наташа села спераду, ад нецярпення пастуквала кулачок аб кулачок. Яна раз-пораз паварочвалася да Сяргея, каб падспешыць, але замоўчвала і толькі грызла зубамі пальцы...

Машына ляцела, не зважаючы на яміны, падтрэсвала.

— Давай, сынок! Давай!..— Гардзей усё зазіраў у застыглы ў пакуце твар старое. Хутка пачала млець падсунутая пад яе плечы правая рука (нядобра ўзяў), але паправіцца не асмельваўся, каб не стрывожыць Аўдотку.— Яна ж мяне на свет прымала... Яна ж...

— На новых мяне пахавайце... А то баяцца іх людзі... На могілках... новых...— шаптала Аўдотка, не расплюшчваючы вачэй.

— Ах, бабуся, бабуся!.. Пажывяце яшчэ!.. Чуеце?!

## Раздзел дзевяты

I

— Во так во-о... Во-о-о, каханенькія, родненькія... Хай вас бог здаровіць...— прыгаворваў Федзя і хапаўся то за адзін фотаапарат, то за другі, то за трэці. Трэба чорна-белы здымак, трэба на вузкі слайд зняць, трэба на шырокі. Цяжкія «Кіеў» і «Пентакон сікс тэл», ажно бокі паабівалі.— Яшчэ маменцік, любенькія... Пад хату сядзьце, галоўкамі схіліцеся. Нібы дзве сяброўкі зажурыліся на прызбе — прыйдуць да іх каханенькія ці не?

Федзя адчуваў найгрыш, штучнасць у сваіх паводзінах, у тым, што і як робіць (нібы разыгрывае прадстаўленне), але не хацеў перайначвацца, бо ўжо звыкся з гэтым тонам, які інстынктыўна знайшоўся і быў адзіна правільным — хутчэй дасягалася мэта. А народ жа любіць незвычайнае, любіць дзівакоў, хоць і бачыць яго акцёрства, але бачыць і шчырасць — «Свой хлопец!», у чымсьці нават падтрымлівае гэту гульню. І бабулі, калі што ўхавалі ад часу і злыбяды, больш ахвотна расчынялі куфры і шафы: чалавек жа шчы-

ра цікавіцца, хай паглядзіць. А калі ўжо зусім развярэдзіць хлопец душу — паказвалі самае запаветнае, тое, што — «на смерць». Як правіла, у гэтых прыхаваных на дно куфра клуначках былі самыя скарбы, самыя шэдэўры народнага мастацтва, ткацтва і вышыўкі.

Дзяўчаты, Ганя і Жэня, кожная па-свойму міла чырванеючы,— столькі вачэй! — адышлі ад плота, на які Паўлючыха ўскінула для фону («Ну няўжо ж каб голы быў!») свае самыя лепшыя посцілкі, паселі на лаўку пад хату — дзе ты возьмеш цяпер тую прызбу! Паўлючыха зноў занепакоілася, што будзе «голая сцяна на картачцы», але тут ужо Федзя засупраціўляўся, яму раптам спадабаўся шэра-сівы фон растрэсканых бярвенняў. І зборышча дзяцей і цётак, што ажно замірала ад цікаўнасці за плячыма, калі ён прыцэльваўся фотаапаратам, зазіраў у «шахту» «Кіева», дзе ўсё было відаць у колеры, ураз шумна задыхала, засапло, западсмейвалася, захіхікала, затупала, перабіраючыся на новае месца, радасна загаманіла: «Цырк! Бясплатны цырк! Каб яго качкі, гэтага Федзю...»

Федзя не паўтараў Гані і Жэні — «Схіліцеся галоўкамі!», бачыў, што абедзве нейкія не ў гуморы, нібы прабег паміж імі чорны кот. Такія розныя былі ў іх позіркі! У Жэні, студэнткі, хоць і пасміхнецца часам роблена, у вачах глыбока прытоплены боль, патаемная дума і душэўны неспакой. У Гані, суседчынай нявесткі, у вачах любасць, адкрытая ласка. «Дурніца, дурніца... Што яна вытварае? Людзі ж кругом, людзі заўважаюць... І ты ж замужам, дурненькая, не забывайся на гэта...»

— Дзядзька Федзя, ко-от!!! І-і-і!!! — ажно віскнуў ззаду нейкі хлапчук. Нібы сігнал падаў, і ўся шэўрадзь, што назбіралася на Паўлючышыным двары, заскакала, загалёкала:

— Бу-га-га!

— Апсік! І ён у фота лезе!

— Жук, кусі яго! Ату! — І тупалі, крычалі на ката, баючыся выскокваць з-за Федзевай спіны, каб самім не трапіць у кадр. А пярэстая, у рыжыя, чорныя і белыя плямы кошка лянотна скокнула на лаўку, адразу скруцілася клубочкам на Жэніным, разасланым каля сябе, шарсцяным, у вогненныя, вішнёвыя і лілова-фіялетавыя палосы андарака. Толькі трошкі распрастала складкі Жэня, а было іх там мо сотня, і ха-

піла б таго андарака на паўдвара. Зажмурыла кошка соладка вочы, адразу захрумкала песеньку. Нібы здымалася ў такіх позах не менш за тысячу гадоў, і гэта было для яе звыклай, як не штодзённай справай.

— Не рушце!! — У Федзі ажно голас сарваўся на хрып, бо нехта зрыхтаваўся сцебануць кошку дубцом.— Каханенькія, гэта ж знаходка! Коцічак, жэўжычак, адкуль цябе шчасце прынясло?! — блытаўся ад паспе́ху ў апаратах, прыцэльваўся Федзя.— І яшчэ здымачак! Увага, каханенькія! І яшчэ!.. Гэта ж каб і хацеў, то лепш не прыдумаеш!

Пакуль Федзя здымаў, Ганя глядзела проста ў аб'ектыў, але так, нібы зазірала ў шчыліну, каб убачыць праз яе нешта вельмі цікавае для сябе, мо разгледзець самога Федзю. А Жэня раз і другі пагладзіла кошку, загарэлая ручка павысоўвалася з расшытага ў каляровыя ўзоры рукава кашулі і зноў амаль схавалася ў рукаў, зацiснула другую руку, у прыполе. А зграбныя ножкі ў новенькіх, спецыяльна сплеценых Паўлюком, мужам гаспадыні, лапціках, у белых палатняных, укрыжаваных чорнымі раменнымі аборамі анучках як замерлі, так і стаялі, крыху падаўшыся глыбей пад лаўку. Не ножкі — цуд!

— Эх, каб яшчэ каля мэндлікаў шчоўкнуць! З сярпочкамі! — уздыхнуў і адразу павярнуўся да бальшчыкаў Федзя.— Цётачкі, у каго ж гэта я бачыў мэндлікі жыта ў агародзе? Вядзіце хуценька туды...— але заўважыў, што ў Гані на твары з'явілася нейкая турбота-нецярпенне, а ў Жэні пабольшала суму, дабавіў: — Дзяўчатачкі, яшчэ трошкі пацярпіце! І будзе на сёння ўсё...

Адразу аказалася і цётка, высокая і худая цётка Палашка, гаспадыня тых мэндлікаў:

— Ёсць у мяне і сярпы! Ёсць! Хадземце...— І павяла за сабою рэй з Паўлючышынага двара.

Вывалілі на вуліцу, і дзеці адразу апярэдзілі маляўнічы гурт, памчалі першыя. А гурт ішоў і зрэджваўся, у цэнтры, акружаныя світай, парыпвалі лапцікамі Ганя і Жэня. Сляпілі каляровыя гарсэцікі і беласнежныя, у кветкі і ўзоры па версе і каля манжэтаў рукавы кашуль... Ззялі ўсімі фарбамі вясёлкі, нібы падпаленыя сонцам, андаракі. Сонечная светласць праменіла і ад бялявых валасоў дзяўчат (кароткая стрыжка ў вяскове Гані і прамыя, разлітыя па пля-

чах патокі ў Жэні). «Тыпаж! Які беларускі тыпаж! І як зграбна ляжаць на іх касцюмы, як фігуркі падкрэсліваюць...» — Федзя ішоў крыху ззаду і збоку, шчыра любаваўся імі.

Каля самага свайго двара цётка Палашка апярэдзіла гурт, адчыніла нахлашч дзверцы, хоць амаль усе хлапчукі папералазілі ўжо цераз вароты, прыпяла дзверцы да плота драцяным абручом — «Заходзьце!».

Але натоўп зусім рассыпаўся, растаў. Федзя прыстояў каля варот, мяняў у «Кіеве» плёнку, чакаў, хто з цётак ці маладзіц зойдзе. Коратка зіркаў на апарат, коратка ў бок гары, з-за якой, з Падгорнай вуліцы, выскачыў, моцна пылячы, «газік». Палавая хмара за машынаю ўздымалася роўна з прысадамі і паволі ўцягвалася ў вішаннік справа, нібы ўсмокталася. З кудахтаннем пырскалі ў бакі куры, з заўзятым брэхам бег навыперадкі з машынаю чорны бясхвосты цюцька — вось-вось схопіць зубамі за пярэдняе кола.

«Ліхачы-ы... Хто гэта і куды?» — мільганула ў Федзевай галаве.

Цётка Палашка паспела ўжо даць Гані і Жэні сярпы, і яны ўскінулі іх на плячо — Ганя зухавата, Жэня — нібы страшную змяю. Яны стаялі каля агародных варот, чакалі Федзю, каб ісці разам на агарод, да мэндлікаў. Цётка Палашка выйшла з сянец, у руках трымала чорныя гаршкі-спарышы.

— Во-о,— паказала і яму, а потым ім сваю знаходку,— трошкі вышчарблены адзін... Матка ў іх некалі ў поле яду насіла.— І цётка падзьмухала на спарышы, пацерла па баках далоняй.

— Ай, цётачка! Хай вам і вашаму дзядзьку жывецца яшчэ сто гадоў! — Федзя пастараўся злавіць яе шурпатую руку, паднёс да вуснаў.— Усё вы схопліваеце, усё вы разумееце! — Але не паспеў цмокнуць, пацалаваць, як цётка разгублена вырвала руку. Штосьці, мабыць, ляпнуў непатрэбнае: ці не загінуў яе гаспадар у вайну?

Захапіўся Федзя, муштруючы Ганю і Жэню каля мэндлікаў — «Каб жа сонейка добра на вас свяціла!», цэліўся то адным апаратам, то другім, то трэцім. І не адразу ўчуў, што апалі дзіцячая гамана, смяшкі — рабочы шумок, які ўвесь час суправаджаў яго работу. Адступаючы задам, з апаратам каля вока, хуценька зірнуў на пяты, каб не спатыкнуцца.

Да ржышча падыходзілі разораю, чапляючыся нагамі за гарбузовыя паплеціны, двое: пярэдні — у чорных запыленых штанах і белай тэнісцы, на плечуках «гармонікі» — спацелыя рукаўчыкі пад пінжаком сажмакаліся і гэтак улежаліся, рэдзенькія валасы на галаве, мабыць, толькі што зняў капялюш, наліплі злямчанымі пасмачкамі. Твар бела-сыраваты, але гарэць свежымі ружовымі апёкамі лоб, шчокі пад бялёсымі вачыма і, асабліва, нос — як навагодняя лямпачка. Другім, ззаду, ішоў пры ўсёй амуніцыі і кабуры на поясе ўчастковы міліцыянер Мікалайка. Федзя ўжо ведаў яго, сустракаліся на танцах на Паповай гары.

— Хто вам дазволіў рабіць здымкі? — ціха, амаль шэптам, і вельмі ж аўтарытэтна пачаў гаварыць пярэдні і спыніўся. Бялёса-блакітнымі вачыма не міргаў. Мо думаў, што гэтак — шэптам — надасць сабе больш вагі? Федзя кінуў на яго спакойны яшчэ, крыху неўразуменны позірк і заўважыў, што спатнелы твар незнаёмага ўжо шарэе, атухае зыркасць на носе, а губы як не збялелі: начальніка забіраў гнеў.

— Ганя! Жэня! Добра было б вяночкі на галаву — з палявых кветак, з каласкоў. Сядзеце пад мэндлік, яшчэ па пары кадраў зраблю. Нават лепш — адна з вяночкам, адна яшчэ ўе ці прымервае. Дзеці — хуценька! Памажыце назбіраць! — працягваў распараджацца, прасіць, камандаваць Федзя.

Дзеці рассыпаліся па ржышчы, некаторыя кінуліся ў канец агарода, на паплавец.

— Прэкраціце!.. гэта!.. безабразіе! — раптам закрычаў, ціснучы на кожнае слова, незнаёмец. Кроў зноў прыхлынула яму ў твар.— Хто дазволіў рабіць такія здымкі? Дзіскрэдзіціраваць Савецкую ўласць і наш раён?

— А хто вы такі? З кім маю гонар? — пайшоў да яго Федзя — і абмінуў, падаў руку міліцыянеру: — Здароў, Коля!

— Гэта з раённага... аддзела... Я гаварыў, а ён усядно...— Мікалайка спрабаваў штосьці растлумачыць, але яго глухаваты голас нібы распароў сваім дыскантам незнаёмы:

— Не-е! Я вас пытаю! Хто дазволіў клевятаць на наш раён?! — выставіў правую руку і сказаў ужо зласнава-ціха: — Ваш мандат, дакументы!

— Дык з кім я маю гонар...— не дагаварыў Федзя,

правёў па незнаёмым зверху ўніз поглядам — быў на галаву вышэй за яго.

— Я загадчык раённага аддзела культуры! І ўпалнамочаны раённага камітэта партыі на ўборцы! — абвясціў з гонарам ружовашчокі, а Мікалайка пры гэтых словах скрануў у адзін бок губы, нібы хацеў усміхнуцца, варухнуў угору брывамі і адвярнуўся, пачаў наглядаць, як гайсалі на паплаўцы дзеці.

— Ву-унь яно што...— Федзя палез было ў кішэню і нібы перадумаў.— Ву-унь... А я думаў... які мудрэйшы начальнік. Ажно лыткі пачалі трэсціся... Ваша пасведчанне! — У сваю чаргу працягнуў да яго руку Федзя.— Я на словы не веру і не кожнаму свае паперы паказваю...— Федзю захацелася паздзекавацца з гэтага фанфарона.

Загадчык аддзела культуры лапнуў за адну кішэню штаноў, лапнуў за другую.

— У пінжаку дакументы, у машыне... Ды якое эта імеет значэнне? Я ў сваім раёне, меня каждый здзесь знает!

— Цётка, вы яго ведаеце? — звярнуўся Федзя да гаспадыні, што зводдалек, залезшы ў буракі, палахліва пазірала на начальства.

— Хто ж яго...— Цётка Палашка хуценька прыкрыла шчарбаты рот жменькай, цісканула плячыма. І тут жа закрычала на свайго хлопца: — Сева, бэйбус, дзе ты там лётаеш? Ідзі нарві вішань!

— Вы што эта?! Што вы сабе пазваляеце? — Пайшоў загадчык жыватом на Федзю, і той адзначыў, што жывоцік у яго і праўда ўжо ёсць. Гэткі «трудавы» мазоль — напінае спераду тэніску, вытыркае над штанамі.

— Вы, можа, прыгналі ў наша распараджэнне «газік»? А то ўсё пешкаваць прыходзіцца, такі ценжар на сабе валачы,— Федзя адцягнуў на грудзях раменьчык аднаго з апаратаў, адвярнуўся ад загадчыка да дзяўчат: — Ганя! Жэня! Вы звілі вянкі?

— Не яшчэ, Фёдар Іванавіч! Ото-то...— заспяшаліся дзяўчаты, выхопваючы з рук малышні кветкі. Дасюль яны ва ўсе вочы глядзелі, што гэта робіцца на агародзе, куды выкіруецца.

— Дык вось...— Федзя рэзка павярнуўся да загадчыка, які ўжо важна-насуплена стаяў, маракуючы, што далей гаварыць, як дзейнічаць.— Ёсць у нас і ман-

даты з Акадэміі навук, з Інстытута этнаграфіі і фальклору... І з абкома партыі паперка — «Аказваць экспедыцыі ўсялякае садзеянне...». Можаце і ў старшыні райвыканкома пра нас распытаць, у сакратара райкома...

— Фальклору! Дык вы ж і сабірайце... гэтыя свае песенькі! Нікаму нянужныя! А чым вы займаецеся? Дзіскрэдзітацыяй Савецкай уласці! — загадчык натхняўся ад уласных слоў і паварочваўся то да Мікалайкі, то да Гані і Жэні, нібы заклікáў іх у сведкі. І схіляўся то ў адзін бок, то ў другі, быццам звешваўся з трыбуны, стаўляў стаўпом вочы і шматзначна заміраў.— Гдзе вы відзелі ў раёне лапці? Фальсіфіцыруеце і падтасоўваеце факты! — выцягнуў шыю, углядаючыся ў лапці на нагах дзяўчат.— Клевята! Разве ў такой обуві ходзіць наш народ? У такой адзеждзе? Гдзе вы відзелі сярпы і эці... бабкі снапоў? Шэсцьдзесят лет Савецкай уласці, дваццаць лет аднімі камбайнамі ўбіраем зярно! Куды вы сабіраецесь вывезці эці снімкі — за граніцу?! Таварыш участковы, прашу канфіскаваць апараты, засвяціць плёнкі!

Міліцыянер пераступіў з нагі на нагу.

— Не маю я права на гэта... Не буду я гэтага рабіць... І вабшчэ мне ў сельсавет трэба! — Мікалайка павярнуўся і паволі пайшоў разораю, пакінуў на «полі бою» аднаго загадчыка. Ідучы, некалькі разоў шумна выдыхнуў паветра, дастаў з кішэні хусцінку, правёў па твары, правёў па патыліцы.

— Я гэтага так не астаўлю! Я каму трэба... Гэта ж паліцічаская блізарукасць! — падняў угору палец, патрос ім загадчык і пакіраваў у разору — за Мікалайкам. Адвярнуўся, выставіў на Федзю палец, нібы пісталет: — Каб за дваццаць чатыры часа вас тут не было! Іначай будзем прымаць экстраныя меры! — крутнуўся ісці і тут жа зачапіўся за гарбузнік, ледзь не ўпаў.

— Вы там яшчэ камбайнераў паганяйце! Павучыце іх жаць! Камбайн з поля — плуг у баразну! — пракрычаў наўздагон Федзя. А сам сабе прашаптаў: — Папраў казе хвост, дасць бобу на пост...

Ён хоць і стрымліваў сябе ўвесь час, але гэтае самаўтаймаванне, зацісканне «пары ў катле» ўжо «разгайдала» і яго. Рукі трэсліся, хадзілі хадуном. Прыцэліўся колькі разоў — і апусціў апарат: сапсуе кадры.

— Не магу... Каб у яго шыны палопалі... Адзін дурань прыедзе, а можа ўсё сяло дагары нагамі паставіць.

— Фёдар Іванавіч! Мне на свінаферму трэба ехаць — пусціце, га? Хай адна Жэня папазіруе...— Ганя ўмольна глядзела на яго цёплымі і ласкавымі вачыма.

— Зараз!.. Ото-то, каханенькія... Усіх адпушчу... Паскідаеце ў Паўлючыхі адзенне, я вечарам яшчэ замалюю яго, чарцяжы зніму. Жэня, а ты апішаш.

Сабраўся з духам, шчоўкнуў дзяўчат кожным апаратам — у вянках.

— Усё!.. Ганка, пазыч мне мапеда, у раён злётаць. Гадзіны на дзве...— У Федзі выспеў намер і стаў проста неадольным.— Пагавару са старшынёй райвыканкома: як гэта ён трымае... такіх ёлупняў!.. На такой адказнай пасадзе!..

— Я паеду на ферму, а вы за сяло выходзьце... Бензіну толькі малавата... Я да фермы даеду, а ў ражку, у жыце пастаўлю мапед. Сядзеце там, адтуль паедзеце.

— Ганя, ты што «завыкала»? Можа, і зваць як — забыла?

Зарагатала Ганя, ухапіла ніз андарака з бакоў пальчыкамі, прыпадняла і паскакала разораю, як каза.

— Сева, бэйбус ты! Скора ты нарвеш там вішань? Людзі ўжо разыходзяцца! — крычала цётка Палашка — недзе ад хлява.

Жэня ішла папераздзе, асцярожна, каб не падрапацца, пераступала гарбузовыя паплецiны. Гаварыла не адварочваючыся да Федзі — задумліва і з нейкай трывогай:

— Не рабі гэтага, чуеш?

— Чаго, Жэнечка?

Іх паабганялі хлапчукі — галёкалі і скакалі праз радок, праз два па бураках.

— Ну — не едзь у горад...— павярнулася, зірнула з сумам яму ў вочы.— Часу многа страціш... І што дасць твая гаворка ці сварка? А калі і старшыня райвыканкома такі? Думаеш, здыме таго загадчыка?

— Не-е, Грак не такі... Я ж быў у яго! Толькі пагаварыць добра не давялося.

— А цяпер, думаеш, пагаворыш? Уборка ж пачалася, мо ўсе ў раз'ездзе...

— Жэнька, ты — разумніца. Я даўно гэта казаў... А таго загадчыка, будучы на месцы Грака, я і дня не трымаў бы. Мо ён не ведае, што ў яго за кадр сядзіць на культуры? То няхай уведае... Гэта ж «воинственное невежество»! А калі яно ваяўнічае, то і нам не трэба папускацца... Ваяваць трэба з ім!

— Не едзь...— ціха паўтарыла Жэня.— Ты сам не ведаеш, якое ты яшчэ дзіця па характары. Наіўнае! Ты — Дон Кіхот!

— Той загадчык проста шкоднік. Ваяўнічы шкоднік! Такога на любую пасаду пастаў — усюды будзе працаваць з аднолькавым «рвеннем», драць лапамі зямлю,— нібы не чуў яе Федзя.— Я бо думаў: чаму гэта нідзе ніводнай шыльдачкі няма на помніках архітэктуры? Цяпер разумею: ён пастараўся, ён прыклаў рукі... «Як гэта?! Каб на царкву ды павесіць ахоўную шыльду?!» Мастадонт! У яго дасюль не ўкладваецца ў мазгах, што не рэлігію мы гэтым абараняем. Ніяк глуздоў не дабярэ, што калі цяпер у лапцях не ходзяць, у андараках, то не магу ж я вас да камбайна прыстасоўваць, на камбайн заганяць...

На двары Жэня ўскінула на плот серп — там ужо вісеў Ганін, зняла і павесіла на планку вянок.

— Эх, ты-ы! Ішла б у вяночку, ён так пасуе табе...— Незнарок, а мо і знарок Федзя дакрануўся рукою да яе плячэй, нібы хацеў абняць. Жэня варухнула плечуком, бароначыся, хутка пайшла да варот.

— Пачакайце, куды ж вы? Вішні во, якія спелыя...— цётка Палашка выхапіла з рук хлопца кошык, працягнула ўслед.

Федзя ўкінуў адну вішаньку ў рот і павярнуў за Жэняй:

— Хай, цётка, так калі... Мы яшчэ зойдзем да вас у вішні... Тайком залезем, з галлём паабрываем! — усміхнуўся шырока ад варот.

— Шпакі паядзяць, пакуль вы...— разгублена апусціла кошык, а потым саўганула яго ў рукі хлопца цётка Палашка.

Федзя і Жэня ішлі ў сваю «штаб-кватэру», ішлі да Паўлючыхі. У яе Федзя жыў з Іванам — студэнтам-чацвертакурснікам, філфакаўцам. Дзяўчаты, студэнткі, трое, кватаравалі праз дзве хаты ад Паўлючыхі. Суседкай у Паўлючыхі плот у плот, жыла і Ганя. Жыла са свякрухаю, Юльянаю, бо маладзенькі муж, не

паспеўшы пагрэцца каля Гані, пайшоў у армію, у дэсантнікі.

Ужо блізка падышлі да Юльянінай хаты, як з двара віхурна выскачыла на мапедзе Ганя, заклала крутый віраж. На ёй была блакітная сукня. Паспела заўважыць іх, крыкнула, адвярнуўшы галаву:

— Жэнька, зайдзі вазьмі андарак і кашулю! Няма калі мне! — і прыбавіла газу, загайсала па калдобінах.

Іх сустрэла каля варот з адзеннем у руках цётка Юльяна.

— От, шаляніца... Ну — скруціць яна сабе галаву! Ох, скруціць...— Падала адзенне Жэні, нібы не давярала Федзю.— Я ўжо і сыну пісала, каб прыгразіў трохі ў пісьме. Не памагае!

— Дзякуем,— сказала Жэня, забрала андарак і кашулю на руку, пайшла далей.— Заўтра мо машына паедзе ў горад. З машынаю і падскочыў бы.

Зноў не заўважыў Федзя ніякага падтэксту ў яе словах, адказаў горача:

— Ды я хуценька! Адклад не ідзе ў лад.

## 2

Дзень летні доўгі, і Федзя, хоць і стаяў у дарозе, пакуль «падстрэліў» бензіну, і хоць трохі вёў мапед у руках, вярнуўся з горада яшчэ зарана. І проста да Паўлючыхі ў двор — Гані мапед не адводзіў.

Куды зараз? Пашукаць Івана і яго дзяўчат, «песельнікаў», як кажуць бабкі, пацікавіцца поспехамі за дзень? Не, потым мо ўбачацца, калі ў кіно прыйдуць ці на танцы. Праўда, часцей было так, што ні ў кіно, ні на танцы Іван не прыходзіў: вечарам, калі павяртаюцца ўсе з работы, у яго сама «разэрва», як кажуць бабкі. Недзе ўжо і чарачку ўзялі, і шчыруюць, выспеўваюць, а ён толькі касеты ў магнітафоне мяняе...

Няма Паўлючыхі дома — мо ў зелле ці ў траву пайшла, а мо лён слаць, мо сянаж закладваць. Хапае работы і ў калгасе, і пры доме. Федзя ведаў, дзе яна хавае ключ, сам зайшоў у хату. Узяў эцюднік з фарбамі, з аркушамі шчыльнай паперы, узяў акварэлькі і гуаш, вынес усё пад хату на лаўку. Прынёс маленькі заслончык, расклаў і расставіў свае прычындалы, прыкнопіў да вечка эцюдніка чыстую паперыну. І пляснуў далоняй па лобе: «Так-так-так... Патрошку, патрош-

ку — і звіхнемся... А вопратка дзе, замалёўваць што буду?»

Вынес з хаты адзенне, што паскідалі з сябе Ганя і Жэня, паклаў на край лаўкі. Каб замаляваць адзін андарак, трэба ліха ведае колькі часу. Праўда, дасюль ён крыху хітраваў: схопліваў агульны абрыс, контур адзення, і ў які малюнак ці ўзор вытканы — алоўкам, стараўся перадаць і структуру тканіны. Фарбамі ўвесь малюнак не замалёўваў, а толькі краі, схопліваў тон палос ці клетак, гаму колераў. Да канца вымалюе потым, калі вернецца з экспедыцыі, доўгімі зімовымі вечарамі. Гэтак і зараз будзе...

Разапяў андарак на сцяне, прыкалоў шпількамі. Сеў на заслончык...

І не вытрываў, дастаў з кішэні скамечаны кавалачак паперкі — старонку з блакнота. «Прыходзь пад «прошчу» пасля кіно. Буду чакаць, любы мой! Г.» Зноў скамячыў, сунуў у кішэню.

«От, зараза... Ну — падумаць толькі! «Любы мой...» Ну й зараза...»

Не, не будзе пра яе думаць... Кідаў вокам на андарак, а рука з алоўкам бегала па белым, белым аркушы. Нібы ўстанавілася прамая сувязь: вока — рука, вока — рука. І нібы само сабою ў галаву палезла другое...

Мапед і праўда стаяў за сялом, у жыце, пры павароце на ферму. Тырчаў з-пад сядла, закручаны ражком за віток спружыны, той блакнотны лісток... З тымі словамі пра «прошчу» і — «любы мой!». Ганя напісала... Ганя яго клікала на спатканне. «А Жэня адгаварвала не ехаць мапедам у горад... Чула яе сэрца... Саперніцу чула...»

А ён паехаў. Скамячыў тую запіску, скачаў у тугі шарык і доўга трымаў у руцэ, між пальцаў. На нейкай калдобіне моцна дрэгнуў руль, і камячок выпаў на дарогу. Мо сто ці дзвесце метраў праляцеў і, нібы здзяцінеў, развярнуўся, паехаў назад. Доўга шукаў, пакуль знайшоў той камячок паперы...

Грака застаў у прыёмнай, той штосьці гаварыў сухарляваму і немаладому ўжо сакратару выканкома, падкідваў на далоні невялікі звязак ключоў, звякаў імі. Сам быў стомлена-ўзбуджаны і запылены, відаць, толькі што прыехаў з раёна і ці не збіраўся ехаць зноў.

— А больш ніхто не званіў? Ну — кіруй тут. З пя-

ці я на комплексе, там у іх сход у шэсць...— Старшыня ўрэшце павярнуўся да яго, бо Федзя як зайшоў, дык і застыў у дзвярах, каб нахрапам не лезці.— А вы да мяне, малады чалавек?

— Да вас, Раман Змітравіч... Вы не пазналі мяне?

— А-а, шчыры беларус... Пазнаў, пазнаў. Толькі няма мне калі з табою, хлопча, гаварыць... Калі хочаш — сядай у машыну. Па дарозе скажаш што трэба.— Федзю прыемна было слухаць яго чыстую беларускую гаворку.— Я еду дадому перакусіць, а потым далей.

І не чакаў Федзевай згоды, злёгку паштурхаў перад сабою ў калідор, а потым на лесвіцу, а потым пад яе — у дзверы, што вялі на двор, да гаража. Зноў Федзю спадабалася гэтая свойская бесцырымоннасць, нават тое, што гаворыць яму «ты», а не «выкае», хоць самому даводзіцца на «вы». Звычайна ён такога нераўнаправага панібрацтва ні ад кога не хацеў цярпець.

У прыземістым, на некалькі варот, гаражы былі адчынены толькі крайнія злева вароты, і там угнуліся, разглядаючы пад капотам матор старой «Волгі», трое чалавек. «Уазік» стаяў пасярод двара, і як толькі старшыня загаварыў, адзін з тых трох разагнуўся і выйшаў з гаража, запытальна гледзячы на Грака. Квадратненькі, з саломенным ці капронавым капелюшом на патыліцы.

— Гуляй, гуляй...— махнуў на яго Грак.— Можаш і дадому шпарыць.

Тоўсты шафёр згодна кіўнуў, вярнуўся да «Волгі», зноў угнуўся з двума другімі дзядзькамі.

Грак вёў «уазік» упэўнена, нават зухавата. Мабыць, у яго былі не аматарскія правы, а шафёра-прафесіянала. На асфальце руль нават кідаў — папраўляў сядзенне, расціраў над баранкай далоні, а машына імчала сама. Ехалі з цэнтра на ўскраінную вуліцу, зварочвалі і раз, і другі, і трэці...

— То мо якая дапамога трэба — кажы,— адразу скіраваў Грак гаворку на канкрэтнае.

— А чым вы паможаце? Хоць бы не перашкаджалі, і то добра было б! — ён адразу загаварыў горача, без усялякіх дыпламатычных пераходаў: — Слухайце, як вы трымаеце на рабоце такога ёлупа?

— Каго гэта... Хто вам насаліў?

— Ваш загадчык культуры! З міліцыяй прыходзіў

ганяць нас... Можаце ўявіць? От чаму ў лапцях фатаграфіруем? Чаму з сярпамі, каля снапоў? Паклёп на раён, на Савецкую ўладу! Хапаўся плёнкі рэквізаваць і засвяціць...

— Ха-ха-ха! Ну, я думаю, вы там далі яму адпор? — Грак даўгавата і весела глядзеў у твар Федзю, а рукі самі пакручвалі, дзе трэба было, руль.

— Далі! — пасміхнуўся і ён. Грак неяк абяззброіў яго, гнеў і абурэнне, якія хацеў распаліць у сабе Федзя як мага і абрынуць заадно на кіраўніка раёна, не распальваліся, а тухлі.

— А знайшлося што з адзення? — Грак, здаецца, і на дарогу не глядзеў, а піпікнуў на казу з двума казляняткамі.— Пагінула многае за вайну...

— О-о, яшчэ ж якія перлы! Такая прыгажосць, такое мастацтва — душа млее... Дзіву даешся, і злосць бярэ: як мы яшчэ мала ведаем! Якія мы «ленивые и нелюбопытные»! Эх, каб гэта можна было ўраз зазірнуць ва ўсе куфры і шафы... Колькі шэдэўраў мастацтва, якое культурнае багацце можна было б на свет выцягнуць! Жанчыны ж усю душу ўкладвалі, увесь талент...

— Да-а-а, месяцамі і гадамі ткалі і вышывалі...

— І, ведаеце, што крыўдна, Раман Змітравіч? Самае таленавітае, самыя перлы захоўваюцца «на смерць». Як падумаеш, колькі ўжо старых пахавана ў гэтым самым лепшым, колькі твораў мастацтва загінула беззваротна...

— Больш у вайну згарэла. А то і паграблена немцамі...

— Не, я маю на ўвазе не апошнія дзесяткі гадоў, а ўвогуле. Стагоддзі!

— Кажаш — святочнае адзенне... А ведаеш ты, хлопча, што не лапці абувалі да святочнага адзення? Боцікі, чаравікі... Пачытай Сержпутоўскага!

— А вы чыталі?! — шчыра здзівіўся Федзя.

— Чытаў. Ён жа наш зямляк, кіламетраў пятнаццаць адсюль нарадзіўся. Я ж гісторык па прафесіі, выкладаў некалькі гадоў. Цікава было, што пра нашыя мясціны пісалі... А ёсць жа яшчэ працы Шэйна, Раманава.

Федзя збянтэжана пракашляўся. Ён сам яшчэ не ўсіх чытаў, сёе-тое браў у Максіма Сачыўкі ў інстытуце, «эмэнэса», малодшага навуковага супрацоўніка, з

якім пасябраваў. А ў правінцыі цяжка знайсці працы гэтых даследчыкаў-этнографаў мінулага стагоддзя. Хоць бы не лез глыбей Грак, хоць бы не прыціснуў чым-небудзь і не здагадаўся, што Федзя ў гэтай справе пакуль што мелка плавае.

— Вось так, фальсіфікатар...— трошкі з паддзеўкай паглядзеў на яго Грак.— Мне шосты дзесятак, у райвыканкоме гадоў дзесяць... А адразу пасля вайны ізбачом быў, у хаце-чытальні працаваў. Го-о, такія канцэрты наладжвалі, адбою ад аматараў не было! «У нядзелю ранюсенька заходзіць да мяне Панасюк. Тое ды сёе, а потым і кажа: «У тую суботу каб быў ты ў воласці ў сведкі на суд». Як у сведкі дык у сведкі. Хоць я нічым нічога, казаў той, ніколі нікому...»

Федзя спачатку не зразумеў, чаму гэта раптам Грака нейкі Панасюк паклікаў у сведкі. І якая можа быць цяпер воласць?! І раптам, калі старшыня пры апошніх словах «нічым нічога» «ніколі нікому» прастакавата-камічна пацiснуў плячыма (нават рукамі развёў, пусціўшы руль), здагадаўся: дык гэта ж ён чытае на памяць «Сведку» Францішка Багушэвіча! Ад захаплення зарагатаў: гэтак шчыра і натуральна ўсё атрымалася ў Грака! Артыст, сапраўдны артыст.

— Эх, і былі ж тады энтузіясты! І якія здольныя людзі... Мой самы шчаслівы час...— з нейкай светлай самотнасцю ў голасе ўздыхнуў старшыня.— Звяліся яны, ці што? От і даводзіцца... як ты кажаш... ёлупняў... Але ён іспалніцельны... «Так і так, кажу, у мяне, кажу, Каруська (гэта жонка мая) надта, гадзіна, рана ўстае»,— Грак сам засмяяўся, пакруціў ад захаплення галавою.— Добра Багушэвіч пісаў, смешна. А мова якая сакавітая, чыстая! Не паверыш, што больш за сто гадоў назад пісалася...

— Не, на свята лапці таксама абувалі, нават у большасці выпадкаў! — не здаваўся Федзя.— Былі такія святочныя, касога пляцення. Не ўсе нават умелі іх плесці.

— Пахлапні? Былі, былі... Але ж былі і чаравікі, і боты. Не ва ўсіх, праўда... Мужчыны на свята абувалі...

— Адна-дзве пары на вёску! Мне дзяды расказвалі... Насілі не на нагах, а за плячыма, каля царквы абувалі. Пазычалі хлопцы адзін у аднаго, як жаніліся. Ведаю!

— Але ж былі? — усмешліва неяк, па-бацькоўску азірнуў яго Грак.

— Былі! Як на насенне...— засмяяўся і Федзя.— У мяшчан у асноўным, у прыгарадных вёсках, у мястэчках.

Машына стала пад вішнямі, каля плота. У глыбіні саду чырванеў старое кладкі цагляны домік. Цяпер лепшыя ў вёсцы ставяць.

— Прашу,— адчыніў Грак варотцы ў плоце, і Федзя ўбачыў выкладзеную перапаленаю, ажно чорнаю, цэглаю сцежку.

— Я вас тут пачакаю,— пачаў было адмаўляцца.

— От фокусы: я буду там адзін, а ён тут адзін. Не саромся, я халасцякую. Жонка ў санаторыі, дачка недзе ў будатрадзе, ажно на БАМе. Студэнтка...

— А чаго ж не з жонкаю на курорце...— Федзя пайшоў за ім па гэтых спечаных, нібы шлак, цаглінах.

— Не пускаюць раённае начальства ў гулі, пакуль уборку не скончым.— Грак на хаду сарваў некалькі спялейшых папяровак, падаў Федзю.

З тыльнага боку дома быў высокі ганак. Толькі ўзышоў Грак на другую прыступку, як недзе з-за хлеўчука, што стаяў яшчэ далей у садзе, паказалася з пучком зелля ў руках старая бабуля. Кінула зелле пад хлеў, хуценька пайшла да іх, атрэпваючы рукі.

— Мама, мы самі, самі...— хацеў суняць яе Грак, засцерагальна ўзняў руку.

— Здрастуйця... Нашто ж самі, калі я яшчэ тупаю. Скарэй будзе.

Яны ўмываліся ў прыбудоўцы, з веранды вялі туды дзверы. Федзя падзівіўся: пастаўлена газавая калонка, умывальнік, ванна.

— Жончына маці...— Грак не хацеў казаць цешча.— Пад'ехала з вёскі.

— А каб не пад'ехала, то з голаду тут дайшоў бы! — азвалася старая з веранды.— Божа-божа, і што гэта ў людзей за дурная работа? Ні есці часу няма, ні, выбачайце, у адхожа месца схадзіць... Ды яшчэ хочуць, каб здароўе было! Адкуль жа быць таму здароўю? Гэта ж не вада — пайшоў, зачарпнуў з калодзежа.

— Ну, добра, добра, мама... Табе абы пабурчаць.— Грак падміргнуў Федзю: «Во дае...» І сказаў шэптам, каб не ўчула старая: — Тут мяне быў прыціснуў шлу-

нак...— дакрануўся да жывата.— Ну — пайшлі, перахопім чаго.

За ядой зноў размаўлялі. Горача.

— Музеі трэба — этнаграфіі, народнага быту, мастацкіх промыслаў, народнага дойлідства... Дзесяткі! Чаму вунь у Прыбалтыцы ці на Украіне...

— Будзе ўсё і ў нас — я чытаў. Музей народнай архітэктуры і быту пад адкрытым небам.— Грак смачна сёрбаў курыны булён.

— Калі тое будзе! — гарачыўся Федзя.— Ужо мо ніводнага млына ветранога не засталося! Ці вадзянога... А ў Залужжы, за Старымі Дарогамі, ведаеце, што я бачыў? Жмухі! Не здагадваецеся, што гэта такое? Я таксама спачатку не мог дагадацца... Бялізну мыць! Такі вялізны і шырокі рабрысты пранік, ходзіць сюдтуд у рабрыстым карыце... Паспрабуйце знайсці яшчэ адзін — усю Беларусь дагары нагамі перавернеце — не знойдзеце. А то выпадкам, мімаходзь... Гляджу — вачам не веру! А на Палессі ступу нажную бачыў...

— Збяруць, усё збяруць,— лагодна бурчаў Грак.

— Калі тое будзе! Усе на больш важныя справы спасылаюцца. А не будзеш ведаць мінулага, не ацэніш правільна таго, што ёсць...

— Судар, прапісныя ісціны талкаеш!

— Вопратка не вывучана толкам, не сабрана — апошняя гіне... Адміраюць бабулі, песні з сабою ўносяць. А гэта ж таксама помнікі культуры. І не прычэпіш на іх шыльдачку, што ахоўваюцца дзяржавай... Яшчэ на пяць, ад сілы на дзесяць гадоў хопіць старых — і ўсё, пішы прапала. Маладзейшыя ўжо не ведаюць і дзесятай ці сотай долі таго, што ў старых у галаве.

— Во, наша Ягораўна песень ведае — ліку няма. Праўда, мама? — павярнуўся Грак да цешчы.— Я і то збіраюся магнітафон купіць, запісаць за ёю.— Грак чыркнуў пальцам у паветры — нібы падпісваў дзелавую паперу.

— Ой дзе там ужо... Галава, як рэшата,— адмахнулася Ягораўна.— Ешце вы, а то ўсё гаворыце, гаворыце.

— А трыццаць жа тамоў фальклору Акадэмія выпускае! У мяне нават некаторыя ёсць. А ты кажаш — фальклор не сабраны,— тон у Грака быў такі, нібы старшыня падзадзёрваў Федзю.

— Ха, трыццаць! А сабраць і выпусціць можна сто трыццаць! Нідзе ў свеце няма такога фальклору, асабліва песеннага. У нас жа пісьмовай літаратуры доўга не было, стагоддзямі, толькі недзе ў васемнаццатым, дзевятнаццатым з'явіліся творы. А ўсё праз фальклор вылівалася... А танцы, колькі беларускіх танцаў зніклa, ніхто не памятае ўжо. Таксама не збіралі ў свой час, рукі не даходзілі. Што цяпер танцуюць у ансамблях, у хорах? «Лявоніху», «Крыжачок», «Бульбу», «Мікіту», польку-трасуху, «Юрачку». Ну, можна яшчэ, падумаўшы, тры-чатыры назваць. І ўсё? Госпадзі, ды іх жа былі дзесяткі і дзесяткі! Гаворыш з бабулькамі, часам такія танцы называюць — назвы нават не чуў! Просіш: бабка, прайдзіся хоць трошкі, хоць адну фігуру пакажы. «Не помню, дзеткі...» — і ўвесь сказ. А імі ж можна было дзівіць і радаваць увесь свет!

— Чорт яго ведае... Можа, і мне не ехаць на свінагадоўчы комплекс? — Грак звярнуўся нібыта да Ягораўны, але не даў ёй нічога ў адказ сказаць: — Ды во, з ім, танцы запісваць, фальклор... Куфры трэсці! — Грак устаў, падзякаваў за абед.

— Я з вамі сур'ёзна, а вы...— нават пакрыўдзіўся Федзя.

— Не гаруй, хлопча... Знойдуцца і ў нас людзі, якія палічаць усё гэта сваёй самай галоўнай справай у жыцці, не дадуць нічому загінуць. Давай махнём са мною на комплекс, паглядзіш, што мы там навыбудоўвалі. Га?

— Чытаў... Фабрыка мяса, і гэтак далей. Чамусьці клопаты пра страўнік лічыце самым галоўным, а на астатняе...

— Базіс і надбудова — вучыў жа мо калі? Ствараем матэрыяльна-тэхнічную базу камунізма. Сама з неба не ўпадзе! Дык едзеш?

— Не, сёння некалі мне! — адмовіўся Федзя. Яго ўсё яшчэ не адпускала крыўда.— Паеду трэсці, як вы кажаце...

— То бывай! Я цябе падкіну назад да плошчы, да райкома... А там ужо сам. Слухай! — нібы спахапіўся Грак.— А ты пайшоў бы на наш аддзел культуры?

— Я — настаўнік. І з другога раёна.

— От здзівіў. Я ж таксама настаўнік, а даводзіцца займацца... Эх-ха, чым толькі не даводзіцца займацца! — Грак ціскануў яго за плячо, пакрочыў з хаты.

...І Федзя быў думкамі яшчэ там, з Гракам, яму ўсё хацелася гаварыць з ім, спрачацца. Цяпер ён прыдумляў больш дасціпныя рэплікі, чым тыя, што кідаў тады. «Прагматыкі вы...» Во, так трэба было б рэзнуць яму. Але падышла і моўчкі ўссела на кончык заслона Паўлючыха. Злёгку падчэкнулася — ці не пераважыць, не страсе яго начынне?

— Што я табе скажу, Федзя... Ты чалавек у нашум сяле новы, то й не ведаеш нічагенькі. Не ходзім мы да Палашкі...

— Як гэта?.. Пасварыліся? Толькі вы не ходзіце?

— Не! Усе бабы. З самай вайны яшчэ... Ага, больш за трыццаць гадоў... Яна-то і лезе сляпіцаю — і загаворвае, і ўдружыць што хоча, памагчы. Ну, а мы толькі на тое адказваем, што ўжо не вытрываць. «Ага», «не» — абы адчапіцца...

— А за што ж гэта — такі байкот?

— Старастава жонка... Жоўцік... Самога засудзілі, адразу пасля вайны, дзесяць гадоў далі. То ён і не вярнуўся, спрогся недзе... Такія юды абое былі, такія куслівыя! Трынаццаць дзявок і хлопцаў запраторылі немцы ў Германію — на каго ўказку Жоўцікі далі. Трое так і не вярнуліся, пагінулі там. А мая дачка ў Бельгіі ачуцілася, замуж за бельгійца выйшла.

— То мо Палашка не вінаватая, раз не судзілі.

— Але! Муж і жана — адна сатана... Яшчэ як бегала па вуліцы, як дзяўкала! А колькі яны дабра яўрэйскага паперацягалі з мястэчка! Усю вайну ў крамным-раскрамным шчыгалялі, а мы цераз год у зрэбнае пачалі адзявацца... У яе ж дзеўкі дзве дарослыя, паз'язджалі з дому гадоў дзесяць назад, замуж павыходзілі. А сюды стыдаюцца і носа паказаць.

— У Палашкі ж нейкі хлопец, я бачыў...

— А-а, ёсць... Ёсць! Прыдбала, невядома з кім... Такі рыштанюга расце — не дай бог!

— Выходзіць, мужчыны не такія прынцыповыя, як бабы... Захаджваюць да яе.

— Ты не смейся! Гэта не смешачкі... Нехта ж, праўда, пакваліўся на такую трэску!

— Жыццё бярэ сваё.

— І што за мужык цяперашнім светам пайшоў!..— нібы не чула Федзю Паўлючыха.— Гэта ж даўней як наробіцца гаспадар у полі, ледзь ногі прывалачэ... Ніякая дурасць у галаву не лезе. А цяпер усё механіза-

цыя... От жа свет настаў: трэба ў суседняе сяло, тры кіламетры, то будзе дзве гадзіны чакаць аўтобуса! За гэты час два разы можна было пешкі туды і назад абярнуцца... Вой!..— успляснула цётка рукамі.— Што гэта я раскапусцілася ды сяджу... Табе ціляграму прынеслі з пошты...

Балюча кальнула ў сэрца. Спалох, мабыць, адбіўся на яго твары, бо цётка супакойліва махнула рукою:

— Добрая ціляграма, на гарэлку завуць. Вяселле табе прадстаіць.— І патупала борздзенька ў хату.

«Якое яшчэ там вяселле? Мо хто — дзесятая вада на кісялі... Не паеду, няма калі раз'язджацьі..»

«Запіска тая... Ну й Ганя!.. Ну й малахольная... А прымагніціць можа, жанчынка — дай бог!»

— Во, глядзі ціляграму... Ач? Харошая... Ды хадзем у хату, я пеўня сёння варыла. Вячэраць пара ўжо.

— Дзякую, я абедаў.— Федзя прабег вачыма наклееныя стужачкі з літарамі. «Бацька?! У бацькі вяселле?! Ну, стары... Ну й мужык цяперашнім светам пайшоў!» — падумалася словамі Паўлючыхі.

— «Абедаў», «абедаў». Я пра вячэру кажу! Кгым-м... Гэта ж не магла сама засекчы. Злавіла, пазвала курэй у сенцы... Нясу пад гатар, там мужчын поўна ўсягды. Выскаляюцца, каб іх... «О, правільна! У цыркулярку сунем, чык — і няма галавы!»

— Ага...— Федзя не чуў, што яна гаворыць. Ашарашыў бацька тэлеграмаю. «Пакрыўдзіцца стары, калі не прыеду. А як жа дабрацца? Кіламетраў сорак з гакам... Добра, што не адвёў Ганін мапед».— Курыны, цётка, у мяне дзень сёння. Дыета, як на курорце. Старшыня райвыканкома частаваў булёнчыкам з курыцай, і тут...— Федзя пачаў збіраць манаткі.

— Нічога, палка на палку шкодзіць, а гэта — не. Якраз гэтак некалі гаварыла Федзева маці. Няма ўжо яе, даўно няма...

«На мапедзе Федзя едзе... Федзя едзе на памедзе...» — зачаўплося абы-што ў галаве.

## 3

Праз метраў трыста ад хаты Паўлючыхі вуліца раздвойвалася. Левы, кароткі, рукаў аббягаў Папову гару з захаду, а правільней — паўднёвага захаду, правы, доўгі — з паўднёвага ўсходу. На развілцы ўтварылася невялікая плошча, тут і быў гра-

мадскі цэнтр: справа стаяў клуб, злева — магазін і сельсавет з поштай, праўленне калгаса. Праўленне калгаса і два двухпавярховыя дамы для спецыялістаў заходзілі ўжо на левую, так званую Маладзёжную вуліцу.

Федзя ў клуб спазніўся, занавешаныя вокны былі цёмныя. З цаглянай будкі, што прыляпілі да глухога тарца драўлянага клуба, чуваць быў мерны стракат кінаапарата, вырываліся галасы-крыкі і тупат коней. Ішоў фільм.

Ірвануў на сябе дзверы апаратнай, і яны ледзь не згрэблі самога з драўляных, прыстаўленых накасую, усходцаў.

Белагаловы кінамеханік стаяў спінаю да дзвярэй, «запраўляў» стужкаю бліжэйшы апарат (стракатаў дальшы).

— Здароў! Што круціш?

— «Белае сонца пустыні»,— адвярнуўся на момант той, дыхнуў вінам.

— А-а-а...— Федзя прыпаў вачыма да акенца ў залу, затуліў твар з бакоў ад святла. На экране сядзелі кучкаю, панакрываўшыся з галавою, жонкі важака банды басмачоў, цэлы гарэм.— Слухай, будзь другам, зрабі, каб гэта самае... Ну — быццам бы лента парвалася, каб святло ў зале ўспыхнула. Да зарэзу трэба.

— Мінут дваццаць — і другі апарат уключу. Тады можна... засвяціць. Хоч сто грамаў? «Чары Ніла», праўда...

— А што ў цябе за свята сёння? — Федзя толькі цяпер заўважыў на стале пакладзеную домікам газету. Пад ёю ўгадвалася бутэлька.

— Ат... З жонкаю пацапаўся... Сядзі, кажа, з малым, я пайду пракручу. Яна ў мяне таксама кінамеханік... А што ў мяне — цыцкі ёсць? Пачне галёкаць — не ведаю, што рабіць. Тры месяцы сыну.

— Малады шчаслівы бацька.

— Шчаслівы, а як жа...— кінамеханік набулькаў у нячыстую шклянку цёмнай вадкасці.— Ну — за майго сына!

Федзя крыху павагаўся і ўзяў. На душы была ўстрывожанасць, яго нават цягнула выпіць.

— За сына можна. Сын — гэта табе не абы-што... То мо прыраўнавала жонка да каго?

— Ат... Мо ведаеш — Ганька, загадчыца свінафермы.

Федзя папярхнуўся, закашляўся. Паставіў недапітую шклянку.

— Канчай, канчай! За сына ж...

— Прабач, не пайшло штось.

— А-а... Панімаеш, у нас нічога не было з Ганькай. Усяго раз правёў дадому — сама напрасілася. Фэльку, кажа, дураватага баюся. Ну, а жонцы і данеслі... Яна думала, і сёння Ганька прыджгала. А яе няма!

— А з нашых ёсць хто?

— Студзентак? Адна, беленькая такая... Жэня, ці як яе.

Федзя штурхнуў дзверы, вывальваючыся з будкі.

— Чакай, зараз пераключаю апараты! — крыкнуў услед кінамеханік.

— Не трэба! — ляснуў дзвярыма.

На самай развіліне, нібы працяг галоўнай вуліцы, між дзвюх хат узбіралася на гару вузкая, як калясьмі праехаць, зарослая ўсялякім зеллем і палыном, засыпаная смеццем дарога. Па абодва бакі дарогі віснуць у прыцемку драцяныя агароджы, дзе гусцей сходзіцца над галавою вішаннік, зусім цёмна. Федзя прамчаў гэтаю выгараджанаю дарогаю, не пераводзячы дух. Толькі як зямля крута задзёрлася ўгору і пад ногі пачалі трапляць вымытыя дажджамі ямы і раўчукі, закіданыя камянямі і ўсялякім хламам, засопся.

Гара — канечная марэна, калісь ледавік вытрусіў тут свае апошнія каморы, згарнуў у кучу пясок, гліну, валуны. Самы вяршок гары, з паўгектара, пляскаты і без дрэў, тут святлей, ён густа зарос сіва-жоўтым, у квеце, палыном. Адразу злева прытулілася да дрэў таўкачаватая цёмна-ржавая аграмадзіна воданапорнай вежы. На самым пуку, у цэнтры, зарослыя бур'янам камяні падмурка — згарэла ў вайну драўляная царква, ёсць пару крыжоў над старымі папоўскімі магіламі. Ідзеш удзень па сівізне, і з-пад ног узвіваюцца жоўтыя воблачкі палыновага пылу. Асядае на адзенне, на твар, правядзеш языком па губах — горкія. Цяпер у густым прыцемку пылу не бачыш, толькі чуецца гарката на губах.

Федзя спыніўся, прыслухаўся, ці не пачуе чаго з кустоў. Іх многа на схілах гары, на ўсходнім нават дубы растуць. Звычайна тут галёкаюць, гуляюць у хо-

ванкі хлапчукі, праходжваюцца парачкі ці купкі дзяўчат — чакаюць танцаў на танцпляцоўцы. Большыя і гусцейшыя кусты на заходнім схіле, там «прошча»: выбіваецца крыніца, каля яе крыж з абразом Міколы-цудатворцы. Праўда, абраза не відаць, нават сам крыж падобны на таўсматую бабу-пудзіла ў якім-небудзь агародзе — столькі навешана на яго ручнікоў за многія дзесяткі гадоў, некаторыя спадыспаду ўчарнелыя і спарахнелыя. І крыж з абразом, і выток крынічкі абгароджаны невысокім плоцікам, з паўднёвага боку да плоціка прыляпілася лаўка. Федзя бачыў гэты крыж і лавачку, бачыў крынічку яшчэ ў першы дзень, як прыехалі ў сяло. Тады яны хадзілі ўсёй кампаніяй па вуліцах, абследавалі гару, спускаліся ўздоўж крыніцы па сырым лузе да рэчкі і нават загаралі каля яе, купаліся ў «ямцы».

Ісці адразу да «прошчы»? Але ж Гані там, відаць, яшчэ няма, яна ведае прыкладна, калі канчаецца кіно. А мо спачатку пагуляць па гары? Заглянуць пад дубы ці на танцпляцоўку... Ціха на танцпляцоўцы, яна на самым паўночным канцы. Дашчаная пляцоўка крыху завісла над абрывам, апіраецца на частакол па́ляў. Пад дошкамі вялікія пустоты, схованка для дзетвары, там поўзаюць шэрыя кацёлкі-смаўжы.

Пацягнула да «прошчы». З гары вяла да крыніцы, амаль да самага нізу, шырокая сцежка. Па абодва бакі раслі ўдзічэлыя кусты бэзу, шыпшыны, нейкіх яшчэ кустоў з чырвона-празрыстымі, неядомымі ягадамі. Магчыма, што іх садзілі спецыяльна, бо калісь хадзілі ад царквы ўніз «хрэсным» ходам, рабілі «амавенні», пакідаючы тут свае грахі (іх браў на сябе Мікола-цудатворца), нават пілі тую ваду — Паўлючыха казала, што памагала ад усякіх хвароб. «А цяпер? — пытаў у яе Федзя.— Ці памагае?» — «А, нешта і вада не тая стала. Мала цяпер прыходзяць да «прошчы»... А даўней, маці расказвала, з усяго свету цягнуліся, і здаровыя, і хворыя, і скалечаныя. І пешкі, і на калених, і калясьмі ехалі... На фэст на ўсіх дварах коні з вазамі, на ўсіх вуліцах... Аглоблі тырчаць, як зеніткі... Арадром у вайну ў нас за сялом быў, зеніткі на гары стаялі...» — «Забаставаў, значыць, Мікола... Ці састарэў, не хоча на сябе чужыя грахі браць».— «Та не смейся, табе ўсё смешачкі... Многім памагала тая вада».— «Ага. Асабліва царкве і папам».

На лавачцы пад крыжам нікога не было. Ступіў яшчэ колькі крокаў уніз і ўбок, дзе ў траве ля самай вады бялелі лысіны ўкапаных радком пляскатых валуноў. З іх добра было, прысеўшы на кукішкі, чэрпаць далонямі ваду. І Федзя прысеў, зачэрпнуў колькі разоў сцюдзёнкі. Ламанула болем зубы... «Тут не палечышся, а скалечышся — ангіну схопіш... Але смачная вада, салодкая». Патрымаў руку ў цёмнай вадзе, дно ўжо нельга было разгледзець. Яшчэ раз зачарпнуў, плюхнуў у разгарачаны твар і раз, і другі. «Во, праўда што памагае... У галаве святлее...»

Суха трэснуў сучок. Федзя імгненна павярнуў галаву — управа ўгору. Каля плоціка стаяла, не паспела нават руку апусціць (знарок мо зламала галінку ля крыжа) Ганя.

Паволі выпрастаўся, паволі пайшоў да яе. Мокрую руку атрэпваў, выціраў аб штаны: схіліўшыся на адзін бок, на другі, цярнуў плечукамі па мокрым твары. Ганя нібы ўпала насустрач, уткнулася тварам яму ў грудзі. Потым абняла за шыю, прыгінаючы да сябе яго галаву, зацалавала:

— Прыйшоў... Прыйшоў, любенькі... Прыйшоў...

Ён спачатку не адказваў на яе пацалункі, нават шаптаў: «Пачакай... Ну — паслухай...» Адгінаў ад яе галаву, а потым не вытрываў, злавіў яе гарачыя вусны сваімі. Адчуў іх хмельную гаркаватую слодыч — мо ад палыну?

І — нібы ў вір галавою...

Потым яны выбраліся з кустоў, хадзілі па гары, абняўшыся. Ногі іх крыху запляталіся, абое былі яшчэ сп'янелыя. Потым сядзелі на схіле, пад дубам, падаслаўшы Федзеў пінжак. Над галовамі густа пашумвала лісце.

— Мо на дождж збярэцца... Душна...

— Хай бы! Каб навальніца якая, каб бура!..

Зялёны дубочак,
Шырокі лісточак.
Куды вецер вее,
Туды голле гнецца...

Ганя праспявала гэта ціха і пяшчотна, паклаўшы галаву яму на плячо. Голас і самотны, і летуценны.

— Ганя...— Федзю не хацелася варушыцца, здаецца, так і сядзеў бы ў салодкай дрымоце.

— Ум?..— ледзь чутна адгукнулася яна. У яе, сцішанай, мабыць, таксама былі заплюшчаны вочы.

— А што — далей? Як жа твой дэсантнік? — спытаў напрамую, без асцярогі.— Куды вецер вее, туды голле гнецца?

— А ніяк...— Ганя адхілілася ад яго, крыху выпрасталася.— Не буду я з ім жыць. Я старэй за яго на шэсць гадоў, а ён... хлапчук...

— Нядобра як усё атрымалася...

— Добра, Федзечка, добра! — прыхілілася зноў Ганя, пачала вадзіць пальчыкамі яму па шчацэ, нібы правярала, ці чыста паголены.— Не пара я яму... То нашто чакаць, калі ён мяне кіне? Лепш я першая.

— Дык ён жа любіць цябе! Ці любіў... Калі жаніўся...

— Малады быў, гарачы... А ў арміі паразумнее.

— Як у вас быстра — жаніўся, разжаніўся.

— Фёдар Іванавіч, я табе не навязваюся. Я ведаю, што табе я — не пара.

— Нядобра ўсё, нядобра...

— Ты мною... пагарджаеш?

— Дурненькая... Чаго ж бы я тут сядзеў з табою?

— Усё добра, Федзечка. Не перажывай за мяне... Эх, шкада, што зараз не вясна! У нас тут салаўёў, салаўёў! Асабліва каля «прошчы», над ручайком. Такая траскатня, такі свіст... Я з Колем маім слухала іх... І адна прыходзіла — потым... Пла-а-акала-а...

— Цяжка табе тут будзе. Ад людзей не ўхаваешся...

— А я і хавацца не буду. З'еду ад свякрухі... І з сяла. Пацалуй мяне, Федзя! У мяне губы так свярбяць, аж кусаць іх хочацца...

Зноў адчуў губамі горыч палыновага пылу...

У восем раніцы, памяты і нявыспаны, не паснедаўшы (толькі выпіў кубак сырадою ў добрае цёткі Паўлючыхі), Федзя ўскочыў на Ганін мапед. На выездзе з сяла яго аббрахала цэлая гайня — мо «сабачае вяселле».

Газаваў прасёлкамі і гравейкамі на паўночны захад, на Слуцк. А там паверне яшчэ далей.

У галаве вярзлося, хоць лайся, хоць плюйся ад злосці, назойлівае, неадчэпнае:

Едзе Федзя
На мапедзе,
Слупам пыл за ім курыць,
Цюцька рыжы як загледзеў,

«Не, не так... Не та-а-ак, каханенькі-родненькі...»

Цюцька цюцьку як загледзеў,
Напярэймы
Грэйма мчыць...

## Раздзел дзесяты

I

Сасніла-такі Аляксана шулаўцоў. Ды так ярка ўсё ўбачылася: сядзяць пяцёра на лаўцы пад плотам (чамусьці каля хаты Пятра Сухавея, у Буславічах), шосты, са скрыпкай, каржакаваты Даніла, прытупвае перад імі нагою, выпілоўвае на скрыпцы. Лётае, прытанцоўвае смычок, а ніякага гуку не чуваць, і Даніла падміргвае Аляксане: «Во якія фокусы скрыпка выкідвае...», мацней сціскае падбародкам і плечуком вяртлявы зад скрыпкі і «рэжа», «рэжа». Аляксана, быццам зусім маладзенькая, цыбатая і худая, адзін намёк на дзеўку, ажно рот разявіла: дзіва! А наўкол на вуліцы стомленыя танцоры гудуць-гамоняць, пасміхваюцца з такога грання. Даніле памагае толькі барабан. Нейкі хлапчук устаячку бухае булавешкаю па лысіне ў шкуры-бакавіне, дзынкае талеркамі, і гэты дзынкат-ляскат Аляксана чуе. Трубач Янка — у цэнтры лаўкі, ён чорны, з пляскатым доўгім носам. Падрапвае пальцамі распухлыя губы, моцна расцірае на іх чырвона-белыя кругі. Потым вырывае з трубы сагнутае каленца, сцэджвае з яе сліну. Паміж ім і барабаншчыкам расселся здаравенны дзяцюк Хомка. Ён залез у скрутак тоўстай трубы — з галавою, нават плячо адно прасунуў, пучыць пунсовыя морды. Злева ад трубача Янкі сядзіць сухі мужычок-кларнетыст, пачмыхвае вострым і чырвоным, бы морквінка, носам, паварушвае вусамі — мышынымі хвосцікамі. Свой доўгі чорны інструмент трымае, паставіўшы на калена праменька ўгору. А злева, з краю, Мірон, сын Данілы, малады мужчына, ён і кропачкі бацькавы пабраў, толькі што без сівізны і вусоў. У яго чорт ведае што за труба — нібы скручаны ў некалькі накладак вялізны жоўты абаранак, таксама з раструбам на кан-

цы. Мірон часценька перабірае пальцамі па гузіках-клавішах, забаўляецца. Раптам знекуль пачуўся вальс «На сопках Маньчжурыі», яго таксама іграла духавая музыка, і Даніла, як спахапіўшыся, узмахнуў падбародкам і скрыпкаю адначасова. Шулаўцы імгненна прыпалі да інструментаў і нібы адабралі мелодыю ў невідочнага аркестра, самі павялі далей. Хвалі чароўных гукаў як на крылах паднялі Аляксану і апусцілі пасярод круга танцораў — шырокага круга! І яна закружылася, адненькая ў крузе, без «кавалера» — рукі раскінула, нібы крылы ў ветры, і ім было прахалодна, як ад ветру, і нібы матляліся за імі кончыкі праз-рыста-снежнага, наскрозь свіціцца, шалю...

Лунаюць у паднябессі сярэбраныя гукі, нібы голас самога шчасця, перакрыкваюцца з імі самотна журавы. Ускідвае Янка, трубач-саліст сваю бліскуча-зіхоткую трубу высока-высока. «Лікуючая» мелодыя аж захліпаецца, і тут жа стаўляе Янка трубу на калена, пачынае спяваць — дрыжаць ад напружання і хвалявання намуленыя ў кругі губы:

Ціха вакруг,
Сопкі пакрыты мглой...
Вот із-за туч бляснула луна,
Магілы хранящь пакой...

Аляксане робіцца горна ад душэўнага замілавання, хочацца плакаць. Але бразгаюць-ляскаюць талеркі, вырываюцца з рук юнага барабаншчыка, рассыпаюцца доле на драбнюткія кавалкі...

— Ах, каб цябе...

Аляксана прахопваецца і бачыць: Іван Іванавіч, барвовы, з ручніком цераз плячо, крэкча-згінаецца пасярод кухні, збірае чарапкі.

— Ой, Ясічак, ты ўжо шчыруеш...— Аляксана падхапілася на ложку, ажно горача стала.

— Гэта ж хочаш, каб цішэй, а яно знарок... З рук проста валіцца.

— Мо кароў пагналі, а я ўсё ляжу.

— Занялі ўжо.

— А божачка!..

— Не пужайся, я падаіў. Працадзіць толькі...

— Далася хоць? Цыцка правая кутняя патрэскалася. Я мазала нанач календулай.

— А я мёдам цяпер памазаў. Таксама зажыўляе.

— Ты ж хоць дойла масіраваў? Упярэкрыжку трэба, тады ў два разы даўжэй масіруецца.

— Які там яшчэ масаж!

— Трэба, Ясічак, трэба... Яна запушчаная трохі, а так нішто кароўка.

— А каму там вельмі было за ёй хадзіць?

— Ой, я чула, як гімн співаюць, і апошнія паведамленні, здаецца, чула. Адале зноў як праваліласяі. Музыку духавую сасніла, шулаўцоў. Вальс ігралі...

— Які, цікава?

— «На сопках Маньчжурыі».

— Па радыё яго ігралі, дык я ўцішыў.

— От скажы, і трэба ж так наплесціся!

— Ты б, можа, яшчэ паляжала... Сёння цяжкі дзень будзе.

— Дык жа работы гара. Ларысу з Наташаю хоць не разбудзіў лёскатам?

— Мо не...— Ясь зірнуў на занавешаныя квяцістымі шторамі дзверы ў пакой.— Халера, але ж рассыпалася на друз.

— Не бядуй. Пасуда б'ецца на добрае. Сваю талерку аддамо.

— Сваю ж і ўпусціў, не пазычоную.

Аляксана ўжо спаласнула твар, хуценька выцерлася, прычасала і прыкалола грабянцом валасы.

— Што ты перамыў, а што — не?

— Пачаў толькі яшчэ. Грэй больш вады.

— Шклянкі і чаркі таксама трэба перамыць, перацерці. Соды ў ваду... Не глядзеў — студзень застыў?

— Застыў. Хораша застыў. І кісель...

— З гэтым студнем... Соліш, соліш, а ўсё мала. Каб хаця добра было.

— Які ўжо ўдаўся.

— Хлеба ўчора не бралі. Хаця б сёння прывезлі ў лаўку.

— Прывязуць. Свяжэйшы будзе. А не дык Сяргей на машыне ў Слуцак скочыць.

— Во-о-о-ой, колькі работы!.. Трэба было б і рыбу ўчора перасмажыць, а сёння засталіся б толькі катлеты і галубцы.

— Нічога. От паўстаюць госці — адна за тое, другая за тое.

— І печ трэба паліць. Катлеты і галубцы, як па-

смажым, складзем у чыгуны і ў печ. І ўпрэюць больш, стушацца, і цёплыя будуць на стол. Кепска от толькі смажыць на керагазах...

— У Настасы газ. Чатыры канфоркі, духоўка.

— Во-о-ой, і сталы ж яшчэ трэба, заслоны!

— Сяргей з Сашкам Рыгоравым... Ці Гардзей з Рыгорам назносяць. Рана яшчэ, хай людзі паснедаюць хоць.

— Я падумала — сталоў шэсць трэба... Каб зразу і брыгадзіра паклікаць, і старшыню. А на кухні само сабою накрыем стол, дзяцей там пасадзім. Хопіць закусак.

— І пітва хопіць.

— Шкада — Аўдотка захварэла.

— Ага, Аўдотку дык трэба было б абавязкова. Сасватала, лічы...

— Федзі няма... Ці добра хоць ты целяграму напісаў?

— Тэлеграма як тэлеграма. Мо сёння прыедзе...

2 Настаса, праганяючы карову бацькавым дваром, чула, што ў хляве не мачыха, а бацька. Не струмені білі ў вядро, а — цырк, цырк. Мо адною рукою даіў. Выгнаўшы за вароты, ішла назад.

— Дай, можа, я — скарэй кончу,— заглянула ў цёмны хлеў.

— Нічога, усё ўжо... Усё! Падгані лепш да варот і маю, калі не лянуешся,— паспешліва разагнуўся з-пад каровы, шумна ўздыхнуў.

— Як яна, дае трохі?..— заглянула цікаўна Настаса ў вядро.— Ну, чаго ж — літраў чатыры ёсць.

— Раздоіцца... Яе Патап ледзь не запусціў.

Настаса хуценька выгнала і яго карову, прабегла нават вуліцаю за ёю, пакуль не заняў пастух. Вярталася, то бацькі ўжо на двары не было. «От дагаджае... маладой жонцы... Тая недзе яшчэ дрыхне без задніх ног, а ён... Нябось як мама была жывая, то панком сябе трымаў. Усе бо круцецеся каля яго...»

Зайшла ў хату і пачула, што ў пакоі ўжо стрымана бубняць галасы Гардзея і Лявошкі. Учора, як прыйшоў Гардзей з Сярожам начаваць (у бацькавай хаце засталіся жанчыны), то ўзялі яшчэ па чарцы, хоць і тае хапіла б, што ў бацькі бралі. І ўсё гаманілі, спрачалі-

ся, і мо не дагаварылі, бо зноў, здаецца, усчалі пра тое ж самае.

— Хай бы ж даў чалавеку адпачыць з дарогі...— прачыніла дзверы ў пакой.— Дзе ён...— і ўбачыла, што ў пакоі толькі Гардзей, у штанах і ў майцы, пачухвае валасатую, з сівізной грудзіну. А Лявошка падаваў яму голас са спальні.

— Я то даю, а мухі не даюць,— памацніў голас Лявошка.— Добра, што Сяргей здагадаўся на сена пайсці.

— А хай яны падохнуць... Учора і хларафос пырскала, а іх поўна і поўна... Вылазь адтуль, хай дзеці паспяць!

— Умгу...— падаў голас са спальні Лявошка.

— Восень на парозе... Першая прыкмета восені — мухі лезуць у хату.— Гардзей прыступіўся да канапы, каб скласці сваю пасцель.

— Няхай! Я сама потым! — адабрала з братавых рук пасцель Настаса, згамтарыла ў кучу і выйшла.

Шлёп... Шлёп...

Лявошка расхінуў шторы на дзвярах спальні. Быў у прасторных сініх трусах і ў майцы. Праваю рукою ўхапіўся за вушак, пад леваю трымаў «нагу», на яе былі надзеты адною калашынаю штаны. Гардзей заўважыў, што штаніна з пратэзам больш працёртая, у двух месцах на задзе ледзь не свіціліся дзіркі. А Лявошка пусціўся рукою, скок, скок на адной назе да крэсла, на спінку якога наапашкі быў ускінуты шэры, у ледзь прыкметную сінюю палоску Гардзееў пінжак. Сеў... Грукнуў пратэзам аб падлогу, паставіў яго насупраць куксы наўкос, дастаў з кішэні скрутачак сшарэлага ад доўгага ўжытку шырокага бінту. Задраў да самага паху трусы, агаліў стончаную, пядзі паўтары даўжынёю куксу-сцягно. Бінтаваў і гаварыў:

— Ты ўсё яшчэ засядацельствуеш у судзе? Не надакучыла?

— А што паробіш, калі выбіраюць? Трэба служыць народу,— голас Гардзея быў такі, што Лявошка не бачачы ўявіў: усміхаецца.

— Дык што ж выходзіць... Свядома робіш кар'еру?

— Якую кар'еру, Косця? Што я — лезу па службовай лесвіцы? Як быў механізатарам, ім і застаўся.

— З такім стажам, з вопытам... Мог бы ўжо брыгадзірам, механікам... Інжынерам нават! — Лявошка кончыў убінтоўваць куксу, а Гардзей з нейкай хваравітай і сарамлівай цікаўнасцю — «Дык вунь у іх як, інвалідаў!» — глядзеў, як Лявошка дастае (зноў жа з кішэні штаноў) картовы даўгаваты каўпак, насоўвае, як рукавіцу, на куксу, верх каўпака пры дапамозе тасьмы-раменьчыка замацоўвае сабе за сярэдзіну — каб не аб'язджаў у пратэз, не збіваўся ў лямец.

— Інжынерам! А нашто мне інжынерства, калі я на сваім месцы і зарабляю больш за інжынера, і ордэн ёсць. А ўжо многім Героя падавалі, якія намалацілі больш за тысячу тон збожжа... І я намалачу!.. У мяне летась было семсот пяцьдзесят...

— Ва ўмовах Беларусі — цяжка... тысячу... Таму і Героя даюць.

— Я хіба не разумею? Ты па чутках ведаеш, а я на гарбу адчуў. Тысячу дзвесце дам, паўтары дам! Колькі трэба... А звання Героя даб'юся!

— Я думаў — учора чарка цябе падбівае, ажно сёння і цвярозы...

Лявошка ўсунуў нагу ў пустую штаніну, бліжэй падцяг пратэз і ўздзеў яго на падрыхтаваную, «адзетую» куксу. І адштурхнуўся ад крэсла, устаў на ногі, пачаў разбірацца з рамянямі бандажу, каб трывала прымацаваць пратэз да пояса.

— Кожны дзень — во так? — Гардзей спачувальна глядзеў на яго рыхтобу, церабіў-пацісквау пальцамі губы.

— Кожны... З сярэдзіны сорак восьмага. Гэта другі ўжо, адзін знасіў. «Сустаў» не вытрымаў... У гэтым...— паляпаў па калене,— свая канструкцыя. А з сорак чацвёртага да сорак восьмага на мыліцах чыкільгаў.

— М-да-а-а... А ты кажаш — у героі лезу. Вось ты — гэта герой! З дня ў дзень, з дня ў дзень, столькі гадоў цацкацца. Папацягай такую бандуру — жыць не захочацца.

— Не, Гардзей. Жыць хочацца. Жыць, акрамя ўсяго, проста цікава... Падумаеш: я ж мог загінуць у вайну і нічога не пабачыў бы, што нарабілася пасля вайны,— пад грудзьмі халадок пракочваецца. А пратэз што... Усякага было: і мазалі крывавыя, і... Здымеш іншы раз, а ў ім плюхае. Ад крыві...

— То мо нядобра падагналі?

— Ды не! Лепш ужо не зробіш... Як ні мудруй — не свая нага.

— Гэта праўда. А ты кажаш — я ў героі лезу...— Гардзей вяртаў Лявошку да размовы.— А што ў гэтым кепскага? I каму я перашкаджаю, што працую, як вол, да кругоў у вачах? Што ў мяне галава баліць не па тым, дзе б напіцца, а як лепш работу зрабіць, каб маральнае задавальненне было. Працаваць кепска — сябе прыніжаць і зневажаць. Мяне ж ніхто не гоніць з-пад палкі, каб добра працаваў. Сам! Ты скажаш — вар'ят, так і падарвацца нядоўга... А калі я не магу іначай? I натура не дазваляе, і гонар маёй маркі. А ўсё астатняе само прыходзіць... Хоць і хачу, каб і ацэньвалі маю працу як належыць... А думаеш, тыя ткачыхі, што за пяцігодку па два, па тры пяцігадовыя планы даюць, абслугоўваюць у некалькі разоў больш станкоў, чым трэба па норме, пад прымусам гэта робяць? Абсалютна не... Каб цябе паважалі, хвалілі за ўдарную працу, дастаткова дваццаці працэнтаў звыш плана. А ім мала гэтага, свядома ідуць на рэкорды. Незадаволенасць сабою рухае наперад, а не спаборніцтва. Імкненне ўперад, калі хочаш ведаць, шчасце! Калі няма куды, няма мэты — страшна... Адсюль і гарэлка...

— Свядома б'юць на Героя? — Лявошка, асцярожна ступаючы пратэзам, каб менш грукаць, пайшоў у спальню, вярнуўся з туфлем.

— Ты ўсё спрашчаеш... А мо і я спрашчаю. Усё больш складана... Захопвае сам працэс працы. Я ў нечым і раб яе, і валадар. Больш валадар — усемагутны! Ух! — Гардзей ціскануў кулакі да плеч, выкінуў у бакі далоні.— Сам з сябе дзівішся: што чалавек можа!

— Усё-такі я нідзе не чытаў і не чуў, каб чалавек... во так аб'яўляў: хачу быць Героем! Буду Героем!

— Косця, а хіба кепска быць Героем? Хіба лепш быць серадначком? А то ёсць яшчэ такія, што падсміхваюцца над тымі, хто працуе ад душы.

— Не тое слова — падсміхваюцца. Сын Пахваленага прыязджаў, Андрэй... Токарам ён у Мінску... Дык кажа: я мог бы мінімум дзвесце працэнтаў нормы даваць кожны дзень. А яму кажуць: «Морду наб'ём!»

— Хто-о?!

— Такія ж рабацягі, як ён. Баяцца, каб усім нормы не павысілі. З-за яго!

— Вось іменна — рабацягі. Працей — забулдыгі... А я пра сумленных рабочых гавару.

— Самае страшнае, Гардзей, тое, што гэтыя рабацягі маюць большы нягласны ўплыў, чым сумленныя рабочыя, гэта з-за іх і не падымаецца прадукцыйнасць працы. Іх нямала...

— Але і нямнога. Іх можна ў бараноў рог сагнуць. Што — у іх на заводзе няма камуністаў, камсамольцаў, актыву?

— Ёсць. Але я табе тое кажу, што ад Дзям'яна пачуў.

— Боўдзілы гэтыя твае рабацягі... Дрыжаць за нормы, расцэнкі. Ды раскінулі б сваёй прапітай мазгаўнёй: быць добрым, сумленным рабочым, калі на тое пайшло, нават выгадна!

— А-а-а, дык і ты выгаду шукаеш...

— Не. І не крычу я на ўсіх пярэкрыжках, што буду Героем. Каб ты не падбіў мяне на шчырасць, то... Эх, абы каб сонца было, такую раскрутку дам — гай шумецьме!

— Хадзем умывацца... З гэтым надвор'ем сам чорт не разбярэцца. У нас, скажам, гніе ўсё на полі — на Волзе і за Волгаю засуха. У нас засуха... гэта ж ніколі не чуваць было пра засуху ў Беларусі! — калі ласка, на Волзе зноў засуха. А то мароз у верасні... Штосьці парушана ў прыродзе. Даасушаліся, ліхаматары... Ехалі ў Брэст, у крэпасць, гляджу — ё-маё, балота паліваюць! А каб вы пакіслі: на балоце дажджавальныя ўстаноўкі круцяцца! Вось дык меліяратары...

— Косця, адстань ты ад яго! Прычапіўся... Умывайцеся барздзжэй, снеданне гатова,— уступіла ў размову Настаса, калі яны праходзілі па верандзе.

— Я прычапіўся?! Ну, ты чуў гэта? — Лявошка патузаў Гардзея за рукаў.

Гардзей толькі пасміхнуўся.

— Насця, твой Лявошка цёмны чалавек у меліярацыі. Дзіўлюся, як ты за яго замуж пайшла.

— А што мне — разводзіцца з ім з-за тваёй меліярацыі?

Чамусьці ніхто не рассмяяўся.

Выйшлі на двор, дзе вісеў на плоце рукамыйнік.

— Цёмны... А ты, значыць, прасвятліўся? — Лявошку, відаць, закранулі Гардзеевы словы.

— Прасвятліўся. Колькі разоў прасіў: прыедзьце

ў госці, таратайка дваіх вытрымае... Хоць паглядзіце, што ў нас натварылі на балоце.

— А дзяцей куды? А гаспадарку? — абазвалася Настаса з веранды. Яна прыслухоўвалася і ўсё чула, хоць там моцна шыпела на скавварадзе.

— Можна і не ехаць, а бачыць...— Лявошка паторкаў далонямі ў сасок рукамыйніка, плюхнуў у твар. Расцёрся ручніком да чырвані.— Пры табе ж яшчэ нашу рэчку згнюсілі... Спусціць ваду пры цяперашняй тэхніцы — плёвае дзела. А от далей што? На два метры ў калодзежах узровень вады панізіўся... Гэтак жа і на полі.

— Ну, тады грошай не хапала. А цяпер у нас двухбаковая меліярацыя...— Гардзей акуратна набраў у далоні вады, змачыў твар, шыю, потым намыльваў твар, рукі, шыю, заплюшчыўшыся, зноў вобмацкам торкаў у сасок.— Ваду ў нас у сажалкі-вадаёмы сабралі. Трэба болей падсушыць — падымаюць застаўкі, трэба абвадніць — застаўляюць, трэба паліваць — дажджавальныя ўстаноўкі. Няма ўжо стыхіі, усё кіруецца... Там, дзе арашаюць, па пяць, па шэсць укосаў травы бяруць,— хіба не варта шкурка вырабу?

— Мо й варта... Але ж... як у Каракумах! Дзюны нават ёсць!

— Кансерватыўнае ў цябе мышленне, таварыш парторг. Ну што табе так рэжуць сэрца гэтыя дажджавальныя ўстаноўкі! Нязвыкла? Канешна ж, нязвыкла... Ну й што?!

— Грамацеі... Усе парабіліся грамацеі! А ці падлічваў хто, колькі Палеская нізіна, Прыпяцкі басейн вільгаці выпарваў? Куды несла гэтую вільгаць — ведаеце? А колькі цяпер выпарвае? Можа, якраз у тых засухах у Паволжы Палессе вінавата!

— У параўнанні з Атлантыкай Палессе — нуль без палачкі.— Гардзей ускідвае ручнік на плячо Лявошкі, жартам выцірае кончыкам яму нос.— Атлантыка ў нас надвор'е робіць!

— Атлантыка... А што клімат у Беларусі субкантынентальны робіцца, таксама Атлантыка вінавата? Не, асушанае Палессе... Яно як мора акумуліравала цяпло, аддавала зімою. Памяншалася розніца тэмператур, рэгулявалася вільготнасць. Украінцы больш абачліва ўсё робяць, не пляжаць са свайго боку Прыпяці ўсё падрад.

— Нагаварыў табе нехта...

— Мы пакуль што ідзём па экстэнсіўным шляху, а трэба па інтэнсіўным! — Лявошка з задавальненнем вымавіў гэтыя словы: маўляў, і я трохі «сяку» ў гэтай справе, ведай нашых.— От спачатку цаліну шукалі,— ну добра, тады нявыкрутка была. Цяпер — палескую цаліну, балота... Столькі сродкаў угрохалі! Каб іх пусціў на Нечарназем'е, то за гэты час мо яшчэ лепшыя вынікі былі б. І рэк не трэба было б спускаць, Палессе асушваць.

— Дык цяпер жа і бяруцца за Нечарназем'е. Усяму свой час!

— Хопіць, кажу вам, бо вадою паабліваю! Ідзіце есці! — гукае з сянец Настаса.— Ды мо трэба было Сяргея будзіць?

— Хай паспіць,— Гардзей жартаўліва падтрымлівае пад сярэдзіну Лявошку, памагае яму адолець прыступкі.— Раз-два — узялі! Шагай, герой...

— Ад героя чую,— нібыта агрызнуўся Косця, хоць у голасе чуваць было дружалюбства. Пратэзную нагу, каб пераступіць, ён заносіў далёка ўбок.

— Дасць нам бацька... Прыехалі да яго, а самі кормімся па хатах.

— То хіба мы чужыя? Ці ты ўжо так нос задраў, што і знацца з намі не хочаш? — зноў па-свойму зрэагавала Настаса.— Даў бы і нам такую картачку, што на «Аўроры» каля гарматы стаіш...

— Насця, павер,— няма больш. Папрашу Сяргея, хай пераздыме...

## 3

«Паводзьце сябе так, быццам вы ўжо шчаслівыя, і вы сапраўды адчуеце сябе шчаслівым... Кожную раніцу паўтарайце сабе: я здаровы, шчаслівы і працаздольны, і вы сапраўды адчуеце сябе...» — не раз успаміналася Рыгору ў першыя суткі жыцця з Волькаю. Прайшлі яны нібы ў сне ці ў чадзе. Ён нават забыў, хто ён ёсць, што з ім нарабілася, ці ёсць у яго сям'я, дзеці. Нібы ён выйшаў, паўстаў з чарнаморскай пены інакшым ці значна абноўленым чалавекам — і больш рашучым, і больш мэтаскіраваным. І хаця такое вось бесклапотнае існаванне, чад самазабыцця, душэўная і фізічная насалода, можа, і былі для яго сапраўдным шчасцем, ды не мог ён у гэтым

прызнацца сам сабе, не мог у гэта паверыць, баяўся нават вымавіць страшныя словы — «Я шчаслівы...».

Нібы тыя хвалі на бераг, вал за валам, усё часцей накочвалася іншае. Хто ён у Вольчынай хаце? Прымак? Ці проста нахлебнік, сужыцель і — бацька-ўцякач? «Як у вас далей будзе? — рэжуць па жывому, успамінаюцца Апанасавы словы.— Жыць як думаеце? З Маняю не развязаўся, Маня — зарэгістраваная жонка, як той казаў — перад богам і людзьмі».

«На развод трэба падаваць... І чым хутчэй... А дзеці... застануцца з Маняю... А мо забраць, адсудзіць? Толькі — куды забраць? І які суд адсудзіць, прыме такое рашэнне — забраць ад жывое маці? Дый не згодзіцца Волька ўзяць такі хамут на шыю... Страшна і заікацца пра гэта... А каб згадзілася? Ці аддасць іх Маня? А ці захочуць самі дзеці пайсці з хаты... у белы свет? Танька малая, ёй усядно. А Ваня, Алена? А Саша? Ураўненне з многімі невядомымі...»

«Але і да Мані не вярнуся... Усё скончана з ёю! Усё!.. Бразнуў дзвярыма — і канец. А яна б магла прыняць, яна б даравала... Не — дараваць, то не... Змірыцца, змоўчаць да першага разу, першай сутычкі. А потым бы загрызла, заела поедам...»

«А на што яна разлічвала, калі ў народны кантроль, у партком падавала? Вярнуць мяне? Каб я раскаяўся і вярнуўся? А мо проста кары для мяне хацела? Каб напакасціць больш... Калі сама не гам, то й другому не дам...»

Стаю ля Дунаю
Ды думу думаю:
Ці мне жаніцца,
Ці [illegible] каня ўбіцца,
Ці назад вараціцца?

— Грыша, я сабрала сумку. Паўдня скора... Мо пара ісці, мо там памагчы што трэба?

Пасля позняга снедання Рыгор так і не вылез з-за стала, толькі адсунуўся трохі і ўсё смаліў і смаліў цыгарэту за цыгарэтаю, у хаце ўжо было хоць сякеру вешай, і гэтых слоў Волькі ён амаль не пачуў.

— У бацькі там зараз клопату, клопату. Гардзей дык зараней прыехаў, учора яшчэ,— Волька паставіла сумку каля яго на лаве.

— А што — хіба я яму даў гэты клопат?

— Грыша, ну што ты хоць гаворыш?

— Не трэба нічога, ніякай сумкі.

— А хто ж ідзе з пустымі рукамі? Будзеш свяціць вачыма, як... А людзям толькі б узяць на язык...

Гэта праўда, у іх Дуброве, дый не толькі ў Дуброве, па ўсёй багатай Случчыне спрадвеку такая завядзёнка — ідуць на вяселле, на радзіны, на провады ў армію, то нясуць у дзвюх руках. Калі ідуць у пары, то мужык валачэ сумку ці карзіну, напакаваную ўсякай закуссю, а жонка — вязалку: у прыгожы ручнік адмыслова ўгорнуты пышны пірог (цяпер часцей торт), свежы, толькі з клінка, сырчык ці яшчэ што. І там ужо, на месцы, прынашэнні аддаюцца ў рукі вельмі блізкіх сваякоў ці самой гаспадыні. Сумкі, кашалі, вузельчыкі, карзіны спаражняюцца ў кладовай-пярэрубе ці ў сенцах за перагародкаю, і там вырастаюць горы едзіва, нібы кожны госць акрамя сябе падручыўся накарміць яшчэ цэлае аддзяленне згаладалых салдат.

Рыгор уявіў, як будуць там, у бацькі, разбіраць яго сумку (мо Настаса, мо сама мачыха, мо Дар'я-суседка) і будуць абавязкова абгаворваць: «Дзе ж гэта ён такую сумку ўзяў? Здаецца, не было такое ў Мані...» — «Дык жа ён не ад Мані сюды — ад той...» — «А-а-а... Што ж яна хоць паклала, гляньма...» — «Госпадухна, не жонка выпраўляла, а...» — «Але ж, мае залатыя... Другія як людзі — з жонкамі ідуць, з дзецьмі. А гэты...»

— Я каўбаску паклала падсушаную... Яечню тоўстую спякла, у місачцы. У місачцы і панясеш, а то яшчэ паломіцца за дарогу. Яна лёгка вымаецца з міскі. Удалася — такая жоўценькая! І кансервы — «Скумбрыя ў алеі». Лепшых не было ў нашым магазіне.

— Кажу — нічога не буду браць. Калі дык паўлітэрку... Сам зайду ў магазін па дарозе.

— Ой, а я ж так старалася...

— То хадзем са мною, сама і панясеш...

— Ну але! Хто я там, чыя сваячка-прычынніца? Хто мяне запрашаў? Хочаш, каб памыямі аблілі?

Хацеў сказаць — «Не абліюць...» — і не сказаў. Ён раптам паверыў, што ганарысты бацька можа папрасіць Вольку за дзверы: абраза для яго! «Ха, абраза... А сам? Сам жа таксама не распісаны з Аляксанаю. А мо паспеў, распісаўся? Хаця не, такое ў сакрэце не пабудзе... На людзях робіцца і з людзьмі».

Зайшоў у магазін па паўлітэрку і папрасіў у Макароні наліць сто грамаў. Не гарэлкі — віна: «У роце перасохла». Макароня, увішны, як калабок, не здзівіўся, што чалавек ідзе на вялікую гарэлку, а п'е перад тым у магазіне. Ён тут жа набулькаў у шклянку не сто, а сто пяцьдзесят грамаў, пасунуў па прылаўку да Рыгора рэштку з чырвонца і шакаладную цукерку. Рыгор кульнуў віно, а цукерку пагардліва пасунуў назад.

Прыгледзеўся, як у канцы прылаўка жонка Макароні Міла кідала буханкі хлеба ў мяшок даўгагрываму, у джынсах хлопцу: «Васемнаццаць... Дваццаць... Хопіць?» — «Хопіць, хопіць!» — хлопец аддаў Міле грошы і панёс мяшок да выхаду на выцягнутых руках — баяўся запэцкацца.

— А-а, дзядзя Грыша... Здравія жалаем! — усміхнуўся яму хлопец.— Я вас, з барадою...

— Здароў, здароў, пляміш,— пазнаў і Рыгор: Гардзееў Сяргей.— Давай мо памагу? А то... інцелегентна неяк...

— Мне ў машыну толькі. Калі хочаце — падвязу. Вы ж на вяселле пойдзеце?

— А мо давай вып'ем спачатку? За сустрэчу, па сто грамаў. Тут, у сяле, інспектараў няма...— гаварыў Рыгор, але ішоў следам на вуліцу.

— Не, не, што вы! — Сяргей спехам запраторыў мяшок на задняе сядзенне. Адчыніў пярэднія дзверцы: — Паедзеце?

— А чаго? Дарэмнае таксі...

Крыху праехалі моўчкі.

— Барада ў вас — шык-мадэрн! — уздыхнуў Сяргей.— І я быў адгадаваў. Але продак — ультыматум!

— А мне ніхто... ніякім матам... Хочаш гадуй, хочаш асмальвай. Дзеўкі з барадою больш любяць — праўда?

Сяргей коратка рагатнуў, ажно галавою ўскінуў.

— У цябе ж мо ёсць ужо... краля?

Сяргей пасміхнуўся, зрабіў шматзначны, загадкавы выраз твару.

— Ёсць, значыць... Каб у такога хлопца ды не было? — віно ўсё больш надавала Рыгору развязнасці.— То мо і на прымерку ездзіш?

І тут у Сяргея не хапіла вытрымкі — счырванеў. Зразумеў, мабыць, што хацеў сказаць Рыгор.

— Не цярайсь, не трусь... Былі кагда-та і мы рысакамі.

Гаварыў гэта Рыгор не шчыра, напускаў на сябе браваду. Ледзь толькі дачакаўся, каб Сяргей падруліў бліжэй да варот, амаль упрытык да Лявошкавай інваліднай калясκі, хуценька вылез. Тузануў заднія дзверцы, адною рукою вывалак за гузыр мяшок з хлебам, адною рукою махнуў яго сабе за плячо — не пагля-дзеў, што ў новым касцюме. Для чаго гэта рабіў, ён і сам не ведаў, яго, як кажуць у Дуброве, «падтыкалі чэрці» — нібы штурхалі пад локаць, нібы цягнулі за язык.

4 На двары было людна. Пад сенцамі і пад плотам стаялі лаўкі, паробленыя бацькам са свежаабструганых дошак і калодак. На адной, пад сенцамі, сядзелі і гаманілі святочна апранутыя жанчыны, каля плота — мужчыны. Усе ў касцюмах, і Федзя, настаўнік, у сваім паходна-спартыўным касцюме з джынсавай тканіны, пачуў сябе ніякавата. У канцы двара стаялі калёсы з выпражаным і павернутым галавою назад каштанавым канём. Туды, бліжэй да воза, Федзя і павёў мапед — між людзей, міма Рыгора, які круціўся з мяшком за плячыма, падоўгу трос руку кожнаму і штосьці гаварыў, міма Сяргей, які ўвесь засвяціўся і памкнуўся за ім. Федзя толькі паківаў коратка направа-налева і нібы даваў выглядам знак — во, зараз, зараз, падыду яшчэ паздароўкаюся.

Прыхіліў Ганінага «каня» да плота («А нічога, вынослівы...»), перакінуў цяжкі фотаапарат з жывата за спіну і адразу паручкаўся з Сяргеем, паляпаў яму па плячах: «Ну што, чувак?» А тут і Юра Расолька аддзяліўся ад мужчын, падышоў насустрач, яшчэ здалёк адводзячы руку, нібы збіраўся сякануць з-за пляча. Ляснулі рука аб руку, сашчапілі ў жалезным поціску, глядзелі адзін аднаму ў вочы,— хто каго? Абодва высільваліся, абодва не паддаваліся, і Сяргей падахвочваў іх — «Н-ну?! Н-ну?!». І разам паслабілі поціск, кухтальнулі яшчэ адзін аднаго ў грудзі.

— А ты нічога, Іванавіч, нічога... Засталася сялянская загартоўка. Не скажаш, што паэт, інцелігенцік,— сказаў Расолька.

— Дый ты, марачок, нічога сабе,— Федзя рады быў

бачыць сябрука і аднагодка, з ім разам раслі, хадзілі ў школу. Падыходзілі да гурта разам, абдымаючы адзін аднаго за плечы, і нібы распытваліся вачыма: «Ну як яно?» — «Нармальна, чаго там!» — «Пастарэў, марачок...» — «А ты хіба памаладзеў? Вунь дзеўкі чуб выскублі...»

— Дык як, бацька-герой, гадуюцца твае спарышы? — спытаў уголас пра Юркавых сыноў-блізнючкоў.

— А што іх у сяле гадаваць? Выпусціў, як гусей на аселіцу,— хай пасуцца. Я яшчэ аднаго запраектаваў...

— Н-ну-у?!

— Вось табе і ну... Хутка будзе папаўненне... А ты ўсё «бугаёўшчыну» плаціш?

— Плачу і пла́чу,— з жартоўным уздыхам паківаў галавою Федзя. «Што там Ганя цяпер парабляе? А Жэня?» — мільганула ў галаве.

— Каб ты жыў тут, то мы б цябе даўно прыспасобілі...

— Здароў, братушка! — перастрэў яго Рыгор, падтузнуў на плячах мяшок, схіліўся ў паклоне і выпрастаўся, пінжак пакамечаны і расхрыстаны.— Разрашы цябе праздравіць з вялікім сабыццем у нашым жыцці...— Рыгор гэтае свае «праздравіць» гаварыў з прыціскам, нібы хацеў не павіншаваць, а «прадраіць».

— Здароў і ты. От не ведаў, што пачаў хіпаваць...— Федзя злёгку тузануў Рыгора за бараду. Зразумеў, што той ужо крыху падвесяліўся і пачынае «прадстаўляць», задзірацца з усімі.

— Федзя, помніш, як ён шляхціча ў «Пінскай шляхце» іграў? — рагатнуў Расолька.— Таксама з мяшком... Босы, падкасаў адну калашыну і ўсё пачухвае нагою голую лытку, пачухвае. У зале чуць не паздыхалі...

— Талент! Прападае талент.— Федзя вызваліўся ад Рыгоравай рукі.— Абдымацца не будзем, я ўвесь брудны, запылены.

— Ясна, што прыпылены. Што з цябе возьмеш акрамя аналізаў! — Рыгор рашуча павярнуўся да народа — з кім бы яшчэ паздароўкацца, каго б гэта яшчэ «праздравіць»?

— Дзядзя Грыша, давайце хлеб, я занясу ў хату,— паспрабаваў Сяргей зняць мяшок з Рыгоравых плячэй.

— Чакай, плямяш... Я яшчэ не з усімі пераздароў-

каўся,— адвёў Сяргееву руку.— Во, з дзядзькам Калядою...— Рыгор старанна пакланіўся брыгадзіру: — Разрашыце вас праздравіць з папаўненнем калгаснай пенсіянерскай сям'і на адну адзініцу. Спадзяемся, што вы яе будзеце любіць і жалаваць... нормаю буракоў сотак на сто!

Каляда стрымана, церпячы Рыгорава баламуцтва, падаў яму руку: «Здароў, здароў...» Федзя зразумеў, ды, мабыць, і ўсе зразумелі, каго Рыгор мае на ўвазе («Мачыху!»), але жанчыны далікатна прыкінуліся, што не разумеюць, накінуліся на Рыгора: «Вам бы вечна на пенсіянерах выязджаць!» — «А яшчэ механізатары называюцца!» — «Не смейся, Грышачка, будзеш і сам пенсіянерам...» — «Дзядзька Каляда, а колькі Рыгору дасце буракоў, як састарэе?»

— Не пакрыўджу...— адказаў Каляда на апошнюю заўвагу і пачціва ўстаў, паціскаючы руку Федзю.— З прыездам, Іванавіч!

Паручкаўся Федзя і з дзядзькам Пятром, які пускаў кольцы дыму, седзячы побач з Калядою, і з Ляўшком, і з сынам Пятра — сваім стрыечным братам Генадзем, якога слаба ведаў, мо сустракаўся разоў двачы за ўсё жыццё. І перайшоў да жанчын: з цёткай Марыляю, жонкаю Каляды, з дзядзінай Зосяй — жонкаю Пятра, з Юркавай цяжарнай жонкай Ленай, і з Генадзевай, і з цёткай Дар'яй, суседкай (якраз заклапочана выглянула з сянец і выцерла фартухом рукі), і з дзябёлай, магутнай Жухалавай, якая выйшла на ганак следам за Дар'яй і ўсім абвясціла: «Слава богу, салат зрабіла — не прападзём. У каго закурыць ёсць?» І кожная з жанчын што-небудзь Федзю гаварыла, і ён ім гаварыў, аджартоўваўся, а Жухалава (яна сябравала з Сухавеямі яшчэ з таго часу, як маці хадзіла на ферму), усур'ёз сказала:

— Прывёз бы і ты якую дзеўку — і за адным скрыпам...

— Калі ж не знаходзяцца,— не знайшоў лепшага сказаць Федзя.

Рыгор тут жа ўлез са сваім:

— Ага! Пасадзілі б дзве пары скрыпуноў: тут бацьку, а тут — сына... За адзін стол. Толькі каб потым жонак не пераблыталі... Хо-хо!

З агарода, з дому, імчала з каструляю ў руках, прыкрытай анучаю, і ледзь не спатыкалася Настаса.

— Хопіць тут клоўны паказваць! — з лёту навалілася яна на Рыгора.— Нясі хлеб у хату — рэзаць трэба да гасцей зваць.

Ледзь толькі яна схавалася ў сенцах, як на ганак выйшаў заклапочаны Гардзей у доўгім, пад шыю фартуху, моўчкі кіўнуў Федзю, моўчкі працягнуў руку, сцяг са спіны Рыгора мяшок і тут жа знік.

Усе ўжо разумелі, што застолле трошкі зацягваецца — можа, Ясь з Аляксанаю яшчэ чакалі каго? Але ніхто з гасцей не падаваў знаку, што яны ўжо прытаміліся. Усе заўзята гаварылі, абгаворвалі, знаходзілі ўсё новыя і новыя тэмы для размоў. «Дык я зразу і збыў яе... Аблілася, падла, лоем, цялят не водзіць, цыркае па паўлітры малака...» — расказваў Пятрок. «Не, я лічу, што на камбайн трэба даваць не больш сямідзесяці гектараў. Тады не трэба і раздзельнай уборкі. Шах-шарах — і ўсё!» — даказваў Юра Расолька Генадзю сваю правату. У жанчын свая тэма. «У гошпіталі ўжо месяц... У Ленінградзе... І сказалі ўрачы, што нічога не будзе. Сільнае аблучэнне. Паехалі ж туды Вера з Кандратам... А хіба рукі падкладзеш, падымеш?» Федзя занёс ужо нагу на прыступку ганка, як да вулічных варот, ціха трохкаючы, звярнуў вішнёвы матацыкл з двума седакамі ў чырвона-белых шлемах: матацыкліст большы, а той, што ззаду ў яго, нібы падлетак. Павагаўся матацыкл, павадзіў управа-ўлева і газануў проста ў дзверцы. Даскочыў да ганка, і матацыкліст заглушыў матор, заскроб нагамі дол.

— Здрастуйця! — трошкі павёў галавою, нібы яна была ў яго загіпсавана, матацыкліст, зіркнуў управа-ўлева на людзей.

— Добрага дня, добрага дня! — выглянуў з-за яго спіны хлапчук-сядок, і ўсе ўбачылі, што гэта не хлапчук, а бабуля. Маршчыністыя шчокі тарбавата адвіслі, падцятыя кругом шлемам і раменьчыкам. Бабуля сядзела чамусьці на багажніку, а перад сабою, на мяккім сядзенні, трымала варухлівы мокры мяшок. Спыніліся, і мяшок яшчэ больш ажыў, зарохкаў, завішчаў кволымі парасячымі галасамі.

Седакам адказалі стрымана і ўразнабой, прыглядваліся да незнаёмых.

— З прыездам! А я думаў — раздумалі...— кінуў Пятрок ад плота.

— А каб вы пагарэлі з гэтымі матацыклетамі! І з

парасятамі! А каб вас ганяла ў пустым розуме!.. Аво-ё-ё-ёй... Аво-хо-хо-хо... А каб ён табе на трэсачкі-друзачкі рассыпаўся, як я цябе паслухала...— зачасціла баба. Апускала то адну нагу ў лыжных зялёных шараварах, то другую, а не магла добра стаць на зямлю,— не трымалі ногі. Першай зарыентавалася Жухалава, адхіліла хуценька з дарогі Федзю, працяглым рыўком прыўзняла пад локці старую, паставіла на зямлю. І папяла, падтрымліваючы раскірэчаную, сагнутую ў крук, да лаўкі, пад сцяну, усадзіла на вызваленае месца. Матацыкліст газануў у канец двара, да мапеда і толькі там пачаў адвязваць мяшок.

А да бабкі ўжо цягнулася некалькі рук — памагалі расшпіліць і зняць шлем, скінуць ссівелую ад пылу плюшоўку.

— Хе, хе... Ну, дык хто, Грыпа, хутчэй? — загаварыў, падсмейваючыся, Пятрок.— Няма вярней, як рыслівы конік... Гэта ж Лёня Аляксанін і цётка Аляксаніна...— патлумачыў ён усім.— Кажу старой: едзьма на коніку. «Не, я з Лёнем... Мне скарэй трэба». Ха-ха-ха... От табе і скарэй.

— Дык жа чэрці яго ведалі, што надумае яшчэ і парасят браць! — нібы агрызнулася бабка.

«Ха-ха-ха, парасят на пачотнае месца, а бабку на багажнік!» — «Парасяты больш далікатныя!» — «Бабка — бясплатнае прылажэнне!» — загаманілі мужчыны.

Падышоў Лёня, пачаў даваць усім руку.

— Рамантаваліся ў дарозе...

— Вельмі прыемна пазнаёміцца. Зводны брат Грышы! — адрэкамендаваўся Лёню Рыгор, схіліў галаву і прышчоўкнуў абцасамі.

— Во-о-о... Во-от так...— узрадавана галёкалі жанчыны, ратуючы бабку ад амуніцыі.

— Ой, хіба стаяць буду... Год не змагу сядзець! — скардзілася бабка.— Дзе б гэта яшчэ затуліцца...— яна стала дзерці з сябе штаны,— да ў другое акрыцца...

Зноў усе рагаталі, а Жухалава падхапіла і панесла старую ў сенцы: «Адратуем... Дамо лякарства...»

Ступіў урэшце за імі і Федзя. Зразу ў нос ударылі густыя, смачныя пахі — пачуў, што галодны, ажно заныла пад грудзьмі. У расчыненыя насцеж дзверы хаты ўбачыў, што ўсярэдзіне ўсё незнаёмае. У маленькай адгароджанай кухні тлумна і цесна. Адразу насустрач

яму падалася маладжавая і чарнявая жанчына сярэдняга росту, абняла і пацалавала цёплымі мяккімі губамі ў абедзве шчакі: «З прыездам, Хведар Іванавіч... Праходзьце, Федзечка, праходзьце!» — І ён здагадаўся, што гэта і ёсць новая бацькава жонка, Аляксана. Размінуліся ў дзвярах, і тая падалася на галасы бабкі і Жухалавай.

Федзя заківаў Гардзею, Ларысе, Настасе, бо ва ўсіх былі мокрыя ці ўробленыя ў што рукі, ці чым занятыя, не было як паручкацца. Адзначыў мімаходзь: у Ларысы поўны рот залатых зубоў, і яна іх ахвотна дэманструе, нібы выхваляецца. Убачыў у праёме дзвярэй і састаўленыя літараю «Г» сталы, загрувашчаныя талеркамі, бутэлькамі, міскамі. Каля сталоў тупала, парадчыла, па-свойму перастаўляючы закускі, Наташа. А бацька — строгі, у цёмна-сінім касцюме і зялёнакрэмавай кашулі з незашпіленым каўняром, трымаў у руках па бутэльцы, выглядаў, дзе б гэта іх яшчэ ўплішчыць. Федзя з дзвярэй даў ім асобна «Дабрыдзень!». Бацька ўзняў вочы на яго і... разгубіўся, паспешліва пачаў стаўляць абы-як бутэлькі, ледзь не паабарочваў іх, таропка пайшоў бачком наўкруга сталоў.

Абняліся на невялікім, незанятым «пятачку» пасярод пакоя...

## 5

Вялікія застоллі на вёсцы пачынаюцца з моманту, калі саўдзельнікі паселі ўжо за сталы, сцішыліся і засяродзіліся. Кожны ў сабе нібы заціснуў на момант нейкую спружыну, прыціх, хоць да гэтага ўсе стараліся гаманіць: і садзіліся — гаманілі, і нават седзячы ўжо — як не ўзахапкі. Нібы во гэтая гамана і была тым галоўным, дзеля чаго іх паклікалі, а частаванне-выпіўка — так сабе, штосьці другаснае, для прыклёпу. Як садзіліся, бацька паманіў Пятра, старэйшага свайго брата, потым Федзю, паказаў ісці вакол сталоў да тарцовай сцяны, прапусціў яшчэ перад сабою Аляксану і пайшоў сам. Але тут жа агляну́ўся на Гардзея і Рыгора, кіўнуў, каб следавалі за ім. Такім чынам Пятрок апынуўся на покуці, Федзя каля яго, на стыку двух сталоў (месца нязручнае, адны ножкі, хоць таксама ганаровае), у цэнтры апынуліся Аляксана з бацькам, а злева ад іх Гардзей і Рыгор.

Далей ужо разбіраліся самі, каму праходзіць бліжэй

да ганаровых месц. Паўз глухую сцяну сталі ўсутыч тры сталы (як ножка літары «Г»). Першы за іх пабраўся Лявошка і апынуўся каля самага Пятра (пакуль дабіраўся, спатыкаўся пратэзам аб ножкі сталоў), за ім — брыгадзір Каляда, потым Аляксанін сын Лёня, потым Пятроў сын Генадзь, потым Юра Расолька са сваёю тоўстаю Ленай і Дар'я — суседзі. Насупраць іх сеў Дзям'ян Пахвалёны з жонкаю Кацярынаю, сястрою першай бацькавай жонкі (прыйшлі ў самы апошні момант), і яшчэ дзве бабулькі: Аляксаніна цётка Грыпа (яна, як садзілася, падклала пад сябе, вохкаючы, маленькую, з канапы, падушачку), Пятрова жонка Зося і крыху маладзейшая за іх, але таксама пенсіянерка са стажам Калядова жонка Марыля. У самым кончыку з тарца прыляпілася Настаса — каб выбягаць на кухню: яна сёння за гаспадыню-падаваху. На левым ад Федзі флангу, дзе канчалася верхавіна «Г», быў прыстаўлены шосты стол, нібы пачалі з «Г» рабіць «П». За гэтым сталом паселі Гардзеева Ларыса і Жухалава, Федзевы пляменнікі Сяргей і Наташа, а цераз стол, нос у нос, Рыгораў Саша і Генадзева жонка (спазнілася прыйсці з двара і сама выбрала гэта месца). Сашу пасылалі ў апошні момант у розведы: чаму марудзіць Дзеньдобры? І хлопец прыбег з такою вестачкаю: старшыня мо вырвецца і прыйдзе толькі ўвечары, бо зараз займаецца з нейкім прадстаўніком з раёна.

«Хвалюецца бацька...» — Федзя бачыў, як той зашпіліў быў каўнер кашулі, але не вытрываў і хвіліны — ірвануў, расшпіліўся: каўнер душыў яго, твар адразу барвовеў.

— Дык прашу наліць чаркі...— сказаў бацька хрыпавата, пракашляўся ад няёмкасці.— Я хачу сёння падзякаваць усім субяседнікам, хто ўважыў нас, хто прыйшоў сёння на гэту бяседу... Па вядомай вам прычыне... І хачу падняць гэту чарку за здароўе гасцей...

— Каб заходзілі і прыязджалі часцей,— тут жа голасна ўставіла Аляксана, бо пачаўся «рабочы шумок», дзынканне і плюханне.

— Ага, каб часцей... То папрашу! — бацька стрымана, з годнасцю прыўзняў чарку з сухім вінам (асобная бутэлька-ракета стаяла насупраць яго і Аляксаны). «Маладыя» адпілі па паўчаркі.

«За вас, за маладых, трэба было першую!» — выдзе-

ліўся голас Аляксанінага Лёні. А далей ужо і не ўлавіць — хто: «За бацькоў п'юць, але ж няма іх...» — «Дык то ж на сапраўдным вяселлі!» — «А гэта хіба фальшывае?» — «То піце, не растабарвайце!» — «Градусы прападуць...»

Усе выпілі, але закусіць добра не паспелі, як устаў Гардзей.

— Я думаю, мы не памылімся, калі дамо лейцы ў рукі Пятру Іванавічу Сухавею. Ён і брат бацьку, ён і сват, хай будзе і тамада.

«Правільна! Свату першая чарка...» — «І палка! Палку не забывай...» — «Даўней сват усім вяселлем кіраваў... А потым і каравай дзяліў»,— зноў загаманілі за сталамі.

— Кіраваць-то ты кіруй, ды не вельмі тузай! — залішне голасна прадэкламаваў Рыгор.— Настаса, дзе ты там... Трэба было б Пятру Іванавічу ручнік... Не падрыхтавалі?

— Як гэта не? Як гэта не?! — прыкінулася вельмі абуранай Настаса і шмыгнула за штору на кухню. Адразу ж і назад з'явілася, на руках несла перад сабою згорнуты ў чатыры столкі вышываны ручнік. Перад сталом бацькі і мачыхі пакланілася і працягнула ручнік ім. Прыняў яго бацька і гэтак жа цырымонна, з паклонам падаў Пятру. Той мітусліва ўстаў, падзякаваў усім за гонар, разгарнуў ручнік над галавою, паказваючы ўсім, які прыгожы, і прыклаў да грудзей накрыж. Федзя ўсхапіўся памагчы завязаць.

— Во, дзядзька... Гэта ваш маршальскі жэзл: можаце караць і мілаваць.

— То я і папрашу, каб налілі... І я хачу сказаць...— Пятрок Іванавіч правёў сюд-туд пад носам указальным пальцам, дзе была нізенькая белая шчацінка вусоў, вусы дзядзька падстрыгаў, мабыць, ножанкамі.

І зноў згустак гаманы, фразы наскокваюць адна на адну: «Не чаўкай, дай дзядзьку сказаць...» — «Э-э, бабкі, бабкі! Вы ж і таго не павыпівалі...» — «І куды глядзіць міліцыя?!» — дурасліва патрос над сталом рукамі Расолька. «А ты не скачы, як верабей, гэта табе не на сметніку!» — пеканула яму Дар'я. «Ціхаце! Не затыкайце чалавеку рот!» — «Гаварыце, дзядзька Пятрок!» — «А ў яго ж самога не наліта. Беленькай яму!» — «Ёрш будзе, ён віно піў!»

— Жадалі нам, пажадаем і вам...— дзядзька ўзяў

келіх у руку, але сусед, Лявошка, так плюхнуў, што чырвонае віно пацякло па Пятровых пальцах.— Пажадаем шчасця і долі, і хлеба ўволю... Каб добра вам жылося, елася і пілося... («Хацелася і маглося... Ха-ха, во што галоўна!» — Рыгор кінуў). Каб былі здаровыя, як вада, багатыя, як зямля,— не збіўся Пятрок.— Каб адно аднаго шанавалі і нас не забывалі...

Федзя адчуў, як засвярбелі кончыкі пальцаў: так хацелася дастаць з кішэні запісную кніжку і ручку! Але як паглядзяць на гэта людзі?

— Горка! — Рыгор першы падняў шклянку, і яго падтрымалі ў розных канцах застолля: «Горка! Піць нельга — чэмер!»

— Рыгор, перастань! Як табе не...— запознена прысароміла яго Настаса.

— Го-р-р-ка! — яшчэ больш настойліва закрычаў Рыгор і па-бычынаму пакруціў галавою.

«Пайшло-паехала...» — з прыкрасцю падумаў Федзя.

— Супако-ойся...— з прыціскам шапярнуў Рыгору Гардзей і павярнуўся, каб чокнуцца з бацькам і мачыхаю: — За ваша здароўе, тата! За ваша, Аляксандра Піліпаўна!

Здалёк пацягнуўся пачокацца з маткаю Аляксанін Лёня, Федзя таксама пачокаўся з імі, а потым і з дзядзькам Пятром, і з Лявошкам, і з Дзям'янам Пахваленым, які ўсё кехкаў-пакашліваў, усё ўсміхаўся. І ўсе ўзаемна чокаліся («А мы ўжо чокнутыя!» — кінуў Расолька жарцік), цягнуліся з чаркамі да бацькі і мачыхі: «За вас! За ваша здароўе!» І «маладыя» ўсім languages стрыманаківалі, пасміхаліся, і Федзя бачыў, калі мачыха паварочвалася тварам у яго бок, што вочы яе блішчалі ад слёз і нібы прасілі прабачэння ў людзей за турботы.

— Гор...ка-а!! — упарта паўтараў Рыгор. Яму хацелася скандалу, хацелася сапсаваць «музыку». «Сорам... Сорам!» — пякло ў Федзевых грудзях. Але бацька «разрэдзіў абстаноўку» — нахіліўся да Аляксаны і далікатна пацалаваў у шчаку. І тут жа Ларыса і Жухалава запляскалі далонямі, і ўсе запляскалі, хоць многія не згледзелі — чаго.

За сталамі рабілася ўсё больш рогатна і шумна. Сам Федзя не так піў, як мачыў губы, хацелася яму быць цвярозым на гэтай бяседзе. Хоць і не звычайнае

гэта было вяселле, але ўсё-такі вяселле. А мо што праявіцца ў ім ад беларускага традыцыйнага абраду? Ён ні на хвіліну не пераставаў адчуваць сябе даследчыкам. І яшчэ: хацелася сачыць за кожным крокам Рыгора, быць напагатове — каб не «наламаў дроў».

Раптам бабкі, усе чацвёра, яны сядзелі на заслоне адна за адной у профіль да Федзі, зацягнулі песню. А пачала Грыпа:

Ой, коска мая
Да русенькая!..
Я ў табе красавалася
Да нікога не баялася:
Ні старога, ні малога,
Ні Ясічка маладога.
А цяпер я баюся
І старога, і малога,
І Ясічка маладога-а-а-а...

Федзя не ўтрываў, хуценька дастаў запісную кніжку. Начхаць, хто як паглядзіць на гэта, што падумае! Паспеў толькі схапіць, запомніць першыя чатыры радкі. Запісаў і занепакоена, разгублена выпрастаўся (пісаў на калене, амаль пад сталом), паглядзеў на бабак. Пальцы з ручкай трымцелі ад хвалявання. Не, не паўтораць... А гэта ж чыста вясельная песня! Аляксана трошкі пакасіла вачыма пад стол, у яго кніжку, нібы хацела падгледзець, што ён там запісаў. І раптам спакойным шэптам прадыктавала: «Ні старога, ні малога, ні Ясічка маладога...», а потым і апошнія тры радкі.

— Ай, яй, яй... От не зварыла галава! — давяральна паскардзіўся ён.— Магнітафон трэба было захапіць з сабою! А я — фотаапарат...

— Я табе ўсё перакажу. Я іх сотні ведаю! — Аляксана ласкава, па-сяброўску пацiснула яму руку каля локця.

Зялёная канапелечка,
Чаму яшчэ не пабуяла-а? —

зноў завялі бабкі, і Федзя тут жа забыў пра ўсё на свеце, угнуўся да калена.

І зноў мачыха прадыктавала яму тое, што не паспеў схапіць: «Маладая Аляксаначка, чаму ж яшчэ не пагуляла? Да не даў мне Ясічак маладзенькай пагуляці, расплёў маю косачку, разліў маю слёзачку...»

«Як заўсёды — паралельная будова вобразаў, параўнанняў... Алегорыя...» — радаваўся Федзя. З гэтага

часу яго ўвага раздвойвалася, траілася і чацвярылася. Стараўся не ўпусціць таго, што робіцца і гаворыцца за сталамі, і быць заўсёды гатовым, каб штосьці схапіць, запісаць. Каляда ўжо хацеў зацягнуць любімую песню: «Скакаў казак цераз даліну», а Лявошка сваю: «Р-равела бур-ра, дождж шуме-еў...», ды з другога, левага, флангу іх перакрыквала Жухалава: «Ой, хацела ж мяне ма-аць!» Ён усміхнуўся на гэты гармідар і далучыўся да Жухалавай — на ўвесь голас, а за ім й Аляксана. Песня была вядомая, песню ведалі ўсе, яе можна было рвануць так, каб ажно столь завагалася, прыўзнялася.

А той первы, первы няверны,
Ой, не аддай мяне, ма-аць!

Рыгор, праўда, выкрыкнуў сваё: «А той першы дрэнна піша вершы, ой, не аддай мяне, ма-аць!» Вядома, у чый агарод цаляў, у Федзеў, і Аляксана павярнулася да яго, ласкава ўсміхнулася. Спявалі ўжо ўсе за сталамі, спявалі гэтую песню. Эх, любіў жа і Федзя паспяваць — каб у добрым, сяброўскім гурце, пад настрой, ды каб песня была любімая — хай лірычная, хай вясёла-разудалая, але каб ад душы. Люба-міла было тады глядзець на людзей — як хораша яны раскрываліся, расцвіталі душою, рабіліся развярэджана-ласкавымі, з сэрцамі наросхрыст — што хочаш бяры ў іх, што хочаш могуць аддаць, зрабіць. Сем разоў у песні хацела маці аддаць замуж дачку, а тая ўсё капрызліва перабірала. І толькі сёмы ёй спадабаўся, «прыгожы ды вясёлы», але ж... «Ён не схацеў мяне ўзяць!» А даспяваліся толькі да «пятага, п'яніцы праклятага», і Рыгор націснуў на голас, «змяшаў карты»:

А той пяты, п'яніца пракляты,
Ён не схацеў мяне ўзяць!

Адразу «ха-ха-ха!» — не вытрывалі, песня рассыпалася і змоўкла.

— Ёсць прапанова — выпіць! — крыкнуў Рыгор, але ў шуме яго мала хто пачуў, а хто і пачуў — прапусцілі паўз вушы. Радок бабуль на заслоне пашаптаўся і зацягнуў хрыпленькімі галаскамі, каб кіраваць вяселле ў патрэбнае ручво:

Насыпайце пшаніцы
У новае карыта,
Карміце коні, паедзем у дарогу...

І зноў у страшэнным напружанні, ажно пальцы нямелі, адмаўляліся трымаць ручку, сыпаў каракулі Федзя.

Маладая Аляксаначка,
Ты йдзеш ды не ведаеш,
Што там поле камяністае,
А зямля крамяністая
І сям'я наравістая...

Нечакана Аляксана праспявала высокім голасам-падгалоскам адказ:

— А я поле крамяніць буду,
А сям'і наравіць буду!

І тут жа, амаль без усякага пераходу, звонка і гулліва:

Ой, п'яніца, п'яніца
Ванечкава жоначка.
Ой, п'е, ой, п'е,
Дома не бывае,
А хто ж яе, маладое,
Дзела парабляе?
— Сам бог,
Далібог,
Прачыстая маці,
Прыйдзеце,
Паглядзеце,
Як хораша ў хаце!

Бацька круціць захоплена галавою — «Ну й ну!», глядзіць збоку на Аляксану, і ў позірку яго Федзя заўважае пяшчоту, маладую закаханасць. А наўкол і смех, і выгукі: «Вось гэта жонка!» — «За такую і выпіць не грэх!» — «А мая, толькі на парог, ужэ і крычыць: «Дыхні!». Выкрыквалі штосьці і Рыгор, і Жухалава, паблісквала залатымі зубамі і Ларыса.

Але Федзя стараўся слухаць толькі тое, што гаварыла яму сціха Аляксана:

— Даўней на вяселлі дык і песень, і плачу было. Маладая павінна была толькі крушыць вочы і жальбіцца... Ого, не дай бог засмяяцца ёй, развесяліцца! Столькі абгавораў будзе... І ні шагечку самі не ступяць ні маладыя, ні сваты, ні шафіркі. Усё песня за ручку вяла... Як маладую ўбіраюць — песні, на дзяжу саджаюць — песні, за стол — песні, за сталом — песні. А пра маладога — як выбіраецца да маладой, як едзе, як прыязджае, як яго сустракаюць, як зводзяць разам маладых, як едуць да вянца і як ад вянца да ма-

ладога... Я табе тыдзень вясельныя буду пецъ і не перапяю ўсіх!

— Дзядзька, я прашу слова! Таварыш сват-тамада, да вас абрашчаюся я, друззя мае! — Рыгор не дачакаўся, калі Пятрок Іванавіч дазволіць яму гаварыць, і ўздыбіўся над сталом, з барады сыпануліся крошкі. Гардзей, мабыць, садзіў яго, бо Рыгор адсек: — Што ты ўсё тузаеш? Калі ты брат — налей лепш! — ледзь не пад нос яму падставіў шлянку, і Гардзей уліў нейкіх пяцьдзесят грамаў. Пакасіўся Рыгор на такую дозу, але нічога не сказаў.— Прашу ўсіх наліць! І вып'ем за Аляксандру Піліпаўну!

«Даўно пара!» — «Правільна, харошы тост!» — «Я хацеў, з языка ў мяне сарваў...» — «Ванька-ключнік, злой разлучнік...» — праспяваў Каляда, але падняў Лявошка перад брыгадзірам палец: «Цс-с!», і Рыгор працягваў:

— Вока ў нашага бацькі яшчэ тое. Ведаў, каго ўзяць... Можна і целявізар не купляць — і спяе, і развесяліць. Ну — гэта я так... Ты не крыўдуй, тата, мы ўсе свае... Усе дарослыя. Як той дзед у песні: «Яй-богу, далібог, не буду жаніцца!» А тады: «Калі буду жыў-здароў, ажанюся ешчэ!»

— Садзіся!.. Сказаў — ну й сядзь... Чуеш? — зноў затузаў яго за крысо пінжака Гардзей. Баяўся, каб Рыгора не занесла яшчэ далей убок.

— Ага! Дык — стоячы! За Аляксандру Піліпаўну! Да капялюначкі! — выкрыкнуў Рыгор і выпіў усё, задзёр бараду ў столь, нават папстрыкаў пальцамі ў донца, паказаў мачысе, як чысценька выпіў за яе, не пакінуў «слёз».

І ўсе загрукаталі крэсламі, заслонамі і табурэткамі, усе захацелі выпіць стоячы. І Аляксана шчаслівa ўсміхалася, усім ківала — і направа, і налева, і просценька перад сабою — бабкам: «Дзякуй вам! Дзякуй!» І бацька далікатненька чокнуўся з ёю, прыгубіў чарку.

Не паспелі добра закусіць, як дзядзька Пятрок абвясціў:

— То гаварыў сын, а цяпер хай скажа зяць.

Лявошка таксама папрасіў наліць.

— У нашым кладаўшчыцкім дзеле як? Асцярожна кладзі груз на вагі, каб не звіхтаваць. А ўсклаў — тут жа і гіры стаўляй. Каб ураўнаважыць, значыць... Да грамулькі. Каб аднакавы на талерках груз быў, гэ-

та калі малыя вагі... Дык мне здаецца, што будзе справядліва, калі мы асобна вып'ем і за Івана Іванавіча. Паглядзіце на яго... Малады? Малады...— сам сабе адказаў Лявошка (Каляда тут жа падтрымаў яго: «Правільна, цёзка, кажаш!»).— Прыгожы? Прыгожы!..— і ўжо многія галасы пацвердзілі: «...гожы!» — А пра тое, што ён чалавек справядлівы, сумленны, ціхі,— і гаварыць не прыходзіцца. Я кажу гэта ад душы — нацяжак і грама няма...

— Добрая пара, хай жывуць шчаслівыя...— падтрымала яго ціха баба Кацярына і ўздыхнула, а Пахвалёны згодна паківаў, пакашляў, паўсміхаўся. Федзя ўлавіў усё-такі: цётка раўнавала Аляксану да сваёй сястры нябожчыцы Сарафіны. Хай сабе жыццё ёсць жыццё, хай сабе прайшло ўжо колькі гадоў пасля Сарафінінай смерці, але ж... *Але ж!*

— Дык я кажу лічна ад сябе: дай бог кожнаму такога цесця! За ваша здароўе! — пацягнуўся да бацькі чокнуцца Лявошка.

— Ага... без усякага-якага падхалімажу...— падаў шклянку да бацькі і Рыгор, на Лявошку не глядзеў, хоць і шпурнуў у яго агарод камянюку.

Зноў нічым не выдаў сябе бацька. Усім усміхаўся вачыма, ніводзін жаўлак не тузануўся на яго шчацэ.

Выйшла маці
Зяця прымаці,—

зацягнула Дар'я. І бабулі тут жа падладзілі свае галасы:

Ды не так прымаці,
Як выглядаці-і-і...
Ці весела п'яны,
Ці хараша ўбраны,
Ці не жаль дзіцяці
За яго аддаці-і-і-і...

Аляксана пачакала, пакуль бабкі даспяваюць, пачакала, пакуль усе госці вып'юць за бацьку, і падняла чарку, нібы паглядзела праз яе на святло:

Сюды-туды пахіліла,
Сама сябе пахваліла:
«Ой, я добрага роду,
П'ю гарэлачку, як ваду,
Завярнуўшыся ў куток,
Па тры чарачкі ў раток.
Ой ты, чарка-пакатуха,

Не йдзі ў голаў,
А йдзі ў бруха!»

З нейкай ліхасцю выпіла, устрасянула чаркаю і даспявала:

І стучыць, і гручыць,
Па жылачках ідучы!

Воплескі, шум, смех... Жухалава паспрабавала была дацягнуцца да Аляксаны, каб пацалаваць яе, але не дацягнулася і толькі пастукалася з Аляксанінаю чаркаю, хоць і пустою ўжо. «Дык гэта ж «Чарачка»! Знакамітая на ўсю Беларусь «Чарачка», яе ж шырмаўцы, Дзяржаўная капэла спявае. Але ў Аляксаны свой варыянт! Яшчэ адзін варыянт! А колькі ўсіх?!» — Федзя паспеў усё запісаць, захоплена глядзеў на Аляксану і бачыў, што з другога боку з яшчэ большым захапленнем і цікавасцю, нават з гонарам, нібы сам толькі што адкрыў для сябе Аляксану, глядзеў бацька.

Тым часам на правым фланзе адбылася нейкая заварушка, Федзя не заўважыў, калі выбралася з-за стала Дар'я, калі прашмыгнула на кухню. І толькі як пацягнула з печы гармонік (галасы рыпнулі-енкнулі), як з'явілася ў дзвярах ды расцягнула яго на ўсе грудзі, за сталамі як што абвалілася: ахнулі, загрукаталі мэбляю, завыкрыквалі: «Ай ды цётка! І калі яна прытарабаніла музыку?» — «Правільна! Паскачыце трохі, а то жлукцяць — як з прывязі пазрываліся...» — «Ага, дабраліся! П'юць і п'юць...» — «Цётко-о!!! «Круцёлку» рэж!» Але Дар'я прыцішыла гук і рыпала аднатонна — адно калена, жваванька азірала ўсіх, нібы чакала больш пэўнай каманды.

— Свінні ў рэпе, свінні ў рэпе...— не ўтрываў Рыгор.

Дар'я сыпнула гарохам пераборы.

— Пусціце, бо кончуся! — завертухаўся каля Федзі, працягнуў да Дар'і рукі дзядзька Пятрок і выкрыкнуў хрыпата:

Апанас
Валы пас,
Кацярына гусі,
Нарабілі граху,
Пачыналі з бусі!

І ўсе пачалі ўставаць перад Пятром — Лявошка, Каляда, Лёня, Генадзь, Расолька. Але Зося, Пятрова жонка, накрычала:

— Сядзь, шалапут стары! Не бунтуй людзей...

І Настаса з'явілася з кухні з новымі талеркамі ў руках, нарабіла сваркі:

— Што гэта робіцца?! Сядзеце, яшчэ рана пярэдых рабіць! Дзядзька Пятрок, супакойцеся, а то ногі звяжам... Цётка Дар'я, і вы яшчэ сядайце!

— Праўда, праўда, галоўнае — закусіць добра! — падтрымала яе Жухалава.— Насцечка, давай сюды свае прысмакі!

І ўсе аціхлі, паселі, пачалі налягаць на закускі, а Дар'я, сунуўшы гармонік недзе пад стол, прыладкавалася на сваё месца з краю. Елі, частавалі адзін аднаго, перадавалі і другім тое, што самому прыйшлося да ўпадобы. «Любата, як кісель ёсць. І жаваць не трэба...» — «Ага, няма Аўдоткі на яго».— «А мёд які харошы».— «Ты рыбку пакаштуй — карасікі сало-о-одзенькія!» — «У Хітруна бралі, спецыяльна ім на вяселле налавілі...» — «Яблыкі ў калгасе на корані закупілі... Са Слуцка...» — «Не са Слуцка, так аднекуль,— паправіў Каляда Лявошку.— Прыехалі, самі ўраджай ацанілі, самі і сабіраць будуць. Кажу Дзеньдобраму — хай, мы не пратрацім, а яшчэ й выйграем... Трыццаць тысяч пералічыла тая арганізацыя калгасу...» — «А калхозніцкія і сёлета каровам пааддавалі б, каб не град цвет абкалаціў». Каляда: «Мая дачка з Мінска пісала: зімою па рублю, па паўтара яблыкі ў магазіне! Ты чуў такое?»

Федзя паклаў ззаду на падаконнік кніжку і ручку, слухаў размовы, закусваў сам, бо дасюль было не да гэтага. Аляксана моўчкі, сцеражліва засцілала бацьку калені ручніком. Рыгор сядзеў, сумна і крыху асалавела паставіўшы ў адну кропку вочы. На адтапыранай губе прылеплена непрыпаленая цыгарэта. Гардзей быў заняты шапатлівай размовай з Ларысай, да іх раз-пораз нахіляліся Сяргей і Наташа. Але маладзейшыя больш перамаўляліся паміж сабою. Тым часам Настаса з Дар'яю некалькі разоў завінуліся на кухню і назад, прынеслі і прыладкавалі на сталах талеркі і міскі з цёплымі, ажно пара курылася, катлетамі. Перад бацькам і Аляксанаю не было дзе на стале і нажа прасунуць, але Настаса паставіла міску на краечкі суседніх талерак — у два паверхі. Схапілі і некалькі пустых і напалову пустых бутэлек, замянілі на поўныя. «Дзесяць... Трынаццаць... Шаснаццаць...» — лічыў сам сабе

закускі Федзя — і збіўся: з-за бутэлек, з-за наваленых кучамі яблык, пячэння, пернікаў, цукерак не відаць былі талеркі. «Дзе мастакі? Чаму такога нацюрморта не намалююць? Вясковае застолле апошняй чвэрці дваццатага стагоддзя».

Групкі і групачкі, у кожнай свая размова і свае, сепаратныя тосты. Дзядзька Пятрок крычаў сыну Генадзю: «Многа, ты кажаш? Па рублю за тону — многа?! А ты ведаеш, па колькі камбайнеры працуюць? А ты ведаеш, што на іх плячах усё жніво, нідзе ні коска не зазвоніць, ні сярпок не паскача? Жняяркі — і то не знойдзеш, каб дзе ў музей загнаць!»

За сялом ды за парканам
Жоўценькі да рамон цвіце-е-е...—

раптам зацягнула цётка Дар'я і навалілася на бабулек:

— Што ж вы, капэла, маўчыцё? Языкі пакаўталі?

Федзя выхапіў з-за спіны запісную кніжку і ручку...

Там Ванечка
Да каня пасе,
З сямі шаўкоў
Да канчук пляце-е-е-е...
Аляксаначка да ваду нясе,
Ён яе ўсё зачэпвае-е...
— Не чапай мяне, маладое,
Не разлівай вады дарагое.
Я ў мамачкі незабаўначка,
Куды пайду — не забаўлюся,
З кім стану — не зажуплюся-я-я...

Наганялі сумоты бабкі, і Рыгор «паехаў упоперак», выкрыкнуў:

Дайце ножык! Дайце вілку!
Я зарэжу сваю мілку!

Адразу выбух гаму і рогату, сыплюцца каментарыі. Пятрок тут жа заводзіць:

А дзед бабу разуваў,
Разуваў, разуваў.

«Во-о!!!» — дружна выдыхнулі ўсе. Былі ўжо застольнікі пад такім градусам, што не зважалі на Наташыны і Сашавы вушы. Амаль на кожным вясковым вяселлі наступае час, калі пачынаюць спяваць такое: трохі саромна-скаромнае, трохі бурліва-гуллівае і ў той жа час цнатлівае. Нідзе не пераступаецца тая мя-

жа, за якою пачынаецца брыда і бруд. І Федзя спяваў з усімі, начыста забыў пра пісаніну:

— А што, баба, там за звер,
Там за звер, там за звер?
Я баюся, каб не з'еў!
Каб не з'еў, каб не з'еў!
— Гэта птушка верабей,
Верабей, верабей!
А ты, дзедка, не рабей,
Не рабей, не рабей!
Ён не скача, не пяе,
Не пяе, не пяе,
А спакою не дае,
Не дае, не дае!

Бабкі нават у ладкі прыплясквалі, і самы раз было паскакаць, пакачарыжыцца. Дар'я вывалакла з-пад стала свой гармонік, ён енкнуў, нібы шчанюка падымалі за вуха. І ўрэзала стоячы, расцягваючы гармонік над сталом:

Шавец-мудрэц,
Сеў на паліцы,
Шые боты, рукавіцы...

— А-а-а... ах!! — пляснуў дзядзька Пятрок рукамі над галавою і каўзануўся пад стол. Міг — і галава яго зусім знікла... Пад сталом стукат, валтузня і раптам віск, курынае бабскае кудахтанне. Затрэсліся бабкі разам з заслонам... Віск перайшоў у верашчанне — быццам іх рэжуць, быццам яны канчаюцца: Пятрок — пэўна ж, каб падурачыцца! — трапіў галавою сваёй Зосі пад спадніцу і гэтак спрабаваў устаць. Адзін канец заслона падняўся, бабкі ссыпаліся з яго і — хто куды. Аднак Зося ўчапілася ў заслон і таўчэ сухім кулачком Пятру ў карак. А Дар'я выбралася ўжо з-за стала, напявае:

Што заробіць, то прап'е,
Прыйдзе ўдому, жонку б'е.
Жонка плача, лямантуе:
«Хто мне дзеткі пагадуе?!»
«Я й сам пагадую,
Вазьму жонку маладую...»

І вось Пятрок ужо вылузаўся, ён на «пятачку» між сталамі, прыплясквае рукамі, ляпае па грудзях, па сцёгнах, па абцасах. І не яго Зося з ім, а Марыля Каляда: круціцца тоўстаю ручайкаю-верацяном, а шырокая спадніца раздзімаецца, як звон. Чорная спадніца, не

андарак каляровы — зазначыў Федзя і вельмі ж пашкадаваў, што, мабыць, няма ў Марылі такога. А якое ж было б хараство! «Трох-рох, то-ро-рох!» — пагруквае абцасамі Пятрок, і не скажаш, што яму пад семдзесят.

Мужчыны, што засталіся сядзець, пацягнулі стол разам з усімі бутэлькамі і едзівам на сябе, другія саўганулі заслон па падлозе на кухню — і «пятачок» намнога пабольшаў. Можна ўжо круціцца дзвюм парам, і Жухалава як не вынесла перад сабою Сяргея: аднекваўся ён і саромеўся. А потым стаў вырабляць нагамі бугі-вугі, выгінацца так і там, дзе, здаецца, зроду ў чалавека не было суставаў. Жухалава лёгка часціла абцасамі, адступала перад ім, расставіўшы рукі.

Калядова Марыля змаглася: «Няма духу! Вокны паадчыняйце!..» Уцякла ў кухню, а адтуль выштурхнула бабу Грыпу — сухенькую, мо ў два разы меншую за Жухалаву. Заатэхніца тут жа злавіла яе за ручку, уцягнула ў танец. Пятрок паспрабаваў прысесці, пайсці ўпрысядку, але не ўтрываў — гэпнуў на калені. І не ўставаў ужо, нагінаўся сюды-туды, круціў тулавам, пляскаў далонямі па падлозе.

— Рукі адтапчу! Беражысь! — пайшла кругамі вакол яго Жухалава, цягла за сабою Грыпу:

Ты ўжо дзед, ты ўжо дзед,
А я хоць і бабка,
Кармі мяне пірагамі,
Яшчэ буду сладка!

Дар'я непрыкметна мяняла, вар'іравала мелодыю, і гэта чуйна ўспрымалі танцоры. Нават баба Грыпа кінула прыпеўку:

Жонка мужа шкадавала,
На папары навязала.
«Еш, мужу, папарніцу,
Пі вадзіцу-лугавіцу!»

Сяргей убачыў, што Жухалава на яго забыла, і шмыгнуў на кухню да Сашы і Наташы. Жухалава тым часам падчапіла пад руку Пятра, закруцілася з ім. «Ух-ха! Ух-ха-ха!» — Пятрок дурачыўся, спрабаваў падцяць, падкурчыць ногі, каб трохі праляцець вакол Жухалавай, як на «гіганцкіх кроках» вакол слупа.

Рыгор прачнуўся, выкрыкнуў з-за стала:

Ах, зімачка,
Ах, марозлівая,
Ах, цешча мая,
Ах карослівая!

Жухалава пусціла Пятра жывога, імгненна прысела і — р-раз! Віскнула баба Грыпа і ўзляцела пад столь, апынулася ў Жухалавай на плячы, угнула галаву, каб не стукнуцца. Хісталася трохражковая люстра. «Асцярожна!» — не ўтрывала Аляксана, хоць дасюль глядзела, што робіцца на «пятачку», са шчаслівай усмешкай. Бацька, нібы захоўваў этыкет на дымпламатычным прыёме, сядзеў чынна і амаль строга. Жухалава крыху пакружылася з Грыпай і спусціла яе на дол. Пагнала, памяла перад сабою ўсіх бабак на двор, Дар'ю таксама.

Мужчыны дружна ўздыхнулі, пасунулі назад ад сябе сталы, ніводная пляшка не ўпала, пачалі вылазіць для перадышкі. «Ну й Жухалава! Ну й бабішча!» — «Тысяча і адна ноч!» — «Пападзіся такой — бедны будзеш...» — «Дзіва што ніхто не асмельваецца жаніцца на ёй»,— круцілі галовамі, параготвалі.

Устаў Гардзей, падняў за локці Рыгора — пайшлі наўкруга сталоў. «Хадзем, падыхаем...» — сказаў бацька да Аляксаны, і яны таксама паўставалі. А гармонік ужо чуўся з двара, там гуляць было свабадней.

Калі выйшаў на ганак Федзя, на двары тапталася некалькі пар, у тым ліку і Гардзей з Ларысай. А Дар'я, паклаўшы вуха на гармонік, падпявала:

Ад чаго я сохну,
Ад чаго я вяну,
Прыйдзе вечарочак,
На каго я гляну?
На мілога хату,
На мілога хату,
І адразу ўспомню
Пра любоў праклятy...

З сянец магутна вырывалася іншае, там стаялі Лявошка і Каляда, паклаўшы рукі адзін аднаму на плечы, нібы сабраліся ў танец, і хораша выводзілі на два галасы:

Едзем, Галя, з намі,
З намі, казакамі,
Лепей табе будзе,
Як у роднай мамы-ы-ы...

З вуліцы ўподбежку ішоў Рыгораў Саша. У адной руцэ трымаў чамаданчык-прайгравальнік, пад другою — каробку з пласцінкамі, Федзя даў яму дарогу, і ён шмыгнуў у сенцы, за ім — Сяргей і Наташа.

«А дзе ж Рыгор?» — падумаў Федзя і тут жа ўбачыў, што Рыгор ідзе з-за хлява. Ступае няроўна, падаецца то ўправа-ўправа, то ўлева, калматы, растрэпаны, штосьці мармыча. А тут і гармонік сціх, і Федзя пачуў:

Я вернусь домой
На рассвете дня,
Напою жену,
Обниму коня-я...

Ад змрочнага выгляду Рыгора рабілася не па сабе. «Пагаварыць з ім трэба... Абавязкова пагаварыць... І Гардзею скажу, каб пагаварыў...» — Федзя пачуваўся стомленым, хацелася прылегчы. Але ведаў, што да ляжання справа не скора дойдзе. Яшчэ не раз будуць садзіцца за стол, не раз вылазіць, каб паскакаць, патаптацца, і з кожным разам яшчэ больш агрузлыя ад яды, усё менш будуць піць і есці, хоць бацька з мачыхаю і Настаса будуць прыганяць і наставаць, гаварыць, што на сталах як стаяла ўсё, так і стаіць. І доўга яшчэ будуць спяваць — да змогі: «Зялёную вішню» і «Зялёны дубочак» — Ганіну песню, «Ці я ў полі не каліна была» і «Ці ўсе лугі пакошаны», «Як сарву я ружу-кветку» і «Пасылала баба дзеда ў луг па каліну», і пра тое, як «Баба Ева, дзед Тамаш паехалі на кірмаш», і абавязкова разудалую «Ад панядзелка да панядзелка смачна п'ецца нам гарэлка». Але ж гэта вядомыя песні... Вядомыя! Хіба мо Аляксана наспявае чаго забытага. «Згарбузаваць бы з гэтых бабак і жанчын які гурт... І толькі б абрадавыя, толькі б старажытныя спяваць, якіх ніхто не ведае... Стварыць фальклорны запаведнічак... У людзей жа ёсць не толькі архітэктурна-этнаграфічныя запаведнікі, але і такія вось, фальклорныя... Выступаюць перад наведвальнікамі ў музеях-запаведніках... Якая частка народнага жыцця, народнага мастацтва знікае!»

«Хаця б не надумаўся дзядзька Пятрок «дзяліць каравай» — тортаў жа нанеслі многа... Што я тады палажу на талерку? Выскачыў як Пііп з канапель, у кішэнях вецер свішча...»

«Смешны Пятрок... На радзіны да Настасы прыязджаў — з ног ужо валіўся ад скокаў, а ўсё — цялёп, цялёп! Баба Зося апранае яго, а ён: «Ты зашпільвай, а я яшчэ трошкі паскачу: «Гоп-гоп, таўкачыкі, сем год валяліся, пакуль ступы дачкаліся...»

На ганак выходзяць бацька з Аляксанаю:
— Просім, госцікі, зноў за стол...
А Дар'я нібы не чуе іх, іграе і выспеўвае:

Падыспанец — харошанькі танец,
Яго отчань лягко танцаваць,
Раз суда, два суда,
Пірвярнуцца,
І абратна туда і суда...

# Частка другая

## БЕЛЫ КАМЕНЬ

*Хор*

— Пасуньцеса... Парассядаліся, народныя засядацелі.

— Не вельма і ты выпетрала. Не ўшчыпнуць — тугая.

— Кажуць, ад мучнога і крухмальнага вельмі грубееш. Усё на жываце адкладваецца.

— Дзяўкі! А бачылі, якая Аляксана гладкая стала? За які месяц лою нарасло...

— Выгоддзя дачакаласа...

— Ха! А якія ў яе тут клопаты? Толькі саміх сябе глядзець.

— Ну але-ле... Абое ж на пенсіі, у калгас на работу не ходзяць...

— А я, на месцы Каляды будучы, хоць лёну дала б ірваць. А то во — рукі пагнула ў крук. А церабілкі не ідуць, усё павіло, пакруціла ў трубы.

— Дзяўкі! Кажуць, Аляксана так выспеўвала ды вытанцоўвала на вяселлі — без стыда, без сарама.

— Х-ха! А чаго ёй вельмі стыдацца, чаго не радавацца. Прыйшла на ўсё гатовенькае.

— Бож-жа, твая воля... Яна спявае, а Федзя запісвае ў блакноцік. Ціятр, а не вяселле!

— Дзяўкі, якое там вяселле! Так — вечарынка...

— А я чула, і ў Буславічах яе спецыяльна на вяселлі просяць, каб песні пяяла. Яна ўвесь стары абрад вясельны ведае.

— З Аляксанінага боку мала было. Толькі цётка і сын. А то ўсё Ясева срадство.

— Кажуць, і Жухалава на Дзеньдобрага ласа паглядвае. Скруціцца мужык...

— У яго ж у Слуцку жонка, унукаў няньчыць. А ў Дуброву кацігарычаскі не паехала.

— Хай сядзіць. Даседзіцца! От пабачыце: не рада будзе, што аднаго пусціла ў сяло.

— Дзяўкі! А добра, што Ясь з Аляксанаю сышліса. Якое я дабро бачыла, што век удавою звекавала?

— Рыгор з Маняю быў ці з Волькаю?

— Адзін. І Сашка быў...

— Ха-ха! Узяў бы адну за адну руку, другую за другую — і прывёў...

— Ну! Дзве жонкі чалавек мае.

— Дзяўкі! Я чула ў целявізары, што гарэмы ёсць. А ў аднаго султана сто жонак было.

— Ат, што ў царыцы, то і ў кожнай маладзіцы.

— Божухна, твая воля... То колькі ж у таго султана было дзяцей?

— Больш за трыста!

— А каб ён апух!

— Беспрацоўны. У яго ж ніякай другое работы не было.

— От гэта сямейка! Пракармі, адзень...

— А хіба ў яго мала срэстваў? Султан жа... Ды ён і не гадаваў іх — мамкі, нянькі.

— Ха! От бы Рыгора пусціць у той гарэм...

— Ха-ха-ха! Паразбягаліся б — за год султан іх не павыпорваў бы.

— Ну! Такую бараду адгадаваў... Чорная, але як абынела ўсё роўна.

— Дзяўкі! Казалі, Сашка Рыгора з вяселля вёў. Але ж і п'яны быў — што гразь... Сашка хацеў яго дадому завесці, а ён — у хамут! П'яны-п'яны, а сабраражае... І плача — як бабёр!

— Не прыдумляйце! Наадвараты: не плакаў, а частушкі брыдкія пеў і лаяўся на чым свет стаіць.

— Баба, а на чым свет стаіць?

— Сама ўжэ баба, а не ведаеш дасюль? На любві!.. Не на трох кітах, брэшуць тыя папы. Рушыцца каханне — і ўсё няміла, усё гіне. Чалавек тады не чалавек...

— Гэта не Рыгор плакаў, а Саша.

— То куды ж ён пайшоў?

— Куды! Да Волькі!

— Божа, твая воля... І п'яным не ўмее быць, а дурны.

— Кажуць, Сашка ў вучылішча механізацыі збіраецца. На механізатара будзе вучыцца.

— То скора свой хлеб мецьме.

— Маня змаглася ўжо... Адна, а дзяцей чэцвера.
— Хай бы хоць аляменты адсудзіла, і то б лягчэй было.
— Сашка худы-худы — як дубец... А высозны, скора і Рыгора перагоніць.
— Манька, трасца тваёй... Павазі гэтага крыксу, не чуеш, што плача?
— Ты ўсё яшчэ калышаш свайго? Ён жа не маладзенец.
— Прывык, бэйбус гэты... Манька, а калі не хоча спаць — дай апельсінавую дольку. Хай пасусліць...
— А я не люблю мараканскіх апельсінаў. Дачка прывозіла... Гіджуся! Якраз як з кроўю ўсярэдзіне.
— Ага! Як курыца наседзела.
— Чаго я хацела сказаць... Калі гэта ў нас маладзік настаў?
— Учора, здаецца...
— Гэта ж гуркоў трохі навыбірала...
— А я абы калі салю.
— Э — не кажы, маладзіца... Маладзіком пакладзеш, то і храбусткія будуць, і цвёрдзенькія. Маці мая вельма гэта саблюдала. А от лес сячы ці сталярку якую рабіць — сходнімі днямі. Зробіш, скажам, што трэцім тыднем — шашаль паесць. А вокны нельга маладзіком рабіць. Пачарнеюць, будуць мокрыя і мокрыя...
— Аўдотка добра гэтыя штукі ведае.
— Чаго я хацела сказаць... Дак Ясь што — у сельсавет хадзіў з Аляксанаю?
— Не, мо яшчэ пойдзе.
— От будзе ўдар Рыгору! Вельмі ж не хоча ён, каб Ясь распісваўся.
— Але-ле... І чаго ён так уз'еўся на бацьку? На вяселлі ўсё сыкаў, падколваў і яго, і Аляксану.
— А ты што — няграматная? Калі распісаныя будуць, то і хата, і што ў хаце, і каля хаты ёй адыдзе.
— Ніхто не ведае, дзе чыя смерць ходзіць. Мо яшчэ Аляксана хутчэй справіцца.
— Гэта Федзя ў іх бяздомны, нічога не мае. Скарэй бы Федзю гэта балела.
— А ты ведаеш, што ў яго на мыслі?
— Дзякі! А Рыгор хіба не бяздомны? Ад зямлі адарваўся і неба не дастаў.
— Неба! Хіба ён касманаўт які?

— Чаго я хацела сказаць... Арбітацелі тыя яшчэ на «Салюце»?

— Яшчэ! Мо тры месяцы ўжэ!

— Дзяўкі! От жа дзіва: я бачыла ў целявізары, як чокаліса цюбікамі... Кроплі павыскоквалі, плаваюць шарыкі. А адзін касманаўт, смяшлівы такі, ловіць іх ротам.

— Ага! Развялоса ўжэ і беларусаў у космасе.

— Волька прыняла Рыгора ў сваю хату, то будуць і жыць.

— Парахня, а не хата. Апанас таму і баіцца раскідваць: не будзе чаго і ў кучу згрэбаць.

— Слабы, кажуць, Апанас стаў... Каменскі ходзіць уколы ад сэрца рабіць.

— Дзіва што забаліць сэрца: такога Волька натварыла!

— Апанас, зборлівы такі, і на новую хату не сабраў? Дый у Волькі ж таксама грошы ёсць, столькі гадоў на кароўніку, на пастаяннай рабоце.

— Лёгка ў чужой кішэні лічыць...

— Дзяўкі! Волька казала: хоць сёння магу каменку ставіць. Але нашто яна, кажа, мне адной?

— Не пляшчы, нічога такога яна не казала.

— То ўжо ж не адна!

— Ну але-ле... На дзве сям'і Рыгор жыве.

— Ішлі дзеўкі чарадою, нашлі Грышу з барадою. Селі на пясочку, дзеляць па кусочку. Каму волас, каму два...

— Ха-ха-ха!

— А хай ты згары... Ажно слёзы з вачэй пырскаюць.

— Маня тожа, кажу, дурная... Падала б скарэй на суд, то хоць бы аляменты ішлі.

— На месцы Рыгора, то я першая падала б. Усядно жызні з Маняю не будзе.

— Дзяўкі! А Маня і праўда як ненармальная стала: учарнела ўся, ходзіць, як цень. Гляджу — ідзе ўчора на кароўнік, укруцілася цёплаю хусткаю і мармыча нешта, мармыча. Павіталаса я, а яна быдта і не чула.

— І дзяцей не глядзіць... Як беспрытульныя бадзяюцца.

— Марфа меншую пасе, Таньку... А тыя самі.

— Бож-жа, твая воля... Як на звод, на пагібель ідзе!

— Гэтаму Рыгору трэба даваць-даваць, паслухаць, што дыхае — ды яшчэ даць.

— Сэрца, як у ваўкалака, валаснёю зарасло.

— Жарабец гэты... Яму толькі адно на вуме.

— Ой, не кажэце... У іх так хораша ўсё з Волькаю. Паштальёнка казала, такія пісьмы Вольцы слаў з Сочы, такія пісьмы! А Мані — ні адненькага...

— То што яна — мо чытала тыя пісьмы?

— А чэрці яе ведаюць. Ад яе ўсяго можна чакаць.

— За гэта судзіць могуць, калі нос у чужыя пісьмы будзе соўгаць...

— Чаго я хацела сказаць...

— Манька, не цягай ката за хвост! Сапсуеш, гадзіць абы-дзе будзе... Ты чуеш?! От, трасца тваёй... Хоць у лоб стрэль!

— А-а, цяперашнія дзеці... да трох не гавары. Хацела раз свайго лупцануць, злавіла за руку. А ён: «Мамачка, паглядзі на каляндар!» — «А чаго я там,— кажу,— не бачыла?» — «Сёння Дзень абароны дзяцей!» Падышла, гляджу, як каза: праўда! А ён, рыштанюга, шморг — уцёк з хаты.

— Чаго я хацела сказаць... Мо хто да Аўдоткі хадзеў? Яе ж Гардзей у бальніцу завёз.

— Але-ле... Як яна там? Кажуць, чуць не капутнула з-за тых ягад.

— Сорамна! Дзяўкі,— дальбог, сорамна! Давайце ў сераду з'ездзім, адведаем. У сераду пускаюць.

— Яна казала: калі ніхто не асмеліцца першы хаваць на новых могілках, то мяне пахавайце.

— От, чалавек... І пасля смерці хоча, каб дабро людзям зрабіць.

— А калі ў каго ўвесь род на старых? І бацькі там? То як на радаўніцу хадзіць — і туды, і сюды?

— Божа, твая воля... Ну як гэта хаваць на новых? Іх жа трэба асвяціць. Прывезці бацюшку са Слуцка і асвяціць! Гэта ж вам не конскія могілкі.

— Харошэ месца на новыя выбралі... Узгорачак... І абгароджана харашэ, плот пафарбавалі. Дзеньдобры, дзякуй яму, пастараўса.

— А мне дык усядно, дзе ляжаць. Гэ-э!

— Усядно, ды не ўсядно.

— Сыплюцца людзі, як мухі. Кажуць, цяпер рак больш косіць, чым якая хвароба.

— А во, Верын Валодзя, марак... Ад аблучэння.

— Але-ле, мілыя... Ніхто раней і не чуў такое хваробы,— прамянёвая...

— Што вы яго хаваеце раней часу? Яшчэ мо дасць бог...

— Ніхто не хавае. Але, кажуць, у яго ўся кроў белая зрабілася. Веру і Кандрата чаго, думаеце, урачы выпатрабавалі? Забіраць яго, бо спасу ніякага няма.

— Але-ле... Як быў яшчэ іх Валодзя пры памяці, піша: «Мамачка, міленькая... Я ўжо не ваш, не ваш».

— Дзякі! Патап тожа пры смерці... Я Галю сустрэла, яна да мацеры прыязджала... Ад аперацыі адказаўся, сваёю, кажа, смерцю памру...

— І Аміля ж Патапава зусім слабая, з хаты не выходзіць.

— Лётае Галя то ў больніцу, то сюды са Слуцка...

— Пакідалі бацькоў адных, дагледзець нават няма каму. Сенька іх свішча недзе на тры каўшы пуху!

— Оха-ха... Божа, твая воля... Са смерцю не пажартуеш, не скажаш, ат, я перадумаў, пачакай.

— А я дык не раз жартавала. Пішу-пішу зяцю, не даклічуся, а тады раз — целяграму: «Цешча пры смерці». Дык яго і пусцяць, прылятае. Паробіць мне ўсё, што трэба, а я яму і каўбасак, і сырчыкаў сушаных, і кампоту. Хе-хе...

— Старасць не радасць... От раве і раве ў галаве, як трактар. І прамыванне ў вушах доктар рабіў — не памагае.

— Дзякі! А слухайце, што мне Каменскі вычварыў... Вушы не чуюць, а ён у нос капель напісаў. Ну, ці бачылі такое?! Ай жа дурань... Дак я ка́пнула разоў два дый годзе сказала.

— А ў мяне дак сэрца гудзе. Дальбог! Знутры чую — гудзе-е-е...

— Чаго я хацела сказаць...

— Не, будучы Маняю, я ўсё-такі падала б на развод.

— Ну-у-у, пайшлі на трэці круг. Хіба няма пра што гаварыць? Клубніца вунь ансамбль змабілізоўвае, прыходзіла ўжэ да мяне. Ніяк не злепіць.

— Во, недапёка... Хай да Аляксаны адразу чэша. За трох спяе і паскача.

— Чаго я хацела... Ясь другі веласіпед купіў. Жаночы... Гляджу — валачэ з капярацыі.

— Удваіх будуць раскатваць!

— То хай бы ўжо «Жыгулю» якую.

— Але-ле, у яго мо і на дзве машыны стане ды яшчэ і выстанецца.

— Адкуль?! Што ў яго — залатое дно?

— А куды ім вельмі трэба ездзіць? З печы — за хлеў? То лепш ужэ на санечках. Загнуў палазы — гу-гу-у-у!

— Ха-га-га... Ох!

## Раздзел першы

I

Калі Ясь прывёў на двор жаночы, па-лебядзінаму выгнуты веласіпед (рама скрозь была ўверчана бураю, у масляныя плямы паперамі, а на зорачцы і ланцужку таvоту было хоць трэскаю аскрэбвай), Аляксана сустрэла Івана Іванавіча з парасяткам на руках. Твар яе ажно свяціўся ад замілаванай усмешкі. Люляла-пагушквала парася, усміхалася яму, як малому дзіцяці.

— Ты зірні, Яська, які рахманы. Япручок... Густаватае нават паліла малаком — есь! Лычык урабіў па самыя вочы, дык я памыла трохі...— Аляксана пацерла нейкаю анучкаю парасяці лыч.— Уй, мой халосанькі...— яна зрабіла губы трубачкай, нібы збіралася парася пацалаваць.— А свінка горшая, кволіцца нешта.

— Ага...— буркнуў Ясь. Не чакаў, што гэтак сустрэне яго падарунак. Прыставіў веласіпед да плота.

— То, што... мо, не дай бог, купіў? — толькі цяпер убачыла Аляксана гэты веласіпед.

— Ага. Балазе блізка было весці, не са Слуцка.

— Знарок для мяне?! — ажно спужалася яна.

— Ну! Паедзем у рыбу... Я на сваім, ты — на сваім.

— Ой, Ясічак... Ты, мабыць, звар'яцеў...— з гаркотным здзіўленнем пахітала Аляксана галавою.— Я ж нават ездзіць не ўмею на веласіпедзе! І вуды ніколі ў руках не дзяржала!

— Не велька навука. Дзень патраніруешся — і ўсё.

— Дак жа людзі засмяюць!

— Нічога, Аляксандра Піліпаўна. Па гэтым смеху будзем жывы. Я, можна сказаць...— Іван Іванавіч пачаў абдзіраць паперу з рамы.—...толькі і думаў пра гэта... Колькі гадоў! І адцурацца ад усяго з-за нейкіх па-

расят? Каб яны мне свет завязалі?! Падохнуць яны няхай... Шукай якіх ануч непатрэбных... Праціраць будзеш.

Штосьці ў тоне Івана Іванавіча яе затрывожыла, і яна не гаварыла больш нічога ўпоперак, борздзенька панесла парася ў хлеў. Ішла назад ужо з гатоўнасцю і згодай, гаварыла лагодна:

— Ага... Я зараз... Ото-то...

Яна раптам адчула тую мяжу, якую нельга было пераступаць у адносінах з Іванам Іванавічам, нават у гаворцы. Для яе ж чалавек стараецца, і шчыра. Што з таго, калі і не стасуецца гэта з яе планамі жыцця? Але ж відно, адразу відно, што не любіць Ясь, каб ім камандавалі, папіхалі. Не папіхач ён, не! Ёсць характар у Яся, ёсць! І калі па-добраму з ім, па згодзе, то ўсё і будзе добра, і ён не раз яшчэ паслухаецца яе... І зноў жа — хто яна яму ў хаце? Прыйшла на ўсё гатовае, не паспела нават пагрэцца. А за душою ж і капейчыны не прынесла. «Совесь трэба мець... Совесь!.. Парасяты, каб яны папруцянелі, падвялі». Прывёз Лёня парасят, двоечка, і трошачкі патрывалеў грунт пад нагамі, паджывілася яе смеласць. «Перадумаў Лёня... Пісьмо напісала, прыглашэнне — і прымчаў... Нават з парасятамі... І добрыя парасяты, не задохлікаў выбраў. Брыдка мо ад людзей стала, што гэтак матку выставіў з хаты. А я ж і не спадзявалася, што прыедзе... после той ляскатні, несусвеціцы... Чокаўся, лісавіўся: «Мамачка, мамачка... За ваша здароўечка!» Усё забыў ужэ... А я ж не забыла! Не-е...»

А ў Яся было другое ў галаве. «Бабы і ёсць бабы... Усе на адзін капыл. Ці гэта ў сяле толькі так? Сама сябе закоўвае ў ланцугі і радуецца, а потым жа і наракаць будзе: дыхнуць няма калі! Давай кароўку ёй... Ну — нá кароўку... Кароўка, канешна, трэба. А тут ужэ і парасяты вішчаць... А там, глядзі, і качкі, гусі завядуцца. Зноў закруціцца зачараванае кола, вавёрчына кола. І ў старасці ні адхлання, ні прадыху не будзе... Як скора ўсё забываецца: не нацешыцца з парасят. А што сынок з хаты выпер, і не ўспомніць...»

Яны церлі-выціралі веласіпед, дралі анучы на меншыя кавалкі і зноў церлі да сухой зіхоткай яркасці. А потым Іван Іванавіч прынёс з хлява заслончык, што карову даіць, разаслаў пад плотам мех. Сеў і стаў разбіраць над мехам колы. Трэба было зняць лішнюю

змазку з падшыпнікаў. Аляксана ж стаяла каля яго з гатоўнасцю, каб што падтрымаць, памагчы.

— Ясічак, каб цёмначы мне паездзіць... Напачатку толькі, каб не бачыў ніхто, як падаць буду. А тады ўжо і... Ой, а хіба ж ты выбегаеш за мною, каб падтрымаць? З такою задышкаю... Ты ж не хлопчык які...

— Нічога, нічога...

— А калі ты надумаў паехаць?

— Хоць і заўтра. Чаго цягнуць? Намерыў — удырыў.

— Я ж яшчэ не навучуся так скора! Ды трэба найці каго — так сабе не кінеш карову, парасят.

— Залыгаем карову і павядзём. Прыпнем там за хваіну... І падоім там — малачко свежае... А парасят... І парасят можна — у мяшок і за плечы.

— Вой, Ясь... Гэта ж не смех. Трэба штосьці прыдумаць.

— Настасе можна сказаць... Дар'ю папрасіць... Хай паглядзяць.

— Лепш мо Дар'ю. З ёю неяк прасцей. А Настаса ці Рыгор... такімі вачыма на мяне глядзяць... Мне аж зябка робіцца, усядно, як голая на марозе. І людзі... лупяцца на мяне кругом!

— На тое і вочы ў людзей. Нічога, хай лупяцца — шоры не навяжаш. Дый не аблезем мы ад іх вачэй.

— А мо і самі ўправімся? Выганю карову, дам парасятам — і паедзем. А пад абед ужэ і дома будзем...

— Да ты што? Гаворыш, абы каб... Што ж гэта за рыбалка? Гэта ж адна нерватропка, а не... От паедзем так: пасля абеду, каб палавіць ды яшчэ й юшку на вячэру зварыць. І каля агню пасядзець, і паначаваць там. А раніцаю наловім свежанькае — і дадому.

— То лепш мо ў суботу... А ў нядзелю вернемся. Га?

— Не, у выхадныя не гадзіцца. Народу ў выхадныя многа.

— А стражнік нас не заловіць, не дасць пытлю?

— Наадварот. Сам стражнік квіткі прадае. На лоўлю... А можна і ў праўленні браць.

— Ясічак, а як жа... Цэленькую ноч і сядзець каля агню? Як на начлезе?

— Ну! А захочаш — і паспіш. Я мяшок спальны вазьму. Недзе ў Настасы ёсць Федзеў мяшок. З вучнямі ў паходы хадзіў... Кажа: залезеш у яго — цёпла,

мякка. Як у ватнум адзіяле... I вудачкі яго недзе на вышках падаткнуты...

— А ты?

— Што я? I я... Як-небудзь... Накладу пад бок чаго, на бок. Ат, колькі тае ночы.

— О, не кажы... Халодныя ўжо ночы. I пабольшалі. Раніцаю раса, як боб. Схопіш радзікуліт ці прастрэл — папацацкаешся.

— Ну што ты ўсё мяне страшыш?

— Я не страшу, Ясічак... Ты ж не маленькі... Мне самой страшна: яшчэ якая змяя, ці жаба, ці што... залезе ў мяшок... Або на твар скокне... У мяне сэрца разарвецца, дальбог!

— А як я?

— Што — ты?

— У мяшок залезу...

— А хай цябе... Я насур'ёз, а ён смешачкі строіць... Ха-ха,— сама раптам не ўтрывала.— А што — мяшок хіба шырокі?

— Дзе там! Я і адзін не залезу... з маімі габарытамі...

Паглядзеліся вочы ў вочы і не адчулі ўжо таго напружання, што раптам пачало было ўзнікаць паміж імі. Былі ў вачах толькі гарэзнасць і захапленне адно адным.

2 Паехалі толькі праз два дні. Бо Аляксана ўпоцемку, не падключаючы фару, зырнулася ў слуп, і атрымалася такая васьмёрка, што сам Ясь не мог даць ніякай рады вобаду. Давялося несці кола ў майстэрню да Русака, а потым яшчэ і дома доўга рэгуляваў, падкручваючы то адну, то другую спіцу.

«Абнавіла пакупку, што й казаць»,— перажывала Аляксана. Добра, што хоць нос не расквасіла: стукнулася плячом, абадрала калена... I толькі потым, калі Ясь хваліў яе за поспехі, прызналася: садзілася калісь яна на веласіпед. Толькі даўно гэта было — аж да вайны. Хлопцы буслаўіцкія садзілі, спрабавалі нават ухаджваць за ёю — была не то ўдава, не то пакінька.

У мужчыне сядзіць хлапчук да глыбокай старасці. Як не ўтаймоўвае ён яго, а не-не дый вырвецца на сваволю...

Толькі вывелі ўзмежкам веласіпеды на гравейку,

каб не ехаць сялом, не свяціць лішне вачыма, як Іван Іванавіч пачаў «паказваць клас». То націскаў на ўсе педалі, крычаў — «Даганяй!»; то выпісваў вакол Аляксаны кругі, і сустрэчныя машыны нецярпліва піпікалі; то першы ўзбіраўся на горку, хоць і быў яго веласіпед вельмі загружаны, ляцеў адтуль насустрач: «Банза-а-ай!» І ніяк не верылася Аляксане, што гэта ён — высокі і грузны Іван Іванавіч. Ніяк не пасавалі гэтыя выбрыкі ні да яго камплекцыі, ні да самавітага і стрыманага характару. Але вішчала — не так ад страху, як ад жадання падыграць яму, скіроўвала свой самакат — каб жа не сутыкнуцца! — у кювет. І ахкала там, ускрыквала: «Здзяцінеў чалавек! Дальбог, здзяцінеў!» Пакуль выбіралася зноў на дарогу, паддавала-штурхалася нагою аб зямлю, каб сесці, Іван Іванавіч ужо цяжка браўся на горку, каб дагнаць яе. Чула — сапе, як загнаны, бачыла — счырванеў, што бурак-рэпка.

— Ну — заспакойся ўжо... Ну — людзі ж кругом, Ясічак! — і ўмаляла яго, і смяялася праз слёзы.

— Дзе? А-а, няма нікога...— але ўсё-такі азіраўся налева, у калгасны сад, дзе нікога не было, і направа — на калгасніцкія агароды, дзе сям-там тырчалі спіны бабуль.

— Не беражэш ты сябе... Дыхаеш, во... як мех кавальскі,— не пераставала ўшчуваць Аляксана. Сама яна круціла роўна і старанна, і хоць руль віхляў трохі ўкосікі, ехала добра. У Івана Іванавіча на багажніку быў вялікі скрутак пасцелі (акрамя спальнага мяшка яшчэ і дзве коўдры), на спіне — рэчавы мяшок з кішэнькамі на баках, да рамы быў прывязаны кароткі, але тоўсты пучок вудаў. У Аляксаны ж на багажніку была прытарочана толькі сумка з харчамі.

— Давай рамец на руль мне... Во сюды...— шкадавала Аляксана Яся.— На чорта, каб гнёў плечы.

— Я ж і сам магу... на руль... Але так зручней.

Нейкі час круцілі ўпобачкі, і Аляксана кідала кароткія позіркі на перадзаходняе сонца — усё яшчэ прыгравала яно, то на Яся, то на сцежку, што слалася пад пярэдняе кола. Зазначала сабе, як цяжка наступае на педалі Іван Іванавіч («Ач, а яшчэ падбрыкваў, як маладзы жарэбчык...»), як блішчыць ад поту яго нібы набраклы, з рубцамі жыл на лобе, твар. А звярнулі на «стаўбавую» дарогу, Ясь паехаў паперадзе. Аляксане не адстаць было лёгка, магла нават апярэдзіць, хай бы

ён даганяў, але шкадавала старога. Ехаць ззаду, па следзе, было цяжэй — не бачыш сцежкі далёка ўперад, горш віхляе веласіпед, яго так і цягне або ў каляіну, або на які камень. За Капуснікамі, забалочаным логам, пайшлі ўжо Хітруновы палеткі. Справа збягала па схілах пагоркаў жыта, злева — пшаніца. Ад збажыны дыхала густою і прэснаю гарачынёю, нібы з печы, суха шамацелі ўгнутыя долу каласы, чычыкалі з усіх бакоў, пырскалі з-пад веласіпедаў конікі. Часам з ветрам здалёк даносіла гул-рокат матораў: у пасевы заглыбіліся, ледзь чырванелі вярхі кабін, два камбайны.

— Бач... Хітрун і ёсць Хітрун... Ваўсю жне ўжо...— прагаварыў Іван Іванавіч.

— Пясочак у іх... На пуку, во там, сатлела ажно.

Потым была і палявая дарога, і грэбля, пясок; вялі веласіпеды ў руках. Палеткі збажыны засталіся ззаду, у вочы бліснула доўгая вадзяная гладзь. Справа на нешырокім лужку перад возерам убачылі два матацыклы. Тырчалі ў вадзе, пазалазілі мо метраў на дзесяць ад сухога два мужчыны і хлапчук. Пасярод возера ўзмахваў вудамі з гумавай лодкі яшчэ адзін мужчына ў саламяным капелюшы. На сярэдзіне грэблі, дзе быў шлюз-застаўка, сядзеў пад адхонам хлапчук — на іх нават не глянуў. Па той бок возера, на ўзлеску, куды яны і кіравалі, было пуста.

— Ну во... Бач, якая харашыня...— з цяжкасцю, стрымліваючы перарывісты дых, сказаў Іван Іванавіч.— А тады... як я ехаў да цябе... і машын тут было, і матацыклаў, і палаткі ў лесе.

Ясь не палажыў, а нібы пусціў, абярнуў веласіпед. Рамец з плячэй ссунуў-тэпнуў, ажно нешта металічнае бразнула ў ім. З крэктам прысеў бокам, апіраючыся на руку, а потым лёг на спіну і рукі раскінуў у бакі.

— Трэба было мо туды трошкі... Чысцей там і траўка лепшая,— паказала Аляксана пад першыя сасонкі. Каўзанула вачыма па яго твары — і кінула веласіпед, падбегла да Яся, укленчыла. Цярнула адной далоняй па лобе, другой у вачніцах, бо на заплюшчаных павеках, у зморшчынах па куточках вачэй было мокра, нібы Іван Іванавіч плакаў.

— Няха-а-ай... Няхай...— выдыхнуў Ясь, а вачэй не расплюшчваў. Пот бісерам выступіў у сівой шчэці на галаве, у мутных пацёках была шыя.— Няха-а-а-а...— выдыхнуў урэшце як не ўсё паветра Іван Іванавіч.

— Табе нядобра? Я ото-то вады... Я ото-то...— Аляксана затузала аборку на мяшку, расхіліла «куклу», выхапіла белы глячок-каністру.

— Няхай... зараз пройдзе... Галава цяжкая, і сэрца штосъ...— гаварыў Ясь, але не слухала яго Аляксана, палівала сабе на руку, мачыла-змывала яму твар, шыю, лінула трошкі ў губы.— Ты пашукай якога лому... Бо цёмначы не сунешся ў лес... І пад голаў што... мне... каб вышай...

— Гарадь няхай яны, тыя дровы! А божачка мой... Хай бы ж ты хоць шапкай акрыўся! Ты ж не хлопчык які! — гаварыла і прыпадымала адною рукою галаву Ясю, а другою падсоўвала выраную з пасцельнага скрутка коўдру.

— Ага... Згарадь... Абы былі...— нібы сам сабе мармытаў Іван Іванавіч.— Ты ідзі, ідзі... Дай мне мінютку ціхенька паляжаць. Даўленне, мабыць, скаканула.

Аляксана паволі выпрасталася, паціху пайшла — спачатку адступала задам, не зводзячы з яго вачэй, а потым — часценька азіраючыся. Нібы хацела кожную хвіліну быць напагатове і кінуцца, калі што, вобсас туды, дзе заставаўся ляжаць, як гара, гаспадар.

Яна забірала то ўправа, то ўлева, а ламачча амаль не было — так, смецце. Нават ніжнія сухія галіны на соснах і елках, як мага было дастаць, пааблomваны — начлежнікі выцерабілі начыста. І яна заглыблялася ўсё далей і далей. Урэшце пайшлі сосны з сухімі галінамі, і яна пачала ламаць іх, яны пэнкалі звонка, нібы хто страляў над вухам.

Калі праз колькі хвілін яна прыцягнула на ўзлесак абярэмак ламачын, Іван Іванавіч ужо стаяў наўколенцах каля рамца, разглядаў развязаныя бамбукавыя палкі з металічнымі трубкамі на канцах.

— Ну як? Мо лепш? — ша́мнула на дол галлё.

— Лепш, лепш...— кінуў Ясь коратка.— Няма калі ляжаць... Яшчэ разоў пяць па столькі назбірай і рыхтуйся кухмарыць.

— Вой, як ты мяне напужаў, Ясічак... Прападзі яна пропадам, і гэтая рыба, і ўсё! Мо лепш назад вярнуцца, га?

— Ну але! Столькі збіраліся, выбіраліся і... назад?! Што ты вочы трэш? Мо парушынка якая?

— Не-не... У цыганы падаліся на старасці...— Аляксана паглядзела і ўлева, і ўправа, ці не прыйшоў яшчэ

хто. Ей было не па сабе, яна бянтэжылася і выбачліва пасміхалася, гатовая перад некім, хто яшчэ вось-вось з'явіцца тут, прасіць прабачэння, апраўдвацца.

З лясной дарогі хвацка выскачыў грузавік, стаў на грэблі, але матора не заглушыў. З кабіны вытыркнуўся хлопец-шафёр, крутнуўся на падножцы і падчапіў у кузаве вядро, скокнуў на дол, скокнуў з грэблі да вады, чарпануў. Выдыбаў на грэблю, задраў капот, выліў у радыятар ваду. Грукнуў капот, бразнула кінутае ў кузаў вядро, ляпнулі дзверцы. Газануў з месца, ажно вырваў коламі веер пяску — памчаў недзе туды, за жытнёвыя палеткі, да камбайнаў.

— Ліхаматары... Рыштанюга...— правёў машыну позіркам Іван Іванавіч.— Не́ каб заліць з калодзежа, чыстай.

— Скоранька, мусіць, трэба.

— Цягні... усе прычындалы. Во сюды, у лес...— І першы пайшоў, згробшы вудачкі на руку, пад сосны. Бразнуў іх вобзем і не ўкленчыў каля іх, а сеў побач, паклаў рукі на прыўзнятыя калені, глядзеў удалячынь, на ваду. Аляксана нібы ўпершыню ўбачыла, якія пухнатыя і вялікія, як булкі-перапечкі, яго кісці.— Н-да-а-а...— сказаў сам сабе Ясь, выпраставў ногі.— Што мы маем на сённяшні дзень? — І ўзяўся састыкоўваць палкі-калены ў адно вудзільна. Зрабілася не адна вудачка, а тры доўгія паплецiны.— А маем тое, што прыехалі без чарвякоў. Вось так яно... І збіраліся тры дні!

— Ясічак, а неяк жа і на хлеб, на булку ловяць. Я чула...— Аляксана перавяла пад сосны веласіпеды, перанесла пляцак і сумку, скрутак з пасцеллю і не ведала, што далей рабіць.— Хлеб во тут, зверху,— падала яму сумку.

— Пастаў, пакладзі... Ты галоўнае, запасайся дрыўмі.

Ясь не ўзяў з сабою вудаў, пайшоў да вады напрамую. Але бераг быў не тупкі, і ён павярнуў да грэблі. Недзе там, пад зарослым насыпам знайшоў бляшанку з-пад кансерваў, вырваў з вады ўторкнутую рыбаком рагульку-кіёк, пайшоў за грэблю. Там быў нізкі лужок-даліна, там і цёк той ручаёк, які спарадзіў на гэты бок грэблі такое возера вады. Аляксана прынесла дроў і другі раз, і трэці, і толькі тады з-за грэблі паказалася галава Яся. Падняў абедзве рукі, у адной рагулька, у

другой бляшанка: «Ё-оо-о!!!» Крыкнуў радасна, па-дзіцячы. Перабраўся цераз грэблю, спусціўся да вады па гэты бок, уторкнуў рагульку на тое ж месца, прыхаваў бляшанку. Ішоў да Аляксаны па вудачкі і спяваў: «Мы рождены, чтоб сказку сделать былью, преодолеть пространство и просто-о-ор...» — І яна зарадавалася, гледзячы на яго: «Цешыцца, як дзіця... Дальбог, як дзіця!..»

Калі Ясь пабраў вудачкі, узяў складную сетку-кошык, сплеценую з дроту — на рыбу, і пайшоў пад бравурны марш — «Турум-турум, турум-ту-ту-ту-тум...» — падалася за ім і яна. Цікава ж! Няўжо і праўда якая дурная рыбіна трапіць на кручок? Некалі ў Буславічах, калі яшчэ іх рачулка была рачулкаю, а не канаваю без вады, лавілі рыбу таптухамі-сеткамі, кашамі, а дзе можна было ўлезці, то і комлямі. І рыбы было, рыбы!

— Вой, якая вада гадкая...— Аляксана прысела, зачэрпнула прыгаршчамі вады, прапусціла яе між пальцаў.— Тут каб і хацеў што апратаць, дык горш загнюсіш.

— Цвісці пачынае. Кожны год так... Скора рыба перастане брацца...— Ясь нажывіў чарвяка, закінуў адну вудачку, прыладкаваў на рагульку. Начапіў чарвяка і на другую — паклаў проста на ваду.— Ну што — мо і ты хочаш патрымаць? На, трэцяя яшчэ ёсць, меншая.

— Вой, мне гідка чарвяка ў рукі браць. І як яго нанізваць жывога. Бр-р...

— Я сам... зараз... Во — фіюць! — закінуў Ясь і трэцюю.— Дзяржы! І не гальмакуй, не тупачы. Рыба гэтага не любіць.

Сцішыліся, і неўзабаве чырвоны шпянёк першай вуды задрыжаў, заскакаў і коса нырнуў у ваду. Ясь так імпэтна рвануў вуду, што рыбка бліснула ў паветры і плёхнула, сарваўшыся з кручка, назад у ваду.

— Ах, чорт... Не шуцейнае дзела, аказваецца...— скрушліва ўздыхае Іван Іванавіч. Гладзіць калені, выцірае аб іх рукі, зноў чапляе чарвяка.

— Якая ж гэта была? Плотачка?

— Не! Карпік, невялікі карпік...

Зноў глядзяць абое на паплаўкі, і ў гэты час ■ трэскам выскоквае з лесу матацыкл. Аляксана інстынктыўна прысела, каб прыхавацца крыху за стромы берег грэблі. А Ясь, наадварот, выпрастаўся, павярнуўся

да матацыкліста — маладога і запыленага. На матацыклістава «Памагай бог!» кіўнуў, адказаў «Дзякуй!» і толькі тады, як сядок на сваім чырвоным ганчаку апынуўся ў канцы грэблі, дацяміў: гэта ж Лёня, Аляксанін сын! «Мо чаго і ён да камбайнераў?»

— Хто — мо знаёмы? — выпрасталася на ногі Аляксана.

— Яшчэ ж які... Лёня твой! — Ясь гулка свіснуў вудаю, закідваючы падалей кручок з грузілам.

— А божачка мой!..— яшчэ раз пужаецца Аляксана, пераступае з нагі на нагу — дзе падзець вудачку? Вудоўе нібы пякло ёй у рукі.— Хоць бы дзе за лес схаваліся... Возера ж і туды вунь, далёка забірае. Брыдка — не вытрываць! Жніво, а мы... О, божа!

— Нічога, нічога... Нікому да гэтага няма справы,— суцешваў Іван Іванавіч. Ён аднаго за другім зняў з вудачак па карпіку — невялікаму, з дзіцячую далонь. Папляваў на іх, укінуў у драцяную сетку. Дно сеткі апусціў крыху ў ваду, верх яе прывязаў да кусціка.

Вечарэла ўвачавідкі. Рыба бралася добра, нават Аляксана падчапіла аднаго, намнога большага за Ясевых, і нарабіла вераску. Пакуль Ясь вывалакваў яе здабычу, яна ўсплясквала далонямі і кідалася памагаць.

Захапіліся лоўляй і не пачулі, як падышоў да іх няголены дзядок у фуфайцы і вялізных, як не са свае нагі, ботах-гумоўках. Халявы іх былі адкасаныя і віслі каля каленяў складкамі.

— Кагым-м... Папрашу квіткі! — і, быццам адумаўшыся, дадаў: — Дзень добры...

— А? Ага... Добрага здароўя! — паварочваецца да яго Іван Іванавіч і пазнае стражніка Кузёмку.

Аляксана голасна, крыху спалохана бядуе:

— Не паспелі мы ў кантору... Сюды спяшаліся! Ды нам сказалі, што і тут можна.

Ясь прысядае, спакойна адмывае ад рыбнай слізі рукі, выцірае іх аб штаны і лезе ў кішэню пінжака.

— Во, калі ласка, рубель.

— Кгэ-кхм...— пракашліваецца Кузёмка. Памалу, як у роздуме, бярэ металічны рубель.— На месцы то можна... Але квіткі кончыліся.— Ён яшчэ не хавае рубель, круціць у пальцах, нібы збіраецца пацiскаць яго рэдкімі скрышанымі зубамі або папляваць на яго, як на першую рыбку.

— Ды бог з ім, з квітком. Другі раз! — бярэцца Ясь за вуду, правярае кручок, папраўляе чарвяка.

— На аднаго рубля можна дзвюма вудачкамі лавіць. А ў вас... у вас тры... Трэба яшчэ рубля,— дамагаецца большага вартаўнік.

— Дык у мяне ж не дзве, а адна! — абураецца Аляксана.— Ды якая гэта вуда! Ды якая з мяне рыбалля!

— Вуда як вуда. Леска, кручок...— стаіць на сваім дзядок.

— Ды я толькі забаўлялася! Во — зусім пайду...— Аляксана выцягла з вады сваю вудачку і... убачыла, што на кручку трапеча маленькі, з мезенец, шустрык-ёрш. На пяску ён падскоквае, шырока зяпае ротам, круціцца. Урабіўся ў пясок — не пазнаць, дзе галава, дзе хвост. Аляксана схавала рукі за спіну, баялася брацца, каб не накалоць на яго натапыраны хіб.

— Паўрубля — хопіць? — Іван Іванавіч нагінаецца, зрывае ярша з кручка, ледзь не вырываючы яму вантробы, шпурляе далёка ў ваду.

— Яно то канешна... Але ж палавіну квітка нельга адарваць... Не прадусмотрана такое,— замармытаў вартаўнік, але тон ужо быў згодлівы.— Яршы падышлі... Трэба вам мяняць месца. Ну, а як зноў пападзецца — не выкідвайце. Навар з іх добры, юшка смачнейшая... Сорная рыба... Ніхто не сее, сама расце, як і сорная расціцельнасць.

Забраў дзядок паўрубля, пра квіткі больш не ўспамінаў. Паклыпаў да хлапчукоў: аднекуль набралася іх цэлая чародка, збіліся каля шлюза-застаўкі, скакалі з разгону ў ваду. Выкрыкі, віск, боўтанне...

## 3

Першая здалася Аляксана.

— Вой, у мяне ўжо ў вачах рабаціць. І спіна анямела, рукі папруцянелі...

— Дак ты йдзі, йдзі... Патрашы, мый... Агонь раскладвай. Я зараз.

Аляксана забрала сетку з рыбаю і сваю вуду, пайшла да веласіпедаў. Іван Іванавіч яшчэ крыху пастаяў над вудачкамі, але і ў яго вачах ужо рабацела, трэба было добра прыглядвацца, каб убачыць паплавок.

Ішоў Ясь да ўзлеску паволі, нага за нагу, усміхаўся сам сабе. На душы былі злагада і ціхата, і хоць ачу-

жэлі стомленыя плечы, хоць зусім неўваротным здавалася цела, хоць падціскала-ныла сэрца — Ясь усміхаўся. Аляксана заўважыла гэтую прасветленасць на яго твары, але ўсё роўна пабурчала: «Раней трэба было... Нічога не відаць...» Ясь не зважаў на яе буркатню, не хацелася раскідвацца душэўнай ціхамірнасцю. Паволі схадзіў да грэблі, на глыбокае, перамыў выпатрашаную рыбу, вярнуўся і яшчэ прапаласкаў, хоць і скупа, таею вадою, што была ў пласцікавай каністры, рэшту вады заліў у каструлю — на юшку. Расклаў агонь — на старым вогнішчы, якім ужо не раз карысталіся рыбакі. Вось толькі рагулькі і перакладзінку-цурбалак не скарыстаў: каструля не кацялок, не падвесіш. Давялося пахадзіць яшчэ па грэблі, дзе было больш светла, пашукаць у пяску двух камянёў.

— Ты вары, а я прайдуся...— кінуў сціха Аляксане.

— Ой, ты ж толькі недалёка, бо я адна баюся!

— Ніхто цябе не ўхопіць, князёўна...

Яго цягнула схадзіць на той бок возера. Там пасталі, споўзшы з палеткаў, камбайны,— на лужку, але не каля самай вады. Нібы прыйшлі на вадапой і замерлі, задумаліся. Каля іх гаманілі купкаю камбайнеры, разыходзіліся да сваіх машын і зноў сыходзіліся. Контуры машын-волатаў увачавідкі растушоўваліся, і толькі вярхі іх на светлым жыце відаць былі выразна. Нязвыкла голасна, нібы людзі стаялі вось тут, зусім блізка, каціліся па вадзе людскія галасы. Адзін, хлапчукоўскі, галёкаў, як захляцоны: «Дзядзька Ко-оля! Дзядзька Коля, а вада яка-ая... шчолак! Сюды ідзіце, да грэблі, тут глыбо-ока!!!» Але купальшчыка ў вадзе ўжо не было відаць, чутны былі толькі заліхвацкае вухканне і цяжкі плюхат, ахканне. «А чаго, і я мог бы скупнуцца... спаласнуцца...» — прайшоў грэбляю Ясь і спыніўся. Каля камбайнаў успыхнуў цёмна-чырвоны факел. У яго дрыготкім святле то ўзнікалі людскія постаці, дзіўныя, нібы абгарэлыя галавешкі, кучна збіваліся каля хедэра правага камбайна, чуўся металічны ляскат, потым ішлі з агнём за камбайн, і тады факел зусім прападаў, то зноў выходзілі, і факел успыхваў ярчэй. Вось агонь прачарціў дугу, упаў, пырснуў іскрамі... Па ім затупалі ногі, яшчэ імгненне — і цемра, цямнейшая, чым была. «Гэта ж у іх мо якая няспраўнасць... Трэба было мо ім памагчы...» — падума-

лася Ясю, але факел больш не ўспыхваў. «Дзядзька Коля! Дзядзька Ко-оля!!!» — надрываўся з вады хлапчук. «Ідзё-ём!!» — выгукнуў у адказ нябачны дзядзька Коля, і Ясь канчаткова спыніўся. Справіліся, знача, і без яго, пачнуць купацца. Гамана на беразе памацнела, ужо і мужчынскія галасы загулі, заахкалі, жахаючыся вады.

Пастаяў Ясь, паслухаў і павярнуў назад.

«Што ж, кожнаму сваё... Кожнаму сваё...» — паўтараў і паўтараў гэта на розныя лады, пакуль плёўся. Ніхто нідзе яго помач не плануе, не бярэ ў разлік, ніхто на яго не спадзяецца, нібы і няма чалавека на свеце. «Адрабіў сваё — і бывай здаровы... Аджыў сваё — і аўфідарзэен...»

Каля кастра стаяў, апёршыся на кій, Кузёмка — пазнаў яго здалёк. Ён то поркаў кіем у агонь, падпраўляў нешта, то заварочваў галаву да Аляксаны, штосьці напаўголаса гаварыў.

— ...Адзін са Слуцка, з цукроўні — во-о такіх налізаў!..— паказваў далоняй каля локця другой рукі Кузёмка.— Калі яны, здаецца, і павырасталі — мо якія прышлыя, не тубальцы... Во там, каля вострава, з лодкі. А гэта што — сяголеткі, жамяра...

— То сядайце, пасядзеце каля нас... Ото юшка гатова будзе,— мо ўжо не першы раз запрасіла Аляксана.

Аднак дзед павярнуўся на Ясевы крокі, можа, чакаў яго запрашэння, і першы зычліва паздароўкаўся, нібы падышоў сёння першы раз і не ён гэтак настырна спаганяў грошы за лоўлю.

— Сядайце, сядайце... Пасёрбаем разам... От толькі ў нас лыжкі трэцяе няма,— сказаў і Ясь.

— Э, такое бяды... То я схаджу хлопцам пакажуся, што тут я... Гэта ж Хітрун сказаў, каб заадно і камбайнаў глядзеў. Ты, кажа, не вельмі там падверадзіўся, каля рыбы...

— Ну — не быў бы то Хітрун,— Іван Іванавіч прысеў каля агню, а дзед старанна зашоргаў ботамі, паспяшаўся на грэблю.

Трохі даўгавата пасядзелі, чакаючы дзеда (каструля прастывала, адстаўленая з агню ўбок). Ясь нарэзаў на газеце хлеба, сыра, агуркоў, паклаў памідораў і цярпліва, на друзалачкі ламаў дровы, падкладваў у агонь. Чыстае, бяздымнае полымя заварожвала, ад яго нельга было адарваць вачэй. Не хацелася варушыцца,

голасна гаварыць, нібы гэта было святатацтвам, знявагай для агню. Сухія яловыя лапкі з іголкамі ўспыхвалі ледзь не порахам, у неба імкліва ўзляталі, нібы ўвінчваліся, іскры. Ясь вёў за імі вачыма, аж покуль не раставалі ў цемрадзі. Гэта ж колькі гадоў не сядзеў ён во так каля агню? Ці не з самай вайны?

— Як там наша кароўка? Охо-хо...— уздыхнула Аляксана. Не дачакалася, каб Іван Іванавіч азваўся, і дадала: — І парасяткі.

Ясь зноў нічога не сказаў, толькі апусціў вочы з неба на зямлю, утаропіўся зноў у агонь. І раптам нібы прачнуўся:

— Ну што юшка — прастыла? Давай хіба, пакуль не адубела.

Была ў іх у рамцы і адна місачка, але яе не займалі, сёрбалі проста з каструлі. Калі ўжо трохі нахапаліся, ахкаючы ад перцу, прыйшоў Кузёмка.

— Людзі, падзераце сухім рот! — Ён тут жа дастаў з запазухі пачатую бутэльку «Агдаму», а з кішэні — лыжку-складанку (ад яе адпростваўся яшчэ відэлец). Укленчыў з крэктам каля газеты з харчамі, забедаваў: — У што ж вам наліць? Дурная галава, трэба было і шклянку сваю несці...

— Ды вы пеце, пеце! Мы не будзем...— сказалі ледзь не ў адзін голас Ясь і Аляксана.

— Як гэта — не будзем? А для чаго ж я стараўся? Вы думаеце, я такі, што з-за лыжкі баршчу сем міль хвашчу? Вы думаеце — мне той рубель трэба? Не-е, ашыбаецеся... Я не караед. Я вас толькі ўбачыў, а ўжо рангенам прасвяціў: не з тых вы, што з сабою прывозяць. А сабраліся ж юшку варыць, сабраліся начаваць!.. То павінен быў я паклапаціцца? Павінен... А чаму? А таму, што грэх пад юшку не ўзяць кроплю... А не возьмеш кроплю — і гаворкі не склеіш...

Па гаварлівасці бяссоннага стража можна было ўжо вызначыць: узяў ён кроплю і без юшкі.

Ясь аблізаў лыжку, падставіў:

— Налі.

Кузёмка ажно адхіснуўся: «Чалавеча!..»

— Лі, лі... Нельга мне больш...— паказаў Іван Іванавіч леваю рукою на сэрца.

Кузёмка ліў і хітаў галавою ад здзіўлення. Падставіла, смеючыся, лыжку і Аляксана.

— Колькі жыву, а такіх піўцоў не бачыў... Доўга

вы прасушчаствуеце — яшчэ сто гадоў, а то і больш! Ну, а я па-свойму...— Ён раскруціў бутэльку, перакуліў у рот. Пасля некалькіх вялікіх, зычных глыткоў пагля-дзеў бутэльку на агонь і адставіў убок. Аляксана тым часам наліла яму ў міску юшкі, падала ў рукі. Кузёмка адразу панёс яе да рота і... выпіў нагінкам усю жыж-ку, нават не перадыхнуўшы, крэкнуў: — Добрая юшка, добрая... Маладзец, гаспадыня... Хоць і жамяры нала-вілі, але смачная. Ну, а цяпер можна і папляваціца...

Кузёмка абсмоктваў костачкі, прысвістваў і пры-цмокваў праз шчарбіны ледзь не праз кожнае слова, пляваўся. Іван Іванавіч са здзіўленнем пачуў ад яго тое, пра што і сам думаў.

— От устроен свет... Як гэта раптам... прыходзіць мамент... што ты робішся нікому не патрэбным? Ба-ласт, і ўсё... Тфу! Хаця не! Э-э, не... Баласт таксама па-трэбны... Во, у караблях вазьмі... Знарок на дно баласт кладуць, каб не перакуліўся карабель... Тфу!.. Ага... Без устойлівай асновы — ні ў чым трываласці няма. Хіба можа дзе быць такі народ, каб з адных маладых складаўся? Тфу! Няма і не будзе... Страшна нават та-кое ўбачыць... Гэта ж нейкая ненармальнасць. Усядно як іх адарвалі, маладых, ад народа, кінулі адных у свет — ці выжывуць? А хіба ж можа адно лісце жыць, адно сёлетняе лісце без галінак, без усяго дрэва, без каранёў? Чым мацней дрэва, тым глыбейшыя карані... Ці наадварот... Мц... Мц... Э, ды гэта і дурню ясна... Хр-р... Во, костка залезла не туды.

— Дык вы ж не баласт. Вы — пры дзеле... Во, ажно дзве рабоце... І на рыбу, і на камбайны...— прагавары-ла Аляксана.

— А я і не кажу, што мяне Хітрун забывае ці крыў-дзіць... Хо, ды я і не паддамся, вы не глядзіце, што я такі нягеглы.

— Ну што вы, дзядзька, мы гэтага не думаем,— зноў сказала Аляксана, а Ясь толькі моўчкі слухаў.

— От ён мне, Хітрун, кажа: мала даходу возера дае. А я яму: а ты што возеру даеш? Падзічэла рыба... Першы год толькі падкормліваў, а цяпер... жывеце, як хочаце! Падзічэлі карпы... Худыя, паўгіналіся... Рыюц-ца ў гразі, як тыя дзікі ў лесе. А што тут у возеры вельміварыеш? Вада ж тут нядаўна, яшчэ няма ўся-го таго, што павінна быць у возеры, што ў ім заводзіц-ца... Але ведаеце — штогод малявак, як машкары! Пер-

шы год на пробу здаў Хітрун рыбу ў магазін. А яму — трах! — план давялі... Падлічыў даход-расход і ў хамут: не трэба ні возера, ні рыбы. Хацеў і ваду спусціць, да народ запрацівіўся. Як гэта! Хіба нядобра, калі ёсць вада, ёсць дзе і рыбку палавіць, адпачыць і пакупацца? Хак-хр-р... І мяне пакінуў у старажах. Для яго я — прамая страта... Дык ён мяне і нагружае па лініі камбайнаў.

— Усё-такі паважае пенсіянераў, шкадуе,— усміхнуўся Іван Іванавіч. А сам падумаў: «Вось табе і Хітрун... Не такі ён ужо і гаспадар, калі ад рыбы адмовіўся...»

— Шкадуе, яшчэ ж як...— скрывіўся неяк па-свойму дзед Кузёмка.— Каб не былі мы, пенсіянеры, пры дзеле, то і сена не даў бы. Сам так грازіў на сходзе... Запрагае, як можа... Ну, то давайце яшчэ накапаю мікстуры. Хе-хе!

Аляксана паднесла лыжку, а Ясь пакруціў галавою, і Кузёмка не наставаў, дапіў астатняе сам, пляшку адкінуў пад сасонку.

— Не, усё-такі Хітрун і ёсць Хітрун,— паклаў на газету лыжку Іван Іванавіч.— Наш Галоўнаўгаворваючы... Дзеньдобрага так завуць... Цацкаецца з пенсіянерамі, усё ўгаворвае іх, угаворвае — можа, папрацавалі б? Каторыя за горла яго бяруць: давай сена, давай гэта, давай тое... І дамагаюцца свайго, усё маюць — і сена, і да сена, свіней гадуюць, здаюць на бойню. А ў калгасе няма каму рабіць.

— Ну, пенсіянеры таксама не рабсіла. На іх далёка не заедзеш,— падала голас Аляксана. Яна паджыўляла агонь.

Ясь і Кузёмка адказалі ёй на гэта па-рознаму.

— Сіла! Чаму ж не сіла, калі чалавек сто на калгас.— Кузёмка папоркаў кіем, падгроб галаўні.

— Якая там сіла! Каб не было столькі тэхнікі — усё заброснела б. Што яны адны дакажуць, пенсіянеры? — Ясь уздыхнуў.

— Старперы... У вас не завуць іх так? — сказаў Кузёмка і п'яна захіхікаў.— Калі ветру няма, то яшчэ і да дзевак ходзяць. Хе-хе...— Кузёмка тут жа растлумачыў сваё слоўца, і ўсе зацякліся з рогату.

— Во, самі над сабою... І мы ж такія самыя,— сказала Аляксана і таксама ўздыхнула.

— Э-э, не... Табе яшчэ, маладзіца, далёка да гэта-

га. Ты яшчэ — кроў з малаком! — Кузёмка паспрабаваў брава зірнуць на Аляксану, цярнуў па-заліхвацку пад носам, нібы разгладжаў вусы, выпрастаў спіну.

— Дзеду! На пенсіі я ўжэ! І дакументы ёсць! — голасна, як глухому, сказала Аляксана.

— А што? Упаўне можа быць... Жанчынам скрозь прывілегія, жанчыны і жывуць даўжэй — у газетах пра гэта пішуць...— згадзіўся Кузёмка. І тут жа загарэўся, ускочыў на ногі.— А мы што-о?! Была і ў нас сілачка! — Ён выхапіў з агню свой кій, кончык яго ўгарэўся. Закруціў над галавою, ачэрчваючы яркі круг, чапляючы за галіны — сыпаліся іскры: — Эскадрон, шашкі нагала, у атаку — мАААр-рш!!!

Кій-«шабля» ў яго руках, здаецца, ажно спяваў, ён ужо і сам круціўся вакол сябе, за рукою, вочы яго ўспыхвалі ад агню, а ногі такі не слухаліся — і падгіналіся, і тупацелі то ўправа-ўправа, то ўлева-ўлева, хлебясталі халявы ботаў. Апусціў кій, апёрся на яго і яшчэ пахістаўся, цяжка пасоп.

— На рысях... на бальшыя дзяла хадзілі... Брацкую руку падавалі ў Заходняй... Конь які ў мяне быў — разумнік! Другі чалавек таго не дакажа... Каманда — «Лажы-ысь!!!». Дык я тут, а ён тут — брык! Вот як кавалерысты падалі — уміг...— Кузёмка паставіў далонькі каля грудзей, неяк узбрыкнуў, выкінуў узад ногі і ўпаў грудзьмі на далоні. Усхапіўся і зноў — гэп! Устаў і яшчэ раз — гэп! — Ніхто так... быстра не ўмее... як мы, кавалерысты... Як я!

**4** Не скора яшчэ пайшоў ад іх стары кавалерыст Кузьма Прусак. Але пайшоў, і не ў свой будан, а да камбайнаў. Памятаў пра даручэнне. І такая цішыня была над возерам, ва ўсім свеце, што яны чулі не толькі, як ён барабаніць там, грукае ў бляху, дастаючы з капніцеля салому, але і як шамаціць сама салома.

Апошні раз паджывілі агонь. Ясь навобмацак наламаў бярэмя яловых лапак, нассоўваў нагою пад сосна мі шыпулек, разраўнаваў іх, прыкрыў лапкамі, заслаў посцілкаю.

Палеглі дагары, галавамі ў глыб лесу, нагамі ўніз, да возера. Аляксана была ў мяшку, а ён так, на посцілцы, накрыўшыся коўдраю да грудзей. Ляжалі, шчыльна тулячыся адно да аднаго плечукамі.

— Харашы-ыня-я-я яка-а-я-я-я...— працягла ўдыхаў і выдыхаў Ясь.

— Ага-а... Добра тут, але дома лепш. А мо трэба было... Хаця не... Няхай...

— А што?

— Буславічы тут блізка... Мо тры кіламетры. Маглі б у Пятра паначаваць.

— Ну што ты хоць гаворыш! Я столькі гадоў сніў пра гэта, марыў... Каб так вось...

— Пагрымвае... Каб дождж не сабраўся.

— Мо Кузёмка ў камбайн палез... Пяткамі бабухае...

— Ха-ха... Смешны ён чалавек. І так любіць каля рыбакоў... пацерціся. Жвавенькі...

— Чалавек як чалавек. Пры дзеле...

Памаўчалі, паслухалі, як высока ў небе прагуў самалёт. Ішоў ён з усходу на іх, на лес. Пасачылі за ім, пакуль не зніклі за хваёвымі шатамі сігнальныя агні. Апусцілі вочы і ўбачылі, як далёка, за жытнёвымі палеткамі, за пагоркамі пасвечваюць фары машыны: слупы святла то слізгацяць у бакі, бо задзіраюцца ўгору. Але гулу машыны не было чуваць.

Раптам штосьці прасвістала-праспявала: хіў-хіў-хіў-хіў... На возеры каля вострава працягла плюхнула. Аляксана прыўзняла галаву, нібы чакала, што будзе далей.

— Качка запазнілася аднекуль... Спі...— сказаў ціха Ясь.

І зноў цішыня, ажно звінела ў вушах. Па тварах з лесу скочваліся павевы цёплага яшчэ, насычанага смалою духу. Лес астываў паволі, дыхаў усё спакайней і спакайней. Вось пачалі перамагаць ужо інакшыя павевы, з возера — прахалода і сырасць, пах рыбы і прывялага зелля, пах дыму... Раз здалося Ясю, што пачуў ён едкаваты пах астываючага жалеза, машыннага масла, саладжавы пах сырога зерня. Няйначай — ад камбайнаў...

Ледзь чутны пошум ссыпаўся з хваёвых вяршалін. За грэбляю на лугавіне раптам пачаў «драць суконку» драч.

— Га-а, з'явіўся... Прытупаў! — зарадаваўся Іван Іванавіч.— Даўно не чуваць было ў нашых мясцінах.

— Гэта мо ў Дуброве не было. А каля Буславіч не зводзіліся.

— Як му-зыка... Харашыня-я-я...— шаптаў Ясь.— Як падумаеш, што некалі ўсё гэта скончыцца... сэрца ледзянее...

— От знайшоў пра што!

— Ага, я — дурны... Ты спі, спі...

— Не магу воч звесці. Усё паплавок у вачах... як на хвальках... дрыжыць, танцуе...

— І ў мяне... Але трэба заснуць. Спі... На досвітку рыба добра ловіцца. Як сонца ўстае, іграе...

— Ага-а...

Яны гаварылі шэптам — усё цішэй і цішэй.

— От яшчэ б мора пабачыць... І можна паміраць... І горы. Вялікія горы, са снегам. Рыгор кажа, яны бела-карычнева-сінія зверху. Я толькі ў Карпатах быў... Як з фронтам ішоў, стаялі там паўмесяца... І пасля Сафінінай смерці ездзіў, па турысцкай... Але там не горы, а горкі, зарослыя лесам. Як дзеці ў кніжках малююць... А Рыгор сапраўдныя бачыў...

— Ага... І не дабыў часу, прыджгаў.

— Бо малахольны...

— Няма лепш, як целявізар. Дома сядзіш, а ўсё бачыш.

— Тое ды не тое... Не памацаеш, не панюхаеш.

Раптам на возеры, усё там недзе, каля вострава, хтосьці жаласліва заплакаў-застагнаў. Нібы дзіця малое.

Аляксана ўсхапілася, села.

— А божачка мой!..

— Спі... Чайка, мабыць...— Ясь ледзь не сілком уклаў яе на месца, чуючы пад рукою, як яна ўся дрыжыць.— Залазь глыбей...

І, здавалася, сцішыліся ўжо як належыць. Іван Іванавіч у млявай асалодзе нават задрамаў. Як нечакана ў вуха ўздыхнула-прастагнала Аляксана:

— Охо-о... Як там нашы парасяткі?

## Раздзел другі

### 1

Хвошча дождж...

Пачаў яшчэ зранку, на золку — з маланкамі і грымотамі. Думалі, што ўлупіць і перастане, міне навальніца, і зноў засвеціць сонца, падсушыць збажыну, і можна будзе пад абед вывесці ўсе камбайны.

А дождж не перастае. На ўсё неба ад краю да краю ні яснінкі, ні прасветлінкі, і дождж то сцёбае, што пугамі, то сыпле густа і спорна, то заўзята і весела скача, то цэдзіць, цярусіць і курыцца — нудна, як на грыбы. Ні супынку, ні адхлання...

У агульным пакоі праўлення, дзе рахункаводы і бухгалтары, цішэй, чым калі. Няма наведвальнікаў. У некага з дзяўчат дзень нараджэння, і яны нагатавалі чаю, п'юць з тортам — купілі ў буфеце сталоўкі. Двух зайцоў злавілі: быццам і на рабоце, але і дзень нараджэння не забыты.

У старшынёвым кабінеце больш людна і шумна, крыху нервова. Тут адчынена акно, каля яго ў паўабарота сядзяць Сташэвіч, сакратар парткома, і яго намеснік па кантролі Сердзіч. Кураць і пускаюць дым у акно, хоць яго парывамі паветра зноў заганяе ў пакой (Дзеньдобры не курыць і не любіць тытунёвага дыму). Каля іх стаяць Будай — старшыня мясцкома, Русак — старшыня таварыскага суда, Лявошка. За сваім сталом адкінуўся ў крэсле, глядзіць нібыта ў столь, а вочы прыплюснутыя, Дзеньдобры. Ён часам хмурыць бровы, мыляе губамі — думае чалавек. Усе чакаюць Рыгора Сухавея, якога павінен прывесці брыгадзір Каляда, засядацель таварыскага суда, чакаюць Маню Сухавей, па якую пайшла Жухалава. Рашылі, што так будзе лепш, больш важна і аўтарытэтна, больш уважліва да Сухавеяў: не хацелі проста абысціся дзяжурным пасыльным.

— Вецер пабольшаў... Мо разгоніць...— абазваўся ў цішыні Будай.

— Хай бы... Яшчэ і дня не лье, а ўжо збрыдзеў,— сказаў Русак.

— Каля Кавалёвых лужа, хоць на сажонках плыві... А за Уманскімі, як з выгану паварочваць, раўчук у калена вырвала,— Сердзіч пацмокаў цыгарэту і пстрыкнуў яе за акно на дождж.

— А мае старыя... Цесць з маладою цешчаю... У рыбу ездзілі напач гледзячы. Прыво-о-одзяць раніцаю па гразі веласіпеды... Ха-ха, вымаклі, што пляхі. Ледзьве прыпаўзлі...— Лявошка са скрыпам пераступіў пратэзам, але не сеў.

— І што — накілзалі трохі? — пацікавіўся Сердзіч.

— Не пытаў. Надзьмутыя абое — мо пацапаліся ў дарозе.

— Сякі-такі дажджышка — калгасніку аддышка,— сказаў Будай.

— Не гаварылі — Хітрун многа зжаў? — пацікавіўся і Дзеньдобры.

— Кажу: нічога не пытаў, тыя адразу пахаваліся ў хату.

— Дык мы і так ведаем, Іван Кузьміч. На ўсю катушку ціснуць, тры дні ўжо,— адказаў Зянон Сташэвіч.— Нам не зраўняцца... У яго пясчаныя глебы, а ў нас суглінкі.

«Ён ужо адсеецца, рапартуе, а ў нас на поле не ўлезці...» — «От, скажы ты... Ĭ недалёка ж, нейкія пяць кіламетраў».— «Сказана: лёгкая почва і цяжкая почва...» Гаману перабівае тэлефонны званок, Дзеньдобры лянотна цягнецца па трубку: «Алё-ё?» Па рэпліках старшыні, па названых лічбах зжатага здагадваюцца, што звоняць з раёна, з упраўлення сельскай гаспадаркі. І тут жа каментарый: «Не цер-піцца, ужо вест-кі збі-ра-юць...» — «Хай бы надвор'е добрае забяспечылі, калі такія спраўныя...» — «Мо заўтра ў раёнцы зводка будзе... Цікава, колькі ў каго?» — «У сяле шахматыстам трэба быць... Галава іншы раз трашчыць: паспрабуй прадумай усё на некалькі хадоў уперад! З самой прыродаю гуляеш, на кожны варыянт — свае контрхады...»

Потым усе памаўчалі, быццам вычарпалі і гэтую тэму. Таміліся ад невядомасці: ці ўдасца прывесці Рыгора і Маню? Гэта Зянон Сташэвіч настояў, каб сканыстаць непагадзь, разгледзець справу Сухавеяў. Папера Маніна, заява, вымагала рэагавання, разгляду. А паколькі не маглі вызначыць, хто (партком, мясцком? таварыскі суд? праўленне калгаса?) павінен разбірацца ў справе, даць нейкай рады, вырашылі аб'яднаць намаганні. Сабралі прадстаўнікоў ад усіх, будзе нешта накшталт прымірэнчай камісіі...

— Ну што — не відаць? — Русак нахіляецца да акна паміж Сташэвічам і Сердзічам, высоўвае на двор галаву.— Сыпле і сыпле...— Паглядзеў налева, пад сталоўку, паглядзеў направа.— Здаецца, Жухалава Маню вядзе...— Паспешліва выпростваецца, адыходзіць.

І Сташэвіч усхопваецца, нібы не дае веры, высоўваецца ў акно. А ў пакоі ўжо заварушыліся, захадзілі.

— От гэта кепска... Лепш было б пачаць з Рыгора,— паспешліва адыходзіць ад акна да стала Сташэ-

віч, збірае нейкія паперы.— Значыць, так, таварышы... Агульная наша ўстаноўка — прымірыць. Хто б і што з іх ні гаварыў, хто б з нас што ні думаў сам сабе, а дзейнічаць мы павінны заадно, біць у адно — каб памірыліся, каб зноў сышліся. Так? — абвёў усіх быстрым позіркам, затрымаўся крыху на Дзеньдобрым. Той сашчапіў на патыліцы пальцы, зноў глядзеў у столь.— Думаю, што так, інакшага выхаду я не бачу,— вырашыў за ўсіх Сташэвіч.

— Да-а-а... Чэрці б іх...— Русак голасна кракатнуў і ўздыхнуў.— Як гэта можна за некага рашаць? Ды яшчэ калі будзеш думаць не тое, што... трэба... А мо яны самі другое ўжо надумалі?

— Няма альтэрнацівы прымірэнню... Як і разрадцы ў міжнародных адносінах,— націскаў Сташэвіч.

— Кепска, што не Рыгор першы прыйшоў,— сказаў Дзеньдобры.— Але можна і з Мані пачаць... Будзем так, таварышы: спакойна, ветліва, зычліва. Нават сардэчна... Угаворваць не раскідваць сям'ю. Але спачатку — што яны самі думаюць пра сітуацыю, якое выйсце шукаюць. Часу прайшло нямала, можа, у іх ужо заява ў нарсудзе ляжыць на развод...

— Нарсуд таксама зразу не разводзіць. Разбіраецца, спрабуе спярша прымірыць,— тон у Русака быў аўтарытэтны. Як старшыня таварысцкага суда ён ведае пра гэта больш за ўсіх.

— Ціх-х-х!.. На ганку ўжо! — Лявошка дакульгаў да крэслаў каля глухой сцяны, сеў на першае, якое было бліжэй да старшынёвага стала. Не сеў — абрушыўся, паспешліва абапёрся аберуч на палку, але часта і неспакойліва пастукваў ёю. Ён мо хваляваўся больш за ўсіх: не абы-каго будуць разбіраць — усё-такі сваячка.

Сердзіч застаўся быў каля акна, але, калі Сташэвіч, Русак і Будай пабралі крэслы ад прыстаўнога стала і прымайстраваліся па абодва бакі ад Дзеньдобрага, за старшынёвым сталом, таксама пасунуўся бліжэй да іх. Каля тарца прыстаўнога стала пакінулі толькі адно крэсла. Калі на яго пасадзіць чалавека, то ён апынецца тварам да ўсіх, вочы ў вочы.

— А мо не трэба было так рассаджвацца... афіцыйна? Мо лепш было б вось... так вось... Сяброўскім кругам...— пакруціў рукою над сталом Дзеньдобры.

Яму ніхто не паспеў нічога адказаць. Расчыніліся

дзверы, з абвялым, спушчаным парасонам, з якога цурком лілася вада, сунулася было Жухалава — і тут жа махнулася назад. Пачулі шчаўчок, потым стук ручкі парасона аб падлогу — разапяла, мабыць, паставіла ачахнуць. Зноў зайшла, шчыльна прычыніла за сабою дзверы.

— Ой, дайце, хлопцы, закурыць...— гучным, з прыціскам шэптам папрасіла яна і грузна ступіла да старшынёвага стала. Сташэвіч хуценька працягнуў ёй карабок, пстрыкнуў запальнічкай, запытальна паглядзеў у вочы: «Ну?» Жухалава з прыпаленай цыгарэтай ступіла да акна (усе вялі за ёю позіркамі), працягла выдыхнула ў акно дым, інтрыгуюча паглядзела на сакратара парткома.— А Рыгора няма яшчэ? Я Маню пасадзіла пакуль што... адпачыць... Правільна?

— Супрацiўлялася? — не ўтрываў Сташэвіч.

— Не тое слова... То нібы мёртвая, то выбух істэрыі: «Вы ўсё ведаеце! Усё ў заяве напісана! Рыгора і разбірайце... А мяне чаго?» У два галасы, і Марфа памагала. Чуць мае перапонкі не палопалі... Я ўжо і сёе, і тое, і так, і сяк... Ох-хо!

— Трэба зваць, а то ўцячэ,— сказаў Будай.

— Таццяна Ёсіпаўна, запрашайце...— кіўнуў раздумліва, нібы сам сабе, Дзеньдобры.

Жухалава яшчэ раз наблізілася да акна, выдыхнула магутны струмень дыму і раптам нагнулася, зазірнула за падаконнік.

— А ты чаго тут... ціснешся? Марш на сваё рабочае месца! — павярнула галаву ў пакой: — Касірка... Цікаўная вельмі...— І зноў у акно: — Давай, давай! Гэта вам не канцэрт мастацкай самадзейнасці! — цмокнула коратка два разы, таксама кінула цыгарэту на дождж. Злавіла і прычыніла створкі, пайшла да дзвярэй.— Маня, дзе ты тут? Хадзі...

«Маня, дзе ты тут? Дзе ты тут?»

«Дзе ты?..»

«Дзе-е-е?!»

Дзе, на якім свеце? На зямлі ці пад зямлёю?

Хутчэй пад зямлёю... Як збалела ўсё ў грудзях, як сцiнулася-зацялося — быццам пад гнётам-прэсам. І каб, здаецца, хацела зараз закрычаць, то і духу не сабрала б, і не крык вырваўся б згрудзей, а кволы сіп.

Галава бы не свая: як жыць? Што рабіць? А нашто жыць? Нашто рабіць хоць што-небудзь? Няўжо яна жыве яшчэ? Няўжо і дзеці ў яе былі... ці ёсць? А нашто... гэтыя дзеці? А нашто яна? Нашто ўсё? Каму яны трэба? Каму, нашто? Чаго яе прывялі сюды? Куды яе клічуць?

«...дзе ты тут? Ты — дзе? Ты — тут?»

«Тут — ты? І альбо гэта ты?! Хіба ж гэта ты!»

«Чаго ўсе вылупваюць на мяне вочы? Чаму так многа вачэй? Вочы, вочы, усюды вочы!.. Вочы!.. Вочы бегаюць, вочы скачуць... Вочы падміргваюць... Во — зубы скаляць... з мяне... Мала хусткі закрыцца... Больш хустак трэба было ўзяць...Вялікую хустку... Як коўдру...»

— Маня, ты што — заснула тут? Прыгрэлася...— хтосьці паварушвае яе за плячо.

«Чаго ён тузае? Чаго яна тузае? А-а-а, заатэхніца... Кароў, мабыць, трэба даіць... А я заспала... Чаго гэта я заспала?»

— Хадзі, кажу... Людзі чакаюць... Пагаварыць трэба.

Куды ж гэта яшчэ? «А-а, я ў канторы...»

**2** Каляда як ступіў цераз парог Апанасавай хаты, пастаяў, нібы ў роздуме-розглядзе: куды гэта трапіў? Потым даў «Дзеньдобры!», потым паволі адкінуў на плечы капюшон-башлык. Шырачэзную па нізе ваенную плашч-накідку, учарнелую і ўлубянелую ад дажджу, не знімаў. Сказаў:

— От лье, ай-яй-яй... Як з ланцуга сарваўся.

— Праходзьце, садзецеся... І мо плашч знімайце,— запрасіла Волька з мыцельніка. Толькі што кончылі абедаць, і яна мыла пасуду. А Рыгор яшчэ быў за сталом, сядзеў спінаю да дзвярэй з брытвай у руках. Павярнуўся да брыгадзіра, кіўнуў, зноў уталопіўся ў люстэрка. Яно было ўстаўлена, каб не падала, у прачыненую шыфляду стала, і Рыгор выглядаў, дзе гэта што падгаліць, падскрэбці, не чапаючы барады.

— Хто гэта прыйшоў... Ты, Кастусь? — пачаў уставаць і ўрэшце ўстаў, звесіў ногі з драўлянага самаробнага ложка Апанас.— Як гэта ты заблудзіў, кажы...

— От ішоў, ішоў і прыйшоў... Спецыяльна.

— Кажаш, не перастае?

— Не думае нават. Гатова раздажджыцца на некалькі дзён... А вы як — нешта прыхварэлі, чуў?

— Нядужыцца, браток... Саусім... То ўсё сэрца пякло, а гэта так слабасць. Ногі пухнуць...

— Я яму казала, давай завязу ў бальніцу, паляжыш, падлечаць трохі. Дык уга...— паскардзілася Волька.

— Пара ўжэ, пара збірацца...

— Не кажэце так, дзядзька Апанас. Яшчэ трэба жыць ды жыць, унукаў прычакаць, пажаніць...

— Ты б ляжаў, тата... Чаго ты ўспароўся?

— Калі ж і лежня гэтая... Бокі баляць... Костусь, ты мне скажы — будуць атаву дзяліць сёлета?

— Будуць. Хай жа нарасце... А першы ўкос няважны. Некаторыя лавы на балоце — адно шчаўе. Даўно трэба было перасяваць траву...

— Аг-га... Значыць, будуць. Гэта ж мы зноў з каровою надумалі... на зіму... А без сена — як?

— Тата, ляжы... Не забівай сабе галаву — будзе карова, будзе і сена,— Волька скончыла парадкаваць пасуду, паналівала ў чыгункі вады, панасіла на прыпечак, зноў пазастаўляла ў печ вілкамі.

— Ты хіба канчай, Грыша, з барадой, ды пойдзем... Я ж спецыяльна па цябе пасланы. Там ужо Дзеньдобры цябе чакае, Сташэвіч... І Русак, і Будай...

— Чаго гэта я ім... спатрэбіўся? — Рыгор ужо знайшоў, дзе пагаліць: скроб шыю пад барадою, як мага выстаўляючы яе ўперад, і ад гэтага яго выгавар быў нячысты, гугнява-заікасты.

— Не ведаеш чаго? Як Сташэвіч кажа — трэба ж справу закрыць.

— Чхаць я на яго хацеў! Панялі? — раптам ускіпеў Рыгор.— Гэтак і перадайце!

Апанас толькі галавою пакруціў, нагнуўся, прысунуў бліжэй да ног боты, схіліўся ўбок, падцяг да сябе ватоўку. Стаў абувацца і апранацца.

— Грыша... Грыша...— пайшла да яго Волька, выціраючы фартухом рукі.— Ты астынь... Ты спакойна падумай і скажы...

— Я-а ніко-ому не дазво-олю... умешвацца!.. у маю сямейную жызнь! — з прыціскам прагаварыў Рыгор. І, мабыць, парэзаўся, бо адарваў з пазногаць газеты, прыляпіў да шыі.

— Грышачка, ніхто ж не ўмешваецца...— Волька

паклала яму рукі на плечы, нібы хацела абняць. І Рыгор тузануў плечуком, каб скінуць руку.— Людзі ж сабраліся... Ну — пагавораць, ну то што? Трэба і гэта перажыць, перацярпець.— Волька не прымала рукі, а супакойліва і ласкава пагладжвала яго плечы.

— Пайду хіба... Падыхаю...— Апанас астояўся на нагах і квола паказаў Калядзе на выхад, і той адразу павярнуўся выходзіць.— Я на парозе трошкі... у сенцах пасяджу,— Апанас сказаў гэта Вольцы. Выйшаў і ціха зачыніў за сабою дзверы.

Каляда і Апанас апусціліся на парозе сянец, ледзьве ўмесціліся ўдвух. Глядзелі, як робяцца пухіры на лужынах, і праводзілі іх вачыма — сплываюць з вадою, з ручайкáмі.

Маўчалі. Каляда курыў і цыркаў слінаю — далёка ад сябе, цаляў у пухір.

— Няхай... Няхай пагавораць...— загаварыў Апанас ціха, нібы сам сабе.— Няхай рахслёбваюцца, калі намудрылі...

— Яно то так... Канечна... Але калі... Вядома, не тое, што... Аднак... Усё не гэтак...— Каляда зусім заблытаўся, закашляўся і змоўк.

— Ты ўгаворваеш, а ты ведаеш, чаго яны хочуць? — гаварыў тым часам Рыгор у хаце.— Зноў звесці з Маняю! От чаго!

— Грышачка, я цябе люблю... І ніхто мне больш не трэба... Я цябе ў любы час прыму. Але не бяры грэх на душу!

— Які грэх? Пра што ты гаворыш? Ці мала людзей разыходзяцца?

— Нямала... Але яны ўжо мечаныя. За імі бяда па пятах ідзе...

— Ты стала, як баптыстка... То гаворыш — перацярпець, то ўвогуле прапаведуеш...

— У сяле вунь гавораць... Маня вешацца хацела. Маці вяроўку адабрала...

— Ці мала што людзі плешчуць.

— Грышачка, праўда!.. Як пачула я — сама ледзь не ўтрупела... І не хацела табе гаварыць, а зараз скажу: не будзе нам шчасця. Не дай бог чаго — над намі праклянцце навісне.

— Ты мяне гоніш? — Рыгор кінуў брытву, не сцёр мыла-пены з шыі, павярнуўся да яе, перакінуў ногі цераз заслон.

— Я цябе не ганю. Я кахаю цябе, Рыгор...

— Не, ты скажы — гоніш? Тады я скарэй да пятлі дабяруся, чым Маня!..

— Грышачка, родненькі...— бухнула Волька на калені.— Горачка маё!..— утулілася тварам яму ў каленні.— Не карай мяне за тое, што я табе скажу... Не бяры блізка да сэрца... Не трэба табе чужацца з дзецьмі. Яны ж — твае! Твая крывінка! З Сашкам вунь пасварыўся, збег Сашка з дому...

— Нічога ён не збег. У вучылішча механізацыі пайшоў.

— Усядно не вытрымаў такой жыткі... А яму б школу трэба было канчаць, сярэднюю...

— Ім і ў вучылішчы атэстат за сярэднюю школу дадуць. Двух зайцоў заб'е.

— Ну, а тыя трое? Іх жа глядзець трэба, яны ж як беспрытульныя. Аленку бачыла ў магазіне — нямытая, нечасаная... Як ваўчанётка на мяне глядзіць...

— Дзіва што глядзіць! Столькі наслухалася дома пра цябе... Пра нас...

— А я буду твая, Грышачка!.. Заўсёды твая!.. Мы тайком будзем страчацца...

— Тайком?! Ну — не! Я цябе нікому не аддам... Ды якая можа быць тайна? Я столькі дзён адкрыта жыву ў цябе, усе ведаюць!

— Нічога, Грыша... Калі даруе Маня, калі прыме — ідзі да яе. Да дзяцей ідзі!..

Застагнаў Рыгор — як паранены, загнаны ў куток звер. Рыўком устаў, і Волька хіснулася ўбок, даючы дарогу. Але не ўставала з каленяў, упала тварам на рукі, на заслон — заплакала наўзрыд і горна, як дзіця. А Рыгор вялікі крокамі мераў хату, сціскаў кулакі так, што кіпці ўпіваліся ў далоні ледзь не да крыві. Як другі раз дайшоў да тарцовай сцяны з рамкамі фотаздымкаў, нагнуўся і зусім не для смеху забухаў у яе лобам — штораз мацней і мацней. І зноў прастагнаў, ціснучы далонямі на вушы. Нібы не хацеў нічога і нікога слухаць ці надумаў расчавіць галаву.

Ой знаю, знаю, каго кахаю,
Толькі не знаю, з кім жыці маю...
Ой знаю, знаю, з кім я люблюся,
Толькі не знаю, з кім ажанюся...

А Волька маўчала, Волька паволі, як уся збітая і надломленая, уставала з каленяў. І ўстала, села на за-

слон, гэтак жа паволі выцерла твар фартухом, упусціла бяссільна рукі на прыпол. А слёзы ўсё казыталі шчокі, у вочы пякло, нібы ад хрэну.

Рыгор урэшце таўхануў дзверы, ледзь не сарваў іх з завесаў.

— Грыша...— паклікала ціха і руку працягнула, але той нічога не чуў. Ды яна і сама не ведала, што яшчэ магла сказаць.

— Хадзем! — даляцеў з сянец яго і рашучы, і разгублены голас.

3 Крочыў ён шырока, напорыста, пырскі разляталіся з-пад ног. Не заўважаў іх Рыгор, як і таго, што не перастае, цярусіць дождж, што галава яго непакрытая. Каляда браў-браў за ім, а потым узмаліўся: «Куды ты, як на пажар?.. Спазніўся, то не спяшайся...» Рыгор мо не чуў брыгадзіравай мальбы, ён увесь быў думкамі ўперадзе, быў у канторы. У галаве ў таўхатні гарадзіліся фразы і ўрыўкі фраз, ён даваў адпор, абрушваў іх, як молаты, на галовы «засядацеляў», тых, што ў канторы, каму няма чаго рабіць. «Гэта ім разбірацца ў чужым сямейным жыцці? Што яны бачылі, што перажылі?! Сукнаеды чортавыя...»

Да таго, што чакала яго ў старшыні, ён зрыхтаваў ужо сябе, гатовы быў рашуча ўступіць у стычку, але ніяк не быў гатовы да таго, што ўбачыў у бухгалтэрыі. Яшчэ ступаў цераз парог гэтага вялікага пакоя-залы, дзе каленваламі мудрагеліста стаялі сталы (ніколі не мог разабрацца, хто з учотчыц ці рахункаводаў за якім сядзіць і за што адказвае), як пачуў зацяты, ажно захліпаецца малое, дзіцячы кашаль і ўбачыў: на крэслах, вынесеных наперад сталоў, сядзяць яго дзеці Ваня і Алена; Ваня босы, ногі ў гразі, Аленка ў чаравічках, якія вось-вось «папросяць кашы». На іх скіраваны, стаіць паблізу, уключаны рэфлектар-печка, змяіцца, паўзе між сталоў да сцяны чорны провад. Зырка чырванее спіраль, ад дзяцей, іх адзення валіць пара.

Таня, меншая, у цешчы на каленях, каля стала сакратаркі Галі. Малая ў зімовым палітцы і хустачцы, трымае аберуч кавалак торта. Яна санліва на ўвесь рот хаўкае. Крошкі торта і белы крэм на губах і чырвоных, запаленых ад дыятэзу шчоках. Гэта яна кашля-

ла. Яшчэ і язычка не ўклала, а ўжо зноў, вылупваючы вочкі, уцягвала ў сябе паветра і — кох, кох, кох, кох, з рота ляцяць крошкі, захліпаецца кашлем — макротай.

— Эх, зяблікі...— Каляда ўздыхае ззаду, пасоўвае Рыгора ўперад і крыху ў бок ад парога, каб і самому зайсці. Учотчыцы, якія сядзелі кожная за сваім сталом і нібыта старанна пісалі, цяпер хто ўстаў, хто павярнуў да Рыгора галаву — што будзе?

А Рыгору шалёнасць ужо затуманіла вочы, на міг усё злое, што качарэжыла яго жыццё, увасобілася ў Марфе. Рынуўся да яе, і яна з крыкам выставіла перад сабою, каб абараніцца, Таньку, потым гэпнула яе поп-кай на стол і бегма ў закутак, за старшынёў кабінет, дзе была ка́са.

— Во, людцы! Во, глядзіце... Звер калахматы! — выкрыквала, выстаўляючы нос з-за вугла.— Во як мяне забівае! А мне не ве-е-ерацъ! Не верацъ!

— Та-ата! — заплакала скрозь кашаль Таня, падала яму ручкі. І нібы перагарадзіла гэтым дарогу, спыніла. Рыгор падняў яе, паставіў, цярнуў далонямі па шчоках, пацалаваў у адну, у другую, прытуліў губы да лобіка. Няма, здаецца, тэмпературы, а чаму такі дзікі, удушлівы кашаль?

— Я зараз, Танечка... Я зараз...— падцягнуў ёй спушчаныя да костачак панчошкі.— Ото-то з дзядзямі пагавару, з камедзіянтамі гэтымі... Ты пабудзь тут,— пасадзіў яе беражліва на стол, нібы шкляную. Ступіў да старшынёвых дзвярэй.

— Ідзі-ідзі, гіцаль! Даўно чакаюць!..— крычала, яшчэ не вылазячы з закутка, Марфа. А потым ступіла адтуль крок, ступіла другі: — Адальюцца табе нашы слёзы! Адальюцца!.. Людцы, вы ўсё бачылі... Замест «спасі бог» за тое, што дзяцей гляджу, задушыць хацеў... Я душуся, хлынаюся... А ён... А ён!..— выкрыквала яшчэ доўга, нават калі і зачыніліся дзверы кабінета за ім і за Калядой.

Рыгор на Маню не звярнуў увагі, яна шмыгнула мышкай ад тарца стала ў куток між акном і дзвярыма, угнулася. Каўзануў цяжкім позіркам па тварах тых, што пахаваліся за стол, адгарадзіліся сталом. А-а, вось дзе гэты Зянончык... Сташэвіч...

Рынуўся імкліва, на паўдарозе падбіў нагою, загнаў пад стол крэсла. Лявошка інстынктыўна ўскінуў, як шлагбаум, палку — палка з бразгатам паляцела пад ногі. Рыгор кінуў уперад рукі-клюшні, і Сташэвіч спінаю пагнаў да сцяны крэсла — «Ты што? Ты — што?!». Грабанулі рукі паветра, не дасталі ні за шыю, ні загрудкі. У той жа міг Рыгораву правую абхапіў Дзеньдобры, левую — Русак.

— Сядзь! Сядай, супакойся!

— Я яго ўсядно абязвечу... малакасоса гэтага! — Рыгору не хапала паветра, ён ажно задыхаўся.— Спектаклі ўстройвае... Дзяцей... хворых... па дажджы прывалок!

— Сердзіч! Ты... ты бліжэй да тэлефона!.. Участковага заві! — Сташэвіч з-за спіны Дзеньдобрага паказваў на тэлефон — «Круці!», другою рукою тузаў сябе за гальштук, каб паслабіць вузел.

— Сядзь-це! Або-два ся-дай-це! І ты, Ры-гор! — узвысіўся над сталом старшыня. Не меншы ён ростам за Рыгора, а ў торсе і грубшы, збіты моцна.— Ніхто з нас дзяцей і не думаў выцягваць. Маню толькі клікалі... А Марфа сама прывяла! Так што будзь добры — сядзь!

Сташэвіч першы апусціўся ў сваё крэсла, але ўсё яшчэ круціў галавою, нібы вывінчваў яе з каўняра. А Рыгор таптаўся мядзведзем перад сталом, цяжка дыхаў.

— За такое... мінімум пятнаццаць сутак...— сказаў Сташэвіч ціха і тут жа пахрабрэў, узарваўся: — Ты думаеш, мне ўсё гэта трэба! Ці Івану Кузьмічу? Ці Русаку? Ці во ім? Памыляешся, прычым крэпка! Табе гэта трэба, у першую вочарадзь табе!

— Спасіба табе, благадзецель наш! — адвесіў Рыгор блазенскі паклон, нават рукою махнуў зверху да падлогі.— Буду ведаць, за каго бога маліць!..— Яшчэ мацней таўхануў нагою тое крэсла, што стаяла ў канцы прыстаўнога стала, нібы падножку даў, і яно ўпала. Бокам ступіў да крэслаў каля глухое сцяны, прысеў, цяжка дыхаючы: — Усе яршы харашы, адзін шчупак, як дурак...

— І мэблю не ламай! Хуліганіць тут мы табе не дазволім! — ужо зусім смела выкрыкваў Сташэвіч.

Тое крэсла падняла, акуратна паставіла Жухалава:

— Аляксандр Македонскі быў вялікі палкаводзец.

Але ж нашто крэслы ламаць? — і зноў села каля Сердзіча.

— Вучоненькія... панахапаліся... вяршкоў,— мармытаў, ціскаў сківіцамі Рыгор.

— Таццяна Ёсіпаўна, скажы йшчэ раз... Што ты бачыла ў хаце ў Мані,— сказаў Дзеньдобры.

— Што? Вады поўная хата і сенцы... Ночвы, цабэркі, міскі, чыгункі... Стаяць, стаяць, стаяць... і ўсюды цячэ — са столі, па сценах цурчыць...

— Ся-дай-це, ка-лі лас-ка... Рыгор, ты памяняў шыфер? Парамантаваў страху? — звярнуўся строга Дзеньдобры да яго і сам сабе адказаў: — Не. За гулямі не было калі.

— А што яму тая страха? Што дзеці? Хай хоць неба ім на галаву падае... Чужыя больш клапоцяцца: і выпісалі шыферу, і прывезлі. А ён...— Сташэвіч гаварыў усё больш палка, але старшыня перапыніў:

— Па-ча-кай, Зя-нон... А скажы, калі ласка, Рыгор Іванавіч, якіх кніг яшчэ не хапае ў тваіх дзяцей? Скора ў школу ісці... Якая вопратка ім трэба, абутак?

Рыгор тузнуўся. У гэты час за дзвярыма зноў забухукала, заплакала, давячыся макротамі, Танька. Ніколі яшчэ ён не чуў такога гадкага кашлю!

— Мае дзеці... яшчэ голым целам не свяцілі... ніколі.

— Кохлік, мабыць, у малое...— сказала паціху, глянула на Маню Жухалава. Але тая, угнутая і захутаная, не рэагавала на яе словы, і Таццяна Іосіфаўна гаварыла далей да Сердзіча: — Таблеткі ж ад гэтай хваробы даюць, прывіўкі...

— А што яму? Абы на свет пусціць... А там можна і дзяржаве на шыю спіхнуць,— зноў кальнуў Сташэвіч, і на гэты раз не Дзеньдобры, а Лявошка прыпыніў яго:

— Ды пачакай ты трохі, не фарсіруй!

— За-блы-таў-ся ты, хлоп-ча...— уздыхнуў Дзеньдобры, па-бацькоўску паглядзеў на Рыгора.

— І каб было дзе! А то ў трох соснах! — абурана бразнуў аб стол шарыкавую ручку Сташэвіч, адкінуўся гнеўна-тэатральна на спінку крэсла. Яму ўсё было ясна, як божы дзень.

Рыгор змераў Зянона пагардлівым позіркам, але стрымаўся, толькі ўздыхнуў: «Што ты ў гэтым разу-

меш, малакасос? Табе яшчэ б на студэнцкай лаўцы сядзець...»

— Ох-ха... Чужую бяду — рукамі развяду,— прымірэнча паўздыхаў і Каляда. Ён як сеў, зайшоўшы, злева, у куточку каля дзвярэй насупраць Мані, то толькі і рабіў, што згортваў, складваў, варочаў на каленях з боку на бок мокрую плашч-накідку, нібы ёй было мулка, не ўлежаць. Маўчалі пакуль што, не ўступалі ў размову Русак, Будай і Сердзіч.

— Дык вось так, Ры-гор Іва-на-віч,— сказаў Дзеньдобры,— сабраліся мы сюды не жарцікі з табою строіць. Пара, сам ведаеш, гарачая, не глядзі, што дождж...

— Маглі і не збірацца, я вас не прасіў,— агрызнуўся Рыгор, паглядзеў на акно — толькі на акно. Маню, якая зябка хуталася ў хустку, стараўся не бачыць нават краечкам вока.

— Ах, які герой! Ён, чуеце...— Сташэвіч штурхнуў локцямі старшыню і Русака, нібы заклікаў іх у сведкі,— ён лічыць, што можна жыць у обшчастве і быць свабодным ад обшчаства. Яму напляваць на людзей! Ды што яму людзі, калі і сям'я — нішто! — распаляў сябе гнеўнымі тырадамі Сташэвіч.

— Чытаў? Чалавек чалавеку друг, таварыш і брат,— сказаў Сердзіч.

— Зя-нон Ста-ні-сла-ва-віч, я мяркую, што гэтую гутарку мы павядзём так,— разважліва сказаў Дзеньдобры.— Дамо кожнаму слова, хай скажа сваю думку пра гэтую сітуацыю і як з яе выйсці. Потым паслухаем самога Рыгора, паслухаем Маню... Я ду-маю, што ў Рыго-ра Іва-на-ві-ча няма супраць нас ніякіх адводаў. Сабраліся тут людзі паважаныя, аўтарытэтныя... Во, адзясную, каля дзясніцы, сакратар парткома... Каля яго Русак, камуніст і старшыня таварыскага суда... Лявошка — намеснік сакратара парткома. А там во, за табою, прыхаваўся Каляда — брыгадзір, ён жа засядацель таварыскага суда. Канстанцін Мікалаевіч, мо давайце бліжэй... (Каляда тут жа закруціў галавою: «Я тут... Я адсюль, калі што...») Во... А з левай Будай — старшыня мясцкома прафсаюза, во Сердзіч — намеснік сакратара парткома па кантролю, Жухалава — член парткома... Усіх ты... усіх вы,— папраўіўся старшыня, падключыў і Маню,— ве-да-еце. Ніхто з нас вам злога не жадае, па-вер-це. Дык хто, таварышы, першы хоча... сказаць?

— Дайце...— адразу ўскінуўся Сташэвіч, але старшыня мякка асадзіў яго:

— Ты ўжо трохі тут... на-вы-сту-паў. Хай людзі скажуць... Во, Жухалава, напрыклад.

— А-а... Ага, добра! Я потым — буду заключаць размову,— Сташэвіч падсунуў да сябе паперу — мо збіраўся весці пратакол, шматзначна падцяў губы.

— Дзе мой татка-а? Та-а-тка-а...— плакала за дзвярыма Танька.

— Што тут скажаш...— Жухалава разагнулася, паклала далоні на калені.— Сітуацыя вельмі складаная, і справа далікатная. Тут цяжка прыдумаць што, каб і авечкі былі цэлыя, і ваўкі сытыя. А раптам толькі нашкодзім?

— Мы не нахрапам улазім... у гэтыя іх далікатнасці,— не ўтрываў Сташэвіч.— У нас ёсць скарга... заява — як хочаце называйце — аднаго з канфліктуючых бакоў... З просьбай — іменна, з просьбай! — умяшацца ў гэта дзела, памагчы! Вот, хто яшчэ не чытаў...— Сташэвіч шмаргануў па стале сюды-туды спісаным лістком.— Тут і суправадзілаўка падколата з раённага камітэта народнага кантролю — разабрацца і гэтак далей.

Ніхто да Манінай паперы не працягнуў рукі.

— Дык мне думаецца...— пачакала цішыні і зноў загаварыла Жухалава,— мне думаецца, што ім трэба ўсесціся ўдваіх і самім спакойна пра ўсё пагаварыць. Не ўсё ж яшчэ выстыла ў іх душах... Былі ж і добрыя часы, раз пабраліся. Во — дзяцей чацвёра... Дык я й кажу: калі мірыцца і жыць далей разам, гадаваць дзяцей — дык, значыць, мірыцца. Калі не...

— Як гэта — не?! Пра гэта і гаворкі не можа быць!— выкрыкнуў Сташэвіч.

— Калі ж не...— не звярнула ўвагі на яго выкрык Жухалава,— трэба разыходзіцца, скасоўваць шлюб цераз суд і больш не траўміраваць адно аднаго. Па-новаму ўстройваць жыццё... Во от...

— Та-ак... У вас усё, Та-ця-на Ёсі-паў-на? — пагледзеў на яе Дзеньдобры.

— Ну, а што яшчэ можа быць?

Падняў руку і тут жа стаў гаварыць Русак:

— Правільна, хай пачнуць з чыстай старонкі, як гаворыцца... Даруюць узаемна — і з чыстай. І дзела з канцом! Што тут доўга растабарваць? — І ён пагля-

дзеў на гадзіннік. Маўляў, і так ужо столькі часу змарнавалі, а яму трэба яшчэ ў майстэрню.

— З чыстай... А дзе ўзяць тую чыстую? — мармытнуў Рыгор сам сабе, сукануў нагамі па падлозе, нібы хацеў зацерці лужыну — насцякала з ботаў. Бліснуў вокам на Русака: «Галава сівая, а пляце... Каб жа так усё проста было!»

І тут раптам падала голас Маня:

— Я да другіх не бегала, дзяцей не кідала...— і зноў закрыла твар хусткаю, толькі вочы блішчалі. Маўляў, чаго гэта яе раўняюць з Рыгорам?

Тады Русак устаў з рашучасцю: «Ах, так?!» І загаварыў горача, сек праваю рукою паветра:

— Я не знімаю віны з Рыгора. Ён многа наламаў дроў. Але ж ты... ты... жанчына! Што ты зрабіла, каб захаваць каханне, захаваць сям'ю? Што-о-о?! Бегала ды публічныя скандалы ўстройвала? Каапераціыю падпальвала? Знайшлася змагарка з п'янствам... Ты ж яго грызла і грызла, поедам ела. Ды не адна, а ўдзвюх з маткаю. Замест таго каб уціхамірыць яе, яшчэ і пад'юджвала... Што я — не бачыў, які Рыгор хадзіў? Прыйдзе раніцаю на трактар — сам не свой, з рук усё валіцца. Спытаеш — што? Зубамі скрыгіча: «Жыць не хочацца...» Калі і было якое каханне, то ты ж яго вытруціла, вытаптала! Сама, стара-анна! Залезеш у душу ды яшчэ і патопчашся, ногі вытраш... Соладка, бачыце ёй, што мужу насаліла... Што нервы яму парвала... «П'яніца Рыгор...», «П'е Рыгор...». Ды ці так ён п'е? Ды які ён п'яніца? Я ўпэўнены, каб не такая калатнеча дома, каб душа на месцы была... То і не выпіваў бы ён! Тут, бывала, за дзень так натузаешся на рабоце, ды яшчэ калі не ладзіцца што... Свет не мілы! Дзёгаць, здаецца, піў бы, смалу... А жонка ўмыцца паможа, дасць у свежае адзецца, ды накорміць добра, а то і чарку сама паднясе... Нервам жа таксама патрэбна разрадка!.. Ды яшчэ як абдыме, прыгорне... Дзе тая і стома падзелася! Свет, здаецца, перавярнуў бы, адкуль і сілы возьмуцца...

Разварушыў усіх Русак: засмяяліся, спала напружанне. «А каб ты спрах... От стары...» — «Праўду чалавек кажа, чаго ж!..» — «На пенсію скора, а ён...» — «Ну й што, калі на пенсію? Вунь пенсіянеры яшчэ жэняцца...» — «Калі ўсё ладзіцца, браткі,— як свята! Кожны дзень свята!»

— Гэта як добра ўсё! Як любяць адно аднаго! А калі цярпець не могуць? — перамагла ўсіх сваім моцным альтам Жухалава.— Вунь Клімук, наш касманаўт, што піша? Важна, каб сумяшчальнасць людзей была... У кароткі касмічны палёт людзей адпраўляюць, а і то глядзяць на гэта... На сумяшчальнасць... А тут жа — цэлае жыццё!

— Ну і зраўняла! — не ўтрываў Лявошка.— Там жа нідзе не дзенешся з касмічнага карабля ці станцыі... Увесь час разам, прытым у цеснаце. Ні на двор не выйдзеш, ні на вуліцу... Ні з суседкаю не пагрызешся.

— У Рыгора і Мані — дзеці! — амаль выкрыкнуў Сташэвіч.— Дзеці! — нібы хацеў «асадзіць» Жухалаву і Лявошку: куды яны вядуць, куды хіляць? Трэба ж прытрымлівацца лініі на прымірэнне!

І тут устала, пахісталася, нібы не магла ўстояць на нагах, Маня. Спачатку і двух слоў не магла сказаць, толькі разяўляла рот: «А-а... А-а-а...» Сташэвіч дарэмна «асаджваў» і яе: «Сядзь! Сядзь, табе гавораць! Табе яшчэ не давалі слова!»

— Аа... Ага-а...— не слухала яна.— «Абдымі, прыгарні» яго... Трасцу ён у мяне дачакаецца! Каб яшчэ пятага зрабіў? Аволенькі, пашкадуйце яго, беднენькага... Ён жа стаміўся, небарака... А я не стамілася?! Ён яшчэ на трэці бок пераварочваецца, а я ўжо ў аборы! Там пакармі, падой! Бяжы дадому, тут яшчэ карова, свінні, куры... А дзяцей куча! Дагледзь гаспадарку, дзяцей дагледзь... Зноў бяжы, язык высалапіўшы, на ферму... Раней хоць дома што памагаў, хоць карову напоіць ці дроў унясе, бульбы з пограба... А ўжо гадоў два — нічагенька дома не робіць... Толькі кулакі ў ход пускае! Во... на горкае яблыка збіў. Во... Во!..— яна сарвала з сябе хустку на плечы.— Во! Яшчэ не ўсе жаўцякі сышлі... Як лімон уся...

Прачыніліся дзверы, усунула галаў Марфа — нібы ўвесь час падслухоўвала і была напагатове.

— Людзечкі! І мяне ж! І мяне чуць не задушыў! — і загаласіла, зацягла: — І за што-о-о ж нас гаспод пакара-а-а...

Рыгор усхапіўся, бух нагою па дзвярах, Марфа войкнула, заенчыла — па той бок дзвярэй. І Маня войкнула, упала ў свой куточак, падагнула на сябе калені, наставіла рукі — думала, і на яе кінецца. Заплакала за дзвярыма Танька, і Марфа не ўцішвала яе, а ўсё

крычала прарэзліва на ўсю кантору: «Плач, унучачка! Пла-а-ач!! Галасі-і... Мо хоць людзі пачуюць, нашы слёзы ўбачаць!» І тут Рыгор ірвануў на сябе дзверы, Каляда не паспеў яго затрымаць, і ў бухгалтэрыі пачуўся спалоханы віск і лямант — «Рату-у-уйце-е!!».

— Рыгор — сядзь! Рыгор, ты — што? У цюрму захацеў?! — закрычалі і Сташэвіч, і Сердзіч, і Дзеньдобры. Голас Марфы паглушэў, мо зноў схавалася ў закутак каля касы.

— Скажыце тут... гэтай старой... ведзьме!..— чутно, Рыгор ажно задыхаўся ад ярасці.— Скажыце!.. хай заткнецца!.. І хай вядзе адсюль дзяцей... А то я за сябе... не ручаюся!!!

Зусім нікуды не вартыя сталі Рыгоравы нервы...

Зайшоў-усунуўся ў кабінет сшарэлы ад шалу, з белымі, невідушчымі вачыма. На Маню не глядзеў, ды наўрад ці ўвогуле каго бачыў. Упаў на сваё месца, угнуў галаву да каленяў, дыхаў сутаргава, плечы скакалі ўгору-ўніз.

— От так... сядайце ўсе! Яшчэ размова не скончана,— паспрабаваў пакіраваць Сташэвіч. (У канцылярыі зноў зайшлася ад плачу і кашлю Таня).

Рыгор устаў рыўком, нібы які робат.

— Можаце... Можаце гаварыць!.. Цягнуць сваю гаварыльню... А я пайшоў!..— і сапраўды падаўся з кабінета, як п'яны. Дзверы, праўда, зачыніў за сабою старанна.

Хто заставаўся, пачулі праз філёнкі глухое: «Хадзем, дзеці...»

Усе сядзелі некаторы час здранцвела, прышыблена. Маня ліпла ў куток, курчылася, нібы ў яе рэзаў жывот. Потым заўздыхалі, загаманілі: «Куды... Куды ж ён?» — «От табе і пагаварылі... От табе і памірылі...» — «Мо дадому — куды ж?»

І ніхто не ўставаў, не ўскокваў, каб паглядзець, праверыць — у які бок пакіруе. Ці па вуліцы, дадому, ці заломіць з сяла на Вольчын хутар.

— Ну... дык от, Маня... Жывіце і не муціце ваду,— сказаў Русак.— Бачыш? Рыгор асазнаў сваю памылку...

— Каб ён так дыхаў! — урэшце выказаўся і Сердзіч.

— Мабыць, парвалася, то не звяжаш,— дадаў і Будай.

— Таварышы, са свайго боку мы зрабілі ўсё, што змаглі,— нібы падвёў вынікі Сташэвіч.— Мы хацелі як лепш, сабраліся, абмеркавалі, на сігнал прарэагіравалі.

— Ад гэтага рэагавання... нікому ні горача ні халадна. Правільней — усіх то ў пот, то ў лёд,— сказаў Будай.— Патапталіся па чалавеку, пагэцалі. Рады, што рэбры моцныя...

— Ніхто па ім не таптаўся! Выбірайце выражэнні! — Сташэвіч скоранька нешта пісаў на Манінай паперы, наўкос, у левым верхнім кутку.— А калі па столькі з кожным займацца — часу на ўсіх не хопіць.

— Каб жа наша гаварыльня памагла... Каб жа! — Жухалава ўстала і працягла да Сташэвіча руку, хацела зноў закурыць, а Зянон некаторы час не бачыў гэтай рукі, круціў на паперы завітушкі. А як дастаў пачак цыгарэт, то да яго пацягнулася многа рук — нават Дзеньдобры рашыў закурыць.

— Чорт ла-за-ты... а не Ры-гор...— уздыхаў старшыня і цмокаў цыгарэтаю так, што шчокі як не праваліваліся.— Я ж хацеў з ім йшчэ па рабоце пагаварыць... пасля разбору... Ён жа ўчора жаць выязджаў — што зрабіў, што не ладзіцца...

— Гектараў пяць зжаў, я бачыў,— сказаў Каляда.— А машына не падышла ў час — на зямлю зерне высыпаў. Псіх! Адале сам жа памагаў збіраць...

— Які з яго работнік... пасля ўсяго гэтага,— сказала Жухалава.

— Праўда што,— пацвердзіў Каляда.— Хай бы Русак адразу садзіўся на камбайн — і ўсё. А Рыгору можна... іржышча лушчыць, араць.

Усе ў размове пра Маню забылі. І яна пасядзела-пасядзела — і паціху вышмыгнула. Здавалася, нават дзвярэй не адчыняла.

## 4

Зашарэў дзень зусім, мусіць, сутоньваецца. Дождж пыліць і курыць, ад зямлі падымаецца пара, вуліца затуманеная...

А мо ў вачах у яе сшарэла, мо нешта зрабілася са зрокам?

Нейкімі нерэальнымі, прывіднымі выдаюць прадметы, набліжанымі, кожная бугрынка ці каменьчык пад нагамі, камякі гразі нібы ўзраслі, і Маня, каб не спатыкацца, залішне падымае ногі, бы месіць гразь ці

ўзбіраецца па нейкіх крутых і цяжкіх прыступках. І часценька, здаецца, ступае, ды ніяк не дагоніць ні маці, што спяшаецца за Рыгорам, цягне за выцягнутую руку Аленку, ні Рыгора, які ледзь відаць ужо ў вуліцы. Няпоўны, нібы месячык-маладзічок, святлеецца Таньчын твар з-за Рыгоравага плечука — паклалася, мабыць, галоўкаю, задрамала. Правая Рыгорава рука не адстаўлена гэтак узад і ўбок, як мацерына, а, паўсагнутая ў локці, прыціснута да бока разам з Ваневай рукою. Ды і ўвесь Ваня ціснецца да яго плячом, стараецца рабіць шырокія крокі, каб патрапіць у ногу з бацькам — і не спраўляецца: тупаціць часта і дробна, робіць скачкі, як цераз лужыны, хістаецца і коўзаецца босымі нагамі па гразі.

Давядзе, данясе Рыгор да хаты — і ўсё? Пусціць Таньку з рук — і бывайце здаровы?

Не заўважае ўжо Маня нічога, уся ўвага яе засяроджана на Рыгору. Прайшла міма Аўдотчынага двара і не ўбачыла, што пад старою ліпаю, дзе не так прабівае дождж, стаяць і гамоняць Дар'я і Аўдотка, што яны праводзяць яе доўгімі і цікаўнымі поглядамі. Не заўважыла малога, як скрыначка на колах, трактарца, што трахкацеў насустрач, магла і пад яго трапіць, каб гэты трактар раптам не закрыў сабою Рыгора з дзецьмі, і яна падсвядома ступіла ўбок — што ж гэта застуе, замінае глядзець? Не бачыла яна і кароў, што пачалі праяўляцца з шэрасці ў канцы вуліцы і раптам запрудзілі сваёй варухлівай пярэстай масай усю прастору паміж дамамі і платамі. Калгасныя, мабыць, іх заўсёды гоняць на паўгадзіны раней за калгасніцкія, каб не сутыкаліся ў вуліцы, а сёння і пагатоў раней тураць — змоклі пастухі, вымерхаліся.

Ці паверне Рыгор у свой двор?!

Павярнуў...

І адразу тое месца, дзе вароты, заступілі каровы, і нічога не стала відаць.

І адразу прытупіліся, саслаблі Маніны ногі, а левае калена дробненька і квола затрымцела. Знобкая дрыготка затрусілася між лапатак, перабрала скуру шыі пад левым вухам, затузалася цікам-жыўчыкам пад левым вокам. Маня і чакала, што Рыгор паверне, а яшчэ больш баялася гэтага. І цяпер боязь завалодала ёю бязмежна. Ногі ўжо былі зусім вялыя, яны не слухаліся, не змаглі вынесці яе з каровінае чарады. Маня блыта-

лася між аграмадных жывёлін, яе ледзь не зацiралі крутымі бакамі — як жорнамі. Яна раптам адчувала то пад адною рукою, то пад другою варухлівае, жывое пагойдванне жывых аграмадзін — і апiралася на іх, каб не абсунуцца пад ногі, не ўпасці. Лавіла каторую карову за рогі, адварочвала вострыя ражны ад сябе, каб не прапаролі, і зноў пад яе далоні траплялі цёпла-халодныя і мокрыя бакі, клубы, хрыбціны. Стрэльнуў пугаю аднарукі Зосім Ёрш — «Гэ-гэ-эй, куды, Рондзя?!», крыкнуў звыкла-пагрозліва недзе ззаду, з-за статка. А потым і яшчэ мацней крычаў: «Маня, чаго ты ўбілася ў каровы?! Чаго ты лазіш, мацаеш? Добра наеліся, добра... Ты на левыя бакі глядзі! А мо думаеш, што папушыць? Не павінна, мы толькі пад канец на канюшынішчы пасвілі...» I другі пастух, малады Кардашоў, таксама нешта гаварыў-пытаўся: «Чаму ты яшчэ тут, не на ферме? Учці, я за цябе прывязваць не буду!»

Маня не заўважыла, як яе, моцна цярнуўшы бакамі, каровы крутнулі-развярнулі ў свой бок, павялі з сабою, і яна ўжо ішла — пакорліва, паклаўшы руку на спіну нейкай лысухі. Ішла на ферму...

Яна ўжо разумела, куды ідзе, што вымушана будзе рабіць: штодзённую, звыклую і абрыдзелую работу. Падмые вымі, падключыць прысоскі-стаканчыкі даільных апаратаў. У кароўніку — гэта не ў полі, даенне механізаванае.

Падоіць яна, і яшчэ адзін бязрадасны дзень скончыцца. I трэба будзе ісці дадому...

Яна будзе яшчэ нешта рабіць дома, па гаспадарцы.

А потым — ложак...

Не кладзіся спаці
У вугал караваці,
Да сцяны вачыма,
Да мяне плячыма...

Не, не, не, не... Не!.. Хлусіць песня!

Не будзе гэтага, не будзе яна выпрошваць ласкі ў Рыгора...

Страх і жуда чакаюць яе дома. I муж, якога яна не любіла і не любіць.

Якога ненавідзіць...

Раздзел трэці

Не шанцаваць пачало яшчэ ў Слуцку. Мапед заглух, ад матора моцна смярдзела перапаленым жалезам. «Халера, бензін жа яшчэ ёсць... Во, плюхаціць...» І як ні трос ён гэты «транспартны сродак», як ні спрабаваў заводзіць, заводзіцца не хацеў. Сорамна было прасіць каго, каб паглядзеў (такая бо тэхніка!), і ў той жа час сам не мог даць рады. Так і вёў «машынерыю» ў руках, а дзе з гары і пад'язджаў трохі, круцячы педалямі. У адным месцы на ўскраіне бачыў ля завода сталоўку, намерыўся ўжо зайсці. Але было пасля шаснаццаці, харчэўня зачынілася на абед. Павёў мапед далей — бог з ёю, яшчэ на дамашніх пачастунках можна суткі жыць.

За «95 кіламетрам» дагнала машына. Шафёр сам прытармазіў: «Да Казловіч магу падкінуць...» А да Казловіч было мала, хаця б яшчэ кіламетраў дзесяць. Але ж і за гэта дзякуй. Шафёр, малады круглатвары хлапец, хуценька адчапіў борт, памог нават закінуць мапед у кузаў. У кабіне месца было занятае, сядзела нейкая цётка, і Федзя прыладзіўся ў кузаве на калючай, ажно праз штаны стрэмкі заганяліся, скрыні з жалязякамі-запчасткамі. Ад Казловіч — вёскі з асфальтам і двухпавярховымі катэджамі — з кіламетр правёў мапед у руках, пакуль не дагнаў парожні грузавік — вазіў збожжа на прыёмны пункт. Руляваў пажылы дзядзька і ўсю дарогу абураўся: «Добры гандаль... Я прывожу ёй амаль чатыры тоны, а яна піша: «Тры... Улажнасць вялікая...» А я хіба не казаў пра гэта старшыні? Казаў... У нас свая сушылка ёсць... Цэлы завод!.. Хай бы раз прапусцілі, другі прапусцілі... Не, загарэлася яму — вязі! Бачыце, першую квітанцыю хочацца палучыць... А там было ўжо машын з трох калгасаў! Праўда, і да мяне карэспандэнцік падбягаў, але я і гаварыцца не даўся... Скажы от ты мне, нашто гэты паспех? Не маглі дзень-другі апусціць? Каб дайшло... у коласе? А то стаю, чакаю тую дзеўку... Засуну руку ў зярно — гарыць! Чуеце? Рукі не ўдзержаць... Самасаграванне!» Федзя слухаў дзядзьку і не слухаў, быў паглыблены ў свае думы, аж пакуль той не прытармазіў і не сказаў: «Ну — мне ў гэты бок... А вам?» Федзю было яшчэ далей на поўдзень, за стык трох раёнаў.

Каб не было гэтай «бандуры», мапеда, то ён дабраўся б на месца лягчэй і хутчэй — аўтобусамі, праз Салігорск. А так быў звязаны як не па руках і нагах. Кінуць у якой вёсцы ў якога дзядзькі Федзя не мог. Рэч чужая... ды ў незнаёмых людзей... ды зноў жа — трэба будзе па яе вяртацца, спецыяльна машыну выпрошваць, ганяць. У такі гарачы час! І ён вёў, плёўся, валачыў, а дзе з горкі зноў і зноў садзіўся, круціў педалі, хоць у тых педалях чуўся страшэнны скрыгат — мабыць, у іх даўно не было ніводнага падшыпніка — парассыпаліся, пазаклінкваліся.

Дабраўся ў Паплавы пад вечар.

Весці на Юльянін двор няспраўны мапед было нядобра. Ганя то мо нічога і не сказала б, але ўсё роўна непрыемна, і Федзя завярнуў да сябе.

На дзвярах вісеў замок, ключа ў схованцы не было, Федзя стомлена пахадзіў па двары сюды-туды, заглянуў у агарод і сад. Там таксама не было ні Паўлюка, ні Паўлючыхі. Хацелася піць, за дарогу высмаг, выпацеў, пра яду пакуль што не думалася.

«А дзе ж Іван? Дзе дзяўчаты?» — пайшоў туды, дзе кватаравалі студэнткі. Але і там нікога не было, а гаспадыніна дачка-падлетак прыбегла ад суседзяў, калі ўбачыла, што «дзядзька Федзя» не адыходзіць ад варот, стаіць у роздуме.

— Студэнткі ў Верхаўцы пайшлі! І дзядзька Ваня з імі. Сказалі — там адна бабка ёсць, вельмі многа песень ведае. А Жэня ў Мінск паехала! Назусім! — сыпала, як з кулямёта. — А Ганя, што вы фатаграфіравалі з Жэняю і з коцікам, ад цёткі Юльяны таксама паехала... Яе машына забірала... І шафу грузілі, і ложак, і ўсё-ўсё... Цётка Юльяна сварылася з ёю, і Ганя на яе крычала!

— Унь яно што-о...— толькі і сказаў Федзя і яшчэ патаптаўся на месцы. Ашаламілі яго гэтыя весткі, не мог сабрацца з думкамі, не ведаў, куды ісці.

І ўсё-такі пайшоў. Пайшоў у магазін: мо завезлі піва? Ці, можа, які крушон ёсць?

Быў «Байкал», танізіруючы напітак, і Федзя падзівіўся: рэдкасць! Узяў дзве бутэлькі, кансервы «Салака ў тамаце», трыста грамаў салодкіх, нібы пакрытых намараззю, пернікаў (хлеба ўжо не было — раскупілі). Адну бутэльку выпіў тут жа, не адыходзячы ад прылаўка, і крыху аджыў. Астатняе забраў з сабою, рас-

соўваў па кішэнях — добра, што многа іх было і ў курт-цы, і ў штанах.

Ішоў на Папову гару і ўвесь час прыспешваў крокі. Яму здавалася, што з усіх хат, з усіх двароў сочаць за ім людзі і асуджальна ківаюць галовамі: «Во да чаго дакаціўся... А яшчэ настаўнік!» А мо людзі не ведаюць, што ён настаўнік? Бо і ў сельсавеце, і старшыні калгаса рэкамендаваўся як аспірант, кіраўнік комплекснай экспедыцыі. Але ж мог Іван сказаць, маглі і дзяўчаты. А настаўнік — гэта аўтарытэт і самавітасць, не тое што нейкі аспіранцік. Аспірант — амаль той жа студэнт, а студэнт — што? Блазнюк яшчэ, вецер у галаве.

Хацелася хутчэй прыхавацца ў кусты і пасядзець-адпачыць, падсілкавацца, падумаць пра ўсё, што нарабілася, у чым была і яго віна.

Несвядома яго пацягнула на тое месца пад дуб, дзе сядзеў з Ганяю. Але ўбачыў там кучку хлапчукоў, якія гулялі ў карты, і павярнуў да «прошчы». Тут было пуста і ціха, і ён прысеў на лавачку. Выклаў побач з сабою прыпасы і тут жа забыў пра іх...

З Ганяю ўсё зразумела. Яна ж і яму гаварыла, што збіраецца пакідаць свякроў. Але каб так хутка ўсё нарабілася? Ці не прыспешыла ўсё яго прыгода з Ганяй, во тут во... каля «прошчы»? І ніякага даравання граху ён не адчувае, не памагае Мікола-цудатворца... «Цётка Юльяна сварылася на Ганю...» То не проста ж сварылася, мо стала і ёй што вядома... пра гэта... Мо хто падгледзеў, як яны тут прахаджваліся на гары, як сядзелі пад дубам... І не толькі цётка Юльяна ўведала, а і Жэня, і ўся вёска, і, вядома ж, не толькі Ганю, але і яго асуджаюць — «перамываюць костачкі».

На чорта ён узяў гэтыя кансервы... Чым іх успораш? У кішэні быў толькі ножык-складанчык — маленькі, з палавіну мезенага пальца, лавачкі пластмасавыя, у выглядзе ТУ-104, паветранага лайнера. Сувенір, купіў некалі ў Мінскім аэрапорце... Наставіў лязом, ударыў кулаком — лязо падагнулася і прышчаміла, рэзнула па пальцы. Паказалася кроў... Смактануў-сплюнуў, азірнуўся ў бакі, каб дзе знайсці якога камення. І ўсміхнуўся сам сабе: якраз як на малюнку-коміксу Херлуфа Бідструпа. Там на пікніку мужчына то дзяўбе бляшанку нажом і прышчыквае гэтак жа, як і ён, палец, потым дзяўбе відэльцамі, і кожны зубец за-

віваецца ў спіраль, то ўрэшце кладзе бляшанку на камень, б'е зверху другім, і жыжа-змесціва з кансерваў плюхае яму ў твар, залепвае вочы... Патрымаў Федзя бляшанку ў руках — і пакаціў у кусты каля ручая. Калі б нават і ўскрыў яе, то як есці з салодкімі пернікамі? Узяўся за бутэльку — садраў бляшку-накрыўку аб лаўку, еў пернікі і запіваў «Байкалам», танізіруючым напіткам.

«Танізіруе... У які бок гэтая вадзічка танізіруе? Павышае настрой, надае бадзёрасці ці ўціхамірвае, прыглушвае? Тут бы каб якога спірту... урэзаць...»

«І так — што мы маем на сённяшні дзень... А нічога не маем. Ганя з'ехала... Куды? Да маці, куды ж ёй... А дзе яе маці жыве? Не ў Паплавах — у Забалаці. Казала неяк... А мо не яна казала? Тры кіламетры адсюль на поўдзень... Туды не пайду, не-е... Калі дык на ферму, на ферме буду шукаць. А мо пераняць дзе на дарозе? Павінна ж яна туды прыйсці, павінна! А мо яна там і ёсць? І — строга з ёю... Строгасць і строгасць! Толькі мапед усучу — і ўсё, і назад. Далёка ёй цяпер дабірацца — з Забалаці, транспарт трэба. Але няспраўны брыдка аддаваць, абавязкова парамантаваць і тады аддаць... Значыць, што яшчэ? Чакаць дзядзьку Паўлюка, ён слесар-рамонтнік у калгасных майстэрнях, трактары, камбайны рамантуе, што яму нейкі там мапед? Раз плюнуць.. Угавару яго, пастараюся...»

«Далей — што? Калі ў Верхаўцах Іван знойдзе што цікавае... сёння ж вернецца, павінен вярнуцца... Калі знойдзе што, то мо пабраць манаткі і туды перамахнуць? Там атабарыцца... Хопіць, заседзеліся ў Паплавах! Хопіць, хопіць!..»

«Жэня... Ах, Жэнька ты, Жэнька... Прыраўнавала, факт! Яна кахае мяне. А я, пень стары, чурбак дубовы... і вухам не вёў, не здагадваўся... Хаця ж — чаму не? Можна ж было даўмецца, можна... Во тады, як угаворвала не ісці на ферму, па той мапед у жыце... Усё яна разумела, куды што... вядзе... Усё прадбачыла... І не вытрымала сэрцайка, кінула-рынула ўсё... Дзе яна цяпер? Яна — мінчанка, карэнная. Бацька яе, здаецца, нейкі літаратуразнаўца, Шахлевіч... Здаецца, і кніжку яго бачыў — крытычныя артыкулы... У дзяўчат спытаю, у Рыты — яна на адным курсе з ёю. Мо ведае, дзе жыве Жэнька? Жэнька-Яўгенька... Аўгінька... Не, лепш — Жэня, Жэнька...»

«У Мінск трэба пад'ехаць... У Мінск, абавязкова ў Мінск! Знайсці трэба яе, угаварыць вярнуцца... А не захоча... то каб даравала мне... дурасць... Заадно і ў інстытут зайду, у Акадэмію. Мо кіраўніка свайго сустрэну... Пане-дабрадзею, паважаны доктар навук Лямешка! Усё, што вы мне гаварылі,— лухта. Лу-у-хта,— чуеце? І не буду я вашу тэму рабіць... Але ж каб так сказаць, трэба мець больш фактаў-аргументаў. А ў яго і ступень навуковая, і кнігі, і імя ў вучоным свеце — у этнаграфіі і фалькларыстыцы».

«Байкал» не дапіў, бутэльку засунуў, ідучы ўжо, у густы куст, дажаваў на хаду апошні пернік. Няма калі расседжвацца...

Толькі выйшаў на вуліцу,— міма праляцеў «газік»; у акне, здалося, сядзеў той самы ўпаўнаважаны з раёна, культурнік, што «браў на арапа», думаў выпудзіць іх з Паплавоў. Дудкі, дзе сеў, там і злез...

Каля магазіна стаяла ўжо некалькі веласіпедаў і матацыклаў. Зводдаль, не даехаўшы да магазіна, паволі трахкацеў трактар «Беларусь». Мабыць, трактарыст заскочыў купіць курыва.

Далей адсюль, далей... Вось і Юльяніна хата, за ёю — Паўлючышына. Птушкай бы праляцеў у паднябессі, кратом прапоўз пад зямлёю — абы адразу апынуцца на Паўлючышыным двары. А нідзе не дзенешся, вунь і Юльяна стаіць за варотамі, нібы спецыяльна выйшла, каб паглядзець на яго.

— Добры вечар, цётка...— коратка зірнуў у яе бок і адразу патупіў вочы.

— А каб ты ніколі яснага дня-я не бачыў, а толькі вечар ды ноч! — пачала Юльяна клесці. З прыціскам на кожным слове, але не крыклівa, неяк дужа па-дзелавому і пагардліва: — Валацу-уга няшчасны... На-абрыдзень з усяго свету! Пе-есні яму трэба, ану-учы бабскія! Каб табе звінела ў галаве і ніколі не пераставала!

— Цё-ётка, за што вы мяне так?! — не мог змоўчаць, не мог не спыніцца.— Я ні ў чым перад вамі не вінаваты!

— А хто ж, мо я-я вінавата? Мо я-я прыйшла ў тваю сям'ю, мо я-я разбурыла? Пошкудзь ты!! — павысіла цётка голас.— Каламуціш белы свет, лэхтаеш па сёлах, памыяў шукаеш... Сабака ты памыйны! А яшчэ з Мінску, называецца!

Федзя рынуўся ў Паўлючышын двор, уцяўшы ў плечы галаву. Твар палаў, гарэлі вушы, як у хлапчука. «Божа... Хоць бы ніхто не чуў!» Схапіў з-пад плота мапед, хацеў выбрацца з двара агародамі, але не было там у Паўлючыхі нават узмежка, а толькі зарослая гарбузнікам разора. Трэба весці мапед вуліцаю, зноў паказвацца і на Юльяніны, і на людскія вочы. Высунуўся на вуліцу, на Юльяніны праклёны, і бегма, бегма, забыў нават зашчапіць дзверцы ў Паўлючышыным двары.

— Каб ты бо-окам ездзіў! Каб цябе сляпо-ога вадзілі ды вазілі! Каб ты сце-ежкі перад сабою не бачыў! — ляцела занудліва ўслед. Нібы цётка Юльяна выконвала нейкую павіннасць, а самой усё гэта даўно абрыдла.

Як не стала чуваць яе голасу, пакрочыў больш спакойна і самавіта. Круціў толькі з прыкрасцю галавою, падціскаючы губы.

«Да чаго дажыў, да чаго дакаціўся... Такога яшчэ не было — каб так брыдзілі... на ўсё сяло... Бабыль, чортаў бабыль... Мог бы ўжо даўно ажаніцца. Жыў бы сабе і не рыпаўся нікуды. Не бадзяўся б па свеце, не шукаў ветру ў полі. Дамок збудаваў бы, ведаў бы адно — сям'я... школа... урокі... Ну і па абавязку вясковага асветніка — сяды-тады гутарка, лекцыя. Павучаў бы людзей, як жыць. Аброс бы гаспадаркаю, як некаторыя настаўнікі: не бачыў бы з-за каровы, свіней, курэй свету. Не меў бы часу нават на кніжку... засынаў бы перад тэлевізарам... А колькі такіх ёсць, колькі развялося... такіх «інтэлігентаў»! Уратуй, крый мяне, божа, ад такога жыцця! Гэта ж... на карані заброснець можна... Не, не трэба мне такога настаўніцтва і такога жыцця. А мо зусім кінуць настаўніцтва? І ад вёскі да вёскі, ад сяла да сяла, з рукзаком за плячыма... З фотаапаратам, з магнітафонам, з блакнотам... Але ж грошы трэба, сродкі трэба! Людзі маглі б пракарміць, канешна... Людзі нашы гасцінныя, добрыя. Але калі толькі спадзявацца на гэта — усядно як старцаваць. Або хоць так: усё лета, тры месяцы скарыстоўваць на поўную катушку, і то можна шмат абысці, абследаваць. Пяць — дзесяць гадоў засталося, ад сілы, і перамруць старыя. А колькі яшчэ можна было б запісаць, знайсці, сфатаграфаваць. Спіць у шапку інстытут, спіць. Заспакаенне ў іх, поўнае заспакаенне! Хваляцца сваім трыццацітомнікам фальклору... А чым яшчэ могуць пахваліцца?»

«А яшчэ лепш з жонкаю хадзіць — на пару. Толькі дзе яе ўзяць — такую? Няўрымсту па характары... каб і ў агонь, і ў ваду са мною... Каб ні пра якія выгоды не думала, ні пра якую мяшчанскую ўтульнасць... Дзе яе знайсці — такую? «Мечты, мечты, где ваша сладость?» І самому скора стукне... Ніводная дзеўка глядзець не захоча... Дзед ты, скажа, лысы! Не можаш, дык і не бярыся... Як тая Дар'я наігрывала, спявала: «Ад чаго ты лысы, без валос застаўся?..» Не, цётка Дар'я, не дзяўкі вінаватыя... Іх жа не было ў мяне... Ну — амаль не было... Мяне ж аскетам лічаць у школе. Тры настаўніцы ў школе, адна за трактарыста замуж пайшла. А дзве сядзяць, нудзяцца. Скора перастаркамі будуць, а ўсё ў мой бок паглядваюць... Можа, зраблю ласку, звярну на іх увагу ўсур'ёз, перастану жарцікі жартаваць?»

Калгасны двор — пляц вялікі, больш за гектар. З двух процілеглых бакоў па перыметры працягліся шнуры гаражоў для аўтамашын і трактароў, з трэцяга боку — майстэрня. Гэта таксама прысадзістая, але намнога шырэйшая за гаражы будыніна, таксама са шлакаблокаў. Хваліўся неяк Паўлюк, што ёсць у майстэрні нават такарны і фрэзерны станкі, газа- і электразварка, кузня пры боку.

Адзін час нават усю сваю тэхніку тут рамантавалі, нікуды не аддавалі.

Дзядзьку Паўлюка знайшоў адразу, як толькі паставіў пры сцяне мапед і зазірнуў у шырокія вароты. Пасярод цэха на свабодным лапіку стаялі крукам ён і газазваршчык, углядаліся ў тоўсты ліст жалеза, расчэрчаны крэйдаю. Паўлюк штосьці яшчэ паказваў на лісце, адзначваючы кіпцем вялікага пальца. Сіні струмень агню з шыпам і сіпам вырываўся з сопла, рэзка пахла карбідам, акілінаю, мазутам. Зваршчык павярнуў крыху разак, і сіні струмень уеўся ў метал, запырскалі іскры.

А дзядзька Паўлюк разагнуўся, ступіў насустрач. Ён стомлена горбіўся, твар блішчэў, на нячыста пагаленым падбародку цямнела палоска сажы.

— Прыбыў, капітан? Што скажаш добрага? — і ўсміхнуўся прыветна.

Федзя з радасцю працягнуў яму руку, і дзядзька Паўлюк, зірнуўшы на сваю чорную далонь — каб жа хоць не запэцкаць чалавека! — падагнуў кісць, пад-

ставіўшы для пошіску цаўё рукі. І Федзя схапіўся за яго аберуч.

— Ды нешта машынерыя... зблышыла... Здаецца, рухавік заклініла. А мо так што? Сам я ў гэтым не вельмі кумекаю... Набраўся бяды, пазычыў — а як аддаваць рэч няспраўнаю? Паглядзіце, мо дасце якое рады. А я ўжо заплачу... колькі скажаце...

— Угу... Хаця б ты ўжо... заплаціў. Плаціла ў цябе не хопіць, як будзеш усюды раскідвацца.

Выйшлі з майстэрні, завярнулі пад сцяну, дзе ён прыхіліў мапед.

— І педалі амаль не круцяцца... Праўда, педалі і былі такія...— дадаў Федзя ніякавата. Ён то заміраў на месцы, то тупаў каля дзядзькі і мапеда, то схіляўся глядзець, што той робіць, дзе мацае, што пакручвае.

— Не круцяцца...— нібы сам сабе гаварыў дзядзька Паўлюк.— Як ён увогуле дасюль не рассыпаўся... Як той гоначны аўтамабіль у Ваўка. Мульцік з унукам глядзеў... Гоніцца Воўк за Зайцам на гоначным аўтамабілі, а той аўтамабіль разлятаецца на часткі пад ім, коцяцца колы ў бакі... Я ўжо казаў неяк: добры ёй мапед папаўся, столькі вытрымаў. Каторы раз глядзіш — ляціць, гойсае па калдобінах, па разорах... Скача, як рысак, сама над сядлом матляецца, у паветры. Чакаеш: вот-вот рассыплецца, вот-вот бразнецца, што і костачак не збярэ... Не! Чэрці не бяруць!..

Дзядзька памаўчаў, адхіліў мапед ад сцяны, паглядзеў з другога боку. Паспрабаваў завесці — рухавік нават не чыхнуў.

— Ну — чаго маўчыш? — спытаў Паўлюк, але Федзя нічога не адказаў, думаў, што слесар да матора звяртаецца.— Я ў цябе, капітан, пытаюся...

— А што гаварыць? Як казаў Крапіва, не можаш памагчы, дык лепей памаўчы.

— Ага-а... Гэта то праўда. Але я пра другое... У цябе што — сур'ёзныя намеры да гэтай малодкі?

— Да якое?

— Ну... даеш! А ў каго ты мапед пазычаў?

— У Гані.

— Нябось нават прозвішча яе не ведаеш?

— Вяршэня...

— То што?

— Ды не, дзядзька. Якія там могуць быць намеры!

— Праўда што... Якія могуць быць намеры? Перакуліў — і далей... Нават прозвішча не спытаў.

— Не так усё было... Не так! Не будзем, дзядзька, пра гэта...

— Ну, што ж... Не будзем, дык не будзем. Заўтра пад абед прыходзь забірай сваю машынерыю. Канешна, калі камбайнеры не прыбягуць чаго... у пажарным парадку. Ну і — калі можна будзе што зрабіць з мапедам. Вядзі за мною, паставім у бакоўку пакуль што...— І дзядзька Паўлюк пайшоў у майстэрню.

Ішлі праз увесь цэх, дзе сям і там грувасціліся нейкія вузлы і жалязякі, абагнулі двух рабочых, што апускалі на талі матор-дызель на раму ДТ. У вузкія дзверы ў сцяне Федзя ўнёс мапед на руках — высокі быў парог. Маленькі пакой патанаў у паўзмроку, акенца адно, квадрацік яго крыж-накрыж закратаваны, шыбы закопчаныя. Вакол дапатопнага канцылярскага стала, абшарпанага і замурзанага локцямі, стаялі такія ж мурзатыя табурэткі.

— Во сюды, у куток давай...— паказаў Паўлюк на супрацьлеглую сцяну ад акна і стала. Мапед заняў яе ўсю.— Я нічога табе не буду казаць, скажу толькі адно: ты як той нявопытны злодзей, што парася краў. Віску многа, а наедку мала... Трэба вам, таварыш вучоны, перамяніць месца жыцельства. І чым хутчэй, тым лепш: не любяць такога ў нашым сяле.

— Ды мы і самі ўжо думалі параязджаць. Тут абследавалі ўсё, што можна было,— сказаў Федзя і пакашляў: у словах раптам пачуўся і другі сэнс.

— Жонка мая чула. Як выбіралася Ганя — галасу на ўсё сяло было. І нешта мая ўлезла, уставіла тры капейкі. Дык Юльяна і на маю напусцілася... згнюсіла на чом свет стаіць... А нашто нам гэтая сварка? Мы з імі ўсю дарогу добра жылі, па-суседску... І хіба мы вінаватыя, што ты з Іванам у нас пасяліўся? Хіба мы цябе з Ганяю зводзілі?

Федзя адчуваў, што вось-вось не вытрывае, кіне-рыне ўсё, нагаворыць абы-чаго, пабяжыць куды вочы глядзяць...

І неяк паспешліва-нязветліва развітаўся — «Дык, значыць, заўтра», хуценька пайшоў з майстэрні, быццам чакала недзе яго пільная справа. Забыў і ключа ад хаты папрасіць...

2 Ледзь дачакаўся іх, седзячы на лаўцы пад плотам. А заявіўся Іван з дзяўчатамі на змярканні. На спіне горб рэчавага мяшка, у руках магнітафон, дзяўчаты ішлі амаль улегцы. Схуднелыя, загарэлыя, з чорнымі ад чарніц ратамі. Прынеслі і яму вялікі кулёк чарніц, тры прыгажунчыкі баравікі і нават рыбы ў цэлафанавым мяшэчку.

Як выявілася, яны ў Верхаўцах тую бабку ўжо не засталі. Памерла з паўмесяца назад. Вось табе і песні... Пашкадавалі іх там, разгубленых, і параілі ехаць у Сажаўку, яшчэ кіламетраў пяць далей. Там жыве дужа цікавы дзед, умее з кручанай саломкі ўсякія вазы і шкатулкі рабіць, яго вырабы нават на рэспубліканскай выстаўцы былі. І трэба ж такому здарыцца: не засталі ўжо і дзеда, памёр з тыдзень назад. Некаторыя яго вырабы сфатаграфавалі, праўда, што дома, а што ў школьным музеі. У школе быццам бы ёсць і невялікі гурток, дзеці пачалі былі вучыцца ў таго дзеда ўпраўляцца з саломкай — і не давучыліся... Дзе тых школьнікаў знойдзеш летам? Дый што яны маглі расказаць, паказаць? Нават для невялікага артыкульчыка не хопіць матэрыялу, не выснуеш думкі аб пераемнасці пакаленняў, аб жывучасці народных традыцый. Ну, а ад Сажаўкі ўжо рукою было падаць да Салігорскага вадасховішча. Дабраліся і туды, вудзілі з нейкімі «дзікімі» адпачываючымі рыбу, купаліся, загаралі, ганялі мяч. Іх нават падкінуў адзін рыбак на машыне назад — пятнаццаць кіламетраў, да Паплаўскага лесу.

— Так-такі — падкінуў? — усумніўся Федзя.

— А што? Ха-ха, мы яму спадабаліся,—легкадумна рагатнула Рыта-Маргарыта.

Федзя прыняў ад яе паднесены кулёк ягад, кінуў некалькі ў рот. Штосьці яму не падабалася ў паводзінах дзяўчат і Івана.

— Не так, не так! А вось як...— Іван, не беручы кулька з Федзевых рук, нахіліў яго і натрос сабе поўную жменю, сыпануў у рот.— І душы — зубамі, языком... Каб поўны рот было смакаты. Каб аж праз вочы, праз нос сок палез...

Федзя паспрабаваў і тут жа закашляўся — сок трапіў «не туды».

— І гэта... усё? — спытаў сіпла, скрозь кашаль.

— Рыба яшчэ...— Зіна расхінула мяшэчак, амаль

што сунула ў яго аблуплены ад сонца нос: мо нюхала, ці пахне?

— Прапаную, таварышы, развітальны баль! — падхапіў Іван.— Зварганіць юшку... на рэчцы! — скінуў урэшце рэчавы мяшок з плячэй, паставіў і яго, і магнітафон на лаўку.

— Далё-ёка... Мо кіламетр ісці,— капрызліва сказала Зіна.

— Я й так ледзь жывая...— узмалілася Рыта.

— Тады бачыце — вунь, у канцы агародаў, поплаў і кусцікі. Туды выйдзем! — не здаваўся Іван.

— Па-мойму, вы і так «падданыя»... А? Прызнавайцеся, што пілі...— Федзя ўрэшце зразумеў, чаму яны здаліся ненармальнымі: толькі што расказвалі пра тое, што памерлі і бабка, і дзед, расказвалі пра свае няўдачы — і тут жа нервова-бесклапотны смех.— Ну — чаго маўчыцё?

— Перастаа-а-ань...— з прыціскам і нечаканым раздражненнем сказаў Іван.— Рыбакі трошкі пачаставалі — падумаеш, важнасць! — сеў на лаўку каля рэчаў, адвярнуў твар ад Федзі. Дзяўчаты пастаялі-пастаялі — і таксама селі, справа ад Федзі. І ўсе заціхлі, налёт штучнай весялосці як рукою зняло, на тварах адбілася прыхаванае напружанне і непрыхаваны сум. Рыта-Маргарыта нават пахаўкала стомлена, паляпала долонькай па роце.

— Ой, таварышы-ы... так у цывілізацыю хочацца,— уздыхнула яна.— Ванну гарачую прыняць... Два тыдні ўжо бадзяемся, як непрытульныя.

Іван закурыў, і Зіна закурыла, кінула назад Івану запалкі.

— Ага... І ў рэстаранчыку пасядзець, патанцаваць. У «Журавінцы» ці ў «Папараць-кветцы»...

— Калі сядзець, то ўжо ў «Каменнай кветцы»,— катэгарычна запярэчыў Іван.— Там хоць і дарага, але... Такі кардэбалет... Дзяўчаткі ў ружовых трыко ножкамі ўскідваюць...

— Ой, каб бліжэй сядзела, то дала б грымака ў плечы... А мы хто — не дзяўчаты? — Рыта прыкінулася, што моцна абураецца Іванавымі словамі.— Амаль што стрыпціз рабілі на Салігорскім моры, а ён... нуль увагі, фунт зняваги.

— Э не...— пакруціў галавою Іван.— Вы так уз-

брыкваць не можаце. Ды вы ўсядно як свае — браты і сёстры.

— Мы яшчэ і не такое можам, але стрымліваемся. Мы сціплыя і прыстойныя! — сказала і рагатнула ў адказ на свае словы Зіна.

— Пайшло-паехала...— астудзіў іх Федзя.— Лепш скажыце, чаму Жэню адпусцілі.— Ён ні да каго канкрэтна не звяртаўся, а таму ніхто і не адказваў. І тады павярнууся да Івана: — Чаго ты адмоўчваешся? Ты ж заставаўся за старшага.

Твар у Івана ўвачавідкі схмурнеў і насупіўся.

— Табе лепш ведаць... чаму не ўтрымалі,— і ўстаў, адступіў на крок, узлёг локцямі на плот. Цыркаў за плот слінаю, цмокаў цыгарэтку, зноў цыркаў і далоняй разгладжваў русыя вусы — па-мужыцку.

— Кінь, Федзька, допыты рабіць. А то як мы пачнем — узвыеш! — суха і з нейкай непрыяззю вымавіла Рыта. Яе худаваты, нервовы твар набыў яшчэ больш рэзкія абрысы, пасінелі вачніцы.— І не корч з сябе начальніка, тут усе свае... І ўсе роўныя! — кінула цыгарэту ў пясок, уціснула кедам і пакруціла.

Белы ка-амень, белы ка-амень,
Белы ка-а-мень сто пудоў...
Горш за камень сэрца давіць
Раз-ні-шчас-ны-ыя любо-о-оў...—

праспявала на мелодыю «Волжских страданий» Зіна і ўздыхнула: «О-ох!»

— Пайшлі юшку варыць... пакуль рыба не пратухла! — рэзка паднялася Рыта, забыла і пра стому. Ухапіла за шлейкі рукзак, закінула на адно плячо — Іван не паспеў запярэчыць і забраў толькі магнітафон.

— Дзяўчаты, усе патрэбныя прычындалы бярыце ў сябе дома, мы да сябе не пойдзем,— паглядзеў Іван на Федзю і ўлавіў яго маўчлівую згоду.

— Ой, а тут акуні два ёсць! У іх жа такія калючкі! — Зіна ўзяла з-пад лаўкі мяшэчак з рыбаю і зноў сунула ў яго аблуплена-чырвоны нос. Не браў Зіну загар, твар так і заставаўся белы, толькі сям-там праступіла больш рабак-вяснушак.

— Рыбу падрыхтую я,— па-рыцарску, велічным жэстам прыняў Іван з яе рук мяшэчак.— Страшней за кошку звера няма...

Федзя заходзіў у двор, дзе жылі дзяўчаты, апошнім. Яму не заставалася нічога іншага, як падпарад-

кавацца «масам». У загул пусціцца ён не дазволіць, але паслабіць напружаныя нервы не зашкодзіць. Няхай пагуляюць, інакш «масы» могуць і ўзбунтавацца, і разбегчыся хто куды. Падраджаліся ж студэнты быць месяц у экспедыцыі, а да канца тэрміну яшчэ не скора. Зусім не па аналогіі ўспомнілася, як сваім настаўніцкім калектывам сустракалі Новы год. Хацелі пад звон Крамлёўскіх курантаў пачокацца бакаламі з шампанскім, чакалі ўсе, як стрэліць шампанскае, як забурліць бела-пеністы струмень і, вядома ж, некага абліе. І настаўніцы заранёй ужо вішчалі, хіліліся ў бакі, не ведаючы, куды ўдарыць шумлівае віно. А Федзя так прыціснуў белы корак, выблытаўшы яго з фальгі і дроту, што газ выйшаў праз маленечкую шчылінку з ціхім шыпам, і разлілося шампанскае ціха і спакойна. «Учылкі», старыя дзевы, чуць не набілі яго за гэты «пшык» — чакалі выбуху, а Федзя так ашукаў іх спадзяванні!

...І быў касцёр на лузе, былі юшка і чарка (сухое віно, яго ў магазіне было поўна, вясковыя не любілі «кісляціны»), былі песні — і надрыўна-лірычныя, і зухавата-турысцкія, пад гітарны перазвон (Рыта дастала ў суседзяў гітару), былі нават танцы вакол кастра. На танцы згадзіліся Іванавы запісы, была ў яго адна касета-стужка, прыхопленая з Мінска,— пракруцілі яе і раз, і другі на «магу». І пэўна ж дзіўна было глядзець на іх з вуліцы, з вёскі, як яны крыўляліся і выломваліся на фоне агню. Ніхто з вясковай моладзі да іх не падышоў...

Разышліся па кватэрах позна.

Паўлюк з Паўлючыхай не спалі — драмалі ў «зале» каля тэлевізара. Мо спецыяльна чакалі Федзю і Івана? Але як толькі яны з'явіліся, гаспадыня падалася насустрач, абышла іх бокам і знікла на кухні, не сказаўшы і слова. Гэта на яе не было падобна. Падняўся і дзядзька Паўлюк з канапы — яе трэба было раскладваць, хлопцы на ёй спалі.

— Так што, таварыш капітан, дазвольце далажыць,— звярнуўся да Федзі гаспадар.— Дыягназ твой правільны, хоць ты і гаварыў, што ў тэхніцы не петраеш... Заклініла матор... Скарэжыла там усё... Пераграэў, мабыць, здорава. А там, значыць, што можна было? Поршань памяняць, цыліндр растачыць... Але ў нас у майстэрні гэтага не зробіш. Дый ці варта шкур-

ка вырабу? Лепш купіць новы матор... А педаляў я не глядзеў, з імі можаш і сам пазабаўляцца, калі ахвоту маеш...— Дзядзька выключыў тэлевізар, уключыў яшчэ дзве лямпачкі ў трохражковай люстры.— Але ж круцёлкі гэтыя што? Ерунда на посным масле... Калі ў галоўным закlініла — у сэрцы, можна сказаць... Ну — кладзецеся спаць...— пайшоў таксама на кухню. Адтуль, з-за печы, быў у іх асобны ход у спальню.

У Федзі не было ўжо сілы што-небудзь рабіць, варушыцца. Іван сам дастаў з канапы пасцель, расклаў канапу і паслаўся. Хуценька раздзеўся да плавак — мускулісты, загарэлы. У Мінску яшчэ паспеў загарэць, на страсе інтэрната.

Выключыў Федзя святло, пачаў раздзявацца ўпоцемку.

— Хведар, ты чуеш? — пракрычаў раптам дзядзька Паўлюк скрозь перагародку.— Я прывёў твой вертаёт, у падпаветцы паставіў. Заўтра забярэш!

— Чую, чую...

Лёг, не накрываючыся нават просцінай.

Ну вось, засталося прычакаць тое заўтра. Перажыць тое заўтра... Павядзе ён гэты няшчасны мапед на свінаферму... Ці комплекс па гадоўлі парасят... Што скажа Гані? Як будзе выкручвацца? Тут бы самы раз зрабіць рыцарскі жэст — заплаціць ёй за гэты мапед або... купіць і прывезці новы. Але не было ў яго такіх грошай, усё, што ў халасцяцкім жыцці зэканомілася, пайшло на экспедыцыю, на фотаапараты... Дый не прыме Ганя грошы ці новы мапед.

Іван лёг быў на бок, да сцяны тварам, і нават усхрапнуў знарок — мо каб паказаць, што не хоча з ім весці ніякіх размоў? — і сам не вытрываў, павярнуўся на спіну.

— Захварэў і я на сэрца... Во, не мог і пяці хвілін на сэрцы вылежаць. Ведаеш, тая бабка, што не засталі мы... ну што памерла...

— Ага...

— Загадала перад смерцю, каб усё *сваё* на яе адзелі, свайго вырабу. І ўсё датла... тры кашулі, тры андаракі... каб нічога не засталося. Цёткі ўгаворвалі, што нельга так рабіць, а яна заўпарцілася, хоць рэж: «Хай будзе са мною». Яшчэ і адчытала цётак, што ўгаворвалі: «Я ж хачу, каб пазналі мяне там... каб ведалі — адкуль...» Пачуў я такое — слёзы пасыпаліся...

От табе і цёмная, несвядомая бабулька! Ды мы ж і ў падноскі ёй не гадзімся са сваёй высо-о-окай свядомасцю!

— Супакойся... Мы ж не сядзім склаўшы рукі.

— У-ум-м...— застагнаў Іван. Праз якую хвіліну дадаў: — Пісьмо Жэня пакінула... Трохкутнічак, як салдаты ў вайну прысылалі. Там і маё прозвішча было напісана, пагэтаму ўскрыў...

— Ну!

— А нічога... Спі спакойна, дарагі таварыш. Дзелавое паведамленне: усе схемы крою адзення пачарціла, адзенне раздала бабкам.

— І ўсё?

— І ўсё... Чарцяжы на стале, у папцы. Нават «Да пабачэння!» не напісала... Толькі вусна ўжо сказала... дзяўкі ж праводзілі яе на аўтобус... Што абставіны не дазваляюць ёй быць тут — ну і гэтак далей...

Федзя рэзка павярнуўся на правы бок. Тады і Іван гайдануўся, ажно застагналі пад ім спружыны, лёг на левы, буркнуў: «Дабранач...»

## 3

Жыта за гэтыя дні было зжата, роўнае поле пачэрчана радамі саламяных коп. Будынкі фермы неяк нязвыкла агаліліся і нібы выраслі. Федзя набліжаўся да іх, вёў апастылелы мапед і адчуваў сябе вельмі няўтульна, нібы на пройме. І чым бліжэй падыходзіў, тым больш дзівіўся: як непадобна гэта ферма на тыя, якія даводзілася бачыць,— хоць бы ў сваім калгасе ці ў тым, дзе настаўнічае. У вёсцы, дзе ён працаваў у дзесяцігодцы, была звычайная старасветчына — два доўгія будынкі (сцены драўляныя, у цагляных шулах) і паміж імі хатка-кармакухня. Адзін пакойчык у кармакухні лічыўся і кабінетам загадчыка, і чырвоным кутком. Там і выступалі настаўнікі перад свінаркамі з гутаркамі і дакладамі. А тут, у Паплавах, ферма (ці комплекс, па-навуковаму) займала вялікую, як скінуць вокам, плошчу. Тэрыторыя са шматлікімі белымі прыземістымі будынкамі абнесена загараддзю з бетонных рашотак. Яшчэ крыху наблізіўся і разгледзеў: гэта не асобныя будынкі... Тры зліты ў адзін, страха зверху гармонікам, у тарцовых сценах шырокія вароты. Гэты трыадзіны будынак злучаны корпу-

сам-папярэчкай, яшчэ з такімі ж ці такім жа трыадзі-ным будынкам з такой жа страхой-гармонікам. Сямтам раскіданы па тэрыторыі яшчэ некалькі і большых, і меншых пабудоў, вадакачка. А дарога-высыпанка прывяла да шырокага пясчанага пляца перад двухпавярховым будынкам Дома жывёлавода. Тут тоўпіліся грузавікі, адзін стаяў напагатове, нацэліўшы рыла на металічныя, з арматурных прутоў, вароты каля прахадной-будкі. Крыху ў баку ад грузавікоў драмала блакітная «Волга». Чацвёра шафёраў збіліся кучкаю каля аднаго грузавіка і курылі, на Федзю глянулі абыякава.

«Не тутэйшыя... Гэта добра,— зазначыў сабе ў думках.— Дзе тут каго папытаць?» Ён абышоў машыны, пакіраваў да бетонных прыступак увахода ў Дом жывёлавода, прытуліў мапед да сцяны. Так, ён не памыліўся, гэта Дом жывёлавода, пра гэта і шыльда справа ад дзвярэй гаворыць. А злева ад дзвярэй другая шыльда: «Рэпрадуктарны свінагадоўчы комплекс».

Падняўся па прыступках...

І трапіў у прыхожую. Адсюль лесвіца вяла на другі паверх. Наверх не палез, там, здагадаўся ён, зала: яшчэ знадворку прыкмеціў на другім паверсе шырокія і высокія вокны. Пайшоў у дзверы направа і апынуўся ў светлым калідоры з многімі дзвярыма насупраць акон. Пахла нечым рэзкім, нібы бальнічным. Прайшоўся паўз дзверы... «Цэнтральная лабараторыя»... «Бухгалтэрыя»... «Загадчык комплекса»... «Заатэхнікі»... «Генетыкі»... Ажно спыніўся, яшчэ раз перачытаў тое, на апошняй шыльдзе, слова. «Ну і ну... Куды я трапіў?» — паківаў сабе галавою.

Вярнуўся да дзвярэй загадчыцы, тузануў. Зачыненыя!.. Тады пачаў тузаць за ўсе па парадку. Адчыніліся толькі дзверы лабараторыі, і Федзя ўбачыў дзвюх маладых жанчын у белых шапачках і белых халатах. Адна сядзела за сталом ля акна, разглядала штосьці ў мікраскоп. Другая чымсьці пазвоньвала каля століка, што стаяў пры глухой сцяне, каля яе было шмат усякіх прыбораў, колбаў і металічных каробак-боксаў.

— Прабачайце, дзяўчаткі... Я ўжо думаў, што і тут нікога няма, ірвануў з усяе моцы.

— А вы заходзьце, калі смелыя,— загадкава ўсміхнулася тая, што сядзела перад мікраскопам — ску-

ласценькая, моцна загарэлая, з падмаляванымі вейкамі і вачніцамі.

— А каго вы шукаеце? — адвярнулася да Федзі тая, што была пры сцяне.— Усе ў цэхах: прыехалі хапуны з адкормачнага.

Не паспеў адказаць.

— Вам загадчыцу, я ведаю, трэба,— усмешка ў тае, што сядзела перад мікраскопам, зрабілася шматзначнаю.

— А чым жа мы горшыя за Ганю? — падключылася да гульні другая.

— Дзяўчаткі, я спяшаюся. Як бы гэта яе хутчэй пабачыць? — Федзя прыдаў голасу больш строгасці і дзелавітасці.

— Шкада! І так вось заўсёды... Як толькі трапіцца прыемны малады чалавек, абавязкова ён спяшаецца да другой,— тая, каля мікраскопа, знарок гучна, як не са стогнам, уздыхнула. Нахілілася з боку мікраскопа над сталом, бліжэй да падобнай на радыёдынамік каробкі, пстрыкнула клавішам-пераключальнікам: — Другі цэх! Другі цээ-эх!..

І яшчэ некалькі разоў пагукала, але не пачула адказу і тады паклікала трэці цэх. З рэпрадуктара даляцеў задыханы і крыху спалоханы жаночы голас:

— Тутака трэці цэх! Слухае трэці цэх!

— Насця — ты?

— Насця ў другую змену. А я аператар Каленік Матруна... Самусёва.

— Цётка Матруна, будзеце багатыя: я вас не пазнала,— твар першай лабаранткі асвятліўся ўжо цёплай усмешкай.— З лабараторыі, Ліда... Ганна Яўсееўна не ў вас?

— Не, яшчэ не прыйшлі да мяне... Як на іголках сяджу! У другім цэху яны, у Алены.

— Маўчыць другі. Няма ў аператарскай Алены... Занятая, мабыць, і яна, і загадчыца, і адбіральшчыкі.

— Мо там, мацней пагукайце! — пакрапчэў голас цёткі Матруны.— От, трасца яе!.. Зарвала ёй, ці што? А мо каробка гэта, што гаворыць, сапсулася? А што трэба перадаць? Мо я падскочу туды... Усядно трэба ісці памагаць.

— Цётка Матруна, падыдзіце і шапніце Вяршэні на вуха, што адзін... ну — малады чалавек хоча да яе на спатканне прарвацца... З гэтых, што песні збіраюць.

— А-а, кавалер... То бягу, бягу.

Федзя адчуў, што ў твар робіцца горача. Прыхіліўся да вушака, апусціў вочы долу.

— А вы сядайце, таварыш студэнт, у нагах праўды няма,— тая сказала, што была каля дальшага стала.— Як вас завуць, скажыце, ці добрую маеце жонку?

— А нічога кабетка, Валяй зваць. На вас трохі падобная...— вырашыў і ён падтрымаць узяты імі тон.— Такая ж вострая на язык.

— То мо і дзеці ёсць? — гэтая папытала, што каля мікраскопа.

— А як жа без дзяцей? Тры хлопчыкі і тры дзяўчынкі.

— Ог-го! Бацька-герой! — разам усклікнулі лабаранткі.

— Не — маці-гераіня. Два разы па тройні нарадзіла. А чым вы тут займаецеся? Сумная ў вас работа!

Лабаранткі хуценька пераглянуліся, нібы штосьці папыталі адна ў аднае вачыма. У чорных вачах гэтае, што сядзела каля мікраскопа, заскакалі чарцяняты.

— Можа, і вы хочаце паглядзець у мікраскоп? — яна ўстала з табурэціка, даючы яму месца.— Сядайце, сядайце! — нават голас павысіла, бачачы яго нерашучасць.

Федзя насцярожана, баючыся якога падвоху, сеў верхам на табурэцік, нагнуўся вачыма да акуляраў.

— Калі не відаць, пакруціце во за гэта,— параіла лабарантка.

— Штосьці відаць... каламута нейкая.

— А цяпер? — лабарантка чагосьці капнула на прадметнае шкло.

— Ого! Ого-го, які вэрхал... Нейкія апалонікі кішаць, круцяцца.

— Эліта. Эстонская беконная парода. Семя першага класа.

Федзя ўстаў, чуючы, як зноў палаюць шчокі. Не ведаў, што гаварыць, як сябе паводзіць. На шчасце, выручыў дынамік:

— Фёдар Іванавіч! Фёдар Іванавіч!

Скуласценькая націснула на клавіш.

— Тут ён, у цэнтральнай лабараторыі, Ганна Яўсееўна! Аналіз семя праводзіць!

— Дзяўчаты, вы там не вельмі здзекуйцеся над ім... Фёдар Іванавіч, я зараз вельмі занятая! Пакупні-

кі з адкормачнага комплексу прыехалі. Давайце заўтра сустрэнемся, а? Я пакажу і раскажу ўсё, што ў нас робіцца. І ўсіх сваіх прыводзьце!

Федзя таксама нахіліўся над сталом, з другога боку мікраскопа, націснуў на клавіш:

— Мы сёння ад'язджаем, Ганна Яўсееўна. Праз гадзіну аўтобус.

— Тады ідзіце на прахадную, я скажу дзеду Якубу, каб прапусціў. Якуба Мінавіч! Якуба Мінавіч!..

Федзя тут жа павярнуўся да дзвярэй, забыў нават даць «Да пабачэння!».

— Малады чалавек! Хвіліначку, мы павінны і вас праверыць... пад мікраскопам.

— ???

— Беспародных на ферму не пускаем!

Федзя шмыгнуў за дзверы, а ўслед сыпнуўся раскацісты і звонкі рогат.

«Пападзіся такім... Штаны здзяруць і саломай напхаюць...»

Федзя меркаваў, што ўбачыць дзядка-байкара, гэткага кіношнага дзеда з бародкай, як у шолахаўскага Шчукара. І трохі расчараваўся. Дзед быў безбароды, але з доўгімі вусамі, рукаты. На ім свабодна вісела жоўтая спецвопратка, крыху падобная на форму, у якой фарсяць студэнты — байцы будаўнічых атрадаў, толькі куртка была інакшага пакрою. Дзед ціха, без рыпу расчыняў насцеж вароты, а грузавік перад імі нецярпліва пагазоўваў.

— Ты не падганяй мяне! Не падганяй! Выйдзі і патапчыся па падушцы! — стаў перад машынаю і паказаў шафёру рукою на дол, за сябе.

— Ды я і з машыны не б-буду вылазіць! — нервова і крыху заікаста сказаў шафёр, высоўваючыся ў акенца.

— Ты яшчэ пагавары, то зачыню вароты — і ўсё... Стой! — заўважыў Якуба Федзю, які хацеў прашмыгнуць паміж машынаю і тоўстым слупам-трубою.

— Я патапчуся... Во! — Федзя зайшоў на вялікую і шырокую, на ўсе вароты падушку ззаду дзеда — нечым злітую тырсу ў раме з бярвенцаў.

— Стань у старонку і чакай! З табою асобная размова! — строга загадаў дзед.

Тым часам і шафёр нехаця вылез з машыны, нехаця патаптаўся па тырсе.

— Цяпер на вагі заязджай! — скамандаваў дзед, і грузавік асцярожна, як цераз ваду, пераехаў цераз каранцінную падушку, заехаў на вагі пад стрэшкай. Якуба стаў на кола, зглянуў у кузаў, зайшоў у будачку пры вагах — запісаць нумар грузавіка, запісаць вагу машыны. Хутка і выйшаў.

— Цяпер паганяй... Вунь эстакада, бачыш! І каб з кабіны ні шагу, бо штрафану! — пайшоў да Федзі: — Прозвішча як?

— Сухавей.

— На вас атрыманы дазвол. Я зараз...— Дзед зайшоў у прахадную каля варот.— Вось, працірайце рукі...— выйшаў ён і падаў пінцэтам камяк ваты. Камяк быў нечакана важкі і вільготны, з непрыемным пахам.

Федзя праціраў рукі, і яму рабілася весела ад усіх гэтых строгасцяў. Куды ён папаў, бацюхны? Дзед завінуўся і вынес яму плёнчатыя мяшэчкі, склееныя па форме нагі, з завязкамі, і белы халат.

— Вату сюды кіньце, у бачок... А халат у рукавы адзявайце, у рукавы! Хітрыць не трэба.

— То нашто гэтыя бахілы? Я ж таптаўся па тырсе! — запратэставаў было Федзя.

— Адно аднаму не зашкодзіць. Вы ведаеце, колькі ў нас тут жывёлы? Дудкі, адкуль вам ведаць. У нас кожныя два тыдні па трыста парасят купляюць. Круглы год! Гэта вам не хунт ізюма. А ведаеце, што можа нарабіцца, калі інфекцыю занясуць? А ў адкормачным комплексе, думаеце, як? Прывязуць парасят і адразу да сваіх пускаюць — «Здрастуйця, я ваша цёця!». Дудкі! У ізалятар іх на месяц. А думаеце, адседзяць яны ў ізалятары, і ўсё, можна адчыняць бюро экскурсій, турыстаў прымаць? Дудкі! Ніхто на комплекс не зойдзе, ні кум, ні сват, ні брат. Акром персаналу абслугі, аператараў. Наш старшыня туды ездзіў, і Вяршэня... То, думаеце, дырэктар іх пусціў далей свайго кабінета? Дудкі! «Наце, глядзеце...» — уключыў ім тэлевізар — адзін цэх паказаў, другі. І ўсё! І бывайце здаровы!

— Скора і ў вас будзе тэлевізар на свінаферме,— пажартаваў Федзя.

— На нашым *комплексе*...— дзед са смакам выгаварыў гэтае слова, з націскам: вось, маўляў, як трэба называць,— на нашым комплексе будзе тэлебачанне, як другую чаргу пабудуюць.

— Ну — усё, Якуба Мінавіч. Аблачыўся, хоць на Месяц можна ляцець.

— Значыць, так... Глядзі сюды... Во справа, дзе парасяты з балалайкаю на сцяне намаляваны, гэта цэх асемянення. Нечага туды хадзіць, там справа ду-у-ужа далікатная... У нас кожная матка па два разы на год паросіцца, мы не чакаем міласці ад прыроды. Усё — па скальзячым графіку, круглы год...

— Кгэк-мм...— дзеду спадабалася пахвала.— Каля гэтага цэха першы ў манаблоку цэх лёгкапаросных матак... Тады цэх парасення, другі, тады ідуць цэхі гадунцоў, мы парасят трымаем да трох месяцаў. От у другі і кіруй...— дзед узяў з-пад сцяны прахадной чорны, скручаны ў пляскатае вялікае кола, шланг, пачаў разматваць.

— Знайду, дзядзька, дзякую.— Але Якуба ўжо не слухаў.

Усё было дзіўнае і незнаёмае, і сам комплекс, і парадкі на ім. На тэрыторыі — дарожкі, пасыпаныя пяском, газоны, кусты бэзу, маладыя дрэўцы, прывязаныя да двух калоў. Паўз бардзюры цвілі радочкі астраў. Азірнуўся ў бок прахадной — Якуба пырскаў з шланга ўгору, крапіў на дзве невялікія клумбы каля ўвахода, і ў пырсках гарэла вясёлка. Палюбаваўся і на трох намаляваных парасят. Старыя, з дзіцячых гадоў, знаёмцы — Нуф-Нуф, Наф-Наф і Ніф-Ніф. Вытанцоўваюць, усмешкі да вушэй. Ніякага гора ў іх, ніякага ўяўлення, для чаго іх пускаюць на свет гэткім механізавана-індустрыяльным спосабам.

Федзя забыў на момант, для чаго трэба яму гэтая сустрэча з Ганяй. А задумаўся, то пачаў складаць нейкія фразы для апраўдання і сам сябе абарваў: усё гучала фальшыва і непераканаўча. Не заўважыў, як падышоў да шырокіх бліжэйшых варот, тузануў за ручку ўрэзаных у кватэрыну дзверцаў...

Рохканне, шматгалосы піск, пошум вентылятараў... Абапал прахода станкі, станкі, станкі з пафарбаваных у чорнае труб. І ў кожным то ляжаць як горы і стогнуць свінаматкі — адны пакуль што, то каля іх варухлівыя клубкі парасят — поўзаюць, штурхаюцца, змагаюцца за месца каля чэрава. Адны яшчэ ружовыя і маленькія, худыя, другія ўжо белыя і таўсматыя. Мно-

га іх, цэлыя плоймы, ажно ў вачах стракаціць. У адным станку заўважыў дзвюх жанчын, адна ў белым халаце, другая ў форменным жоўтым адзенні, і зразумеў, чаго яны тут. Ён убачыў *таінства*, якога яшчэ ніколі не бачыў. Свіння нібы выпульвала з лона парасят — аднаго за адным, мо кожную мінуту, і была такая вялікая жыццёвая сіла ў іх, што парасяты адразу спрабавалі станавіцца на ногі, квола дыбалі бліжэй да мацярынскіх набраклых саскоў. «Трынаццатае... Чатырнаццатае... Ай жа малайчына!» — «Вы тут пасачыце, а я ў дзевяты станок — там пачынаецца...» — жанчына ў форме кінулася да дзверцаў і на момант аслупянела, заўважыла Федзю. «Чаго вы тут не бачылі? Хто вас сюды пусціў?» — «Прабачце... Я Ганну Яўсееўну шукаю...» — прамармытаў ён і хутка пакіраваў да выхаду. «Ну дык і шукайце... І нечага тут! У парасятніку шукайце, дзе гадунцы...»

Яны разышліся-разбегліся ў розныя бакі, Федзя ўздыхнуў вольна толькі на двары, але ўсё роўна яго не пакідала ўражанне ненатуральнасці ўбачанага, нібы і ў парасенне ўжо ўмяшаліся людзі, звялі гэты працэс да чагосьці механічна-аўтаматычнага. *Індустрыяльнага працэсу.*

У цэху нумар два была гамана-сварка, Ганя «цапалася» з тоўсценькім чалавекам з блакнотам у руках. Яшчэ некалькі жанчын і мужчын у белым то расхаджвалі па праходзе, то стаялі каля станкоў, звесіўшы галовы цераз загародкі. Федзя прыстояў у пачатку прахода-калідора, бо адразу трапіў у бела-варухлівы паток падгадаваных парасят. Іх гнала насустрач яму дзяўчына-аператар у форме. Парасяты то брылі пакорліва і абыякава, то трухалі весела і спрабавалі падскокваць, нібы радаваліся, што пусцілі на волю. Некаторыя нават патыцкаліся мордачкамі Федзю ў штаніны, нібы не бачылі, куды ісці. Усе роўненькія, аднолькавыя, доўгенькія — нібы вытачылі іх на адным такарным станку. «Вытворчасць, пастаўленая на паток...» Пратупацелі — і Федзя падаўся бліжэй да народу.

Ганя яго яшчэ не заўважыла, і ён нават трошкі панаглядаў за ёю. *Такое* Гані ён яшчэ не бачыў, і можна было ўсумніцца — ці яна гэта. Стройная, у белым, перацягнутым паяском халаце, строгая і нават уладная, поўная годнасці. І — гаспадыня, якой даручана вялікая справа, якая адказвае за гэту справу.

— А гэтых я куды дзену? — наступала яна на таўсцяка.

— А куды хочаце, мне што...

— Так толькі купчыкі і абдзіралы робяць, якім начхаць на дзяржаўныя інтарэсы.

— Но-но-но, Ганна Яўсееўна! Давайце не будзем зневажаць адно аднаго. Я проста выконваю дагавор, пад якім стаіць і ваш подпіс.

— Дык чым яно горшае за тых? Чым? Што вагі крыху недабрала? Дык мы ж на гэтым трацім, а не вы, вы менш заплаціце!

— Задохлік, і дваццаці кілаграм не пацягне. А па дагавору — не менш трыццаці павінна быць.

— На рэпрадуктарныя комплексы вам начхаць! Вам бы толькі сваё ўрваць!

— Крыўдуйце самі на сябе. Трэба было самім зрабіць выбракоўку, падкарміць слабейшых.

— Лішнія затраты зробім, а вы зноў не возьмеце? — Ганя толькі зараз сустрэлася позіркам з Федзем, і ў яе твары штосьці змякчылася, пасвятлела.

— Вось я вас і злавіў, таварыш Вяршэня. Калі вы ўмееце затраты лічыць, то і мы ўмеем... Ды чаго вы так на мяне насядаеце? От гэтых я поўнасцю бяру, увесь станок... Выганяйце ўсіх! — грабануў над станком рукою таўсцячок і пайшоў да суседняга, пашаптаўся з мужчынам у белым, што дасюль разглядаў парасят.— І гэтых усіх... Не, за выключэннем аднаго — ву-унь таго!

— Алесь Мікітавіч! Падмяніце мяне на хвілінку, я зараз...— звярнулася яна да маладога мужчыны, які маўкліва суправаджаў яе і ў час сваркі ўстаўляў часам па слову, па два, памагаў «ціснуць» на таўсцяка. І Ганя хутка пайшла да Федзі, рукі ў кішэньках халата. З кожным яе крокам вочы мякчэлі, у іх з'явіліся цяпло і журба, яны яшчэ на падыходзе пыталі-прасілі: «Ну што, родны мой?..» А мо яму толькі здалося? Бо кінула амаль афіцыйна: «Здароў, Фёдар Іванавіч!», узяла яго за локаць, адвярнула ад людзей і гэтак павяла ў пачатак калідора-прахода, да дзвярэй амаль.

— Дык едзем мы... Развітацца зайшоў...— Федзя не мог доўга вытрымаць яе позірку, як хлапчук, апусціў вочы.

— Калі... зноў сюды?

— Не ведаю. Мо ніколі.

— Шкада, Фёдар Іванавіч...

— Можа, і мне шкада... Але абставіны, як кажуць, вышэй за нас.

А хацеў сказаць: «Не магу я так... На такім становішчы каля цябе быць». А яна сказала, паўтарыла тое самае:

— Шкада, Федзя... Ты будзеш мяне ўспамінаць?

— Ага... Ну, гэта... Ехаць трэба... Праграму не выконваем... Я табе мапед прывёў — пад сцяною Дома жывёлавода,— пралепятаў зусім вінавата.

— Дзякую.

— Табе дзякую! Я павінавацiцца хачу — сапсаваўся ён у дарозе... Паўлюку паказваў — кажа: заклініла матор...

— Ой, дык ты, мабыць, нагараваўся з ім? — Ганя спачувальна паглядзела яму ў вочы, і ў яе вачах бліснулі іскрынкі-слёзы. Слоў Федзі нібы не чула.

— Сэрца, кажа Паўлюк, заклініла. Мяняць сэрца трэба...

— Памяняю... Зраблю трансплантацыю...— Губы яе задрыжалі, яна апусціла галаву, прашаптала: — Або зусім выкіну!

Федзя глянуў на яе смялей. Ганіны губы, хоць яна старалася іх прыкусіць, стрымаць, дрыжалі зваблiва і квола, іх нясцерпна хацелася цалаваць.

— Бывай...— першы падаў руку, і Ганя працягнула сваю — цёплую і, здавалася, бязвольную. Рука яе выкоўзвалася з яго рукі доўга, ён стрымліваў яе за кончыкі пальцаў.

Упала яе рука, апусцілася і яго.

— Бывай!..— Ганя раптам рэзка павярнулася, устрэпнула галавою і пайшла, паскараючы хаду, нібы баялася, што Федзя і праўда кінецца яе спыняць і перапрошваць.

І ён быў блізкі да гэтага...

Але — штурхнуў плячом дзверцы, валіўся на двор. Аслеплены сонцам, зажмурыўся, задыхаў на ўсе грудзі, як вынырнуў з-пад вады. І рынуўся ўперад з напругай, нібы трэба было рассякаць стрэчную магутную плынь.

Ён не ўяўляў, які смешны ў гэтых плёнчатых мяшках на нагах, не заўважаў, што наступае на іх, блытаецца, спатыкаецца...

На той рэйс, што меркавалі, спазніліся. З-за яго. Іван і дзяўчаты яму, праўда, і слова не сказалі, хоць у вачах было асуджэнне і насміх: да чаго дакаціўся чалавек! Паехалі толькі цераз паўтары гадзіны і вылезлі ў Старобіне.

Вырашылі спыніцца тут на дзень-другі, Федзя меркаваў, што ўдасца здабыць нейкія факты для навуковай працы Лямешкі (той хацеў прасачыць, як наступленне індустрыі і урбанізацыя ўплываюць на жыццё фальклору, этнаграфічны ўклад насельніцтва). Абедалі і заадно вячэралі ў рэстаране, потым сядзелі ў кіно на нейкай дапатопнай карціне, чакаючы, пакуль гасцінічная «цётка Шура» паселіць дзяўчат у адзіны нумар, які вызваляўся. «Жыцця няма з-за Салігорска... Нейкія мантажнікі ўжо месяц жывуць... І вяселле, госці, будуць начаваць, і турысты з Бярдзічава — у Хатынь едуць... А вам, хлопцы, я на раскладанках пасцялю, у калідоры — добра?»

А назаўтра цэлы дзень ішоў дождж. Круцілі свае запісы і знудзелі, збіўшыся разам у дзявочым нумары. Федзя з Іванам то бегалі купацца (Случ была блізенька, толькі мінуць сквер), то прыносілі вядром з кафэ піва. Дзяўчаты двойчы наведалі універмаг — раскошны будынак, ён нібы і не для Старобіна прызначаўся, але не вышукалі ніякага «дэфіцыту».

Яшчэ праз дзень Федзя прывёз усіх у сваю Дуброву — пазнаёміў з мачыхаю, з Аляксандрай Піліпаўнай. Хопіць каля яе работы Івану і дзяўчатам на некалькі дзён. А сам адпрасіўся адскочыць на дзень у Мінск.

## Раздзел чацвёрты

І

Ніхто не ведаў, нават Лявошка (а мо здагадваўся?), які шашаль-тачыльшчык завёўся ў Настасіных мазгах, якая грызь грызе яе сэрца. Дзень у дзень, ноч у ноч. Нейкую спадзеўку мела на бацькава вяселле. Прыслугоўвала-завіхалася, натупалася-нанасілася — два дні ног не чула ад стомы. Сама не прысядала за бяседны стол, не ела, не піла — ажно моташна зрабілася. Але ўсё стрывала — хто ж бацьку паможа, калі не родная дачка? І ўсё спадзявалася: пачнуць пад чарку гаварыць усякія пажаданні бацьку

і мачысе, то мо і ён у адказ устане і скажа дзецям сваім, ёй, дачцэ,— як далей што будзе. У такія важныя, пераломныя моманты ў жыцці шмат гаворыцца значнага і вырашальнага. Яна ж аднаго чакала: слова пра дом, новы дом. Чый ён ёсць цяпер, каму застанецца? І нічога не дачакалася, пра дом бацька і словам не ўспомніў.

Былі і раней моманты, да бацькавага вяселля яшчэ. Купіў Косця ў магазіне вялікую бляшанку блакітнае фарбы з надпісам «Гатовая да ўжытку», захацеў перафарбаваць веранду. Пра ўкрывістасць было напісана на наклейцы (слоўца якое мудрагелістае!) — колькі грамаў фарбы ідзе на адзін квадратны метр. Сядзела на табурэтцы, усё трымала цяжкую, як камень, бляшанку, цвердзіла сабе гэтае незнаёмае слова «ўкрывістасць», а ў галаве было адно — дом. «Мо не трэба, Косця... Можа, мы кватарантамі тут жывем...» — падумала ўголас. А Лявошка толькі зірнуў на яе строга і працягваў работу — і скаблом, і наждачнаю паперай-шкуркаю здзіраў старую фарбу: патрэскалася яна, абсыпа́лася з дошак і аконных рам лупінамі — фарбавалася калісь наспех, без пакосту. Вымавіў урэшце: «Кватаранты таксама... павінны трымаць у парадку жыллё, рабіць дробны рамонт. У казённых кватэрах, у горадзе так робяць». Нічога тады не сказала Настаса Лявошку, бо зноў задумалася.

А мо і добра, што такое намысліў Косця? На вачах у бацькі і мачыхі... Як, урэшце, бацька паставіцца да гэтага, як зрэагуе? Нават сама забіралася на табурэтку і квецала квачом там, дзе не мог Лявошка дастаць з долу. А сама ўсё касіла вокам на бацькаў падворак — мо выйдзе хто, ён ці мачыха, мо што скажуць! І бацька выходзіў, і мачыха выходзіла — нічога не сказалі, не падышлі.

Што ж бы гэта значыла? Можа, маўкліва прызналі за імі гэта права, як і права на ўласнасць? То падышоў бы і сказаў: дом твой, дачка, то вы ўжо самі і глядзіце яго... Тое і тое яшчэ трэба вам зрабіць, а даведзяце да ладу поўнасцю — то і жывеце здаровенькія. «А мне і ў старым добра, колькі там пажыць засталося... Звякую ў старой хаце...» А мо проста бацька не звярнуў увагі на іх завіханні каля веранды? У яго ў самога было і клопатаў і завіханняў, сам распачаўся гарадзіць перагародку.

І вось ужо і вясельнае застолле адбылі, а ўсё засталося, як і раней. Старыя жывуць у старой хаце, а яны, маладыя,— у новым доме. І ні слова, ні паўслова пра сітуацыю ні той бок, ні гэты.

— Каб ты не затыкаў мне рот, то я даўно папытала б. Напрамую! — папікнула раз Настаса Лявошку.

— Не смей! — ускіпеў ён зразу, як малако на вялікім агні.— От жывеш, дык і жыві...

— Ты мне ўжо гэта тры гады гаворыш!

— І яшчэ дваццаць тры буду гаварыць.

— Дык што гэта за жыццё?! — ажно ўсхліпнула яна.

— За!.. мал!.. чы!..— Лявошка, калі сварыліся, амаль заўсёды пераходзіў на рускую мову. Яму здавалася, што так мацней можна краянуць.— Чаго ў цябе не хапае? Страха ёсць над галавой, есці ёсць што, адзенне, грошы... З жыру бесішся!

— Хаджу, усміхаюся, як «прасці госпадзі», і ёй, і яму... А сэрца ржа точыць.

— А я думаў — дачка ты яму. Баішся ўсміхнуцца... А ржу счысціць трэба. Адатры добра з пясочкам...

— Разумненькі зрабіўся... Чаго ж ты сваю старую хату не прадаеш, кварцірантаў пусціў? Нейкія ж задція думкі трымаеш.

— Ні задніх, ні пярэдніх... От жывуць людзі, то хай жывуць.

— І пакупнікі знаходзіліся... Настаўнікі тыя... А цяпер дагніе стоячы. Каму яна патрэбная? Мураванкі вунь прадаюцца, і то няма каму купляць.

— Нашто настаўнікам наша хата? Правільна зрабілі, што адумаліся. Сёння — тут, заўтра — там... Класы вунь пазакрываліся, няма каго вучыць...— Лявошка ўтыкаўся носам у газету, абы каб не гаварыць з ёю.

А можа, і праўда дарэмна яна сябе мучыць? Мо і праўда ўсё ідзе нармальна? З мачыхаю ж добра ўсё, і мачыха да яе добра. Нават колькі разоў карову Настасе даіла, у дзвюх руках вёдры несла, ад дзвюх кароў. Хвалілася Аляксана, што толькі дзяняшняе малако сабе пакідае, а ранішняе і вячэрняе прадае малаказборшчыку. Глядзі, скора і грошы вернуць, што на карову патрацілі, на сена... І з Віцькам пасябравала, прыняў яе малы, пацягнуўся да яе, гуляць да старых бегае. У садзік не запраторыць, не любіць у садзік хадзіць, кожны раз са скандалам... Часам уплящецца за

вядро — «І я пайду карову даіць!». І бярэ мачыха з сабою, умее з малым... Больш у яе цярпення і нерваў, чым у Настасы.

...Яна колькі разоў спахопвалася: не разумее, што паказвае тэлевізар, пра што гавораць людзі. І зноў ці прыдрэмле, ці адрываюцца думкі ад экрана, сягаюць далёка. «Дзе ён засіліўся? Сцямнела ўжо, адзінаццатая гадзіна...» Прыцішвала яшчэ больш гук, хоць тэлевізар і так шаптаў, падыходзіла да акна, шырэй расчыняла створкі. Мо тарахціць ужо яго тарахцёлка? Колькі разоў ён яе ўломваў, каб купіць нармальную машыну, з ручным кіраваннем... Каб можна і сям'ю пасадзіць, праехаць, як людзі. А ўсё супраціўлялася яна, шкадавала грошай. «Хай бы ўжо і купляў... Хай... Намучыўся ён з гэтым драндулетам. Летам яшчэ нічога, а зімою...» Колькі было, што засядзе ў гуры, пакешкаецца адзін, а тады ўжо маўчыць, чакае, каб хто наткнуўся, памог выехаць на цупкае.

Ціха ўсюды. Толькі чуваць, як уздыхае і мосціцца карова. Мо аб'елася? Казалі радоўшчыкі, што ўспускалі сёння і яны на канюшынішча, не толькі ж адным калгасным там хадзіць.

Раптам Настаса ўспомніла, што Лявошка гаварыў у абед пра нейкую лекцыю. То пэўна ж адразу са свірна паехаў у клуб. Не можа без яго такое мерапрыемства абысціся. Ён жа ў парткоме адказвае за гэта. Значыць, скора не чакай. Могуць яшчэ пасля лекцыі кіно якое круціць ці танцы наладзіць.

Толькі ўзмацніла крыху гук, паскідала шлёпанцы і зноў з нагамі забралася на канапу, утульна падкурчылася, як пачула за акном знаёмы скрып пратэза. «Вось табе і на, няўжо сапсавалася мотакаляска? Нагаруецца без яе... Гэтую «казённую» нагу як падняць...» Пабегла насустрач, у кухню босая.

Грузна і цяжка, далёка адстаўляючы ўбок пратэз, пераступіў парог Лявошка.

— Можа, мыліцу падаць? Мо адразу адчэпвай гэту бандуру?

— Няхай, датрываю. Палей трохі ўмыцца — у хаце ўмыюся.

— А мо да пояса раздзявайся? Ёсць вада цёплая ў печы... А вопратку высцепаю пайду. Во, пылу на палец, як у малатарні быў.

— Можна і гэтак...— скінуў пінжак, тузануў за

каўнер цераз галаву кашулю — пачуўся трэск, каўнер застаўся ў руках.— Во... І высцепваць няма чаго... На анучы будзе.— Майку сцягнуў ужо больш асцярожна, гэпнуўся на табурэтку пачакаць, пакуль яна налье ў тазік вады. А наліла, то яшчэ трохі пасядзеў, патрымаў у руках мыла, панюхаў — «Сунічнае».

— Ну — уламаў старога... Будуць дзве змены ўжо, аднаму дзевяць гадзін і другому дзевяць. На ўсю ўборку.

— Каго-та ты куды ўламаў?

— Дзеньдобры прасіў з бацькам пагаварыць... На сушылку зменным машыністам. Праўда, ён і не супраціўляўся доўга — мо сам падумваў пра работу. Гэта ж, ведаеш, што было? Не ўпільнаваў Чаргейка, прыдрамаў... Тоны дзве падсмажыў, ажно зрудзела.

— То хоць не будуць вінаваціць яго?

— Мо не. Пусцім на вобмешку, на свінаферму адправім... Ды што ж ты хочаш, па чатырнаццаць гадзін дзяжурыць, пяты дзень. Калод не цягае чалавек, але ж — чатырнаццаць!

— Дык ты ў бацькі быў? Ты ж казаў, што лекцыя сёння.

— Бацьку я ўдзень бачыў... Злей крыху на плечы... А з гэтай лекцыяй — смех проста. Не было яе.

— Мо ніхто не ведаў.

— Чаму не... Вісяць аб'явы — каля клуба, каля праўлення. Лектар нервовы папаўся... Прыйшло чалавек дзесяць, чакаем-чакаем — няма больш нікога. І тыя пачалі разыходзіцца. А лектар гэты, мы ў бібліятэцы сядзелі, усё падбяжыць да дзвярэй, паглядзіць у шчэльку, як там людзі, і ўсё мяне патрошыць: от дай бо яму мясцовыя прыклады — і дадатныя, і адмоўныя.

— А лекцыя пра што?

— «Які ты, чалавек будучыні?»

— І які ён?

Лявошка здзьмухвае з губ ваду, разгінаецца, а на пытанне не адказвае.

— Ага... Дык паспрабуй вызначыць на хаду, хто гадзіцца для будучага, а хто не... Пажыві, кажу, з намі хоць месяц, папрацуй з людзьмі, чарку з імі выпі, а тады ўжо вызначай. «Як чарку? Якую чарку?! У вас тут увогуле не вядзецца барацьба з перажыткамі мінулага! Ніякіх лекцый не чытаецца супраць п'янства і алкагалізму!» Каб жа так проста, кажу, было — пра-

чытаў лекцыю, і ўсе выпівохі раскаяліся. Пайшлі здаваць пустую пасуду, каб і духу гарэлачнага ў хаце не было.

— Ха, здадуць і зноў накупляюць.

— То якая, кажу, у вас мерка ці крытэрый, па-вучонаму, хто гадзіцца для будучыні, а каго і блізка не трэба падпускаць туды? Раскажыце мне. «Я ў лекцыі скажу... А ў вас тут, я чуў, ёсць хадзячыя перажыткі мінулага, бабка такая — знахарка і цемрашал, Аўдотка. А незаконнае ўрачаванне за плату ці бясплатна падсудна таварыскаму суду. Аўдотка — як яе прозвішча?» — бярэ мяне за горла. Не ведаю, кажу, такіх хадзячых перажыткаў. У нас усе нармальныя людзі, савецкія. «Вы намеснік сакратара парткома! Вы адказваеце за партыйную вучобу і палітыка-масавую работу! Вы не забяспечылі яўку на лекцыю! Вы пакрываеце небяспечных, адсталых людзей, якія кладуць ганебную пляму на ваш у цэлым здаровы і працавіты калектыў! Не змагаецеся з іх тлятворным уплывам!» Як панёс, як панёс... «А як гэта я мог вам забяспечыць слухачоў? Па хатах хадзіць, збіраць? То невялікі з мяне ходак, дый на рабоце і я цэлы дзень, і людзі — уборка... Хто хацеў, той прыйшоў. Напрацаваліся людзі... З печы ўсякія культурныя мерапрыемствы можна глядзець, і то няма калі ўключыць».

— Садзіся хутчэй за стол. Капусту маладую варыла... Жывая яшчэ,— пахлёбаеш?

— Ад капусты чловек тлусты,— адказвае Лявошка і чапляе ручнік на цвік. Настаса разумее яго словы як згоду і хуценька налівае.

— Крычыць: «Не буду пры такой малой аўдыторыі выступаць! Толькі дарэмна камандзіровачныя расходы панёс...» А колькі, пытаю, вам плацяць за адну лекцыю? «Тры рублі. І то не за кожную. А што?» — паставіў на мяне вочы. А нічога, кажу, наце вам пяць рублёў і едзьце з богам... Дык ён лып-лып вачыма, разгубіўся спачатку. А тады як узаўецца!

— Ты што — свае пяць рублёў аддаваў?! — дзівіцца Настаса.

— Ну. Але не ўзяў... «Правакацыя! — крычыць.— Я буду скардзіцца першаму сакратару! Я так гэта не астаўлю!» Ну, обшчам, якраз машына старшыні была пад рукою — адправілі яго ў Слуцак.

— Слуцкі лектар?

— Не, з вобласці, казаў, з Мінска.

— Каб ён табе якога кепства не нарабіў... І чаго яны да гэтай Аўдоткі чапляюцца! Каменскі таго не зможа, што яна! Яна і ў аптэку зёлкі здае... Замест таго каб падтрымаць чалавека...

— А от тут ты ўжо змоўч. Водзіш з ёю хеўру — вадзі, а мяне не ўмешвай. А то атрымліваецца, што і ў мяне рыльца ў пушку.

Настаса адразу спахапілася, перамяніла тэму гаворкі:

— А чаго гэта ты прыпешкаваў? Сапсаваўся драндулет?

— Не... Каля свірна стаіць. Пеця на «уазіку» да клуба падкінуў...— Лявошка яшчэ сербануў колькі разоў і зашкроб лыжкаю па дне.

— Мо яшчэ падліць?

— Годзе... гэтага дабра. Гусцейшага чаго давай.

Настаса падсунула масла і сыр, кавалак чырвонага «кутка» — тоўстай самаробнай каўбасы, якую прыхоўваюць звычайна на касьбу і жніво.

— От бачыш, і табе ўжо вочы рэжа гэты драндулет. Паведамленне прыйшло з базы — прыбыў «Масквіч» з ручным кіраваннем. Будзем браць...

— Ну будзем, то будзем. Я ж не супраць.

Лявошка толькі паглядзеў на яе і нічога не сказаў, налёг на яду.

— Ты казаў, што бацьку бачыў, гаварыў... А больш ні пра што не... Кхэ, кхы...— папярхнулася Настаса.

— Ведаю, на што намякаеш... Дамашэўскага бачыў. Ён даў тыдзень часу, каб разабрацца з хатамі. Каб не было па дзве... Бацьку ён таксама пра гэта сказаў. Так што не пройдзе і паўгода, як усё стане на сваё месца.

— Каб жа... на сваё...

Не супакоіў Косця. Яшчэ больш памацнела ў Настасы трывога і напружанасць. Слала ложак і ўсё думала, куды выкіруецца з гэтымі дамамі. Клалася, а ў галаве было тое самае. Нават калі пагрукаў Лявошка, стаўляючы пратэз, і прылёг да яе, стомлена выдыхнуў на ўсе грудзі, а потым пацiху прытуліўся-прысебрыўся, яна ўсё думала пра старшыню сельсавета Дамашэўскага: «Хай бы ж ён прама загадаў бацьку — так і так...»

## 2 «Я здоров, счастлив и работоспособен...»

«Я здоров, счастлив и работоспособен...» Паўтарайце гэта кожны дзень да апупення на працягу ўсяго свайго жыцця...»

«Ведите себя так, словно вы уже счастливы. И вы почувствуете себя счастливым».

«І вы пачувствуеце сябе шчаслівым...» Га-га, які я шчаслівы! Го-го! Я!!! Шчаслівы!!! Рагачыце, пакуль звязкі ў горле не палопаюць! Скачыце, танцуйце, пакуль ногі не папруцянеюць!» Каб гэта можна было разам з шапкаю галаву скідваць... Каб не целяпалася, не замінала... І лягчэй было б, і зубы не ляскалі б, і язык не прыкусіш... Укалочваць не было б у што — «Я шчаслівы! Я шчаслівы!». Колькі разоў ні паўтарай: «Цукар! Цукар!», у роце соладка не будзе...»

«І каб сэрца можна было адключаць: націснуў кнопку — і няма яго... Ніякіх табе перажыванняў, спі, еш, рохкай ад задавальнення...»

«НТР! НТР! Тэхнічны прагрэс! Крычаць лягчэй, а не каб даўмецца нарабіць якіх робатаў... Каб толькі ведалі работу, не думалі ні пра што, не мэнчыліся...»

Пакуль доўжылася загонка, трактар ракатаў мерна і роўна. Здавалася, што і галава гулліва-дрогка рэзаніруе, нібы звон. «А мо ў мяне гарачка? І душна, і холадам трэ... Хочацца лбом да чаго-небудзь халоднага, халоднага, як да шыбы ў дзяцінстве...»

Усё-такі дарэмна не прайшлі «ціятры». Гэта ж тады, як схапіў у канторы на рукі Таньку, як шыбануў з ёю ў дождж-непагадзь падалей ад іхняга судзілішча, ад іх натацый, на тым не скончылася. Прымчаў, як загнаны лось, стаяў пад страхою, цяжка дыхаючы, на адной руцэ трымаў, туліў да сябе Таню, другою пагладжваў плечы Ванi. Аленка стаяла зводдаль, адчужана лавіла рукою капеж. Прычыкільгала цешча, пужліва-зняверана абышла яго, штохвілінна чакаючы якога падвоху,— адамкнула хату.

Ледзь толькі раcпрануў-раздзеў Таньку, пакідаў на печ яе макроцце і самую пасадзіў, абвёў позіркам хату. Шматгалоса плюскочуць і булькаюць кроплі са столі. Крутнуў на месцы — і з хаты. Адразу вывалак з-пад хлява лесвіцу. Каля сцірты шыферу ў падпаветцы заўважыў два прыхіленыя пабітыя лісты. Паламаў іх на калене яшчэ драбней і палез на стрэху. Прыладкаваў сям і там на большыя дзіркі, нават пасядзеў пад

дажджом: усё роўна ўвесь мокры. Яму не хацелася злазіць на дол, хацелася сківець і марнець, нібы няшчасная варона на калу. Хай усе бачаць, хай глядзяць, да чаго давялі... І некалькі чалавек прайшло вуліцаю за час седні, спыняліся нават, знямела пазіралі з-пад парасонаў ці капюшонаў балоневых плашчоў — «Мой божачка, чаго гэта ён там?..», хіталі галавою ды ішлі сабе далей. «Хай шкадуюць, хай спачуваюць, хай усе бачаць...» — працягваў горніцца сабе і людзям, хоць разумеў, што пачынаюцца «ціятры», і не трагікамедыю ён разыгрывае ці які фарс, а проста корчыць з сябе дурня. І хацелася яшчэ публічна бічаваць сябе (не раскайвацца ў зробленым, не!), здзіраць драцянкаю-бізуном адзенне разам са скураю і ў гэтым знаходзіць спатолю.

Загонка скончылася — падняў плугі. Трактар выпаўз на «стаўбавую» дарогу, за дарогай — бульба. Развярнуўся паўкругам, пераехаў на другі бок загонкі, зноў урэзаўся плугамі. Гракі і чайкі пералятталі за ім, узахапкі дзяўблі чарвякоў — гракі маўкліва-пагардліва, чайкі — крыкліва, са сваркаю, сюд-туд падляталі, каб захапіць лепшае месца, адхапіць тлусцейшую спажыву. Калі вёў барозны да дарогі, удалечыні бачыў прысады Вольчынага хутара. Цяпер жа далёка ўперадзе і злева паўзлі тры чырвоныя камбайны, хадзілі «групавым метадам». Там жа надчэкваў, каб падскочыць і забраць зерне, грузавік. Недалёка ад камбайнаў яшчэ адна група машын — трактар з прэс-падборшчыкам, невялікі машынны кран і грузавік для цюкоў. Даязджаючы да прыбіральшчыкаў саломы, Рыгор не спыняўся, не загаворваў з імі, вёў барозны далей. Не хацелася яму нікога бачыць, не хацелася ні з кім размаўляць — ён быў у крыўдзе і на камбайнераў (на адным з камбайнаў, на яго камбайне,— Русак!), і на цюкавальшчыкаў, і на ўвесь белы свет, які павярнуўся да яго такім несправядлівым бокам. Арэ то ён арэ, але што заробіць? Хіба параўнаеш заработак трактарыста з камбайнерскім? Там што ні намалаціў тону, то і рубель, а калі стаіць добрае надвор'е, усё ладзіцца з камбайнам, рублі так і сыплюцца — дваццаць, трыццаць, а то і сорак на дзень. А Сташэвіч з Дзеньдобрым знарок выбілі яго з сядла, забралі камбайн. «Маглі ж тую гаварыльню і пасля ўборкі зрабіць. Прыперла вельмі... Усядно ж нічога не змянілася

і не змяніцца... Ні-чо-га! Што з таго, што я жыву ў сваёй хаце, з сям'ёй...»

«Жыву...»

Не жыве ён — існуе...

Тады, як злез мокры са страхі, ледзь садраў з сябе прыліплае адзенне. Не самае горшае было на ім, не тое, у чым ён ішоў да трактара ці камбайна. Памкнуўся было ўскінуць касцюм на печ, але там нараскладвалі і наразвешвалі дзіцячага, і ён павесіў пінжак на цвік на сцяне, штаны на спінцы крэсла, пасунуўшы яго тулы, дзе не капае. Паслаў сабе, прыставіўшы яшчэ і зэдлон, на лаве — Сашава паліто пад бок і, колькі можна было прыкрыцца, на бок (кароткае і вузкае яно), Сашаву зімовую шапку — пад галаву. А ногі былі голыя, так і свяціў валасатымі, недзе каля костачак капала са столі, і ён трохі звесіў іх, каб не цаляла. Не прасіў ні вячэры, ні чаго акрыцца, да Манінага ложка і блізка не падыходзіў. Марфа, цешча, бачачы яго «ціятры», толькі божкала і ўздыхала, але баялася загаворваць, чапаць. З дзецьмі таксама размаўляла паўшэптам, нібы ў хаце быў цяжка хворы, пазаганяла іх спаць раней. Ужо потым Ваня паціху ўстаў, знайшоў сваё зімовае паліто і накрыў яму ногі (колькі таго палітца: калені закрыў — лыткі голыя, пасунуў на лыткі — калені відаць). Чуў Рыгор усё, яму хацелася балесна завыць ад гэтай сынавай спагады, але як лёг, так і ляжаў скамянела, прыкідваўся, што заснуў як забіты, хоць памлелі і нясцерпна смылелі-торгалі рукі і ногі, балелі ад мулкай лавы клуб і пляча. І калі стала нясцерпна, пакрахтаў, пачмокаў, нібы спрасонку, паўздыхаў, павярнуўся другім бокам. І зноў замёр — пакуль хапала змогі вытрываць. У галаве чорным клубком збіліся думкі, ніводная не магла падужаць іншую, каб выкараскацца наверх, праясніцца, і гэты клубок калюча падсвечваўся блакітнымі іскрамі ўсцышак, нібы там усё было заклакавана якою сінтэтычнаю пражаю і гэта яна іскрылася ад электрычнасці.

І ўсё-такі ён задрамаў, а потым і заснуў, не пачуў, калі ўлеглася старая, калі вярнулася з аборы Маня. Пад раніцу ён прачнуўся ад холаду і сырасці — ляжаў голы, Сашава і Ванева паліто ўпалі на падлогу. Мані не было, толькі змятая і незасланая пасцель паказвала, што яна начавала дома. Каля печы ўжо тупала, квола стогнучы і праклінаючы гады і здароўе, цешча.

Не ўмываўся, не прасіў і не чакаў снедання — палез зноў на страху.

Дажджу як і не было, з-за прысадаў, між лісця білі зыркія, крыху ружовыя праменні, угадвалася і само сонца, агністае, яшчэ не распаленае да белізны.

Можна было б паспрабаваць адрываць толькі тыя лісты, што прабітыя і праламаныя, паспрабаваць падсунуць на іх месца і замацаваць новыя. Але гэта было нялёгка рабіць. Новыя лісты шыферу былі ў два разы большыя за старыя, цяжка было нават утрымаць адну.

Значыць, трэба перакрываць усю страху... І ён асцярожна выцягваў пласкагубцамі цвікі з падкладам — пад плешкі клаліся складзеныя ўдзвейгу клапцікі рубероіду. Пабітыя лісты, кавалкі шыферу спускаў на дол, шаргочучы па яшчэ не ўзнятым радзе, і нават не глядзеў, ці ёсць хто на двары, ці няма. Дзеці яшчэ спяць, а цешча хай сцеражэцца, не падсоўваецца, а калі і пацэліць рубам па дурной мазгаўні, то і не ва́дзіць. Не хапала яшчэ яе пільнаваць! Цэлыя ж лісты асцярожна прасоўваў паміж дошкамі абрашоткі на вышкі, на пясок і кастрыцу, стаўма прыхіляў да латы. Не хопіць новага, то будзе дабаўляць старымі лістамі. Пад паўдня, калі ўжо не вытрываць было, ажно жывот разбалеўся в галадухі (учора ж лёг не вячэраўшы), схадзіў у сталоўку. Нервы ўзяў у рукі, як лейцы, вытрываў усе ехідныя позіркі і пераглядванні афіцыянткі і кухаркі (кухарка зіркала з акенца-амбразуры, як сава з дупла, нібы лічыла кожны кусан). Не зважаў на гэта, уплетаў за абедзве шчакі, сёрбаў па тры ложкі запар учарашняга ці пазаўчарашняга баршчу (мала ў сталовай было наведвальнікаў, наваранае заставалася — не выкідваць жа дабро!), жаваў пахапліва, абы хутчэй пайсці са сталовай, і нават не заўважаў, што жуе адразу на абодва куткі, па-свінячы. І толькі потым, як канчаў другую талерку гуляша, як пайшлі па целе млявыя, цёплыя токі сытасці, тэмп запаволіў і ўжо спакойна запіў усё трыма шклянкамі кампоту са свежых яблык.

На замену страхі затраціў амаль тры поўныя дні, і то Юра Расолька па вечарах памагаў. У новы шыфер нельга было загнаць цвіка, ён калоўся. Давялося шукаць дрэль, на кожны цвік свідраваць дзірку — хай яна гарыць, такая работа! Пад вечар трэцяга дня сха-

дзіў яшчэ ў школу, распытаў пра кнігі. Быў адзін дырэктар, ён і расталкаваў, што Ваню згодзяцца Аленчыны кніжкі, а Аленцы дадуць з бібліятэкі новыя, бясплатна. Такі выйшаў новы закон. Затое іх трэба будзе здаць пасля вучобы ў школьную бібліятэку.

— А Сашу як — залічылі ў вучылішча? — пацікавіўся дырэктар.

— Няма ж яшчэ... Экзамены здае.

— Якія экзамены?! Ніякіх экзаменаў у СПТВ не здаюць. А ў Сашы добрыя ацэнкі, я ж помню.

Каб нічога не тлумачыць дырэктару і не выдаць сябе, хутчэй пайшоў.

«Ну вось — страху накрыў, пра кніжкі — вызнаў... Больш Дзеньдобры не скажа, што пра сям'ю не клапачуся. Толькі от Саша дзе?»

Тыя тры дні, калі валаводзіў валаводы са страхою, па два разы хадзіў у сталоўку, наядаўся так, каб трэці раз не хацелася. Дома тое, што гатавалі цешча і Мання, і ў рот не браў. Ён і іх саміх не заўважаў, не паддаваўся ні на якія правакацыі. Нават не слухаў ні Тані, ні Ваці, ні Алены, калі тыя, падвучаныя мамаю ці бабаю, клікалі яго за стол.

На чацвёртую раніцу сам палез у хляве на вышкі, узяў з гнязда пад курынае кудахтанне-гвалт тры яшчэ цёплыя, толькі што знесеныя яйкі, урэзаў жоўтага сала і сасмажыў яечню. З сабою таксама загарнуў скварла і кавалкаў хлеба, прыхопленых са стаку старога сала і кавалкаў хлеба, прыхопленых са сталовай,— на абед. Пайшоў на калгасны двор, дзе звычайна канцэнтравалася ўся тэхніка. «Старая курва... Было ж яшчэ сёлетняга сала, добрага сала... Схавала недзе, а леташняе напашэве паставіла. Добрае гноіць, а хоча, каб елкае даядалі...» Але вытрываў дома, не абазваўся ні словам да Марфы. Не ведаў толькі, ці надоўга хопіць у яго нерваў, каб не ўзарвацца.

На калгасным двары спаткаў Дзеньдобрага і галоўнага інжынера Загаецкага. Абодва стаялі каля трактара ДТ, размахвалі рукамі.

— Ну — што мой камбайн? — звярнуўся да старшыні, але паглядзеў запытальна і на Загаецкага.

— А што камбайн... У полі камбайн! — сказаў Загаецкі і памкнуўся ўжо ісці.

— Та-а-ак...— злавесна працягнуў Рыгор.— Значыць, вырашылі *так*. Умгу-у...

Загаецкі падкаціўся ледзь не ўшчыльную да Рыго-

ра. Загаварыў з такой жа катэгарычнасцю, як гэта ўмее Сташэвіч:

— Тэхніка не можа прастойваць! Чакаць, пакуль у цябе настрой з'явіцца! Гэта ж тэхніка! Тэх-ні-ка!.. І ўраджай не будзе чакаць!

Рыгору хацелася баксануць інжынеру пад рабрыну, каб трохі збіць яму пыху.

— Пачакай, Дзіма... Не хапай за бараду,— падняў руку старшыня і нават адхіліў крыху Загаецкага ад Рыгора. А можа, наадварот, бярог яго самога.— Была ў яго прычына.

Але Рыгор ужо завёўся:

— Паскуда! Табе не чалавек важны, а тэхніка! — сціснуў кулакі, пайшоў на галоўнага інжынера.

— Рыгор!.. Вы што — пеўні? Бяры сёння Хілімонаў ДТ, едзь паары ржышча на зябліва. А заўтра сядзеш на камбайн, Русак у майстэрню вернецца. Без яго тут таксама нявыкрутка... Напарніка табе пакідаць ці з Сашкам сваім будзеш? Сашка твой што парабляе?

— Пакідайце,— буркнуў.— І палез у ДТ — гнаць на запраўку.

Каб жа ён ведаў, што парабляе зараз Сашка, дзе ён!

...Так вось і ўкалвае на чужым трактары, і Хілімон Жаўтагрыўка таксама недзе на камбайне. Рашаючая сіла — механізатары, а іх не хапае. Двух хлопцаў вясною ў армію ўзялі — зусім бедна стала. Казаў неяк Дзеньдобры, што гэтаю зімою пачнуць вучыць механізатарскаму рамяству ўсіх — ад шаснаццаці да пяцідзесяці і нават больш гадоў. Нават жанчын і дзяўчат будуць мабілізоўваць, каб не на трактар, то хоць на машыну пасадзяць — шафёраў таксама вобмаль.

Гудзе трактар, тузаецца. Зліпаюцца ў Рыгора пудовыя павекі. Не высыпаўся ён гэтыя дні, хіба гэта сон — на голай лаве? Зямля яшчэ сыраватая, пылу няма. Добра, што і пад трактар не трэба лезці ў касцюмных штанах, крэхча пакуль што ДТ, не глухне — цьфу, цьфу, каб не сурочыць... Уся рабочая Рыгорава вопратка ў Волькі, і трэба было б яе, канешна, забраць. І брытва там, хоць і адгадаваў ён бараду, але сям-там трэба і падскрабаць. Рыгор трымае адну руку на рычагу, другою шоргае па барадзе, водзіць па ўсім твары, праціpae вочы. Спаць хочацца, спаць... «Няма ў

Жаўтагрыўкі ў кабіне люстэрачка, падзівіцца б на сваю фізіямордзію...»

Зноў павярнуў трактар да «стаўбавой» дарогі. І ўбачыў, што па ёй ляціць, як апантаны, старшынёў «уазік». Мінае паворанае і крута ломіць на ржышча, імчыць да камбайнераў. «Добра, што не да мяне...» Не хочацца яму бачыць ніякага начальства. «Вады не ўзяў... Напіцца б... з Вольчынага калодзежа...» Склейваюцца губы, водзіць па іх языком, займае паскрэбці зубамі— і чуе пад імі жорсткасць вусоў (таксама трэба было б падстрыгчы!), з нязграбнасцю плюе ў акенца, потым выглядае туды — дзе сонца? За паўдня ўжо, можна было б спыніцца і перакусіць. Але пры адной згадцы пра елкае сала яго нудзіць і горш хочацца піць. «Далёка хутар... Каб хоць у два разы бліжэй, можна было б скіраваць туды... ці так пайсці». А дадому яшчэ далей, і ніхто не чакае яго там. Дома ён нават не кватарант і не прыжывалец, слова не падбярэш — хто ён.

«Сашка... Куды ж ён падзеўся? І слова не скажы... Дзеткі цяперашнім светам пайшлі... Мой характар, зараза...»

«Уазік» тым часам схаваўся недзе за плячыма трактара. «РЦУ Іван Кузьміч дае... Рад цэнных указанняў... Хаця не, Сташэвіч на гэта большы мастак. Той любіць камандаваць і павучаць».

Дарма ўсё, трэба такі перадыхнуць і трохі ўкусіць, хоць хлеба...

Не даехаў метраў сто да «стаўбавой», выключыў матор. Хвіліны са дзве сядзеў — адкінуўся на спінку, заплюшчыў вочы. Натрэсенае цела ўпівалася асалодаю нерухомасці і цішыні, здаецца, ажно выпростваліся, свяжэлі вушы. Руку ўправа... Вось ён, пінжак з важкай торбачкай кішэні. Дастаў і марудна, ужо з расплюшчанымі вачыма, стаў на гусеніцу, саскочыў на зямлю. Вунь натрушана крыху саломы, не чыста падабраў прэс-падборшчык. Дастаў скрутачак, кінуў пінжак і апусціўся на калені. Разгарнуў газету і... пасунуў усё ўбок, лёг жыватом на салому, грудзьмі і тварам на пінжак. Гары яна гарам — і работа, і такая яда. Паспаць бы мінут дзвесце, добра, што і сонца не пячэ, хаваецца за хмаркі, і ветрык навявае лагоду. Не верыцца, што недзе ёсць ланцакаватая жонка, сіберная

цешча, трое... якія ж трое? Чацвёра дзяцей... І Волька, і камбайны... І Сташэвіч...

Спіць Рыгор. Нават сон бачыць — рукі ў яго не пад галавою, а распасцёртыя ў бакі, нібы ў бусла, ён плыве-лунае над хатамі, над агародамі-садамі, чуе ветрык у растапыраных пальцах, на твары, ад хуткасці лёту трэпле паветра валасы на галаве, развяваецца доўгая, што ў Чарнамора ў кіно, барада... Сіліцца пазнаць — чые ж гэта хаты, сады пад ім? І не пазнае... Нейкая чужая вёска, новая вёска... Нават на вёску не падобна, а нейкі прыгарад... Вось нейкая хмарка ўперадзе, сівая, як кудзеля. Цела падпарадкоўваецца лёгка і слухмяна, ён скіроўвае туды і... заблытваецца ў павуціне. Не хмарка гэта была, а павучыныя сеткі, усё цяжэй махаць рукамі, усё больш аблытваюцца яны ліпкімі ніцямі. Ды што ж гэта такое?! Так жа і разбіцца можна! Ён ужо куляецца абы-як, ляціць да зямлі, і раптам канчаецца хмара павуціння, зноў слухаюцца яго рукі-крылы, уздымаюць круг за кругам — вышэй і вышэй. Ужо, мусіць, і сонца блізка — смаліць у патыліцу. Ён бы і рады быў затармазіць — і не можа. Гудзе-раве сонца, ужо разліта скрозь чырвань-ружовасць... «А-а-а!!!» — хочацца Рыгору закрычаць, а мо і крычыць ён? Піпікае сонца, просіць яго з дарогі...

Кідаецца Рыгор убок і... прахопваецца ў жаху. Сэрца бухае, бы молат аб кавадла.

Побач стаіць старшынёў «уазік». Ляскаюць дзверцы, адны і другія. Першая вылазіць з машыны... Волька! У той светлай сукенцы, што і некалі была на полі, калі падавала салому на прычэп. Павярнулася адразу Волька спінаю да яго, рыўком штосьці выцягвае з-за сядзення машыны. Шафёр Дзеньдобрага Пеця Скакун абыходзіць машыну спераду, па-блазенску ўсміхаецца Рыгору. Бярэ з рук Волькі бак-тэрмас, міскі-лыжкі. Волька зноў паварочваецца да машыны, дастае яшчэ дзве каструлі, якія стаяць адна на адной. І Пеця, і яна ступаюць чатыры крокі да яго, Рыгора.

— Прывет ударнікам! — скаліць зубы Скакун. Малады і блазнаваты, як чорт, не паверыш, што ўжо жанаты і нават бацька.— Рэстаран прывезлі... для падтрымкі штаноў...— І тут Пеця заўважае на газеце Рыгоравы харчы.— Э-э, брат ты мой... Загарні гэта сала назад — цешчы ў спіну грымнеш,— кладзе, стаўляе прычындалы на салому каля Рыгора.

— Здрастуй, Грыша...— ціха паздароўкалася Волька. Твар яе трошкі счырванелы і ўсхваляваны, нават збянтэжаны, вочы мацярынскія, мяккія. Паставіла каструлі, вярнулася да машыны па торбу з хлебам, чарпак, вялікі ручнік.

— Што гэта ўсё значыць? — замест адказу на прывітанне ўрэшце вымавіў Рыгор.

— Кармёжка. Узмоцнены паёк на час уборкі. Гарачыя абеды ў полі, бясплатныя! — Пецця памахаў яму рукою і зноў пайшоў вакол машыны да сваіх дзверцаў.— Вы тут карміцеся, а я скокну да прэс-падборшчыка, забяру пасуду.— І ён газануў з месца, крута развярнуўся.

— Не паложана... трактарыстам,— не знайшоў што сказаць Рыгор і нават адвярнуўся.

— Дурненькі... Учора мо палавіну баршчу назад прывезла. Нашто ж, каб дабро прападала? — Волька разаслала ручнік, няспрытна, расплюхваючы, два разы ўліла чарпаком у міску, падала Рыгору.— Кухарка зменная са сталоўкі прыхварэла... Мяне папрасілі...

— Ешце, ешце... Усё роўна свінням выліваць,— буркнуў Рыгор, але міску ўзяў.

— Дурненькі... І я з табою буду. Во, глядзі...— уліла і сабе з паўчарпака.

Паселі: на пяткі — Волька, «ногі ў клетку» — Рыгор, адно перад адным. Сёрбалі моўчкі, засяроджана, не падымаючы вачэй.

«Ну... як ты там, Рыгорка?» — пытала ў думках яна.

«Сама бачыш...» — гэтак жа ў думках адказваў ён.

«Бачу, бачу... На каго ты стаў падобны — божачка!»

«Не хавай раней часу... А ты як?»

«Ды от... Новую пасаду атрымала. Не ўлежную, але ўежную...»

«Віншую...»

«У сталоўцы казалі... Што ты, гэта самае... Да іх ходзіш... Божачка, то што ў цябе за жыццё дома!..»

«Маўчы лепш, маўчы... А то шкадуеш... а я і заплакаць магу».

«Любенькі мой... А як бы я цябе шкадавала! Як шанавала!» — яна падняла ад міскі вочы на Рыгора, але расплылося ўсё ад слёз.

— Ты што? — паглядзеў на яе і Рыгор — і ў яго зашчымелі вочы.

— А ведаеш, каб не Пецця Скакун... Гэта ён прапанаваў і да цябе заехаць... Я сама не набралася б духу. Бачыш — многія табе спачуваюць.

— Заўтра можаш карміць і не баяцца: на камбайн сяду... Дзеньдобры казаў.

— Грышачка, я Пецю скажу... Да мяне заскочым, я тваю адзежку рабочую прывязу.

— Не трэба.

— А як жа...

— Да цябе прыйду... сёння.Назаўсёды... Чаму мы павінны па нечых указках жыць? Няма ў нас сваіх галоў на плячах?

— Ой, Грыша-а-а...— Волька прытуліла пальцы да шчок, нібы мацала, ці гарачыя яны, захісталася.— Ой, Грыша-а...— выцерла далонямі вочы.— Бацька ж зусім слабы, Каменскі ўсё ўколы прыязджае калоць. Убачыць цябе — расхвалюецца. Прыступ, баюся, схопіць...

— Ну дык што-о мне рабіць — ве-е-шацца?! — ажно зубамі скрыгануў Рыгор. Бразнуў лыжку ў міску — разляцеліся пырскі.

— Катлеты яшчэ ёсць... Ї кампот!

— Калом яны ў горле стануць... катлеты гэтыя...

— Грышачка, трошкі пачакаць трэба, пацярпець. Мо паздаравее бацька — тады.

— Нашто ж на «авось» спадзявацца? Трэба ў бальніцу яго, у Слуцак... ці ў сельскую... Блізенька ж, у Хітруна ёсць. Там і дактароў куча, і дагляд, і лякарствы, і рэжым.

— Ой, не ведаю, што рабіць... Пагавару з ім... Баіцца ён вельмі бальніцы. Там двое старых памерла нядаўна. Патап... Як чуў, што нядоўга засталося, прывезлі са Слуцка, карову прадаў... Потым зноў ухапілі яго і ў Хітрунову ўжо, а доктар лаецца: «Што вы мне смерць прывезлі?» А Патап і праўда нават ночы не пераначаваў, ужо, кажуць, кіпці сінелі.

— Не чуў пра Патапа...

— А Кандрат з Вераю Валодзю сёння з Ленінграда прывезлі. У цынкавай труне... Заўтра хаваць будуць, з музыкаю. На новых могілках... Ты чуеш? Першыя насмеліліся — на новых.

— Некаму ж трэба пачынаць.

— І хвароба дзіўная — прамянёвая, ад атаму, і на могілках новых.

— Хопіць пра гэта... І так моташна...

Нехаця ўкалоў відэльцам катлету, праглынуў за два разы.

— Давай кампот — чым пабольш.

Так ні да чаго і не дагаварыліся — падляцеў на «уазіку» Скакун. Так і не сказала яму галоўнага — што, мабыць, яна цяжарная. «А мо й не трэба яму такое гаварыць... Мо рана?»

Волька паспешліва збірала посуд. Пеця прысеў на кукішкі каля Рыгора — прыкурвалі ад аднае запалкі.

Не сказаў і Рыгор ёй — пра Сашу. Прапаў хлопец... Трэба распытваць у людзей, званіць у вучылішча — ці быў там, ці заходзіў ■ дакументамі?

А мо адразу ў міліцыю?

3 Хараша прыняла Аляксана нечаканых гасцей — Федзевых сяброў. Сам ён нават і не расказаў толкам, што да чаго і як. Перакусіў трохі з дарогі, выпіў малака — і зноў у парог. Каб паспець на рэйсавы аўтобус да Слуцка, а там махнуць яшчэ далей — у Мінск. «Я праз дзень вярнуся... Іван тут усё раскажа, што трэба. Аляксандра Піліпаўна, я аднаго толькі прашу — не пакрыўдзіце іх, не адмаўляйце на іх просьбы...» — нагаварыў яшчэ з парога — і за дзверы. То як жа іх пакрыўдзіш, пасля такіх Федзевых слоў. Аляксана гатова была лістам слацца: спадабаецца Федзевым сябрам, значыць, больш спадабаецца і яму самому.

Так і засталіся яны за сталом, пасярод пакоя: Іван каля тарца, ад двара, дзяўчаты з шырэйшага боку, ад агародчыка, Аляксана насупраць дзяўчат, спінаю да выхаду, каб бліжэй было бегаць у кухню.

— Ну — яшчэ от гэтага, тваражка са смятанаю, свежанькага, сёння адтапіла... Ці мо мёду чэрпайце... Іванка, ты не саромся, мо яшчэ чарачку вінца? Ты не глядзі на дзяўчат, ты ж мужчына. Мой таксама завецца Іван, Іван Іванавіч. Радоўка сёння, кароў пасе... От вечарам з'явіцца, то яшчэ і з ім паседзімо.

— Аляксандра Піліпаўна, дзякуем! І наеліся, і напіліся... А вы хочаце, каб мы паўпіваліся і першыя песні зацягнулі.

— Мы хочам, каб *вы* нам спелі. Нам Федзя столькі пра вас расказваў, вы столькі песень ведаеце! — лесцілі дзяўчаты, а Іван то і зусім разгаманіўся.

Расказаў пра ўсё мітрэнгі і клопаты іхняй экспедыцыі, пра радасці і няўдачы, пра тое, што гоніць іх з дому, прымушае ездзіць па вёсках. Бо сыходзіць з явы старая вёска, адыходзіць з ёю стары ўклад жыцця, стары быт, адыходзяць старыя людзі, а з імі вопыт і мудрасць народная, паэзія — фальклор, усё радзей сустракаецца народная нацыянальная вопратка, знікаюць ранейшыя рэчы хатняга ўжытку, рэчы-унікумы. А столькі ж яшчэ не сабрана, не запісана, не сфатаграфана, не вывучана!

— То няўжо ваша сэрца вытрывае? Няўжо не паможаце нам, не паспачуваеце? — Іван ажно далоні ўмольна склаў перад грудзьмі.

— Аволелечкі... То трэба ж было мо і Дар'ю паклікаць — суседка яна, блізенька жыве. Як жа буду я адна «галасіць»? — трохі разгубілася, але відаць было, што Аляксана згодзіцца паспяваць. Пацягнула са спінкі крэсла хустку, каб выбегчы з хаты.

І тут — р-рып, стаіць на парозе Дар'я. Аляксана вобсас да яе, хутчэй у шчаку цалуе, цягне за руку да стала, да дзяўчат.

— І як ты здагадалася забегчы? Ай-я-яй... Толькі-толькі сабралася кінуцца па цябе.

— Душа пачула,— усміхаецца Дар'я ўсім — зубы роўненькія, белыя, з пласцінкі, і ад гэтага ўсмешка асабліва светлая і прыязная. Падала кожнаму за сталом руку, назвалася: — Дар'я Кірылаўна...

— Тэлепатыя спрацавала,— шчыра ўзрадаваліся ёй Рыта і Зіна.

— Чую — гамана ў вас, і не на кухні, а ў пакоі. Сярод белага дня, у будзень. Кажуць — Федзя прыехаў, то думала — дай пабачу хлопца...— Дар'я трошкі пасоўгалася сюд-туд і раптам адхіліла крысо плюшоўкі-безрукаўкі, дастала бутэльку «Чорнасмародзінавага», хітранька акінула ўсіх позіркам.

— Хо-о! — усцешыліся дзяўчаты.— Ну, то тут ужо работы не будзе.

Аляксана нечакана засердзілася:

— Што ты хоць надумала? Што ў нас — на стол няма чаго паставіць? — Аляксана перахопвае бутэльку за горлечка і нібыта хоча сілаю запхнуць яе назад

у Дар'іну камізэльку, у яе патаемную схованъ. Жанкі ледзь не барукаюцца, Дар'я працівіцца і мякка адхіляе Аляксаніны рукі з пляшкай. І Аляксана больш не настае, віно ставіцца на стол. Гаспадыня тут жа садзіцца побач з Дар'яй і налівае ёй у келіх. Дар'я ж, вядома, гаворыць, што ёй адной піць не выпадае, ніякусенькай патрэбы няма, яна, барані божа, не алкаголік які. Па ёй гэтай гаркоты хоць бы век не было. «Дык я ж не гарэлкі табе, а віна! Салодзенькага. Во, чытай: «Кагор». Поп у царкве некалі на прычасце такое віно даваў...— ласкава прыгаворвае Аляксана. Па ўсім відаць, што жанкі вялікія прыяцелькі і проста разыгрываюць звыклую «кумедзь». Усцешна глядзець Івану на цётак, усё ідзе як трэба, атмасфера шчырасці і прыязнасці наладжваецца. Аляксана тады і ўсім патрошкі дабаўляе пітва, і Дар'я падымае келіх, чокаецца з дзяўчатамі, з ім. «Справа пойдзе, справа пойдзе...— цешыцца Іван.— Мо ўдасца навярстаць трохі ўпушчаныя дні... Можа, і добрае што пачуем, рэдкаснае... А мо шэдэўр які — чым чорт не жартуе?!» Недзе ж яны яшчэ хаваюцца, недзе ж чакаюць людской увагі. У Эстоніі, неяк Федзя казаў, Акадэмія навук, іхні фальклорны інстытут мае сваіх карэспандэнтаў у кожнай вёсцы. Ад іх увагі не ўхавалася ніводная песня, загадка, прымаўка, бывальшчына. «Эх, каб жа і ў нас такое стварыць! А то ёсць цэлыя сельсаветы, нават раёны, дзе не ступала нага даследчыка, збіральніка... Тэра інкогніта, белыя плямы...»

Аляксана пракашлялася, гмыкнула, і Іван тут жа пстрыкнуў клавішам, сунуў паміж талеркамі мікрафон.

Ці я ў лузе
Не каліна была-а-а-а-а...
Ці я ў лузе
Не чырвона была-а-а..

Гэта была вядомая песня, цудоўная песня. Дар'я тут жа яе падтрымала, Іван падхапіў, і дзяўчаты далучыліся. Хоць і вядомая песня — хай будзе. Для асабістай калекцыі.

Узялі мяне паламалі
Ды ў пучочкі павязалі,
Така й до-оля мая-я-я...

— Уторкаў мала... Ты не лезь за мною — басуй, басуй! — навалілася Аляксана на Дар'ю.

— Марылю б сюды Калядову... А ведаеш, як некалі Аўдотка спявала? Уга, раўні ёй не было... Да вайны яшчэ... А цяпер і рота не разявіць. Паела вайна сыноў...

«Хай спяваюць жанкі, хай разахвочваюцца... Настане ж такі момант, калі... Толькі прасіць буду, каб самыя старыя, самыя забытыя...» — думае Іван.

І такі момант настаў. Магнітафон быў зноў уключаны, дзяўчаты дружна «шрайболілі» (блакноты на каленях: «Ты першы радок, я — другі, ты — трэці, я — чацвёрты...»). Іван толькі сачыў за магнітафонам, перажываў за сістэму АРУЗ — «Аўтаматычную рэгуліроўку ўзроўню запісу». Хаця б не падвяла, не нарабілася «правалаў». Дасюль няблага «выцягвала» гук, хоць часам і далекавата быў мікрафон.

— Во яшчэ давай — «Кладачку-серабрыначку». Ёсць у вас такая? — Аляксана ўжо расчулілася ад песні, з замілаваннем глядзіць на Дар'ю.

— «Цераз рэчаньку, цераз быструю гібка кладачка ляжыць»? Гэту?

— Ага. «Па той кладачцы-серабрыначцы малады Ванечка бяжыць...»

— Дык гэта ж радзінная!

— Ну то што? Яе можна і абы-калі пець. У нас так спявалі — абы-калі. Я ж табе не прапаную вясельных! Гэта вясельныя не будзеш абы-калі галасіць...

Іван перапстрыкнуў клавішамі, стужка адматалася назад і пайшла «на ўзнаўленне». Пачулася іх перапалка-спрэчка. Аляксана і Дар'я ў здзіўленні змоўклі, а потым пырснулі, зарагаталі: «Аво-яёй... Няўжо гэта мы! Ніяк не падобна, не магу свой голас пазнаць».— «А я твой пазнаю!» — «От твой! Твой і я пазнаю. А свой...» — «Вы абы-што на плёнку бераце, каб потым насміхацца з нас?»

— Не бяру я, цётачкі... Я ж пагэтаму і адматаў назад. Вы «Кладачку-серабрыначку» давайце, дык тое сатрэцца, а новае будзе...

Аляксана завяла, Дар'я падхапіла, але... не туды. Выявілася, што і мелодыя трошкі не так у Дуброве вядзецца, і словы часам не такія, як у Буславічах. Іван перапрасіў іх:

— А вы кожная па-свойму праспявайце. Спачатку — вы, а потым — вы... Цікава параўнаць будзе.— Ён зноў крыху адматаў назад плёнку.

I яны спявалі-пераказвалі кожная свой варыянт. I доўга яшчэ жанчыны ўспаміналі: «А ты гэтую ведаеш?» — «А ты — гэту? Во паслухай...» Але прыйшла загадчыца клуба Ліля Пахілька. Голасна паздароўкалася і затрашчала «з месца ў кар'ер»:

— Іду міма — і не вытрымала. Гэта ж так хораша ў вас палучаецца... Трошкі падправіць, падрэпеціраваць — і на сцэну. Алег падыграе на акардыёне. А мо вы самі на гармоніку, цётка Дар'я? — і не дачакалася адказу, пачала шпарыць далей: — А я, дурная, шукаю агітбрыгаду! Вы двое, я трэцяя, Алег... От яшчэ б чалавекі два — такія частушкі адчыбучылі б! На ўборачныя тэмы! Алег ужо і словы напісаў!

За сталом стаяла цішыня. Моўчкі, дзівячыся, разглядалі Пахільку дзяўчаты — Рыта і Зіна.

— Я мо што не так сказала? — у непаразуменні паміргала падфарбаванымі ў сіняе павекамі Пахілька, спыніла позірк на Аляксане.

— Не, чаму ж... — азвалася яна. Потым нехаця запрасіла да стала: — То сядайце сюды.

Але неўзабаве Дар'я ўстала:

— Гэта ж карову трэба ісці даіць. А я села, дык і прыкіпела.

— I я... Забыла, што трэба Ясю абед занесці! — спахапілася Аляксана.— Вы ўжо выбачайце... Ліля вас зваць? Выбачайце, што так атрымалася.

Іван ледзь не лопаў ад злосці. Чэрці яе занеслі, сапсавала абедню... I да чаго ж, відаць, бесталковая гэтая загадчыца клуба.

— То мо пакуль будзеце каровы даіць... Мо да Аўдоткі нас заведзяце? — папрасіўся ён. Начапіў на сябе два фотаапараты.

— Дар'я, а дзе каровы сёння? Ці па дарозе нам будзе? — пачала збіраць у сумку яду Аляксана.

— На Блюдзеек прапусціліся, я бачыла. Па дарозе гэта, па дарозе.

Пахілька стаяла і па-птушынаму круціла ў бакі галавою. Паскардзілася Івану:

— Тут, у сяле, такі сум... Такі сум! Нават самадзейнасць няма з кім арганізаваць. Зімою хоць старшакласнікаў трохі прыўлякалі. А цяпер... Знаюць толькі патрабаваць: «Агітбрыгаду! Агітбрыгаду!» А з каго яе рабіць? З гэтых малаграматных бабулек?

Дар'і ўжо не было ў хаце, выбегла ў сенцы і Аляк-

сана, ёй рупілі зборы да Яся, і Іван сказаў Пахільцы. Сурова і нават гнеўна:

— Сумна, кажаце... Ды вядома ж будзе сумна! Не любіце вы сваю работу! Не разумееце ў ёй нічагенькі! З народам не можаце па-людску размаўляць. Адкуль у вас такая пагарда, фанабэрыя да людзей? Думаеце, калі кончылі нейкае культасветмучылішча, дык ужо і ўсё? У клубніка талент павінен быць: арганізатара, масавіка. Чалавека, урэшце! Душэўнага чалавека! Колькі прайшло гадоў, як вас прыслалі? Тры? І яшчэ дзесяць пражывяце, калі не дасце дзёру ў горад, а чужою былі тут, чужою і застанецеся. Жыць трэба з людзьмі адным жыццём, аднымі інтарэсамі, шанаваць народ і яго шматвекавую культуру. А не адразу тузаць і камандаваць... на самадзейны лад!

Рыта і Зіна нават у далоні папляскалі:

— Брава-бравісіма! Быць табе міністрам культуры.

Ліля Пахілька нібы пачула ў іх падтрымку. Загаварыла плаксіва:

— Лёгка вам... нападаць... Прыехалі-паехалі... А вы б паспрабавалі пабыць на маім месцы! Ці надоўга ў вас хопіць пораху?

— У вас можна фальклорна-этнаграфічны ансамбль арганізаваць. За месяц! З гэтых самых «малаграматных бабулек». Толькі не пужайце іх самадзейнасцю, не камандуйце і не тузайце на свой лад, бо ўсядно вы ў гэтай справе не тумкаеце.

— Лёгка вам гаварыць... А вы паспрабавалі б на маім месцы! — паўтарыла Пахілька, крыўдліва шморгаючы носам.

— Нават за тыдзень! Калі прабудзем мы тут тыдзень — будзе вам ансамбль!

— Іван, не ўзнося! Балюча будзе падаць,— папярэдзіла Рыта.

Ды ракавое слова было сказана.

— Будзьце здаровы, таварыш Пахілька. Будзе вам ансамбль!

## 4

— Іванка, ты пакруці бабе тое, што ад нас запісаў. Вой, жываты можна парваць! — сказала Дар'я Аўдотцы, калі знаёміла Івана і дзяўчат з ёю. Аляксана ж дадала:

— Ну — ніяк жа свой голас не можам пазнаць!

Іванка, а ці доўга можа голас на плёнцы прыстаўшы быць?

— Колькі заўгодна. Хоць вечна, калі не размагніціцца. Ёсць спецыяльныя фанатэкі, у іх плёнкі захоўваюцца... Гэта як бібліятэкі ўсё роўна. Даўно ўжо чалавека няма, а голас яго жыве. Паслухаеш запіс — здаецца, з жывым чалавекам сустрэўся.

Хата ў Аўдоткі старая, мо і не знойдзеш больш такіх у сяле. Уздоўж сцен з'едзеныя шашалем лавы з дошак-дыль. У куце, дзе сходзяцца лавы, стол, над сталом — абразы з расшытымі ручнікамі-набожнікамі. Каля вялікай печы драўляны ложак, засланы посцілкай-перабіранкай. Тут жа размалёваны «ў кваты» куфар, на куфры другая посцілка, другой каляровай гамы і малюнка. Дзяўчаты і Іван з магнітафонам прыладкаваліся на лаве ад вуліцы, бабка сядзіць на другой — ад двара. Апіраецца на арэхавы кіёк, сядзіць сцішана, але не дрэмле. І маўчыць, на твары не зварухнецца ніводная зморшчынка.

Пракруцілі стужку з песнямі-галасамі Аляксаны і Дар'і — маўчыць. Аляксана крыху знарочыста, нібы нехаця пасмяялася над сабою: «Але ж ніяк не панаць...», але Аўдотку не раскатурхалі,— і пайшлі да кароў.

Не па сабе штосьці бабе...

Вярнуліся ад кароў з вёдрамі малака, а ў хаце тая ж карціна. Сядзіць Аўдотка, як і сядзела, на тым жа месцы. Іван круціць ужо чужыя запісы, з Паплавоў, штосьці спрабуе тлумачыць бабе. У дзяўчат посныя, сумныя твары.

Дар'я знайшла чысты збаночак, адліла-нацадзіла Аўдотцы малака.

Прысела Аляксана да бабы, прысела Дар'я.

— Выключы, Іванка,— ціха папрасіла Дар'я.— Смерць у сяле.

І расказала пра Кандрата і Веру, пра іх хлопцамарака, якога прывезлі ў цынкавай дамавіне. «Бабы кажуць, і ордзен Валодзеў прывезлі, ордзен Чырвонай Зоркі. Прывозілі той ордзен у шпіталь уручаць... А не было ўжо каму! За мужнасць і адвагу, праяўленыя пры выкананні службовых абавязкаў...»

Вестка пра смерць у сяле, пра заўтрашняе пахаванне, надзіва, ажывіла Аўдотку. Перахрысцілася яна, загаварыла:

— А я думаю: што гэта мне сёння цяжка на душы... Ажно вунь што... Вунь яно як... Па мяне ішла Кастуся, а бач куды звярнула: па маладзіка! Аблудзілася Кастуся, не на тую дарогу выбрыла...

— Кіньце, баба... Яшчэ пажывяце. З горшага ж выкарабкаліся, а цяпер чаго ж! — спрабавалі ўцешыць яе Дар'я і Аляксана.

— Не, не... Я холад чую з зямлі. Вам цёпла, вы лету радыя, а мне холад ногі ломіць, як на лядоўні стаю. От добра, што ты сёння зайшла, Дар'я... Хадзі-нно сюды...— Аўдотка патупала да куфра. Паклала на печ кіёк, сцягла з куфра і згарнула ўвосьмера посцілку, палажыла на ложак.— Добра, што вы тут... Дзвюм буду казаць...— Дар'я памагла ёй падняць цяжкае века куфра, Аўдотка падперла яго беленькаю палачкаю. Пра тое, што ў хаце яшчэ людзі, хлопец і двое дзяўчат, старая нібы забыла.

— Во тут, глядзіце, клуначак,— «на смерць», у ім грошай сто рублёў. Тут усё ёсць, і намітка... Нябось не ўмееце намітку накладаць?

Дар'я і Аляксана пакруцілі галовамі: «Адкуль жа!» Іван хуценька пачаў рыхтаваць «Кіеў»: «Няўжо пашанцуе ў другім, калі з песнямі сарвалася?» Ад хвалявання ён залішне быў мітуслівы.

Тым часам Аўдотка развязала клунак, расклала на ложку вопратку. Дзяўчаты адразу заохалі ад такога хараства, пачалі мацаць, разглядаць. Андарак быў шырокі, у шматлікія зборкі, упоперак яго ішлі каляровыя, яркія палосы, адзін колер пераходзіў у другі то плаўна, то раптам абрываўся рэзка і кантрастна. Блузка была пашыта з танюсенькага і белага, што снег, палатна, рукавы каля плячэй і ўнізе былі аздоблены вышыўкаю, фартух быў таксама вышыты, але сціпла, знізу ў яго былі падшыты карункі-«зубы». Сацінетавая зялёная камізэлька паўз манішку таксама была вышыта ліловымі, сінімі, аранжавымі і жоўтымі кветкамі.

Іван дрыжачаю рукою патузаў Дар'ю, патузаў Аляксану за рукавы, паказаў вачыма на адзенне і на фотаапараты, потым на Аўдотку. Памажыце, маўляў, угаварыць, хай дазволіць сфатаграфаваць. На здзіўленне, баба доўга не ўпіралася. Угаварылі нават адзецца ў гэтае адзенне. «Ага, ну добра... Хоць паглядзіце, ці хораша мне будзе ў труне». Пакуль бабцы па-

магалі адзявацца, Іван глядзеў у акно — ці ёсць там сонца. А Дар'я расказвала байку, як адна бабка захацела сябе пабачыць у труне, у «смертным» адзенні. А ў яе даўно нагатове труна была. Унеслі ў хату, бабка ўбралася, легла. «Схадзі,— кажа на дачку,— да фатографа, хай сфатаграфіруе. Толькі не кажы, што я так сабе легла, а то яшчэ не пойдзе!» Ну, і прыйшоў той фатограф, расставіў у парозе трыножнік, апарат прыладзіў. Раз пстрыкнуў, два пстрыкнуў. «А колькі рабіць картачак?» — пытаецца ў дачкі. «Не ведаю,— кажа,— мо тры хопіць». А бабка падхапілася ў труне: «Шэсць! Рабеце шэсць!» Забразгатала, загрукала ў парозе... Глядзяць — фатограф у адзін бок брыкнуў, а трыножнік у другі. Сэрца разарвалася...

Усе спачатку зарагаталі, а потым Аўдотка захрысцілася:

— Даруй, божа, грахі... Няўжо такое магло быць?!

— Свет вялікі, усё магло быць,— сказаў Іван словамі з адной казкі і пстрыкнуў уключальнікам: мо пасвятлее ў хаце?

Аўдотка ўжо была ў «смертным» строі. Але адзенне ззяла такім хараством, так крычала пра жыццё і яго радасці, што пра апошні той час не хацелася і думаць. Дзяўчаты стаялі каля бабкі, замілавана ўсміхаліся, агладжвалі яе, ледзь не шчаслівымі вачыма паглядвалі на Івана — нібы самі яны стварылі такі цуд. Іван некалькі разоў «шчоўкнуў» апаратамі. Цемнавата ў хаце, нічога не атрымаецца на слайдзе.

— Вой, няўмекі... Глядзіце і пераймайце...— узяла ў Дар'і намітку Аўдотка. Гэта быў нібы доўгі, на два-тры метры ручнік з тонкага палатна з затканымі ва ўзоры канцамі. Трымала яго перад сабою, нібы чакала, што на яго хто пакладзе каравай хлеба.— Адзін канец во так пусціце...— усклала намітку на галаву, і кончык коратка прыпаў на плячо.— А другі во так... во-о... сюды... і во гэ-этак... і ззаду пусціце свабодна.

Іван зноў шчоўкнуў апаратамі.

— Калі ласка, на адну хвілінку на двор, на сонейка! — сам не заўважаў, што пераняў і манеру, і інтанацыі Федзі.

— Баба! Як жа мы зможам і так і гэтак ды яшчэ і ззаду хвост пусціць? — зусім весела сказала Дар'я, нібы не ішла гаворка пра смерць.— Вы ж не стаяць будзеце, а ляжаць.

— Ага, і то праўда...— спахмурнела Аўдотка.— Не прыстасавана намітка на смерць...— і нават разгубілася.— Што ж мне рабіць?

— Хустачку цёмную завяжам, калі хочаце — у ружы. Харашыня будзе,— сказала Дар'я.

— Трэба пашукаць, і ў мяне недзе была такая,— павярнулася Аўдотка да куфра, пачала выкладваць усё нешматлікае дабро на ложак.— Забярэш гэта ўсё, Дар'я, як памру...— і раптам дастала з дна скрыпку і смычок.

— О-о! — як не бягом кінуліся да яе Іван і дзяўчаты. Іван узяў скрыпку за грыф — тром, тром пальцам. Расстроеная, крыху рассохлася ў адным месцы — шчэлька відаць. Дзіўная скрыпка, не чатыры, а тры струны.

— А смычок добры, толькі паканіфоліць...— правяла па валасінах пальчыкам Рыта.

— Склеіць можна скрыпку... Мой Іван Іванавіч столяр, у яго і клей павінен быць,— сказала Аляксана, пабачыўшы засмучэнне на Іванавым твары.

— Даўно вы не ігралі... Я нават забыла, што яна ёсць у вас,— паківала галавою Дар'я і ўздыхнула: — Смешна вы ігралі: пад паху стаўлялі — і рэзалі...

— Больш за сорак гадоў назад... Усё забыла, і пальцы папруцянелі, не гнуцца. Куды пальцамі ціскаць — забі, не помню.

— А я, калі толькі на гармоніку — добра, а пачну і пець — тожа пальцы забываюцца, куды ціскаць.

Урэшце «падхадзяшчая» хустачка знайшлася, і яе ўжо не хавалі на дно. Урэшце баба згадзілася і на двор выйсці ў сваім уборы — «Толькі на трошкі, а то людзі будуць смяяцца».

Іван шчоўкаў, шчоўкаў, шчоўкаў... І адну, і трох жанчын разам, і пяцярых — з дзяўчатамі, а потым паставіў апарат на слупок плота, завёў аўтаспуск і грэйма кінуўся да іх, прысеў у нагах. Шчоўк! «Прышлю вам усім картачкі... Каляровыя!» — паабяцаў бабцы і цёткам. Потым зноў усе ідуць у хату, і Іван упрошвае, каб яшчэ вынесці на двор і сфатаграфаваць кожную адзежыну асобна, каб адна не закрывала другую. Аўдотка і на гэта згадзілася. А потым дзяўчаты выпытвалі ў бабы да дробачкі, як завязваецца гэтая намітка, старанна запісвалі. «Гэта ў замужніх жан-

чын такія вялікія былі. А ў такіх дзяўчатак, як вы, невялічкія — скіндачкі...»

Аўдотка раздзяецца, згортвае і звязвае адзенне «на смерць» зноў у клуначак. Намітка застаецца ляжаць на ложку. Калі адыходзілі, Аўдотка паднесла намітку дзяўчатам: «Помніце пра мяне... І каб замуж шчасліва павыходзілі...» Дзяўчаты расчулена пацалавалі яе ў адну шчаку, у другую.

— Я адрамантую яе! Мы з вамі яшчэ пайграем! — трос на адыход скрыпкаю Іван.

Аўдотка правяла іх да варот і ў варотах яшчэ доўга стаяла, лівала галавою — нібы на штосьці згаджалася, нібы была ў гэтых кіўках іронія: «Усё — адыграла сваё... І аджыла сваё... Усё, дзеткі, усё...»

## Раздзел пяты

1 Проста з вакзала Федзя паехаў першым нумарам тралейбуса ў Акадэмію. Але толькі дабраўся да плошчы Перамогі, як да яго дайшло: з'ездзіць туды дарэмна. Каля чатырох гадзін дня, наўрад ці будзе хто ў інстытуце. Бывала, што нават зранку не знойдзеш патрэбнага чалавека. Пакладзе на свой стол паперку: «Я ў бібліятэцы». А ці ў бібліятэцы ён, ці бадзяецца па горадзе, ці сядзіць дома,— трэба быць Шэрлакам Холмсам, каб знайсці.

Выйшаў, пакруціўся... Ага, вунь «Гастраномм», трэба ж нешта купіць, хоць каробку цукерак. Купіў мармеладу «Смародзінавы», папрасіў прадаўшчыцу, каб загарнула прыстойна ў паперу.

Плошчу абышоў паўкругам, палюбаваўся крыху на вяселле — кавалькаду машын у каляровых шарах і стужках, што прыпынілася каля тратуара, перарэзаўшы Федзю шлях.

На вуліцы Казлова ўлез у аўтобус, які ішоў у мікрараён «Серабранка». Там жыла Жэня; Рыта, калі давала адрас, расказала, як і ехаць туды — пяцідзесятым.

Тросся ў прычэпе «Ікаруса», на задняй пляцоўцы, ад цяснотцця цяжка нават было паправіць пад пахаю каробку. Ад дзвярэй жа ўсё падціскалі і падціскалі новыя пасажыры, і ён баяўся, каб з цукерак, пакуль

давязе, не зрабіліся клёцкі. Каля шарыкападшыпнікавага завода многа пасажыраў павыходзіла, але і многа зайшло. Яму ўдалося стаць у куток і ўчапіцца ў прэнт-трубу. Глядзеў у акно і адчуваў: ехаць яму да Жэні чамусьці... боязна! Гэта ж, мабыць, і бацька яе дома, і маці. Бацька не абы-хто — пісьменнік-крытык. Глядзець будуць, як на пудзіла агароднае... Правінцыял, ды яшчэ запылены з дарогі, памяты, здушнелы. «Выгляд у мяне — дай божа... А пра што з імі гаварыць? Першы раз у хату завалюся... Ну, а што тут такога? Звычайны дзелавы візіт... Так і так, маўляў, што здарылася, Жэня? Ты зрываеш план работы... Я толькі пра работу буду гаварыць, толькі пра экспедыцыю. Я ж не сватацца іду, урэшце... Не прасіць яе рукі...»

— Дзе тут «Мэблевы салон»? — папытаў, як толькі выйшаў, у цёткі з авоськамі ў абедзвюх руках.

— А во сюды во...— кіўнула тая падбародкам.— Ідзіце ды ідзіце па Ракасоўскага.

Такі арыенцір — «Мэблевы салон» — давала Рыта. Бо Жэнін дом высокі і доўзазны. Але нічога, Федзя пройдзецца, спяшацца яму не хочацца. Злева, па другі бок вуліцы, вясковыя краявіды — горад скончыўся... Але ж і праўда, які вялікі і доўгі іхні дом! Да яго на ўсю даўжыню прыбудавана эстакада-ходнік. З гэтай эстакады можна зайсці ў спартыўны магазін, раскошны магазін... Ці на пошту... Ці ў салон, дзе заказваюць мэблю... Задраў галаву, паглядзеў на паверхі і пайшоў далей, да канца дома, абагнуў яго, зайшоў у двор. Доўга разбіраўся, дзе патрэбны пад'езд,— не падыходзілі нумары кватэр. А на якім паверсе? Як пацэліць, каб акурат трапіць? Паехаў ліфтам на самы верх, у прыцемку кабіны ўчытваўся ў выдрапаную на «Правілах карыстання ліфтам», чорнай пласцінцы, магічную формулу: «Жэня + Лёня = любоў». «Якая Жэня? Жэня, Жэня... А мо яна — Жэня Шахлевіч?» Пакруціўся, пачытаў на сценах кабіны амаль усе надпісы: прозвішча Шахлевіч не было. А тут і ліфт дрэгнуў і спыніўся, з вуркатаннем рассунуліся дзверцы.

Ох, няхай бы ён ехаў хоць з паўгадзіны...

Ішоў зверху ўніз па лесвіцы, заглядваў у паўцёмныя завулкі-калідоры, чытаў на дзвярах нумары кватэр. Ага, вось яна...

«Ф-фу-у... Значыць, так: здароўкаюся. Калі сама Жэня адчыніць — цалую ручку... Не — спачатку нагою шаркаю, а тады ўжо цалую ручку. Тады ўручаю цукеркі... А тады... Ну — там па абставінах. Калі адна яна, то можна і да сябе прыгарнуць, і пацалаваць... Калі па мордзе не зараблю. Ну а што, калі і зараблю? І другую падстаўлю... Дасць па другой — зноў першую: хай б'е, будзе біць, а я з рук не выпушчу, буду цалаваць...»

«Ф-фу... Гэтага яшчэ не хапала — гул у вушах, сэрца, як у зайца, тахкаціць. Я ж не сямікласнік... Зробім некалькі глыбокіх удыхаў-выдыхаў. Раз-два-а-а... Раз-два-а-а... А калі, скажам, маці адчыніць? «Что вам угодно, молодой человек?» Угодна, скажу, Жэню, дазвольце зайсці... з дзелавым візітам. Я — кіраўнік экспедыцыі... і гэтак далей. Тут мамуся змерае мяне з галавы да ног такім... гэткім поглядам, велічна адступіць убок. Або і ў пакоі не пусціць, пакліча Жэню... А калі бацька выгляне? Ну — з бацькам прасцей, усё-такі мужчына з мужчынам...»

І рашыўся, падняў руку, ціскануў на кнопку — адзін раз, коратка. Непрыстойна званіць некалькі разоў і падоўгу. За дзвярыма глуха і меладычна булькнула, бомкнула — ціха, ні гуку больш не ўлавіў Федзя з-за дзвярэй. Толькі з-за суседніх, з другой кватэры, чуваць капрызлівы, дзіцячы плач і жаночы ласкавы голас. Ціскануў два разы, і больш доўга: мо на кухні дзе, мо не дачулі? І зноў пастаяў, паварочваючыся да дзвярэй то адным, то другім вухам.

Ці-шы-ня-я...

Зірнуў на гадзіннік — палова шостай. Сама людзі з работы едуць, у магазіны заходзяць. «Мо і Жэня пайшла ў магазін?» Здаецца, недзе здалёк ён бачыў гандлёвы комплекс, гэта назад па вуліцы.

Не выклікаў ліфта, пайшоў па лесвіцы ўніз, блазнуючы: выкідваў праўцом ногі, то правую, то левую, уперад і ўбок — скок, скок. Пакуль не адчуў, што ногі не слухаюцца ад стомы.

«Каб Жэнька была дома, адна... Гэта было б здорава! Паміріцца б з ёю, вінца сухога распіць...»

Выбраўся на вуліцу, прайшоў праз доўгі спартыўны магазін. Багаты магазін, міравецкія ёсць заплечныя мяшкі, процьма штаноў-джынсаў і «а ля джынсы», нават у розныя кветачкі і малпачкі, нават з эмблемамі

Маскоўскай алімпіяды. Для стыляг гэта, не для яго — сур'ёзнага настаўніка, выхаваўцы.

Перайшоў вуліцу, забрыў ва універсам. Пабадзяўся між радоў па гандлёвай зале. Каля каўбаснага аддзела запахла вэнджаным — ды так смачна, што ў жываце балюча заныла. Хутчэй адышоўся, у вінным узяў бутэльку «Ркацытэлі». Расплачваўся, і ў касе ледзь не злупілі з яго другі раз за каробку цукерак. Давялося выклікаць прадаўца-тавараведа, які пацвердзіў, што сёння ў іх магазіне няма такіх каробак.

Настрой яго сапсаваўся, пастаяў крыху па другі бок кас, каля выхаду, яшчэ і яшчэ раз абмацаў позіркам натоўпы людзей. Не відаць Жэні, няма Жэні...

Калі ён зноў апынуўся пад тымі самымі дзвярыма, каля той жа кнопкі званка, была ўжо сёмая гадзіна. Задзілінькаў доўга і смела — хай будзе, што будзе. І зноў не дачакаўся ніякага адказу, толькі ўсё гэтак жа чуваць быў дзіцячы голас з-за суседніх абабітых чорным дзвярэй. І тады пазваніў у тыя, суседнія.

Спачатку чуваць былі крокі, потым яны сціхлі. Яго разглядвалі ў «вочка», і ён пастараўся надаць твару самы прыветлівы, а не разбойніцкі выгляд. «Вам каго?» — папытаў жаночы голас. І давялося тлумачыць, ледзь не выкрыкваючы на ўвесь дом, чаго ён хацеў, і толькі тады адчыніліся дзверы. Выглянула не вельмі старая яшчэ бабка з пухлымі шчочкамі.

— Няма іх нікога, мілы... У Крым паехалі. І ключы мне далі, каб вазоны палівала, пошту забірала.

— А Жэня?

— І Жэня з імі. Пуцёўкі толькі ў Ціхана Амальянавіча былі і ў Алімпіяды Міронаўны. А Жэня так з імі паехала, дзікаром.

— А куды там, у Крыме, не ведаеце? — для нечага яшчэ спытаў Федзя, усядно як ён мерыўся падацца за імі туды.

— У гэты... як яго... Вельмі мудра... А-а, Какцебель, во!

Твар Федзі, мабыць, быў вельмі кіслы, калі ён прашаптаў «Дзякуй...» і павярнуўся ісці.

— Санаторыя ў іх Домам творчасці называецца! — гаварыла ўслед бабка.— Амальянавіч казаў, калі якая срочная карэспандэнцыя, каб яму на гэты дом пераслала. То мо і вы туда пішэце, калі трэба срочна?

— Не, не — дзякую...

Пусціўся па лесвіцы як не бягом. Каробку цукерак узяў у адну руку, бутэльку — у другую. У адной было не ўтрымаць, распаўзаліся, бутэлька наравіла выкаўзнуцца і джвэгнуць аб прыступкі.

І чым ніжэй сыходзіў, тым больш замаруджваў крок. «Вось табе і Жэня, вось табе і знаёмства з бацькамі. Як аплявух надавала — у галаве гудзе...»

«А куды цяпер? Дур-рацкае становішча...»

## 2

Акадэмічны інтэрнат на Акадэмічнай вуліцы.

— Няма ліха без дабра,— сказаў Федзя, амаль без стуку заходзячы да Максіма Сачыўкі.

Максім валяўся на змятым ложку з кніжкаю ў руках. Шыя была туга ўбінтавана, і ад таго здавалася, што Максімавы вочы лезлі на лоб. Паволі зыбнуўся насустрач, працягнуў Федзю руку — вялую і крыху потную.

— Чаму — ліха? І чаму — дабра?

— Ну як жа! Каб ты не развёўся з жонкаю, то не было б цябе тут. Каб не было цябе тут, то я не ведаў бы, куды дзецца, дзе перабыць ноч. А так... мо не прагоніш?

— Начуй, чаго ж... Канапа во... Праўда, спружыны тырчаць, як ражны, камендант усё абяцае памяняць на новую. Але добра, хоць не заспіш. Я, калі трэба раней устаць, таксама на канапу перабіраюся.

На стале, загрувашчаным кнігамі і паперамі, стаяў і нямыты посуд — талеркі, недапітыя бутэлькі з пракіслым малаком, усохлыя кавалкі хлеба і батона. Федзя знайшоў крыху месцейка на ражку, рассунуў тое, што замінала, паставіў бутэльку, паклаў каробку.

— Прабач, тут у мяне анархія... Прыхварэў, дык нічога не міла,— падышоў і Максім да стала, пазбіраў у кучу кнігі і паперы, а посуд пераставіў на падаконнік.

— Гланды? Ці скулячка якая? — кіўнуў Федзя на яго ўбінтаваную шыю.

— Ага, гэтыя самыя... «Міндальнічаю», замест таго каб пайсці на аперацыю. Смех людзям сказаць — сярод лета з такою хваробаю цацкаюся... Але, бачыш ты, няма ў навуковым свеце аднолькавай думкі пра гэтыя гланды. Адны вучоныя за тое, каб рашуча разміраваць арганізм, развітацца з імі. Хворыя гланды — ня-

спынны ачаг інфекцыі ў арганізме, ад іх ідуць многія хваробы. Пачынае ва ўзмоцненым рэжыме працаваць сэрца, мoжа дайсці і да рэўматызму. А я ўжо чую нейкую ненармальнасць...— Сачыўка ўзяўся за левую грудзіну.

— Ну дык выразаў бы ты іх к чортавай мацеры!

— Бачыш ты... Другія ўрачы супраць гэтага. Раз бог для нечага іх прычапіў у арганізме, значыць, яны патрэбныя... Помню, некалі яшчэ ў школе наш настаўнік-біёлаг цешыўся, што прырода зрабіла памылку, пакінула ў чалавеку непатрэбны рудзімент — апендзікс. Таксама крыніцу захворвання, і гэтак далей. Амерыканцы нават спрабавалі малюткам пры нараджэнні вырэзваць яго, каб застрахаваць раз і назаўсёды ад апендыцыту. І што ты думаеш? Нагляданні паказалі, што тыя малыя маюць нейкія адхіленні і ненармальнасці ў развіцці. Гэтаксама і з гландамі: малым не рэкамендуюць вырэзваць.

— То ты ж, дзякуй богу, ужо не маленькі. Сам бацька...

— Бачыш ты... Ёсць яшчэ і такое правіла ва ўрачоў: не пашкодзь. Не пашкодзь сваімі лякарствамі, сваім умяшаннем арганізму, не парушай баланс...

Федзя не вытрываў, зарагатаў. Паўзіраўся ў малюнак над ложкам Максіма: Хемінгуэй на борце нейкае шхуны-бота з рыбакамі, у руцэ бутэлька.

— Цяжкае ў цябе становішча. «Бачыш ты», «з аднаго боку», «з другога боку», «разам з тым», «аднак», «нельга не прызнаць»... Філосаф.

— Ага, філосаф... Жыццё — складаная штука! Ты от здаровы, то табе проста смешна. А я пасля разводу ўжо і на язву перахварэў, і з печанню ляжаў у бальніцы.

— «Сям'я і жонка як пазітыўныя і стабілізуючыя фактары ў функцыяніраванні стрававальна-кішэчнага тракту і залоз унутранай сакрэцыі малодшых навуковых супрацоўнікаў класа гомо магістры апошняй чвэрці XX стагоддзя». Доктарская дысертацыя...

— Ага, смейся... Можаш смяяцца. Язва ў мяне ўжо і да жаніцьбы намячалася. Дык от — стабілізуючага фактару не атрымалася, абвастрылася нават — на нервовай глебе. Ну, а з печанню — печань пасадзіў кансервамі, ужо як развёўся. Урач гаварыў — атруціў, папсаваная кансерва трапілася.

— І ўсё яшчэ на дыеце? — паказаў Федзя на недапітыя бутэлькі з-пад малака.

— Ну — не вельмі... Гэта так.

— Карацей — закуска ў цябе ёсць? А то збегаю, пакуль магазіны не зачыніліся.

— Ёсць каўбаса. Дыэтычная... Падыдзе?

— Пад'едзе, калі не падыдзе. Не аднымі ж цукеркамі закусваць.

— То на ліха іх было браць. Я іх амаль не ўжываю.— Максім дастаў з тумбачкі кавалак каўбасы, узяў з акна чысцейшую талерку, заслаў яе белым аркушыкам паперы і ўжо на ёй парэзаў каўбасу.— Сервіс будзе — люкс.

— Глюкоза, сахароза, фруктоза... Мазгі прасвятляюцца. От з'еш пуд мармеладу — адразу навуковае адкрыццё зробіш,— блазнаваў Федзя. Каму раней прызначаў цукеркі — не сказаў.

— Адкрыеш, дзіва што... Я зараз схаджу, шклянкі спаласну.

На акне былі тры мутныя ад малака шклянкі. Але Сачыўка не пабраў іх, усе тры, а толькі дзве, і Федзя адпаківаў галавою на яго дзівацтва. Пашукаў, чым адкаркаваць бутэльку: ні на акне, ні на стале штопара не было. Зазірнуў у тумбачку і хуценька ляпнуў дзверцамі: у тумбачцы таксама быў вэрхал. «Н-да-а... Дэстабілізуючы фактар — развод...» І прапхнуў корак алоўкам у сярэдзіну бутэлькі.

— Хацеў спачатку Лявону пазваніць,— зайшоў Максім, трасянуў каля парога шклянкамі.— А потым думаю: ат, усё роўна жонка не пусціць. Яна яго... во трымае! — Максім паставіў шклянкі на стол, паказаў моцна сціснуты кулак.

— Я чуў, яна маладзейшая за Лявона,— Федзя ўзяў лустачку каўбасы, пачаў нецярпліва жаваць.

— Хэ, не тое слова... На пятнаццаць гадоў!

— Бедны Лявон... А твая таксама была на столькі маладзейшая?

— Не. Мая ўсяго на пяць. Дый сыну ўжо чатыры гады, мы, бачыш, пажылі два гады... А Лявонава толькі зараз у «інцярэснум палажэнні». То ён ужо так скача каля яе, так мандрыгуецца... Ты даўно з ім не бачыўся?

— Даўно, з зімы.

— То цяпер не пазнаеш. Хіба во зараз, за апошні

месяц пахудзеў, а то быў гладзенькі зрабіўся, чысценькі. Яму Саюз пісьменнікаў двухпакаёўку даў. У яго за адзін год столькі падзей! Кандыдацкую абараніў, ажаніўся, у Саюз пісьменнікаў прынялі, кватэру адхапіў. Каб трошкі, то і бацькам паспеў бы стаць. Жыві — не хачу...— Максім прысеў да стала на рыпучае крэсла, набулькаў у шклянкі віна.— То давай, калі прынёс...

Федзя сеў на канапу бліжэй да стала, падчэкнуўся, выпрабоўваючы моц спружын.

— Ну — за стабілізуючы фактар! Як Аляксандр Яшын пісаў... Сухое — яно не дурманіць голаў, не абцяжарвае рук і ног, у сэрца ўсяляе любоў да людзей і жаданне творчасці, а не «отвращение от дел». Усё жыццё — толькі сухое!

— Не зусім дакладна.

— Па памяці, чаго ты хочаш. Гэта ўсяго ў цябе хлеба? — Федзя хрумкнуў усохлы кавалак, які знайшоў на стале, хутчэй адкусіў каўбасы.

— Здаецца, яшчэ недзе быў.— Максім выпіў, страшна зморшчыўся, устаў і — шурх, шурх, шурх паперамі ў тумбачцы — знайшоў яшчэ акрайчык. Пастукаў ім па стале: — Цвікі можна забіваць...

— Цяжка было ў мяшэчак плёнчаты схаваць? Рассупоніўся ты, Максіме, зусім. От так і прападае наш брат мужчына... Дык што — зусім было не ўжыць, што кінуў-рынуў усё?

— Ат, пераменім давай пласцінку. Сам жа яшчэ бабылём ходзіш?

— Ну! Цягаюся, як валацуга... Ведаеш, таксама абрыдла ўжо. Але ж я маладзей за цябе... гадоў на пяць.

— На дзесяць.

— Ну але?!

Пагаманілі, выявілася — на восем.

— Што ж ты хочаш... Я даваенны, ты — пасляваенны. Розныя пакаленні.

— Мне на «вы» з табою трэба, а я «тыкаюся».

— Па лысінах — роўныя,— кіўнуў Максім на яго галаву.

Рагатнулі, і былі ў гэтым рогаце гарката і нават здзек над сабою. А віно тым часам патрошкі развязвала языкі.

— У Мінск — чаго завітаў? — Максім з натугай кроіў знойдзены кавалак хлеба.

— А што — нельга? Мінск толькі для вас? — сказаў Федзя, і тут жа стала няёмка, бо Максім паглядзеў на яго як на апошняга дурня.— Без Лямешкі засумаваў.

— То трэба было на цёплыя воды кіраваць.

— Ад тэмы яго хацеў адмовіцца: «Новыя з'явы ў народнай творчасці».

— Гэта што — тэма дысертацыі тваёй?

— Не, гэта Лямешка штось такое піша, а хоча, каб я яму матэрыялу падкінуў на гэту тэму. А сам я на раздарожжы: і тое хочацца, і гэтае, і пятае, і дзесятае. Нават не ведаю, сам для сябе не вырашыў — па этнаграфіі ці фальклору буду рабіць.

— Ну чаму — бываюць і змешаныя тэмы. А вершы як — закінуў?

— Не зусім. Недзе ў канцы года падборку абяцаюць у часопісе. «Лета шалунью-рифму гонят».

— Кідай забаўляцца. Або навука — або вершы. Адно другому шкодзіць... А я, думаеш, у маладосці не пісаў? Ночы навылёт праседжваў. Але добра, што зразумеў — не мая гэта планіда.

— А я ж бачыў некалі ў калектыўным зборніку тваю падборку — неблагія вершы.

— Рыфмаваныя радкі — гэта яшчэ не паэзія. Версіфікацыя. Сапраўдны верш, насычаны думкамі і вобразамі, можа быць і белым. Могуць быць і вершы ў прозе...

— Лікбез?

— Я цябе не павучаю. Я пра сябе гавару, пра тое, што для сябе ўшалопаў.

— Мяняй пласцінку і ты. Давай лепш пра вас, пра інстытут, чым вы тут займаецеся...— Федзя наліў пакрысе Максіму і сабе.— Проста дзіву даешся, як вы адарваліся ад жыцця: «Новыя з'явы ў народнай творчасці», «Новыя абрады ў быт», «Сучасны рабочы фальклор»... Дзе тыя новыя з'явы? Дзе той фальклор рабочы? Пры такой развітай пісьмовай літаратуры, такім засіллі радыё, тэлебачання адна толькі новая... і не новая... з'ява: паскоранае знікненне традыцыйнага фальклору. Ды якія могуць быць новыя абрады, як яны могуць прыжыцца, калі зусім адарваныя ад народных традыцыйных? Спрадвечных! Нехта недзе ў нечым убачыў рэлігійную аснову ў абрадах — і выплюхнулі разам з вадою дзіця. А які можа быць цяперашні рабочы

фальклор, калі і традыцыйнага рабочага фальклору кот наплакаў? Так можна дагаварыцца і да таго, што аб'явіць мастацкую самадзейнасць сучаснай народнай творчасцю.

— А што ж гэта?

— Толькі не народная! Прыдумкі рэжысёраў і пастаноўшчыкаў. Асабліва гэта на патанцоўках відаць... Гэта ж дадумацца: брэсцкі танцавальны ансамбль пасылалі на фестываль фальклорных калектываў у Францыю. Я, як прачытаў некалі пра гэта, месца сабе не знаходзіў.

— А што — адзін пастаноўшчык-харэограф туды ездзіў? Цэлы ансамбль! І ўсе гэтыя людзі з задавальненнем танцуюць, увесь вольны час гэтаму аддаюць.

— Ты мяне хочаш пераканаць, што гэта народная творчасць?

— Можаш заставацца ў сваёй веры. Але, бачыш ты, прыехаў ансамбль з прызам. На захадзе нідзе нічога падобнага няма, у брэстаўчан узровень майстэрства прафесіяналаў.

— Ну дык што, калі з прызам? Ты мне скажы — што ў тых патанцоўках, якія яны паказваюць, засталося ад народных танцаў, ад фальклору? Гэта нават не дзесятая — сотая вада на кісялі!

— Бачыш... Ты блытаеш розныя рэчы...

— Не, пачакай, я не ўсё... Што можна вымалаціць з саломы, калі яе падбіраць і заварочваць па дзесятаму, па сотаму разу ў цапы? Там ужо ні грама зерня няма, адна мякіна і пацяруха. Ва ўсіх краінах назіраецца паварот да фальклору, народнага мастацтва. Думаеш, чаму так папулярныя ансамблі «кантры»? Ды таму, што народу і там абрыдзела глядзець на пацяруху!

— Дык ты супраць мастацкай самадзейнасці? — раззлаваўся трохі Максім.— Ты не лічыш гэта творчасцю мас? Ты супраць творчасці пастаноўшчыка, які на народнай аснове робіць сваю інтэрпрэтацыю танца?

— Я не супраць сцэнічнай самадзейнасці... Я сам скрозь у ёй удзельнічаў, танцаваў у вучнёўскім і ў студэнцкім ансамблях. Я не супраць творчасці балетмайстра, пастаноўшчыка — хай практыкуюцца, хай ставяць свае танцы. Але ж хай гэтыя танцы і называюць: полька Сідарава, кадрыль Іванова ці Пятрова. Пры чым тут беларуская полька, беларуская кадрыль? Боль-

шасць гэтых пастаноўшчыкаў не ведаюць народных беларускіх танцаў, не вывучаюць асноўных характарыстычных рухаў ног, рук, плячэй, галавы. Не адшукваюць у глыбінях народа забытае і нават ганарацца тым, што не шукаюць. Некаторыя «Іваны, не помнячыя радства», нават заяўляюць, што няма, бачыце, добрых беларускіх танцаў. Плятуць лапці, пералапачваюць тое, што некалі недзе іншыя пастаноўшчыкі выдумалі. Глядзіш на такі танец — суцэльная эклектыка, набор рухаў, па, фігур, нахапаных з танцаў іншых народаў ці прыдуманых, вычварных, не ўласцівых для беларусаў. Паверыш, у адным танцы ў райцэнтры, які выдавалі за беларускі, і разанскіх лыжачнікаў убачыў, і ўкраінскі «паўзунец», і малдаўскае кола...

— Бачыш, гэта хутчэй ад невуцтва, ад недасведчанасці, а не ад злога намеру.

— Ну, каб злога.. Злыя намеры больш навідавоку, іх лягчэй выкрываць. Але часам цяжка адрозніць невуцтва ад злоснага ахайвання нашага фальклору, ад паклёпу на яго. Ты ж, нягоднік, не ганарыся сваім невуцтвам, а спазнай тое, чаго не ведаеш, не падводзь марксісцкую базу пад сваё невуцтва.

— Што ты... маеш на ўвазе?

— Як што? Усе гэтыя фальсіфікатары фальклору ўпэўнены і нават заяўляюць, што калі мы ідзем да камунізма і склалася такая гістарычная супольнасць, як савецкі народ, то і культура павінна быць адна, змешаная. Правільна, яна агульная па сваёй ідэйнай накіраванасці, па характару, але ж формы праяўлення ў яе розныя, у кожнай нацыянальнасці свае! А яны давай мяшаць усё ў кучу.

— Дык гэта яўная вульгарызацыя! Гэта грубае скажэнне!..

— Ага, то чаму ж па лабаціне не даем такім вульгарызатарам?

— Чаму не даем? Даем... Гэта мо да вас у правінцыю не даходзяць водгаласы... Вунь нават у газетах былі дыскусійныя артыкулы. Ды большасць харэографаў сумленна працуюць, дарэмна ты...

Федзя ў запале нібы не чуў Максіма.

— Не, ты толькі ўяві: за нечае хапаецца з лёгкасцю незвычайнай, а ад свайго адмаўляецца! Загадзя настроены, што сваё — кепскае, другаснае, а от тое, што ў другіх народаў — гэта цаца, гэта — хораша. Ах,

ліха ж тваёй матары, дык ты ж расплюшчы вочы, паглядзі на фальклор, сам адшукай алмазы, пакажы людзям. А не хочаш бачыць, павылазіла табе — прасіся ў дом інвалідаў і не замінай іншым!

— Ці не тут недзе сабе дысертацыю намацваеш? — Максім зноў уліў у шклянкі.— Забылі мы пра пітво...

— Ды не — гэта так, да слова. Які з мяне «балерун?» Мяне абрадавая паэзія вабіць, народная балада... І народнае адзенне... Я ж казаў: сам не ведаю, за што хапацца.

— Хведар, абрадавая паэзія першая сканае. Я быў на некалькіх гарадскіх вяселлях — і ў хатніх умовах, і ў банкетнай зале рэстарана. На жаніцьбе інтэлігентаў першага пакалення... Бацькі іх вяскоўцы, у калгасе жывуць. То народныя песні трохі яшчэ спявалі, але каб хто вясельную зацягнуў — дзе там! Моладзь перамагала, крычала больш тыя дрындушкі-аднадзёнкі, што ў розных конкурсах ці КВЗ спявалі, што па радыё ледзь не штодня круцяць... Нават «Кракадзіла Гену»... І з самога абраду амаль нічога не засталося. Былі, праўда, нібыта сваты з ручнікамі цераз плячо, былі дружкі-шаферы з банцікамі... Ну, яшчэ бацька з маці сустракалі маладых з загса хлебам-соллю, чаркаю, абсыпалі іх жытам... І ўсё!

— Э, не! У вёсцы яшчэ ёсць, там многа яшчэ ад абраду засталося. У мяне нядаўна бацька другі раз жаніўся. Нават не вяселле было, а так — вечарынка. Дык бабкі столькі наспявалі вясельнага! А жонку такую бацька ўзяў — жывая энцыклапедыя вясельнага абраду. Я ўсю экспедыцыю да яе перавёз, а сам сюды махнуў на дзень...

— Колькі ёй гадоў, колькі бацьку?

— Бацька стары ўжо, шэсцьдзесят пяць. А мачыха — толькі-толькі на пенсію выйшла, пяцьдзесят пяць.

— Ну, во... А мы, дурні, толькі бабулек цярэбім, у старых выпытваем. Памылка: трэба і маладзейшых браць, і яны многа перанялі ад мацярок.

— А старыя сыплюцца, як мухі ўвосень. Ажно жудасна робіцца. Прыязджаеш у вёску. «О-о, была спявачка! О-о, многа ведала... Але ж вы спазніліся, тыдзень, як памерла...» Паласне, як нажом па сэрцы...

— Не кажы...

— Ну, от пройдзе яшчэ дзесяць — пятнаццаць га-

доў. Захочаш ты, скажам, паслухаць жывую жніўную песню, у жывым гучанні. Дзе паслухаеш? Я пра плёнкі і фанатэку не гавару...

— Ну, у полі даўно ўжо ніхто не спявае ў час жніва. Не тая праца стала, няма ручное работы. Равуць камбайны, трашчаць трактары... Камбайнер ачмурэе за дзень — не да песень яму. Пот няма калі выцерці. Я рабіў адно лета памочнікам камбайнера, ведаю, што за смак...

— Ну, дык куды вы глядзіце?

— Хто — мы? — Максім у непаразуменні зіркнуў на Федзю, падчапіў вялікім пальцам правае рукі бінтаброжак на шыі, патузаў, каб паслабіць.

— Хто? Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору.

— А што мы можам? Мы не маем ніякіх магчымасцей, ніякіх правоў. Міністэрства культуры сабе, Дамы народнай творчасці — сабе, Дамы мастацкай самадзейнасці — сабе, мы — сабе. Толькі вывучаем, збіраем...

— Збіраем — для чаго? Каб пыліліся зборы ў архівах?

— Ну — чаму пыліліся... Шматтомны збор фальклору выпускаем, для агульнага ўжытку, так сказаць...

— У Балгарыі такі акадэмічны інстытут называецца інстытутам захавання народных традыцый у мастацтве. Захавання!.. Ловіш розніцу? Гэтым падкрэсліваецца яго актыўная, а не пасіўная роля... Ды па тэлевізары расказвалі, няўжо не чуў? Тэлевізійны сусветны фальклорны фестываль праводзіўся...

— Я некаторыя перадачы глядзеў. Не ўсе...— няўпэўнена сказаў Максім.

— Дык от: пры гэтым балгарскім інстытуце ёсць спецыяльны ансамбль «Фракія». Як рэстаўрацыйная майстэрня... У ім дакладна ўзнаўляюць, рэстаўруюць і народныя танцы, і песні ў іх адвечным, першапачатковым выглядзе. Па крупіначках, па дробачках збіраюць і ўзнаўляюць... Без усякай апрацоўкі, паказваюць... Во як было ў народзе, вучыцеся, вывучайце! А ў нас сцэнічная самадзейнасць усё запаланіла, задушыла.

— То ты ж прызнаў ужо, што гэта таксама творчасць мас. На сучасным этапе...

— Здзекуешся ты, ці што? Калі я прызнаў? Якая

ж гэта творчасць мас. Гэта ў большасці выпадкаў выбрыкі непісьменных пастаноўшчыкаў. Ты яшчэ заявіш, што гэтыя «харэографы» і ёсць народ, так сказаць, лепшыя яго прадстаўнікі. А я паўтараю: выпадковыя людзі!

— Ты зноў на той самы круг заварочваеш. Цяпер жа інстытут культуры працуе, рыхтуе кадры.

— Інстытут культуры — асобная гаворка. Тут яшчэ таксама трэба глядзець... Мне здаецца, што там больш вучаць масавікоў-зацейнікаў — «два прыхлопы, тры прытопы». Не цікавіліся, чым яны там займаюцца?

— Мала.

— Ну во... А маглі ж вы над імі шэфства ўзяць, каб на фальклор не забывалі. І над некаторымі фальклорна-этнаграфічнымі калектывамі... Каб не псавалі іх кіраўнікі сваім навучаннем, штучным акампанементам, дзе зроду акапэльна спявалі... Каб не прымушалі цётак складаць прыпеўкі пра вывазку ўгнаенняў і распеўваць іх са сцэны. Пахайдайнічалі б перад міністэрствам культуры, перад урадам рэспублікі нават, каб аб'явіць некаторыя такія ансамблі, групы, гурты... па-ўсякаму яны называюцца... фальклорнымі запаведнікамі. І каб вы мелі магчымасці і сродкі займацца з імі... Гэта і былі б школы народнага танца, народнай манеры спявання. У іх бы і самадзейнікі вучыліся, і прафесіянальныя калектывы — як па камертоне раўняліся б.

— Бачыш, гаварыць пра гэта лёгка. А як зрабіць? Рукі не даходзяць, і спецыялістаў няма адпаведных, колькі хацелася б...

— Пры жаданні ўсё можна знайсці.

— Утрапёны ты. Апантаны... Я нават не ведаў, што ты такі!

— Які ёсць...— Федзя стукнуў шклянкаю па Максімавай шклянцы, выпіў.

Максім спачатку глядзеў у шклянку і мыляў скрыўленымі губамі, але потым таксама паволі выпіў.

— У горле дзярэ, як рашпілем. Дарэмна я паддаўся на твае спакусы... Змей ты, спакушальнік... Абвастрэнне будзе, гаварыць зусім не змагу...— Максім злёгку пакашляў. Кашаль яго быў гарлавы, «брахлівы».— Я рады, браце, што ты паступіў да нас у аспірантуру. Апантанасць — гэта добра, гэта як прыток свежай крыві. Бо ў нас тут і такія ёсць, што забросне-

лі, нічога амаль не робяць, радуюцца, што спраўна і рэгулярна плаціць ім дзяржава за кандыдацтва і доктарства. Усяго дасягнулі, усё ўжо ёсць — і хоць трава не расці. У-ух! — Максімаў твар перасмыкнуўся, і Федзя ўбачыў: слабак Сачыўка, колькі таго хмелю ў бутэльцы сухога віна на двух, а сп'янеў.— А ў цябе сэрца баліць за справу, ты — мал-латок... Цябе сэрца прывяло да нас.

— Перастань. А то, мне здаецца, лапаткі свярбяць, крыльцы адрастаюць. А я не анёл, далёка не анёл!

— Шкада ўсё-такі, што няма тут Лявона. Раскажу — пазайздросціць... Хораша мы з табою пасядзелі, хораша пагаварылі... А ён, г-гад, песціцца недзе каля свае маладзёхі, ні пра што не дбае.

— Не зайздросць. Не трэба было разводзіцца.

— Зайздросціць? — Максім бліснуў на Федзю пукатым вокам і нічога больш не сказаў. Сцягнуў з каробкі стужачку, ускрыў яе. Схапіў ружовую мармеладку і задраў галаву, разявіў рот: скінуў у рот цукерку, нібы бамбавоз бомбу. Выдыхнуў, зацмокаў.

— Ну,— пайду вады набяру, чай пастаўлю. Чаборовы чай даўно піў? — Сачыўка бразнуў электрачайнікам, дастаючы яго з-пад стала.

— Даўно-о-о...— Федзя адкінуўся на спінку канапы і стомлена прыплюшчыў вочы. Напіцца б яшчэ чаю — і адпачываць.

Але яшчэ і да чаю, пакуль вада закіпела, пакуль чабор заварыўся, гаварылі; гаварылі і п'ючы духмяны завар, і пасля чаю, калі аддыхваліся і змахвалі з ілбоў пот.

І спаць палеглі — гаварылі. У абодвух быў нейкі растрывожаны і ў той жа час сцішана-лірычны настрой. Федзя прачытаў на памяць усю будучую часопісную падборку вершаў: «Белы конь і белая завея...», «Спытаецца люты...», «Галубка так галубіцца...», «Зоркі бляknуць у цёмным віры...», «Птушка-гівал — ліст асенні жоўты...» І атрымаў ад Максіма літасцівы дазвол:

— Халера на цябе... Забудзь, што я казаў,— пішы... Не я Максім, а ты Максім... Багдановіч. І ты, выяўляецца, лірык, а не палымяны публіцыст!

3 Раніцаю Федзя прачнуўся ад лёгкага стуку і скрыпу дзвярэй. Была дзвятая гадзіна, і Максім паспеў схадзіць у магазін, прыйшоў з сеткаю свежых прадуктаў. Ён выглядаў сёння больш бадзёра, на шыі не было бінтавай павязкі. Выклаў на стол торбу малака, каўбасу, палавіну бохана хлеба, слоік варэння, сыпнуў абаранкаў.

— «И запируем на просторе...» Уставай, гультаеча, ужо можна было два вершы напісаць, а ты...

— Устаю-ю-ю...— пазяхнуў Федзя.— Смачна ў цябе спіцца. Не думаў, што ў горадзе можна так дрыхнуць.

— А што горад... У горадзе таксама людзі жывуць,— Максім сеў на крэсла верхам, узлокціўся на спінку.— Значыць, так...— узняў папераджальна палец.— Снедаем і едзем у Палац шлюбаў. Паглядзіш, як з бласлаўлення Лямешкі здзекуюцца над праваслаўнымі.

— Туманна выказваешся... Перакладзі на беларускую мову.— Федзя спусціў з канапы ногі, яшчэ раз пазяхнуў, з хрустам выпрастаў угору і моцна прыціснуў да плячэй сагнутыя ў локцях рукі.

— Бачыш ты, учора я не сказаў табе... Прысылалі нам з міністэрства культуры на водгук сцэнарый сучаснага абраду рэгістрацыі шлюбу. Дом народнай творчасці, мабыць, распрацаваў... Пачыталі мы, пачыталі — во-о такая куча заўваг: нічога няма ад народнага абраду вяселля! Хацелі яшчэ на вучоным савеце абгаварыць, каб афіцыйна вынесці прысуд, прапанаваць, можа, нават сваю распрацоўку. А Лямешка некалькі нашых нязначных заўваг прыпісаў і блаславіў, падпісаў: новыя абрады — у жыццё! І, думаеш, што? Нават тых заўваг не прынялі, так і пусцілі сцэнарый ў загсы і Палацы шлюбаў. Нейкая ёсць камісія па новых абрадах, яна дыктуе.

— Гэта ціка-а-ава...— Федзя пачаў хутка адзявацца.— Але ж мне трэба і ў інстытут заглянуць. Мо якія паперы ў канцылярыі мне ёсць.

— Можаш заглянуць. Я цябе тут пачакаю, у мяне яшчэ бюлецень, не хачу там паказвацца.

Паснедалі хвілін за дваццаць. А яшчэ праз дваццаць хвілін Федзя вярнуўся з інстытута. Цяпер ужо інстытут быў не ў галоўным корпусе Акадэміі, а ў канцы акадэмгарадка, у левым высотным будынку —

«хмарадрапе», як жартоўна называлі яго ўсе. А галоўны корпус стаяў без акон і даху, ад яго нібы патыхала вайною, руінамі. Тут ішоў капітальны рамонт.

Выйшлі на галоўны праспект. Але не селі адразу на аўтобус ці тралейбус, а спачатку павандравалі да парку Чалюскінцаў. Федзю карцела паглядзець, як будуюць метро. Але што можна было ўбачыць? Уся прастора праспекта ад плошчы імя Калініна да Валгаградскай вуліцы абнесена магутным і высокім плотам. У шчылінку было відаць, што там, дзе яшчэ не ўзламаны асфальт, ляжаць сцірты тоўстых металічных труб, тонкіх азбеставых, нагрувашчаны ўсякія металічныя канструкцыі, вагончыкі-тачкі, бетонныя блокі, пасярэдзіне — сляды машын, адціснутыя на рассыпаным грунце і гразі, яны вялі далей, пад Валгаградскую, дзе зеўрала яма-правал. Глядзець пакуль што не было чаго.

Селі на тралейбус на плошчы Калініна і даехалі да плошчы Перамогі. Тут прайшлі бакавым скверыкам, мінулі Дом першага з'езда РСДРП.

— У газеце быў здымак макета: Палац шлюбаў, які будзе пабудаваны каля Паркавай магістралі,— гаварыў Максім.— І подпіс узнёслы: «Перад нашымі вачыма нібы распусцілася беласнежная кветка з пялёсткамі, сімвал жаданага шчасця. Сярод бучнай паркавай зеляніны яна так і вабіць маладыя сэрцы пекнатой». І тэ дэ, і тэ пэ. А пакуль што адзін з такіх «палацаў» вось тут, на першым паверсе жылога дома.

Каля «Дома бракосочетаний» яшчэ машын не было, і хлопцы спусціліся ўніз, да ракі. Свіслач у гэтым месцы была раскапана шырока, узяты ў бетон берагі агінаў шырокую завоіну. На сярэдзіне сярод нейкага зелля драмалі на вадзе белыя чайкі. Паўз набярэжную, нават на ніжніх прыступках сходцаў, што пакручаста вялі да вады, напрыбівалася нейкага драўлянага друзу і смецця.

— Бачыш? Не памагае і Вілейска-Мінская водная сістэма. Мала дабавілася вады ў рацэ, не прамыла яе, не прачысціла як след,— сказаў Максім.

— А вунь рыбакі, на тым беразе... Значыць, рыбка ёсць!

— Можа, і ёсць... Але хіба яе ўясі, калі зловіш? От забаўка людзям.

Федзя закурыў. За ракою, у Купалаўскім парку,

на раскрытым да ракі пляцы трымцела над фантанам вясёлка. Ружова-зеленаватае воблачка туману ахутвала цёмна-бронзавыя постаці дзяўчат, што схіліліся над фантанам, пускалі на ваду вянкі. Купалле...

І нібы пачуўся Федзю звонка-празрысты і трапяткі, як вядзьмарскі, усклік-закліканне Уладзіміра Мулявіна, завадатара «Песняроў»:

— Ой, рана-ра-ана, на Йвана-а-а-а-а!!!

Але ззаду і вышэй, на вуліцы, піпікнула, і яны схамянуліся: прыехала кавалькада машын, вяселле. Федзя таропка кінуў у ваду недакурак. Бягом пакараскаліся па адохне ўгору — засапліся, нібы здавалі залік па стометроўцы з перашкодамі.

З машын ужо навыходзіла людзей. Стоўпіліся, чакалі, пакуль малады і маладая зрыхтуюцца да рашучага кроку. Мо на паўгалавы быў меншы жаніх за нявесту, усохлы, з залысінамі. А яна была мажная і дзябёлая, налітая сокамі. Урэшце з той купкі, дзе былі маладыя, пачулася — «Х-ху!», жаніх выдыхнуў і зноў хапянуў паветра, як перад скачком у ваду, рашуча нагнуўся, перахапіў сваю нарачоную адною рукою пад калені, другою — за стан. Падняў... Світа адабральна загукала, некаторыя ажно запляскалі ў ладкі. Жаніх нёс яе да прыступак уподбежку, яго вадзіла і хістала ў бакі.

— Гэта ўсё па сцэнарыі... Па тым сцэнарыі абраду, які Лямешка благаславіў...— гаварыў пацiху Максім.

На ганку стаяла з кветкамі строгая цётка ў сінім касцюме, роблена ўсміхалася. «Дабро пажалаваць! Дабро пажалаваць!» — гаварыла яна. І ўсё сышло б гладка, каб не дзве прыступкі ў пляскатым і доўгім ганку. На адну жаніх ступіў борзда, а на другую ўжо не хапіла пораху. Спатыкнуўся і... гэпнуў нявесту на цэмент — у белай сукенцы і вэлюме — цётцы пад ногі. «Хо-х!» — узарваўся смехам і сам сабе зацiснуў рот Федзя, з жаніхоўскай світы таксама хтосьці не ўтрымаўся, чмыхнуў. «Дабро пажалаваць!» — трэці раз паўтарыла казённая цётка, падхапіла нявесту пад руку, памагла ўстаць, сунула ёй кветкі. Тым часам і жаніх устаў і гладзіў пабітыя аб востры кант прыступкі калені, устрэпваў адной нагою і другой. Падышла ўшчыльную да іх і ўся світа. Гамана, жартоўныя выгукі... І не пачулі хлопцы з супрацьлеглага тратуара,

з-пад дрэва, што сказала жаніху тая цётка ў сінім касцюме, завярнуўшы яго ў бок ад ганка. Хлопцы ўбачылі калодку з убітаю сякераю поруч з усходцамі.

— Раскалоць яму трэба... Таксама па сцэнарыі...— сказаў Максім.

Жанішок затузаў сякеру, не мог вырваць яе з калодкі, біў па тапарышчы далоняй то зверху, то знізу, потым завіс на ім, здаецца, нават ногі падкурчыў. І тут калодка ўпала, а ён сеў новымі штанамі на зямлю.

— Го-го-го! — ускінуў Федзя галаву, даючы волю смеху.— Го-го-го! — пабег па схіле ўніз, да вады, і смех хістаў яго, кідаў у бакі — аж не ўстояць было.

Тоненька зацекаўся Максім, спускаўся следам.

— Куды ты?! Чакай, яшчэ не ўсё! — выкрыкваў ён праз смех.— Трэба было б яшчэ ўсярэдзіну зайсці, услед за працэсіяй.

— До-о... Го-го-го! Не да жонкі яму будзе! «Хуткая дапамога» прымчыцца, павязуць грыжу зашываць!

— З таею калодкаю... у кіно недзе ўбачылі, перанялі. З Прыбалтыкі, здаецца... Культуршчыкі-халтуршчыкі!

— А ў Мінску вельмі ж трэба калодкі калоць! Хай бы ж наладзілі конкурс, як у Фінляндыі: хто хутчэй абцярэбіць сукі на паваленай сасне. Смехаўё!

А Максім больш не смяяўся, ішоў угнуўшыся, рукі ў кішэнях, кусаў губы. Перастаў смяяцца і Федзя. Яны праходзілі якраз пад мостам, пад праспектам, кіравалі ў дзіцячы парк імя Горкага. Ім хацелася яшчэ прысесці дзе на лаўку, пагаварыць на развітанне. А мо і проста памаўчаць разам і падумаць.

## Раздзел шосты

1

«Я не падобны на бацьку... Ніяк не падобны... Ніколечкі не падобны»,— не раз даказваў Саша сам сабе, калі глядзеўся ў люстэрка. І знаходзіў у гэтым непадабенстве ўцеху, спатольваў душэўную грызь, што бесперастанку тачыла яго. Бацька, бацька... Гэта ж трэба такога навытвараць! Гэта ж трэба так абгнюсіць самога сябе і іх абняславіць — дзяцей, маці. «Та-

ня, Ваня, Алена — малыя яшчэ, ім — што... А мне як быць, а мне куды падзецца? Што мне рабіць?»

Даўно, яшчэ залетась, у сёмым класе, завёў ён сабе люстэрка. Рая Русак, калі засталіся ўдваіх у класе на перапынку, сказала прытворна-томным голасам: «Вой, ты — як Анжэла Дэвіс...» І нават паспрабавала ўваткнуць у яго кучары аўтаручку — ці ўтрымаецца? Недзе вычытала, што негры-вучні заўсёды так робяць, нават іншыя дробныя рэчы хаваюць у шавялюрах. Сашка тады страсянуў галавою, і ручка бразнулася аб парту, а потым аб падлогу. Ды так няўдала стукнулася — корпус каля пяра лопнуў, і Рая на наступным уроку, на дыктоўцы, перапэцкала ўсе пальцы. Да таго ж, кончылася чарніла, і Рая закруцілася, зашаптала туды і сюды: «У каго ёсць запасная?» — «Ціха, будзем працаваць далей!» — настаўніца пазычыла ёй сваю і працягвала дыктаваць. «Ламака-задавака, так табе... і трэба...» — падумаў Саша, але раптам зрабілася шкада Раю.

І хоць, здаецца, тады нікога ў класе не было, не чуў ніхто (а мо Райка потым распляскала?), Сашу ўсе пачалі зваць Анжэлай Дэвіс. Спачатку злаваў, а потым перастаў рэагаваць, правільней, стараўся знешне нічым сябе не выдаць,— і абзывацца сталі менш. Ён быў у класе самы даўжэйшы (памер сорак чацвёрты, рост пяты), але рахманы, і на ім спрабавалі ездзіць. Асабліва прыставаў тоўсты («як удоўж, так і ўпоперак») акулярык Алег Жухалаў — «бычок», «быська». Хоць Алег быў і ніжэй за Сашу, але сіла ў яго была нямераная, ніхто з ім не асмельваўся дужацца, нават Саша, які адчуваў сябе на роўных толькі ў малышні з чацвёртага класа. Зноў жа, адкуль стала вядома, што ён любіць малых? Мо пайшло ад саміх «шпінгалетаў», над якімі пачаў шэфстваваць, над другім звяном, калі ўступіў летась у камсамол. Часта ў канцы збора ён клаў малых і левай, і правай, штабеляваў у дзве кучы, а яны вішчалі, стагналі, крахталі, спрабавалі вылузацца і паваліць самога. А потым, шчаслівыя і знямажаныя ад таго, што ім трапіўся такі важаты, малыя прасілі: «Сашка, дай памацаць біцапсы!» І ён згінаў руку, напружваў мышцу — «Мацайце!», а потым лытку «талчковай» нагі — «Мацайце!». Мускулы былі цвёрдыя, як жалеза, на руках і на нагах. Ахкалі малыя і зайздросцілі Сашу, чэмпіёну школы па скачках

у даўжыню і вышыню. І мо ад таго, што Саша любіў фізкультуру, даводзіў сябе гантэлямі да таго, што пачынала збівацца [redacted] рытму сэрца, ён раздаўся ў плячах і ўжо ў восьмым класе касцюмчык сорак чацвёртага памеру быў яму такі вузкі, што ён баяўся варушыць рукамі, калі пісаў што на дошцы, абавязкова расшпільваў пінжак на ўсе гузікі. Як ні бярогся, пад пахамі часта лопала, і ён хадзіў, прытуляючы локці да бакоў. Але ўсе бачылі, а хто-ніхто падцікоўваў, каб засунуць пад паху палец, паслакітаць. Больш за ўсё Саша пакутаваў ад таго, што бачыла гэтыя дзіркі і Рая, што яна чысам смяялася разам з усімі. Дома з нейкай раз'юшанасцю ўшываў дзіркі суравымі, пафарбаванымі тушшу ніткамі, хоць ведаў — хопіць мацунку ненадоўга. Пра новы касцюм дома, дзе былі бязладдзе і калатнеча, не заікаўся, пачаў насіць і ў школу і дома спартыўны.

«Па матцы ты пайшоў — русявы...» — сказала раз яму бабка. І Саша зноў тайком вывучаў свой твар у люстэрка. І сам не разумеў, чаму яго цешыла, што і на маці ён не падобны. Па-першае, ён ужо зараз на цэлую галаву вышэй за яе. Па-другое, у маці твар акруглы, а ў яго прадаўгаваты, і нос не кірпаты, а... а нармальны мужчынскі нос. І вочы цёмныя, амаль як у бацькі, а не шэрыя, і бровы не такія непрыкметныя, як у маці, а густыя і чорныя, амаль як у бацькі. І вусікі прабіваюцца, вусікі! Яны ажно губу казычуць, іх хочацца гладзіць, пачухваць, разглядаць... І вось гэтак, разглядваючы сябе, нават любуючыся сабою, Сашка ўразумеў, што ён нават прыгожы, і Рая нездарма тады засоўвала ў кучары аўтаручку, мабыць, хацела запусціць і пальцы.

У школе ведалі і пра нелады ў іх сям'і, пра «канцэрты», якія адбываліся паміж маці і бацькам, бацькам і бабай. А вясною, перад тою градабойнаю накам і бабай. Алег Жувальніцай пачалі гаварыць чорт ведае што. Алег Жухалаў, ухмыляючыся пухлымі ружовымі губкамі, спытаў: «Што — бацька скора прывядзе табе новую маці?» Саша з маланкавай баксёрскай рэакцыяй, сам ад сябе такога не чакаў, саўгануў кулаком у гэтыя русявыя і пухлыя губы. Алег адхіснуўся, зляцелі акуляры, а з носа і губ пацякла «юшка». Ён адною рукою заціскаў сабе нос, а другою разгублена і слепа шарыў па падлозе, між партамі, шукаў свае «мінус шэсць». Памаглі іх знайсці, усчапіць на разбіты нос дзяўчаткі,

яны і да мужчынскага туалета яго давялі, і хоць ён і насоўкаю заціскаўся, а скрозь па падлозе накапала чырвоных кропель.

Алег малайчына, нікому не скардзіўся, дзяўчаты маланкава замылі мокрымі газетамі барвовыя кроплі. Толькі як зайшоў на ўрок, папрасіўся сесці — вымыты, з распухлымі губамі, неўзабаве прыслаў Сашу паперку. Не запіску, там і слова напісанага не было. Быў малюнак: пакой, на другім плане зарашэчанае акенца, на першым у доўгай усміральнай кашулі да голых валасатых лытак (то-о-онянькіх, худзенькіх!), з рукавамі, завязанымі вузлом ззаду, расхаджвае доўгі, як Дон Кіхот, Саша. Шаржыраваныя і раскарыкатураныя профілі ў Алега атрымліваліся здорава, глядзець чарговыя выпускі насценнай газецы збягаліся ўсе — ад малога да вялікага.

Пасля навальніцы і здарэння з бацькам Саша некалькі дзён прапускаў заняткі, хоць нібыта і збіраўся раніцаю ў школу. Прападаў абы-дзе, прымяркоўваў і выглядаў, каб вярнуцца тады, як і ўсе школьнікі. А потым, хоць і хадзіў, вучыўся абы-як, сядзеў за партаю ўгнуты, нібы і яго прыбіла. Ён не мог нікому паглядзець у вочы, нібы гэта ён быў вінаваты ў тым, што нарабілася. Усё яму было пастылае, усё-ўсё! Ён і экзамены здаваў сяк-так, мо і зусім не пайшоў бы на экзамены, каб не Рая і Алег. Жухалаў не крыўдаваў за тую зубатычыну, многае ўжо разумеў і спачуваў Сашу, бо і сам рос без бацькі. Нават Рая перастала «ламацца», гаварыць манерна-томным голасам, нібы артыстка Дароніна, а больш шчыра і сардэчна. І Саша раптам убачыў, што яна нечым і падобна на тую артыстку, якую пераймае. І папрыгажэла яна, ці што?.. Рая і Алег тармасілі яго, ледзь не сілком вадзілі на кансультацыі ў школу, хоць на тых кансультацыях Саша амаль нічога не бачыў і не чуў. Галава была забіта адным — што рабіць?

У бальніцу да бацькі не схадзіў ні разу, а потым, калі той ужо быў дома, стараўся не сустракацца з ім, не размаўляць, уцякаў на работу ў калгас.

Бацькава паездка на курорт, потым вяртанне — не дадому, а да Волькі Канапелькавай! — зноў былі як гром сярод яснага неба. Думалі (бабка такую версію падтрымлівала), што пашалеў, падурэў, ды ўсё абы-дзецца, увойдзе ў нейкія рамкі-берагі. Ажно не... І Са-

шу здавалася, што дзе б ён ні быў, куды б ні ішоў, на яго глядзяць людзі. Калі ж яшчэ хто гаварыў ці шаптаўся, здавалася: пра іх сям'ю, пра яго. Кожны чужы смяшок сцёбаў, як пугаю.

Невыносна, не ўжыць проста, было і дома: маці то хапаў ланцак, істэрыка, то ўся зацінался і чарнела тварам, рабілася зусім чужою і страшнаю. У такія моманты і малодшыя дзеці туліліся да бабы ці да яго, Сашы, і было хлопцу горна да нясцерпу, ледзь стрымліваўся, каб не расплакацца самому. «Я — старэйшы ў сям'і, я — мужчына... У мяне ратунку шукаюць, і я ўратую іх, не дам загінуць...» — шыбала ў галаву, хоць яму самому хацелася мець якую апору, асабліва цяпер, калі кінула жыццё перад ім такое раздарожжа. Слёзна-крыўдна было за тое беспрасвецце, што паўстала перад імі, за тое, што на яго долю выпала такое ліха.

«Ім што?.. Парасяты ружовыя... Цяляты бесклапотныя...— думаў пра сваіх аднакласнікаў.— Ім і ў сне не сніцца такое... Ім бы ў маю шкуру — хоць на тыдзень». Факт заставаўся фактам — дарогі іх разыходзіліся назаўсёды, прыяцелі будуць канчаць дзесяць класаў, пададуцца ў інстытуты. А ён... Яму хутчэй трэба спецыяльнасць у рукі, яму трэба карміць сям'ю. «Не возьмем ніякай дапамогі ад бацькі... Не патрэбны яго аліменты — абыдземся,— гарачліва вырашаў за ўсіх, нават за маці.— І хай не думае вяртацца — не прымем. І малым уталкую: няма ў нас бацькі і не было... І перад маці ультыматум пастаўлю: хопіць прыніжацца, хопіць цярпець! Забудзем пра яго — і ўсё. І хай толькі заікнецца пра яго Ваня ці Алена... ці Таня...»

Прыспешыла ход падзей дзедава вяселле.

Мо таму, што крыху выпіў (першы раз за ўсё жыццё, паддаўся на ўгаворы і кепікі Сяргея), зацятасць у сэрцы адпусцілася, Сашу раптам стала шкада бацьку. Ён здаўся такім самотным на гэтай бяседзе, такім няшчасным і аблудным! У Сашы нібы зрок абвастрыўся: пуста вакол бацькі, ледзяная пустэля! Усе чужыя яму: і дзед, і дзядзька Федзя, і цётка Настаса, усе трымаюць яго пад прыцэлам позіркаў, каб чаго не натварыў, не нагаварыў, як за злодзеем цікуюць. Зусім чужыя людзі і то лепш адносяцца, раўней. А што весела ўсім, і сваім і чужым, што яны папраўдзе радуюцца з тако-

га выпадку-падзеі (дзед жэніцца!), дык жа няпраўда! Усе прыкідваюцца, усе разыгрываюць «ціятры», асабліва гэтыя бабулькі: спяваюць і спяваюць вяселле. Трымцела Сашава душа, хацелася не спяваць, а плакаць, трымцелі пальцы, калі зноў браў чарку. І першы раз злавіў на сабе позірк цёмных, без дна, бацькавых вачэй. Прыўзнялася яго рука над шклянкаю, выпрастаўся ўказальны палец, паківаў пагрозліва з боку ў бок: «Ты што? Іш ты... смаркач...» Угадаў Саша, што якраз такія словы мог сказаць бацька. «Сам п'яны, а пагражае... а забараняе піць...» — усё ўзбунтавалася ў ім. І не шкада ўжо было бацькі, хацелася рабіць яму назло. Ён «хлопнуў» поўную чарку нейкага «ярша» (ці не Сяргей падмяшаў гарэлкі?), тосту не чакаў. А бацька і не бачыў ужо гэтага, позірк яго быў утароплены проста перад сабою — у невядомасць і пустэчу, і нібы бельмамі пацягло вочы. Сашава геройства заўважыў толькі Сяргей: «Во, даўно б так... Гэтага — нельга, таго — нельга. А ім — можна? А яны што вырабляюць? — горача шаптаў яму ў вуха, і Сашавы затуманеныя мазгі ўжо не ўспрымалі ні гэтага шэпту, ні тлуму, што стаяў у хаце.— Бунтаваць! Бунтаваць! Мяне продак у інстытут механізацыі засунуў... А нашто мне інстытут механізацыі? Я мо па натуры артыст... Арты-ы-ыст! Зразумела? У панядзелак у мяне першы экзамен у тэатральна-мастацкім інстытуце. А я яшчэ тут... чаі распіваю. Да сонца ўстану, да кароў — і гайда. І нішто мяне не ўтрымае!».

Апошнія яго словы пачула Наташа: «Нават зямная гравітацыя... Пырх — і ў космас. А адтуль носам у гразь — плюх!» — «Не дзяўкай, дзяўкавіца... Я свайго даб'юся... — Сяргей пацягнуўся, каб пстрыкнуць Наташу па носе. Але Саша перахапіў яго руку, адкінуў назад і абярнуў бутэльку, разліў нейкае пітво. «Отракі! — шумнула на іх Жухалава.— А ці не хопіць вам тут са старымі сядзець?» Яе прапанову пакінулі без увагі, як і папрок Сяргеевай маці: «Сынок, не пі больш, ты што гэта сабе думаеш?» Саша пачаў шаптаць Сяргею: «І я... і я махну адсюль... У СПТВ...» — «Ну й дур-рак... Са мною давай, у Мінск...» Саша нават разгубіўся: от не думаў... Што не думаў, то не думаў. Чужы яму Мінск і далёкі, страшны сваёй невядомасцю. Куды там, чаго? Да каго?

А потым быў перапынак, Жухалава выцягнула

Сяргея на танец, а Саша з Наташаю прайшлі на кухню.

«Саша, гэта — праўда? З бацькам тваім...» — спрабавала выпытаць Наташа, але ён перабіў яе сваім пытаннем: «Куды будзеш паступаць?» — «Яшчэ не ведаю...»

Да іх скора далучыўся Сяргей. «Закурым?» — фарсова працягнуў яму пачак «Космасу». «Я не куру»,— пакруціў галавою Саша. «Ды не прыкідвайся ты! Куры! Ніхто на нас не зважае ў гэтым вэрхале... Во, на двор павалілі...» Саша зноў пакруціў, і замест яго працягнула руку да цыгарэт Наташа. «А па лапах — не хочаш?» — ляпнуў ёй па руцэ Сяргей.

Іграла-рэзала на гармоніку цётка Дар'я...

«Нам бы што сваё. Джазіка! Эх, у мяне ў Мінску такі люксовы магніт! Мінчанін адзін папрасіў пакарыстацца...»

У Сашы быў неблагі прайгравальнік, і ён падручыўся збегаць.

«Галоша... Як даваенны патэфон,— зганіў Сяргей, калі Саша прынёс прайгравальнік.— А хіба гэта дыскі? Заезджаны шырпатрэб. А ў мяне такі поп-арт — закачаешся!» Аднак ён танцаваў, заўзята віхляўся між сталом на «пятачку», дзе толькі што таўкліся старыя, і ўсё падкручваў, узмацняў гук, каб заглушыць гармонік. І Наташа «танчыла» з Сашам, Сяргея старалася ігнараваць. Саша любаваўся сваёй стрыечнай сястрой, параўноўваў з Раяй-аднакласніцай і з нейкай не ўсвядомленай яшчэ радасцю адзначаў: Русак Рая лепшая! Не такая худая і нервовая, нават прыгажэйшая. І яшчэ: больш свая, чым Наташа, сваячка. «Няўжо яна курыць? А от Рая не курыць, не курыць...» На іх час ад часу паглядвалі з кухні Іван Іванавіч і Аляксандра Піліпаўна, зрэдзь то яны, то Настаса прабіраліся («Не павыбівайце з рук, чэрці!») да сталоў — штосьці замянялі, абнаўлялі, бразгаталі посудам.

Калі пасля перапынку паселі за стол, Сяргей зноў падсунуў чарку з падазроным пітвом... І Сашу зрабілася нядобра, пачаў выбірацца з-за стала. Цераз кухню, сенцы і двор ужо бегма бег. Каля хлевушка яго сарвала, і калі ішоў назад бледны і змучаны — перанята Настаса (яна паспявала ўсюды бываць, усё бачыць). «Мой божачка, упаілі дзіця... Каўтні мо хутчэй расолу, ото ўнясу, палягчае. І прыляж, прыляж у сенцах, тут ложак — вынеслі». І ён паслухаў, прылёг на

хвілінку, і яму здавалася, што ложак пагойдваецца і некуды плыве. Урэшце забыўся цяжкім сном...

Можа, і доўга праляжаў — ачуняў ад гаманы ў сенцах. Настаса ўжо раздавала гасцям сумкі і карзіны, і ў кожную клала гасцінцаў з вясельнага стала: то булку, то абаранкаў, то цукерак-пячэння, то кавалак торта. Убачыла, што Саша прыўзняў галаву, сказала: «А я хацела ўжо цябе разуваць. Думала — хай сабе спіць тут, цёпла ж. Пойдзеш дадому?» — «Пайду, пайду...» — «То я табе торта загарну, дзецям занясеш. Ты ж без сумкі прыйшоў?» — і зашамацела, залапатала газетаю, угортваючы вялікі кавалак.

І ў сенцах яшчэ былі людзі, і на двары, і на вуліцы. То стаялі, затрымаўшы адно аднаго, і ўсё гаварылі-гаварылі, то спявалі абняўшыся «Скакаў казак цераз даліну», то нібыта ішлі да вулічных варот і ўсё бясконца развітваліся і «дзякавалі за канпанію». Толькі Сашаў бацька стаяў за варотамі адзін, як пракажоны, вялікі і чорны, злёгку пахістваўся. Пад пахаю ў яго таксама быў газетны скрутачак, мабыць, і яму ўручыла Настаса гасцінец.

Толькі куды ён пойдзе? Каму панясе?

Зноў стала шкада яго. Саша ўжо амаль праспаўся, адчуваў сябе лепш, і хацелася тварыць людзям дабро.

«Хадзем дадому, тата!» — узяў бацьку пад руку, павёў. І той не вырваў рукі, хоць спярша і тузануўся. Зрушыў з месца цяжка, нібы вырываў з зямлі ногі-карані...

«Саша, я цябе — л-люблю. І паважаю... Я вас усіх л-люблю, і Таню-Ваню-Алену... Ты не думай, што я прахвост які. У мяне — во, сэрца баліць... Я магу — хочаш? — грудзі разарваць! — бацька тузануў з яго рук локаць, нібы і праўда хацеў разарваць грудзі, але рвануў толькі кашулю, пасыпаліся гузікі.— Магу паказаць... Толькі мы не ў казцы... Не! І сэрца ў мяне не лямпачка... Н-не! Не свеціць... І дарогі нікому не паказвае... Ты не думай, я таксама грамацей — ведаю, што пісьменнік Горкі пісаў. Ал-ле мне самому цёмна... Я сам спатыкаюся, нос магу звярнуць на патыліцу...»

«Я павяду... каб не звярнуў»,— сказаў Саша.

Падыходзілі ўжо да дому, і Саша думаў — зразу і паверне, завядзе ў хату. Але бацька як не ўскапыціў зямлю, вырваў локаць і задзёр абедзве рукі ўгору, не даючыся ўзяцца. У пыл гэпнуў газетны скрутачак.

Рыўком нагнуўся, каб падняць, і ледзь не стаў ракам. «На... нясі... — пачаў соваць яго ў рукі Сашу. Газета разгарнулася і парвалася, відаць было пры месяцы, як яна выпацкана ў крэм.— А я не пайду. Адрэзана!»

«То хоць занясі сам! Сам!» — Саша хаваў рукі са сваім скрутачкам за спіну.

«Не! І годзе...»

«Ну дык... нясі гэтай... сваёй! А нам не трэба!» — пхнуў ад сябе бацькавы рукі.

І тут бацька зноў упусціў з рук свой кавалак, абедзвюма рукамі, але не памятаючы, руч згамтарыў Сашу за кашулю, сцепануў: «Ты... не смей так... на яе! Ты яшчэ... смаркач зялёны!»

«А як?!» — крычаў Саша нема. Яго калаціла.

«Волька харошая... поняў?»

«А мама кепская стала? А мы ўсе — якія для ця-бе?! — як не лямантаваў, мо ўсе суседзі чулі, Саша. І выкрыкнуў не сваё — чутае ад маці: — Яна су-у...»

І не закончыў слова,— бацька ўрэзаў яму па правай шчацэ, ажно бліснула ўваччу. І крута павярнуўся, падыбаў прэч. І Саша пабег. У двор. Плачучы.

Жыць яму на свеце не хацелася ніяк. Яму хацелася павесіцца, не заходзячы ў хату. Дзе б толькі якую вяроўчыну запарваць?.. Уключыў святло ў сенцах (сам праводзіў, без бацькі ўжо, сам стаўляў уключальнік), кінуў сюд-туд вокам. Не відаць! Ірвануў хатнія дзверы, ударыў кулаком па кнопцы ўключальніка...

І адразу паўсхопваліся малыя, зажмурыліся, зацерлі кулачкамі вочы. Незадаволена забурчала з печы баба. Прачнулася і заўздыхала на ўсю хату маці.

«Са-ашка!!! Каравая нам прынёс?!» — у адзін голас спыталі Ваня і Алена, працягнулі да яго рукі. І Саша механічна кінуў ім скрутачак. Мабыць, не спалі яны яшчэ, цярпліва чакалі Сашу і не маглі дачакацца. Толькі Таня соладка спала ў сваім ложачку. Закалаціўся Саша, нібы аблілі яго сцюдзёнкай, рыдаючы, абсунуўся каля ложка Тані на падлогу, з усяе сілы зацісну твар у далоні. Спазмы душылі горла...

2 Не скора супакоіўся Саша, як ні супакойвалі яго. Не скора ўсе ўгаманіліся, зноў палеглі. І слова нікому не сказаў ён, што адбылося там, на вуліцы,— зацяўся.

Раніцаю, калі маці была ўжо на кароўніку, а баба

недзе выйшла па гаспадарцы, ён пашворыў у шафе, узяў грошай — дваццацьпятку. Узяў сшытачную папку з прыгатаванымі дакументамі. Не хапала толькі ў папцы картачак «тры на чатыры», давядзецца ў Слуцку тэрмінова фатаграфавацца. Выпіў шклянку малака, узяў хлеба і сыра, каб зжаваць на хаду. Якраз устаў Ваня, не мог больш улежаць, у адных трусіках, амаль не расплюшчваючы вачэй, хістаючыся, патупаў на двор. Падаўся за Ванем і, пакуль той стаяў пад плотам, пацепваючыся, як ад холаду, сказаў яму, што едзе ў Слуцак паступаць у вучылішча, Ваня «агакнуў» і, вухкаючы ад свежасці, пабег у хату.

Пакуль дачакаўся Саша аўтобуса, пакуль даехаў, пакуль адшукаў у Слуцку такое атэлье, дзе картачкі робяць тэрмінова, прайшло гадзіны дзве. Больш за гадзіну стаяў і ў чарзе, ніколі не думаў, што раптам гэтак многа хлопцаў і дзяўчат захочуць мець новыя картачкі. А пакуль стаяў, то вычытаў на сцяне каля дзвярэй, што тэрміновыя здымкі робяцца за суткі. Вось дык тэрміновыя!

Бадзяўся па горадзе, па магазінах, купіў лёгкі трэніровачны касцюм. Баваўняны, трыкатажны, чорны. І тоненькі, не такі, як гэты, што на ім,— паўшарсцяны з замочкамі на манішцы і грудных кішэнях. Згарнуў куплены касцюм па шырыні папкі і ўклаў туды разам з дакументамі.

Потым схадзіў у кіно, сядзеў на апошнім радзе ў напалову пустым кінатэатры і лізаў марожанае. Потым зноў бадзяўся, аж пакуль не загулі ногі. Каля ўвахода ў гарадскі парк стаў у чаргу да латочніцы, купіў пяць піражкоў з мясам. А пакуль стаяў, то бачыў, што ў парку мітусяцца на футбольным полі хлопцы, ідзе не то таварыская сустрэча, не то трэніроўка. Пайшоў туды з піражкамі, сеў на лаўку і... праглынуў іх мо за мінуту. З'еў бы і больш, але...

Талопіў вочы на гульцоў і нервова адчуваў, як марудна цягнецца час. А трэба ж убіць дзень да вечара!

Ужо і футбалісты кончылі трэніроўку, пачалі сыходзіцца ўмесца, на хаду здзіраючы цераз галовы футболкі і выціраючы імі потныя твары, а ён усё сядзеў, не ведаючы, куды ісці яшчэ. Пабадзяўся па парку, а потым паваloкся на вакзал.

Саша не збіраўся дадому. І не таму, што заўтра

зноў трэба будзе дабірацца ў горад па тыя картачкі, здаваць дакументы. Не мог адолець сам сябе, прымусіць ехаць. Усё было дома няміла, усё сядзела ў пячонках, не хацелася нікога бачыць. Нават малых...

Нейкі ўкрадлівы голас то нашэптваў, то ўгаворваў-пад'юджваў увогуле не вяртацца дадому. Ніколі! «Хай самі глядзяць, клапоцяцца... Маці, бацька... Нарадзілі — то і гадуйце, хай у вас баліць галава. А ты не прападзеш, ты і без іх абыдзешся. Падумаеш — важнасць! Падумаеш — напужалі! Табе толькі б да першага верасня дабыць, а потым, у вучылішчы, на ўсім гатовым будзеш. Колькі ў цябе там засталося?..» — І Саша спыніўся, пачаў вывуджваць з кішэнек грошы, пералічваць, каб даць адказ таму голасу. Семнаццаць рублёў і трыццаць тры капейкі!» «Я з'еў марожанае і пяць піражкоў. Можна больш нічога сёння не есці — не памру. Марожанае каштуе дзевятнаццаць капеек, пяць піражкоў — сорак. Усяго, лічы, шэсцьдзесят... Ну, марожанае можна і не купляць, усядно з яго ніякага наедку, толькі піць хочацца. Замест яго можна купляць тры піражкі з павідлам, яны па шэсць капеек... Раніцаю, значыць, ем тры піражкі з павідлам, пасля абеду, пад вечар,— пяць піражкоў з мясам. Калі раздзяліць мае грошы на шэсцьдзесят капеек — колькі дзён я пратрымаюся? Трыццаць тры капейкі не буду браць у разлік. Яны хай у рэзерве... ці на газіроўку... Адзінаццаць разоў можна выпіць газіроўкі з сіропам — у аўтамаце. Не, лепш чыстай — трыццаць тры шклянкі... А семнаццаць рублёў, гэта значыць тысяча семсот капеек, падзелім на шэсцьдзесят. Гэта будзе... гэта будзе...» — ніяк не хацелі дзяліцца капейкі, і ён кавалачкам цэглы пачаў пісаць на тратуары. Недалёка было ўжо і да вакзала, абапал вуліцы сталі невялікія прыватныя домікі, і прахожых было мала, ніхто не дзівіўся з яго. Падзяліў, і атрымалася, што грошай хопіць на дваццаць восем дзён і яшчэ дваццаць капеек застанецца. Дабудзе да верасня, ура! А калі падзарабіць дзе крыху, то і зусім добра будзе... «А колькі ж гэта я піражкоў з'ем за дваццаць восем дзён? Дваццаць восемь на восем... на восем... дзвесце дваццаць чатыры! А калі ўзяць за год...— Саша зноў схіліўся да тратуара, зашморгаў цагелкам, множачы 224 на 365 дзён у годзе, звычайным годзе, не высакосным.— Трыццаць адна тысяча семсот шэсцьдзесят пі-

ражкоў! Фю-ю-ю... Ну й скаціна чалавек: гэта ж трэба такую прорву з'ядаць! Не могуць вучоныя нічога прыдумаць, каб не еў чалавек, не піў... Ушыў які элемент-батарэйку ў жывот... і хадзі сабе цэлы год, пагладжвай пуза... Канешна, не аднымі піражкамі жыве чалавек, грошай можа і не хапіць. І дзе вельмі тут заробіш, у горадзе, каб адразу і плацілі... Дурны, не захапіў прайгравальніка: можна было б каму загнаць. Мне падарылі — значыць, мой, што хачу, тое і раблю з ім, хачу — з маслам з'ем... А тых грошай, што за лета ў калгасе зароблены, не буду браць. Напішу маме пісьмо, хай палучыць — прыгадзяцца. А мо трэба якую даверанасць паслаць?.. Пашлю старшыні пісьмо, так і так, выдайце, і гэтак далей... Паслухаецца Дзеньдобры — ён добры...»

«А начаваць можна на вакзале. Гэта ж не зіма...»

Вось і выбрукаваная дарога-з'езд з вуліцы да вакзала. У пачатку яе справа — дашчаны магазін, каля яго стаіць машына-фургон з расхляпешчанымі дзверцамі. Дзядзька выцягвае жалезнаю палкаю-крукам пляскатыя вялікія скрынкі са здобнымі булачкамі. Няйначай з ванілінам гэтыя булачкі-завітушкі, падрумяненыя, прысыпаныя парудзелымі ад гарачыні крупінкамі цукру... Ці тыя кругленькія пухнаткі-пампушкі, пакрытыя бела-мутнай скарыначнай — застыў раствор цукровай пудры. Лупінкі-лусачкі сшалушваюцца, нібы стэарынавыя, наападала іх на дно скрынак, на паперу. От бы нагрэбці жменю! Саша толькі ўздыхнуў і пайшоў далей ад спакусы — на прывакзальны пляц, застаўлены аўтобусамі, таксі.

Мурашыны тлум людзей... То прыязджаюць аўтобусы, то ад'язджаюць, і пярэсты людскі натоўп то згушчаецца сварлівымі галчынымі чародамі каля прыгарадных аўтобусаў, то растае. Людзі цэдзяцца хто куды варухлівымі ланцужкамі, распырхваюцца ў бакі гарохам. Вока звыкла спынілася на тым месцы, дзе быў слуп з бляхай «11». Там таксама чакаў натоўп, нават здалося, што ён пазнае некаторых аднасяльчан.

Не хацелася, каб хто бачыў яго тут, не хацелася ні з кім сустракацца і гаварыць. Хутчэй зайшоў у чыгуначны вакзал, дзе былі і аўтобусныя касы далёкіх маршрутаў. І тут было тлумна, і тут усюды ўсё было занята — і злева, у пакоі маці і дзіцяці, і ў сярэдняй зале, уваходнай, і справа, у касавай зале, дзе лаўкі

стаялі ўздоўж сцен. Звіліста, мо ў тры ці чатыры столкі стаяла чарга на Мінск, людзі марнелі ў духатлівай знямозе. Рэзка, ажно набягала ў рот сліна, пахла капустай, «кіслымі шчамі». І Саша праштурхаўся да дзвярэй, што вялі ў сталоўку, асуджаючы сябе за маладушнасць. Паглядзець, толькі паглядзець, што там робіцца? «Шкодна многа есці, я ж упёр ажно пяць піражкоў! Абедаў, а жывот як і не ведаў... Ну, паганец, ну — пачакай...» У сталоўцы было таксама поўна наroду — каля буфета завозна, і за сталамі не было ніводнага свабоднага месца. «Ну во, бач... І няма калі выстойваць...» — перамог сябе, выйшаў з харчэўні. Няма чаго ў такі час на вакзале ацірацца, к ночы прыйдзе, калі пуста тут будзе.

Толькі выбраўся на ганак, як ад пасадачнай пляцоўкі «11» пачуўся прарэзлівы свіст. Зірк — а там нападзе натоўпу таўстун Алег Жухалаў стаіць і Рая Русак, махаюць яму рукамі. Зрабіў выгляд, што не заўважыў іх знакаў, зноў нырнуў у вакзал. Прайшоў яго наскрозь і вышмыгнуў цераз працілеглыя дзверы на чыгуначны перон. Зіркнуў сюды-туды — і подбежкам, па пуцях, улева — зноў у горад.

«Рана заявіўся... Позна ўвечары прыйду... Як нікога не будзе».

Бадзяўся па горадзе, потым за паштамтам, на беразе Случы доўга стаяў і сядзеў каля вудароў, аж пакуль не сцямнела.

Які бясконцы дзень, калі не ведаеш, куды сябе дзець!

Ноч на вакзале здалася яшчэ даўжэйшай, чым дзень.

Пазавучваў ледзь не на памяць усе расклады і табліцы. Правёў амаль усе цягнікі, якія ішлі ў той ці другі бок. Чытаў нечую забытую на лаўцы газету, пакуль не злавіў колькі разоў сябе, што не разумее радкоў, што вочы заплюшчаныя і ў галаве нейкая дрымотная каламуць-трызненне. А газету трымаў, не выпускаў з рук! Лаўка прыцягвала да сябе магнітам, і так хацелася прылегчы... Заснуў жа седзячы, закінуўшы галаву на спінку. І, мабыць, у сне ўсхропваў, бо прачынаўся ад уласнага храпу. Добра прылегчы не дазваляў дзяжурны: ён час ад часу прыходзіў з другой палавіны вакзала, дзе была дзяжурка, і катурхаў, успорваў тых, хто не вытрымліваў, разлягаўся «з нагамі». Ма-

быць, яму таксама было сумна там, у сваёй каморы, каля апаратаў, і ён, каб самому не драмаць, прыходзіў пазабаўляцца.

Але ўсё-такі ноч мінулася, пастунова вывіднела. Змучаны — балелі ногі, сцёгны, бакі, локці — выбраўся на двор. Пляц быў пустэльны, толькі чмыхалі дымком два раннія «пазы», збіраліся рвануць па вёсках. Пацепваючы плячыма ад свежасці, тулячы локцем да бока папачку, пабрыў зноў у горад. Было яшчэ зусім рана, нават прадуктовыя магазіны не адчыняліся.

На знаёмым беразе ўжо тырчалі рыбакі. Спусціўся да вады, паплюхаў трохі ў твар, цярнуўся шчокамі, колькі мог дастаць, аб плечукі. Адзін вудар забрыў у гумавых ботах на метры два ў ваду; Саша пазнаў яго, ён і ўчора быў тут, мабыць, месца прыкарміў.

— Ты гэта... Вунь, пад вярбою, торба, бачыш? — адразу, нібы чакаў Сашавага прыходу, звярнуўся да яго рыбак. І Саша добра разгледзеў хлопца: па гадах намнога старэй за яго, але нейкі недарослы, закажанелы, пад кароткім носам асцюкі вусікаў.— Вывудзі бутэрброд і падай мне. Другі можаш сам злопаць... Лады?

«Хай будуць лады...» — у думках адказаў яму Саша, узбіў на нейкую ламачыну складзеную ў дзве столкі скібку, працягнуў, як мага схіліўшыся над вадою, вудару. Той круць да яго, зняў з ражна хар[illegible] і... забыў пра Сашава існаванне. Саша пасядзеў з гадзіну, потым паволі абышоў яшчэ некалькі рыбакоў і паплёўся шукаць сталоўку. Пасля рыбацкага бутэрброда з салам і ўчарашніх піражкоў вельмі смаліла піць. «Каб чаго гарачанькага... Чаю набяру, шклянак чатыры ўбабохаю — і до...» А як сунуў сваю папку спераду ў штаны і стаў з падносам у чаргу, то ўзяў шклянку кефіру і салат з памідораў (людзі так бралі), узяў талерку баршчу, катлеты ■ двайным гарнірам, булачку і порцыю масла. Чаю ўзяў дзве шклянкі — пасаромеўся больш. Усяго на паўтара рубля — ледзь змясціў на падносе. Але ж суседзі з чаргі бралі яшчэ і не столькі. «Нічога, затое сёння больш — ні-ні...— даў сабе зарок.— І заўтра трэба падсэканоміць, вялікі перарасход».

За картачкамі давялося заходзіць двойчы — не былі гатовыя. Паміж візітамі старанна чытаў у скверыку на стэндах пазаўчарашнія газеты. Потым ішоў пешкі,

распытваючы дарогу,— па вуліцы 14-ці партызан, міма могілак, да вучылішча. «Медыцынская даведка па форме № 286 — ёсць... Дакумент аб адукацыі — ёсць, даведка з месца жыхарства — ёсць, чатыры фота 3×4, без шапкі,— ёсць... Яшчэ і мне дзве картачкі застанецца. Адну Раі Русак даць?.. Пасведчанне аб нараджэнні паказваецца асабіста...» — ужо каторы раз перабіраў ён у думках. І такім чынам збаёдаваў першую палавіну дня.

У другой палавіне тырчаў у кнігарні, разглядваючы кнігі, аж пакуль чарнявая таўстуха прадавец не прыстала да яго: «Хлопчык, дык ты будзеш браць што ці не? Я ўжо стамілася за табою сачыць...» Ляснуў кніжку на прылавак, пайшоў абураны да выхаду: «Думае — злодзей які... Цікую, каб далі зевака...»

Ішоў нага за нагу, пакуль зноў не апынуўся ў раёне вакзала. Не, на вакзал пакуль не пойдзе — рана. Яшчэ сустрэнецца хто з сяла. І дадому не паедзе, калі рашыўся — будзе трымацца цвёрда свайго.

Вуліцу коса перасякала чыгуначная ветка. А куды яна вядзе? У тым баку недзе млынкамбінат, хлебакамбінат. Пайшоў туды па шпалах, разглядваў нейкія склады справа ад рэек — то за платамі, то без платоў. Каля аднаго склада стаяў запылены вагон. Саша сышоў з дарогі, зазірнуў збоку — а што з яго выгружаюць?

Выгружалі цэмент у пляскатых папяровых мяшках. Цяжкія мяшкі, аднаму як падняць. А грузчыкі ў брызентавых робах лёгка насілі іх пад рукой, прыціскаючы да бядра. Іх было трое, чацвёрты ў складзе нібыта ўладкоўваў тыя мяшкі, што грувасціліся сціртаю ўздоўж сцяны, падпіхваў то аднаго, то другога, каб ямчэй улегліся. Самы малы быў чацвёрты грузчык, у жоўтай блузе з зяркастым чырвоным надпісам на спіне — «Help me» («Памажы мне!»). Мабыць, студэнт. Адзін з трох, чырванашчокі, медзведзяваты біцюг згледзеў Сашку. «Эй, гліст! Хочаш на марожанае зарабіць? Падсабі гэтаму сачку!» — кіўнуў ён пагардліва на студэнта. Іншым разам Саша пакрыўдзіўся б на такі зваротак і павярнуў прэч. Але крануў наіўна-смешны надпіс «Help me», шкада зрабілася хлопца: вельмі ж панура-хваравіты і затраўлены быў у яго позірк. Саша пайшоў у прыцемках да хлопца: «Як... табе памагаць?» Helpme шкадуючы зірнуў на Сашкаў

блакітны касцюм: «Насіць трэба... Г-гад, я ж не вінаваты, што ў мяне жывот забалеў...» — апошнія словы адрасаваліся ўжо мардатаму біцюгу.— «Чакай, не хапай адзін, а то будзе, як у мяне». Але Саша не паслухаў яго, тры разы занёс у склад сам, трымаючы мяшок перад грудзьмі, як каравай хлеба,— шкадаваў запэцкаць касцюм. І адразу адчуў, што так доўга не вытрывае, не памогуць «жалезныя» мускулы на руках і нагах. «Кажу — удвух давай!» — нават прыкрыкнуў на яго Helpme і пайшоў следам у вагон.

Насілі, уплёўшыся за ражкі, і Сашу даводзілася горбіцца, каб трымаць мяшок на адным узроўні з Helpme. Хутка адчуў, што пачаў ныць і дрыжаць хрыбетнік, забалелі мышцы жывата, плячэй, нават бакоў. Некаторыя мяшкі сачыліся сіняватымі струменьчыкамі пылу, з некаторых і добра сыпалася і пылела, як з порхавак, і Саша хутка стаў падобны на млынара.

Акрамя іх двух з левага закутка вагона браў мяшкі яшчэ адзін грузчык, мацак-мужычок. Біцюг з чацвёртым грузчыкам (шчокі ў таго зараслі рыжымі бачкамі) выбіраў правы закутак. Ідзеш з грузам — усе павінны даваць табе дарогу, гэта спрадвечная вясковая завядзёнка, дый увогуле — проста чалавечая. А біцюг не ўступаў, пёрся нахабна напрасткі, і даводзілася збочваць. Кожны раз Сашу хацелася таўхануць яго плячом, каб носам заараў з эстакады. І прымеркаваў неяк: ступаючы з вагона, добра шлэпнуў на пальцы біцюгу. Праўда, у Сашы на нагах былі кеды, і пальцаў ён не мог аддушыць біцюгу. Але той ахнуў, закружыўся на адной назе, падцінаючы другую, як боцян. І рынуўся на Сашу, занёсшы над галавою кулак. «Ты-ы!!! — рэзка крыкнуў яму з вагона мужычок-мацачок.— Не будзь сукай, сам вінаваты!» І біцюг паласнуў Сашу позіркам, як нажом, скрыгатнуў жоўтымі зубамі — павеяла смярдзюча-табачным дыхам: «Гліст... Пачакай у мяне!..» Але больш пад ногі не трапляўся і не чапляўся ні да Сашы, ні да Helpme.

З кожнай хвілінай мяшкі здаваліся цяжэйшымі, слабак студэнт ажно спатыкаўся і хістаўся, часта выпускаў ражкі мяшка з рук і са стогнам апраўдваўся: «Не слухаюцца пальцы, самі расціскаюцца...» Калі трэба было ўскідваць мяшкі вышэй грудзей Helpme, той быў зусім бездапаможны, і Саша браў усю нагрузку на сябе.

Колькі часу яны цягалі мяшкі, Саша не ўяўляў. Пад канец і яго ўжо вадзіла ў бакі, а цэментавы пыл у вагоне здаваўся ружовым. Свярбееў спатнелы твар, укрыты клейкаю карою гразі. Helpme зусім ужо не мог нічога рабіць, а толькі сядзеў і пляваўся цягучаю слінаю, і Саша зноў насіў мяшкі адзін перад сабою ці прыціскаючы з усёй моцы да сябе. Ён рашыў вытрымаць да канца, не даць біцюгу магчымасці пасмяяцца ■ яго. Але ўсё на свеце мае канец, скончыўся і гэты праклятаы цэмент. «Хліпак, расплачвайся з глістом са сваёй кішэні. Ён табе памагаў, а не нам усім...» — біцюг ляпаў картузом па далоні-лапаце і на Helpme не глядзеў. Хлопец жа зірнуў на яго сумнымі вачыма ў чырвоных павеках, і губы яго задрыжалі — адвярнуў галаву ўбок. Грошай, мабыць, у яго не было. І тады мацак-мужычок дастаў з-пад робы пакамечаны, як анучка, рубель, працягнуў Сашу, а студэнту сказаў: «Пры разліку — аддасі...»

«Гэта ўсяго заробку?! Адзін рубель?!» — Мабыць, на твары Сашы было здзіўленне і абурэнне, бо біцюг вызверыўся на яго. «А колькі ты думаў? Давай праваьвай, пакуль не накастыляў па шыі!» І Саша ўзяў гэты рубель, неяк зломана саскочыў-зваліўся з эстакады — ногі не трымалі. «Зарабіў... Вось дык зарабіў... Як Заблоцкі на мыле... Ды за рубля чорт яго касцюм апратае!» Ішоў і асцепваў сябе рукамі, выбіваў пыл, а касцюм ніяк не рабіўся чысцейшы, нельга было пазнаць, з чаго ён зроблены. Да вакзала не пайшоў, у зарасніках рагозу каля пуцей натрапіў на ззелянелую лужыну. Рукі памыў, а твар спачатку не адважваўся. Раздзеўся да плавак, доўга вытрэпваў штаны і куртку, лупцаваў па нейкім сшарэлым ад старасці слупку. Ды выбіванне мала памагло, касцюм трэба было мыць. Адзеўся, паляжаў, пакуль добра не сцямнела, і зноў пацёгся на вакзал. Пад «лыжачкай» смактала — вымерхаўся, у самы раз было б зноў падсілкавацца. Але ён ведаў, што сталоўка-буфет на станцыі ўжо зачынена.

І яшчэ адна невыносна доўгая ноч, і яшчэ дзень. Дажджлівы, чыста асенні, з холадам і ветрам. Саша толькі два разы выходзіў з вакзала — у туалет (гэта прымітыўнае збудаванне стаяла асобна) і ў дашчаны домік, дзе была дыспетчарская і прыгарадныя касы.

У касы — паглядзець на расклад, калі ідуць аўтобусы дадому і ў Навасёлкі, дзе жыў дзядзька Гардзей. І за гэтыя два разы змок, валасы злямчыліся, закарэлі ад цэменту, свярбела галава. Касцюм пад дажджом стаў плямісты і брудны, нібы Саша валяўся дзе пад плотам. «На валацужку стаў падобны. Міліцыянер падазрона ў мой бок глядзеў...» Холадна было ў плечы, так і хацелася прытуліцца да якое грубкі. Але дзе яе возьмеш? Можна было б пададзець яшчэ куплены касцюм. І цяплей было б, і хоць рукі апрастаў бы. Трэці дзень у руках папка, абрыдла яе пільнавацца. Ды на людзях Саша саромеўся пераадзявацца, а туалет быў такі, што не схаваешся.

Еў у вакзальнай сталоўцы адзін раз, але капітальна. Пра эканомію грошай ужо не думаў. Але не палепшаў ні настрой, ні самаадчуванне. Адчуваў сябе стомленым, нявыспаным, разбітым, хвалямі нагортвалася мляўкасць. Грызлі нуда і сум, бацька здаваўся ўжо чымсьці далёкім і нерэальным, быццам Саша прысніў яго.

Яшчэ раз прайшоў у прыгарадныя касы, купіў білет дадому.

«Ён сабе жыве, мы — сабе... І хай... А я з ім і па адной вуліцы хадзіць не буду...»

Сядзеў у амаль пустым аўтобусе ззаду, дзе ішоў ад матора цяжкі, але цёплы дух, нават праз сядзенне прыгравала ў плечы. Спачатку ўсё бяздумна-бясконца чытаў і перачытваў прывінчаны надпіс-пласцінку: «При аварии разбейте стекло молотком». «Разбейте... молотком... при аварии...» Ага, збегайце дадому па малаток — і разбівайце...» Потым не заўважаў нават, хто выходзіў,— драмаў. Свой прыпынак — трэба было сыходзіць пасярэдзіне вёскі — праваронiў: лыпнуў вачыма, а справа ўжо адбягае назад апошняя хата. Пакуль ушалопаў — дзе ён апынуўся, пакуль дакрычаўся шафёру, каб стаў, праскочыў аўтобус яшчэ метраў сто.

— Піць менш трэба, смаркач! — кінуў яму шафёр і яшчэ добра не спыніўся, як ужо рассунуліся пярэднія дзверы. Гэтак жа і зачыніў іх — хутка і рыўком, ледзь не прыхапіў Сашаву нагу.

Ішоў Саша дадому і хістаўся, як п'яны. Ішоў не сялом, а гравейкаю, па-за агародамі. Дождж сыпаў дробна і нудна, і здавалася, што ўжо вечарэе.

Павярнуў на свой агарод, нават прайшоў ужо крыху разораю, як убачыў на страсе бацьку. *Ён* гэта быў — Саша пазнаў: няўклюдная чорная глыба-корч. Сядзіць, унурыўшыся, і нічога не робіць, быццам знарок залез памокнуць.

Ногі самі павярнулі назад...

Чакаў аўтобуса не на прыпынку, да яго было далёка, а пад страхою машынных вагаў. Вецер прадзімаў іх наскрозь, прадзімаў і Сашу, і яго дробна калаціла. Калі ўбачыў, што аўтобус ужо імчыць назад, кінуўся напярэймы...

## 3

— ?!?

— Саступі, хай зойдзе чалавек. Праходзь, Саша...

— Госпадзі, Сашка! На каго ты падобны?! Што з табою, Саша?

— Потым распытаеш, бачыш — на нагах не стаіць. Запальвай газ, ванну грэй!

— А мы ўжо спаць класціся пачалі, целявізар толькі што выключылі...

— Ну!.. Дванаццатая гадзіна... Скідай кеды тут, каля парога.

Саша цяжка, надрыўна забухукаў. Абапёрся рукою на сцяну калідорчыка, падкурчыў нагу і другою рукою намагаўся развязаць шнурок. І падаваўся, хістаючыся, уперад — назад...

Амаль трое сутак не разуваўся, ногі ажно папрэлі, ад іх ішоў цяжкі дух. Душыўся ад сораму, а тут яшчэ Наташа прачыніла дзверы злева, высунула нос.

— А-а, прывецік, пілігрым...— вылезла з пакоя зусім, захінаючы на грудзях яркі, у кветкі, халат.— Якім ветрам прыдзьмула?

— Наташа, заўтра нагаворыцеся. Ідзі прыгатуй што перакусіць,— пагнаў і яе Гардзей Іванавіч.

— Люблю таямнічыя гісто-о-рыі-і!..— Яна ажно віскнула ад захаплення і паспешліва схавалася ў кухні.

— Ага, трэба, трэба табе ў ванну... — выйшла з ваннай Ларыса Аляксееўна, павяла носам.— Падпаліла, скора нагрэецца... І касцюм трэба абоўтаць, шкарпэткі...

— Я сам — шкарпэткі...— вымучыў з сябе Саша.

— Прагрэцца яму трэба добра — прастуджаны, мабыць,— Гардзей Іванавіч задумліва сачыў за рухамі Сашы і ўсё адцягваў шлейку падцяжак, ляскаў па грудзях.— Укінь мо пакуль што кеды і шкарпэткі ў туалет, во ў гэтыя дзверы... Ларыса, трэба паглядзець, у што яму пераадзецца пасля ванны.

— У мяне ёсць... Во тут, у папцы, касцюм... трэніровачны...— Саша пайшоў босы (ногі — чорныя!) па палавіку да туалета, пакінуў там кеды.— А шкарпэткі я сам зараз...— і паглядзеў разгублена па баках. У дзядзькі Гардзея была сапраўдная гарадская кватэра, дзе тут што і як?

— У ваннай ёсць умывальнік і кран...— паказаў Гардзей Іванавіч...— Саша, значыць, так: ванна — гэта доўгая песня, хай добра грэецца. А пакуль спаласніся трохі пад кранам — твар, рукі, ногі... ды пойдзем на кухню.

— Чаго доўга, чаго доўга? От мінут дзесяць, то будзе і цёплая, увесь спаласнецца.— Ларыса Аляксееўна прасунулася следам за Сашам у ванную.— Во мыла, во ручнік...ануча для ног, шлёпанцы.

— Кажу: прагрэцца яму трэба, і добра прагрэцца! — падышоў ушчыльную да дзвярэй ваннай і Гардзей Іванавіч, прасунуў руку паміж вушаком і жонкаю, памацаў Сашаў лоб.— Во... Ач? Гарачы...

— Ну, тады як хочаце... Пайду ў кухню.

А Гардзей Іванавіч вярнуўся ў калідор, да тэлефоннай тумбачкі, забраў Сашаву папку і вярнуўся ў ванную, зачыніў за сабою дзверы. Прысеў на беражок ванны...

— Пусці ваду, хай шуміць... Мый шкарпэткі, і будзем, гаварыць... Напаўголаса. Кажы — здарылася што?

— Угу...— Саша шморгнуў носам.

— Та-а-ак... Сышоў з дому?

Саша цяжка ўздыхнуў, больш павярнуўся да ўмывальніка, каб дзядзька не заўважыў, як задрыжалі ў яго губы.

— Та-а-ак...— Гардзей Іванавіч не знаходзіў, пра што далей гаварыць.— Задачу задаў... Ну, і каго ж ты гэтым хочаш пакараць, ушчунуць? Маці?.. Бацьку?..— Дзядзька пачакаў, але Саша маўчаў, і тады загаварыў больш горача: — Маці там недзе месца сабе не знаходзіць. («Дзіва што...— падумаў у гэты момант Саша.— Яна і пра меншых не думае, а не то, што пра мяне...»)

Мала ёй усякага гора, дык яшчэ і ты фокусы выкідваеш... Колькі дзён бадзяешся?

— Тры.

— Ну во... Там ужо міліцыю на ногі паднялі.

— Не паднялі. Я сказаў Ваню, што еду ў вучылішча механізацыі паступаць.

— А дзе начаваў?

— На вакзале...

— Цс-с-с...— Гардзей Іванавіч раптам устаў, склаў пальцы, як быццам збіраўся даць пстрычку, і рыўком адчыніў дзверы, кінуў уперад руку. Адразу ж войкнула Наташа, затупацела ад дзвярэй у кухню.— От зараза...— Дзядзька зашчапіў знутры дзверы.— Значыць, так... Напішаш заўтра дадому пісьмо — дзе ты і што ты... Ну, а ў нас можаш пабыць трохі, пагасціць.

— Я не хачу гасціць... проста гасціць... Я працаваць хачу.

— Ну — там відаць будзе. А пакуль, значыць, так: ты прыехаў пагасціць. Для іх так...— паказаў Гардзей Іванавіч у бок кухні.— Бо пачне Ларыса Аляксееўна пілаваць —не ўзрадуешся. Але што прыдумаць, чаму ты такі мурзаты?

— А нашто прыдумваць? Скажу, як было: памагаў у Слуцку вагон з цэментам разгружаць.

— Ну-у?!

— Ага. Рубель зарабіў. Во...— Саша спаласнуў і правай рукі брудны шум, дастаў з кішэнькі той пакамечаны рубель.

Гардзей Іванавіч распрастаў рубель на далоні, прыплясnуў другою, каб лепш разгладзіць паперку, пагледзеў нават грошы на святло лямпачкі.

— Эх, грамыка-гарамыка... Пра вагон таксама не гавары, а то толькі расцвеліш цікаўнасць. Павымай з кішэнь усё, Ларыса Аляксееўна памые касцюм... Ну, а мы з табою яшчэ пагаворым...

## Раздзел сёмы

I З люстраной шафы на ўзроўні Сашавых вачэй тырчала блакітная расчоска. Вялізная, зубы рэдкія, адразу відаць, што не мужчынская, не кішэнная. І трохі няёмка было браць без запытання, але ж і расчасацца трэба было. Не расчэсваў учора — а ця-

пер хоць бараною ці спружыноўкаю дзяры. Саша разглядваў сябе ў люстра, на галаве была грыва страшная, а новы куплены касцюм-трыко сядзеў у аблīпачку. Гэтага Саша цярпець не мог, шчыпаў, тузаў яго на сцёгнах, расцягваў, а той, як знарок, падкрэсліваў усякія выпукласці.

У кватэры была цішыня, толькі дзесьці ледзь чутна падыгрывала радыё. «Рана ўстаў... Яшчэ, мабыць, усе спяць»,— падумалася яму.

Не пачуў, захапіўшыся прычоскай, як адчыніліся дзверы з калідора, пачуў — хмыкнула Наташа.

— Добрай раніцы,— паздароўкаўся ён першы і тут жа згорбіўся сарамліва, увагнуўся: «Пракляты касцюм...»

— Вечар добры, брацік,— адказала Наташа і нястрымана зарагатала.— Ох, я — зараз...— знікла і праз хвіліну з'явілася зноў з чыстым, складзеным, хоць на выстаўку, касцюмам. Ад яго патыхала нечым падсмажана-прэсным, нібы патрымалі над агнём, падсмажылі пшанічныя каласкі.— Ты і праўда думаеш, што зараз раніца?

— А што? Не галёкай, паразбуджваеш...

— Ха-ха-ха! — зноў не вытрымала Наташа, кінула з рук касцюм на крэсла, схапіла Сашу за локаць і падвяла да акна.— Бачыш? Кароў з пашы гоняць!

З акна была відаць прасторная плошча з выкладзенымі плітамі дарожкамі і прамавугольным фантанам пасярэдзіне (фантан не пырскаў, але ў каменным басейне паблісквала вада). Злева плошчу адчэрчвала звычайная брукаваная вуліца з адным радам звычайных вясковых драўляных і цагляных дамоў. Каровы ішлі выбітымі ўздоўж бруку сцежкамі — адна за адной.

— А па чым відаць, што ■ пашы? Мо на пашу.

— Ну, а дзе ўсход і захад, ведаеш? Бачыш, дзе сонца?

Сонца ледзь прабівалася, хутчэй угадвалася за абноўленым, дасаджаным паркам, а парк быў за плошчай на берагах доўгага азярка-сажалкі — проста перад вачыма. Каля самай вады жаўцеў пясок, далей ад яе бераг засыпаны чорнай зямлёй ■ рэдкай зелянінай травы. Стаялі сям-там і лаўкі, а над вузкай гарлавінай азярка быў перакінуты гарбаты бетонны мосцік.

Адсюль, з чацвёртага паверха, відаць было, што на масток з плошчы вядзе выкладзеная бетоннымі плітамі сцежка.

— Разбярэш тут у вас, дзе ўсход, дзе захад. Як у горадзе, навыбудоўвалі...

— Ах, так! Я табе зараз скрыню ўключу...— Наташа падскочыла да тэлевізара, сунула штэпсель у разетку, схапіла з тэлевізара выразку з газеты, праграму.— Зараз мы табе дакажам... дакажам... Во, «Начартальная геаметрыя для тых, што паступаюць у ВНУ». Калі ласка, у васемнаццаць трыццаць пачалася.

Экран тэлевізара ўжо праясніўся. Лысаваты дзядзька ў чорным касцюме стукаў крэйдаю па дошцы, чарціў геаметрычныя фігуры, пісаў формулы, штосьці даказваў.

— Выключы. І так бачу — села ўжо сонца.

— Мама па дарозе ў магазін зайшла, а так бы ўжо дома была. І бацька скора вернецца... А ты храпеш як пшаніцу прадаўшы. Маці на абед прыходзіла: «Што, зноў лёг? Мо ўсур'ёз захварэў?» — пытае. Кажу: і не ўставаў яшчэ!

— Я здаровы. Зусім здаровы... А што за дамы справа ад плошчы? А-а, сам бачу: Палац культуры? А за ім, бліжэй да возера, школа?

— Ага. Родненькая... А там, у глыбіні парку за школай, дзіцячы сад,— падышла да Сашы Наташа, адчыніла дзверы на балкон і выйшла першая. За ёю — Саша.

— Цікава тут у вас! Як у горадзе...

— Мо каму і цікава. А мне — пройдзены этап.

— Чаму ж гэта? — насмешліва спытаў Саша.

— Ат, хадзем лепш, пакармлю.

— Не хачу я есці. Ды што гэта я адзін буду, а вы...

— Ну то і добра. А то сяджу цэлы дзень, сон твой ахоўваю, чакаю, калі б гэта пакарміць. Бацька загадаў, каб не будзілі.

— Я не хацеў... Я не думаў, што так будзе!

— Ладна, хопіць табе раскайвацца, стукаць кулаком у магутныя грудзі. Адзявайся, я табе Навасёлкі пакажу.

Зайшлі ў пакой, Наташа пакінула яго аднаго. Саша хуценька здзёр трыко, надзеў блакітны касцюм,

больш свабодны. Успомніў пра папку і выйшаў у калідор, каб схаваць у яе трыко. Наташа каля трэльяжа ўзлахмачвала расчоскай, чапурыла валасы і знарочыста ўздыхала:

— Парык купіць, ці што?.. Узнагародзіла мамачка валасамі... Мне б такія валасы, як у цябе: цыгейскі баран.

— Сама ты — аўца. З інакшымі валасамі ўжо не ты будзеш.

— Не сячэш у гэтым, дык і маўчы. Ты яшчэ такі-і-і...— мо хацела сказаць «такі жаўтароценькі», але не сказала.— Пайшлі, птушанё!

— Не разыгрывай з сябе свецкую даму. Ты ўсяго на які год ад мяне адскочыла,— спрабаваў агрызнуцца Саша.

На двары Наташа пачала тонам экскурсавода:

— Гаспадарчыя пабудовы, хлявы і хлевушкі аднесены ад жылой зоны падалей. Да іх вядзе ■ вуліцы, ззаду хлявоў, спецыяльная дарога. Шматпавярховая забудова, дамы з усімі выгодамі маюць свае нязручнасці: і высока, і далёка да кароў і парасят. Вось чаму многія жыхары небаскробаў ужо адмовіліся ад кароў. У нас таксама няма, а кабанчык ёсць, куры ёсць... Малако бярэм у магазіне...— Калі выйшлі з двара на плошчу, Наташа працягвала тым жа тонам, толькі больш насмешлівым — перакрыўляла нейкую канкрэтную экскурсаводку, мабыць, надакучылі Навасёлкам розныя экскурсіі: — Звярніце ўвагу на гэтыя чатыры чырвоныя вертыкалі жыллёвага масіву. Яны арганічна змыкаюцца ў адзін комплекс шырокімі шклянымі гарызанталямі, у якіх размешчаны кафэ, гастраном, прамтаварны магазін, пошта, цырульня з двума заламі, кравецкая і шавецкая майстэрні, прыёмны пункт хімчысткі. Гэтыя чырвоныя вертыкалі аздоблены дэкаратыўным нацыянальным арнаментам з таніраванай, апрацаванай плазменным струменем цэглы. Усё гэта разам з каляровай аблямоўкай балконаў, якая выканана з дэкаратыўнага шыферу, стварае ў сельскіх працаўнікоў прыўзняты, святочны настрой... Павярніцеся цяпер тварам на поўнач... Проста перад вамі Палац культуры з музычнай школай і рознымі гурткамі, дзе і дарослыя, і дзеці хлебаробаў могуць выявіць усе свае таленты...

— Ну — хопіць табе! — не вытрываў урэшце Са-

ша.— Выламваешся... А якога табе яшчэ ражна трэба, сама не ведаеш.

Наташа трохі зазлавала, моўчкі пайшла да азярка.

— Ты адразу нас знайшоў? — спытала, абы каб што спытаць.

— Цётка з другога дома ехала разам, яна і паказала.

Зноў ішлі і маўчалі. На мяжы чорнай і жоўтай палос берага вяла сцежка-дарожка, абсаджаная яшчэ рэдкімі і напалову ўсохлымі кустамі. За кустамі справа было многа і маладых дрэўцаў з кволымі лісткамі — аж да школы. Злева сцежкі да самай вады святлеў пясок, яго густа ўсыпалі ямінкі-воспінкі — сляды хлапчукоўскіх ног.

— Ручаёк тут быў... За́стаўкі зрабілі — там, мінулі мы,— паказала Наташа за сваё плячо, атрымалася ж — у грудзі Сашу.

— Купаюцца ўжо?

— Купаюцца... Малышня... І рыбу ловяць — ву-унь, на тым беразе, бачыш, рыбакі.

— Як у вас цікава жыць! — Саша ўздыхнуў.

— Ну што тут цікавага? Што?! — Наташа павярнулася, затрэсла яму пад носам далонькаю.— Дамоў такіх не бачыў? Сяло і ёсць сяло, як ні падфуфырвай. Сумна — здохнуць можна! — зноў пайшла ўперад.

— А ты не сядзі дома, на работу хадзі — і сумна не будзе.

— У заработкі? У бацькі хапае грошай... Ды мне і адпачыць трэба — апошненькае лета. А там дзесяты кла-а-ас, экза-аме-ны... Адны экзамены, другія... Здохнуць можна!

— На медаль выцягнеш?

— Ды не... Мне хоць бы чатыры з палавінаю бала набраць — сярэдні па атэстаце.

— Ну і... надумала ўжо куды?

Наташа падціснула вусны, павярнулася і зірнула ў вочы.

— А ты не выдасі мяне? Бо мамачка з'есць і костачак не выплюне. Яна спіць і бачыць мяне ў наргасе. Думае, калі сама скончыла народнагаспадарчы, дык і свет клінам на ім сышоўся. Дзебіл-крэдзіл, сальда-бульда...

— Можаш не гаварыць, падумаеш... Я вось завёз

дакументы ў СПТВ і не таюся... А малым быў — на лётчыка хацеў вучыцца.

— Я таксама не ведала куды. А раз Сяргей насмеліўся кінуць трэці курс, то і я пахрабрэла. У інстытут кінематаграфіі!

— Куды-ы-ы?! — Саша не вытрымаў, зарагатаў.— Пакруціліся вы... І ты, і Сяргей.

— Не прайду на артыстку — на рэжысёра паспрабую.

— Ну якая з цябе артыстка?!

— Артысткі ўсякія патрэбны. Унь у фільмах Бабу Ягу мужчына іграе. Не знайшлося сярод артыстак ахвотнікаў на гэту роль. А я б такую Бабу Ягу выдала на-гара́! Дзеткі б ноччу прахопліваліся: «Ма-а-ма!»

— А ведаеш...— Саша агледзеў яе з ног да галавы, нават абышоў кругом.— Ведаеш, у цябе ёсць нешта ад Бабы Ягі. Баба Яга ў зародку...

Наташа грукнула яму кулачкамі ў грудзі і кінулася бегчы.

Азярцо даўно ўжо скончылася. Па вузкай, нібы яр, нізовіне віхляў ручаёк, а сцежка не паўтарала ўсіх звілін. Яна плаўна агінала з захаду стары парк ці гай з усохлымі верхавінамі дрэў і гракoвымі гнёздамі. Сярод дрэў ссутонілася, і здавалася, што цемрыва адтуль прасочвалася ў нізовіну, залівала паступова наваколле. Саша ўраз дагнаў Наташу, абхапіў яе за стан. Наташа тут жа крутнулася тварам да яго, уперлася далонямі ў грудзі і таўханула.

— Ты што гэта... брацік?

Саша адхапіў рукі, нібы апёкся, і счырванеў. Збянтэжылася і Наташа, пайшла далей, часценька паглядваючы сабе пад ногі.

Выйшлі на поле з паўночнага боку ад парку і высокіх дамоў. Тут, на ржэўніку, было нашмат святлей. На ўсходзе за полем праглядваліся гмахі шасці высокіх сянажных вежаў, срабрыстыя купалы крыху зіхцелі, іх яшчэ даставала сонца. Правей і за вежамі можна было разгледзець нейкія пляскатыя і доўгія будыніны.

— Адкормачны комплекс, за ім, з таго боку, завод вітамінных брыкетаў,— абыякава назвала Наташа і нават не паглядзела на вежы і комплекс.— З-за іх тут і ўвесь сыр-бор загарэўся...— паказала перад сабою на высокія дамы пасёлка, у некаторых вокнах ужо гарэ-

ла святло.— Усе лічаць, што вёска дасягнула ідэалу, далей няма куды рыпацца. І каб людзі нікуды не рыпаліся...

— Я чуў... Ды Гардзей Іванавіч сам казаў на вяселлі... Да вас людзі з усяго Саюза едуць, просяцца, каб прынялі на работу.

— Едуць... Прымаюць... А некаторых дырэктар саўгаса сам запрашае.

— Я да вас таксама пераехаў бы. І не задумаўся б!

— Ну — то так табе і трэба. «Рожденный ползать — летать не может».

— А ты для чаго «рожденная»? Пырхаць, як матылёк? Арты-ы-ыст-ка... Вецер яшчэ ў галаве ў вас. І ў цябе, і ў Сяргея. Спесцілі вас татачка і мамачка.

— Сам ты яшчэ дзіцянё! Малако на губах не абсохла! — Наташа зноў пабегла — дамоў.

Цямнела хутка. Саша ішоў буйным крокам, арыентуючыся на агні пасёлка. Даганяць стрыечную сястру і не думаў.

## 2

— Во... Вы толькі паглядзіце... Вы толькі... От так пасядзіць, пакалупае — і пайшла. На трэску ўжо вырабілася, кругі цёмныя пад вачыма. І падфарбоўваць не трэба...

Кухня маленькая, стол прыляпіўся да сцяны даўжэйшым бокам. На тарцах сядзелі адзін насупраць аднаго Наташа і Саша, паміж імі каля даўжэйшага боку Гардзей Іванавіч і Ларыса Аляксееўна. Наташа на маміны словы не зважае, невідушча глядзіць перад сабою (а куды, каб папытаў?) і мо нікога за сталом не бачыць. Адкалупіць крошку хлеба і забаўляецца — кіне ў рот, нібыта жуе. Саша таксама не глядзіць на Наташу. Ён умяў дзве катлеты і ладную горку бульбяной кашы-пюрэ і пачаў намазваць маслам вялікую, наўкос адрэзаную, скібку з батона.

— Хлеба не есць, бульбы не есць... Фігуру блюдзе... Нейкі дурань увёў ёй у вушы, што, крухмал адкладваецца на жываце! — Ларыса Аляксееўна і сама не ела, а толькі пачэрпвала ў місцы забелены рысавы крупнік і тут жа вылівала, нібы астуджвала. Гардзей Іванавіч засяроджана і стомлена сёрбаў.— Ты з Сашы бяры

прыклад! Ён малады, і ты маладая, вам яшчэ расці і расці, развівацца...

— Вячэру... аддай... ворагу...— раздзельна прагаварыла, гэтаксама ні на кога не гледзячы, Наташа.— Саша, хочаш і мае катлеты? Я іх ненавіджу...

— Катлеты ненавідзіць, а мяса без хлеба, смажанае, можа есці тры разы на дзень.— Ларыса Аляксееўна цмокнула разок з лыжкі — і нібы апяклася.

— Таму што... у мяне драпежная натура...— манатонна, як і раней, вымавіла Наташа.

— Еш, Ларыса... Не палі нервы ні сабе, ні каму,— адагнуўся ад пустой міскі Гардзей Іванавіч.— Ты ж ведаеш, што гэты бзік не першы раз на яе нападае.

— Мама ў нас мастак... трапаць нервы...— Наташа ўстала, зрабіла чай бацьку, сабе і Сашу, які еў скібку ўсухама і ніякавата адчуваў сябе за сталом.

— А ты памаўчы! — павысіў урэшце голас і бацька.— Усё хочаш, каб твой верх быў, тваё апошняе слова.

— Магу і памаўчаць. Усё магу! — не ўцерпела-такі Наташа, каб не быў яе верх, і Гардзей Іванавіч ужо з гневам паглядзеў на яе.

— Божа мой, божа... У людзей дзеці як дзеці, а тут брыдка перад чужымі...— плаксіва сказала Ларыса Аляксееўна.— Яшчэ ні разу па-людску не пасядзелі за сталом.

— Хадзі, хлопча... Размова ёсць,— устаў Гардзей Іванавіч, паглядзеў на Сашу.

— Умгу...— падхапіўся ён, паспешліва дапіў чай.

Жанчын пакінулі ў кухні. У калідоры Гардзей Іванавіч прачыніў спачатку дзверы ў Наташын пакой, а потым махнуў адчэпна рукою. Зайшлі ў залу, паселі на канапу.

— Ты, вядома, яшчэ не пісаў у Дуброву. Дык от: я тэлеграму даў... Што ты ў нас госціш...

Саша схіліў галаву і нічога не сказаў.

— Памочнік у мяне сёння захварэў... Пусціў з паўдня дадому. Падазрэнне на апендыцыт... Паедзеш заўтра са мною? Ты ж, здаецца, з бацькам жаў.

— Жаў! На СК-4...— Саша нават на ногі ўстаў.— Я ўсё ўмею! Я нават за рулём па гадзіне быў!

— Сядзь, не падскоквай... У мяне не СК-4, а «Колас», больш магутны, жняярка на два метры шырэй... Скажу брыгадзіру — хай аформіць цябе.

Дзверы рашуча адчыніліся.

— А чаму вы тэлевізар не ўключаеце? Там жа кіно ідзе! — Наташа хутка пайшла ў кут, уключыла тэлевізар.

— А мы не хочам глядзець,— устаў Гардзей Іванавіч.— Хадзі сюды...— паклікаў за сабою Сашу.

Перайшлі ў Наташын пакой. Саша ў ім яшчэ не быў і з цікавасцю разглядаў абстаноўку: бліскучы лакіраваны стол каля акна, зашклёную шафу-паліцу з кнігамі, побач— меншае за трэльяж люстра з тумбай, на якой было безліч усялякіх флакончыкаў і баначак-шкляначак, насупраць кніг і люстра — канапа, засланая квяцістым пакрывалам. Над канапаю ў вісячых трохкутных вазончыках, нібыта выраблены з бяросты, ланцугі традысканцый. «Зусім на гарадскі манер...» — Саша спыніў позірк на Гардзею Іванавічу. Нават дзядзька быў не такі, як Сашаў бацька, як усе ў іх сяле. Дома ў тапачках і шараварах, у белай футболцы з сінім буравеснікам на грудзях. Скроні сівыя ўжо, лысы і крыху агрузлы, нават жывоцік намячаецца. А тады, як сустрэў яго ўчора, быў у штанах *на падцяжках*. Гэта ж каб хто насіў у Дуброве штаны на падцяжках — засмяялі б: «Во панства!»

— Сядай сюды...— дзядзька першы апусціўся на канапу, палопаў далоняй побач і, калі Саша сеў, спытаў:

— Бацька дома ці...

— Заявіўся быў дадому... А мо ўжо і няма... — І Саша расказаў, якім бачыў яго на страсе.

Гардзей Іванавіч пра ўсё выпытаў, нават пра аплявуху. І доўга маўчаў.

— Думаю: а як бы я зрабіў на тваім месцы... Можа, таксама пагарачыўся б на першым часе. Але мы ў вашы гады былі больш разважлівыя, пабачылі больш усяго. Адразу пасля вайны сталелі — чаго толькі не зазналі! Але я не буду пра гэта, вы, цяперашнія, не вельмі хочаце слухаць. Маці тваю больш за ўсё шкада... А тут і ты яшчэ выбрыкі... дапускаеш. Не падтрымліваеш, не памагаеш ёй, а...

Саша чакаў, што дзядзька Гардзей хоць нешта скажа пра бацьку, асудзіць ці аблае яго, але той знарок не памінаў яго. Нібы памёр Сашаў бацька, а пра нябожчыка або нічога не гавораць, або толькі добрае.

Вялікая, нявырашаная дылема стаяла перад Са-

шам. Як яму самому адносіцца да ўсяго, што нарабілася ў іх доме і яшчэ, мабыць, наробіцца? Аплявуха што — дробязь... Падумаеш — аплявуха... Калі зарабіў аплявуху, то і палучы. «Я ж зусім не ведаю Вольку... А бацька, мабыць, любіць яе, па-сапраўднаму,— во ў чым загваздка. Бывае ж так у дарослых, у мужчын, нават у кніжках чытаў: спачатку кахае адну, а потым — другую. А бацька, здаецца, ніколі з любасцю не глядзеў на маму... Не помню такога, не прыкмячаў, нават знячэўку не падгледзеў, каб паміж імі прамільгнула што-небудзь такое...»

Затое столькі ўсякага іншага наглядзеўся, што... Сварацца бацькі, а дзеці слухаюць, дзеці на іх глядзяць; не ўяўляюць бацькі, пра што думаюць дзеці, які знішчальны пажар спусташае ім душы. Чыя праўда, хто вінаваты? Здаецца, і думаць няма пра што: бацька вінаваты, а хто ж? Але пасля гэтых трох сутак бадзяння, пасля пакутных начэй на вакзале і думак, думак, думак — і ў Сашавым сэрцы адпусцілася зацятасць, адтала наледзь адчужанасці і адчаю.

Казаў учора Гардзей Іванавіч, што «мы з табою яшчэ пра ўсё пагаворым», а от селі гаварыць — і няма чаго яму сказаць. Сядзіць і маўчыць, сядзіць і ўздыхае.

— Ну — хай будзе так... Пажывем яшчэ трохі, пабачым,— Гардзей Іванавіч дробненька пабарабаніў пальцамі па калене і ўстаў.— Хадзем на тэлевізар. Усядно гэтыя жанчыны не пусцяць спаць. Хлебам не кармі, а дай пра каханне паглядзець.

3 Едзе Саша і дзіўма дзівіцца: як усё не падобна на іх раўнінную бязлесную мясцовасць! Іх «Колас» на лясной дарозе — нібы дапатопны мастадонт. Хай сабе тая дарога і не вузкая, і добра высыпаная жвірам, але ж усё роўна ў лесе, і над галавою пахістваюцца заружавелыя ад сонца макаўкі сосен; старыя высачэзныя кусты ляшчыны звісаюць на дарогу, шасцяць веццем па камбайне справа і злева. Нагнуўся з-за парэнчы ўбок — хап за адну галіну, а камбайн уперад, далей, і шархоткае, схаладнелае за ноч лісце прапусцілася між пальцаў, у руцэ апынуўся цвёрды, грудачкамі, зростак арэхаў. Адарваўся з трэскам, галіна махнулася назад на сваё месца. Вось яны, арэхі,

ледзь бачна бялеюць з махрастых зялёных кажушкоў... Разламаў па адным, аблузаў зубамі, згрыз пякуча-кіслыя абгорткі. І дарэмна стараўся: раскусіў адзін — чорны ўсярэдзіне, як выгаралы,— «маланка спаліла». Раскусіў другі — ёсць ужо ядро, не ядро, а зародак, невялічкае і мяккае, нібы хто аблузаў і засунуў у ватную мякаць недаспелую семку сланечніку. Астатнія два арэхі падкінуў на далоні і засунуў у заднюю кішэню штаноў. А сэрца мройна зашчымела: «Эх, пашукаць бы добра, пашастаць па ўзлеску, к сонейку... Там спелыя, мабыць, поўненькія...»

З асін і бярозак сыплюцца ўжо сям-там зжоўклыя лісты, і Саша не перастае дзівіцца: восень, няўжо так блізка восень? Вунь ужо і дол пад дрэвамі ўвесь у лісці. Уздрыгвае (ці не зачапілі хедэрам-жняяркай?) маладая рабіна, з яркіх абрадных гронак барабаняць па прыгнутай да камбайна разгрузачнай трубе бардовыя гарошыны. Усё-такі не разлічана дарога на камбайны, для іх трэба было б сям-там падцерабіць неслухмяны, упарты хмызняк.

Тры гады ўжо дзядзькаваму «Коласу», але коціцца жвава. На дарозе робіцца ўсё святлей і святлей, і раптам лес расступаецца, а дарога паварочвае ўправа на дзевяноста градусаў. Праехалі паўз лес управа, і з-за дрэў ззаду пырснула наўздагон сонца, падпаліла скрозь па ўзлеску рабіны, а ветрык зырка раздзьмуў іх жар. Бучна зелянела злева, ніяк не скажаш, што скора ўбіраць, бульба, палетак пад ёю шырокі і доўгі, аж да другога, цёмна-сіняга балоцістага лесу на поўдні і да жоўтай жытнёвай палосы за якога паўкіламетра ўперадзе, куды і збягае дарога.

І там, дзе нібы ўпіраецца ў жыта дарога, стаіць новенькая аранжавая «Ніва» Babakyшкі, адсюль відаць над кабінаю вымпел. Саша пускаецца рукамі, ідзе з пляцовачкі міма матора, які дрыжыць і дыхае гарачынёю, заходзіць у кабіну да Гардзея Іванавіча, нахіляецца з-за дзядзькавых плячэй да яго вуха, крычыць:

— А што-та ў іх за сцяжок? Над камбайнам!

— Перадавікі! Учора ячмень жалі, і яны больш выдалі з бункера!.. І сёння стаяць, хітруюць... Нас чакаюць! Нявыгадна пачынаць з нізіны, ад лесу! І ўчора так выбіраў, каб менш канюшыны было! А там ячмень так зрос канюшынаю — ажно поверху пайшла!

Варакушка, здалёк відаць, тупае, поркаецца каля камбайна, нібы штосьці не ладзіцца, нібы раптам знайшоў нейкую няспраўнасць. Яго памочнік, хлопец мо крыху старэйшы за Сашу, голы па пояс, сядзеў на малатарні, звесіўшы ногі. Рукі назад, бараду задраў вышэй сонца — загараў. А дзе ж хлапчукі? Саша бачыў, як ад'язджаў камбайн Варакушкі ад майстэрняў: наверсе, як цыганяты на возе-фургоне, прытанцоўвалі двое хлапчукоў-падлеткаў, Варакушкавых сыноў. Саша яшчэ валаводзіўся з ланцугом двайнога біцера, мяняў (дзядзька падказваў — як) два надарваныя звяны, а тыя хлапчукі галёкалі з камбайна, паказвалі Сашу языкі.

Гардзей Іванавіч раптам тармазнуў. Саша паспеў схапіцца за бакавіны, а то б зырнуў ілбом аб востры жалезны кант над дзвярным праёмам, і рукі ледзь не вырвала з плечавых суставаў. Дзядзька порстка ўстаў з-за руля. «Пачакай!» — адхінуў яго з дарогі, на хаду выцягваючы са штаноў папружку, патупацеў па трапе ўніз. Саша зірнуў з-за кабіны ўперад, на ўзлесак. Пад бліжэйшаю рабінаю была навалена ўкалена адламаных галін, каля іх мітусіўся з кашом адзін з хлапчукоў, абрываў гронкі. Рабіна хісталася, як ад бурану, з яе ўсё падалі ўніз галіны, ададраныя жывасілам. Адзін ствол ператварыўся ўжо ў знявечаны, разгаты цурбалак. Той адшчапенец, што ўнізе, заўважыў Гардзея Іванавіча ў апошнюю хвіліну. Віскнуў прарэзліва — «Атас!», узвіўся на ногі. Дзядзька паспеў апяразаць яго па спіне, а таго, што на дрэве, дастаць па лытках, пакуль не скочыў той, не зваліўся дадолу. Абодва, адзін за адным пакурэлі да бацькавага камбайна, адцураліся і каша. Гардзей Іванавіч пастаяў крыху над трафеем, а потым узяў кош, не высыпаючы рабіну, пайшоў да камбайна.

Узабраўся наверх, цяжка дыхаючы, паставіў кош каля рухавіка.

— Бач ты іх... раздабытчыкі... І вучыць пакасці не трэба. Гадоў пятнаццаць мо не аб'яўлялі нарыхтоўшчыкі збор рабіны, то хоць дрэвы аджылі трохі, павырасталі. А цяпер зноў трушчаць!

Сеў за руль, у муфце скрыгатнула, камбайн торкнуўся наперад і імкліва пакаціўся ў нізовіну.

Варакушка чакаў, камечачы ў руках анучу, з-за яго палахліва выглядвалі жэўжыкі. Памочнік Вара-

кушкі ўжо не загараў, а таптаўся каля камбайна, тыцкаў маслёнкаю ў нейкую шасцерню і раз-пораз азіраўся: а што зараз будзе?

Гардзей Іванавіч не заглушаў матора, вылез, узяў з-пад ног кош з рабінаю. Сышоў па прыступках паволі, спаважна, пакіраваў да Варакушкі. Саша выключыў матор, аблізаў раптам перасохлыя губы: а што будзе? Хіба ведаеш, што таму стукне ў галаў? Хаця б не кінуўся гэты Варакушка біцца.

— Што — на марожанае не хапае? — паставіў Гардзей Іванавіч кош, не дайшоў да Варакушкаў крокаў тры.— А ў школе нябось у «зялёным патрулі» хокаў тры.— А ў школе нябось у «зялёным патрулі» хадзіце... Вось вам...— пашворыў у кішэні,— ...на «чардзіце... Вось вам...— пашворыў у кішэні,— ...на «чарніла» нават бацьку хопіць...— паклаў у кош паперку, сыпнуў і манет — звысака, каб лепш звінелі і відаць было. І пайшоў да свайго камбайна: — Заводзь, нашто выключыў?!

Саша паспешліва ўгнуўся да пускача...

У рэзкім татаканні пускача, а потым у гудзе-рове дызеля нельга было разабраць, што крычаў ім знізу Варакушка, пачулі толькі, як раптам зазвінелі па рухавіку і па кабіне манеты — Варакушка падабраў і злосна шпурнуў іх услед.

Дзядзька зманеўраваў, аб'ехаў Варакушкаву «Ніву» справа, ад лесу, уклініўся паміж лесам і жытам, здаў назад, выкручваючы руль, і капніцелем заехаў ажно ў лес, яшчэ трошкі падаў уперад, адкручваючы руль у другі бок, і развярнуўся ўпоперак дарогі, апусціў нажы. Вось-вось закруціцца матавіла, загрукаюць, прыйдуць у рух усе механізмы камбайна. Але дзядзька вылез з кабіны, паказаў рукою, каб Саша спускаўся ўніз, і сам порстка затупаў дадолу. Падышлі да жыта каля матавіла, Гардзей Іванавіч памацаў каласы. Але можна было і не мацаць, і так было відаць, што жыта ў гэтай лагчыне ад лесу зеленаватае, нават сцяблы добра не зжаўцелі, і зрэджанае, пракідаўся падсеяны па вымаклых і выпралых лапінах ячмень, ён здаваўся нават спялейшым, чым жыта. Але больш было пырніку, рамонку, пустырніку. Ссунуў дзядзька на лоб белую шапачку, пачухаў патыліцу: задачка! Саша таксама разумеў, што з гэтага краю, гектараў чатыры-пяць, лепш было б пакласці на прост, скасіць раздзельным спосабам. Падсохла б, а тады падабраць валкі, змалаціць. Не — аграном упёрся, загадаў ісці

напрамую. Саша сам чуў, як казаў ён дзядзьку каля майстэрняў: «Не будзем з гэтай раздзельнай чыкацца... Там мала такога, што надзелень. Усядно на фураж, сушылка дасушыць,— ганіце напрамую!» І вось цяпер дзядзька чухае патыліцу: не трэба было згаджацца гэтак убіраць. Лепш было ехаць на горку, там спрэс жоўтае, аж белае, праўда, палегла, пакруцілася ў розныя бакі. А мо ісці ад лесу на высокім зрэзе, пакідаць траву і зелле нечапаным? Жыта ж дазваляла — вымахала ў рост чалавека. «А ячмень? Не разгонішся з-за ячменю... І на якое ліха яго падсявалі? Узышло — кот наплакаў...» — думаў Саша. А дзядзька ўжо ссунуў шапку на патыліцу і драпаў высокі лоб-лысіну. Рэзка ляскаў нечым, металам па метале, Babакушка, з-за камбайна яго было не відаць. Саша азірнуўся на гэты ляск і ўбачыў, што Babакушкавы падшывальцы зноў шыбуюць з кашом да той абадранай рабіны. Мабыць, бацька загадаў ім усё-такі абабраць тое, што наглумлена, накідана на зямлю — не прападаць жа дабру.

— Так! — рэзка павярнуўся да Сашы Гардзей Іванавіч.— Пойдзеш паўз сценку перад камбайнам. Глядзі ўважліва, мо дзе дрот ці якая жалязяка, камяні... Плёнка вунь ад мяшка з салетрай — тожа...— махнуў дзядзька, нібы вымятаў яе з поля.

— Думаеце — гэты... дроту накідаў? — кіўнуў Саша цераз плячо на Babакушкаў камбайн.

— Мо да такое пакасці не дадумаецца... Але ж! Але ж! І з гноем вывезуць часам, і рамантуюцца ў полі. А за сабою прыбраць — моды няма. Не дараслі!

Сценка паміж бульбай і жытам вузкая, як калясьмі праехаць, а не камбайнам, яна ўся ў траве, у пустазеллі. Саша ўлез у жыта метры на два і пабрыў, разгортваючы, ўздоўж дарогі, вачыма шныпарыў управа-ўлева, кідаў позірк уперад — каб чаго не прапусціць! Аглядваўся і назад — ці зайшоў ужо камбайн на поле, ці заняў постаць-загонку? У гушчэчы травы была раса, і кеды зразу вымаклі. Мо трэба было пачакаць крыху? Хай бы абветрала, лепш вымалочвалася б. Бо хоць і дэкі барабана падымеш, мала паможа. Babакушка вунь і не рыпаецца... Яшчэ дзесяць крокаў, і ў кедах заплюхала: вада назбірвалася, як у начовачкі, а назад не хацела выліваціца.

Усунуўся ў жыта камбайн — завыў, затрахкацеў,

зароў... Гукі абрушваліся на зямлю, на вушы гнятліва.

Саша выкінуў на дарогу плёнку, выкінуў здаровы камень, потым корч-ламачыну. А вось і дрот-загагуліна, тоўсты — у палец. Тырчыць з зямлі, нібы хто ўсунуў на кепства. Уплёўся аберуч — р-раз! З «коранем» выдраў...

У акрасе і вышыні гукаў штосьці змянілася. Азірнуўся — камбайн стаіць, жняярка паднятая і працуе ўхаластую. Бухматы ад зелля, ад навітых жытніх сцяблоў, шнэк не круціцца — заклініла, ён толькі ўздрыгвае, і ў камбайнавых вантробах штосьці ўзвывае і енчыць ад натугі.

Калыхнуўся ўвесь камбайн, здаў назад. «Піп-пі!» — дзядзька махае з-за шкла кабіны: «Падыдзі!»

Два скачкі — і Саша на дарозе, яшчэ некалькі — і на камбайне. Было такое і летась, «выядаў» ужо «кашу», як з бацькам жаў. І таксама раніцаю, у сырасць. Але тады салома была без зелля, шахнеш разаком з сярпа па сцяблах, і шнэк сам іх размотвае. А тут...

Пляцоўка ўверсе трапа — гэта накрыўка акумулятарнай скрынкі, там можна і большы інструмент хаваць. Дзядзька ўскрыў ужо яе і падаў Сашу прываравацц. Дзядзька ўскрыў ужо яе і падаў Сашу прывараны да жалезнага прэнціка сегмент нажа жняяркі. «Давай!» — і сам зноў за руль.

Саша зляцеў уніз, нырнуў пад матавіла, укленчыў каля зубоў-пальцаў, пацягнуўся да шнэка. Ж-жых!.. Шах, шах, шах... Ого, не вельмі паддаецца. Сцяблы, як драцяныя, не парэзаць, не парваць. Спрабаваў без прылады падбіць адны кіпці і пальцы. Ірвануў — і сярэдні палец на правай руцэ пеканула агнём. Матлянуў рукою, сунуў палец ад болю ў рот. Сарваў, выявілася, мо трэць кіпця, заламаў... Сплюнуў, яшчэ раз памахаў — на месцы раны торгаў пульс, з пальца зрываліся долу цёмна-вішнёвыя кроплі. Зноў смактануў, сплюнуў і схапіўся за сегмент. Яшчэ з большай злосцю і націскам шморгаў, крамсаў упоперак сцяблоў жыта і зелля. Эх, каб той бацькаў абломак сярпа сюды!.. Ых-х, які калючы гэты пустырнік! У пазухах лісцяў тапырацца камякі калючак-нядократак. А трэба брацца, трэба сціскаць, інакай не вырвеш з-пад шнэка гэтыя сардэчныя (каб іх агонь папаліў!) зёлкі. Далоні ўжо гараць ад калючак, крычма крычаць ад болю... Не дае добра ўплесціся, учаперыцца палец, густа і шчодра змазвае-фарбуе ў кроў светла-зялёныя сцяб-

лы. Падрэзаць бы кіпець, каб не так чапляўся, замінаў, ды няма чым, няма калі. Падхапіўся на ногі, зусім забыў на матавіла — трах галавою аб грабліну! Добра, што не аб металічны пруцік-зубец, мог бы і галаву прасадзіць... Пачухаў цемя, пасмактаў палец і зноў за сегмент. А між лапаткамі ўжо казычуць, паўзуць кроплі поту...

— Ну-ка, ну-ка...— раптам над галавою дзядзькаў голас. Скмеціў, мабыць, як смактаў Саша палец.— Пакаж! І калі ты паспеў...

Саша смактануў палец, сплюнуў і працягнуў мурзатую, у зелені і крыві, руку дзядзьку. Гардзей Іванавіч раскрыў маленькі ножык-складанчык, лязо — што брытва. Падрэзаў, падраўняў кіпець...

— Ні ёду, ні бінту няма! Можаш гэтым самым... Я адвярнуся.

— Не!.. І так добра! — Саша вырваў руку, зноў палез пад матавіла. Дзядзька грузна ўкленчыў побач, пачаў чыркаць па бухмаціне ножычкам. «Э-э, ім толькі мышэй лягчаць...» — сказаў сам сабе, але і Саша пачуў.

Чатыры рукі ўсё-такі не паўтары. Дзівіўся Саша, як хапаў Гардзей Іванавіч за калючкі аберуч і ніколечкі не моршчыўся, як вырываў адразу вялікімі жмукамі. «Харош-ш! Пракруціцца ўжо!» — дзядзька выпаўз з-пад матавіла і палез на камбайн.

Саша адышоў ад хедэра і заўважыў, як махнуўся за камбайн, зноў застукаў нечым Варакушка.

Шнэк разматаўся, дзядзька апусціў зноў нажы, і камбайн паціху пасунуўся наперад, падбіраючы натрушанае-навыцягванае. Заняў постаць не на ўсю пяціметровую жняярку.

Кроў ужо прысохла, Саша ў апошні раз зірнуў на палец і зноў пайшоў наперадзе камбайна. І, здаецца ж, так пільна глядзеў, так вышукваў непатрэбшчыну, і не згледзеў! Не пражалі метраў трыццаць, як скрозь грукат і выццё Саша ўчуў енк жалеза і віскклівы скрыгат. Схаладнела сэрца... «Пі-і-іп!» — адступае камбайн назад. На гэты раз дзядзька глушыць матор, сходзіць з трапа адразу. І Саша падышоў да нажоў, нагнуўся — і адразу захацелася праваліцца. Трапіў-такі дрот: адзін сегмент нажоў адляцеў па самыя заклёпкі, другі надламала, скарэжыла і загнала ў «палец», звярнула яго ўбок.

— Зубіла, выкалатку... Два сегменты, малаток...— Дзядзька не паспеў усяго пералічыць, сказаць, што дзе шукаць, як Саша сарваўся з месца, узляцеў на мадзе шукаць, як Саша сарваўся з месца, узляцеў на малатарню, да скрыні з запчасткамі. Але следам падняўся і Гардзей Іванавіч.— У скрынцы, за спінкай сядзення! — І Саша махнуўся ў кабіну.— Будзем знімаць старыя... І рукі беражы! Кілаграмовы бяры! — паспеў заўважыць дзядзька, што Саша выбраў не той малаток.

«Вось і напрацавалі... Памочнік з мяне, як з мякіша куля. А Babakyшка — жук: ні з месца! Дзядзька не крычыць на мяне... А бацька то даў бы прыкурыць: «Куды глядзеў?! Павылазілі табе?!»

Заклёпак у кожным сегменце дзве. Ссек разгвазданыя плешкі-булдавешачкі зубілам. Бухаў молатам, і нібы чэкаў у галаве хранометр, адлічваў секунды. «Час!.. Упустую!.. З-за мяне!..» Павыбіваў з дзірачак стрыжанькі, згроб у ржышча рэшткі сегмента. Змог ссячы і першы болцік-заклёпку з другога сегмента, скарэжанага. А як дабрацца да другога болціка? Скурчаны клінчык сегмента так заклініла ў пазе «пальца»! (А невідочны хранометр — чэк-чэк-чэк-чэк...)

— На...— абазваўся над вухам дзядзька.— Таркані за вал...— І ён сунуў у рукі Сашу ломік-манціроўку.

Было ўжо такое, рабіў гэта Саша летась на бацькавым СК-4. Калі за вядучы вал нахільнага транспарцёра пакруціць (там нават да кола спецыяльна шпяні прываданы, каб лепш было лом закладаць), то ўсё зварухнецца — і транспарцёр гэты, і шнэк, і нажы. «Хоп!» — крыкнуў дзядзька, і пакуль вярнуўся Саша да нажоў, Гардзей Іванавіч двума ўдарамі ссек заклёпку, трэцім выбіў шпянёк з гнязда. Маленькія рукаўчыкі дзядзькавай тэніскі збіліся да плячэй. «Ручышчы якія... Тоўстыя, магутныя... У два разы таўшчэйшыя, чым у мяне...» Дзядзька тым часам да асновы нажа прыклаў новы сегмент, уставіў у першую дзірачку новую заклёпку плешкаю ўніз, пад яе падклаў кавадлачка, пад кавадлачка... сваё калена! Малаток паравярнуў вострым канцом уніз — цюк, цюк, цюк па краях заклёпкі, цюк-цюк па цэнтры. Гатова заклёпка! «І яму не баліць?! Гэтак жа калена можна скалечыць!» А дзядзька і другую заклёпку так, і трэцюю, і чацвёртую — ніводнага лішняга ўдару! І нібы ў яго не калена было падстаўлена, а яшчэ адно, нават мацнейшае

кавадла. Апошнія некалькі ўдараў — па «пальцы», адагнуў, паставіў яго на месца. Паслужыць яшчэ, нярарта мяняць...

— Вось так... На мяжы фантастыкі, як і трэба ў касмічны век,— нібыта пажартаваў дзядзька.— Сем мінут як не бывала.

«Сем мінут?! Усяго сем мінут мянялі сегменты?! А не паўгадзіны?!» — ажно кроў адхлынула ад Сашкавай галавы, лягчэй зрабілася дыхаць.

— Давай усе цацкі, ломік пакінь сабе... Я забыў табе сказаць: салома цяжкая, з травою, і клапан капніцеля капрызнічае. Будзеш яго «ўгаворваць»... Крануся з месца — улупіш раз,ываліцца салома — другі, каб зачыніўся... І ўперад, уперад!

Не сапсаваўся настрой у Гардзея Іванавіча, не! А была ж і сутычка з Варакушкам, і «каша», і гэты рамонт. Нешта нават вясёла-адчайнае чулася ў яго голасе. Нібы ўжо вырашыў чалавек для сябе, што дзень сёння змарнуецца, прынясецца ў ахвяру. «Каму? Чаму?» — сам сябе спытаў у думках Саша і сам сабе адказаў: «Справе... Жніву... Некаму ж трэба і першым ісці».

Улупіў Саша па тым клапане раз — каб адчыніўся, другі раз — каб зачыніўся капніцель. І бачыў, забягаючы зноў наперад камбайна, што паўз лес прыкурэлі два грузавікі, завярнулі міма Варакушкавага камбайна на сценку і пасталі. З задняга з кабіны адразу выкуліўся шафёр, на хаду тасуючы карты, ускочыў у кабіну пярэдняга грузавіка. Па зерне прыехалі, а няма чаго забіраць. Збожжа яшчэ да акенцаў не дастае, заглядваў Саша ў бункер справа ад кабіны і ў бункер злева, як лазіў па інструменты.

Ужо больш за сто метраў праехалі ўскрайкам поля. Пачынаўся ўзгорак, жыта рабілася чысцейшае і гусцейшае, амаль без ячменю. Мабыць, тут нічога не выпрала і не вымакла. Як раптам дзядзька зноў засігналіў, зноў трэба «выядаць кашу».

Сунуў ломік за пояс, адтуль выхапіў сегмент-разак. Рэзаў, тузаў, цягаў за сцяблы, за зелле са злосцю і адчаем, рукі ўжо не так шчымелі і гарэлі ад пустырніку, затое (смех, скажы каму — не паверацъ) на пальцах і на падушачках далоняў насупраць пальцаў пачалі ўспухаць вадзяныя мазалі, адзін паспеў нават лопнуць,— не пачуў і калі. Дзядзька з кабіны не вы-

лазіў, усё спрабаваў пакруціць шнэк. У самы разгар іхняй баталіі прачахкаў міма на высокім зрэзе, пакідаючы стаяць і траву, і ячмень, і цэлую грыву жыта, Варакушкаў камбайн. Завярнуў крута, заскочыў ім наперад і пайшоў першай загонкай, нібы хацеў адрэзаць Гардзею Іванавічу далейшы шлях. Дзядзька ўтрапёна пасігналіў яму, выскачыў з кабіны — «Стой! Сто-о-о...». І рукамі махаў, каб спыніўся. Варакушкаў памочнік звысака і спакойна глядзеў з мосціка на дзядзькава размахванне і нават не скрануўся, каб ступіць у кабіну, сказаць Варакушку, што яго аклікаюць.

Памянуў дзядзька чорта і яго маці, зноў зайшоў у кабіну. А Саша раздзеўся да пояса, была ўжо мокрая спіна. Гардзей Іванавіч пракруціў урэшце шнэк, падбіраў з іржышча навыцягванае і не пайшоў следам за Варакушкам другою загонкаю, а пачаў манеўраваць узад-уперад і развярнуў камбайн упоперак поля. Пасігналіў Сашу, рукою грабнуў — «Залазь!».

Паехалі, выжынаючы палосу, упоперак поля, адрэзваючы зелянейшы ўчастак ад астатняга масіву. «Ну і правільна, хай пастаіць дзён колькі, даспее...» — адобрыў Саша. Чуў голаю спінаю, як дызель б'е цёплым духам у плечы, і сачыў з-за галавы Гардзея Іванавіча за жытам перад хедэрам. Дзве пары вачэй лепш, чым адна. Дзядзька не сядзіць, ён увесь час на паўсагнутых нагах, сагнуўшыся ў паясніцы. Напружана ўважлівы, рулюе адною леваю, бо правая на рабочых рычагах (а іх — пяць!) — то апускае-падымае нажы, то паскорвае абароты матавіла, то... Во, гэпнуў на сядзенне, дае задні ход, пракручвае на месцы шнэк. Шыя і карак яго мокрыя, тэніска між лапатак пацямнела ад поту. Затузаў дзядзька ручку капніцеля — не адчыніўся, і Саша хутчэй скаціўся з камбайна, каб улупіць па клапане, вываліць салому...

Пакуль прайшлі ўпоперак поля, метраў трыста, да зараслага кустамі балотца («О, і маліннік там!»), Саша двойчы збягаў біць па клапане капніцеля. А дайшлі да балотца, то дзядзька павярнуў не ўлева, на горку, дзе больш спелае і ўмалотнае жыта, а ўправа, уздоўж балотца, назад пад лес. Нібы «заслупаваў» участак, акаймаваў, узяў цяжэйшы на сябе. «Зойме і сёння Варакушка першае месца...» — уздыхуў Саша. І не намучыцца гэтак, як яны. І яшчэ невядома, што лепш — ці старацца ўхапіць спялейшае і больш

ўмалотнае, пакуль стаіць пагода, ці вось так цягнуць лямку, падбіраць да каліва тое, што можа прапасці ў зеллі і траве. І больш не было часу пра гэта думаць, скончылася яго маленькая перадышка. Зноў пайшоў уздоўж балотца наперадзе камбайна, зноў «выядаў кашу» — і не раз. Зноў мянялі некалькі сегментаў — напароліся ў траве на камень, ды яшчэ падгрэблі яго, падабралі, і ён разам з травою так заклініў шнэк, што думалі, і рады не дадуць. А ледзь завяршылі першы круг, здаўся барабан. І яго ўкруціла, ухутала ў зелле так, што падбарабанне ажно прагнулася, ледзь не лопнула. І Саша сядзеў на коле, праз невялічкае акенца дзёр доўгаю качаргою з завостранаю загагулінай сцяблы, хоць яны і былі пашкуматаныя і расшматаваныя на зялёную кудзелю. Засоўваў ў дзірку руку, ледзь не па шыю, дставаў усё гэта «дабро», выкідваў.

А потым рамантавалі ланцуг таго ж двайнога біцера. Не вытрымаў нагрузкі...

Потым лопнуў адзін шків...

І калі пачуўся нечакана рэзкі і доўгі енк-піпіканне — спрацаваў аўтаматычны сігнальны клапан, Саша нават вушам сваім не паверыў: няўжо ўрэшце намалацілі поўныя бункеры?! Няўжо гэта праўда?! Саша ўскочыў на камбайн, заглянуў у верхняе акенца левага бункера — праўда!.. А яны і сачыць забылі за імі, думалі, што і да канца дня не намалоцяць.

Дзядзька сядзеў, рукі не знімаў з руля, уткнуўся ў іх тварам...

Да іх ужо мчала ржэўнікам машына, другое не было відаць, павезла збожжа ад Babaкушкавага камбайна. І Саша адчапіў штангу, націснуў нагою на педальку пад парэнчай, адвёў бляшаную трубу ўбок. Замацаваў зноў штангу, а тут і грузавік падрурліў, падставіў пад жэрла трубы кузаў. Дзядзька ўключыў зерневы шнэк...

Глядзеў Саша, як шухціць, сыплецца збожжа ў кузаў (а сігнал усё яшчэ ныў-енчыў), і шафёр, пажылы дзядзька, глядзеў з падножкі і падцінаў вусны, моршчыў лоб. І яму не падабалася зерне: тоўстае, як боб, шэра-зялёнае. Жыта і ячмень... Амаль за тры гадзіны гора-работы няпоўныя дзве тоны. А можа, і дзве будзе, але ж гэта не зерне, а паўфабрыкат. Высушыцца, ачысціцца як след, то мо і тоны не застанецца.

«А божых каровак колькі! І бздзюхі, і нейкія казяўкі!.. Ха, жыта з ячменем і божымі кароўкамі!»

Сігнал-енк спыніўся, адлягло ад вушэй. Дзядзька Гардзей нібы ачнуўся, узняў голаў, правёў рукою па мокрым ілбе, устаў і выйшаў з кабіны.

— Піць ёсць? — крыкнуў шафёру, яшчэ і кулак паднёс да губ.

— Ёсць! — шафёр крутнуўся ў кабіну і тут жа, трымаючыся за дзверцы і як мага выцягваючыся, працягнуў дзядзьку пластмасавую белую біклагу— нібы пляскатую бочачку з абручыкамі.

Дзядзька адкруціў накрыўку, каўтнуў, потым наліў сабе на руку раз і другі, паплюхаў у твар, на шыю, тузнуў са штаноў падолак тэніскі, выцерся.

— Злецілася... Павязеш зерне — захапі свежай! І давай гэта... на хаду прымай! — кінуў шафёру біклагу, а сам у кабіну за рычагі.

Крануліся з месца па сігнале — піпікнуў камбайн. Ішлі на першай скорасці, шафёр стаяў на падножцы мо на адной назе, а другая была ў кабіне, прытармажвала. Чамусьці скорасці не супадалі, машына абганяла, і шафёр усё круціў галавою, выварочваў шыю з-за кузава і кабіны, каб лепш было сачыць за камбайнам. Машына тузалася, наровячы ўцячы з-пад разгрузачнай трубы, і ўрэшце (мо якраз камбайн тармазнуў?) абагнала. «Э-э-э!!!» — не сваім голасам закрычаў Саша, і ад гэтага нечалавечага прарэзлівага крыку камбайн стаў, а машына яшчэ больш адскочыла ўперад. Дзядзька выключыў зерневы шнэк, але з трубы паспела ўжо насыпацца на ржышча двухметровая паласа зерня з кучкай у канцы ледзь не ўкалена. Нібы клічнік з кропкай, перасцерагальны знак.

— Развярніся! Задам здавай за мною! — не ўгаманіўся дзядзька.— А гэта — потым зберацe! — і зноў схаваўся ў кабіну.

Пакуль шафёр разварочваўся, Саша збег з камбайна, адчапіў з-пад калена трубы шырокі савок-лавушку, нагроб з зямлі зерня, а падсунулася машына — сыпнуў у кузаў. «І так намалацілі — кот наплакаў... А тут яшчэ...» На задняй скорасці прынаравіўся шафёр лепш, да таго ж і сачыць было не з-за кабіны. Праехала машына месца, дзе было рассыпана зерне, Саша нагроб яшчэ адзін савок, з паўпуда, бегма дагнаў машыну, сыпнуў у кузаў. Трэці раз пабег нагрэбці — ды там і

пакінуў савок. Хай — потым! Трэба даганяць камбайн, біць па клапане капніцеля...

А потым, калі машына павезла збожжа, Саша вырываў грыўку не зжатых на павароце каласоў, заносіў наперад камбайна. Потым зноў была «каша». Вызвалялі шнэк з дзядзькам, і Саша тузаў ненавісныя сцяблы і зелле з асатанеласцю, уцерціся не было калі, з надзеяй паглядваў на дзядзькаву руку: малая стрэлка гадзінніка як усядно прыклеілася на паўдарозе паміж дванаццатай і трынаццатай гадзінамі! А толькі ў чатырнаццаць прыедзе абед!.. Як жа дачакацца падмацунку, калі ўжо ў бакі водзіць?!

Калі зноў крануўся камбайн, дагнала машына. «Во!» — паказаў ім шафёр з кабіны біклагу. Саша спусціўся, узяў свежую ваду, пакуль узбіраўся па хісткім трапе, глыкнуў сам (добрая вада, халодненькая!), занёс у кабіну дзядзьку. Гардзей Іванавіч на мінуту ўступіў яму руль. Трымаўся Саша за баранку і чуў, як жыве пад ім аграмадзіна «Колас», аддрэгвае ў руках руль. Але слухаецца яго агрэгат, паўзе наперад! І не бачыў Саша, што дзядзька хоць і п'е ваду, але вочы яго таксама цікуюць за хедэрам, што правая рука працягнута да рабочых рычагоў, каб у любы момант падняць нажы...

Бункеры да абеду напоўніліся яшчэ два разы. Саша не ўсачыў, колькі нажаў Babakушka. Але калі прыехала з чарговым рэйсам цётка з бачкамі і тэрмасамі, прыехала за імі і майстэрня-«лятучка». І зразу на горку да Варакушкі: яго новая «Ніва» маўчала, што мёртвая. З лятучкі выйшлі механік, аграном Цімохін і высокі мужчына.

«Бацька!.. І чамаданчык у руках!..» — Сашава сэрца ўстрапянулася, нібы злоўленае.

Дзядзька таксама бачыў, хто набліжаецца да іх, але камбайна не прыпыніў, на абед не спяшаўся (хоць на машыне ўжо адкінулі борт і пачалі расстаўляць міскі) — заканчвалі чацвёрты круг. Саша на мосціку адчуваў сябе, як у пастцы, хацелася імгненна выпарыцца, знікнуць. Урэшце збег на дол, прыхаваўся за капніцель, нібы трэба было ўлупіць па клапане. І ўлупіў, а потым прайшоў яшчэ следам, прыглядаючыся да зямлі, ці шмат прасыпаецца зярнят, мацаў каласы ў мякіне і саломе — ці добра вымалочваецца? Але дзядзька піпікнуў: «Падыміся сюды!»

Ступаў па трапе, і ногі як не прыклейваліся. Бацька ўжо ўзвышаўся на мосціку, высокі, чорны — нібы велікан з казкі. Глядзеў на яго ва ўпор, чакаў, пакуль падымецца. І нічога Саша не прачытаў для сябе кепскага ў бацькавых вачах, і калі той працягнуў зверху руку — «Здрастуй, сын!», працягнуў і Саша: «Здрастуй...» І тут жа бацька тузануў за руку ўгору, Саша ўзляцеў на пляцовачку, зыбнуўся назад, але бацька перахапіў яго другою рукою пад плечы, нібы намерыўся абняць, ды не хапіла духу, не перасіліў свае натуры.

— Зялепуха ты яшчэ... І дурны-дурны,— праказаў з дакорам і пусціў Сашу, пабраўся да Гардзея.

«Мабыць, хочуць удвух застацца... А не вельмі пагаворыш, калі трэба крычаць у вуха адзін аднаму. А дзядзька не спыніць камбайна, не!..»

## Раздзел восьмы

I

Каровы і сёння загналі на Блюдзеек — асушаны, увесь у каровіных лёпах, узбалатак за канцом вёскі. Збіраліся яго ўзорваць, але пакуль што пусцілі ў сугрызы кароў, і тыя папрацiскалі чорныя сцежкі; з нічога тут выраслі, успучыліся купіны, хоць казалі, што век не было там купін.

Аляксана ўжо ведала, як туды ісці — не першына. Ішла паволі, не ў кампаніі жанок. Не першы раз увязваецца за ёю і Настасін Віцька, не хоча ў садзік хадзіць, з верасня ў школу. Старанна тупаціць побач, на ножкі не скардзіцца, хоць ужо і дзеду насілі ў сушылку полудзень. Як прыліп да яе малы — баба ды баба. І не дзіва, не было дасюль бабы, не ведаў яе. І Аляксана да яго прывязалася, сама з сябе дзівячыся, што гэтак сумуе па малых дзецях. Аднае ночы Лёневы прысніліся, родныя ўнукі. Здаецца, носіць яна меншага, Вову, на руках. А ён цяжкі, як злёпак, ажно левую руку адабрала. Прачнулася ж — ляжыць нядобра, ад ляжання занямела.

— Баба, навучы і мяне карову даіць! — не першы раз просіць Віця.— Я маленькія цыцачкі падаю, а ты — вялікія. Скарэй будзе. Я дзве, а ты — чатыры... Дзве і чатыры — шэсць! Баба, а чаму ў вашай каровы шэсць цыцак, а ў нашай чатыры?

— Дзве цыцкі — так сабе, непраўдзівыя. Яны не дояцца.

— Дык нашто яны, калі не даюць малака?

— Нашто, нашто... Так бог даў,— не знайшлася што сказаць Аляксана.

— А чаму бог казе дзве цыцкі даў? Я сам бачыў — дзве!

— Каза па двое казянятак часта прыводзіць. От кожнае казянятка і ссе сваю цыцку.

— А можа прывесці тры?

— Можа, чаму ж не... Трэцяга прыйдзецца з сосачкі выпойваць, каровіным малаком. А то памрэ.

Аляксана адказвае на Віцевы пытанні і паспявае здароўвацца з сустрэчнымі жанкамі, часам нават апярэджвае, першае дае «Дзень добры!», хоць яшчэ не ўсіх ведае ў сяле. Падаілі ўжо людзі, апошнія назад ідуць, а яна ўсё пляцецца. Азірнулася — не, ёсць яшчэ такія, што ідуць даіць. Вунь Дамашэўскі з вядром, старшыня сельсавета, вунь нейкая дзяўчынка-падлетак... А трэба ж падаіць і яшчэ раз сцягацца на сушню, адліць Ясю свежага малака. Брала яна з шафаўкі, ■ сянец вячэрняга (ранішняе ўсё вынесла зборшчыку — шэсць літраў), набулькаў Іван Іванавіч у рот і тут жа цыркнуў белым струменем, не раўнуючы як той боцян. Абрыскло, нясмачнае... Заахала яна, завойкала, тут жа забрала і сама паспытала — ну але, негадзяшчае. Ажно сумелася — хаця б не падумаў, што шкадуе яму добрага. «Я свежанькага прынясу... Падаю і прынясу»,— як не прашчабятала. І цяпер тая бутэлька з абрысклым малаком цяжка гутаецца ў торбе, б'е то па назе, то па вядру: нясе і торбу, і вядро ў адной руцэ. Брынклівы, прыглушаны гук назаляе ўсю дарогу. «Халадзільнік трэба... Хоць невялічкі... Нашто ён вялікі — на двух? У людзей поўна ўжо халадзільнікаў.... А целявізары, глядзі што, у кожнай хаце. У Аўдоткі толькі няма ды ў нас, у Дар'і — і то «Рэкорд» стаіць. То к Лявошку, то к Дар'і ідзеш, як што харошае перадаюць. А хіба нядобра было б свой мець?» — але Аляксана тут жа абрывае свае мары: «Ач... захацела... І так, дзякуй яму, слухаецца Іван, купляе ўсё ў хату... Ну, веласіпед другі то і не трэба было. Няма калі на ім раз'язджаць і няма куды. Ад людзей толькі сорамна... А от халадзільнік то трэба — гэта не забаўка».

— Дзень добры! — Дар'я сустрэлася, ідзе назад з малаком.

— Добрага здароўя. А я сёння плятуся, як не сваімі нагамі.

— То мо пасяджу, пачакаю — ды разам? — Дар'я пасміхаецца, і бела-свежы радок пластмасавых зубоў асвечвае і малодзіць твар.

— Ой, Дар'ечка, я ж не скора яшчэ. Ясю малако панясу.

— То не баўся вельмі. Там жа капэлу збіраюць Федзя з Іванам.

— Дык што — у вас будзем?

— Можна і ў нас, а што?

— Нічога. Добра.

Хуценька пайшлі кожная ў свой бок.

Каровы ляжалі і цяжка ўздыхалі, жуючы жуйку. Стаялі толькі тыя, якіх даілі ці толькі што падаілі, ляскалі хвастамі па баках — не давалі спакою здракі і авадні. Знайшла сваю, паляпала па боку: «Уставай! Ну — уставай жа, лежабока!» Высыпала з прыполу пад пысу, каб лепш стаяла, крыху зелля і бурачніку (ухапіла па дарозе ад сушні на калгасных бураках). Не паспела добра вымя абмыць, выцерці, як зноў заныў Віцька:

— Хачу карову даіць! Баба, і я хачу-у-у!

Выплюхнула з вядра ваду.

— Ну — добра! Ну — пачакай трохі! Зараз...

А сама цыркала і цыркала струмені ў вядро, і калі адчула, што карова прыпусціла малако, пасунулася на кукішках крыху ўбок: «Ну — хадзі ж...» А Віцьку і прысядаць не трэба, вялізнае каровінае вымя з набухлымі жыламі і чатырма тоўстымі і доўгімі і дзвюма маленькімі цыцкамі проста перад вачыма. Захваляваўся, працягнуў дрыжачыя рукі...

— У кулачкі бяры цыцкі і сціскай, і выціскай малачко... Вось так вось, вось так... Э-э, пальчыкі ў цябе яшчэ маленькія і слабенькія!

Віцька ўчапіўся аберуч у адну цыцку, пацяг з усяе сілы на сябе. Струменьчык пырснуў яму ў грудзі, у твар — ажно жахнуўся. «Ты ж у вядро кіруй, у вядро!..» — Аляксана трымала вядро, каб не ўпала, і Віцька зноў паспрабаваў, ажно павіс на руках, падкурчыў ногі, расцягваючы цыцку, як гумовую. Карова павяла галавою ў яго бок: «Што за клешч?» Дрыг-

нула адстаўленаю нагою, нібы яна ў яе самлела,— ірванула з месца. Аляксана ледзь паспела адхапіць вядро. А Віцька цыцкі не выпусціў, правалокся метраў два — моўчкі, ні гуку, і ўпаў носам у траву.

— Ха-ха! — не вытрымала Аляксана, падхапіла яго леваю рукою, паставіла на ногі.— Псейка мая, псейка! — кінулася лавіць карову.

А тая ўжо нарабіла бунту ў чарадзе: успарола рагамі тую, што бліжэй за ўсіх ляжала, спудзіла карову Дамашэўскага, і старшыня сельсавета не паспеў адхапіць вядро. Брынк! — перакулілася яно, белая лужынка расцяклася па чорным торфе, прыхавалася ў траве.

— Стой, каб цябе ваўкі! — Дамашэўскі кінуўся лавіць сваю, адцураўся і перакуленага вядра. І злавіў за рог, ажно звярнуў карове галаву набок. Аляксана паставіла сваё вядро, і Віцька тут жа падняў яго, амаль пустое, пачаў піць нагінкам — адарваўся, ахнуў задаволена, а белыя вусы — да вушэй. Зноў прыпаў...

— А вы трымайце яе, трымайце! Я падаю...— Аляксана падняла вядро Дамашэўскага, прысела да яго каровы.— Я хуценька, от паглядзіце! — гаварыла спехам, каб загладзіць віну перад чалавекам. І пагляд-вала на яго выбачліва з-пад каровы, пасміхалася.

— Жаноцкія рукі — вялікае дзела... Жывёла — не дурная, чуе,— гаварыў Дамашэўскі і збянтэжана пракашліваўся.— Гэта ж мая ў Слуцку сёння, сястра там захварэла.

Падаіла Аляксана, Дамашэўскі падзякаваў, а потым доўга, марудзячы, навязваў марляю вядро. Чакаў, калі яна падоіць сваю. Чакаў, каб пайсці разам. Немалады ўжо Дамашэўскі, мо адных гадоў з Аляксанаю. Пабурэлую ад сонца лысіну з маршчынамі на самым цемі акружылі рыжаватыя, з сівізною валасы — нібы азярцо асенняя асака. І каля вачэй маршчыны, як расколіны-раўчукі, і на самым дзюблі доўгага, як у качкі, носа.

Ішлі ў Дуброву і спачатку маўчалі або гаварылі абы-што — пра надвор'е, пра кошанку на балоце — застарэла, струкі ў гароху тоўстыя, дзеці ўнадзіліся, выгарцавалі сцежкі.

— То што — вы так і не будзеце распісвацца з Іванам Іванавічам? — спытаў раптам Дамашэўскі.

Аляксана пачула, як сэрца насцярожана ўздрыгнула.

— Хай як хоча. Мне — усё роўна,— пастаралася прыдаць абыякавасць свайму голасу і азірнулася назад: ці ідзе хто блізка, ці не чуе іх? Нікога, толькі Віцька махае, свішча дубчыкам.

— Усё роўна, ды не ўсё роўна,— шматзначна і загадкава сказаў Дамашэўскі.

Аляксана ўстрывожылася, ажно млоснасць падкаціла пад горла. Запытальна глянула на вялікае, як добрая аладка, вуха старшыні: «То кажы, калі ўзяўся казаць!»

— Яно-то... і грамадзянскі брак... шлюб, значыць, многа значыць. Закон і такія шлюбы прызнае факцічаскі...— зноў як быццам многа сказаў, але так нічога і не патлумачыў Дамашэўскі.— Але калі распісаны, то зусім другое дзела. Вы — паўнапраўны член калгаснага двара тады.

— То... што?..— ажно язык зрабіўся сухі.— Мо падгаварыць старога да прыйсці? — Нешта ж чалавек ведае пра законы, сам пры законах служыць.

— Прыйдзіце ў любы час, нават вечарам калі. Як дагаворыцеся, то дайце знаць, я пачакаю той вечар. Я й тэрміну выпрабавальнага не буду ўстанаўліваць, адразу і аформлю.

— Дак гэта ж мо заява спачатку трэба? Я помню, да вайны, заяву з Іванам насіла. У мяне і першы муж Іван быў.

— А як жа! І заяву... І каб штамп у пашпарце, што разведзена з тым.

Аляксана адчула, як аслаблі ў каленях ногі — хоць прысядай на кожную. Паставіла вядро на зямлю, памахала ў твар рукою.

— Фф-у-у... Душна...— І яшчэ памахала, і ўсміхнулася Дамашэўскаму, каб не зразумеў, што з ёю робіцца.— Пашпарта ж няма, які пашпарт у сяле?

— Баба, я яшчэ хачу малака! З пенкаю! — затузаў яе за спадніцу Віцька. Зіркаў на чужога дзядзьку спадылба — Дамашэўскі не падабаўся яму.

— А мой жа ты коцічак! Зусім забылася я... — дастала з торбачкі конаўку, развязала марлю з вядра.— То дзяржы ж...— уліла яму.— Пі, бычок-трацячок...— а ў галаве круцілася: «Як сказаць старшыні, што няма ў мяне ніякіх паперак з суда?»

— Я не бычок! — напіўся ўрэшце Віцька і пабег сцежкаю наперад, падскокваючы з нагі на ножку.

Зноў ішлі.

— Ніхто ж нас не разводзіў,— сабралася ўрэшце з духам.— Вайна, можна сказаць, развяла.

— То што — ён пагіб? Іван першы? А пахаронка ёсць?

— Нічога няма. Ён жа ўцёк ад мяне ў саракавым. На Урал недзе. У розыскі пасылала, адразу пасля вайны,— ніякага бзыку. Такая вайна пракацілася — мо не ўцалеў.

— Гм... От гэта задачу задала...— Дамашэўскі на хаду цярнуў далоняй па ўзмакрэлым лбе.

— Слухай... це! А якое дзела каму, была я замужам ці не? Наш сельсавет згарэў, і ўсе дакументы-кнігі пагарэлі. Так што лічы мяне ўдавою, ды ўсё.

— Як гэта — лічы? А мо ты саламяная ўдава? Дакумент павінен быць; або так, або гэтак. А то я вас распішу, а раптам заявіцца Іван першы: «Здраствуйце, я ваша цёця! То ісь — ваш муж законны». Дык што тады Дамашэўскі — у дураках? — старшыня сельсавета зноў пацёр лоб, уздыхнуў. Ужо і сам быў не рады, што ўсчаў гаворку пра распісванне.

— Не заявіцца. Скора сорак гадоў — шчабоўкнуў, як камень у ваду. А заявіцца, то я яму пакажу: вось бог, а вось — парог.

— А мне ж ад гэтага не лягчэй, Аляксандра ПілІпаўна. Так, здаецца, вас велічаць? Я ж усядно буду праступнік перад законам, пераступлю закон.

— Дык што мне рабіць? Вы ж чалавек разумны, вас жа дзяржава паставіла на такую должнасць. Парайце — што?!

— Кых-ха... Во, вецер які халодны, пацягнула... Я на вашым месцы зматаўся б у Слуцак да юрысконсульта. Хай бы растлумачыў сітуацыю. Дальбог, рубель заплоціце ў касу, і ён вам усё чыста, як на далоні: так і так, і гэтак далей. Ф-ф-у-у...— Дамашэўскі з палёгкаю ўздыхнуў: выкруціўся!

— Што той рубель? Хіба гэта грошы — рубель? Я і дзесяць заплаціла б...

Аляксана старалася ўжо гаварыць спакойна. Ну, канешна ж, так яна і зробіць... Так яна і зробіць, няўжо ж... Даўно пара з гэтым разабрацца.

Датэпалі да загуменнай дарогі, што ішла ўздоўж

вёскі з усходу. Старшыня павярнуў з вядром не дадому, Аляксана ўжо ведала, дзе ён жыве, а да сельсавета. Мо адразу пайшоў капацца ў законах?

Аляксана пайшла далей — міма канюшні, міма аборы. Уздоўж жардзянай агароджы хрумсталі з жалабоў свежую канюшыну бычкі; выгараджаны пляц чорны, пакапычаны — навазілі на подсціл торфу, каб больш гною нарабіць. За абораю, за бычкамі яшчэ нейкіх трыста метраў — і свіран, і сушылка. Прайсці толькі невялічкую грэбельку з мосцікам, там лужок-нізовіна, усеяная белымі плямамі гусей і качак, там невялікая сажалка з пазелянелай вадою. «Гудзе сушылка... Дым з коміна пыхкае... Сасмаг недзе там Іван Іванавіч, прачакаўся малака. Мо кляне ўжо — пайшла і прапала. Па смерць мяне толькі пасылаць...— Аляксана прыбавіла кроку. Паклікала Віцьку ад агароджы, ад бычкоў. Прыліп — адарвацца не можа.— Во ўжо будзе жывёлавод. Ці даяр... Майстар машыннага даення».

Абы пра што старалася думаць, а не магла з сабою даць рады. Лезла адно ў галаву: тое, што гаварыў Дамашэўскі, на што намякаў. Растрывожыў ён душу, ой растрывожыў! Лепш не было б гэтай выпадковай сустрэчы, лепш не кідалася б яму памагаць. І размовы гэтай не было б, і жыла б яна спакойна, як у бога за пазухай. «Што гэта ён плёў, законнік? «Усё роўна, ды не ўсё роўна». Хай бы ж ясна сказаў, так і так: абавязкова трэба распісацца. Бо ніякіх правоў у хаце ты, цётачка, не будзеш мець...»

— Асцярожна, Віцька! Машына вунь жыта ў сушню вязе!

Чамусьці зноў убачылася тое, што было ў ляску пры возеры, калі ездзілі ў рыбу з Ясем. Як ляжаў ён дагары, раскінуўшы рукі, а твар шыза-барвовы, пот руччом, вочы заплюшчаныя... І, здаецца, чуе ліхаманкавы, з перападам, стукат яго сэрца, знямогла-кволы шэпат: «Няха-а-а-а... Ня-ха-а-ай...» Напужаў ён тады яе, ох і напужаў... І так шкада зрабілася і яго, і сябе. Чаму ёй не шанцуе ў жыцці? За што, за якія грахі? А яна ж ужо стала прывыкаць да Яся, мо нават любіць. Як збірала ламачча ў лесе, папускала і слёз трохі — добра, што не бачыў ніхто.

«Грыша на мяне... воўкам глядзіць. Астатнія то нічога... Настаса, як уведала, што Ясь на яе дом запісаў, мякчэйшаю стала... А да таго таксама патайное было

на мыслі... Яўна не выказвала, але ўсядно як кастрыца з вачэй сыпалася. Мо думала, што мураванку пачну дзяліць... А наліха яна мне здалася! Мне і старое хопіць веку дажыць... Лепш, вядома, было б, каб не на адным пляцы стаялі хаты. А то не павярнуцца... Размежавалі агарод, сотак дабавілі. А колькі ўсяго? Мо менш, як у людзей... Дурная, не папытала ў Яся... Гною добра было б заараць на зіму. А дзе яго ўзяць? Мо ў Настасы папрасіць... ці хоць купіць. Ёй на агарод яшчэ настоіць карова. І тое, што наша настоіць за зіму, ёй аддамо... А чаму нам трэба недзе браць соткі, а не ім? Гэта ж Настаса — новая сям'я, а не мы. Ясь як жыў на сваім котлішчы, то хай бы яму і быў увесь участак, а ім у іншым месцы выдзелілі. Усе шэсцьдзесят сотак. А нам бы дабавілі яшчэ сотак дзесяць, дом жа іх не менш займае... Ну, а Настасе то можам даць якую градку пры доме, каб цыбулі пасадзіла. Каб не бегаць пёрцаў ушчыпнуць на соткі...»

— Віцька, хадзі давай ручку! Не чапай гэтых гусей, бо шчэ напужаюць!

«Але калі распісаны, то зусім другое дзела. Вы — паўнапраўны член калгаснага двара тады...» Што я — дурная? Канешна ж, зусім другое дзела. Канешна ж — раўнапраўны член!»

Сонца нібы застыла ў паўдзённай кропцы нябеснага скляпення. Хмаркі, як знарок, абміналі яго — смаліла неміласэрна. Прыпякала ў голаў, у плечы, нібы падпальвала голыя лыткі, падшпорвала ісці хутчэй.

Не паддавалася яшчэ лета подыхам восені. Да зімы, выдавала, было ліха ведае колькі часу.

2 У Дар'і была пакуль што адна Ліля Пахілька, загадчыца клуба.

— Ну — дзе ж яны запрапасціліся? Я ж усім, усім сказала, яшчэ пасля снедання аббегла. І Федзя з Іванам прапалі... — не першы раз гаварыла Пахілька. І то хадзіла па хаце, разглядала вышыўкі на сценах, у рамках, то прысядала на лаву. Хадзіць было дзе, у Дар'і ў хаце не было ніводнай перагародкі, усё заставалася па-старому, як рабілі некалі.

— Не гарцуй, пасядзі спакойна... Целявізар вунь уключы. Мо што харошае перадаюць... Ці давай, во, са мною за стол: бурачкоў я наварыла многа, баршчу.

Студзентак няма, паджгалі ў Слуцак у палікмахерскую,— гаварыла Дар'я, наліваючы боршч у талеркі, не зважаючы на аднекванні Пахількі.— Ці мо твая гаспадыня смачней варыць, дак ты ўжо і нос вернеш? Вельмі ж ты, дзеўка, нелюдзімая нейкая, ганарыстая.

— Не хочацца, цётка Дар'я. Я не галодная.

— Галодная не галодная, а прыйшла тая пара — трэба перабыць. Што ж я — адна сяду ляпаць ротам, а ты будзеш у вочы глядзець ды аблізвацца? Пачні есці, то й захочацца.

— Ніякая я не ганарыстая, цётка,— урэшце паддалася Ліля, палезла за стол.

— Ганарыстая, ганарыстая,— пацвердзіла Дар'я, ставячы на стол талерку, кладучы лыжку.— Рэж во бяры хлеб,— а сама пайшла да прыпечка наліваць другую талерку.— Каб не была з гонарам, то ўжо і замуж выйшла б за нашага хлопца. А то ўсё прынца заморскага чакаеш.

— Якога прынца?! Яко-о-ога прынца, цётачка-а?!— у голасе Пахількі прагучаў такі непадробны боль, што ў Дар'і самі палезлі на лоб бровы, зірнула на яе. Ліля ўраніла галаву на грудзі, з вачэй сыпанулі, як капеж са страхі, буйныя слёзы.— Вы хіба... не ведаеце... дзе мой прынц...

— Аво-о-олелечкі... От язык накалоць трэба... Ты прасьці мне, дачушка...— Дар'я прынесла і другую талерку на стол, грубавата цярнула Лілі пад вачыма — адной рукою, другою, нібы наждачнаю паперaю.— Ты еш, еш... Ці пачакай, па кроплі возьмем... За ўпакой яго душы.— Прайшла да кухоннай шафаўкі, дастала пачатую бутэльку віна, дзве гранёныя, на доўгіх ножках чаркі, хутка вярнулася да стала і адразу наліла па поўненькай.— А Валодзева маці, Вера, усё дзівіцца: прыйду, кажа, рана-раненька — стаяць на магілцы свежыя кветкі, прыйду позна — стаяць...

— Ноччу хаджу да яго... Каб ніхто не бачыў. А на пахаванні не была — прараўла цэлы дзень...— Ліля глядзела на вішнёвую, у водсветах чарку і нібы не бачыла яе. Потым паспешліва, расплёхнуўшы, схапіла яе і выпіла.

— Ці хоць жа пісаў ён табе? — Дар'я прыгубіла чарку, асцярожна прысунула бліжэй да стала рыпучае крэсла з хісткімі ножкамі і пачала спакваля, студзячы, сёрбаць.

— Не. Ні адненькага пісьма. Ён мо і не ведаў, што я яго люблю.

— Ай-яй-яй... Во кіно. То хай бы ж ты сама яму сказала ці напісала.

— Як ішоў на флот — не паспела. А пасля — не пасмела... Як гэта я, дзеўка, буду першая пісаць, навязвацца?

— Ліля, перажыткі гэта. Дальбог, перажыткі! Вунь дыктар у целявізары казаў — прадрассудкі. Як трэба, то і дзеўка павінна гаварыць першая.

— Што ж цяпер гаварыць — не пачуе... Ён жа цяпер во, пасля Кастрычніцкіх, і дадому прыйшоў бы... А вярнуўся ў цынкавай труне!..— У Лілі зноў закапалі частыя слёзы.— Вы, цётачка, толькі нікому не кажыце. Я й так адкрылася вам... знячэўку...

— А нашто ж мне казаць? Людзі толькі думалі: «Што гэта ёй не гуляецца, не танцуецца?» І ўсяк пагаворвалі...

У сенцах затупалі крокі, і Пахілька паспешліва выцерла шчокі. Парог пераступіла Кацярына Пахвалёная, дала «Дзень добры».

— Праходзь, праходзь... Багатаю будзеш — на абед якраз.— Хуценька пайшла ёй насустрач Дар'я і ажно за руку ўзяла, каб правесці.— Самая дальняя прыйшла, а блізкіх няма...

3 А ў гэты час студэнт Іван усё яшчэ ўгаворваў Аўдотку ўзяць у рукі скрыпку, паказваў у каторы раз, як хораша яе склеілі.

— У струбцыны бралі з Іванам Іванавічам... Намазалі клеем — і ў струбцыны. Во тут палакіравалі, абадралася трохі. Я добра настроіў — ну, калі ласка, паспрабуйце, хоць адно што ўспомніце! Пусцім як асобны нумар!

— Нічога не будзе, унучак... Усё забыла, пальцы не горнуцца. Ты ж паглядзі — гэта ж граблі! Гэта ж мешалкі, а не... — Аўдотка паказвала яму дрыжачыя рукі, але калі Іван браўся за іх, каб пацалаваць, спуджана вырывала, хавала пад пахі. І зноў пачынаў угаворы, зноў Аўдотка то паказвала, то хавала рукі — «Хоць бяры сякеру ды адсекай!». І ўсё-такі ўдалося Івану злавіць іх, паднесці і адну далонь да губ, і другую — змаршчакаватыя, нібы абклееныя бурым, ста-

рым пергаментам, у вузлах вен, з патоўшчанымі ад падагры суставамі.

— Я ж ішоў, дык чуў: вы тромкалі на скрыпцы, спрабавалі іграць. Ну — вазьміцеся! Ну — калі ласачка!

— Гэта ў цябе ў вушах звінела. А мо дзе радзіва чуў.

— Не-не, гэта вы ігралі! Я голас скрыпкі з чаго хочаце вылучу, сам пяць гадоў у студыю хадзіў. Толькі ў маёй скрыпцы чатыры струны. Я ўчора ўвечары на вашай папрактыкаваўся. Чуйце, што мы з дзяўчатамі развучылі:

Біла мяне маці
Беразовым прутам,
Каб я не стаяла
З маладым рэкрутам...

Прайграў мелодыю куплета на скрыпцы — і далей:

А я ўсё стаяла,
Трэці пеўні пелі,
Ліла ў дзверы воду,
Каб не зарыпелі...

І зноў прайграў, і глянуў Аўдотцы ў твар. І вельмі здзівіўся: раптам размяк ён, расцягнула зморшчаныя губы ціхая ўсмешка, завільготнелі вочы. Што з ёю? Што ўспомнілася?

— Можаце гэту песню, можаце што сваё... Што ўспомніце!

— Пад бараду я не ўмею... Я не так... Дай сюды...— узяла Аўдотка скрыпку, уперла яе ў левы бок, узяла смычок.

Р-ро-ом-м-м... Р-ры-м-м... Правяла па тоўстай і тонкай струне і... зайграла, замільгалі пальцы па шыйцы скрыпкі, заскакалі ўгору-ўніз «Полька «Лісавета»! Дальбог, полька...» — ва ўсе вочы дзівіўся на Аўдотку Іван, і яна на яго глядзела, усміхаючыся, ні разу на скрыпку не ґлянула.

— Вух-ха-ха! — ускрыкнула па-заліхвацку і скончыла іграць.— От жа халера, а? Іванька, я і так пробавала, і гэтак — нічога не выходзіць. Усё глядзела-меркавала, куды пальцамі ціснуць, як смычком вадзіць. А перастала глядзець — самі пальцы ўспомнілі. Помняць, корчыкі! — растапырыла перад тварам дрыжачыя пальцы левай рукі, і далей адставіла іх, і бліжэй паднесла, нібы хацела панюхаць.— Помняць,

га? Гэта ж трэба... Іванька, ты чуеш? Больш за сорак гадоў!..— Апусціла рукі са скрыпкай на прыпол, горна схіліла галаў да правага пляча і вочы прыплюшчыла, нібы прыслухоўвалася, як паўзуць па шчоках слёзы. А Іван як замёр перад ёю, скрыжаваўшы рукі на грудзях, дык і дыхаць баяўся.— Дзе мае дваццаць гадоў?! За якімі гарамі-лясамі-далінамі? Чаго толькі не зазнала, не пабачыла... Столькі гадоў — і як вада ў пясок!.. Іванька, а мне здаецца, што я яшчэ і не жыла, усё яшчэ збіраюся жыць. Жытка такая настала — хоць не памірай. А трэба! Трэба другім месца на зямлі даваць... Ужэ Гаўрыла-архангел у трубы трубіць... Гэта я цяпер такая нямоглая стала, убабела. А раней ніяк не старэла, лёгенькая была, сухенькая... Падзьме вецер — лячу-лячу-лячу ў ветры — уха-ха, дзяржы яе! Адзержацца не магу... Але ж і супраць ветру часам магла... Магла, унучак!

4 Федзя спачатку заходзіў да роднай цёткі — Кацярыны Пахвалёнай, матчынай сястры. І не выйшаў, пакуль яна не сабралася, не пайшла разам з ім з хаты. «І чаго яны так саромеюцца? Што ў гэтым нялюдскага?» — не мог даўмецца.

— Вы ідзіце. А я па брыгадзіршу яшчэ зайду... Мы вас дагонім! — Федзя павярнуў у двор Каляды.

Марыля Каляда была ўся ў клопатах.

— Гэта ж лён канчалі абіваць... А тады машыну чакала, на сцелішча везла. Ды ты не трапячы — я прыйду, прыйду!

— Не пайду без вас. Сяду на парозе і буду сядзець,— Федзя і напраўду расчыніў дзверы ў сенцы, намерыўся сесці на парозе кухні.

— Хведар Іванавіч, не смяшы людзей! У сад схадзі, там папяровак нападала... А я от дам парасятам, спаласнуся трохі — і бягу.

Федзя і сад увесь абхадзіў, абгледзеў, і яблык назбіраў. Пацёр трохі па хлапчукоўскай звычцы рукамі, хрумснуў, ажно пырскі ў бакі паляцелі. Адно з'еў, другое, трэцяе... А брыгадзірша ўсё была не гатовая, выскоквала з хаты то да калодзежа, то ў хлеў, то сыпнула пшаніцы курам.

«Пісьмы сёння напішу... Спачатку Гані, а потым Жэні... «Строчна», як тая бабка ў Мінску казала.

А пра што — Гані? Ну што ёй пісаць? Прасіць прабачэння? Ды чхала яна на гэта, не трэба ёй ніякага прабачэння. Яна ведала, на што ішла, не строіла ніякіх ілюзій... Хвядор, Хвядор, а чаго ж сэрца так салодзенька ные? Чаго пацягнуцца хочацца, каб аж костачкі хруснулі? Сухар ты размочаны... Размачыла цябе Ганя, раскатурхала. Да каго б на крыллях паляцеў, а, Хвядор? Да яе... Да яе, а не да Жэні... Журавель у небе — Жэня... Думаю пра Жэню, а нічагуткі ў сэрцы не адгукваецца. А мо для мяне Ганя і ёсць журавель у небе, а не сініца? Хто ведае? Хто падкажа? Мо яна — лёс мой?»

«Жэня маладзей за мяне гадоў на дзесяць. Ты падумаў пра гэта, таварыш Хвядор? Таксама розныя пакаленні... А што ёй пісаць, Жэні? Таксама прасіць прабачэння? Калі яна ўсё ведае, то і чытаць пісьма не захоча, парве... Яна закахалася ў мяне, а не я ў яе... Ды гэта ў яе яшчэ дзіцячае захапленне, выдумала яна мяне... А я не рамантычны герой, не рыцар... Пакупаешся, Жэнечка, у самым сінім моры — і пройдзе. Ці маладзейшага там стрэнеш, памахаеш мне ручкай — адзью!»

«Дзе ж тая цётка Марыля?» — пайшоў у хату.

— Ото-то, Федзечка, ото-то...— Цётка Марыля рабіла ўжо з касы-пляцёнкі «куклу» на патыліцы.— Радзіва прыціхла, як перад дажджом, мо ціўкаць будзе. Гэта ж колькі ўжо — дзве?

— Дзве гадзіны, цётка. Прачакаліся нас там.

— Ото-то... Гэта ж я яшчэ Мінск заказала, целяфон. Федзечка, ты толькі паглядзі, што дачка піша: буду адлучаць Людку ад грудзей. Ты чуў гэта?! Хоць бы год, а то ў тры месяцы! Ды я па паўтара года карміла сваіх! І што там за сваха ў мяне — свет не бачыў. Хваліцца: «А я сваіх ніяк грудзьмі не карміла, штучныя яны ў мяне». Дык і маю дачку падбівае... А хіба ж горш, каб дзіцёнак быў натуральны, а не штучны? Хіба нагатовішся такому малому, набегаешся па дзіцячых кухнях? Во... маўчыць, пранцаваты... Казала целяфаністка: «У цячэнні часа». А ўжо больш прайшло...

І тут зазваніў тэлефон — часта, доўгімі званкамі. Федзя спачатку не зразумеў, адкуль сыплецца гэты патрабавальны звон. А тэлефон стаяў пры тэлевізары

на круглым століку і быў прыкрыты тою ж сурвэткаю, што і тэлевізар — як кураня крылом квактухі.

— Алё? Тут я... Дуброва гэта... Каляда, ага... Не атвячае ў Мінску целяфон? Міленькая, ты мацней пазвані, надуры ім галаву добра...— Марыля адхіснулася ад трубкі, сказала Федзю: — Папрывыкалі гэтыя целяфаніcткі: дрын, дрын-н — «Не атвячае!». Ага... Да-да! Алё-ё? Ну, во... бачыце... Дочачка, ты гэта? Драстуй! Драстуй, кажу. Ты што ж гэта надумала, га? Таліі-шмаліі саблюдаеш, а пра дзіця не думаеш? Не смей адлучаць дзіця — чуеш? Бо нагаруешся, з хвароб не вылазіцьме малы! Я вышчытала: да самай вясны кармі, а праводнаю нядзеляю адлучыш. Ну — першая нядзеля пасля вялікадня — праводная! Ты чуеш! Алё-ё-ё! А ты не... Я скажу, калі вялікдзень, я пазваню! І лепш у той дзень адлучай, у які радзілася! Чуеш? А не дык у чацвер, сераду, аўторак... Ды глядзі яшчэ... Алё! Алё?! Нельга, калі сад цвіце, бо будзе панос! Алё-е-о, што — ужо ўсё?! Ужо тры мінуты?! А каб цябе...— цётка асцярожна паклала трубку.— Шустрая вельмі... А я яшчэ пра здароўе не распытала. Ну — добра, вечарам дазваню. А калі, бывае, маці адлучыць дзіця, адале не вытрывае, зноў падпусціць — вядзьмак з такога дзіцяці вырасце. Чуеш, Федзя?

Выходзілі, і Федзя ўсміхаўся сам сабе: «Канец дваццатага стагоддзя! Тэлефон, цуда тэхнікі — і тут жа забабоны... А мо гэта і не забабоны? Хто вывучаў, хто ведае? Мо тут якая рацыя хаваецца, народны вопыт. Скажам — біярытмы... Вучоныя да іх толькі зараз дадумаліся, а народ — стагоддзі назад. І мацярынскае малако... Для малога гэта не толькі найлепшы харч, але і антысептык, прафілактыка ад кішэчных захворванняў...»

## 5

Усе чынна сядзелі насупраць тэлевізара. І Дар'я, і Кацярына, і Аўдотка, і Ліля Пахілька. Толькі Іван стаяў ззаду ўсіх, скрыжаваўшы рукі на грудзях. Агледзеўся на скрып, і Федзя заўважыў на твары студэнта пакутную цярплівасць і недаўменне: ну што яны знайшлі ў гэтай перадачы? Як адарваць іх ад гэтага тэлевізара? Якія яшчэ метады прымяніць?

— А дзе ж Аляксана? — з парога запытала Марыля. Але на яе зашыкалі з усіх бакоў: тэлевізар па-

казваў жаночы кангрэс «За мір і дружбу». Марыля ўгнулася каля Пахількі, зашапталіся.

А ў гэты час з трыбуны кангрэсу (цэлая велізарная зала жанчын усіх колераў скуры!) выступала мажная жанчына — усе грудзі ў медалях:

— Хай над вамі, мае дарагія, вечна будзе мірнае неба і яснае сонца! — З пафасам выстаўляе яна рукі, і зала ўзрываецца ад воплескаў. Нават Ліля Пахілька папляскала тэлевізару.

— А каб табе язык адсох! — ускіпела Аўдотка, памкнулася да разеткі, каб вырваць шнур.— За што ж ты нас усіх клянеш? Што мы табе такога зрабілі? Мірнае — няхай... А нашто ж яснае? Усё ж пагарыць, пасохне!

— Праўда што... Шчырая праўда,— заківала згодна Кацярына.— Памятаеце, як скора пасля вайны на Украіне ўсё пагарэла і голад быў? Хадзілі людзі па сёлах — і старцавалі, і на работу прасіліся...

«А пад Масквою — помніце? Балоты гарэлі, уся Масква ў дыме была...» — «А летась заліло! Ні жыта добра не ўбралі, ні бульбы...» — «Адале мароз ударыў, укаваў усё... Гарадчукі з горада моркаў ломікамі выдзёўбвалі...» — «Я чытала — у Афрыцы ёсць такія месцы, што ні разу дождж не капне за год. Збярэцца хмара, бушуе навальніца, а да зямлі ні кропелькі не далятае — зноў выпараецца ад гарачыні».

Ніхто ужо не глядзеў, не слухаў тэлевізар. Усе старанна шукалі, пра што пагаварыць, абы не пачынаць тое, з-за чаго сабралі іх сюды.

«Вечарам трэба было... Сароме́юцца бабкі: «Будні дзень, уборка, а мы тут тра-ля-ля разводзіць будзем?» І Аляксана недзе запрапала — памагла б раскатурхаць. Без яе пачынаць?» — адно і тое ж думалі Іван і Федзя.

Выручыў Іван: узяў з лавы Аўдотчыну скрыпку, пачаў іграць-вытылінгваць. І ўсе заварушыліся, загамэнілі: «Вой, хлопча... Дык табе ж трэба да шулаўцоў прыставаць у канпанію! Цяпер яны маладых набіраюць...» — «Скрыпка — як новая стала... Дар'я, ты б на гармоніку падыграла...» — «Ага... Хай яны ўдзвюх паспрабуюць — Аўдотка і Дар'я. Во будзе!» — «Ярша б пазвалі... У Ярша дудачка ёсцека. Вясёлая!»

— Каліна мая,
Чаму не цвіла?

— Былі да былі
Сільныя марозы,
Змарозілі мяне...

Калі ўрэшце і Аляксана адчыніла дзверы, хата ажно разлягалася ад спеваў, і яна далучылася проста з парога. Пахілька брала высокім падгалоскам, хоць і слоў не ведала, схоплівала мелодыю на ляту. І дзівілася Аляксана, што ні Федзя, ні Іван не стаяць перад жанкамі, не махаюць рукамі, не дырыжыруюць, а толькі слухаюць. Муштравала то Кацярыну, то Марылю Дар'я:

— Ты вольна пусці голас... Кажу вольна — як у полі, а не ў хаце. І духу ўхапі, пастой на голасе... А ты не пырхай, як аўца, і не гніся ў дугу! Федзя, думаеш, чаму ў нас сяло Дуброваю завецца, ■ нідзе ніякай дубровы няма? Была дуброва, не за тваю памяць, яшчэ ж якія дубы! Як запяем, бывала, у полі — голас ад лесу адбіваецца: «Гой-ой-ой — гэ-э-эй... Го-о-ой — гээй!» І коціцца, коціцца, замірае... Душа як воск растае, плакаць хочацца...

## Раздзел дзевяты

І Гардзей, калі быў малы, любіў разглядаць зоркі на небе. Бясконцасць, незлічонасць зоркавых светаў і захапляла, і дзівіла, і страшыла, рабіла самога такою нікчэмаю, такою парушынкаю — жыць не хацелася. Упіраўся позіркам у які лапік неба падалей ад Млечнага Шляху, дзе было цямней, пачынаў лічыць зоркі. Усе, здаецца, вызбірваў пільным позіркам, а варта было стаіць дых, як мага зеўрачы зенкі, і заўважаліся ўсё новыя і новыя. Ды такое драбноцце, нібы хто нават не праколваў, а толькі пазначаў нябесную чорна-атласную сінь самым кончыкам самага тонкага промніка.

Вось і зараз. Ішоў паперадзе і раз-пораз спыняўся, задзіраючы галаву, углядаўся ў неба і гаварыў — як сабе:

— ...і от таму астраному беларускаму ведаеш колькі? Пятнаццаць — шаснаццаць гадоў! І тэлескопік — так сабе, сам зляпіў. А трэба ж такому здарыцца: адкрыў новую зорку, ва ўсе каталогі яе занеслі!

Рыгор адмоўчваўся.

«Падумаеш — шчасце бо такое: зорку адкрыў. Ты яшчэ дакажы — ці новая... Мо яе адкрывалі сто разоў... Ды мне ад гэтага ні горача ні холадна. І мільярдам людзей — таксама... Ад гэтага ні збожжа, ні мяса, ні малака не пабольшае...» Рыгора нават злавала Гардзеева наіўна-дзіцячае і паказное (ну — пэўна ж паказное!) захапленне.

Сам Рыгор даўно ўжо не разглядаў зорнага неба, нават не прыпамінаў, калі здарылася, што яно перастала яго цікавіць. Даўно ўжо неба здавалася яму без зорак і месяца — пракаветна-чорным. Добра, што хоць заўважаў, як дзень змяняецца ноччу, а ноч — днём. «Федзя яшчэ такі ёсць... Конь стары — трыццаць гадоў, а ўсё вершыкі пiсвае, забаўляецца... А мо Федзя не прыкідваецца, мо ў яго і ёсць талент? Друкуюць жа яго вершы... Тут дзела яснае, што дзела цёмнае. Ну, а Гардзей чаго выпендрываецца? Не брала яшчэ яго за горла жыццё... А так бы і вочы на лоб, і неба з аўчынку... Без зорачак!»

— ...ты заўважыў? Сёння зоркі ўсядно як слязлівыя. Ці не дождж заўтра будзе? От свет настаў: яшчэ ніводнага лета не было, каб дало добра ўбраць... Што ты ўсё адстаеш — стаміўся? — Гардзей пачакаў, каб Рыгор параўняўся з ім.— І маўчыш, маўчыш, як мармоль які.

— Пераварваю,— буркнуў Рыгор.

— Няма чаго пераварваць — галодны цэлы дзень. Прабачай, што я цябе паэксплуатаваў трохі.

— Ат... Не прывыкаць.

— Добра, што ты падмог. Сашка выматаўся без прывычкі. Ірве, выцягвае зелле з-пад шнэка... Хоча свіснуць мне, а духу не збярэ, губы як змерзлі — не слухаюцца.

— А ён і не ўмее свістаць.

— Ну, то што ты скажаш пра адкормачнік, пра завод?

Рыгор зноў прайшоў колькі крокаў моўчкі. Уваходзілі ўжо ў вуліцу старое вёскі.

— А што скажаш — з налёту? Не па мне, мабыць, і апаратарства гэтае, і вітаміны вашы.

— З налёту вырашаць — не дзела. Тут ты праўду кажаш... Думай, сем разоў мерай. Ніхто ў патыліцу не гоніць.

«Ага, не гоніць... Што яшчэ скажаш, братухна? Што ты ведаеш пра маю жытку акрамя плётак? Чужая болька не баліць, і пакуль дзіця не заплача, маці не дагадаецца... Але ж я не дзіця, а ты — не маці і не бацька мне. І слёз маіх не дачакаешся... Ты ўсяго толькі брат, хай сабе і большы. Разумненькім хочаш сябе паказаць... Павучаеш, як жыць. А мне не пяць гадоў! Не-е!!!» — у думках Рыгор працягвае гаворку з Гардзеем. У думках і слоў больш знаходзілася, нават дасціпна мог аскірзнуцца. Праўда, цяпер во і аскірзацца не было чаго, бо Гардзей не павучаў, што рабіць, як жыць, не лез у душу.

Як працавалі ўдвух на камбайне да самага цёмнага, вызваліўшы Сашу назусім (той не адразу пайшоў дадому да Гардзея, а доўга бадзяўся па кустах, па малінніку, потым клаў агонь і сцягваў на яго плёнчатыя мяшкі ад салетры, якімі быў засмечаны ўвесь узлесак). А пагаварыць не змаглі. Не накрычышся ў вуха адзін аднаму. Дый не крычаць трэба пра такія рэчы. Пра такое гавораць спакваля, у сціхоцці і журботным роздуме, і добра, калі на стале невялікая чарка.

Захацелася Рыгору пабачыць Гардзея, пагаварыць пра свае нягоды адразу, як толькі паштальёнка ўручыла тэлеграму пра Сашу. Вядома, Сашу таксама трэба было пабачыць. Не прабачэння папрасіць у яго, а так... Не такая ў Рыгора натура, каб прасіць, ды і ў мазгах не ўкладвалася: ён, бацька, ды будзе прасіць прабачэння ў сына?! Бацька ёсць бацька. Праўда заўсёды на яго баку. Павінна быць ва ўсякім разе. Наадварот, хацеў паўшчуваць, палаяць за такія фокусы. А як убачыў на падножцы трапа — спацелага (кропелькі былі нават на пушку пад носам, на самім носе), замурзанага, худога і доўгага, доўгага,— у душы штосьці балюча зварухнулася: «Сын... Гэта ўжо такі мой сын?!» Ён саромеўся назваць гэта любоўю да сына, стараўся нічым вонкава не праявіць сваіх пачуццяў.

«Мармоль... Можа, і праўда я мармоль. Іншыя бацькі як не ліжуцца з дзецьмі: абдымачкі, пацалуначкі, пяшчоты. А ў мяне яны не песты. Суровае выхаванне, спартанскае...» — падумаў гэтак і скрывіўся: вельмі ж гучна і няпраўда. Бо помнілася нейкая крыха з гісторыі пра Старажытную Грэцыю, пра Спарту, як там са скалы скідвалі слабых, так бы сказаць —

нестандартных дзяцей. Не цацкаліся з імі, не лячылі, не выхаджвалі. А выхоўвалі здаровых, развівалі толькі іх — па сваёй сістэме. А якая сістэма ў яго, Рыгора? Ды ніякай, акрамя таго, што скупіўся на ласку, саромеўся яе праявіць. І само сабою разумелася, што дзецьмі павінны былі займацца Маня і цешча. «А Саша вырас... І не заўважыў калі...»

— Ну, дык чаго ты маўчыш? Кажы яшчэ што... Або туды, або сюды. Маглі б і да дырэктара ранічкаю заскочыць, пакуль інцерасанты яго не пачнуць атакоўваць.

— Кажу — не ведаю, на што рашыцца.— Рыгор урэшце параўняўся з Гардзеем, вуліца дазволіла ісці побач. Ступаў цяжка, угнуўшыся, рука ў кішэні перакідвае, узважвае адломкі зялёных вітамінных брыкетаў — набраў з цікавасці, як заходзілі на завод. Што адказаць — не ведаў, бо і праўда, яшчэ пераварваў тое, што ўбачыў.

...Загналі да майстэрняў камбайн і цёмначы ўжо зайшлі на жывёлагадоўчы адкормачны комплекс. Гардзея як члена групы народнага кантролю парткома пускалі сюды ў любы час дня і ночы, і ён паказваў, дзе, што і як наробленa, набудавана. І ўсюды ў секцыях Рыгор бачыў гладкіх і шыракаспінных, хоць кладзіся, з адвіслымі валлякамі бычкоў. Шыракалобыя, пародзістыя... Глядзелі і галоўны пульт кіравання, панелі з кнопкамі, клавішамі і светлавымі табло.

«Вось так і жывём... Заўтрашні дзень, можна сказаць. Чым не камунізм? Усяго і фізічнай нагрузкі, што кнопкі націскаць, а бычкі і кормяцца і пояцца... А? Ёсць тут вакансія — пасада зменнага аператара, я ведаю. Дзень-два — і наблатыкаешся. Га?» — Гардзей мо чакаў, што ён ад такога хараства адразу, не адыходзячы ад пульта, пачне захапляцца і згаджацца. І не дачакаўся: Рыгор толькі моўчкі падціскаў губы.

«Заўтрашні... Мне і ва ўчарашнім добра... У сённяшнім»,— вымучыў урэшце.

Тады павёў яго Гардзей на завод камбікармоў, вітамінных брыкетаў — зусім побач з комплексам. Мо там спадабаецца? Усё-такі машыны, механізмы, сушылкі. Не спадабалася і там — цяснотце, шум, грукат, гарачыня, скразнякі, штосьці, нібы мякіна, увесь час сыплецца за каўнер, пахне распаранай і падсмажанай травяной сырызнай. Спадабаліся толькі самі

кантовенькія адломкі-брыкецікі, спрасаваныя да цагельнай цвёрдасці, яшчэ гарачанькія. Тады ён і набраў іх у кішэню — пакажа дома дзецям.

— Параздушваю я вашы кнопкі і пульты... І катух гэты развярну... Не змагу я там — як звер у клетцы... Звар'яцею ці сап'юся ад бяздзелля... Няхай туды якіх цыпачак у халаціках садзяць. Мне б на прастор... А што — трактара няма лішняга ў вас?

— У чацвёртым квартале будзе. Можна і пра трактар адразу пагаварыць... А мо ў майстэрні пакуль, за слесара-рамонтніка пабудзеш?

— Падумаць трэба. А трактар які чакаюць?

— К-700, ці што. Вялізны, як страшыдла.

— Ух, ты.

— Але ж на «кіраўца» ў нас многа ахвотнікаў, хоць і нормы высокія. Трактарысту, што перамог на рэспубліканскіх спаборніцтвах па ворыве, абяцалі.

— Ат... На «беларусу» лепш. На «кіраўцу» на сотках ці каля хаты не павернешся, а на «беларусу» і падхалтурыць можна.

Цяпер ужо Гардзей прыцішыў хаду, зазірнуў Рыгору ў твар. І нічога не сказаў, мо не разгледзеў тое, што хацеў разгледзець. На старой вуліцы асвятленне было дапатопнае, нейкія ружовыя лямпачкі на слупах. А на плошчы, у новым пасёлку, куды яны набліжаліся, ззялі з прыгожых бетонных слупоў авальныя лямпы дзённага святла — белага, аж сіняга.

— Я чытаў, што для сотак пачнуць маленькія трактары выпускаць... Па чатырыста, ці што, рублёў будуць каштаваць,— сказаў Гардзей.

— І што — іх свабодна будзе купіць?

— Свабодна. Толькі калі яшчэ тое будзе! Да-а-а... А вось з кватэраю тугавата. Усё пазаймана, нічога, здаецца, няма.

— А я з кватэры і пачну гаворку, калі зойдзем заўтра да дырэктара. Дасць кватэру — тут жа і пераеду. Не — пайду так дзе шукаць месца. Механізатары на дарозе не валяюцца.

Гардзей чмыхнуў.

— Каб жа не валяліся... Не любіць наш дырэктар п'янтосаў. І з работы звальняе, і — будзь добры! — кватэру аслабані.

— Не намякай. Не п'ю я — не слухай бабскіх плётак.

Рыгор яшчэ не быў у Гардзеевай кватэры. Адразу, як прыехаў, пакіраваў на саўгасны двор, да майстэрняў і ўжо там выпытаў, дзе шукаць камбайнера Гардзея Сухавея. І цяпер, калі падняліся ў кватэру, усё было ў дзіковіну. Разглядваючы жытло, заглянуў у Наташын пакой, дзе «спаў без задніх ног» Саша, заглянуў у агульны, дзе сядзелі крукам перад тэлевізарам Ларыса і Наташа, кіўнуў ім. Братавая паспрабавала ўстаць, ісці на кухню пакарміць іх, мужыкоў. Але Гардзей замахаў — «Сядзі, сядзі. Мы самі...», і яна зноў ахвотна ўселася. Гардзей прымаў душ у майстэрнях, там і пераадзеўся ў чысцейшае, а цяпер толькі ўссунуў тапачкі і падаўся адразу кухарыць. А Рыгор цяпер пачысціўся шчоткаю на лесвічнай пляцоўцы, потым памыўся над ваннаю да пояса. Плюхаў на валасатыя грудзі цёплую ваду і дзівіўся такому выгодзю, дзівіўся зіхоткаму бляску белага кафелю («Ач ты, распанелі...»). Зайздросціў Гардзею да болю пад лыжачкай: так усё шыкоўна ў кватэры, так па-гарадскому выглядае.

І потым, калі бралі па чарцы, размаўлялі, Рыгор рабіўся ўсё больш змрочны. Часам не чуў нават Гардзеевых пытанняў, неўпапад адказваў на іх. «Не казаў я яму, з кім хачу пераехаць у Навасёлкі... І ён не папытаў. А мо здагадваецца, што не з Маняй, не з дзецьмі? Могуць не даць кватэру, калі дом маеш. Не адбярэш дом у дзяцей, хоць і на мяне запісаны. Адсудзіць хіба частку, каб сплацілі мне Маня і цешча? Не-не, гэта ўжо зусім па-свінску будзе. Хай ім застаецца ўсё... А мо і не па-свінску? Я ж таксама чалавек, мне ж таксама жыць недзе трэба...»

— То будзем здаровы, чуеш? — мабыць, не першы раз казаў ужо Гардзей.

— Ага, будзем... Не прападзем! — спахапіўся, працягнуў да Гардзея паўшклянак.

## 2

Ехаў Рыгор ад Гардзея ў перапоўненым аўтобусе і не заўважаў людзей вакол сябе. Ехаў не зусім акрылены, але настрой быў крыху лепшы. Быццам заблішчаў уперадзе ў беспрасвеცці нейкі агеньчык.

«Так... Так? Ну але ж, але! — усё яшчэ нібы ўгаворваў сам сябе.— Гэта — выхад... З'ехаць, перабрац-

ца ў другое месца! Аліменты адкуль хочаш можна высылаць — колькі палажана. Палавіну дык палавіну... З халтуры толькі не вылічваюць, трэба будзе больш халтурыць. Колькі там часу будзе паміж аўтобусамі, у Слуцку? А можна і прапусціць адзін рэйс у Дуброву, схаджу падам заяву на развод... Трэ-эба стаўляць кро-опку! Так не можа цягнуцца бясконца... І мне Сташэвічы не ўказчыкі, дзе жыць, з кім жыць... Малакасос! Хай пражыве гэтак, як я, семнаццаць гадоў,— не тое запяе...»

«А дырэктар у Навасёлках — на ходу падноскі адрывае. Гардзей яму і двух слоў не паспеў сказаць, а той ужо: «Веру, што добры механізатар, Гардзей Іванавіч,— табе веру. У такіх, як ты, кепскіх братоў не бывае. Сям'я вялікая? Чаго замяўся — усяго ўдваіх з жонкаю? Дык пра што гаворка? Пакой сёння ж магу даць... Без выгод, праўда... Пакуль пажывяце ў ім — год, паўтара, а там і кватэра будзе. Чатыры васьмікватэрнікі заклалі... Вось вам паперка да каменданта, і — «с милой рай и в шалаше». Так? — вырваў лісток з імяннога блакнота, працягнуў праваю рукою, пасміхнуўся хітравата, а левая памкнулася да тэлефона і тут жа паклала трубку, каб далі закончыць размову.— Перабярэшся — знойдзем і трактар»,— і тут жа зноў зняў трубку, бо тэлефон не хацеў маўчаць.

Гэтую лапаткую, глянцавую паперку з чырвонымі літарамі ў пачатку старонкі — «Дэпутат Вярхоўнага Савета Беларускай ССР» — Рыгор адчувае ў кішэні пінжака і зараз, хоць яна ўжо і не лапаткая, адсырэла ад поту.

«Трэба было сказаць — тры чалавекі. Мо давядзецца і бацьку Вольчынага забраць. Хаця — якая розніца? Два чалавекі, тры... Э-э не, брат! Розніца вялікая... Што толькі самі ў пакоі, а што яшчэ і трэці... дзень і ноч... Стары і хворы... Ні страпяніся, ні рыпні. І невядома ж яшчэ, які там пакой, у якім доме: мо якія дзесяць метраў у старой хібары. Бацька можа яшчэ і на хутары жыць, нашто яго зрываць з месца... Будзе пытаць Волька пра пакой, а што я ёй скажу? Сарваўся, як з прывязі... Дзе суткі, там ужо і двое можна было прабыць, усё агледзець. Хто там у іх камендант ці заўхоз? Мо каб падмасліў, то і лепшае што знайшоў... Хаця — не, трэба Вольку пабачыць, што яна запяе...»

«Табе веру... Кепскіх братоў не бывае... у такіх». Іш, выслужыўся... З паўслова верацъ, яшчэ і рот добра не разявіў Гардзей, а ўжо... Не прастачок дырэктар, уга! Ён і Гардзея падкалупіў гэтым... Каб ведаў, за каго ручаецца...»

Марудна набліжаўся аўтобус да Слуцка, спыняўся ледзь не каля кожнага тэлеграфнага слупа. «Абнаглелі проста людзі... Не, каб які кіламетр прайсці пешкі. Дзярэ руку, галасуе». І чым бліжэй было да горада, тым больш нецярплівым рабілася жаданне хутчэй пабачыць Вольку. Па гэтаму і не пайшоў у Слуцку шукаць, дзе той суд (хай яго людзі не знаюць!), а купіў білет дадому на бліжэйшы рэйс. І ўсё стаяў каля піўнога ларка, цягнуў з куфля піва, выціраў далоняй пену з вусоў. З пасадачнай пляцоўкі вачэй не зводзіў, раз-пораз паглядваў на свой гадзіннік. Забыў раніцаю завесці, і ён быў спыніўся. «Паставіў наўгад, а цяпер мучайся...» У аднаго выпівохі папытаў, «колькі націкала на яго залатым», у другога — няма гадзіннікаў, разводзяць рукамі. «Папрапівалі, сукіны сыны...» Спытаў фацэтную дамачку, прабіралася скрозь натоўп да суседняга ларка купіць цукерак. І толькі паставіўшы гадзіннік правільна, пачаў крыху супакойвацца.

## 3

Волька, мабыць, нядаўна абірала вішні. Апошнія вішні... Яшчэ і лесвіца стаяла, прыхаваная верхам у голлі, здавалася, нават вецце хістаецца, разгайданае Волькаю. Пачакаў колькі хвілін, прысеўшы на перакладзіну,— мо хутка зноў выйдзе? І яны пагавораць тут, на свежым паветры, спакойна, ніхто не будзе замінаць. Але Волька не выходзіла з хаты, і ён тады стаў на перакладзіну, пашукаў вішань. Знайшоў некалькі ўсохлых, пакляваных шпакамі, пакідаў у рот — салодкія, ажно гарэняць.

«У хаце, мабыць... Мо села костачкі вымаць, варэнне будзе варыць...» Пакіраваў да калодзежа. Як некалі, напрадвесні, на стрэчанне. Толькі тады было пуста вакол калодзежа, а цяпер тыну не відаць з-за сланечніку і вяргіняў. Якіх толькі гатункаў, якіх колераў і адценняў тут не было! І як некалі, на двор не заходзіў, а адразу зславіў вядро. Тое ж драўлянае, ззелянелае вядро, берагі — як абгрызеныя. «Нараблю рыпу — выйдзе...» Помніць ён той дзень і да скону не

забудзе. Як бянтэжыўся, выцягваючы ваду, як глядзеў на Вольку, і яна на яго з-за тыну глядзела, з двара, нейкімі ззяючымі сонечнымі вачыма. А вадзяныя шарыкі дзынкалі, падалі ў калодзеж, разбіваліся дзесьці ўглыбіні... Помніць, як піў ледзяную ваду і не мог напіцца, як панёс потым Вольчына вядро ў хату, як... І тое помніць, што было ў іх першы раз.

Пачаў і цяпер даставаць ваду, каб зарыпець пруглом, перабіраў шост рукамі і дзівіўся, што апускаць пустое вядро цяжэй, чым тады. «А-а, жалязяку стары прыладзіў, процівагу. Зубчатка — ці не з каробкі перадач?» І рыпу не было: дзіркі ў рагульках сахі і ў пругле, дзе ўстаўлены жалезны прэнцік-воська, чарнеюць ад дзёгцю. «Мо паздаравеў бацька, сам лазіў? А мо Волька?» Поўнае вядро вымалася з калодзежа лёгка. Рыгор толькі прытрымліваў шост рукамі, каб не білася аб сценкі, не расплёхвала ваду, і ўсё зіркаў на вокны хаты — ці не выгляне Волька, не выйдзе з вядром, як тады? І заўважыў урэшце яе бледны твар, здалося — вельмі худы і выцягнуты, крыху спалоханы. Махнуўся твар, знік...

І вось яна ўжо ідзе з вядром, на ёй белая, як тады, у полі, у тую буру-навальніцу, сукенка. Паўкругам лінула перад сабою рэшткі вады, квола ўсміхнулася. «Што гэта яна? Як вымаклая... І сукенка белая, і сама белая — як здань. А рукі! Што ў яе з рукамі? А-а, вішні, сок... Угадаў — костачкі вымала шпількаю...»

— Здароў, Грыша,— першая павіталася яна і абцягнула на сабе сукенку, шчокі крыху заружавеліся. На сукенцы ад завэдзганых пальцаў плям не рабілася, паспела, мабыць, спаласнуць.

— Здаровая была...— хацеў злавіць вачыма яе позірк, але Волька не падымала вачэй, паставіла вядро пад ногі, рукі паклала на верхнюю плашку тыну. Што далей гаварыць? Нахіліўся да вядра, з якога цурчала пад ногі вада. Цмокнуў раз, другі... Што ж гэта, дальбог? Вада пагоршала, ці што? Ці ад тых вішань такі ржава-жалезісты смак у роце?.. Выпрастаўся...— Лаві! — пусціў вядро да яе цераз тын, пайшоў, каб завярнуць у двор.

— Дзе ты быў, Грыша? — спытала, выліваючы ваду ў сваё вядро, цынкавае. Вачэй так і не падняла, быццам вінаватая ў чым. Сцэджвала рэшткі доўга, апошні струменьчык здаўся зеленаватым.— Інжынер

заходзіў сюды, Загаецкі. Цябе шукаў... Зноў нешта натварыў?

— Нічога не натварыў,— нагнуўся, забраў Вольчына вядро.— Я ім не хлопчык, а яны мне не мама і тата, каб дазволу на кожны крок пытаць.

— Абураўся Загаецкі. Кінуў-рынуў трактар — знік. Патаміліся, кажа, ужо ад яго выбрыкаў і анархізмаў.

— Не мог Дзіма так сказаць. Няйначай Сташэвічавы словы, той дэмакрут ненавідзіць мяне...

Дайшлі да ганка.

— Не трэба ў хату. Пастаў ваду ў сенцах. Тата слабы зусім. Растрывожыцца, як убачыць цябе... Скажу Загаецкаму: не было цябе тут — не верыць, азіраецца. Думаў, пад ложак схавала.

Зайшлі ў сенцы.

— Здрастуй, Воля...— паставіў, як кінуў, вядро пад ногі, працягнуў да яе рукі. І хуценька прыгарнуў да сябе, пачаў цалаваць твар, шыю, потым злавіў губамі губы.

— Пачакай!..— выкручвалася.— Ды адкасніся ты, мядзведзь!

— Не хачу чакаць, не хачу слухаць... Я не магу без цябе — разумееш?

Глуха блёхнула пад нагамі вядро.

— Адстань... Ты — звар'яцеў... Вядро траха не абярнулі.

Рыгор і праўда як звар'яцеў, нічога не хацеў слухаць.

— Мая ты, чуеш? Мая! Я цябе не ўступлю... Не адмоўлюся!.. Мы будзем разам! — Ён цягнуў ужо яе з сянец, ён помніў пра тое сена, пра казінае малако.

Але ж хіба тое непаўторнае паўторыцца?

— Пачакай — ну-у... Я пагляджу бацьку... Грыша, лякарства яму скора даваць...— гаварыла, а сама ўжо, спатыкаючыся, ішла за ім.— Эгаіст ты, Грыша, толькі пра сябе думаеш...

На ганку здалося, што з хаты пачуўся слабы бацькаў голас. Але, пэўна ж, здалося, толькі здалося...

...Потым, у сене, паволі астываючы ад чмуру, незадаволены сваёй гарачлівасцю, а Вольчынай халоднасцю і змушанасцю, Рыгор паспешліва расказваў пра візіт да навасёлкаўскага дырэктара. Чакаў — папытае, а Волька так і не пацікавілася, што ж там за кватэра-пакой. Здалося нават, што гэта зусім яе не хва-

люе. А можа, маўкліва згадзілася з планамі, адобрыла?

— Ну во — памарылі трохі, а цяпер разбягаймася. Сівабароды мячтацель з заплюшчанымі вачыма.

— Чаму — з заплюшчанымі? Што я — хлапчук які? — нават зазлаваў крыху на гэтую Вольчыну абыякавасць.

— Ну, не хлапчук, то... чалавек, які адарваўся ад жыцця. У воблаках вітаеш. Летуценнік.

— Калі я летуценнік, то давай свой план. Рэальны. Толькі адно ўлічы — трэба нам быць разам.

— Грыша, мілы, ты толькі не злуйся. Ну як мы паедзем, усё кінуўшы, на ўсё забыўшыся?

— Забяром бацьку з сабою...

— Забяром! Яго з хутара ў сяло не перабраць, а то... у белы свет. Даўно б і грошай наскрэблі б, і пазыку ўзялі б і разлічыліся. Не хоча, і ўсё! А цяпер такога хворага трывожыць, сілком некуды везці?

— Усё бацька, бацька, бацька! А пра мяне ты хоць раз падумала?!

От гэтага дык і не трэба было гаварыць, не трэба было зрывацца...

Волька рэзка паднялася, імкліва ссунулася з сена.

— Пачакай, чуеш? Ну — даруй мне, прабач! — махнуўся за ёю, каб затрымаць, схапіць руку — ледзь не кульнуўся ўніз галавою.— Ну — дурань я, чуеш?!

Волька нават не азірнулася. У светлым праёме дзвярэй мільгнула сліпуча белая сукенка, па двары затупалі хуткія крокі.

Рыгор ссунуўся з сена на тачок, асцяпнуўся.

Дзверы зачыніў паволі і акуратна, каб не рыпнулі.

«Так нельга пакінуць... Мы ж не кончылі гаварыць!» — рашуча пайшоў да сянец.

І ўжо ў сенцах пачуў балючы ўскрык Волькі: «Татачка-а!!!»

Ірвануў на сябе хатнія дзверы, натыкнуўся плячом на вушак. Апанас з ублытанымі ў коўдру нагамі ляжаў каля ложка, тварам уніз. Адна рука — пад сябе, пад сэрца, другая — выцягнута ўперад. Мабыць, цягнуўся з ложка да лекаў, бо тут жа было перакуленае крэсла; бутэлечкі і парашкі ў кантовых каробачках разляцеліся па ўсёй хаце.

— Татачка-а, ро-одненькі!..— тузала Волька бацьку, спрабавала павярнуць дагары.

— Пачакай... Адыдзі, кажу!..— Рыгор адцягнуў спачатку Вольку, а тады падняў на руках старога (галава адразу закінулася), паклаў на ложак. Пульс у схаладалай руцэ не намацваўся. Прыклаў вуха да Апанасавых грудзей — цішыня...

— Вады мо яму, а? Зубы расчапіць — і вады...— распатланая Волька то мітуслівa разблытвала коўдру, то ўкрывала бацьку, то кідалася збіраць з-пад ног лякарства.— Я ото грэлку цёплую... у ногі яму.

— Сядзь, Волька. Нічога яму ўжо не трэба...— Рыгор паставіў на ногі паваленае крэсла, сеў сам. Сцяг з галавы картуз, не ведаў, куды яго дзець, куды дзець рукі, што рабіць.

Волька, затуліўшы вушы, часта-часта закруціла галавою, вочы збялелі: «Не, не, не...» І раптам упала каля ложка на калені. Цалавала бацькаву руку, аблівала слязьмі.

— Даруй, татачка... Даруй, родненькі!.. Вінавата я... Карай мяне, чацвяртуй... О-о-о-о-о!..

Слухаць яе было невыносна. Рыгор устаў, пастукаў шапкаю па далоні.

— Мо баб пазваць? Аўдотку... Яшчэ каго...

Волька не чула, і ён паўтарыў гэта двойчы.

Падняла ўрэшце мокры твар, глянула слёзна невідушчымі вачыма. Прашаптала, як у трансе:

— Ідзі... адсюль... Я ненавіджу цябе... Не-на-віджу-у!!!

Адступаў задам да парога, быццам баяўся, каб не здзяжылі чым па патыліцы.

Нібы чымсьці можна было горш ударыць, як словам.

## 4

— Жухалава прыходзіла ў даяркі зваць...— Аляксана гаварыла лагодна, адпачываючы, але падпусціла ў голасе трохі іроніі, трохі насмешкі над дзівацтвам заатэхніцы. Ямчэй уселася на мяшку жыта, выпрастала ногі. І абцягнула больш спадніцу, бо Іван Іванавіч скасіў вока на яе калені.— Распісвала Жухалава, як лёгка цяпер даяркам, як добра.

— Лёгка... Добра... Чаго ж тады маладзейшыя не ідуць? — Іван Іванавіч сядзеў на другім мяшку, насупраць, дапіваў другую конаўку малака — так проста, замест вады. Піў па ўсіх правілах, як у тэлевізары

вучылі, у праграме «Здароўе»,— маленькімі глыточкамі, як не цэдзячы ў сябе, не спяшаючыся. Інакш схопіцца, стварожыцца ад страўнікавых сокаў у адзін вялізны камяк. Такі камяк горш пераварваецца і засвойваецца, горш «эвакуіруецца» (слоўца якое ваеннае!) са страўніка. Праўда, у тэлевізары гаварылі, што такі камяк можа ўтварыцца тады, калі піць вялікімі глыткамі і нашча, на пусты страўнік. Але ж беражонага і бог беражэ, і хто лепш паклапоціцца пра тваё здароўе, як не ты сам? Устаў з крэктам, пайшоў праверыць тэмпературу, магутнасць струменю саляркі ў фарсунцы. Вярнуўся, дацмокаў малако.— То што ты ёй сказала? — спытаў на ўсякі выпадак, хоць і здагадаўся, што адмовіла.

— Сказала — падумаю...— Аляксана зноў усміхнулася сама сабе.

— А што тут думаць? Ці ў твае гады лётаць на ферму, высалапіўшы язык? Мы ж завялі сваю карову, хопіць каля яе тупатні.

Іван Іванавіч зноў сеў на мяшок. Утульны тут утварыўся куточак — з аднаго боку дашчаная сцяна сушылкі, з другога, тырчком да сцяны,— адчыненая кватэрына вялізных дзвярэй. Тут не тое што каля самай сушылкі, дзе з аднаго боку гарачыня, з другога ніжуць скразнякі.

— Ага! Табе добранька, ты сабраўся і пайшоў у людзі, а я адна кукую дома.

— Скора вярнуся... Якіх дванаццаць дзён — і па ўборцы.

— Дзіва што скора!

— А ты не кукуй, а пой... Выступаць жа мо скора будзеце са сваёй капэлай?

— Будзем, а як жа.

— У Мінск паедзеце, у Маскву...

— А што — і ў Маскву! Пачуюць нашы песні і ў Маскве.

— На старасць яшчэ народнай артысткай станеш. Тады ўжо і мяне зганьбуеш, і Дуброву... Крукам носа не дастанеш!

— Ой, перастань хоць... Ну што ў гэтым кепскага, што мы трохі паспяваем, пазабаўляемся? Яшчэ і вас, мужыкоў, развесялім.

— Ну, то от бачыш, колькі ў цябе клопатаў, а ты — «падумаю». Паддаешся на ўгаворы.

— Я не паддаюся. Ты ж у мяне без прызору застанешся...— памаўчала даўгавата.— Што я надумала — ты слухаеш мяне?

— Слухаю, слухаю...

— Я і з шафёрам ужо дамовілася, заскочыць першым рэйсам да нас... З гэтых, што збожжа возяць у Слуцак... Мёду нам трэба трохі прадаць, будзе на абыходак капейка. Хаця той малочны бітон, леташні.

— Там і пазалеташняга палавіну. Сцукраваўся ўжо — лыжку не ўваб'еш.

— Уваб'ю! Такое бяды... На чорта нам столькі мёду дома.

— Едзь — я што? Я не супраць... Толькі базар у будні дзень невялікі. Гэта каб у нядзелю...

— Прадам! Ды калі яшчэ тая нядзеля... У нядзелю амаль усе магазіны ў горадзе зачыненыя. Панялі моду — зачыняць на нядзелю магазіны. Усядно як калгасніку ёсць час у будзень па магазінах гойсаць.

— Я не праціў — едзь.

— Мяшкоў толькі тут не цягай. Жывот сарвеш...

— Я не цягаю, што я — дурны? Не мой гэта абавязак, дый ёсць каму.

— А гэтыя два? — паказала Аляксана на яго мех, кухтальнула кулаком у свой.

— Шафёры курылку зрабілі.

— А ў цябе і добра тут...

— То пасядзі, не рымсціся. Няма куды спяшацца.

— Ага! Пасядзі! Там мо зноў на рапятыцу сышліся, а я тут прахлаждаюся. І ў хаце яшчэ не прыбрала.

— То ідзі, Аляксандра Піліпаўна, раз трэба.

— Надакучыла я табе? Гоніш?

— Тады пасядзі...

Але Аляксана ўжо ўстае, на твары блукае ўсмешка: і фармальнасці ўсе захавала, і свой план пасунула наперад. Будзе яна заўтра ў Слуцку!

## 5

Базарныя плошчы ў раённых цэнтрах амаль усе падобныя. Па абводу пляца то цесна, упрытык, то зводдаль адзін ад аднаго стаяць магазіны і магазінчыкі, павільёны, ларкі і крамкі. І дашчаныя, і цагельныя, і ліха ведае з чаго зробленыя будкі і будачкі. Прамтавары, прадукты, гаспадарчыя тавары, усякая драбяза, прыём другаснай сыравіны і шкур...

А Слуцкая базарная плошча дзеліцца раўчуком і мосцікам на дзве вельмі няроўныя часткі — невялікую ўсходнюю, дзе магазіны стаяць па баках чатырохкутніка да самага моста, і вялікую, гектары на тры, заходнюю, дзе не толькі магазіны па краях, але і паднавесы са сталамі пасярэдзіне. У базарныя дні, у дні кірмашоў на абедзвюх частках пануе вавілонскае стаўпатварэнне: у радах машын і вазоў на плошчы можна заблудзіцца: стоўпішчы і ланцугі машын на ўсіх бліжэйшых вуліцах і завулках групуюцца ў асноўным па прынцыпу «свае — да сваіх». Асабліва вялікія табары машын казловіцкіх калгаснікаў, іх, заможнікаў, Аляксана заўсёды пазнавала. Наязджаюць сем'ямі, з дзецьмі і бабулямі, хто яшчэ вылазіць, а хто ўжо залазіць у машыну з пакункамі, хто выгружае з багажнікаў скрынкі і мяхі, а хто і загружае. Шум, гуд, выкрыкі, людзі зычна перагукваюцца, нібы ў грыбах, разглядаюць пакупкі-абноўкі, тут жа нехта са шкадобаю ахкае, што не ўцэліла акурат на тую краму ці на тую машыну-лаўку, не купіла і сабе рыхтык такую ж апранаху ці пасудзіну, і натоўп тут жа разбягаецца ў бакі. Кожнаму трэба яшчэ штосьці ўладзіць, справіць, купіць.

А сёння народу было мала, тоўпіўся толькі ў цэнтры вакол трох-чатырох паднавесаў. На сталах здалёк яшчэ прасвечваліся горкі яблык і памідораў, букеты жывых і нежывых кветак. Шафёр Панкрат Шапчыц папіпікаў і акурат уруляваў паміж двума паднавесамі. Аляксана сядзела ў кабіне, абняўшы каленямі бітон, а на ім трымаючы вялізную сумку. Вывалаквалі бітон удваіх, і невысокенькі шафёр зноў казаў тыя ж словы, што і дома: «Ёлкі-маталкі, гэт... так і кілу-у... можна нарваць!» І Аляксана, хоць у самой як не лопалі жылы, не рваўся жывот, спрабавала спачувальна і выбачліва ўсміхнуцца. Ну але ж, але... Ценжар неймаверны, мёд — ён такі... Занеслі ў паднавес, узбамбэрылі бітон на лаўку. Аляксана падзякавала за ласку і дапамогу, проста падзякавала, бо дома дала яму слоік мёду на лякарства.

— Я ў гадзін чатыры заскочу. Калі прадасце да гэтага часу, то і дадому зафурую.

— Дзякую... Мо не пільнуйся, я і так табе колькі небыту дала. Дадому, з пустым, я і на аўтобусе змагу: во, у мех запратору і за плечы.

Расхінула сумку, з якое тырчаў тронак вялікай драўлянай лыжкі-мешалкі, паказала мех, пераклала вузельчык з абедам і мех на дно, наверх выбавіла некалькі пустых паўлітровых слоікаў. Узяла іх на ўсякі выпадак, не ўсе ж пакупнікі ходзяць са сваім посудам. Убачаць, што можна купіць са слоікам, то і ахвотнікаў прыбавіцца. А можна і абмяняць поўны на пусты, толькі за мёд грошы ўзяць. Хіба яна не бачыла, як пчаляры прадаюць? Бачыла, сама некалі купляла. Нават дзівілася тады, як даюць яны каштаваць мёду: грудачку з гарошыну кладуць пакупніку на тыльны бок далоні або капнуць кроплю ці мазнуць — злізвай, смакуй...

Аляксана ўплішчылася са сваім бітонам паміж баб-кай-вяскоўкай, што прадавала сырчыкі і смятану з каструлі (злева), і чырванашчокай загладухай у квяцістай сукенцы без рукавоў, што стаяла справа каля горкі яблык (скрынкі з яблыкамі былі яшчэ і ўнізе, пад прылаўкам). Аляксана і папрасіла бабку, каб пагледзела бітона, пакуль расстараецца вагаў і гір. Ідучы па вагі, падабрала яшчэ па дарозе некалькі каменьчыкаў з курынае і галубінае яйка — на абыходак. Гір заўсёды не хапае, а калі памыць тыя каменьчыкі, выважыць, запомніць, каторы колькі зацягнуў, то і лепш можна выкруціцца.

І вось яна ўжо і вагі ўладкавала перад сабою на стале, падвязала белы фартук, уздзела белыя нарукаўнікі, наклала ў слоік мёду і прыляпіла яшчэ дома зрыхтаваную паперку «6 р. 1 кг». І ўселася, і рукі склала на прыполе. Ну што — дзе тыя пакупнікі? Налятайце ж... І адчула седзячы, як напружана маўчаць яе суседкі і нібы трохі скоса паглядваюць: уклінілася бесцырымонна ў іх рады, рассунула ў бакі. Тады Аляксана пакорпалася ў сумцы, развязала вузельчык, укроіла кірпелікам па невялікай скібачцы хлеба, густа намазала іх, нібы тавотам, мёдам, працягнула старой, пачаставала маладуху, хоць тыя спачатку аднекваліся.

— Ну ж... Ну! Вы пакаштуйце, што за тавар. Не мёд, а лякарства. Чысцюткі... А што зацукраваўся — не бяда. Мёд чым больш стаіць, тым больш мацунку набірае.

Жанчыны пачалі есці-смакаваць, а тым часам Аляксана выклала ім усё, што ведала і чаго не ведала пра мёд, шчодра прыпраўляючы фантазіяй, расказа-

ла, які Ясь акуратны з мёдам, ніколі не дапусціць ніякага фальшу. А от сам не ўмее прадаваць, не любіць ці саромеецца даказваць, што мёд чысты, без цукру. Бо людзі ж не разбіраюцца, аднолькава падазраюць і таго, хто прадае дабро, і таго, хто абжульвае ды нажываецца.

— А я кажу яму: калі ты саромеешся, то я — не. Махнуў — едзь, кажа... А я ў яго, людцы, нядаўна, другая жонка...

Хутка Аляксана была як свая за прылаўкам. І суседкі, сагітаваныя, першыя купілі ў яе па слоіку мёду. «У мяне лёгкая рука... От пабачыце, пойдзе гандаль»,— гаварыла загладуха, і Аляксана жартам нібы паплявала на яе грошы: «Тфу-тфу-тфу... У добры час».

Аляксана потым яшчэ не раз пакідала на іх мёд — то адыходзілася паглядзець, ці ёсць канкурэнты з мёдам і пачом яны прадаюць, то заманулася купіць сітра, то так куды. І суседкі на яе пакідалі свой тавар. Першая распрадала смятану і сырчыкі бабуля і паспяшалася на аўтобус. На яе месца хацеў усунуцца віславусы пануры дзядзька з дзвюма клеткамі — у адной пырхалі жоўтыя канарэйкі, у другой трывожна пасвістваў шпак-шалудзька. Ледзь дзядзька паставіў клетку са шпакам на прылавак, як той скокнуў на донца-падлогу і затрапятаў, забіў крыламі, нібы хацеў пакупацца ў пяску, і ва ўсе бакі паляцелі пёрцы і смецце, канаплянае семя. Бабы дружна паднялі крык і тут жа вытурылі птушкалюба з паднавеса.

Гандаль усё-такі быў слабы, ніхто не выстройваўся ў чаргу каля мёду, мала было на базары людзей. А мо ішло ўсё нармальна, а толькі нервы не давалі спакою? Браў рупесак пра галоўную справу, дзеля якой і было прыдумана гэтае падарожжа ў Слуцак... Чым глыбей было скрэбціся ў бітон, тым цвярдзейшы рабіўся мёд, і скора лыжка ў шыйцы хрэпнула. Абломкам намучыла дзясніцу, нацерла пасярод далоні мазоль. Спрабавала і леваю рукою наскрэбваць і накладваць, але атрымлівалася вельмі няўклюдна, рука была як не свая, і Аляксана зноў пераходзіла на правую. Аднак усім зычліва ўсміхалася, усім хваліла свой мёд, ліпкімі пальцаміператасоўвала крэдыткі, давала рэшту. Даўно ўжо і з паўдня звярнула, і абед прайшоў, а ў яе была яшчэ палавіна бітона. І тут яна зусім расхвалявалася: як жа будзе? І шаферу сказала,

каб не заязджаў, і мёд не прадала, і ў юрыдычную кансультацыю позніцца... Папытала ў загладухі, колькі часу, і жахнулася: чацвёртая гадзіна! «А ў пяць недзе юрысты работу канчаюць — гэта ж не ў сяле, што да цёмнага...» Аляксане зрабілася душна, ажно сарочка прыліпла да спіны.

Спехам сабралася, здала вагі, суседкі, дзякуй ім, памаглі ўбавіць бітон у мяшок (хутчэй наадварот — насунуць мяшок на бітон, бо мёду было як падняць), паддалі на плечы. Сумку на руку — пайграла.

Ценжару яшчэ хапала — пуды два, левую руку адцягвала сумка, і Аляксана ішла ўгнуўшыся, як на гару, з-за плячэй валіла пара. Але ішла ўпарта, пакуль не дашкрэблася да цэнтральнай вуліцы. І толькі там пачала распытваць, як дабрацца да юрыдычнай кансультацыі, да суда.

— Пройдзеце во гэтак да базара,— паказалі ёй туды, адкуль толькі што прыйшла,— а потым управа метраў сто.

— Дык ён не на тым месцы, дзе быў згарэў?! А ліха ж на мяне...— ускінула на плечы мех, пацяглася назад.

Знайшла белы двухпавярховы домік — працуюць яшчэ, да шасці будуць прымаць! Узрадавалася нейманерна, аслаблі рукі, мяшок з бітонам бабухнуў на падлогу, ледзь не абчасаў пяты.

Прыняла яе дзяжурная юрыстка ў строгім касцюме з белаю палойкаю валасоў на галаве, нібы ў Індзіры Гандзі. Гэтая белая пасма надавала жанчыне строгасць і незвычайнасць і ў той жа час рабіла больш свойскаю. «Няшчасніца, відаць... І яна ўхапіла гора пад завязку»,— рашыла Аляксана. Расказала ёй усё шчыра і чыста, як на споведзі ў добрага папа, пажалілася, у які нерат трапіла. Хораша слухала юрыстка і ў кнігі тоўстыя заглядвала. Не простая ж справа! І парашыла так: трэба Аляксандры Піліпаўне пісаць запытанне ў Маскву, у Адраснае ўпраўленне Міністэрства ўнутраных спраў. Калі жывы чалавек, значыць, у яго ёсць нейкі адрас. Калі ж прыйдзе паперка, што такі нідзе не значыцца, то гэта і будзе юрыдычным дакументам для суда аб прызнанні чалавека адсутным без вестак. А тады ўжо запоўніць з Сухавеем І. І. заяву на рэгістрацыю шлюбу.

— А калі акажацца той бягун жывы?

— Падасце заяву ў раённы суд на скасаванне з ім шлюбу.

— Міленькая, а як жа скасуеш тое, пра што і дакументаў ніякіх не захавалася? Ды ў мяне ж і пашпарту няма.

— Тады трэба, каб людзі засведчылі, што быў той, першы шлюб, даваенны.

— Рабіць спачатку паперкі, што быў шлюб, а тады дабівацца, каб таго шлюбу не было, а тады рыхтаваць паперкі на новы шлюб.

— Нічога не паробіш. Затое ўсё будзе законна.

— Міленькая, то мо вы адразу мне пакажаце... ці паможаце напісаць заяву... у тое ўпраўленне? А я ўжо вам аддзячу.

— Паможам. Ідзіце ў прыёмную, аплаціце паслугі.

Калі ўрэшце ўсё было зроблена, папера-запытанне напісана і заканвертавана, Аляксана зноў вярнулася ў прыёмную, дзе стаялі ў кутку яе мяшок і сумка (крычала сакратарка спачатку, каб выкінула свае торбы ў калідор, а потым змірылася). Знайшла яшчэ адзін чысты слоік і доўга кешкалася, напакоўваючы яго мёдам. Духмяны, зварушлівы пах расцёкся па ўсім доме, і пакуль Аляксана напакоўвала слоік, нейкія жанчыны і мужчыны заглядвалі ў дзверы, знарок гучна шмыгалі насамі, зацяжліва ўдыхалі паветра і адпускалі да сакратаркі жарцікі. А тая і чырванела, і бялела, зноў было напусцілася на Аляксану: «Цётка, вы скора выберацеся адсюль? Развялі базар...» Але Аляксана нават не адказвала на яе наскокі, а рабіла сваю справу. Нарэшце панесла слоік жанчыне з белаю палойкаю валасоў.

— Гасцінчыку вам...— паставіла мёд на стол, проста на паперы.— Вельмі ж добры, чыстае лякарства... Ліпавы... Я вам столькі тут галаву дурыла...—І зразу адчула, што зрабіла нешта не тое, пачала адступаць пад парог.

Божухна, як счырванела тая юрыстка! Ледзь кроў не пырскала са шчок... І нібы знямела, усё мыляла губамі, кідала вачыма то на новага наведвальніка — тоўстага дзядзьку з рэдзенька зачасанымі валасамі, то на яе.

— Вы што?.. Да вы што?! — урэшце адцягнула голас.— Да як вам не стыдна, гражданка! — Схапіла

той слоік, падняўшы разам з прыклеенымі паперамі, пачала соўгаць назад у рукі Аляксане, адрываць ад споду паперкі і ўклеілася сама. А той лысы дзядзька ўхмыляўся Аляксане і круціў пальцам каля сваёй скроні:

— Звар'яцела, дзеравеншчына? Вас жа судзіць могуць за ўзятку! Я ў сведкі пайду! — шыпеў ёй, як кот.

— Ды я ж нічога такога... Я ад душы... — Аляксана адштурхоўвала слоік, таракалася з юрысткаю.— Гасцінчык невялікі... На лякарства. Хіба я дурная, каб узятку даваць?

На іхнія ўзбуджаныя галасы заглянула з прыёмнай сакратарка і зразу пацягла Аляксану за рукаў:

— Цётка, выйдзіце вон! Я міліцыю пазаву — выйдзіце!

Але, мабыць, такое непаразуменне і разгубленасць былі на Аляксаніным твары, што юрыстка сказала:

— Урэшце, калі так, я і купіць у вас магу... На лякарства... Колькі за паўлітру?

— Чатыры рублі,— неяк само сабою вырвалася ў Аляксаны.— Тут семсот грамаў, я так прадавала... Я не хачу ніякага фальшу ці абману.

Юрыстка паставіла слоік на акно, там жа ўзяла карычневую, паўмесяцам, зморшчаную сумачку, дастала грошы і сунула Аляксане ў рукі. І яна неяк механічна ўзяла тыя грошы, хоць, мабыць, і не трэба было браць. Ды вядома ж не трэба, гэта ж гасцінец, як людзі не разумеюць! Але ішла да дзвярэй і ўсё азіралася, кланялася і дзякавала:

— То шчасліва вам!.. То ешчэ на здароўе!..

У прыёмнай яна намерылася ўжо закінуць сваю цяжкую ношку за плечы, як сакратарка сказала (паспела прымчацца на сваё месца, за машынку):

— А ў вас больш няма чыстага слоіка?

— Няма, галубка, усе раздала. Я з самага ранку на базары.

— Пачакайце, я зараз! — вырвала са слоіка на стале букет вяргіняў, загарнула мокрыя сцяблы ў паперу і паклала на акно. Сама хутка пацокала абцасамі недзе ў калідор — ці не мыць посуд?

Потым, калі сакратарка вярнулася, Аляксана прымусіла яе выцерці слоік насуха, каб ад макраты мёд не забрадзіў. І пакуль накладвала, каля іх выстраілася чарга жанчын і мужчын, у руках трымалі, што дзе

хто мог запарваць. «Во якая хітрасць, а мы і не ведалі»,— праціралі і яны чыстымі паперкамі посуд.

Аляксана разагрэлася, працуючы, ссунула на шыю хустку.

— Шэсць рублёў кілё... Хай бог вас здаровіць... Чыстае лякарства,— усё паўтарала яна.— У літровы слоік кіло чатырыста, з беражкамі — кіло пяцьсот лезе. Як з вас — восем рублёў! Я не даражуся... А мёд без фальшу. Мой Ясь кажа: «Судзіць трэба тых, хто пчол ашуквае цукрам і людзей ашуквае». А паспрабуйце дагледзьце пчол, каб нанасілі якую крыху... Уга! Гэта ж не даўней, што раздолле пчолам. Цяпер самалёты як пусцяць хмару хіміі, дык і жаваранкі сыплюцца, і зайцы перакульваюцца... Бегае, бегае ўкосікі, круціцца вакол сябе — кулець!.. А вам у трохлітровы? І цэленькі напакоўваць?! Дваццаць пяць рублёў будзе... Калі ласка! На здароўечка!

...Дадому яна везла пусты бітон. І везла надзею, што ўсё ў яе складзецца як найлепш.

## Раздзел дзесяты

Здарылася так, што ў той самы дзень, як рабіла свой клапатлівы вояж у раённую сталіцу Аляксана, пабываў там і Рыгор. Толькі ў судзе, а не ў юрыдычнай кансультацыі. Насіў заяву на развод з Маняю. Сакратарка доўга паўтарала сама сабе: «Сухавей, Сухавей... Сухавей з Дубровы... Чакайце! — перакінула на стале стус папяровых папак, адну ўзяла, разгарнула.— А-а, вось яна, таксама з Дубровы. Таксама Сухавей, Марыя Міхайлаўна, ісцец. Атветчык Сухавей Рыгор Іванавіч... Вы і ёсць Рыгор Іванавіч? І таксама прынеслі заяву на развод? Сустрэчны, значыць, іск... Ну, суд вызначыць, з каго колькі браць грошай. Ай-яй-яй, павар'яцелі людзі — чацвёра дзяцей, і разводзяцца!»

— А гэта ўжо не ваша дзела! — агрызнуўся Рыгор.— Ваша дзела прыняць заяву.

— Памыляецеся, Рыгор Іванавіч. Калі вы зварочваецеся да нас, значыць, гэта ўжо і наша дзела, дзела ўсёй абшчэсцвеннасці. Захаваць здаровую савецкую сям'ю — гэта...

— Дык гэта — калі здаровая.

— Справа будзе слухацца ў кастрычніку, у сераду, дванаццатага дня. У адзінаццаць гадзін, позву вам прышлюць.

— А чаго... так доўга чакаць? — Рыгор сціснуў зубы, яго ўжо разбірала злосць на гэтых чыноўнікаў і канцылярыстаў.

— Якое ж доўга? Суд можа і тры месяцы даць на роздум. А раптам вы памірыцеся за гэты час? Былі выпадкі, што прыбягалі забіраць заявы, прасілі прабачэння. І мы спынялі дзела праізводствам.

Рыгор крута павярнуўся да выхаду.

Трэба зайсці яшчэ ў дзіцячы магазін, ён непадалёку ад Дома Саветаў. «Гаворыць, што я кепскі бацька? Памыляюцца... Для дзяцей мне нічога не шкада. Ваню і Алене школьную форму куплю, Тані — касцюмчык цёплы... А мо і яшчэ што на вочы трапіцца».

У магазіне доўга стаяў каля вешал са школьнымі карычневымі сукенкамі. Які памер браць Алене? От яшчэ загваздка... Ён ніколі не цікавіўся, якія памеры адзення ў яго дзяцей. «Ваню летась куплялі, паходзіць і другую зіму... На трэцюю то будзе малы ці падзярэ, от тады і купім. А вось Алене — трэба. Цыбатая стала, сукенка ўкароцела...»

Прыйшла на дапамогу прадавец:

— Калі ласка, які вам памер патрэбны?

— Каб жа я помніў... Во! Во на такую... Дзевачка, падыдзі сюды... і мамку сваю вядзі... Сімпатычная такая мамаша... Колькі вашай дачушцы? Дзесяць? Ого, маёй толькі дзевяты пайшоў, але такая ж па росту будзе.

— Трыццаць другі, трэці рост,— тут жа вызначыла прадавец.— А фартушкі не трэба — чорны і белы? Манжэцікі, каўнерык з карункамі?

— Загарніце! Як — не трэба? Каб поўны блеск!

Прадавец выпісала чэк-квіток.

— У касу. Там і загорнуць вам.

— Яшчэ во гэты касцюмчык, для дзевачкі на тры гады,— і зняў разам з вешалкаю вязаны ружовы у блакітныя пеўнікі на перадзе кофтачкі касцюмчык.

А ў хлапчукоўскім аддзеле адразу «пазычыў» у нейкай мамы «падхадзяшчага» хлопца, падвёў да прадаўца.

— Во на такога падшывальца — ёсць касцюмчыкі джынсавыя?

З двума пакункамі ў левай руцэ, задаволены сабою і сваёй шчодрасцю, Рыгор выйшаў з магазіна. Павярнуў ужо направа, на аўтобусны прыпынак, каб ехаць на аўтавакзал, і тут яму прыйшла ў галаў яшчэ адна добрая думка: «А чаму б і Вольцы якое плацце ці кофту не купіць? Я ж ёй яшчэ нічога ніколі... Мо паласкавела б... Вунь і універмаг блізка...»

Зноў і зноў успаміналася той дзень, яе страшны ад гора і болю, ачужэлы твар, тое, як кідала яму ў вочы: «Я ненавіджу цябе! Не-на-ві-джу!» Нібы сцёбала наводмаш гэтымі словамі, нібы аблівала памыямі. І гэты раптоўны выбух нянавісці быў незразумелы, палохаў — аж да разгубленасці. Але не змяў, не раздушыў. Рыгор тут жа зрабіў скідку на абставіны, у якіх было ўсё сказана, на тое, што нарабілася пад час іх мілосці. «А як бы сам я на яе месцы... каб такое звалілася? Тут не то што... нават больш таго...» Але ж гора і мірыць, у горы людзі збліжаюцца, даруюць адно аднаму, калі што і было. А Волька зацялася, счарнела ў твары, у дзень пахавання мо і не заўважала яго, хоць ён і труну памагаў выносіць на машыну, і на новых могілках ухапіўся за вяроўку падтрымаць, калі здалося, што труна перакасілася, няроўна апускаецца на дно магілы. Не засыпаў толькі магілы рыдлёўкаю, а кінуў у яму тры жмені пяску і адышоў убок. Агледзеў Валодзеву магілу, маракову, і яшчэ свежы курганок — Патапа Янушкі. «Калі ж гэта... яго... Мо як я ў Гардзея быў?..» Апанаса пахавалі трохі зводдалек, бо Патапава магіла была загароджана калкамі з нацягнутай аборкай — прыхапілі месца і для Патапавай жонкі Амілі.

Не паклікала Волька Рыгора і на памінкі па бацьку, яе, захінутую ў чорную хустку, вадзіла пад руку Жухалава, а пахавальным абрада́м распараджаліся і камандавалі баба Аўдотка і стрыечная Вольчына сястра Зоня, якая прыехала на той час са Старыч.

«А мо цяпер можна ўжо зайсці? Тры дні прайшло...»

Спыніўся, каб агледзецца, перайсці вуліцу — універмаг быў на другім баку. І ўбачыў, як з сярэдзіны вуліцы проста на яго ламануў «уазік». Скокнуў Рыгор убок, а тут і машына крутнула зноў на вуліцу, каб не збіць яго, віскнула тармазамі. Убачыў — праз пярэдняе шкло скаліць зубы Пеця Скакун.

— Ліхачыш?! — паказаў яму кулак.

Адкінуліся дзверцы, высунуў галаву Дзеньдобры.

— Ры-гор Іва-на-віч, ка-лі да-до-му — пад-кі-ну!

— Ды яно...— хацеў сказаць, што трэба было б зайсці ва універмаг. Дый увогуле не хацелася сустракацца са старшынёй, надакучылі ўпічкі і папрокі. Але падышоў да машыны: «Другім разам Вольцы што куплю... Мо не захоча яшчэ мяне і бачыць...»

Дзеньдобры вылез з машыны, адчыніў заднія дзверцы і рукою паказаў, нібы якому панку: «Залазь...» Сам засунуўся на задняе сядзенне следам за Рыгорам. Пеця азірнуўся назад і не то заскаліў вока, не то хацеў шматзначна падміргнуць Рыгору. Але Рыгор лапнуў яго за цемя пяцярнёй і круць!— адвярнуў галаву на месца, каб глядзеў уперад, ведаў сваю справу.

— На кавёр выклікалі...— паскардзіўся, уздыхнуўшы, Іван Кузьміч.— Глядзі — не валіць з-за плячэй пара?

Рыгор усур'ёз глянуў яму за плечы.

— Не-а.

— Валіла,— ужо цвярдзей сказаў старшыня.— Каб ты толькі бачыў — як... Толькі венічка і не хапала. Адстаем... Патрабавалі двухзменнай работы камбайнаў. А як мы арганізуем дзве змены, калі на адну ледзь наскрэблі механізатараў?.. І дажджы як не кожны дзень... А каторыя і ёсць, дык на работу не ходзяць.

— Прытармазі,— паклаў Рыгор далонь на плячо Скакуну. Але Пеця, наадварот, прыбавіў газу, а Іван Кузьміч прасунуў руку пад Рыгораў локаць, нібы збіраўся прайсціся з ім «пад ручку».

— А некаторыя механізатары ігнаруюць і жніво, і калгас, і мяне як старшыню,— гаварыў з прыціскам Дзеньдобры.— Ездзяць калі і куды ім захочацца... Добра, што хоць трактар не кідаюць у баразне, а прыганяюць на машынны двор. І сумлення ў некаторых механізатараў не дашукаешся. Яны думаюць, што ўсё гэта — і калгас, і ўборка — мне толькі трэба, старшыні. Уласныя балячкі ім увесь свет засланілі.

— Сташэвіч гаворыць: жыць у обшчастве і быць свабодным ад обшчаства нельзя,— голасна, але не адварочваючыся, сказаў Пеця, а Рыгор — тоўх яму ў патыліцу, ажно машына вільнула ўбок. «Го-хо!» — рагатнуў Пеця, уціснуў галаву ў плечы.

— Рыгор, мы разумеем тваё становішча. Але ж і ты нас зразумей... Мы не хацелі цябе скрыўдзіць, калі Русаку камбайн прапанавалі. Баяліся, каб не прастойвала такая машына... І правільна зрабілі: ты ж бач як — то туды, то сюды. А жыта, ячмень чакаць не будуць, і пшаніца гатовая ўжо, і авёс.

— Вам заяву трэба падаваць ці так абыдзецца? У Навасёлкі пераязджаю.

— Ку-ды-ы?! У якія На-ва-сёл-кі?

— Дзе Гардзей наш...

— Ты што — насур'ёз? Што там — мёдам намазана ці трактары лепшыя?

— Намазана. Даўно трэба было нам раз'ехацца, не смяшыць людзей.

— Тэ-эк-с... Ну, то што... Дык і тут жа можна раз'ехацца! Дамо матэр'ялу, цэглы, пазыку — будуйцеся з Волькаю, пляц добры выдзелім. Чаго не бывае на вяку...

— Не. Рашано.

— А дзе ты там будзеш жыць?

— Гэта ўжо не ваш клопат.

— З табою не разгаворышся. Твой дзед, кажуць, да пятнаццаці гадоў зусім не гаварыў. Нямко — усе прызналі. Паехалі з бацькам у лес. Пілуюць — маўчаць, сякуць — маўчаць. Толькі, як сасна ляцела на бацьку, гукнуў: «Адскоч — бо гакне!» Адскочыў бацька і заплакаў з радасці, што сын загаварыў. «А чаму ж дасюль маўчаў?» — пытае. «А не было прычыны гаварыць»,— кажа.

Пеця Скакун ахвотна рагатнуў, хоць ужо не раз чуў гэтую байку. А Рыгор прамаўчаў, нібы яго і не тычылася.

Далей ехалі, не знаходзячы, пра што гаварыць, толькі Дзеньдобры раз-пораз працягла і цяжка ўздыхаў. Кожны думаў пра сваё.

Пад'язджаючы да Дубровы, старшыня ціха кінуў Скакуну: «Дадому...» Але, на здзіўленне Рыгору, машына не паехала да дома, дзе кватараваў Дзеньдобры, а... спынілася каля крайняй хаты-мазанкі, выбеленай на ўкраінскі лад, дзе жыла Жухалава.

— Ведаеш, Грыша? Зойдзем да мяне, пасядзім, пагаворым, як людзі... Галоўнае — не гарачыцца, каб дроў не наламаць.— Старшыня вылез першы і зазваніў ключамі, перабіраючы іх у адной руцэ.

— Не! — Рыгор вылез следам, перавёў некалькі разоў позірк з хаты на старшыню і зноў на хату.— Дзякую...— і пайшоў у вуліцу.

— Вы-ходзь заўт-ра на ра-бо-ту без уся-кіх фо-ку-саў! — крыкнуў услед, не стрымаўся старшыня.— Пакуль не скон-чыц-ца ўбор-ка — нія-кіх фо-ку-саў! — паўтарыў яшчэ раз і зазваніў ключамі зноў.

Ішоў Рыгор, то паскараючы крок, то замаруджваючы.

«От яно што... Ай да старшыня!.. Перабраўся да Жухалавай?! А як жа тая сям'я, што ў горадзе? Няўжо і ён развёўся? Павар'яцелі старыя... А з мяне нечага патрабуюць... Дык мне ж і бог вялеў!»

«А як жа райком глядзіць на яго фокусы? Ён жа парційны... і пост які займае... А мо не ведае райком? А мо і тая жонка не ведае... Адна там, а другая тут... А мо і ведае, але змірылася, нікуды не скардзіцца, як Маня... Ці ўсё-такі развяліся?»

2 Даўно ўжо трэба было адсадзіць труску ад труса. «Кавалер» не даваў ёй спакою, ганяў і ганяў па клетцы.

Неяк надумала (яшчэ бацька жывы быў), улавіла труску за вушы, прынесла ў хату, упусціла ў падпечак і зашчапіла дзверцы. Хай адна пажыве, пакуль атрусіцца. Штодзень не забывала пакласці ёй моркаўкі, хлебных скарынак, канюшыны. А раз выпусціла пабегаць па хаце і здзівілася: труска знайшла пад сталом костачку і пачала абгрызаць, як кот. Скакала ўжо труска цяжка, чэрава ледзь па зямлі не шмаравала. Яшчэ раз назаўтра адчыніла дзверцы падпечка, паклікала — «Трусь, трусь, трусь!». Але труска не выбегла, і Волька ўзяла запалкі, стала на калені, зазірнула ў густы прыцемак. Пачула пах усохлага курынага памёту, пах свежанагрэбенай зямлі. Запаліла запалку — і нікога ў падпечку не знайшла. Толькі ля парога ўбачыла земляны капец, пад парог і далей пад падлогу вяла нара. Зноў паклікала труску, нават пальцамі аб парог пастукала, і пачула шолах: з-пад парога паказалася серабрыста-шэрая галава з ружаватымі вушамі, павярнулася мордачкай да Волькі, губы з вусамі смешна заторгаліся. «Ну чаго табе?» — нібы спыталі цёмныя рахманыя вочкі. «Ах ты, дуралеіха...» —

выцягнула яе за вушы — ацяжэлую, нават нагамі не можа дрыгаць. Пакуль пераносіла ў прыпол, заўважыла, што труска выскубла сабе ледзь не ўсю поўсць з жывата, ружова прасвечваюць набраклыя цыцкі. «Гнядзечка робіш, рыхтуешся? — гладзіла яе, як кошку, прапускала між пальцаў вушы.— А хто цябе вучыў усяму гэтаму?»

Труска ў той дзень зусім трошкі з'ела і тут жа схавалася ў нару.

За дзень да Рыгоравага візіту і смерці бацькі труска зусім знікла, не вылазіла, як Волька яе ні клікала. З'явілася толькі позна ўвечары: Волька прыгледзела, як труска старанна загрэбла ход у нару, зараўнавала і нават лапамі пагэпала, папляскала, каб і знаку ніякага не было. Выскачыла на хату станчэлая, ускамлычаная. «Атрусілася? А што ж ты нарабіла, дурніца, яны ж задыхнуцца там!» — хацела ўжо адкопваць нару, ды ўбачыла, што труска злізвае з падлогі кроплі вады. Наліла ёй у сподачак казінага малака і з замілаваннем глядзела, як яна смакуе яго. Папіла, пагрызла хлеба — і зноў у падпечак. І зноў укленчыла Волька збоку, цікавала, што тая будзе рабіць. А труска паскакала трохі паўз сцены падпечка, прынюхваючыся, даскакала да парога і хутка-хутка запрацавала пярэднімі лапамі. Хвіліна, другая — і яна схавалася ў нары, толькі хвосцік мільгнуў.

«От жа стварэнне... Гэта ж трэба прыдумаць такое! І хто яе навучыў так хаваць дзетак, маскіравацца?»

Устала з каленяў і села на маленькі заслончык, доўга, амаль няўцямна глядзела на цёмны чатырохкутнік лаза.

«Так хавацца... так маскіравацца...»

Волька ўгнула галаву, косячы вачыма, агледзела сябе з бакоў і спераду, нават рукамі абмацала, нібы хочучы сасцігнуць сябе пасярэдзіне. Ці значыць яна ўжо? Мо людзям лепш збоку відаць?

«Госпадзі, госпадзі, што цяпер рабіць? Як жыць? — прашаптала яна, і быў гэты шэпт у пустой дазвання хаце (нават кот збег недзе ў сяло) гучным і роспачным.— Татачка, парадначак... нашто ж ты мяне пакінуў — адну на ўвесь свет?! Пакрыўдзіла я цябе, не паслухалася... Але ж і ты мяне пакрыўдзіў... Хай бы ж ты больш палаяў мяне, паўшчуваў. А ты... Нашто ж было так крыўдзіць? Засердзіўся... пайшоў... З кім мне

цяпер словам перамовіцца, да каго абазвацца?! — шчымелі вочы, слёзы капалі на прыпол.— Як мне цяпер жыць? З кім — жыць? У якое балота-пекла скокнуць?»

«Мо ў бальніцу схадзіць... пакуль не позна... У Слуцак... Ці да Аўдоткі... Не, Аўдотка зроду такімі справамі не займалася...»

Пэнкаюць, ажно звон у вушах, яе жыццёвыя ніці.

«А мо каб якога зелля, якога чэмеру напіцца... каб вытруціць... Каб і самой заадно... Парашкоў якіх сонных накаўтацца... Каб лёг і не прачнуўся... Апошнюю нітачку абарваць...»

А я жыву ў божай кары,
Што не даў жа мне бог пары.
А пайду ж я, разыдуся,
Аб бел камень разаб'юся...

«Труска... Так хавае, так маскіруецца... Беражэ дзетак... А я?!»

Трэба ўставаць, нешта рабіць... А што? Рукі не падняць — такая слабасць у целе... І нудзіць, падкочвае пад грудзі. Чым жа гэтак цягне з падпечка? А-а, куры там некалі зімою былі... Разварушыла труска бегаючы. «А раней жа не чула... А мо і чула, але не так зважала...»

Устала, паплялася з хаты на чыстае паветра.

А на двары таксама няма чаго рабіць. Падсвінка закалолі на памінкі. Каза толькі недзе прыпятая, куры ды трусы.

Сыпнула курам пшаніцы. Укінула, скубнуўшы каля плота лебяды, трусам. Пайшла з двара — як там каза? Мо закруцілася вяроўка, стаіць і мегегекае, як дурная...

Толькі перасталі засціць прысады — убачыла: шуруе на веласіпедзе, аж гай шуміць, Жухалава, здалёк махае рукою. Волька вярнулася ў двор, перайшла яго, старанна адчыняючы і зачыняючы адны і другія вароты, стала перад хатаю.

— Прывет! — Жухалава прытармазіла, нахіліла веласіпед набок («Чый жа гэта яна падхапіла — мужчынскі?»), знімаючы нагу, учапілася туфлем за сядло, мацюгнулася, як мужык.— Канструктары, ядры іх... Архаічнасць мыслення. Чаму гэта мужчынам, як садзіцца на веласіпед, абавязкова трэба задзіраць нагу? Хіба нельга так выгнуць раму, як у жаночым? — падала Вольцы вялікую загрубелую далонь і бязлітасна

трасянула за руку. Штурхнула веласіпед пад плот, яшчэ і нагою яму паддала.

Волька нічога не гаварыла, чакала, што яшчэ скажа Жухалава.

— Садзіся, дзеўка, пагамонім...— Тацяна Іосіфаўна ўзяла яе за плечы, павяла да лавачкі пад плотам агародчыка.— У-у, якое ў цябе хараство тут! І колькі ўжо сартоў?

— Трыццаць два...

— І я люблю вяргіні, але няма калі займацца,— і без усякага пераходу сказала: — Хопіць табе хадзіць як зачумленай... — першая села на лаўку.— Ва ўсіх бывае такое, усе цераз гэта праходзяць. Я дык даўно ўжо і бацьку, і матку пахавала — там яшчэ, на Украіне. І нічога, жыву... Трэба жыць, а куды дзенешся! А думаеш, лёгка мне было з двума сынамі? Мужык другую сям'ю завёў... А ўсё як сон успамінаецца... І сыны параслі, у старэйшага ўжо свая сям'я. Да сябе кліча... А чаго мне, заатэхніку, у горад ехаць? Што там рабіць?

— А як у Беларусі апынуліся?

— Доўга расказваць. А калі коратка... Мой жа там застаўся, у нашым раёне... Як начальнік прыязджаў ужо, указанні даваў... Не захацела з ім сустракацца, з'ехала куды вочы глядзяць... Ну — а ты як?

— А-а...— Волька квола махнула рукой.

— На пахаванні я нічога не гаварыла — не да таго было. Я ж трымаю табе месца свінаркі! Трэба, дзеўка, упрагацца ў работу, хутчэй усё забудзецца. Жыць жа трэба!

— Калі ж няма жыцця... І жыць не хочацца...

— Рыгор што — не заглядвае?

— Пасварыліся мы. Прагнала я... Хай гадуе дзяцей.

— Каб жа гадаваў... Ён жа кідае Дуброву! Казаў Івану Кузьмічу — да Гардзея ў Навасёлкі едзе. І што суд скора будзе, развод...

Волька прамаўчала, але горнасць зноў ахапіла душу — угнулася, схавала твар у далоні.

— Ну во, паехала...— Жухалава абняла яе цяжкаю рукою.— От, сукін кот! І з Маняю, з дзецьмі не хоча, і на цябе махнуў рукою. А таго не ведае, што ад сябе не ўцячэш, ад свайго дурнога характару.

Зусім расплакалася Волька.

— Не махнуў ён... Гэта я з ім так... Ой, Тацяна Іосіфаўна, вы ж нічога не ведаеце...— гаварыла, а смеласці адняць далоні ад твару, глянуць у вочы Жухалавай не хапала.— У мяне ж дзіця будзе... Рыгорава...

Жухалава працягла свіснула.

— Оцю-цю-цю... Лышэнько мэні!

— Можа, вы мне паможаце... Каб як у бальніцу... Цётачка, міленькая! Век буду дзякаваць!

Жухалава аберуч сцепанула яе за плечы, ажно галава ў Волькі целяпнулася.

— Да ты што?! Зусім з глузду з'ехала? Ты ж потым не дзякаваць будзеш, а праклінаць увесь век! Каб такою дуратою больш галавы не забівала. Як мага беражы дзіця! Радавацца трэба, што не адна будзеш, што яшчэ родны галасок у хаце зашчабеча... Што ж тут за сакрэт, што за дзіва? Вы жылі разам? Жылі!.. Усе гэта ведаюць... Ды ён жа разводзіцца! Так што скора ўсё выкіруецца... на дарогу. Не-не, дзеўка, наварылі кашы — не шкадуйце масла. Трэба ладзіць новае жыццё...

— Дзеці ж у яго. Чацвёра дзяцей!

— Нічога не паробіш... Будзе аддаваць палавіну заработку на іх — выгадуюцца.

— Хай бы і ўсе грошы аддаваў. Мы б на адну маю зарплату пражылі.

— Дзіва што пражывяце. Ведаеш, колькі свінаркі зарабляюць? Па дзвесце рублёў! А некаторыя і па дзвесце пяцьдзесят... Мільянеры!

— Вы так гаворыце, усядно як я ўжо згадзілася ў свінаркі... Я йшчэ падумаю.

— Думай, ды не вельмі доўга. Табе ж трэба будзе і ў дэкрэт ісці. Грошы вунь як прыгадзяцца!

— Не ведаю...

— У нас жа, мабыць, свінагадоўчы комплекс будуць будаваць. Яшчэ канчаткова не вырашана, у нас ці ў Хітруна. Але будуць! Ведаеш, як лёгка будзе свінаркам? Амаль поўная механізацыя!

— Нічога не ведаю! Мне жыць не хочацца...

— А мне хочацца садраць табе спадніцу ды ўсыпаць добра якім канчуком... Вунь Аляксана — і то згадзілася папрацаваць падменнаю даяркаю. На два месяцы, праўда, спачатку. Але думаю, што ўламаю і на больш, нідзе не дзенецца... Кузьміч усе кадравыя пытанні цераз мяне рашае... Ага, а ты чула? Канцэрт

сёння бабкі ў клубе даюць. Клубніца хацела іх у поле выцягнуць, а яны не згадзіліся... Так што і аб'явы ўжо на слупах, і ўсё такое.

— Хай спяваюць, каму спяваецца.

— Шасціны па бацьку будзеш рабіць?

— Ну... Як усе людзі.

— У Слуцак не прыся. Скажу Кузьмічу, выпішам мяса з фермы.

— Восіпаўна, гэта праўда... ну — што вы з Іванам Кузьмічом сышліся?

— Праўда, Воля... Пашкадавала яго — як непрыкаяны. Тая жонка не хацела ж горад кідаць... Ну, а нам што? Мы ж ніякай шкоды нікому не робім, дзяцей сваіх пагадавалі ўжо. Пенсіянеры і то сходзяцца... У пенсіянераў жыццё замаруджанае, як у запаволеным кіно... Цягнуць катрынку, страпянуцца баяцца, каб хаця, не дай бог, чаго не здарылася, не капутнуць. А гэта не па мне... Я на пенсію не пайду. Мне каб жыць і працаваць на поўную катушку. Я калі і кульнуся, то бегучы на ферму...

Слухала яе Волька і адчувала, што, здаецца, крыху лягчэй зрабілася дыхаць, не такі цяжкі ўжо звон увушшу, нічога не пэнкае. Але ў грудзях яшчэ ціснула і ціснула.

— Вады не дасі? Вада, кажуць, у вас крынічная.

— Хадземце...

— А мо і крапчэйшага чаго возьмем? Пасядзім, пагамонім па-бабску — дзе наша не прападала!

— Хадземце...— кволая ўсмешка затрымцела на Вольчыных вуснах.

## 3

Федзя адразу пасля канцэрта бабак паехаў у сваю школу збірацца на жнівеньскую нараду настаўнікаў. Іван з дзяўчатамі — у Мінск. З бабкамі развіталіся, як з роднымі,— аж да слязы.

Ансамбль бабак і іх канцэрт усё абгаворваліся і перажываліся Дуброваю. Ліля Пахілька хадзіла гераіняю, усю славу прымала на свой кошт. Вядома, і яе доля працы ў канцэрце была, яны зрабілі з баяністам усю другую частку канцэрта — выступалі са сваёю праграмаю старшакласнікі. Але ж каб аб'явілі толькі адно выступленне школьнікаў, то мала хто і прыйшоў бы ў клуб. Людзям, нарабіўшыся за дзень,

хацелася адпачыць, дый былі ўжо школьніцкія канцэрты зімою. Але ж бабкі, бабкі! Яны і расчулілі песнямі, яны і насмяшылі танцам «Гусачок» (вёў радочак рахманых «гусак» сам Федзя, усе бабкі тупацелі ў лапціках, і ён быў у лапцях — гэтакі ганарысты, не гусак, а індык). А танец успомніла і паказала, як after ісці ў ім, Аўдотка. Гэты нумар зляпіўся ў самы апошні момант і ледзь быў не сарваўся з-за лапцей: нідзе іх не маглі дастаць, і давялося ўпрошваць Дзям'яна Пахвалёнага, каб схадзіў у лазу, надраў лыка і сплёў.

Як калаціліся бабкі перад пачаткам спявання, як няўмела табуніліся і кланяліся, калі іх глушылі воплескамі! У зале шчасліва ўзраготвалі і цешыліся, калі Дар'я і Аўдотка падыгрывалі танцу, а потым і самі пайшлі-патупацелі ўхваста «гусак». Назаўтра «артысткі» расхварэліся і занемаглі ад пералсытага хвалявання. «У музы́кі хлеб невялікі, а спява́кі маюць ніякі»,— адгаворваліся яны і кляліся, што больш ніколі не будуць выступаць. Але Федзя і студэнты, заходзячы развітвацца, толькі шматзначна і загадкава ўсміхаліся: нічога, нічога, усё будзе добра, пачатак зроблены. І праўда, прайшоў яшчэ дзень-другі, і «канцэртнікі» ўжо сядзелі на лаўках з другімі жанкамі і бабкамі і самі ж абмяркоўвалі свой канцэрт, самі ж першыя рагаталі і прыштукоўвалі.

Пад вечар нядзельнага дня сядзелі ў такім зборышчы і Аляксана з Дар'яй, Аўдотка. Чаго толькі не перагаварылі! Пагадзіліся ўсе, што цяпер «людзі параздурвалі, на сабаку няварты». Толькі і спадзяюцца на механізатараў, а самі баяцца, каб хаця не ўзяць лішняга на пуп. Не паспееш азірнуцца, як скора «прачыстая», а да «прачыстай» трэба, каб на полі было чыста, а да «пакроў» дык, бывала, і бульбу выберуць, і агароды папрыбіраюць. Гаварыла гэта Аўдотка і тут жа вылічвала, на якія дні сёлета прыпадаюць «прачыстая» і «пакровы». Гэтай хітрамудрасці, акрамя яе, ніхто ўжо не мог ні ўспомніць, ні вылічыць.

Урэшце Аляксана знарок голасна пазяхнула і выпрастала над галавою рукі, пацягнулася.

— Пайду ж я заўтра ў кароўнік. Рана ўставаць... Думала, падрамлю трохі перад абедам — праваляласяз гадзіну і не заснула,— устала, ступіла колькі крокаў.— Ясю-ю-ю!!! Пайшлі хіба цяпер... Хопіць табе ганяць тых пчол!

Бабы някрыўдна, але з намёкам рагочуць.

— Ач ты іх... Старыя-старыя, а адно без аднаго не заснуць.

— А Ясь яшчэ можа паганяць пчол. Такі здаравец...

— Ой, ну што вы хоць... Проста я прывыкла ў яго пад пахаю засынаць...— бянтэжыцца Аляксана і чырванее.

— Дык і мы ж пра тое! — крычыць ёй наўздагон Дар'я.

Усміхаецца і Аўдотка, злёгку, як сама сабе, пакіўвае галавою.

Аляксанін голас чуваць ужо са свайго двара — зноў гукае Івана Іванавіча. А на кладцы пад Дар'іным плотам тым часам не змаўкаюць жарты і смех.

Але не прайшло і дзесяці хвілін, як Аляксана зноў выходзіць да баб.

— Вой, суслік гэты... Адразу звіўся... Галубіцца, галубіцца... вочкі маленькія зрабіліся... плюскае вейкамі... Чую — пахропвае ўжо,— здалёк яшчэ гаворыць і ўсміхаецца яна.— А я ляжу, вылупіўшы вочы...

Бабы зноў рагочуць, прыштукоўваюць.

— Хай пасліць,— махае рукою Аляксана, прысебрываецца да жанчын на лаўку.— Яму ж таксама ў ноч ісці.

— Не даюць, кажаш, спакойна на пенсіі пасядзець,— нібы пытае Дар'я.— Ясь — у сушылку, ты — у абору. Зноў пайшло-паехала калясо...

— Не, мы — часова. Я так і Жухалавай гаварыла, і Ясю наказвала: часова! Трэба і калгасу паспагадаць — разэрва цяпер, нявыкрутка.

— Кось-кось, а там у аглоблі,— кідае нехта.

— Даўней і старыя, і малыя працавалі, гарбелі на сваіх палосках. А цяпер да семнаццаці гадоў — у школе, байбусы гэтыя, нявесты, да дваццаці — у арміі, да дваццаці трох — у інстытутах. А хто ж ім усім хлеба наробіць?

Перабіраюць жанкі, хто цяпер вучыцца ці вучыўся, і атрымліваецца, што амаль у кожнай хаце ёсць, часам не па аднаму, а па некалькі. Гаворка пераходзіць на Дар'інага сына, «панімаецельнет». Учора прыехаў на ўласным «Масквічы» — нечакана, нават пісьма перад гэтым не напісаў, тэлеграмы не даў. Ён, «панімаецельнет», інжынер па трактарах, быў год у

Малі, у Афрыцы, памагаў афрыканцам асвойваць мінскія трактары. А з маткаю і тыдня не хоча пабыць, і дзянёчка, во — паехаў аглядаць Салігорск. А заўтра зусім паедзе, бо нібыта канчаецца водпуск, а яшчэ трэба заскочыць па сям'ю пад Віцебск, да жончыных бацькоў.

— Япрука хачу зранку калоць,— нібы паміж іншым абвяшчае Дар'я. І бабы накідваюцца на яе:

— Ты што — блёкату наелася? Хто ж у такую гарачыню коле?

— Нічога, у яго халадзільнік ёсць. Завязе — і зразу ў халадзільнік.

— Пасылку к Новаму году паслала б — і самы раз было б.

— Яшчэ картоплі вадзяныя, не вельмі імі ўкорміш,— гаворыць Аўдотка.

— Чаму? Вобмешкі больш даць, хлеба, можна за паўмесяца падгладзіць.

— Ды не гатоў у цябе яшчэ япрук, я ж бачыла! — гаворыць Аляксана.— Месяц яшчэ карміць трэба.

— А на чорта ён тоўсты. Сала цяпер не вельмі ядзяць, бякон патрабуюць. Вунь калгас толькі бякон і прадае. Я сёння абдымала — яшчэ трошкі, то і пальцы не сходзіліся б...

— Як гэта — абдымала?! — Аляксана крыху адсоўваецца, каб зазірнуць Дар'і ў вочы.

— З кабаном у абдымачкі! Ха-ха-ха...

— Абнакавенна — як... А што — хіба вы так не робіце?

Бабы рагочуць, ажно галовы ўскідваюць. Аўдотка ўстае:

— Хадзем, пакажаш... Бо памру і не ведацьму.

Усе ідуць гуртом у Дар'ін двор, спаласованы слядамі шын «Масквіча». Дар'я правярае, каб хаця добра былі зачынены і адны і другія вароты, і толькі тады адчыняе хлевушок.

— Дзё-дзё-дзё... Спіць, абібочына...— Дар'я заходзіць у хлевушок, чуваць, як пляскае далоняй.— Ну! Ну ж! Завала ты...

Япрук нехаця ўстае, сунецца на святло, сонна плюскае белымі павекамі і незадаволена рохкае. Дошчачку-парог пераступае пярэднімі нагамі паволі, азадак жа

ўскідвае нечакана лёгка. Трух-трух-трух — прабегся па двары, штосьці вынюхаў, стаў ляпаць ротам.

— Як жарабец...— кажа Аляксана.— Яго яшчэ карміць ды карміць. На дваццаць пудоў вырас бы.

— Не — хар-рош! Пудоў дзесяць смела будзе,— гаворыць Аўдотка і падыходзіць да япрука, пачынае мерадь яго маленькімі пядзямі ад вушэй да хваста.

— А я не так мераю... От так...— Дар'я пачухала япрука пад жыватом, зайшла спераду, ад лыча, і раптам нагнулася, легла на япрука, абдымаючы, сашчапіла рукі за пярэднімі лапаткамі, пад грудзьмі.

Япрук спачатку прыслухаўся, ці чухае гаспадыня чэрава. Потым задзёр лыч і вухнуў, цяжка павалюхаўся з Дар'яй на загрыўку.

— Аво-оя-ёй! — залямантавала Дар'я.— Тр-р... Тпру-у! Лавіце яго-о! — а сама яшчэ мацней ашчаперыла кормніка, каб не ўпасці.

— Га-га-га! Ох-ха-ха! — даходзілі бабы.

На сярэдзіне двара япрук змогся, стаў, і Дар'я ссунулася на бок, упала ў мураўку і падарожнік.

— А каб цябе выцягнулі да вывалаклі...— са стогнам, трымаючыся за клуб, устала Дар'я і пачала заганяць япрука ў хлевушок.

4 Звычайна калоць япрукоў звалі Кірэйчыка, Анэлінага бацьку. Той самай Анэлі, у якой малако можа скіснуць, пакуль прыйдзе з поля дадому. Анэля і сама гадавала свіней. Сухія і выпетраныя, што тараньні, яны вечна вішчалі і енчылі, пастаўшы дыбала і выглядваючы ў акенца хлява. То добра, калі раз ці два ў дзень кіне ім якога зелля Анэля, а то і на гэта забудзецца.

А бацька яе слыў добрым спецам. І заколе як бач, і кроў умела спыніць, а потым вычарпае конаўкаю з грудзіны (нават вып'е шклянку крыві і крэкне), і разбярэ-раскладзе куды што — кішкі-вантробы, сала, мяса. А да вайны, як патрабавалі нарыхтоўшчыкі, каб здавалі свіныя шкуры, то ён спрытна і бяліў тушы: ні шкуры не вышчыкне, не ўрэжа, ні сала не прыпусціць. І хоць у саміх Кірэйчыкаў япрукі не ўдаваліся, ён, калі наставаў сезон, увесь снежань быў п'яны і сыты, ды яшчэ дадому наношваў сала і мяса — кожны даваў плату натураю.

Дар'я таксама наказала Кірэйчыку, загадзя — звечара. І ён прыйшоў рана, яшчэ кароў не займалі, са сваім «струмантам» — швайкаю і затычкаю для раны, з паяльнаю лямпаю і нажом. Чакаў на двары, пакуль Дар'я выганіць карову пастуху, пабудзіць сына на падмогу. Стаяць і сумаваць аднаму ў Кірэйчыка не хапала цярпення, і ён то пасвістваў, то пляваў на руку і прыгладжваў рэдкія валасы, то прамываў слінаю вочы — праганяў сон, то падстругваў затычку. І кожны раз, як толькі Дар'я выбягала з хаты на падворак, загаворваў да яе:

— ...Кірылаўна... Вэндзіць нічога не будзеш?

— Ой, калі тое што рабіць... Мікалай заўтра ж едзе. Мо хіба толькі каўбас у комін павешу, апяку.

— ...Кірылаўна!.. Я так прыкідваю: можна проста на дварэ смаліць. Гэта ж не саломаю, не трэба баяцца, што іскра куды заляціць. І траўка ў цябе тут, двор не вытаптаны...

— Ты ўжо сам глядзі, дзе лепш. Разбіраць жа ў хаце будзем.

— Во тут перад дзвярамі і абложым... каб бліжэй цягнуць было. Санечкі ёсць?

— Ёсць, ёсць...

— Я пута свайго не захапіў... У мяне такі добры абрывак раменнай ляйчыны!

— Есь у мяне недзе старыя лейцы, я пашукаю... Вой, у мяне ўжо рукі калоцяцца — так перажываю!

— А чаго там калаціцца... Мы гэта дзела ўміг справорым... з Мікалаем. Толькі ў хату цягнуць, то трэба будзе яшчэ людзей гукнуць.

Выйшаў у спартыўным трыко з белымі лампасамі і ў майцы Дар'ін сын. Спаважна, ведаючы сабе цану, падаў Кірэйчыку руку, дастаў з задняй кішэні трыко вішнёвую, з залатымі літарамі, пацягнутую цэлафанам каробачку цыгарэт.

— Закурвайце, дзядзька...

— Угу, я такіх і ў вочы не бачыў... Не па-нашаму напісана.

— Панімаеце льнет, па-англійску тут. Сусветна вядомая марка «Дунхіл інтэрнэйшнл». Лондан — Парыж — Нью-Йорк...

— У-у, як ты высока, сынок, заляцеў...— Кірэйчык забразгаў сваімі інструментамі, перакладаючы іх у адну руку.— Я яшчэ і на абед адну вазьму...— а вы-

калупіў з каробачкі тры — адну ў рот, другую — за левае вуха, трэцюю — за правае.— Мо і цяпер з якога Парыжа прыджгаў?

— Не, зараз я з Малі. У неграў год быў... Плавіўся! А ў Парыжы я таксама быў. Там такая Эйфелева башня ёсць — тырчыць, як...

— Я й кажу: не той смак у сала стаў, як пачалі лямпай паліць...— Кірэйчык стараецца трымаць цыгарэту як мага далікатней, але загрубелыя пальцы не слухаюцца.— То ж, бывала, высмаліш япручка саломкай, вадзічкаю лінеш — курыцца ўвесь, выскрабеш нажом... Жоўценькі, хар-рошы, пахаціць — смаката! А гэта...— Кірэйчык з пагардаю махае рукою.

— Што вы хочаце — век тэхнікі. А ў Малі свіней мала гадуюць. Там козы больш, авечкі...

Дар'я вынесла з сянец вяроўку.

— Гэта ж трэба кулявая салома, мятаю не асмаліш. А ніхто цяпер кулявое не робіць. Глядзі — гадзіцца?

— Мо гадзіцца, калі лепшае няма. Зараз мы яго за ногу — і прывядзем куды трэба. Дар'я, ты хадзі, чухай, каб прылёг, пакуль я яго...

— Ох, божа мой... Сэрца не на месцы: я так прывыкла да яго.

— «Прывыкла»... Гэта ж табе не карова! — Кірэйчык першы ідзе да хлевушка.— Чутно, што не карміла вечарам — абзываецца.

— Ага... Ні вечарам, ні цяпер — менш апрату будзе.

Мікалай прайшоў быў за імі.

— Ты там стой! — крыкнуў яму Кірэйчык.— На падхваце будзеш. Кульну — а ты за вушы яго падзяржыш, каб не падхопваўся.

Праз якія хвіліны Кірэйчык вывеў япрука. За левую заднюю нагу была запетлена вяроўка, канцы Кірэйчык трымаў у руках, пакручваў перад сабою, як лейцамі.

— Н-но, косю!

А япрука і падахвочваць не трэба было: Дар'я паспела забегчы яму наперад і вынесці вядро з памыямі, пазвоньвала ім, падзывала. Вяроўка япруку не падабалася, і ён на хаду падрыгваў нагою, хацеў вызваліцца. Дабег — і адразу лычом у вядро,— вяроўка аслабла.

— Та-а-ак... Зараз мы яго за слупок...— Кірэйчык прысеў каля плота, пачаў прывязваць канцы вяроўкі.— Усё, Дар'я, можаш хаваць сваё вядро...— хуценька дацмокаў цыгарэту і сплюнуў яе пад ногі. Мікалай таксама часцей зацмокаў, канчаючы курыць. Захваляваўся...

Вядро прынялі з-пад лыча, і япрук задраў галаву, незадаволена рохнуў.

— Вучыся... Будзеш сваіх афрыканцаў вучыць... Ён зараз напне вяроўку, будзе вырывацца. Адна нага падымецца... А мы яго за другую, падножку зробім...— Кірэйчык прысеў, каб ухапіцца за дальшую, правую, нагу і піхнуць япрука грудзьмі ў бок. І не паспеў — ірвануўся япрук з усяе сілы, вяроўка пэнкнула, і дзядзька ўпаў грудзьмі, але на пустое месца. Скокнуў убок Мікалай, даючы дарогу япруку.

— Ах, ядрыт тваю... Хай бы ж за вушы хапаў!

— Вы за нагу не ўхапілі, а хочаце, каб я за вушы ўтрымаў,— агрызнуўся Мікалай.

Япрук дабег да вулічных варот, тыцнуўся ў адзін куток, у другі.

— Гэта ж трэба!.. Не ўзяў свайго рамяня... У мяне добры кавалак ляйчыны...— падышоў Кірэйчык за кабаном, падышоў і Мікалай, абодва папрыгіналіся, расставіўшы рукі і ногі, нібы лавілі курыцу, а не япрука. Япрук раптам вухнуў і кінуўся на іх — з пашчы падала пена. Адскочылі з дарогі.

— Драпежны які...— пакруціў галавою Мікалай.

Кірэйчык падняў з зямлі цыгарэту — выпала з-за аднаго вуха.

— Пайду хіба па свае раменныя...

— Мо зноў яго ў хлевушок? — выступіла з сянец адной нагою і выглянула Дар'я.

Кірэйчык адвязаў ад плота кавалак вяроўкі, памацаваў яе ў руках. Пагнаў япрука ў хлевушок.

— Я, бывала, адзін япрука браў. Любога!.. Кулець — як бач швайка дзе трэба.

Япрук у хлеў не пабег, каля дзвярэй рэзка павярнуўся і як таран памчаў назад, проста на Кірэйчыка. Той даў яму дарогу...

У гэты момант з вулічнымі варотамі параўняўся Іван Іванавіч, ішоў з начное змены, з сушылкі. Адзеты быў у стары шэры картовы касцюм, пад рукою зга́мтараная ватоўка.

— Што — не ўгібаеце гэтага малайца? Цяпер ужо цяжка, калі выпусцілі... Зняверыўся ён...— Сухавей павярнуў да малых варотцаў. Асцярожна адшчапіў, борзда ступіў на двор і тут жа, не азіраючыся, а гледзячы на япрука, зашчапіў за сабою. Кінуў на штыкеціны плота, не бачачы куды, фуфайку...

Япрук апынуўся ў акружэнні, на яго насоўваліся з трох бакоў. Ён цяжка кінуў перад у адзін бок, у другі, заднія капыты на месцы ўзрэзвалі дол. Вобсас рынуўся паміж Мікалаем і Ясем...

— Дзяржы-ы!..— упаў на яго збоку Іван Іванавіч. Падаючы, паспеў схапіць за заднюю нагу мёртвай хваткай, кабан працягнуў яго трохі за сабою.— Дзяржу-у!..— выдыхнуў яшчэ хрыпла.

Кірэйчык, падаючы на кабана і хапаючы за пярэднюю, паспеў заўважыць, які барвовы ў Яся, ажно ўчарнелы твар. А тут і Мікалай прыціснуў каленьмі япрукову галаву...

— Нагу... нагу!.. адцягвай! — паказаў Кірэйчык Мікалаю на пярэднюю нагу, што апынулася зверху, а сам наступіў ботам на ніжнюю і тут жа, недзе з-за спіны, выхапіў швайку...

Япрук завішчаў прарэзліва, хрыпучы і канчаючыся ў смяротным ляманце...

Праз колькі хвілін усё было скончана.

— Усё... Можаце пускаць...— устаў з колінцаў Кірэйчык і адразу памацаў за адным вухам, за другім — ці цэлыя цыгарэты. І тут убачыў, што ў Мікалая чамусьці спалохана адвісла сківаца, выцягнуўся твар. Крутнуўся да Сухавея...

— Іван Іванавіч, ты... што ж ты? Ясь, ты што?! Братачка, што з табою?!

Іван Іванавіч, усё яшчэ трымаючы япрукову нагу, спрабаваў устаць, успіраўся на левую руку, сутаргава падбіраў пад сябе калені. З рота праз кашаль і захліп ручаём хлістала кроў, і твар яго ўвачавідкі бялеў, нібы атухаў, пакрываўся попелам.

Левая рука Яся падламалася, і ён ткнуўся тварам у зямлю...

# Частка трэцяя

## КАЛІНА Ў ЛУЗЕ

*Хор*

— Божа, твая воля... Цяпер Дар'і хоць з сяла сыходзь...

— А чым Дар'я вінавата? Гэта ж і ў мяне магло такога нарабіцца, і ў цябе. Ты хіба ведаеш, дзе твая смерць ходзіць?.. Мо я таксама ото ўпаду — і ўсё... Дак хіба вы будзеце вінаватыя?

— Дзяўкі,— прычына! На ўсё прычына... Смерць ідзе і прычыну за сабою вядзе. Мабыць, так трэба было...

— Але-ле... А ўсё ж каб Ясь хоць на якія дзесяць мінутачак пазней ішоў, то і не ўстраў бы ў гэта дзела. І жыў бы яшчэ, і жыў!

— Дзіва што жыў! Я была ў сушылцы ў гэту ноч з ім, у змене. Такі бадзёры быў, вясёлы, усё насвістваў штосьці...

— Такая здэраў, такі таўсмач... Здавалася, зносу яму не будзе.

— Худы — хоць куды, а тлусты — чалавек пусты.

— І што — ніякага ратунку ўжо не было?

— Не!.. Кірэйчык па Лявошку пабег, у яго ж машына новая... А той скок, скок на адной назе, без пратэза... У машыну — і па Каменскага... Дак што той Каменскі? Не мог і пульса ў Яся намацаць, сышоў чалавек кроўю...

— О, божа-божухна... О, міласэрны...

— Але-ле... Кажуць, столькі вылілася — як з кабана.

— Кампрэсы халодныя клаў на грудзі, пакуль «скорая» прыехала. Мікалай да Каляды бегаў званіць у «Скорую»... А «скорай» ужо і браць не было чаго!

— Казаў Каменскі: нейкая жыла галоўная каля сэрца лопнула.

— О, божа-божухна...

— У целявізары паказвалі: ёсць такія ранімацыі ў вялікіх больніцах. У аднаго сэрца чатыры ці пяць мінют стаяла. А ўрачы як узяліса, як узяліса... І ўколы, і апараты ўсякія, і масаж, і кроў свежую... Ажыў, ведаеце, і яшчэ колькі гадоў жыў пасля смерці. Клінічная смерць называецца...

— Дак то ж на скорум часе! Ды кроўю так не сышоў, як Ясь.

— Ускрываць будуць, казалі.

— Канешна ж, будуць. Гэта ж не так сабе смерць...

— Аляксана на кароўніку была... Наказалі ёй, прыбегла, а Яся й німашака, павезлі...

— А я, Аляксанаю будучы, то і не дала б успорваць. Нашто ўжо рэзаць, здзекавацца? Вернеш з таго свету?

— Прахціка ўрачам... Яны ж усё спрахцікоўваюцца, вучацца.

— Ай-яй-яй, гэта ж такога нарабілаcа ў сяле. Свет не бачыў, не чуў...

— А Валодзя, такі малады, ад аблучэння памёр. Хіба чуў свет ці бачыў?

— Але... О, божа-божухна...

— Дар'і і ў рот не палезе тое сала.

— Ёй не палезе, а сынку — уга! Усё жуе нешта і жуе, як карова жуйку... Тут такое няшчасце, нябожчык на двары, а ён — жуе! У «скорую» памагае насілкі засоўваць — жуе! А каб цябе парвала... І разумны, і адукаваны, і свету пабачыў — а мазгі набікрэнь...

— Гэта і называецца жвачка. Гумка такая ці цукерка, мой унук за імі вельмі ўпадае... У целявізары хакей паказвалі, дык канадцы ўсё жуюць і жуюць. Адзін, мабыць, удавіўса ёю, бо падляталі на каньках да яго, грымалі кулакамі ў плечы.

— Ой, баба! Гол ён забіў! Гэта яго так хвалілі, лашчылі!

— Добрая ласка... Лёгкія можна адбіць.

— Аляксане цяпер што хочаш вырабляй. І хата яе, і гаспадарка, і пчолы...

— Ну! Мо якія два месяцы пажылі...

— Дзякі! Гэта яшчэ як сказаць... Яны ж не распісаныя з Ясем.

— Ага... Прыйдзе Рыгор, скажа: «Вымятайса, адкуль прыйшла!» Хоць у палонку тады, а лёду няма.

— Але-ле... І саттуль сын, кажуць, выгнаў.

— Чаго я хацела сказаць... Заява ж у судзе, кажуць, на развод. Маня падала... От Рыгор і прыйдзе ў бацькаву хату!

— А я чула — з'ехаць хоча Рыгор... Туды, дзе Гардзей іхні.

— Навасёлкі называюцца...

— Мо й так... На Палессе недзе.

— Дзяўкі, і я чула: не пускае яго Дзеньдобры. Што я, кажа, сам на трактар, на камбайн садзіцца буду? Некаму ж і тут рабіць трэба... Ці мала што ў каго!

— Калі жыццё не міла — куды й не хочаш пабяжыш.

— З Волькаю ж хоць паедзе ці адзін?

— Пакуль што адзін. З Волькаю, мабыць, дагаварыўса — пазней пад'едзе.

— Дзіва што пад'едзе... Ужэ пад'ехала, падкаціласа... Чэрава скора на нос палезе.

— Эй?! А мае-е жаначкі...

— Як Апанаса хавалі, я прыглядаласа. Ніякага і знаку німа.

— Але! Німа! Хіба ў цябе вочы не свецяць?.. Плямы рудыя пайшлі па твары, нос завастрыўса.... Дый не хаваліса ж яны, адкрыта жылі.

— Дак гэта ж калі ў яе прыбытак будзе?.. Жнівень... Сянцябры, акцябры, наябры, дзякабры... І ў новум годзе чатыры месяцы... У красавіку!

— Мнагадзетны бацька... Тут чэцверка, і там адно.

— Ён і там чэцвера наробіць. Абы сышліса ды жылі...

— А Юра Расолька хіба не мнагадзетны? Зноў двойня, і зноў — хлопцы. Пяцёра ўжо, як і ў Рыгора.

— Толькі ён ды Рыгор і выконваюць пяцігодку. Астатнія як пазавязвалі...

— Але то але... Але я прыкмеціла: усядно як пачужаўшыса Рыгор з Волькаю, як кот паміж імі прабег.

— Дзяўкі! А дзе хаваць будуць Яся? На новых?

— Аляксана хацела на новых... А Рыгор ёй: «Не камандуй! Разам з маці пакладзем, з жонкаю».

— Ну — бо й праўда... Там жа месца каля Сарафіны пакінута. Некалі агароджу стаўляў Ясь і помнік Сарафіне, то і сабе месца прыгарадзіў. І сынам наказваў, каб там пахавалі.

— Тады так казаў, а цяпер мо й не гэтак хацеў бы. Цяпер мо з маладзейшаю хацеў бы ляжаць.

— Ха-ха... Там усё роўна — з кім.

— Ну — бо й праўда: як на радаўніцу разарвешса? І на старыя могілкі бяжы, і на новыя, і да брацкага помніка... Не-е, лепш — разам...

— А як хаваць будуць — з папом?

— Цяпер жа не дазваляюць папа дадому зваць. У Баравусе цэркаў — ідзі і маліса, а па хатах нечага швэндацца.

— Цэркаў то есь, ды на папа згалела. Бачу ўчора: ляціць айцец Маркіян на веласіпедзе ў стальмашню — пыл курыць. Хапіласа за гузік, а ён здароўкаецца, рагоча!..

— Які з яго бацюшка? Мо гадоў трыццаць пяць усяго...

— Ну! Гэта ж трэба выкінуць фокус: кінуў цэркаў, пайшоў стэльмахам у калгас.

— Як не той чалавек стаў: гаваркі, вясёлы... Касіць ішоў — падкасаў штаны да калень, касу на плячо...

— А я ўжо так распанела, не ступлю босая. Так усё колецца — ажно душа заходзіцца...

— Заходзіцца!.. Гэта раней на пакошы як пападколваеш пальцы, да зноў кальнеш у тое месцейка... От гэта заходзіцца!

— І чарачку Маркіян любіць на бяседзе ўзяць, і песні хораша спявае. Тэнар у яго — як званочак...

— Распісваеш... мо закахаласа?..

— Ён жанаты, дзеці — двоечка.

— І ў жанатага можна ўтрэскацца.

— Дзяўкі, калгас будзе Яся хаваць?

— Калгас... З музыкаю... Каляда паехаў шулаўцоў на заўтра згаджаць.

— Машыну, я бачыла, вышароўваюць... На машыне паедуць Яся забіраць з трупярні. І на могілкі на машыне павязуць...

— А Валодзю скрозь на руках неслі хлопцы. На самыя могілкі.

— Дзяўкі, а ці чулі — Сердзіч сваю машыну прадаў! «Жыгулі»... Вучыўся, вучыўся ездзіць — і прадаў.

— Яздок з яго... Праехаў каля свірна метраў пяцьдзесят, збялеў як палатно. Вылез, сцягнуў цераз галаву майку, выкруціў пот... «Не сяду больш...» — губамі

не варушыць. Яго Лявошка чукаваў трохі: «Не думай, за што ўхапіць, як за руль сеў... Аўтаматычна павінна ўсё рабіцца. Яшчэ не сабразіў, а рука ці нага сама павінна зрабіць што трэба...»

— Псіхалогія ў яго не такая, рэакцыя. Міліцыянер у целявізары гаварыў. Трэба, каб рэакцыя мамянтальная была, от тады ты яздок!

— А Маркіяну труну заказалі. Поп труну робіць...

— Маглі б і са Слуцка папа прывезці. Калі свайго не дапросішса...

— От цяцёра глухая... Сказана — нельга цяпер папам абы-дзе службу правіць!

— То я ж не кажу, каб абы-дзе... У цэркаў хай Ясся завязуць, а поп там і адпяе, грахі адпусціць.

— Харашэй, як з папом хаваюць. Крыж нясуць, поп з дзячком ідуць, кадзілам махаюць...

— У Аўдоткі ёсць малітва спецыяльная, «разрашыцельная»... На паперы спячатана па-старому. Яна і прачытае над Ясем — усё-такі не малады чалавек.

— Аўдотка і па-стараславянску ўмее чытаць, пад цітламі.

— Баба, а... як гэта — пад цітламі?

— А чорт яго ведае! Значкі нейкія над словамі настаўляныя, а словы паскарочваны, здагадвацца трэба.

— Мой бацька некалі таксама ўмеў пад цітламі чытаць...

— Не казала Дар'я — не было ў япрука крупчака?

— Не. І лёгкае глядзелі, і цяжкае. Чысты, здаровы — Кірэйчык хваліў.

— Кажуць, Дар'я прыбягала да Аляксаны, на калені станавіласа... Прашчэння прасіла, плакала... Кабана на памінкі аддавала. А тая і гаварыцца не даласа, ні славечка ёй не сказала.

— Не сварыліса? Мо кляла Дар'ю?

— Не... Маўчала, як камень, а потым плакалі разам.

— Падружкі... То спяваюць-прытанцоўваюць разам, то плачуць.

— Лявошка ў калгасе выпісаў мяса на памінкі. Паўкабана, бачыла, выгружалі з багажніка.

— От свежыны нарабіласа... Божа, твая воля!

— Нарабіласа... А што яшчэ наробіцца — ты не ведаеш, і я не ведаю...

## Раздзел першы

I

— ...рек им: примите духа святога, их же отпустите грехи, отпустятся им, их же удержите, удержатся: и елико аще свяжете и разрешите на земли, будут связана и разрешена и на небеси. От онех же и на ны друг друга приимательно пришедшего, да сотворит через мене смиреннаго... Кахы... Кахы... через мене смиренную прощенно и сие по духу чадо... чадо... Івана тут трэба ўставіць... чада Ивана от всех... кахка-ха... елика... кых-кы-ха... Параска!

Адна з бабак, што «смірэнна» і ціха сядзелі паўз сцены на крэслах, табурэтках і заслонах і глядзелі на труну з нябожчыкам, аддзіраецца ад месца і ідзе на кухню, прыносіць Аўдотцы ў шклянцы вады. Аўдотка падштурхоўвае ўгору на носе скрыўленыя і чорныя, з круглымі шкельцамі акуляры, ссоўвае трохі за вухам на свежае месца нітку, каб не так рэзала (адламалася адна аглабелька) і бярэ праваю рукою шклянку (у левай на прыполе дробненька дрыжыць папера з малітваю), прыпадае зморшчанымі вуснамі да беражка шклянкі і робіць глыток, другі, ставіць ваду каля сябе на падаконнік. Устае, папраўляе ў жоўта-сініх Ясевых пальцах жоўтую васковую свечку (на пальцы накапалі і застылі кроплі), зноў апускаецца на сваё месца каля галавы нябожчыка, падправіўшы пад сабою згорнутую ў многа столак посцілку — каб мякчэй было сядзець. Кашлянула — і далей, нараспеў:

— ...елико реком человек согреши богу словом или делом, или мыслию, и всеми своими чувствы, волею или неволею, ведением или неведением...

Аляксана сядзіць каля Ясевых ног, насупраць Аўдоткі. Хусцінку-насоўку, усю мокрую ад слёз, яна паклала ўжо на печ, а замест яе ўзяла паркалёвы ўрывак з палавіну пялёнкі — хопіць надоўга. Трымае гэтую новую хусцінку каля горна скрыўленых губ, раз за разам падносіць да вачэй, якія шчымяць і гараць, падпухлі ад слёз.

«Божа-божачка... А якія ў яго могуць быць грахі?! Чым мы з ім саграшылі, за што такое пакаранне?! Ні словам, ні дзелам, ні чувствы... Мы ж, як галубкі сівыя, цешыліся... Я ж пачынала ўжо любіць яго... А які ж гэта грэх, калі любіш? Каму заміналі нашы чувствы? Каму-у-у?!» Аляксане хацелася зноў

завыць-загаласіць, але ж яна ўжо навылася і нагаласілася да хрыпу. Галава разломваецца ад бяссоннай ночы каля труны з Ясем, ад думак... Яшчэ ўчора пачала галасіць, як прыляцела з фермы і не заспела ўжо Яся, павезла «скорая», і потым, вечарам, як знімалі труну з машыны, прывёзшы са Слуцка, як стаўлялі труну на засланыя перабіранкамі заслоны — каля вулічнай сцяны, галавою ў куток, да абразоў, як прыстаўлялі да труны вянкі з хваёвых лапак і папяровастэарынавых кветак, з прычэпленымі да вянкоў чорнымі стужкамі. І сёння раніцу пачала з галашэння — «А мой жа ты Ясічак, як табе спалася-начавалася ў новай хатцы, такой цесненька?».

Рыгор з Юрам Расолькам ездзілі забіраць Івана Іванавіча ў Слуцак, яны з «Зелянгаса» і два вянкі прывезлі. На адной стужцы напісана, што ад дзяцей і ўнукаў — і ні слова пра яе, жонку, на стужцы другога вянка — ад калгасных механізатараў. А сёння Пеця Скакун прывёз яшчэ два вянкі — ад праўлення калгаса і ад партыйнай і прафсаюзнай арганізацый. Дар'я з Ліляй Пахількай прынеслі адзін, самі сплялі, без усякіх стужак — ад суседзяў. Зусім нядаўначка прынеслі... І галасіла Дар'я і прыказвала, як па кім сваім, аж захлыналася, усё прасіла Яся даравадь, цалавала яго ў рукі, у лоб. І зноў разгорніла Аляксану, і Аляксана галасіла. Прыбягала з кухні на іх голас, не выцершы добра рукі, Настаса, дудзела хрыплым і знямоглым голасам — адным голасам, не было слёз. Толькі Гардзеева Ларыса не далучалася, усё патрашыла і патрашыла на кухні рыбу, насіла ў сенцы смажыць: гора горам, а трэба ж рыхтавацца і да памінак, не работніца з Аляксаны сёння. У такія выбухі плачу часцей уздыхалі і сморкаліся бабы і жанкі, перашэптваліся спачувальна: «Гэта ж бы яшчэ жыць ды жыць чалавеку...» — «Але, мая дарагая... Як жывы ляжыць...» — «Што ж ты хочаш, ён жа не выхвараў, а раптоўна...» — «Я й кажу: лёгкая смерць. І не надаядаў нікому, не замінаў».— «Аво-я-ёй, гэта ж так нядобра: сцены такія вясёлыя ў хаце, у букеты...» — «А чаго? Хораша... Хто ж гэта пра смерць думаў? Жыць думалі...» І чуваць быў з кухні незадаволены голас Рыгора (мужчыны тоўпіліся і ў сенцах, і ў кухні): «Хоць бы ўжо так не заліваліся... Гэта ж інфаркт можна палучыць...» І чула Аляксана, як цішыў яго Гардзей: «Памаўчы

хоць сёння, Грыша...» — «Я то маўчу... Вучыцель наш недзе запрапаў. Скора ўжо выносіць, на могілкі везці... Ці правільна хоць Настаса Федзеў адрас указала на тэлеграме?» — «А я пра музыку думаю... Казалі, што будуць к абеду шулаўцы — і няма».

— ...или аще клятву отца своего или матере своея наведе на ся, или иными некиими грехи яко человек связася; но от всех сих сердцем сокрушенным покояся, и от тех всех вины и узы да разрешит его; елико же за немощью естества забвению предаде, и та вся да простит ему человеколюбия ради своего...

Аўдотка чытала то шэптам, раптам усхліпваючы і павышаючы голас да прысвісту, то прамармытвала скоранька дзіўныя словы, нібы хацела ўсіх усыпіць і зачараваць.

«Каму замінаў Ясь? Нікому і вока не запарушыў... Каму заміналі мы? Гэтак ціха жылі, мірна... Ні бацька, ні маці не клялі нас, няма іх даўно... Хіба мо дзеткам каму дарогу пераступілі... Два месячыкі ўсяго пражылі, мо трошачкі больш... Хоць бы гадзік які ці два... А хіба дзесяць нельга было палюдскавацца? За ўсё непражытае пажыць, за недалюбленае далюбіць... Я ж памаладзела за ім... Я ж не чула сваіх гадкоў!» — снавалася ў Аляксанінай галаве. Трывога і страх ахутвалі яе і з бакоў, нібы гіганцкія шоры засцілі святло, і паўставалі чорным полагам спераду, злавесна-пагрозліва навісалі ззаду. Але штосьці не давала ёй цалкам аддацца гору... Нейкія вельмі зямныя клопаты і згрызоты. Спачатку яна ўспомніла, што настаў абед, а яшчэ не давана парасятам, і яна паціху падклікала да сябе, паманіла Дар'ю, сказала пра гэта, і Дар'я на пальчыках выйшла з пакоя паклапаціцца. Уздыхнула: ну во, засталося толькі гараваць ды плакаць. Можа, ужо зноў пагаласіць, папрыказваць! Перадыхнула ж...

А ў галаву сілком палезла-пашылася ўчарашняе...

Як прыбегла, задыхаючыся, з аборы (сэрца білася пад самым горлам), то першым чынам заскочыла на свой двор, хацела ўкідацца ў хату. Але толькі стала, як удзюбнутая страла перад дзвярыма, пахісталася і паспела заўважыць, што замочак вісіць на прабоі так сабе, зачэплены дужкаю, як кручком, сама сабе вісіць на дзвярах і пятля-клямка — на прабой не накінута. І тут пакрычалі ёй людзі, што не дома Ясь, што ўсё на Дар'іным двары нарабілася. І яна ўраз забыла на

той адамкнуты замок (а на абору ішла, то замыкала, гэта добра помніць), пабегла на Дар'ін двор. Ды было позна, Ясю толькі што павезлі. Стаялі толькі каля япрука Кірэйчык, доктар Каменскі і Мікалай, іх ахутвалі воблакі тытунёвага дыму. Стаялі і ашаломлена маўчалі, нават на япрука забылі. Войкала і ўсхліпвала, напаўголаса прыказвала Дар'я, састругвала рыдлёўкаю зямлю з кроўю — Ясевай кроўю, як потым патлумачылі Аляксане. Састругвала і не ведала, куды дзець гэтае месіва, нават пакруцілася на месцы, не адважваючы шугануць пад плот ці ў агародчык. І ўрэшце пакінула там жа, дзе стругала, загаласіла на ўвесь голас, ужо разам з Аляксанаю, а Кірэйчык выдзеўбвыкапаў тут жа неглыбокую, мо на штых, ямку, ссунуў туды крывяныя камякі, прысыпаў і прыпляскаў зямлёю. У гэты час і Аўдотка, вохкаючы і божкаючы, выйшла з Дар'інай хаты, угледзела Аляксану. Хацела нешта сказаць, але працягнула толькі — «А-а-а...» і павярнула назад у сенцы. І тут жа вынесла Ясевы кашулю, складзеную начэцвера, пінжак — павесіла на цвічок на сцяне, побач з двума ўсохлымі венікамі, яшчэ раз завінулася і вынесла Ясеву фуфайку. Яна была ўроблена ў зямлю і мокрая. «Падсцілалі пад Ясю, як кампрэсы клалі...» — сказала ціха, як сабе. Зняла пінжак і сасгупіла з усходцаў, паднесла Аляксане:

— Хопіць галасіць, рукі ламаць... Яшчэ напалачашся... Ідзі мо дадому, паляжы. Я скора зайду да цябе...

Не цямячы нават, што бярэ, куды ідзе, павалакла Аляксана адзенне дадому.

— ...молитвами пресвятыя и преблагословенныя владычицы нашея блудницы и приснодевы Марии... святых славных и всехвальных апостолов и всех святых... Аминь...— скончыла чытаць (у каторы ўжо раз) малітву Аўдотка.

— Амінь! Амінь-амінь...— нядружна адгукнуліся і захрысціліся бабкі. Хтосьці папытаў:

— Мо ўжо хопіць? Каб позна не было...

— Яшчэ раз прачытаю, а тады сатворым «Ойча наш» і прыступім...— строга сказала Аўдотка. Пакашляла, зноў памачыла са шклянкі ўсохлыя і вялыя губы, беражліва паставіла яе на акно. Зноў пачала спачатку — рэчытатывам: — Молитва разрешитель-

ная от иерея над преставившимся чтомая... Где наш Исус Христос, божественною своею благодатию, даром же и властию, данною святым его учеником и апостолом еже вязати и решити грехи человеков...

На кухні ўвесь час былі чуваць свежыя крокі і ўздыхі, заходзілі «навяшчаць» жанчыны і бабкі, некаторыя нават з дзецьмі. Заходзілі і мужчыны, камячылі ў руках шапкі, стрымана ўздыхалі і перагаворваліся. Старыя праціскаліся ў пакой, падступалі блізенька да труны, таропка хрысціліся і цалавалі, адкінуўшы гардзіннае пакрывала, Ясевы рукі, а каторыя і лоб нябожчыка: «Хай табе пухам зямля...» Аляксана ні на кога не глядзела, не падымала вачэй, а ёй здавалася, што яна і так усё чуе і бачыць. Урэшце зайшла старая Кацярына Пахвалёная, пачала гаварыць і ўшчуваць усіх яшчэ на кухні:

— Што ж гэта вы надумалі, людцы? Са́ма ўборка, і дзень будні, а вы зноў вяселле ладзіце?

І ад гэтага пытання адразу зарыдала-запрыказвала Настаса: «Цётухна, родненькая... А няма ўжо нашага та-аткі!..»,— чутно было — заплакала і Ларыса.

А Кацярыну прапусцілі ўжо далей, у пакой, яна несла ў руках яшчэ адну свечку і шклянку з жытам. Падыходзіла да труны і гаварыла, прыпальвала свечку — і гаварыла. Уторкнула яе ў шклянку з жытам, паставіла ў галавах. І пачала дакараць Ясю, прасіць яго (малітоўнага шэпту Аўдоткі было не пачуць):

— Пайшоў ужо? А мой ты любенькі... А што ж ты нічога не сказаў, не папярэдзіў? Я ж бы перадала прывет Сарафінцы, маёй сястрыцы... А за што ж ты на нас, Ясічак, угневаўся, так раптоўна пакінуў? А я ж бы пернічкаў напякла, гасцінчык Сарафінцы занёс, участаваў яе... Мо ёй і там не ляжыцца, усё няма калі за работай...— І з кожным Кацярыніным словам большала і большала плачу ў хаце. Яе пытанні нібы нажом кроілі сэрцы, кожная жанчына ўспаміна́ла сваё гора. Валодзева маці ажно забілася ў рыданнях на руках у баб, і яе адпойвалі вадою. А Кацярына гаварыла ўсё больш расцягла, і вось ужо і яна закрыла хусцінкаю вочы, укленчыла каля труны, загаласіла: — А мо ты Ясіча-ак яшчэ вернешся-я-я-я... Мо раскажаш нам, як вы там уладкаваліся-я-я-я... А ці не холадна там, не мулка-а-а-а... А ці будзе цёпленька

ўзімку-у-у-у... А мне ж таксама пара збірацца ў дарогу, а я нічога не ведаю-ю-ю...

І Аляксана ўжо галасіла, абдымаючы Ясевы ногі ў новых бліскучых туфлях:

— А мой жа ты няўрымсціча-а-ак... А мой жа ты працаўнічо-ок... А чаму ж табе не сядзелася, не ляжалася дома-а-а-а... А табе ж усё хацелася людзям памагчы-ы-ы-ы... А не ведаў ты спакою ні ў маладосці, ні ў старасці-і-і-і... А ўсю ж воінку прайшоў і куля цябе не скасіла-а-а... А колькі ж ты зямелькі пераараў, перасея-я-я-яў... А колькі ж ты сцежачак вытаптаў, колькі дарожа-а-к... А мой жа ты дабрахотніча-а-а-ак...

Яны нібы стараліся адна перад адною, перад людзьмі, знаходзілі ўсё новыя і новыя добрыя якасці ў чалавеку, і іх галашэнне часам злівалася ў доўгім і роспачна-суладным «а-а-а-а», часам галасы кантраставалі.

Ды раптам скончыла шаптаць малітву Аўдотка, устала і прыклала яшчэ паперку да лоба нябожчыка, да вуснаў, да сэрца і рук.

— Хопіць, жанкі, хопіць... Пара... А дзе дзеці? Чаму ж яны не пасядзяць каля бацькі?

І ўсе загукалі: «Гардзей!.. Настаса!.. А дзе Грыша? Ай-яй-яй, а Федзя так і не прыехаў... А мо яшчэ прыскочыць, мо позніцца?»

Некалькі баб і жанчын усталі, пасунулі свае табурэткі і крэслы бліжэй да труны і адступілі ў куткі. Зайшлі Гардзей з Ларысай і Сашам, Рыгор, Настаса з Лявошкам, паселі каля труны. І наступіла цішыня, якую часам парушалі ўсхліпы і ўздыхі. Аляксана толькі зрэдку падымала вочы, затрымлівала позірк на Ясевым твары, на руках і свечцы, на чорным касцюме і гальштуку, на новых туфлях. Усё адзенне злётаў у горад і купіў Лявошка, Ясь яшчэ сам нічога не падрыхтаваў «на смерць» — збіраўся жыць ды жыць. І нечым раніла гэта Аляксану, ёй бы хацелася, каб ні ад кога не залежаць на пахаванні, на памінках, нават ад Ясевых дзяцей, зрабіць усё самой, за свой кошт і па-людску. Ну хай за Ясеў кошт, за Ясевы грошы, але ж гэтыя грошы, лічы, і яе!

А робіцца ўсё так, нібы яе і няма ў хаце, нібы яна і не была ў Яся другая жонка. А мо так і трэба, мо яны гэтак даюць ёй роздых, мажлівасць пабыць у самотнасці і горы. Дый хіба здолела б яна што падказаць ці пакамандаваць сёння, што зрабіць? Без гро-

шай? Хіба гэта грошы нейкія сто пяцьдзесят рублёў, што ўзяла ў Слуцку за мёд? А трэба ж і на само пахаванне выдаткі, і на памінкі — і сёння, і на трэці дзень, і дзевяціны, і саракавіны справіць, і «паўгода», і «год». Ну, на саракавіны то яна паспела б расстарацца грошай за паўтара месяца, і з калгаса Ясевы палучыла б...

Але ж цяпер во трэба грошы, а Ясеў кашалёк прапаў.

Учора, калі Аўдотка адправіла яе з Ясевым адзеннем дадому, яна і даўгавата праседзела на кухні, прыціскаючы да сябе Ясеў пінжак, заплюшчыўшы вочы. Цяжкія слязіны выкочваліся і выкочваліся з-пад павек, казытліва паўзлі па шчоках, зрываліся на пінжак. Яна і тварам уціскалася ў адзежыну, затуляючы сабе рот, каб зноў не закрычаць на ўвесь голас. І чула ад пінжака такі знаёмы пах Ясевага цела, такі звыклы ўжо і нечым хвалюючы. А потым рука нібы сама пачала абмацваць кішэні пінжака. Шэрага картовага пінжака ў ледзь прыкметныя светлыя і цёмныя рысы-палоскі. Ясь па звычцы насіў з сабою раскладны кашалёк... Дзе ён?

І раз абмацала, і другі — дзве ўнутраныя кішэні, дзве бакавыя, звонку, нават у нагрудную ўсунула два пальцы, хоць туды кашалёк ніяк не мог залезці. І што вышукала? Расчоску, шарыкавую ручку, агрызак пляскатага, тэўсць — на палец, цяслярскага алоўка. А кашалёк дзе? Дзе кашалёк? Ён жа ніколі з ім не расставаўся!.. І ў кашулі няма, у дзвюх нагрудных кішэнях...

А мо застаўся ў штанах і яго вазілі разам з Ясем?.. «Абчысцілі кішэні там... Дальбог, абчысцілі!.. А мо Рыгор выняў? Рыгор жа ездзіў на «хуткай дапамозе» ў Слуцак, як ускрываць вазілі, і потым ездзіў, з грузавіком і труною,— забіраць... Пераадзявалі, то дзе падзелі старыя штаны?»

Гэта ж яна і не дадумалася раней, што кашалёк мог быць у штанах!

Учора і пасцель Ясеву перавярнула: пад падушкай глядзела, у падушцы мацала, пад матрацам. Як бегла ранічкаю на ферму, то добра і не засцілала ложак, а так — крыху прыкінула, потым, думала, парадак навядзе. Прыбегшы, перад тым як аглядаць пасцель, правяла па ёй вачыма сюды-туды і нічога

падазронага не заўважыла, ніхто, здаецца, пасцелі не чапаў, не рыўся ў ёй. Знайшла толькі ашчадную кніжку, была ў нагруднай кішэні старой кашулі. Здзівілася, што кніжка не старая, а новая. Старую яна бачыла раз — ражкі пазагортваліся ў трубкі, а гэта... У кніжцы ляжалі пяць аблігацый унутранай пазыкі па дваццаць рублёў кожная. Пад вокладкай на першай старонцы не было ніякага завяшчальнага запісу. А ў старой, хадзілі чуткі, запіс нейкі быў... Яшчэ лісток адгарнула.— «Дата. Приход. Расход. Остаток. Росписи»... У графе «Приход» адным радочкам запісана сума — 3154 рублі 71 капейка. Запіс зроблены зусім нядаўначка; пачала вылічваць, і атрымалася, што хадзіў Ясь абнаўляць ашчадную кніжку праз два дні пасля іх рыбалкі. «Чаму ж ён у новую кніжку нічога не запісаў? Не прыдумаў — што? Ці на потым адклаў? А як жа цяпер будзе... чые ж гэта будуць грошы?.. Кніжкавыя?..» — забухала кроў у скроні.

Выйшла, усё роўна як крадучыся, у сенцы, адчыніла свой куфар-прыданае. Аблігацыі згарнула начэцвера і двума пальцамі пазасоўвала між столак у сувойчык палатна. А кніжку прыхавала зверху, асцярожна апусціла вечка і павярнула ў дзірачцы ключ. Ад хаты і куфра ключы і цяпер пры ёй, у кішэні джэмпера.

«Дзе ж кашалёк? Ці заходзіў Ясь дадому з сушылкі? Калі не заходзіў, то чаму дзверы аказаліся адамкнёныя, замочак вісеў «для красы»?

На вуліцы загула машына і спынілася каля хаты. Чуваць галасы, Аляксана пазнае Жухалаву. Мабыць, прыняла некага з кузава ў абдымкі, асцярожна ссадзіла дадолу, бо ненарокам хтосьці нават засмяяўся і тут жа сціх, як заткнуўся.

— Шулаўцы прыехалі...— абазваўся нехта паціху, вызірнуўшы ў акно.— Сын Данілаў цяпер імі кіруе, Мірон... І крошачкі бацькавы пабраў.

Хто-ніхто паварушыўся, уздыхнуў. Скамянела маўчалі тыя, што сядзелі пры труне.

— Мужчынкі...— устала ўрэшце Аўдотка, і ўсе паўставалі.— Не свае, не дзеці... Перакладваць будзем у труну.

Навяшчальніцы пачалі падказваць шэптам:

— Баба, ён жа ў труне ўжо... Са Слуцка ў труне прывезлі.

— А-а... Ага... Тады збіраць будзем. Ачкі яму трэба пакласці... Дзе акуляры?

Настаса чуе Аўдотку і з кухні, з прыстолка, прыносіць бацькавы акуляры. Адны, а іх у яго мо трое ці чэцвера.

— Ага... Хай там чытае. А то ўсё на работу бегаў...

— Мо й медалі?

— Медалі на падушачках панясуць, не трэба ў труну.

— І ножык пакладзіце...

— Ага... Дубцы будзе стругаць, кашы плесці. Дзе ножык?

— Няма ў прыстолку!..— голас Настасы.

— Ён з сабою яго насіў,— сказала Аляксана.

І тут пасля цішыні, стараючыся гаварыць спакойна і абыякава, вымавіў Рыгор:

— Абыдзецца і без ножыка. Я сабе на памяць узяў.

Аляксану нібы токам сцепанула: «Ён!» Рэзка павярнулася, зірнула на Рыгора і скмеціла шабельны бляск у яго вачах. «Ён! Ён! — забухала, зрываючыся на галоп, сэрца.— У яго кашалёк!»

Нехта з цётак:

— А ці ёсць папруга ў штанах? Майго Сцяпана пахавалі без папругі, дак што? Прысніўся на другую ноч. Здэцца, ходзіць і аберуч штаны дзяржыць і гэтак горка на мяне пазірае. Дак схадзіла на могілкі, закапала ў курганок — от і перастаў сніцца.

Рыгор буркнуў, што рэменя не было з новым касцюмам, і Аляксана зноў уздрыгнула: «Зладзюга-а-ан... Як я адразу не здагадалася, што ён!.. І пад мухай ужо!.. Ні стыда, ні сарама. Але не ўхаваешся: бог шэльму меціць...» Пайшла ў сенцы і прынесла з куфра падобны на верч кары скручаны новы рэмень, паклала ў труну каля локця Яся.

— Ну во... Цяпер не згубіць штаны,— сказала Кацярына Пахвалёная.

— Сатворым «Ойча наш»,— скамандавала Аўдотка, і старыя бабы дружна зашапталі і захрысціліся. Хрысціліся і некаторыя пажылыя жанчыны, хоць часам неўпапад ці запознена, губамі яны не мылялі — слоў малітвы не ведалі. Аляксана шчыра малілася. І тут зайгралі на вуліцы пахавальны марш. Над усімі цягуча-журботнымі гукамі ўскінуўся ў самае

неба, як развітальны жураўліны енк, роспачны кліч трубы, і Аляксане раптам стала і горача, і холадна разам, а потым прапалі недзе рукі-ногі, упала без памяці. Не чула нават, як падымалі яе з падлогі, як выгуквалі спалохана: «Вады! Вады!», як буркнуў сабе Рыгор: «Ага... Вядром... на галаву...», як папракнуў яго хмура Гардзей: «Рыгор — выпіў, то памаўчы!..» Адну Аўдотку нічога не выбіла з малітоўнага трансу. Кожнае слова «Ойча наш» вымаўляла яна шчыра, выразна, хрысцілася так, нібы ставіла пячаткі — на лоб, на грудзі, на плечукі...

2 «Хто сказаў, што гісторыя не паўтараецца? Што развіццё ідзе па спіралі? Паўтараецца, усё паўтараецца... Я зноў пазнюся... Як і на маміна пахаванне... Пазнюся... Ганебна пазнюся!..»

Гравейку грэйдэр даўно не чапаў, не прыгладжваў, навыбівалася ям, нассоўвалася купін-хваль пяску, і старая «Волга» — «дваццацьчацвёрка» трэслася і бразджала ўсімі часткамі, здавалася, вось-вось зусім раскоціцца ў бакі — кожная частка сабе. У шчыліны расхлябанага кузава набіваўся пыл і стаяў у машыне шэрым туманам, прабіваўся ўсярэдзіну і разагрэты маторны дух, і дыхаць было цяжка, ажно горла перахопвалі спазмы. Але Федзя ўсё роўна падспешваў таксіста, каржакаватага пажылога дзядзьку, хацелася нават нагамі пхаць у перадок, як тая баба ў вядомай байцы Крапівы. Хутчэй... Як мага хутчэй!

А тады, амаль чатыры гады назад, у халодны, гнілы і бясснежны снежань вёз яго на маміна пахаванне школьны сябар, урач. Праз яго, дзваніўшыся, ён і вянок заказваў у «Зелянгасе» (меркаваў, што гэтак сэканоміць час). Ад вялікага жадання памагчы ў гора Юзік-урач перастараўся. Трэба было пакінуць машыну на вуліцы і прайсці нейкія семдзесят — сто метраў па гразкай грэбельцы да таго «Зелянгаса», забраць вянок. А Юзіку абавязкова захацелася пад'ехаць. Па грэблі прасунуліся буксуючы, а як уз'ехалі на двор, то селі грунтоўна і надоўга. Федзя выкупіў вянок, засунуў яго на задняе сядзенне і памагаў кешкацца і адкопвацца, дамкраціць, падмошчваць пад колы выдраныя з гразі камяні. Перапэцкаліся, як чэрці, панабіралі ў туфлі, а Юзікава «Пабеда» так і не змагла

сама выдрацца з гразі. Давялося шукаць-лавіць грузавік з вядучымі пярэднімі коламі, каб выбуксіраваў на шашу. Ухайдокалі на тым зелянгасаўскім дварьі мо паўтары гадзіны. Гэтага часу якраз і не хапіла Федзю, каб заспець маці яшчэ дома, пасядзець каля труны. Вянок ад гравейкі да дому нёс на плячы, Юзіку падзякаваў і не дазволіў заязджаць у сяло, каб зноў не засеў... Маці ўжо выносілі з хаты, і насільшчыкі толькі апусцілі труну ўніз на руках, каб даць яму развітацца, і Федзя тыцнуўся губамі ў халодны, бы лёд, мамін падбародак і заплакаў уголас, затуляючы далонямі твар... Бацька даў яму тады боты-гумоўкі, бо на разбалабошанай вуліцы гразі было да каленяў, а цётка Кацярына, як міналі яе хату, вынесла паўкажушак: брыскотлівы холад і вецер прадзімалі яго плашчык навылёт. І хоць неймаверная гразь была тады на вуліцы, насільшчыкі выдзіралі ногі, неслі маці аж за сяло, спыняючыся адпачыць мо кожныя сто метраў. Сваякі і не сваякі выносілі на вуліцу «праводныя» сталы, стаўлялі табурэткі і заслоны, каб можна было апусціць труну і перапачыць, пакуль тыя развітаюцца з нябожчыцай. Шанавалі людзі працаўніцу Сарафіну, даярку-ардэнаноску...

— А колькі пражыў бацька? — парушыў маўчанне шафёр.

— Шэсцьдзесят пяць, шосты ішоў...

— То й не многа. Мог бы жыць...

— Мог бы... Здаровы быў... Не ведаю, што там здарылася. Я нядаўна з дому, ад'язджаў — усё пакідаў як мае быць.

Зноў замоўклі. Ну й добра, што не назаляе роспытамі, не задае больш абыякава-спачувальных пытанняў. Цяжка на іх адказваць...

Тэлеграма аб смерці бацькі не застала яго ні на кватэры, ні ў школе. Ледзь адседзеўшы на жнівеньскай настаўніцкай канферэнцыі, адпрасіўся ў дырэктара на пару дзён: маўляў, трэба з'ездзіць у Паплавы, забраць сякія-такія матэрыялы з экспедыцыі (урокаў першыя два дні ў яго не было). А на самай справе ніякіх матэрыялаў ён у тых Паплавах не пакідаў. Яму проста нясцерпна захацелася пабачыць Ганю... Не раз, успамінаючы пра той вечар з ёю на Паповай гары, сэрца неяк шчасна, па-хлапчукоўску замірала. Распаляў сябе ўяўленнем перажытага і хваляваўся, перажываў

нават мацней, чым тады. І не мог утрываць, каб зноў не пабачыць яе... Не так, як трэба, развітаўся з ёю, не тое, здаецца, гаварыў!.. А можна ж яшчэ ўсё паправіць, толькі прыехаць і сказаць — шчыра: «Даруй... Я не змог без цябе... Калі і ты гэтак сябе адчуваеш, паедзем са мною... Назаўсёды!.. А тады я дурань быў... Ты ж мне даруеш, праўда? Ты ж разумніца...» — «Эх ты, сухар размочаны...» — скажа Ганя і згодзіцца. І яны зажывуць разам, добра зажывуць!

А прыехаў у Паплавы, зайшоў на ферму — няма Гані. Нечакана звольнілася і з'ехала. А куды і што — ніхто не ведае. Адшукаў маці ў суседняй Забалаці — і яна не ведае? «А вы той вучыцель, аспірант? Успаміналa Ганя пра вас, перажывала вельмі... Я людзям казала — на БАМ паехала, так Ганя загадала гаварыць. А я думала — у вас яна... От малахольная, кінулася недзе на скрут галавы, і ні пісьмячка, ні беднага... А ў Паплавах не сустракаліся з яе мужам, дэсантнікам? Тут ён, у водпуску... Учора і да мяне прыходзіў у роспыты... Усе грудзі ў значках...»

Сустракацца з дэсантнікам у Федзі не было ахвоты. Паспяшыў выбрацца на Слуцак, заначаваў там у гасцініцы. І каб жа ведаў тое ліха-бяду, ведаў, што чакае яго ў школе такая тэлеграма, то не дабіраўся б раніцаю туды, а паехаў бы адразу ў Дуброву. А то пакуль туды ды зайшоў ў школу, дзе яму ўручылі тэлеграму, ды пакуль дачакаўся (праз дзве гадзіны) другога рэйса аўтобуса, каб дабрацца зноў у Слуцак, то было паўдня. А пакуль заказваў вянок, пакуль шукаў таксі (не вельмі згаджаўся шафёр вяртацца назад паражняком, і давялося паабяцаць яму падкінуць і на зваротны шлях), то і абед нахапіўся.

...Праляцелі Дубровaю ў пыле і грукаце, распужалі курэй. Каля хаты толькі крыху прытармазілі — і зноў уперад, наўздагон: убачылі, што канец пахавальнай працэсіі за паваротаю вуліцы, адтуль далятала і музыка.

Таксі з вянком трохі праехала ззаду, пакуль перагаварыў з Гардзеем, параіўся, як лепш зрабіць.

Федзеў вянок папрасілі несці дзвюх цыбатых дзяўчатак-старшакласніц, чыіх — не мог прыпомніць, без яго ўжо выраслі. Ішоў побач з Гардзеем да самых могілак, нікому так і не паківаўшы, не паздароўкаўшыся. З ім самім пацíху збліжаліся, манеўруючы ў

натоўпе, моўчкі і спачувальна пацiскалі руку і Дзеньдобры, і Сташэвіч, і Русак, і Каляда. І Федзя ў адказ пацiскаў руку і ківаў удзячна, а губы сутаргава крывіліся, вочы тапіліся ў слязах. Дзеньдобры і Сташэвіч на могілкі не пайшлі, за вёскаю яшчэ раз перацiскалі рукі Федзю, Гардзею, Рыгору, Настасе, усім сваякам і праз акенца легкавіка Лявошку, паабяцалі Гардзею, што на памінкі прыйдуць заўтра (гэта значыць на трэці дзень), і пацiху пакрочылі ў вуліцу.

Федзю трохі ўжо адпусціла сэрца, і ён, прамакнуўшы хусцінкаю вочы, мог ужо сёе-тое заўважаць. Што мачыху ў чорнай хустцы вядзе пад руку Жухалава, не дае той і кроку самой ступіць; што Аляксана пацiху, як сама сабе, слязуе і слязуе; што Дар'я ідзе, як пабітая, з жанчынамі, і выраз вялікай віны не сыходзіць з яе твару; што Настаса не трымае мачыху пад руку з другога боку, а ідзе адчужана, нібыта ўпобачкі, але на паўкроку ззаду; што выраз твару ў Сашы гаротліва-спуджаны, поўны неўразумення; што Рыгор трохі «пад газам» — бліскае бялкамі цыганскіх вачэй, нібы шукае, да каго прычапіцца, і што паміж ім і Сташэвічам нацягнутыя адносіны — памарудзіў, перш чым пацiснуць працягнутую Зянонам руку...

## 3

«Чаго гэта яна ўскінула галаву? Як кабыла... Што я сказаў такое? Пра ножык... што сабе, значыць, узяў... на памяць... А нашто патураць іх забабонам? Усядно згніе, саржавее... А так яшчэ паслужыць... От жа цемрашалы!.. Камедзію разыгрываюць — ачкі кладуць... ножык ім падавай... Ні адна ж не верыць у загробнае жыццё, а... разыгрываюць. То мо трэба было заадно яшчэ і каня баявога ў курган пакласці... І жонку любімую. Ха-ха... Во-во: і Аляксану туды... Во будзе трагікамедыя...»

«Ну і арцістка! Во, дзе талан прападае: і слёз можа мора праліць, і пагаласіць на ўсё сяло... І ў вобмарак брыкнуцца пры патрэбе».

«А чаму б не прадстаўляцца ёй, не пакрычаць... Прыйшла ў чым стаіць, а цяпер гаспадыня. І хата, і ў хаце, і ў хляве, і ў агародзе. Я і сам мог бы брыкнуцца ў вобмарак, каб столькі адразу звалілася на галаву... Але ці яе ўсё гэта? Хай от спачатку дакажа, што яе...»

Хоць зарэж, Рыгор ніяк не мог паверыць, што Аляксана шчыра перажывае, што і ёй баліць, што гэтая недарэчная і нечаканая Ясева смерць прыбіла яе, аглушыла.

«А Настаса, Лявошка?.. Ач як завіхаюцца... І адзежу бацьку ўсю справілі, і на памінкі накуплялі ўсяго... Шахматысты, далёка ўперад глядзяць... І я круціўся б, каб мне бацька такую мураванку адгрукаў...»

Што Рыгор ні бачыў, усяму знаходзіў сваё тлумачэнне, вышукваў сваю прычыну ці прыхаваную спружыну, якая штурхала дзеянне.

«Святоша гэты... Стаіць, ручкі склаўшы... Разу-умнік... Добра, што хоць маўчыць пакуль што, не павучае ўсіх, не камандуе...» — знайшоў як прыдрацца да Гардзея Рыгор. Нейкая зласлівасць расла і расла ў яго душы. Наплывалі, успаміналіся ўсе размовы з ім у Навасёлках — і пра Сашу, і пра цяперашнюю бесталкоўшчыну ў сваім жыцці. Праўда, не вельмі-то і даўся Рыгор, каб спавядаў, павучаў ці папракаў... А як пачаў дакараць, што Рыгор не чытае ні газет, ні кніг, не глядзіць нават тэлевізара і зрабіўся зусім адсталы і цёмны, не вытрымаў, добра агрызнуўся: «Не ўсім жа быць такімі, як ты... Дый калі чытаць тыя газеты? Ці мала там чаго могуць напісаць... Папера ўсё вытрымае — дык усяму і верыць?» Лёгка яму гаварыць... адхапіўшы такую кватэру. І я ў такіх выгодах хадзіў бы ў тапачках, газеткі пачытваў бы. І другіх павучаў бы...» Выходзіў у злосці курыць на лесвіцу ці зачыняўся ў туалеце.

Можа, каб не лічыў Рыгор сябе такім няўдачнікам, не тачыла яго крыўда на ўвесь белы свет, то не зняверыўся б так у людзях. А ў чым першапрычына няшчасцяў і няўдач, сам ён не мог дацяміць, дашукацца. Дый калі яму было задумвацца? Галава вечна як учадзелая, нявыспаная, а то і пад хмяльком. Жыў як на вакзале, у адчуванні часовасці свайго побыту, нібы жыў па чарнавіку, упрыкідку, а некалі пачне і па чыставіку. І чакаў таго некалі, як вол доўбні, бо тое будучае жыццё таксама ўяўлялася вельмі цьмяна і хавала ў сабе шмат таямніц, непрадбачаных цяжкасцей. Але пэўна ж новае жыццё будзе лепшае, будзе сапраўднае, не тымчасовае.

Учора, калі здарылася бяда, ён яшчэ спаў. Спаў «на хаце» — на гарышчы, куды нацягаў сена, заслаў

нейкаю дзяружкаю. Сваё імя, крык Расолькавай Лены, што прымчала ў такую рань, пачуў праз сон. Але яшчэ паляжаў у дрымоце, прыслухоўваючыся да галоснай гаманы на двары, сілячыся разабраць, пра што ідзе гаворка. І тут па шыферы забарабанілі груды, а ў зашчытак бомкнуў каменьчык: «Рыгор, каб ты апух нечага! Бяжы хутчэй, з бацькам няшчасце!» — крычала Лена. Замест таго каб адразу скуліцца па лесвіцы, ён адагнуў цвічкі і выставіў раму акенца, высунуў, як са шпакоўні, кудлатую, з сянінкамі ў барадзе галаву. І Расолькава ажно кулакамі затрэсла: «Кловун! Ледакроўны!.. Там бацька памірае, падарваўся... А ты!.. А ты!..» — І пабегла назад. А ён уявіць нават не мог, што гэтак усё сур'ёзна — мо якую грыжу бацька нарваў? І, выбраўшыся на святло, на двор, яшчэ закурыў, а потым пайшоў у хату, каб зачарпнуць вады, спаласнуў твар. І толькі як праляцелі назад Лявошкавы «Жыгулі» з Каменскім, як заўважыў Косцевы адчайныя размахванні,— пайшоў і ён.

Дык што? Памог толькі падтрымаць бацьку, ужо голага да пояса, як пад яго падкладвалі ватоўку. У вачах і зараз стаіць бацькава поўнае цела з прыліплымі сівымі кудзеркамі на змочаных грудзях, з пунсовымі напырсканымі кроплямі і плямамі. Памог і насілкі потым заносіць у «скорую», хоць бацьку ўжо нічога не трэба было; улез і сам у машыну — суправаджаць, хоць і гэта, мабыць, было непатрэбным.

І от жа насланнё: наглядзеўся ж на бацькава цела на зямлі, і як у машыну заносілі, і ў машыне, і потым, як з Юрам Расолькам і дзядзькам-санітарам пераадзявалі бацьку ў купленае Лявошкам адзенне, не мог паверыць у сапраўднасць таго, што нарабілася. Быццам гэта быў не бацька — цяжкі, цяжкі... Што гэта не на яго грудзях такі рубец-шрам, абы-як, вялікімі шыўкамі схоплены грубаю ніткаю (зашылі пасля ўскрыцця). «Гэта такі чалавечы тлушч?! Не можа быць... Не можа быць! Гэта ўсё — бацька?! Такое вось... бацька?! Гэта ўсё, што засталося ад бацькі?!»

Ён і праўда тады ў трупярні абмацаў кішэні бацькавых старых штаноў — каб хоць не выкінуць разам з імі якіх дакументаў. І знайшоў толькі бруднаватую насоўку, блакноцік і ножык-складанец, прывязаны за ланцужок. «Адшчаплю... На памяць вазьму...» — рашыўся ён. І ўзяў...

«Дык чаго яна так ускінула голаў, як пра ножык пачула?» — вяртаўся і вяртаўся да гэтай думкі-пытання, пакуль ішоў за трунoю на могілкі, пакуль развітваліся там і засыпалі магілу, пакуль вярталіся назад. І не мог дадумацца — чаго, нават у галаву не прыйшло тое, што думала пра яго мачыха. «А неспраста ж яна так вылупіла вочы... Неспраста... Штосьці за гэтым хаваецца...»

## 4

«Ну вось... Цяпер — мая чарга. Я самы старэйшы пасля бацькі. Маці — там... Бацька — там... Чарга за мною? Выходзіць, што так... Логіка жыцця і смерці... Няўмольная логіка. А колькі мне яшчэ адмерана тупаць? Ніхто не ведае, ніхто не скажа... Бацьку лёгка было паміраць. Ну — не лёгка, не тое слова... Мы ўсе дарослыя, усе маем свае сем'і. І Федзя будзе мець, дзе дзенецца... Усе прыпучаныя... хоць каторыя і бяспутныя...— Гардзей згадаў Рыгора.— Для сябе хацеў стары яшчэ трохі пажыць, ні ў што не ўмешваўся. А не ўдалося — толькі для сябе... Свет хітра ўстроены: нельга толькі пра сябе думаць і дбаць. Адразу перакос — і... успамінай як звалі...»

«Бацька то хоць унукаў дачакаўся... Каб яшчэ год-два, то і праўнукаў. А я? Не-не-не, рана мне яшчэ пра смерць думаць...»

«Сукін сын, арты-ы-ыст... Казаў жа яму — і не рыпайся, вучыся, канчай інстытут, калі ўдалося паступіць. Не — у артысты заманулася. І што выйшла? Як у таго каваля — пшык...»

Не раз і не два намацваў Гардзей у кішэні пісьмо. Пра Сяргеева пісьмо яшчэ не ведае Наташка, другая «артыстка». Уручыла паштальёнка ліст у самы апошні момант, ужо вырульвалі на машыне з двара, каб ехаць на пахаванне. Чытала Ларыса, а ён руляваў і слухаў. Як абухам па галаве глушыў сынок: бух — не паступіў у тэатральна-мастацкі; бух — прыжаніўся ў горадзе, знайшоў сабе кралю; бух! — у інстытут механізацыі рашыў не вяртацца...

«А куды? А што? А як?!» — засыпаў Ларысу пытаннямі. А яна плакала, круціла пісьмо і так, і сяк, нібы вышуквала адказу на гэтыя пытанні, закатвала істэрыку: «Высадзі!... Я лепш з моста кінуся!..»

«Сціхні, дурніца... Усе людзі жэняцца, дык з-за гэ-

тага з моста? Мо ў другім пісьме больш напіша... У іх зараз мядовы месяц, усё астатняе для іх дробязі...» — «Якія дробязі?! Го-о-оспадзі, божа... Ды як яны жыць будуць?! Ён жа нічога не ўмее, і ніякай спецыяльнасці за душою! Сядзецьмуць удваіх на цесцевай шыі?» — «Ну... мо працаваць куды пойдзе...» — «Ды яго ж у армію адразу забяруць!» — «Забяруць, а што ж! Хай паслужыць, мо паразумнее... Мо дурату [redacted] галавы хутчэй выб'юць».— «То на чорта было распісвацца да арміі... Гэта ж добра, калі ўсё добра. А калі — не? Калі пачне хвастом круціць?» — «Не трэба дрэнна думаць пра людзей, мы ж не ведаем яе. От кончым жніво, з'ездзім, пазнаёмімся...» — «Я-я?! Паеду да і-іх?! Ну не-е, не дачакаюцца... І ў сваю кватэру на парог не пушчу!» — «Паласкаве-е-еш...»

І замоўк, і ехалі ўжо моўчкі, не абзываючыся адно да аднаго, хоць у галовах, мабыць, было адно і тое ж.

«Абрадаваў сынок... Уцешыў сынок... От свет настаў: што хачу, тое і раблю. На бацьку [redacted] маткаю яму ўжо і начхаць можна. Але ж калі ты на мяне чхаеш, дык і я ж на цябе магу... Як Ларыса кажа, і на парог не... Што ж тады атрымаецца? Чый чых будзе мацнейшы? Як з моста ў воду — боўць... У жаніцьбу ў гэту... І жоначка, мабыць, такая ж самая безгаловая...»

«Наташа не захацела на пахаванне ехаць, на памінкі... «Урокі прапушчу... Дзесяты клас, цяжка навярстаць будзе...» Яно-то, канешна, урокі гэтыя... Але ж ты не на вечарынку едзеш, не на пагулянку. Гэта ж мо табе родны дзед, бацькаў бацька... якога ніколі больш не ўбачыш...»

«А гадавалі ж, здаецца, ніякай прамашкі ні ў чым не далі. Самі ні ў чым не зблышылі... Усё жыццё працую, як вол. Не п'ю... За работу мяне паважаюць...»

І зноў думкі ішлі па крузе: пра бацьку, пра тое, што гэткая недарэчная смерць напаткала яго, пра мачыху... Як тут не паспачуваеш чалавеку — усё жыццё не шанцуе; і зноў — пра сябе, пра Сяргея, пра яго неабдуманыя ўчынкі.

І было трохі сорамна і ніякавата, што вось гэтак збіваюцца думкі на абы-што, замест таго каб думаць толькі пра бацьку — бо яго ж сёння дзень. І ведаў, што такая круцеліца ў галаве ў кожнага, так заўсёды было і будзе, гэта — жыццё. А ўсё роўна на сэрцы рабілася нядобра...

5 Народу было поўна і на двары, і ў сенцах, і на кухні. У хаце ўжо стаялі накрытыя сталы, нават больш іх назносілі, чым на бацькава вяселле,— поўная літара «П». Акрамя сваякоў чакалі застолля двое далакопаў ды шасцёра насільшчыкаў — маладыя мужчыны і дзецюкі, суседзі, механізатары. У Дуброве такі звычай: капаюць магілу і нясуць труну з нябожчыкам не блізкія і не сваякі. «Няможна сваім...» — Аўдотка пільнуецца законаў строга. І тры дні хату і сенцы не мятуць, і сорак дзён не чапаюць маёмасці, дабра памёршага... А чаму так, мо ніхто ўжо і растлумачыць не можа, нават Аўдотка. Звычай — і ўсё...

І ўсе стаялі, старанна, як не ўзахапкі, гаманілі пра ўсё на свеце, толькі не пра пахаванне, не пра смерць. І амаль усе мужчыны курылі, дымілі моцна, нават хто папярос і ў рот не браў. І Гардзей закурыў, і Федзя закурыў, і Лявошка...

Хто яшчэ не памыў рук, падыходзілі да плота, дзе стаялі на калодцы вядро з вадою і бляшаная конаўка, мылі.

— Усе памыліся? Калі ўсе, то можна садзіцца за сталы...— Аўдотка, уся ў чорным, прыстояла на ганку, і была ў постаці нейкая велічнасць, і, здаецца, не гнулі яе ўніз гады.

Пазалазілі амаль гэтаксама, як на вяселлі. На покуць пусцілі Пятра, бацькавага брата. Гэта — справа ад Аляксаны, а злева зайшоў Гардзей з Рыгорам, Федзя, Лявошка з Настасаю. Ларыса і Кацярына Пахвалёная засталіся на нагах, «на падхваце»: трэба ж было некаму сачыць за сталамі, у час падаць ці прыбраць што. А далей ужо — хто дзе.

Аўдотка прачытала гучным шэптам «Ойча наш» і пусціла па сталах вялікую гліняную міску з «канунам» (накрышаныя ў мядовую ваду абаранкі). У цішыні, якая ўсталявалася за сталом, толькі чуваць быў постук і скрыгат лыжак. Кожны чэрпаў па тры разы, патрошку, і клаў лыжку, міску перадавалі далей. Увесь «канун» не вычэрпваецца, у дне павінна застацца — для нябожчыка. «Не памінальныя прамовы, а цішыня... І «канун»... А што такое «канун»? — думаў Федзя.— Ці не ідзе гэта ад царкоўных прасвірак? Некалі захоўвалі па дамах асвечаныя на вялікдзень у цэрквах кавалачкі хлеба, булкі... А ў час во такіх памінак крышылі іх і паядалі... «во здравие души и те-

ла» тых, хто застаўся жыць... Хлеб — нібы плоць агнца божага, віно — во гэтая падсалоджаная вада — нібы кроў агнца... Прынашэнне ў ахвяру... Каб з'есці і набрацца сілы, выстаяць перад усялякім ліхалеццем, ударамі лёсу... А гэта ідзе яшчэ глыбей, у паганскі час, дахрысціянскі...»

— Прашу наліць чаркі,— ціха сказаў Гардзей і пачакаў, пакуль гэта зробяць усе, паглядзеў на дзядзьку Пятра: а мо трэба было, каб ён сказаў першае слова? Але той кіўнуў згодліва: давай-давай, працягвай.— Я хачу падзякаваць усім, хто сёння прыйшоў раздзяліць з намі наша гора... памянуць бацьку...

Загаманілі ціха, зашапталі, а Аляксана горна ўсхліпнула.

«Ага... Пухам яму зямля, мір яго душы».— «Людскі быў чалавек... І жыць мог бы яшчэ доўга...» — «Да-а-а... Каб ведаў чалавек, дзе пакоціцца, то саломкі патрусіў бы...» — Рыгор, ты што? Не чокаюцца на памінках...»

Выпілі, пакрэкалі, паахалі, пахукалі. Загаманілі гучней.

І чым далей Федзя ўслухоўваўся ў гаману, тым больш яго ўражвала: усё менш і менш гаварылі пра нябожчыка, пра смерць, пра пахаванне, нібы ўступаў у сілу і жорстка дзейнічаў інстынкт самазахавання: пра жывое трэба і думаць, і гаварыць, пра жывых, пра мірскія справы.

— ...Якая там душа-а? Выйдзе з цябе дух, от і ўся душа. Астальное — зямля... Дурань, хто думае, што нешта недзе яшчэ цябе чакае... Ні раю, ні пекла няма.

— Не, чалавеча! Штосьці павінна быць... А то ж вельмі страшна, калі — нічагенькі...

— Грыбы пайшлі... Ездзіў да Хітруна ў майстэрню мяняць каробку скарасцей... Дык яны ўжо скончылі ўборку, грыбы носяць... Дальбог! Па два кашы зараз маслякоў валакуць... А справядлівых, баравікоў,— няма.

— Што там у іх за лес? Смех...

— ...Лакіраваны гарнітур? Дзіва што купяць... Ён і машыну можа купіць. Дочкі яшчэ смаркатыя, а ўжо кожнай на кніжку па тысячы паклаў. На вяселле...

— Сам на свінаферме, жонка на кароўніку... Хай на няштатнай рабоце столькі заробіць...

— ...Ха-ха-ха... Куды ты, кажу, лезеш? Ці з тваім рылам?

З двух канцоў застолля пайшлі да сярэдзіны дзве міскі з капустаю — «шчамі». Зноў кожны чэрпаў тры разы, перадаваў ці пасоўваў суседу.

— Капусту яшчэ «паліваюць»... І «кашу» «паліваюць». Налівайце, мужчынкі...

Міскі сышліся на сярэдзіне, каля Гардзея і Аляксаны, чарпнулі па тры разы і яны. Зноў пачалі наліваць чаркі — сусед суседу, а тады ўжо і сабе, і рабілі выгляд, што толькі кроплю, толькі адчэпнага, дзеля звычаю.

Зноў гаманілі, гаманілі, гаманілі...

Потым «палівалі» «кашу» — трэцюю памінальную страву — бралі трэцюю чарку. Федзя зазначыў, што «каша» была не каша, а забелены малаком рысавы крупнік...

Ужо і свае пачалі зычна перамаўляцца паміж сабою, не толькі чужыя. І ўжо справіліся некаторыя без усякай каманды ўзяць і па чацвёртай чарцы, пачалі забывацца нават, што сядзяць за жалобным сталом, а не за вясельным, застолле рабілася некіруемым, і Федзю браў страх: чым усё можа скончыцца? Ды тут устала Аўдотка, пачала шаптаць малітву — і ўсе пачалі ўставаць.

— Заўтра ў сем вечара. Чуеце? Усе чулі? Прыходзьце на траціны... Усе! — некалькі разоў аб'явіў Гардзей, пашаптаўшыся з Настасаю.

Атрымалася так, што за сталом на нейкі момант засталіся Аляксана і Гардзей — усе ўжо вылезлі.

— Гардзейка, што я хачу табе расказаць... Парай, што рабіць, ты ж старэйшы, ты разумнейшы...— зашаптала Аляксана, гледзячы ў стол, нібы не хацела, каб хто заўважыў іх перамовы.— Я не асмельвалася гаварыць, але ж спакою няма, думкі зняволілі... Скажу, думаю, а ўжо, як ён параіць, так і будзе.

— А што... такое? — насцярожыўся Гардзей.

— Гардзейка, ты толькі не думай чаго нядобрага. Я нікому не хачу ніякага ліха... Я і табе не казала б... Пайшоў Іван Іванавіч — і хай ідзе з ім усё. Абы ціха было і мірна.

Гардзей нервова саўгануўся па лаве, нецярпліва падціснуў вусны.

— Адны нейкія загадкі... Распачалі, то гаварыце ўжо.

— Гардзейка... кашалёк, бумажнік бацькаў прапаў...— голас Аляксаны задрыжаў і нібы зламаўся.

— Як гэта прапаў? А дзе ён быў?

— Пры ім. Пры сабе бацька яго насіў... Моду такую меў.

— Мо згубіў, а вы не ведаеце. Калі вы апошні раз бачылі той кашалёк?

— Учора вечарам. Ён латарэйкі даставаў з яго, правяраў. Газета з табліцаю прыйшла... На здачу ў магазіне далі яму дзве латарэйкі. Я яшчэ і папракнула яго: «Абы грошы пераводзіць...» Праверыў — і ні рубліка не выйграў. Дык папляваў, як на маркі, хацеў на сцяну на кухні ляпнуць... А я не дала... І на ноч пайшоў у сушылку з кашальком.

— Ну, то ці мала што магло здарыцца... Мог дзе і ў сушылцы абраніць.

— Мог, хіба я кажу, што не...— Аляксана неспакойна пазірнула ў дзверы кухні, дзе было яшчэ поўна народу і дзе чуваць быў Рыгораў голас.

— Ёсць на каго падазрэнне?

— Ага... Ножык бацькаў у Рыгора аказаўся. Вы ж мо чулі? «На памяць, кажа, узяў». З ножыкам бацька тожа ніколі не расставаўся.

— Та-ак...— яшчэ больш сурова падціснуў Гардзей губы, нахмурыў бровы.

— Рыгор жа пераадзяваў бацьку... У Слуцку... І ў Слуцак яго суправаджаў... Мо ён і абчысціў кішэні! — паспешліва, з хваравітым бляскам слёзна-счырванелых вачэй дашаптала Аляксана.

— Та-а-ак...— ужо з болем у голасе сказаў Гардзей. Выдыхнуў сутаргава, з перабіўкаю.— Гэта — косвенныя доказы, а не прамыя. Колькі там грошай было?

— Не ведаю... Не асмельвалася ніколі зазірнуць. Помню, што пухнаты быў, тоўсты... А ў пінжаку я глядзела — няма,— дабавіла Аляксана.

— Аг-га! Дык пінжак дома?

— Ну... Аўдотка аддала... Я ж прыляцела з фермы, то спачатку дадому заскочыла. Гляджу — замочак целяпаецца так сабе, ускрыты...

— Дык у вас яшчэ падазрэнне, што і ў хату залезлі?!

— Не ведаю, не хачу нічога казаць...

— А вы добра помніце, што замыкалі хату, ідучы на ферму.

— А як жа ж! Каб не помніла, то не гаварыла б.

— Мо ў бяспамяцтве самі адамкнулі...

— Не, не... Нешта мяне як спыніла перад дзвярыма. Бачу — вісіць так сабе, для прыклёпу. Я на Дар'ін двор пабегла... А там ужо і няма бацькі — павезлі. Мне казалі, сама не бачыла — голага да пояса, простыняй накрылі.

— А дома шукалі? Мо ён усё-такі адзін раз дома кашалёк забыў... Як выключэнне.

— Шука-а-ала, Гардзейка... А няўжо ж не! Усю пасцель перавярнула.

Гардзей зморшчыўся, трошкі далей адсунуўся ад Аляксаны — мо каб лепей было зазірнуць ёй у твар?

— А дзе бацька насіў кашалёк?

— У пінжаку... А калі ў адной рубашцы хадзіў, то ў нагруднай кішэні. У яго такія рубашкі — з вялізнымі нагруднымі кішэнямі. Але ж мог адзін раз і ў штаны пераласці... як ты кажаш — выключыўся.

— Та-а-ак...— яшчэ раз, ужо сурова сказаў Гардзей, скамячыў кулакі і ціскануў імі па стале перад сабою.— Нікому больш ні слова... Вельмі папрашу — ні слова! Каб самі не пыталі ні ў кога, не расказвалі нікому... А то можа такая каша заварыцца — не расхлёбаеце. А заўтра... А заўтра я скажу... як далей што...

## Раздзел другі

I. I сорам, і злосць, і агіда, і абурэнне — цяжка сказаць, што яшчэ не адчуваў Гардзей, ідучы да Лявошкі. Ішоў начаваць, як і тады, калі прыязджаў на бацькава вяселле. І Федзя стомлена крочыў следам і прыгнечана маўчаў, усё перажываў уражанні дня. Дзядзька Пятрок з жонкаю засталіся ў бацькавай хаце, аблюбавалі печ: «Во... Нам смялей тут, каля стрэльбы...» Ні Настаса, ні Ларыса яшчэ не ішлі — засталіся парадкаваць на сталах, памагаць Аляксане ўходжвацца.

Прыйшлі і сядзелі ўпоцемкі спачатку без Лявошкі — той хадзіў да Расолькавай маці, прынёс сонную Свету, прывёў Віцю (аддавалі старой паглядзець, па-

няньчыць, пакуль скончыцца заваруха). А пакуль сядзелі адны, не ўтрываў Гардзей той пякучкі, што назбіралася ў грудзях, расказаў усё Федзю — хацелася з некім і параіцца.

— Чорт ведае што такое... Гэта ж як пусціць пагаласку па сяле, што яе абакралі... Як дзёгцем абмажа ўсіх.

— Не можа такога быць! — цвердзіў Федзя.— Яна не такая... так песні любіць...

— Што не можа? Во толькі што, кажу, шаптала мне за сталом!

— Не веру. Яна — не такая... Нават калі выявіла прапажу, то прамаўчала б.

— Выходзіць, мы яе слаба ведаем. Песенькі песенькамі, а...

— А колькі там было грошай? Сабралі б, скláліся... Каб і Грыша не ведаў, ніхто не ведаў!

— Ты думаеш, можна падазраваць Рыгора?

— Яна падазрае. А даведаецца Рыгор пра гэта... ды яшчэ калі не вінаваты... разарве яе на кавалкі!

— Федзя, я не так спытаю: ты верыш, што Рыгор мог гэты кашалёк узяць?

— Не веру. Але ж магло якое замарачэнне найсці...

— І я не веру. Але... такога браціка бог даў... Толькі і чакаеш, якога яшчэ коніка выкіне.

Доўга маўчалі, цяжка, са стогнам скрыпелі пад імі спружыны канапы. Федзя адкінуўся на спінку, раскінуў рукі ў бакі — каб лягчэй дыхалася. Прашаптаў гарачліва:

— Каб ніхто ж не ведаў... А то мо ў Дар'і пытала ўжо пра той кашалёк?

— Не толькі Дар'я каля бацькі была. І сын, яе, і Кірэйчык, і Каменскі, і Аўдотка...— Прыціснуў голас да шэпту: — І Лявошка, мабыць... Рыгор потым толькі... Калі весці расследаванне, усіх трэба апытваць! — Гардзей устаў, нервова пацёр рукі, уключыў тэлевізар, але тут жа яго выключыў. Зноў сеў, але ўжо на крэсла каля тэлевізарнага століка, затрыкаў па ім пальцамі. Зірнуў на спальню, дзе Лявошка ўкладваў малых, і перастаў стукаць. Сашчапіў пальцы ў замок, з хрустам ламануў іх. Ніколі не бачыў Федзя яго такім узрушаным.

Урэшце вызваліўся ад клопатаў, прыкульгаў да іх Лявошка.

— Чаго вы ў цемнаце? — і пстрыкнуў, як стрэліў, выключальнікам.

Рэзнула па вачах, Гардзей і Федзя пазакрываліся далонямі. Нібы няёмка зрабілася абодвум за такія шэпты, сорамна было глядзець адзін аднаму ў вочы.

— То чаго змоўклі? — зноў спытаў Лявошка і стомлена, усім цяжарам абрушыўся на крэсла.

— Чорт ведае пра што даводзіцца гаварыць... Каб ты чуў — за галаву схапіўся б,— уздыхнуў Гардзей.

Лявошка насцярожыўся:

— А што такое?

— Ёсць што казаць, ды няма чаго слухаць...— Гардзей паглядзеў на спальню, нібы мог там засесці які віжун.— Кашалёк бацькаў прапаў... Аляксандра Піліпаўна падазрае Рыгора...

Лявошка прысвіснуў і абарваў свіст, таксама зіркнуў на спальню: ці не варушацца малыя?

— Хадзем на кухню, а то паразбуджваем...— устаў Гардзей. За ім Федзя, затым Лявошка.— Ды чайку б не шкодзіла... Усухама цэлы дзень...

Падручыўся паставіць чай Федзя.

— Чайнік у верандзе! І запалкі там, на пліце! — пагукаў яму ўслед Лявошка. Змахнуў у жменю крошкі з кухоннага стала, кінуў, цэлячы, у памыйнае вядро.— Прысаджвайся...— І пачаў вымаць з кухоннае шафачкі-буфета пячэнне, цукарніцу, шклянкі, паставіў сподачак з маслам.

— Есці нічога не даставай.— Гардзей за стол на заслон не залазіў, а апусціўся на табурэтку каля зачыненай палавінкі дзвярэй, тварам да сенцаў. Угнуўся, локці на калені, зацiснуў лоб далонямі.— Такога мацюка хочацца загнуць!.. Каб шыфер са стрэх пасыпаўся...

— Проста падазрае ці ёсць якія доказы? Мо хто бачыў? — Сеў і Лявошка, локаць на стол, позірк над Гардзеевай галавою — у чорную засланку печы.

— Ускосныя, як кажуць юрысты. Ножык таксама быў пры бацьку, а... цяпер у Рыгора.

— Я даганю Рыгора! — вырас у дзвярах Федзя.— І напрамую папытаем!.. І запатрабуем, каб да мачыхі не чапляўся... пасля нашых роспытаў... калі не вінаваты...— Федзя глядзеў то на Лявошку, то на брата, а яны маўчалі і нічога не адказвалі.

— Ты паставіў ваду? — падняў урэшце галаву Гардзей.— То заходзь... І сядзь, пасядзі...

Федзя не сеў, падпёр плячом вушак і нервова кусаў кіпці.

— А колькі там было грошай? Аддаць бы ёй... каб і Рыгор не ведаў... Хаця... тады на нас можа падумаць, што мы ўзялі.— Лявошка пасунуў па стале сюды-туды шклянкі, нібы выбіраў для іх зручнейшае месца; у адной пранізліва дзвінькала лыжачка.

— Чуеш, Федзя? Не толькі мы такія разумныя... І мы спачатку такое былі надумалі. Але ж гэтым высакародным учынкам мы падазрэння з Рыгора не знімем. Яна ўсё роўна будзе на яго касіцца...— Гардзей цяжка, па-старэчы ўстаў, пачаў расхаджваць па кухні.

— Не веру! Не веру, і ўсё! — забіў перад сабою кулаком Федзя, нібы цвікі заганяў.— Не веру — што Грыша ўзяў кашалёк! Не веру — што магла такое падумаць Аляксана! Не веру!

— Таварыш ідэаліст! — Гардзей прыпыніўся насупраць яго, зірнуў, як на малога і наіўнага, і зноў захадзіў. Са скептычнай усмешкай глядзеў на Федзю і Косця Лявошка. Закранула Федзю за жывое — рэзка крутнуўся ў дзвярах.

— Я пайду па Рыгора! Я яму морду наб'ю, калі што!..

— Пастой! — ступіў да дзвярэй Гардзей, нахіліўся ў сенцы, трымаючыся за вушак.— Не пары гарачку!.. А то можа так даць здачы...

Не спыніўся Федзя і не сказаў нічога — пабег.

— Гардзей, сядзь і ты...— уздыхнуў Лявошка.— Можа, і лепш так: трэба з нечага пачынаць. Высветлім усё — заснем спакойна. Пагаворым тут па-свойску і паставім кропку.

— Папёр, малахольны...— Гардзей расслаблена каўзануў рукою па вушаку.— А ты Рыгора слаба ведаеш... Ён бывае шалёны проста,— вярнуўся на сваю табурэтку.

— Не хапала яшчэ нам пабіцца, як Патапавы дзеці... Чуў мо? Нядаўначка зусім...

Гардзей пакруціў галавою.

— Спачатку сам Патап памёр... У бальніцы... А потым і Аміля, на адным тыдні, жонка... І ніхто не ведаў! Суседка пацікавілася: чаму дым з коміна ўжо другія суткі не ідзе? Торкнулася ў дзверы — зачынены знутры. Яшчэ пазвала мужчын, узламалі сякераю... Ляжыць на печы, скарчанеўшы... Да-а-а... Як мухі сып-

люцца старыя... Дык дзеці іх... Галя ў Слуцку жыве сваім домам, ты ж ведаеш, а Сеня ў Чалябінску кватэру мае... Дык на памінках пабіліся. За дом! Ніяк не маглі дамовіцца, падзяліць...

— Ведама, нелюдзі... Што пра іх казаць!

— У нас цяпер не проста прадаць хату. Тры стаялі з забітымі вокнамі, дык дзве калгас купіў для спецыялістаў, а адна так і стаіць, як сляпая. Няма пакупнікоў! І я сваю халупу не магу прадаць.

— Дык у цябе ж мо настаўнікі жывуць?

— Жывуць... Як кватаранты. А купляць не хочуць. Збіраюцца, мабыць, выязджаць. Вучыць няма каго... Помніш, як мы некалі вучыліся? Па чатыры першых класы было... А цяпе-е-р — аднаго камплекта не могуць наскрэбці. Злілі першы і трэці ў адзін камплект, адна настаўніца вядзе... І што сабе кіраўнікі думаюць? Для каго ўсяго столькі набудавана? І ў калгасе не хапае людзей, і ў горадзе...

— Як быццам кіраўнікі вінаваты... Не прымусіш чалавека раджаць, калі ён не хоча.

— Жывуць жа — лепш, здаецца, і не трэба. А дзяцей — няма! А можна было б прымусіць... Праўда, мужчын і прымушаць не трэба, гэта жанчынам трэба ўмовы стварыць. Унь у Францыі, пасля вайны... Думаеш, я прэсу не чытаю? У іх так былі зрабілі, што кожная сям'я завяла па пяць, па шэсць дзяцей. Нават міністры, члены ўрада...

— А ў каторага-та Кенэдзі — адзінаццацера ці дванаццацера.

— Ну, дык то мільянеры, у іх там мамак-нянек тузін.

— І ў нас адразу пасля вайны было многа дзяцей. Цяпер у тых дзяцей свае дзеці. Толькі за лік гэтага яшчэ трохі расцем.

— І от жа, скажы, і ў сяле навучыліся хітраваць: двое, ад сілы трое. Усядно як струманты на вышкі пазакідалі.

Гардзей усміхнуўся.

— Не, на Палессі яшчэ ёсць вялікія сем'і. Нават за жанчыну тую не лічаць, якая аднаго-двух прывяла. Усё дапытваюцца, ці не хворая...

— І ў Сярэдняй Азіі сем'і вялікія.

— Там традыцыі жывучыя.

— Во... чайнік барабаніць вечкам.

— Сядзі, я сам,— Гардзей пайшоў у сенцы.

— Ці ўмееш ты хоць добра заварваць? У нас штосьне атрымліваецца, дык мы рэдка п'ем. От, бывае, калі заманецца... Усё малако пу́гаем...— Лявошка дастаў з шуфляды пачаты пачак грузінскага чаю, з шафа́ўкі — чайнічак і вычакальна паглядваў у сенцы.

— Умею, умею...— вярнуўся Гардзей з чайнікам. Спаласнуў кіпнем малы чайнічак і раз, і другі, засыпаў чаю і наліў вару, захутаў ручніком.

— Малако больш карыснае. А што чай? Вада...

— Мы ж без каровы. А малако з магазіна, часам і не застанеш.

— Няма лепш, як свая карова. Хоць і з сенам клопату, але ж... Калі дзеці малыя, то чайком не выгадуеш. Гэта ўжо не дзеці.

— А хто ж? — Гардзей зноў пасміхнуўся. Любіў пагаварыць з Лявошкам. З ім — пра ўсё можна, адкрыта і шчыра. Нават з грамацеем Федзем, з утрапёным Рыгорам не знаходзіў пра што, а галоўнае,— як гаварыць. Не атрымлівалася так па душах, як з Лявошкам. Косця можа бясконца знаходзіць тэмы і па кожнай мае сваю думку, часам і не арыгінальную, і вельмі катэгарычную. Дый Лявошка, мабыць, любіў з ім гаварыць, бачыў у ім нераўнадушнага апанента.

— А хто? — перапытаў Лявошка.— Сурагат, эрзац... Штучныя замяняльнікі, а не дзеці.

— Ну й даеш! Ну й гумарыст... Мільёны дзяцей вырастаюць, у вочы не бачаць ні каровы, ні малака. Акрамя мацярынскага, канешна... І геніяльныя вучоныя сярод іх бываюць, і кампазітары, і пісьменнікі. Нежыццёвая, брат, тэорыйка...

— Як сказаць... А тыя, што нават без мацярынскага малака гадуюцца, цыцкі не ссуць, вабшчэ ненармальныя: дзіч нейкая ў душы застаецца, хвароба. Душэўная калахматасць...

— А хай цябе!.. з тваімі тэорыямі... Гаворыш — і нават не ўсміхнешся. Каб гэтак лёгка было ад калахматых душ пазбаўляцца, ніякіх праблем не было б у выхаванні. Глядзелі б толькі, каб кожнае дзіцяня ў свой час прайшло лячэнне мацярынскім малаком — і ўсё. Фермы нават маглі б пабудаваць, замест цялят — малышня выпойваецца, соскі смокчуць. Мардасценькія такія, бадзёрыя дуралобы...

— Масавая вытворчасць.

— Ага... А вырастуць, то толькі і будуць прыгодныя на адкорм... ці жуйку жаваць.

— Жарты жартамі, а тое, што бліжэй да прыроды, да натуры, здаравей і фізічна, і маральна.

— Тут я не спрачаюся...— Гардзей прысеў да стала, наліў у шклянкі заваркі, развёў кіпнем.— Давай лепш абдумаем, як з Рыгорам размову весці.

— Прыгожы чай... на колер... А што тут прыдумаеш? Ты ж народны засядацель у судзе, табе і карты ў рукі.

— Засядацель!.. От іменна... А не следчы і не суддзя. І тут не народны суд.

— А чаму не суд? Сямейны... Па-сямейнаму нават мацней можна пагаварыць, як у судзе.

— Ага... Бывае па-сямейнаму... Ці бывала... Калы нават хапалі, каламі праўды дабіваліся... Ці касою па нагах. Народны суд вышэй за сямейны, але туды справу не будзем перадаваць.

— Факт, што не... Разбярэмся! Гардзей, ведаеш што... Можа, узнікне справа аб спадчыне — як нам усім быць? Ты ж больш у гэтым разбіраешся.

— Наколькі разбіраюся — не ўзнікне. Калгасны двор — такое паняцце ёсць. А пакуль хто жывы з гэтага двара, справа аб спадчыне не ўзнікае. Усё таму пераходзіць.

— Мо й так. Але ж не распісаная Аляксана Піліпаўна з бацькам — як тут будзе?

— От чаго не ведаю, таго не ведаю.

— І гэта... Ну, на тое, што ў хаце, каля хаты... вуллі... маёмасць усякую — як? І на тыя грошы, што на кніжцы,— чые яны?

— З маёмасцю... ну гэта ж уласнасць двара! А мо і не так — не ведаю. А пра грошы — была такая справа ў судзе. Праз паўгода толькі спадчына адкрываецца на іх.

— Павер, мне ўсё гэта да лямпачкі. У мяне свайго хапае. Але ж прыйдзе Настаса, то пачне церабіць, дапытвацца — што будзе? Як будзе?

— Кажы: усё вырашыцца праз паўгода. Хай пажыве спакойна.

— І Аляксана Піліпаўна мае права на тыя грошы, што на кніжцы?

— Не ведаю. Усё высветліцца... Мне таксама ад яе нічога не трэба.

— І мне. Але ж мы не дзеці і не бабы... Нам трэба ўсё ведаць, каб і іх у руках трымаць.

Так і не паспелі дамовіцца, з чаго пачаць гаворку з Рыгорам.

Раптам за вокнамі пачуўся роўны і густы шум, потым — паспешлівы тупат, галасы. Вось ужо і ў верандзе гулкі стук ног, крокі ў сенцах, голас Рыгора...

## 2

— Во ўсыпаў, ліхаматары... Даўно, бач, не было, саскучылі...— Рыгор прыпыніўся ў парозе, цяrнуў па твары рукою, здаіў адным махам кроплі і з барады, трэпнуў кісцю ў бок памыйнага вядра.

— І ў нас жа так, на Палессі. Дасць адзін дзень паўбіраць, а на другі то абавязкова ўлупіць, калі выцерпіць зранку, то пасля абеду жджы,— міралюбіва сказаў Гардзей. «Добра, што Федзя не «завёў» Рыгора па дарозе...»

— Сядай во сюды... Чаю пап'ём разам,— запрасіў Лявошка і грукатліва пасунуўся разам з табурэткаю да краю стала.

— Інцелігенцыя, ядры вашу... Ча-аі-і...— Рыгор ступіў да стала, з кішэні штаноў выняў бутэльку «Экстры», паставіў на цэнтры, пасунуўшы бутэлькаю чайнік убок, і сеў. — Давайце хоць па-сапраўднаму памянём бацьку, а то з-за гэтых баб і бабуль жыцця няма... Гэта вы правільна надумалі адным пасядзець, па-мужчынску,— гаварыў Рыгор і здзіраў накрыўку з бутэлькі. Наліў у адну парожнюю шклянку каля сябе, памкнуўся з бутэлькаю да Гардзеевай, але там быў чай, да Лявошкавай — чай.— Дапівайце ці вылівайце гэтую бурду... А дзе яшчэ чацвёртая? А што ж закускі ніякай не ўкрышыў, таварыш Лявошка? Трэба было хоць адтуль захапіць, са сталоў... А ты чаго стаіш, як Ісусік? Сядзь! — нібыта прыкрыкнуў на Федзю.

— Размашысты ты сёння... Цесна каля цябе...— сказаў Федзя, але не палез за стол, на покуць, а схадзіў у пакой і вынес крэсла, прымасціўся ў розе стала, бліжэй да Гардзея і вычакальна паглядзеў на яго, на Лявошку,— чаму ініцыятыву перапусцілі Рыгору?

— Тады стойце... Сыр павінен недзе быць...— Лявошка рыўком падняўся з табурэткі, дыбнуў да шафачкі-буфета і выняў адтуль талерку з пачатым клінковым сырам і чацвёртую шклянку, груклівa ступіў да ста-

ла: з белага кантэйнера-хлебніцы дастаў урэзаны бохан хлеба, накроіў.— Відэльцаў — выбачайце... Усе там...— махнуў у бок бацькавай хаты.

— Мы — рукамі... Я рукамі, я не інцелігент...— Рыгор шчодра плюхнуў і ў чацвёртую шклянку.

«Не можа, каб не задзіраціца...» — Федзя зноў вычакальна паглядзеў на Гардзея, на Лявошку. Што далей? Піць? Чаму ініцыятыву не забірае Гардзей?

— Ну, добра... Давайце па якой кроплі, не больш...— Гардзей пракашляўся, нібы ачнуўся, дапіў чай і працягнуў шклянку Рыгору.

Дапіў і Лявошка чай, а шклянкі не падстаўляў, Рыгор сам да яе пацягнуўся з бутэлькай, плюхнуў.

— Давайце... За бацьку... За вечны яго спакой...— Рыгор сказаў гэта хрыпата і ціха, а выпіў адным духам, укінуў у рот скрылік сыру, пачаў смактаць яго.— Усёткі бацька быў... мужык што трэба...— Ад наліплага на язык сыру выгавар ў Рыгора быў нячысты.— Калі, канешна, браць у цэлым, у разрэзе яго жыцця... А не ў часнасці... У часнасці і на сонцы плямы бываюць.

— Ага... Самастаяцельны чалавек,— падтрымаў яго Лявошка.

— Ух, бацька, бацька...— Рыгор нечакана ўсхліпнуў, скрывіўся на адзін бок, неяк прыглушана ўзвыў, але стрымаўся, толькі паскакалі трохі, падрыжалі вусы і барада. І гаварыў далей як не са стогнам: — То хай бы ж і пажыў яшчэ, пацвіў... бабіна лета, і ўсё такое... Калі сумеў змайстраваць бочку... Сабраць, сціснуць клёпкі... Я тады напрасна на яго, я ж і прывыкаць пачаў да яго статуса...

Апошніх яго сказаў не разумелі, думалі — па п'янцы вярзе абы-што. Але і не перабівалі: такім Рыгора яшчэ не бачылі.

— Не пі, Грыша, больш... Ні гарэлкаю, ні слязамі не паможаш,— сказаў Гардзей.— Усім цяжка, не толькі табе.

— А я і не п'ю... Цяжка! Па-ўсякаму бывае цяжка... І не ўсякаму... Я толькі цяпер бацьку зразумеў: адзінокі ён быў... Як і я... Ад адзінокасці і ратаваўся, калі ў жаніцьбу ўцякаў. Адкуль вам ведаць, што гэта за штука такая! У вас усё благапалучненька... А гэта ж горш цюрмы, горш нуды-кароcты. Ні жонка, ні дзеці не ратуюць... Не радуюць... А ён думаў — жэніцца другі раз, і ўра-а!.. і ўратаваўся... Эх, бацька, бацька!..

Усе маўчалі. Кожны думаў: «А я? Я адзінокі? Ці ўсё ў мяне «благапалучненька»? Першы ўздыхнуў у адказ на свае думкі Гардзей Іванавіч, затым пакашляў Лявошка, а Федзя пацягнуўся да чайнічка наліць сабе заваркі. Потым спахапіўся, што ліў у недапітую гарэлку — устаў, спаражніў шклянку ў памыйніцу, спаласнуў варам — мо хацеў, каб не чуваць было гарэлачнага паху, і зноў пачаў нацэджваць заварку. Рыгор нібы толькі зараз заўважыў яго турбацыі.

— Чай з гарэлкаю... ад прастуды добра...— І назнарок пачаў рабіць сабе мешанку: грам пяцьдзесят гарэлкі, столькі ж заваркі, астатняе даліў з вялікага чайніка. А цукру не ўсыпаў, як забыў на паўдарозе, што хацеў рабіць, паставіў перад сабою стаўпом вочы.— Морг гэты самы... Зайшлі з Расолькам... Бачым — не вытрымаем. Даў пяцёрку санітару, кажу — аблачы сам... А ён: не падолею перавярнуць, туша такая... Пайшлі з Расолькам, раскалолі бутэльку... Ну — храбрэй сталі... От жа прафесія ў чалавека... ці работа — з трупаміваждацца. Я не кажу, мо і калымная... Але як жыць з жывымі, калі ўвесь час з трупамі? А я ўгледзеў, які чалавечы жыр... на разрэзе... Як здор, белы... І не магу: стаіць і стаіць у вачах, у грудзях млосна...

— Пераста-а-ань...— сказаў Лявошка.

— Ты каўтні... Каўтні яшчэ,— паказаў Лявошка на яго шклянку.

Рыгор паслухмяна цмокнуў «чаю».

— Што ад чалавека застаецца... І ўвесь час дзікія думкі ў галаве: і ў мяне, калі разрэзаць... такое ж... І ў цябе, і ў пятага-дзесятага. Куча мяса, косці...

— Хопіць, кажу,— цвёрда сказаў Гардзей.— Урачы і жывога рэжуць, і нежывога, і ім хоць бы што.

— Мы не ўрачы, мы — людзі,— падкрэсліў Рыгор.— У нас нервы, а не вяроўкі і не дрот.

— Адзін вучоны сказаў: наша цела ёсць не што іншае, як прадукт узаемадзеяння двухвокісу вугляроду, вадзяной пары, сонечных праменняў і шчопця солі,— працытаваў Федзя.— Але — хопіць, праўда!

— Ага... Цынізм гэта... Дагаварыліся... у такі дзень!

— Гэты твой... прадукт узаемадзеяння ў зямлю ідзе. А на зямлі што? Ад чалавека — што застаецца? — не пераставаў Рыгор. Нават не верылася, што гэта *ён* пытае, што і *ён* урэшце задумаўся над сэнсам жыцця.

— Усё застаецца людзям... Кіно пра акадэміка Дронава бачыў? Чаркасаў здорава іграе...— Лявошка ўзяў лыжачку, усыпаў два разы ў Рыгораву шклянку цукру. А той ужо маўчаў, жмурачы вочы, як ад дыму, пакіўваў сабе галавою.

— Гэта добра, братка, што ты так разважаць стаў...— пачаў быў развіваць нейкую думку Гардзей. Але Рыгор зноў загаварыў пра сваё, не чуў старэйшага брата:

— Людзям... А каму? А калі тым людзям не трэба гэтага нічога? Унь у бацькі цэлы варштат інструменту ўсякага, адных гэблікаў штук дваццаць... А мне яны не трэба і вам не трэба. Ніхто з нас ні сталярыць, ні цяслярыць, ні бандарыць не ўмее... Аляксане і пагатоў не трэба, хіба што на базар вывезе, загоніць, каб не ржавеў...

Самы раз было папытаць тое, што рупіла братам і Лявошку. Рыгор сам падвёў да гэтага гаворку.

— Мы можам інструмент і на памяць сабе разабраць... Ды ў вольны час і памайстраваць добра, нервы супакойваюцца... Ты от узяў сабе ножык — і правільна зрабіў.— Гардзей глядзеў у твар Рыгору, чакаў, што той падыме вочы, сустрэнецца з ім позіркам.— Дарэчы, трэба было б добра агледзець бацькавы кішэні, а то хап-лап — павезлі. А там і дакументы якія маглі быць, і...

— Я глядзеў штаны... Во, яшчэ блакноцік з запісамі — колькі начысцілі, насушылі.— Рыгор схіліўся набок, дастаў з кішэні пацёрты і мяты блакноцік.

— Гэта — мне аддай, я ж кладаўшчык... Зверым запісы...— Лявошка забраў блакноцік.

— Больш не было нічога, добра помніш? — перапытаў Гардзей.

— Што я — сляпы ці дурны... ці п'яны быў? — выпрастаўся Рыгор.

— Грыша, нам трэба разабрацца, дзе мог дзецца кашалёк. Аляксандра Пілiпаўна сказала, што ў пінжаку яго не было.

— Ах, сука драпежная!.. Дык гэта яна... А я думаю — чаго яна на мяне вытарашчвае вочы?!

— Перастань! — рэзка абарваў яго Гардзей.

— Перастань?! Мяне абвінавачваюць у крадзяжы, а я перастань?! У Расолькі ж можна папытаць! Пры ім усё было!

— Не крычы, кажу. Дзяцей паразбуджваеш... Ніхто цябе не вініць ні ў чым. А разабрацца трэба, бо загадка атрымліваецца.— Гардзей паклаў локці на стол, бліжэй нахіліўся да Рыгора. Федзя крыху адсунуўся з крэслам, і атрымалася, што яны ўжо сядзелі побач, абодва ва ўпор глядзелі на Рыгора.— А як везлі бацьку ў горад, ты таксама быў у машыне...

— Быў, дык што? — Рыгор ціскануў сківіцамі, і бакенбарды тузануліся, нібы валасы хацелі стаць дыба і не хапіла моцы.

— Ніхто не мог па дарозе «пацікавіцца»? — вёў следства Гардзей.

— Ляжаў бацька накрыты з галавою. Ніхто яго за ўсю дарогу не адкрываў... Так і ў морг панеслі.

— Грыша, прыпомні... Ты ж хоць раз праводзіў позіркам па штанах, па нагах... Кашалёк жа не маленькі, а раскладны бумажнік, ён і з-пад коўдры выпнецца, не толькі з-пад просціны. Нічога не заўважыў, не кінулася ў вочы?

— Не... Каб быў у кішэні, то пазнаў бы... А так — гладка было.

— Адкінем тады і гэтую версію... пакуль што. Бо пэўна не можам сказаць... А мо ён з'ехаў, кашалёк, на бок, пры сцягне быў, і нехта чужы ўсё-такі ўгледзеў? Магло такое быць?

— Магло... Але як ты гэта праверыш? Тут бы хоць тое, што ў нашых сілах,— сказаў Лявошка.

— Эксперымент, дослед нячысты — так у навуцы называецца,— заўважыў Федзя.

— Чысты!.. Нячысты!.. Падзялілі ўжо на чыстых і нячыстых... Вы ўсе чысценькія, а Рыгор пэцкаль! Так яго!.. Ату! Кусі-кусі!

— Ціха, Грыша...— пастараўся спакойна сказаць Гардзей.— Я мог бы з сябе пачаць ці з Федзі. Але ў нас алібі поўнае: я позна прыехаў, а Федзя яшчэ пазней.

— Пытай у мяне, Гардзей, я не буду крыўдзіцца.— Лявошка дастаў, схіліўшыся, з-за стала, з лаўкі, палку-крывульку, паставіў між каленяў на падлогу і ўспёрся на яе — далонь на далонь. Нібы яшчэ адзін пункт апоры знайшоў, каб устояць пад градам пытанняў.

— А нашто мне пытаць? Ты сам прыпомні ўсё, крок за крокам, што рабіў у тую раніцу, дзе быў ці апынаўся каля бацькі... А мы паслухаем.

— Пры Аляксане трэба! Пры Аляксане! Яна ж

усядно не дасць веры, калі коратка ёй сказаць: не вінаватыя! — не ўцерпеў Рыгор.

— Можна і пры Аляксане... Заўтра пасля трацін пры ёй усё і паўторыце. Згодны? — Гардзей па чарзе паглядзеў на кожнага.

— А чаго! Хай слухае, калі заварыла кашу! Хай каўтае, калі нарабіла! — выкрыкнуў Рыгор.

— Я згодны,— коратка сказаў Лявошка.

— Праўда што... кашу... Ну — сваіх перабярэм. А чужых як? Мы ж не маем права весці допыт! — абурыўся Федзя.

— Права, права... А мяне цярзаць у вас ёсць права?! — Рыгор паторкаў сабе ў грудзі вялікім пальцам правай рукі.— Я патрабую, каб усіх! Без разлічыя рангаў! І чужых, і сваіх! — і рука пацягнулася да бутэлькі.

— Не пі больш. Тут і для цвярозай галавы завельмі ўсё сур'ёзна.— Гардзей забраў бутэльку, перадаў Лявошку, а той павярнуўся і паставіў на акно.— І так...

— І так... Я брытву, станочак разбіраў, брыцца кончыў... Я не люблю электрабрытвы, хоць і падарылі на пяцьдзесят гадоў. От бывае застанецца шчацінка ці кусцік, шморгаеш-шморгаеш — ніяк не заняць, вылузваецца...

— Косця, ты — бліжэй да справы,— голас у Гардзея быў сухі і строгі, як у суддзі на судзе.

— Ага... Нагі яшчэ не надзяваў, на мыліцы кульгаў... І тут чую крык на двары: «Аляксана! Аляксана!» А тады бліжэй да нашага дома: «Косця! Лявошка!» Я не пазнаў хто, яшчэ й акно адчыніў. Ажно Кірэйчык... «Ляці па Каменскага! Бацька кроўю сыходзіць!» Я не распытваў — дзе і што, бразнуў брытву, за мыліцу і выскачыў. Пакуль да машыны скакаў, то ён мне накрычаў, дзе і што нарабілася... Ну, я і прывёз Каменскага, з пасцелі, можна сказаць, выпараў... Рыгору яшчэ крычаў па дарозе, каб бег туды...

— Секундачку, Косця... Значыць, перад тым як ехаць па Каменскага, ты да бацькі не падбягаў? — удакладніў Гардзей.

— Не! Калі тое было! Гэта і Кірэйчык можа пацвердзіць, пры ім садзіўся і ад'язджаў... А прыехаў, то ўжо на двары ў Дар'і былі... былі...

— Прыпомні добра, хто.

— ...былі Кірэйчык, Мікалай Дар'ін... Сама Дар'я,

Аўдотка падышла якраз... Ага, і Юра Расолька... Мікалай з Юрам падтрымлівалі бацьку. Бацька на баку ўжо быў, галаву і плечы яму прыпаднялі... Кірэйчык твар яму мыў... Дар'я тут жа, у галавах, з вядром і конаўкаю стаяла. Палівала з конаўкі Кірэйчыку на руку... Кірэйчык, помню, яшчэ задам кабана абыходзіў і спатыкнуўся, сеў на яго.

— Распранаді пры табе ўжо? Не дымі гэтак, Грыша,— дыхаць няма чым,— папрасіў Гардзей. І Рыгор для прыліку памахаў рукою над сталом.

— Пры мне, Каменскі сказаў — раздзець... Кампрэсы клаў на грудзі.

— Так, не спяшайся, усё па дэтальках цяпер. Хто непасрэдна раздзяваў, хто трымаў бацьку?

— Дык я ж і кажу: трымалі Мікалай з Юрам, ну, трошкі таксама патузвалі за рукавы, памагалі, а раздзявалі Кірэйчык і Каменскі.

— Каму аддалі пінжак і рубашку?

— Дар'і, здаецца... Тут я добра не прыгледзеў, бо хадзіў браць з плота куфайку... Занятыя ў Дар'і былі рукі... Ага, Аўдотка ўзяла! Узяла і панесла ў сенцы, на ўсходцах, здаецца, высцепвала... А я, значыць, хадзіў па куфайку, прынёс, і яе пад Івана Іванавіча падсунулі... каб не голага, значыць, на зямлю.

— І больш ты ні рубашкі, ні пінжака не бачыў?

— Не.

— Пры табе... Нічога такога не заўважыў, ніхто кішэняў не правяраў?

— Божа барані... Нікому і ў галаў не стукнула.

— Та-а-ак... Настаса дзе ў гэты час была?

— Ну, як Кірэйчык стаў крычаць, яна бульбу скрэбла. Адале я паскакаў, то не бачыў, дзе яна была.

— Пры табе, пакуль бацьку забрала «скорая», Настаса прыходзіла на Дар'ін двор?

— Прыходзіла. Пазней, як пагружалі з насілкамі ў машыну. Як Каменскі сказаў, ну — што ўсё, значыць... Заплакала, закрычала... Яшчэ і за машынай прабегла трохі.

— Яна раней вярнулася на бацькаў двор, чым ты?

— Раней... Дадому ж трэба было... У печы палілася. А мы яшчэ трохі пастаялі, пагаманілі.

— На колькі мінут раней?

— А хто іх лічыў... Мінут на дзесяць, восем.

— Аляксана дзе ў гэты час была?

— Не было яшчэ яе, але неўзабаве прыбегла. Мяне не было ўжо там.

— Як бег ты да машыны... па Каменскага ехаць... дзверы ў бацькавай хаце былі на замку ці не?

— А чорт іх бачыў... А што?

— Замок ускрыты аказаўся. Так што магчымы і такі варыянт, кашалька пры бацьку не было, а з хаты яго забралі.

— Ты падазрава-аеш Наста-асу?! Думаеш, яна ў хаце пашворыла?

— Спакойна, Косця... Я не падазраю... Але ж мы дамовіліся, што не будзем крыўдзіцца, а перабіраць усе версіі.

Лявошка пачаў густа, проста неміласэрна чырванець. Ажно слёзы на вачах заблішчэлі.

— Дык... калі што якое... я з яе шкуру спушчу!

— А-я-я-яй, а яшчэ намеснік сакратара парткома...— падкалупіў Косцю Рыгор.— Не к ліцу гэта вам, таварыш Лявошка. Вы павінны быць абразцом... і другіх выхоўваць на сваім прыкладзе!

— Не пая-яснічай, Грыша,— папрасіў Федзя. У голасе — боль. Не ўтрываў, устаў, нервова захадзіў па кухні, не знаходзячы сабе месца: «Другі дзень усяго... І чым даводзіцца займацца?!»

— Яшчэ нічога не даказана, поўная цемната... І нельга кідацца такімі падазрэннямі! — папракнуў Рыгора Гардзей.

— Аа-а, нясмачна! А як мяне дапытвалі, скузавалі, дык можна было? Рыгор — вярблюд, усё валі на яго, усё выцягне. А я не вярблюд, а тым больш не ўгалоўнік!

— Паўтараю яшчэ раз: пакуль ідзе высненне, усім сядзець ціха, ні заўваг не рабіць і не каменціраваць. І пытанняў не задаваць: пытаць буду я! Калі будзеце распускаць эмоцыі, я адмаўляюся весці справу, хай ідзе ўсё на самацёк! — Гардзей таксама пачаў траціць кантроль над сабою.

— Не, не! Ты пытай да канца... Не трэба на паўдарозе...— згадзіўся Лявошка.

— Так! Да канца! Калі мне перамацалі рэбры, то хай і яшчэ хто паспытае, як гэта смачна! — Рыгор утапіў акурак у лужынцы на стале і пачаў адразу прыкурваць новую папяросу.

— Значыць, згода. Заўтра пасля трацін вы паўто-

рыце свае паказанні пры Аляксане. І дапытаем Настасу... А сёння будзем адпачываць ужо...— Гардзей устаў, каб пакласці канец размовам.

— Э-э, не-е! — усхапіўся і Рыгор.— Гэтак не будзе, браток... І сну не будзе! Ды за ноч Косця з Настасаю як хочаш згаворацца! У адну дудку будуць дудзець.

— Дык што іх... у кладоўкі, пад замкі рассадзіць? І вартавых паставіць, каб не перагаворваліся? — Федзя сказаў гэта такім тонам, каб звесці ўсё на паўжарт, прыцішыць страсці. Але ніхто жарту не прыняў. Рыгор нават ухапіўся за яго прапанову:

— А што! Для чыстаты эксперымента! Мяне дык можна па-ўсякаму, а ім прывілегіроўка? Ім можна цэлую ноч прыдумоўваць, як выкруціцца!

— Рыгор, падумай, што ты вярзеш? — спрабаваў суняць яго Гардзей.

Лявошка сядзеў нерухома, твар яго ашарэў і скамянеў. Ледзь варухнуў губамі:

— Заві, Федзя... Заві Настасу сюды і Аляксану... Хай пры Аляксане гаворыць. І мы яшчэ пры Аляксане скажам... Каб сёння ж паставіць кропку!

Федзю не дапытвалі, а яго трэсла. Ён мацаў яшчэ цеплаваты прымурак печы, хацелася прыцісную́цца да гэтай цеплыні грудзьмі. І па кантрасце ўспамінаў, які жахліва халодны быў лоб бацькі, калі цалаваў яго на могілках. Лавіў позірк Гардзея, які задумліва, ажно ногі запляталіся, тупаў па кухні, паглядваў і на Рыгора, які сеў на парозе сянец і пускаў туды, за вушак, дым, складваючы ў крывую трубку губы.

— Пагукай...— глянуў урэшце Гардзей на Федзю.— Будзем да раніцы, калі так... А заўтра ўжо з чужымі пачнем.

**3** Ледзь толькі Федзя ступіў у сенцы, абапёршыся на Рыгорава плячо, Рыгор мельхануў языком папяросу ў куточак рота, схіліў набок галаву і порстка ўстаў на ногі. Заскальваючы вочы, каб не так ела дымам, пайшоў да Гардзеевай табурэткі, адставіў бліжэй да печы, каб не замінала, пасунуў крыху на хату стол і тузануў з-за яго заслон-лаўку. Падняў на выцягнутых руках, пранёс над сталом, як кран стралу, над галавою Лявошкі, ажно той угнуўся, каб не стукнуў, не

зачапіў. І яшчэ нёс, а ўжо Лявошка з трывогаю спытаў:

— На чорта... Нашто ты яго дастаў?

Рыгор стукнуў-грукнуў ножкамі заслона пасярод кухні. Сеў сам на яго, абапёрся абапал рукамі, нават пагладзіў верх з нейкаю ласкаю. Бліснуў белымі зубамі з чорнага валосся барады:

— Пасадзім іх... абедзвюх разам... І ў вочы будзем глядзець — хай круцяцца.

Гардзей рашуча крутнуўся да яго, тузнуў за рукаў:

— Злазь. Ну! — і пацяг з-пад яго заслон.

— Не нукай, не запрог,— агрызнуўся Рыгор і не ўстаў.

— Гардзей, хай стаіць. Хай! Усё роўна ж трэба недзе іх садзіць. Хай будзе і лава падсудных...— абыякава-бясколерна сказаў Лявошка, нібы штосьці перагарэла ў яго нутры.

— Каб садзіць на лаву падсудных, трэба мець доказы віноўнасці. Неабвержныя!.. А мы яшчэ толькі распытваем, высняем акалічнасці. Уставай! — зноў тузануў лаўку з-пад Рыгора.

Рыгор штурхнуў Гардзея ў грудзі.

— Магу і я заадно пасядзець... Каб не скучалі... Усё магу!!!

— Хлопцы, хлопцы!.. Вы што?! — спужаўся Лявошка.— Не хапала яшчэ за чубкі пацягацца!

Гардзей крыжануў рукі на грудзях, зацiснуўшы далоні пад пахамі, рыўком нырнуў у сенцы. Мо баяўся, што не звалодае з сабою і таксама дасць волю рукам.

Лявошка і Рыгор унурана маўчалі. Дробненька стукацела Лявошкава палка.

— Чорт ведае чаго нарабілася... Чорт ведае на што падобна! І з-за чаго?! Нейкае драбноцце, кашалёк... ды мо яшчэ пусты!

— Не, сваячок дарагі! Не ў драбноцці дзела... Дзела ў гонары і чэсці! Хай вы тады мяне ў праўленні... за разрыў з Маняю грызлі... Ну, дык нічога не папішаш, вінаваты — цярпі! А тут жа... Гэта ж, не раўнуючы як ні з таго ні з сяго ў душу нахаркаць! Дык што — выцерся, і ўсё? І ўсміхайся па-сабачы?! Не-е-е, для чаго ж тады рэвалюцыю ў семнаццатым рабілі... Не-е, Сухавеі не такія, я не дазволю аб мяне ногі выціраць! Нават госпаду богу!..

Зайшлі так: Настаса, Аляксана, Федзя, за імі, счакаўшы, і Гардзей. Нечакана сам Рыгор прыняў заслон, прыставіў яго да стала, а Гардзееву табурэтку і Федзева крэсла паставіў на тое месца, нават падзьмухаў на іх, пашараваў рукою.

— Прашу, мадамы,— цырымонна паказаў на іх рукою і адступіў задам да заслона, сеў пасярэдзіне, нібы хацеў узяць увесь допыт у свае рукі.

А Гардзей усё яшчэ стаяў каля парога, хмуры і бледны, больш змоклы, чым жанчыны і Федзя. Мо знарок стаяў пад дажджом, ахалоджваў сябе. Прыгладжваў далонямі то справа, то злева звіслыя на вушы валасы, праводзіў далоняй па бліскучай лысіне, паціраў, як мыў, рукі. Збіраўся з думкамі...

Федзя зноў заняў пазіцыю каля печы, прыкладваў далоні то адным бокам, то другім, туліўся шчакою да прымурка. Добрая пазіцыя: апынуўся трохі ззаду і з боку ад жанчын. Не мог сесці перад імі на заслон, не мог сустрэцца позіркам з Аляксанаю, нібы ашукала яна ў самых святых пачуццях.

Гардзей паволі прайшоў міма жанчын, сеў на канец заслона, падалей ад Рыгора, і таму нават давялося пасунуцца на супрацьлеглы канец, каб Гардзей не пераважыўся.

— Дык вось... Не гэтым бы нам займацца... Дзень жалобны — і ўчора, і сёння, і заўтра. Але вымушаны... рабіць роспыты. Папрашу толькі аднаго: усім трымаць сябе ў руках, адказваць толькі на мае пытанні...

Пачаў Гардзей зноў з Рыгора, і той адказваў на пытанні ўжо больш спакойна, нібы па-завучанаму. І чым больш распытваў Гардзей, улазіў у дэталі і дробязі, тым больш угінала галаў Аляксана, а потым і хусцінку да носа пачала прыцiскаць, ціха божкаць сама сабе. Урэшце ўзмалілася:

— Гардзейка, не трэба... Хай будзе, як было... як есь...

— Аляксандра Піліпаўна, як было — ужо не будзе. Пацярпіце, не толькі вам цяжка,— сказаў Гардзей і пачаў распытваць Лявошку.

Аляксана не перастававала ўздыхаць і хлюпаць носам, а Настаса зардзелася, бы вішня, пачала коўзацца па крэсле. Азірнулася на печ, на Федзю, потым паглядзела на дзверы ў сенцы, нібы задумала даць драпака. Мабыць, і Рыгор так зразумеў яе кручэнне, бо асцярож-

на, каб не кульнуць Гардзея, устаў і пайшоў у дзверы, закурыў. Раўніва кідаў позіркі то на Гардзея, то на Лявошку, сачыў, каб не прапусцілі чаго другі раз у пытаннях-адказах.

— Божа... божа... божа...— горна ўздыхала і хлюпала носам Аляксана. Здавалася, нічога не чула, што гаворыцца на кухні.

— Настаса, а цяпер давай ты,— звярнуўся да яе Гардзей.— Пачні з таго моманту, як пачулі Кірэйчыкаў крык. Косця пабег да машыны, а што рабіла ты? Па парадачку...

— Света захныкала... Я нэ гаршчок яе пасадзіла... А тады хутчэй бульбу ставіць, а то пагарыць у печы, пакуль збегаю паглядзець, што там. А чарэнь нявоўная, зачапіла дном, перакуліўся чыгунок... Мужчына, называецца, у хаце... Вазьму лом да паб'ю к чортавай мацяры гэту печ, то другую мо лепшую закажа... Ну, пакуль выграбала бульбу, што рассыпалася, перамыла, пакуль зноў наліла... А жар то заліты, зноў раздзьмухвала з трэсачкамі... Ну, пакуль выбегла на двор, то ўжо ні Кірэйчыка, ні Косці. А куды далей бегчы — не ведаю, дзе яно што нарабілася. Я то чула раней трохі, як вішчаў япрук, але ж хіба я магла падумаць, што бацька туды ўшчаміўся! Што ён у Дар'і на двары! Я на вуліцу, а тут і Лена Расолькава як не галопам. «К Дар'і бяжы!» — крычыць. Я туды... А мне крычыць Дар'я зразу: «Нашатыр нясі! Ёд!», а Кірэйчык: «Бінт захапі! Вату!» Я назад...

— Пачакай, Настаса...— перапыніў Гардзей.— Колькі разоў ты падбягала туды?

— Два... Два разы...

— А медыкаменты дзе брала?

— Ну дзе... Дома, дадому бегала.

— А ў бацькаву хату не забягала? Яна ж бліжэй.

— А што ў бацькі можа быць? Мо якая зялёнка...

— Значыць, ты бацькавым дваром бегла чатыры разы. Хоць раз на бацькавы дзверы зірнула?

— Зірнула, чаму ж не.

— Замок быў на дзвярах?

— Быў, а як жа ж...— Настаса кінула трывожны позірк на Лявошку. Але той не бачыў гэтага, глядзеў у падлогу перад сабою. Самыя пукацінкі яго шчок padзіцячы пунсавелі.

— А як ён там быў? Ну — замкнуты былі дзверы на замок ці так сабе вісеў?

— Зам... замкнуты...

— Замок быў адамкнуты! Проста на прабоі вісеў! — прагаварыла Аляксана, голасна пасняказа нос.

— Дык я, па-вашаму, сляпая? — варожа зыркнула на Аляксану Настаса.

— Настаса, а мо ты адмыкала, да ў гарачцы не помніш?

— Чым? Пальцам? Ды чаго я там не бачыла, каб замкі ўзломваць? — Голас яе рабіўся ўсё больш пранізлівы і ваяўнічы.— Слухайце толькі, што яна тут... нагаворыць...

— Ну — добра, не будзем пра гэта...— уздыхнуў Гардзей. Штосьці яму ў адказах Настасы не падабалася.— Як першы раз забягала на Дар'ін двор — хто быў каля бацькі і што яны рабілі?

— Хто быў... Дар'я была... Кірэйчык быў... А што рабілі — вохкалі, здаецца, варочалі бацьку... Рукамі пляскалі. Юра Расолька якраз падышоў...

— Колькі мінут заняло... ну — пакуль лякарства шукала, насіла?

— Мінуты тры-чатыры.

— А не больш?

— Мо й больш, хіба я іх мерала.

— Тады я іначай папытаю: калі другі раз прыйшла, хто быў каля бацькі?

— Ну хто... Тыя самыя, здаецца... Чорт яго прыпомніць адразу... Усе бегалі, як вар'яты.

Рыгор не стрымаўся, зларадна зірнуў на Лявошку: «Паймалася пташка?»

— Так... Ну — хопіць на сёння... Разыходзьцеся ўсе па дамах. Папярэджваю: ні да каго чужых не хадзіць, ніякіх размоў і роспытаў без мяне не весці.— Гардзей устаў, даў зразумець, што сёння і слова больш не скажа.

Аляксана згорбілася, як бабулька, асцярожна ступіла за парог, у сенцы. І там, у прыцемку, пакуль праходзіла, пагаласіла трохі, папрыказвала.

Лявошка сядзеў панікла, як прыбіты.

Рыгор, не сыходзячы з парога, некалькі разоў моцна зацягнуўся дымам, сказаў сам сабе: «Ну — ладна... Ну — я маўчу, маўчу...» — і таксама павярнуў у сенцы.

— Ларыса, мабыць, не прыйдзе, у Аляксаны заста-

нецца,— дзелавіта сказала Настаса і паглядзела на Гардзея і Федзю.— Раскладзіце канапу, я вам разам пасцялю... І ты ўкладвайся... Думаеш, паранее? — павысіла голас на Косцю.

І хоць было недзе пад раніцу, заснуць не маглі.

Уздыхалі, варочаліся, Федзя ажно стагнаў.

У спальні шапталіся Лявошка з Настасаю — то ціха, то бурна. Потым чуваць было, як Настаса заплакала.

Урэшце пачуліся цяжкія шляпкі-гупанне адной босай нагі.

Лявошка прыскакаў. Намацаў край канапы і сеў-абрушыўся.

— Слыш, пракурор... Ты спіш ці не спіш? Я сваё следства правёў, з прыстрасціем.

— Ідзі, Косця, спаць...

— Не, ты паслухай!.. Была, аказваецца, адамкнута бацькава хата. Але не Настаса адмыкала... І заходзіла яна, але далей кухні не пайшла.

— Раз заходзіла ці два?

— Два.

— То-та ж. А ў Дар'ін двор — тры?

— Ага... Першы раз у бацькавай хаце лякарства шукала. Адну зялёнку знайшла... А другі раз надумала бацькавы медалі забраць. Але не ўзяла, а пералічыла толькі... Не ведала, колькі падушачак заказваць шыць.

— Спакойнай ночы, Косця...

## Раздзел трэці

1 Снедалі ў бацькавай хаце. Не прападаць жа дабру — столькі ўсяго нагатавана. Дзядзька Пятрок з жонкаю і Ларыса не прымалі ўдзел у трапезе, усё сядзелі ў кухні і абгаворвалі навіны. У Буславічах, відаць, быў новы старшыня, бо Пятрок (не-не дый праравецца, даляціць яго голас) шчыра абураўся, чаму пакінулі старога старшыню ў намесніках: «Не трэба было пакідаць... Не трэба!.. Ён жа так з'еў і Кавалёва... Не памагаў, а ўсё шпількі пад кіпці заганяў. І гэтага з'есць, от пабачыце!»

І Федзя, і Лявошка некалькі разоў кідалі шматзначныя і нецярплівыя позіркі на Гардзея: «Ну — што на-

думаў? Які план дзеянняў?» А Гардзей снедаў грунтоўна і нібы не прыкмячаў іх неспакою. Настаса і Аляксана як не ўвіваліся каля яго, наперабой стараючыся лепш участаваць. А між сабою не размаўлялі.

Ужо канчалі снедаць, як прыйшоў і Рыгор. Ніхто не чапаў выпіўкі — балелі галовы ад учарашняга, і не так ад выпіўкі, як ад недасыпу. А ён наліў паўшклянкі віна, сказаў сам сабе: «Будзь здароў, Рыгор! — а потым, як адумаўшыся, і ўсім сказаў: — Будзьце здаровы!» — выпіў, хакнуў, з шумам панюхаў хлеб і пачаў снедаць. Аляксана і Настаса перад ім не ўвіхаліся, ласых кавалкаў не падкладвалі.

На запітак Аляксана паставіла гладыш малака. Рыгор хлістаць яго адмовіўся: «Ха... Гэта ж не гарэлка, многа не вып'еш...»

— Выпусцілі з віду...— як сам сабе сказаў Гардзей і пакалупаў запалкаю ў зубах.— Гэта ж трэба было Кірэйчыка на снеданне запрасіць...

— Каго-о?! — раптам прачулася ў голасе Аляксаны сіпка.— Не хачу, каб ён і на парог ступаў... душагуб гэты...— і пачала рашуча збіраць шклянкі з-пад малака.

— Няма яго віны, Аляксандра Піліпаўна... Няма — павер! — як бы ўпрошваў яе Гардзей.— А суседзяў усё роўна ж трэба будзе зваць.

— Ён — далёкі сусед. Абыдземся...— і панесла посуд у кухню.

— Пагаварыць жа трэба з ім... То двух зайцоў зараз укладзем. Канешна, я мог бы да яго дадому схадзіць, але ж... нялоўка неяк...

— Ну, то як хочаце, а я не пайду зваць,— сказала Аляксана з кухні, на вочы больш не паказвалася.

— Схадзі мо, Настаса,— ціха сказаў Лявошка.

— Дзіця трэба ў садзік збіраць, некалі мне...— і пайшла з хаты.

Падручыўся схадзіць Федзя. Прыйшоў ён з Кірэйчыкам хутка, нібы той спецыяльна зрыхтаваўся і чакаў, калі яго паклічуць. І за стол ахвотна палез, а ўбачыў, што Рыгор курыць, працягнуў руку.

— Лепш даць, чым прасіць... «Прыма» ў цябе? Сайдзёт і «Прыма»...— Выкалупіў з пачка адразу дзве, адну ў рот, другую — за вуха.— А от Мікалай Дар'ін распанеў, ой распанеў!.. У залатых карабках курыць, і называюцца не па-нашаму.

— Мы тожа можам дым у вочы пускаць.— Рыгор моцна пацмокаў і выдыхнуў так, што струмень дастаў да Кірэйчыкавага твару.

— Хе-хе, паганыя вочы дыму не баяцца, як той казаў...— Кірэйчык дагодліва пасміхнуўся, нахіліўся цераз стол, каб прыкурыць у Рыгора.

— Дзядзька Кірэй, то вы потым пакурыце... А спачатку чарку вазьміце да прыкусіце...— Гардзей наліў яму віна, не заўважыўшы, што той паглядвае на белую.

— Ну — то пухам яму зямля... Нешчаслівы Хама, дзе пайшоў, там і няма... Строгі быў чалавек у правілах жызні, але і справядлівы. Любіў справядлівасць... Але плач-галасі, а рады не дасі...— Кірэйчык выпіў, а закусваць не спяшаўся.— Я ўжо блінцоў намачаўся трохі. Але ж... палка на палку шкодзіць, а абед на абед — не...— і ўкінуў у рот кавал кілбасы.

Гардзей зноў хацеў наліць яму віна, але Кірэйчык спрытна затуліў шклянку каравай далоняй:

— До!.. до!.. Ты мне лепш гэтай...— кіўнуў на белую.— Трошачкі, бо яшчэ дзень наперадзе... Ад віна толькі ў жываце гурчыць. Наліў мне раз Загаецкі, у яго калоў, нейкага сухога... Кісляціна — ажно аскома на зубах. Дак я шамялях у шклянку жменю цукру! «Дайце, кажу, лыжачку памяшаць...» Дык і ён рагатаў, і жонка... І я рагатаў — над імі. Гэта ж надумалі чым частаваць? Скупярдзяі...

Гардзей лінуў у тую самую шклянку, і гарэлка зафарбавалася ў колер дэнатурату. Кірэйчык цяжканька ўздыхнуў, нібы выконваў павіннасць не па душы, і глыкнуў. Рот затуліў катлетаю, цяжка пражоўваючы, гаварыў:

— ...той казаў: хто цябе? Сам сябе... Хіба трэба было яму так браць, каб ажно пуп развязваўся... ці жылы лопалі?.. Да выдах бы гэты кабан... каб я на яго здароўе траціў ці жывот клаў!

«А ты ўсё жыццё быў такі... Усё жыццё агінаўся, а не працаваў. І жонка такая ж была... Бульбянішча пераворваем, жанкі яшчэ па два вазы бульбы навызбіраюць... А твая чапяла ідзе за плугам, павесіўшы кош на руку, гарбузікі лузае... Хіба я не помню? Усё помню, хоць і малы быў...— Гардзею рабілася пякліва ў грудзях.— Я не забыў, дзядзька Кірэй, не-е... Як у сорак чацвёртым малацілі... ці сорак пятым? Вайна яшчэ ішла, падатак трэба было здаваць, фронту памагаць...

То я... дзіця яшчэ горкае, хрыбет трашчаў... Адзін ад малацілкі адбіраў салому і па зямлі яшчэ колькі метраў прапіхаў... А ты быў заўсёды хітранькі, усё жыццё ўлегцы... Стаў з самага заду, на самым версе сцірты. Да цябе саломы не даходзіла амаль, растрэсвалася па дарозе... А ты павучаў яшчэ зверху: «Не бяры памногу, хлопча...» Шкадаваў нібыта... А як жа было не браць, калі хлынаўся ў той саломе?»

— ...Не япрук быў, а звер... Ашчэрыў іклы — і на мяне. Ну, а Ясь, можна сказаць, грудзямі на амбразуру... Але ж і перапужаў мяне... «Што з табою? Што з табою?» А ён і не рэкне, счарнеў увесь.— Кірэйчык пахітаў гаротна галавою.— Лячу па Аляксану... Ударыўся ў дзверы, грукачу ў іх... Гляджу — замок жа вісіць, ёлкі-маталкі! Я — р-раз яго швайкаю, укалупіў. А ён і адваліўся, як клешч... Сабражэнне толькі тады да мяне прыйшло: ну хіба Аляксана будзе пад замком сядзець? Зацьменне, чыстае зацьменне...

Усё, што трэба было пачуць, пачулі. Не пытаўшы.

Як уздыхнуў Лявошка, як павесялеў!

А Рыгор сказаў, нібы сам сабе: «Так то яно так... Але што з таго?» І Лявошка зноў спахмурнеў. Бо і праўда: не ўзломвала Настаса замок... Але ж двойчы ў хату заскоквала. У яе ж не было зацьмення, калі адразу пра медалі пачала думаць. А ці ўсю праўду сказала? «Адзін раз схлусі — веры не дасі... Мо яна і па хаце шворыла, шукала той кашалёк?»

Размову пачалі спускаць на тармазах, цікавасць да Кірэйчыка страцілі, і той сам зразумеў, што трэба выбірацца з-за стала. А выбраўся, то ўсім падаў на развітанне руку, усім дзякаваў:

— Уважыцельныя вы людзі... А такіх і я ўважаю.

Як толькі за ім зачыніліся дзверы, Лявошка сказаў:

— Дзівак... Дзеці са школы ідуць — «Дайце, дзеткі, закурыць!». Аўтобус рэйсавы ляціць — і яму галасуе. «Да прыпынку дзвесце метраў!» — лаецца шафёр. А ён: «Я закурыць, закурыць...»

— Паразіт,— коратка зазначыў Рыгор.

— Ну — што? Мо цяпер па Дар'ю збегаць? — спытаў Федзя. Ён ужо ўвайшоў у азарт, нібы ўбачыў блізкі фініш.

— Не,— сказаў Гардзей, падумаўшы.— У трэцюю чаргу з ёю. Выходзім зараз на Аўдотку... «Сабражэн-

не», як Кірэйчык кажа, трэба мець.— Відаць было, што Гардзей яшчэ ноччу склаў свой план дзеянняў.

— Прайшла яна!... От толечкі прайшла! — абазвалася з кухні хрыпла Аляксана.— Глядзіце ў вулічнае акно — куды зверне. Я ёй махала праз шыбу, дык яна паказвае за нас рукамі. Мо к Дар'і?

— Ага...— першы паглядзеў, усунуўшыся ў вулічнае акно, Рыгор.— От бы там абедзвюх і прыжучыць.

— Нядобра туды ўсім кагалам... Я паклічу Аўдотку, нашто каб і Дар'я чула... пра такое? — не кідаў свайго Федзя.

— У следчай рабоце ёсць адзін прыёмчык — выезд... ці выхад на месца здарэння, падзеі... Ну што ж... Аляксандра Піліпаўна, вы гатовы? — голас Гардзея стаў дзелавы і строгі.

Завойкала, заўздыхала на кухні Аляксана. Ёй на выручку заспяшалася Ларыса.

— Вы без нас там, Гардзей... А мы тут... на могілкі ж трэба збірацца.

— Мы цябе не завём... Ты і збірайся,— цвёрда сказаў Гардзей.

**2** — Каторы дзень, а ў хаце япруковы дух,— сказала Аўдотка і дала Дар'і «Дзеньдобры!».

— Расчыняла і вокны, і дзверы — не памагае,— паскардзілася Дар'я.

— А воск ёсць? Выграбі ў ямку жару, кінь на яго драбок.

Калі зайшлі мужчыны, а за імі паволі і сціха, нібы яе прывялі скараць, Аляксана, у хаце ўжо ішла вайна паміж япруковым і васковым духамі. А Дар'я і Аўдотка нібы паклоны адбівалі печы, нагіналіся да прыпечка і дзьмухалі на вугалі — забылі і пра «ямку».

«Дэтэктыў... Серыя нумар...» — Федзя падштурхоўваў Рыгора праходзіць далей, Рыгор Федзю, а першы прайшоў на сярэдзіну хаты Гардзей, павярнуўся тварам да ўсіх і пераводзіў позірк факіра ці фокусніка то на братоў, то на жанчын, якія таксама павярнуліся тварам да яго і стаялі каля печы, нібы ў ганаровай варце. Каб быць далей ад Рыгора, Аляксана адступіла крокі на два ў сенцы. Але натыкнулася на Лявошку і зноў падалася наперад і ўбок, закідалася, нібы злоўленая.

— Баба, вы не ўспомніце... пінжак бацькаў трэслі на ганку... нічога з кішэні не выпадала? — адразу пачаў пытаць Гардзей пра галоўнае.

— Ага... Вытрасла, а як жа! Ручку вытрасла, расчоску... І гэта... кашалёк вялізны, як рэзгіны. Я ручку і расчоску назад укінула, а кашалёк не лез.

— Аляксандра Пiліпаўна, праходзьце сюды,— паклікаў Гардзей, нібы перад генеральнай падзеяй. А прайшлі спачатку ад дзвярэй, даючы ёй праход, Рыгор і Федзя, пасталі крыху далей, каля стала. Аляксана прайшла нясмела, бачком, нібы прыбітая, прытулілася на палку, амаль схаваўшыся ад Аўдоткі і Дар'і.

«Цыркач...— думаў Рыгор.— Зараз сцягне пакрывала з пустога капелюша, і адтуль певень вылецiць... Во адваліцца сківіца ў мачыхі!»

— Госпадзі... Дай сілы перажыць гэта ўсё...— шаптала сабе Аляксана.

— А каму... аддалі... кашалёк? — кожнае слова Гардзей падкрэсліваў.

— Каму?... Каму ж... Дар'я, я табе не аддавала? — Але Дар'я, ураз спалохаўшыся, не паспела адказаць што-небудзь, як Аўдотка сама пацвердзіла: — Не, табе не давала... Гэта ты мне дала рубашку і пінжак... От галава, каб яна адсохла!

«Фокуснікі... Усе фокуснікі...» — стукала ў Рыгоравай галаве.

«Зноў сюжэт дэтэктыва трапляе ў тупік...» — адзначыў Федзя.

— Вам Дар'я адразу аддала ў рукі адзенне ці спачатку дзе хадзіла з ім... ці мо клала куды, вешала? — памагаў Аўдотцы ўспамінаць Гардзей.

І «памог»: Дар'я прыціснула руку да сэрца, захаўкала ротам.

— Адразу бабе... Адразу! А бож-жа... Я ж не ведала, што такога нарабілася... Я ж пашчі і не касалася адзежы!

— Ага... Узяла ў яе... І я трэсла... На ўсходцах ўжо... Але ж мне Ясь усю голаў адабраў, не помню, што й рабіла... Дзе ж я яго падзела... кашалёк? Дзе?..— Аўдотка паціскала скурчанымі пальцамі галаву, нібы правярала, ці трупціць, патрымала іх на праваленых шчоках, каля збялелых вуснаў, здавалася, зараз засвішча ў чатыры пальцы, толькі не прыпомніць, як гэта робіцца.

— Закапаць мяне... закапаць, як падлу... Аджыла сваё — не замінай людзям, не застуй...

Дар'я пачала выціраць далонямі шчокі, потым павярнулася да прыпечка, гусіным крылом змяла ў «ямку» вугалі. Да ўсіх пахаў дамяшаўся яшчэ адзін — пах гарэлага пер'я, шэрсці. І, ужо добра выцершы шчокі і вочы, Дар'я адвярнулася ад печы, узяла Аўдотку пад руку.

— Хадзем, баба, сядзеце...— і павяла да ложка, пасадзіла на мяккае.

— Аляксандра Піліпаўна, трэба памагчы бабе: прынясіце сюды рубашку і пінжак,— папрасіў Гардзей і павярнуўся да лавы, сеў каля сцяны. Рыгор і Федзя селі абапал яго; цяжка занёс цераз парог «казённую» нагу Лявошка, прадыбаў і сеў на заслон каля стала.

Аляксана ўсхапілася з палка — «Ага, ага...», згодліва кіўнула на Гардзеевы словы, адступіла задам і бокам у сенцы.

Чакалі. Маўчалі...

І прычакалі: з'явілася Аляксана з адзеннем. І Гардзей скамандаваў выходзіць на двор. Апошнім выйшаў, як ніколі цяжка прыпадаючы на пратэз, Лявошка.

— Задача, значыць, такая...— сказаў Гардзей да Аўдоткі і Дар'і, якія не адважваліся сысці з усходцаў.— Дар'я Кірылаўна, возьмеце ад мяне... Я нібыта Кірэйчык, уразумелі?.. Возьмеце ад мяне адзенне, будзеце падаваць бабулі... Успомніце, як стаялі тады, і гэтак пастаньце... І будзеце ўсё рабіць, як тады...

Аўдотка, мабыць, не зразумела, бо Дар'я нахілілася да яе вуха і гучна зашаптала: «Прадстаўляць трэба... Як шпіктакаль, чуеце?» І Аўдотка заківала галавою: зразумела, і ўчапілася за Дар'іну руку: сышлі на двор.

— У мяне яшчэ вядро з вадою было і конаўка,— сказала Дар'я.

— Правільна!.. Вазьміце, вазьміце — усё, як тады.— Гардзей узяў у Аляксаны адзенне, і яна адступіла да плота, каб не замінаць.

«Аўдотка забрала... Запраторыла недзе, а цяпер выкручваецца... Прыдурваецца: як гэта не ўспомніць? Трэці дзень усяго...» — думала Аляксана.

Гардзей прычакаў, калі Дар'я выйдзе з хаты з вядром і конаўкаю, і папытаў:

— Кірэйчык быў тут?

— Бліжэй трошкі... А я от так во... А баба от тут спачатку... Баба, сюды станьце! — Дар'я пачала падыгрываць Гардзею.

Крывая ўсмешка блукала ў вусах і барадзе Рыгора. Іранічна глядзеў на ўсё Федзя. Пакутліва — Лявошка...

Гардзей угнуўся, нібы бярэ пінжак доле, потым паспешліва разагнуўся і падаў яго Дар'і. Вядро было ў яе ў левай руцэ, конаўка ў правай, і Дар'я прыціснула пінжак правым локцем да бока, забожкала і заохала, як тады, і павярнулася да Аўдоткі, выпнула бок: «Баба!» І Аўдотка прыняла ў яе з-пад рукі пінжак, ступіла да ўсходцаў, а яе зноў паклікала Дар'я: «Баба! І рубашку!» І старая паспешліва вярнулася з пінжаком па кашулю і зноў патупала да ўсходцаў. А Гардзей, а потым і Дар'я ўжо адступілі да плота. Усе насцярожана і напружана глядзелі на Аўдотку, нібы баяліся спужаць лунатычку — каб не сталася бяды.

А баба рабіла ўжо штосьці незразумелае. Паклала пінжак на ўсходцы... Вывернула кашулю на левы бок.— «Во так было...» — і зноў пачала адварочваць назад, забавілася з рукавамі... Сцепанула кашулю ў паветры, патрапала-пабіла далоняй, нібы жменю льну траплом, склала па даўжыні, склала ўпоперак. Зайшла ў сенцы, выйшла без кашулі і падняла пінжак.

— І яго... от так спачатку...— пачала гаварыць сама сабе і трапаць далоняй.— От так... От так...— двойчы моцна ўстрасянула пінжаком.— Што павыпадвала, сабрала...— Аўдотка заціснула пінжак пад левую руку, саступіла на ніжнюю прыступку, нагнулася, быццам нешта падабраць, і яшчэ саступіла на зямлю, зноў угнулася, узабралася на ганак і пачала рабіць выгляд, што засоўвае штосьці ў кішэні пінжака.— А кашалёк не лез... Я от так стаяла. А тады от так...— Баба павярнулася з паднятаю праваю рукою, нібы трымала ў ёй кашалёк.— І паклала...— баба пераступіла парог у сенцы,—...і засунула за бляшанку з пасоляю... Во!! Во-о, міленькі... ён тут і стаіць на паліцы! — Аўдотка вышмаргнула з-за бляшанкі тоўсты і вялікі кашалёк, патрэсла ім каля вуха, нібы правярала, ці звініць што ў ім, і радасць немаўляці свяцілася на яе твары.

— Ой, а я ж, дальбог... ну нічагуткі пра гэта не ведала! Каб я з гэтага месца не сышла!..— пачала шчыра клясціся Дар'я.

— Дар'я Кірылаўна, ніхто вас ні ў чым не абвінавачвае...— У Гардзея разгладзіліся на лбе маршчыны, ён першы раз квола ўсміхнуўся.

— Фокуснік, ну й фокуснік!..— Рыгор грымнуў яму ў плечы, прашаптаў скрозь зубы: — А цяпер... у мордy ёй... гэты кашалёк. Яна думала, што ў Дуброве такія, як у Буславічах...— І пайшоў з двара, закурваючы. Запалкі ў пальцах ламаліся.

— Сударь, примите мои заверения в совершеннейшем к вам почтении,— пакланіўся Федзя і працягнуў Гардзею руку.— Мяняй прафесію, яшчэ не позна... Можна даслужыцца да начальніка абласнога крымінальнага вышуку.

Гардзей з годнасцю пацісnуў руку ў адказ, узяў з рук Аўдоткі кашалёк.

— Усе бачылі? — пакруціў яго над галавою.— Думаю, што сумнявацца не трэба: ніхто ў яго не заглядваў, не лічыў, што ў ім.

— Я й не ведала, што ён там! Дальбог, не заглядвала! — зноў як не ўсхліпнула Дар'я.

— Будзем лічыць, што ніякай крымінальнай справы не ўзнікне. Перадаю пры сведках...— Гардзей падаў зніякавелай Аляксане, нібы які карабок з узнагародай, кашалёк. Толькі рукі ёй не пацісnуў, як гэта бывае пры ўручэнні, і моўчкі пайшоў з двара.

За ім, паклаўшы яму на плечы руку, падыбаў Лявошка. Федзя — апошні, ён усё яшчэ балюча перажываў убачанае і пачутае і круціў сам сабе галавою: «Да чаго дажыліся-дастукаліся!..»

Аляксана затрымалася, і доўга чуваць было, як паспешліва і дакучліва апраўдвалася перад бабай і Дар'яй, запрашала іх прыйсці паснедаць.

Дар'я і Аўдотка адмовіліся.

3 І былі хаўтуры-трызна на могілках, ездзілі на Лявошкавай і Гардзеевай машынах; былі памінкі-трацінЫ вечарам у бацькавай хаце...

І зноў Гардзей з Федзем прыйшлі начаваць да Лявошкі.

Паселі на прыступках веранды — у хату ісці не хацелася.

Была мо апошняя цёплая ноч года, але ў зорнай яснасці, у лёгкіх павевах ветрыку (нібы хто працягла

хукаў, нячутна забягаючы то з аднаго, то з другога канца двара) ужо чулася восеньская ядраная свежасць, пах адсырэлага агарода і пабітых яблык-папяровак, ледзь улоўны машынны дух.

У Федзі быў журботна-элегічны настрой, і ён думаў, што калі б апынуўся зараз у сваім пакойчыку, на сваёй кватэры, то праседзеў бы давідна над вершамі, выліваючы сардэчную шчымлівасць і боль на паперы. І, пэўна ж, атрымалася б нешта душэўнае і самотнае, мо лепшае з таго, што дасюль напісалася. Нават радкі пачалі мроіцца.

Але да яго даходзіў, як здалёк, і голас Гардзея:

— Палёгвіца душыць... Як ні стараешся, што ні прыдумляеш — такія страты!.. Пяць-шэсць цэнтнераў на кожным гектары, не менш. У нас бы сёлета было па сорак як мінімум, а збіраем па трыццаць пяць... І то бункерная вага, а падсохне, пачысціцца — хаця б трыццаць набралася.

— Тэхніка слабая... Хіба яна прыстасавана да такога ўраджаю,— у тон яму, памяркоўна, адгукаецца Лявошка.

— Не да ўраджаю... Да сцебластою! Каму, скажы, трэба, каб жыта было па два метры? Дадуць мінералкі — гоніць сцябло пад неба.

— Не толькі мінералка вінавата. Сарты такія... А от у Індыі, я чытаў, такую пшаніцу вывелі — і невысокая, і моцная, і ўраджайнасць семдзесят цэнтнераў. Народу ў іх — як маку ў макаўцы, а хлебная праблема вырашана.

— Чытаў я пра тую пшаніцу... Добрая! — згадзіўся Гардзей.— Але для нашых умоў не гадзіцца.

— Факт — не гадзіцца... Скрыжоўваць трэба, прывычайваць. Накіраванае выхаванне даць.

— Людзей бы такіх вывесці... устойлівых да палягання... Каб ніякія бураны ці градабоі не аблажылі. Душу не спляжылі...— уздыхае Гардзей.

— А-а-а... гэта задачка цяжэйшая! — згаджаецца Лявошка.— Хоць бы спачатку якія прышчэпкі прыдумаць. Як супраць воспы... Супраць накапіцельства... «Вещизм» гэты самы... Я думаў, чытаеш фельетоны, што толькі гарадскія паддаюцца такой хваробе. Ажно ў сяле таксама... можна фельетоны пісаць.

— Можна і шырэй браць — як ты... Але я пакуль што ўсё кашалёк гэты мусолю ў мазгах. Экзамен

усім — не дай бог! Вельмі за Рыгора баяўся... І за Настасу. Але здалі экзамен, вытрымалі... А от «малайцы!» не магу сказаць... На валаску ўсё вісела. Каб той кашалёк быў у бацькавых штанах і трапіў у Рыгоравы рукі... невядома яшчэ, чым скончылася б.

— І я быў усумніўся ў Настасе. Ажно пад сэрцам ліхое рабілася...

— А Аляксана?! Аляксана... такі ўдар для мяне... Праўда, што чужая душа пацёмкі,— першы раз абазваўся Федзя.

— «Маё, маё, маё...» «Мне, мне... Хап, хап...» Во дзе галоўная бацыла... ці вірус. Вірус, які рак правацыруе... душэўны... А хцівасць, прага нажывы — горш за рак. У нас нават механізатар адзін такі ёсць, і маладый ж, ніякай капіталістычнай заразы не нюхаў... А іншы раз хочацца так сцепануць загрудкі, каб зубы ляснулі: «Растакую тваю... Совесць дзе зааpаў, на якім полі?!» — прагаварыў усё гэта Гардзей з болем, відаць, не раз думаў пра такіх людзей.

— А я лічыў — у саўгасе такога няма...— нібы паддзеў яго Лявошка.— У нас таксама некаторыя толькі выгадную работу шукаюць. А ў паляводстве ёсць такія ручныя працэсы, што не вельмі заробіш... Дык бяруць Дзеньдобрага за горла: дасі столькі і столькі — пайду, не — і не успамінай. І будзе сядзець, грошай дома хапае.

— Хапае, гэта праўда. У нас многія могуць машыны пакупляць, а не купляюць. Не ведаюць, куды грошы дзяваць... Не навучылі мы людзей, як карыстацца грашыма, адсюль і п'янкі.

— Што-та я вас слухаю і не разумею...— зноў не ўтрываў Федзя.— Вы супроць прынцыпу матэрыяльнай зацікаўленасці? Гэта ж галоўны рычаг! Ён быў і застаецца галоўным прынцыпам!

Гардзей і Лявошка нібы чакалі, што ў іх невялічкі раскладзены агонь гаворкі хтосьці шухне бярэмя сушняку.

— Рычаг, няўжо ж не. Але — хі-і-ітры рычаг... Гэтак павернеш ім — карыслівасць, рвацтва ўзгадуеш, а вось гэтак — бескарыслівасць, самаадданасць, высокую свядомасць.— Гардзей уздыхнуў.— Бяда наша, што па шаблоне дзейнічаем, не умеем карыстацца гэтым рычагом.

А Лявошка дык проста наваліўся на Федзю:

— Кніжнік ты і фарысей! Хіба хто выступае супраць гэтага прынцыпу? Але што ты пра яго ведаеш, інтэлігенцкая твая душа? А ён нам часам во дзе сядзіць! — паляпаў сябе Косця па карку.— Але ж не трэба ігнараваць і іншыя прынцыпы. Ну, не ігнараваць, а... не забываць, вышукваць новыя маральныя стымулятары. Унь да вайны, бацька твой расказваў, стаханаўцаў на самалёце вазілі, самалёт спецыяльна спускаўся на аселіцы... І дасюль старыя ўспамінаюць пра тое катанне, усё жыццё помняць!

— Хм... Дзіва знайшлі — самалёт! — хмыкнуў Федзя.

— Другім можна здзівіць! От у нас цэлы аўтобус насаджалі перадавікоў і ў Брэсцкую крэпасць вазілі на экскурсію.

— А ў нас — у Ленінград, на «Аўроры» былі,— падтрымаў Лявошку Гардзей.— І ў Сярэднюю Азію раздавалі турысцкія пуцёўкі.

Федзя хмыкнуў яшчэ больш насмешліва.

— Здаюся!.. От вы і знайшлі, як рабіць, каб гэты прынцып карак не муляў. Не ўсе падкія на грошы... Я з Юрам Расолькам перамовіўся на памінках... Яму яшчэ пяцьдзесят працэнтаў надбаўкі давалі да аплаты, каб і ноччу вазіў збожжа. А ён: «Я вам дам дзвесце, толькі адчапіцеся. Я двое сутак не спаў ужо...»

— Было такое, было... Гэта дзеці малыя яму дыхту даюць,— сказаў Лявошка.

— А мяне не турбуе тое, колькі чалавек зарабляе,— ты не ўлавіў галоўнага,— звярнуўся да Федзі Гардзей.— Хай зарабляе, на здароўе. Хай багацее... Але каб чалавекам застаўся пры любых умовах... Каб бокам не вылазіла яму гэта багацце, праз горла не перла... Каб яно дазваляла яму душэўна багацець, акультурвацца. Каб не рохкаў ён сыта і сонна, не заплывалі вочкі ад тлушчу, не залівалася душа лоем... Каб сэрца заставалася адкрытым чужой бядзе, заставалася чулым...

У хлеўчуку кукарэкнуў певень — падспешыў іх, напомніў пра хуткацечнасць часу. А яны нібы і не пачулі яго, як згаварыліся — не пачуць. Ім захацелася затрымаць бег часу, расцягнуць такія вось рэдкія хвіліны душэўнай блізкасці і шчырасці. Бо калі яны яшчэ надарацца? Калі яшчэ можна будзе вось так, нібы за горла сябе бярэш, задумацца над сэнсам быцця?

«Сон... К чорту сон! Гэта ж амаль той жа самы анабіёз... Хоць кароткачасовы, але ж анабіёз! Спіць чалавек — знікае яго «я», сам знікае... А пакуль «бодрствует» — ён ёсць. Спяшайцеся мець магчымасць бачыць чалавека, «общаться з ім... пакуль навек не заснуў... Не праходзь міма чалавека... Не зразумеў чалавек — лічы, што прайшоў міма...» — Федзю і неспакойна, і ўцешліва на душы, і ў той жа час штосьці ные там. За гэтыя дні жалобы раптам адкрыў чалавека ў чалавеку — у брата Гардзея, якога, выяўляецца, ён і не ведаў як след, у Лявошкі — таксама не меншага вясковага мудраца новай фармацыі. «Кніжнік і фарысей»... Бач, і евангелле, мабыць, гартаў кладаўшчык, сыпле такімі слоўцамі... А што ж, намеснік сакратара парткома, павінен быць усебакова падкаваны...»

«Дзе цяпер і што Ганя парабляе?» — паспеў яшчэ падумаць перад сном.

4 У бацькавай хаце не спалі, уходжваліся пасля памінак-трацін учатырох: Аляксана і Ларыса, Пятрок і яго Зося. Настаса пайшла дадому раней, «уссеў на яе нейкі крут»,— як падумала Аляксана.

Пятрок збіраў са сталоў хлебныя недаедкі і філасофстваваў: «Каб даўней, то на сухары пасушылі б... А цяпер каму патрэбны ў запас сухары? Дзе той чорны дзень? І от жа людзі-чалавекі... Пачаў есці — дык еш, не кідай надкусаны, не цягніся па другі кавалак... А во: гарэлкаю пааблівалі, кісялём... Пад стол наспіхвалі... Панаядаліся! Што панаядаліся, то панаядаліся...» — «Нічога, дзядзька... Я карове размачу, бо парасяты малыя яшчэ, не справяцца. Згрэбайце ў тазік, згрэбайце!» Бо і праўда, чаго дзівіцца Пятрок? Ды такое ж робіцца на любой бяседзе, хоць на вясёлай, хоць на жалобнай. Усяго навалам, усяго празмерна — з двайным, а то і трайным запасам. Усе разумеюць, што так не трэба, а ўсе робяць *так*. Паспрабуй зрабі не так, а ў норме, то людзі скажуць, што на сталах *нічога* не было. Нічагенька! І столькі абгавораў будзе, столькі панаплешчуць языкамі...

Зося насіла брудны посуд у кухню, дзе плюхалася з ім Ларыса. Аляксана з усіх накрытых сталоў пакідала накрытымі толькі два, свой і Лявошкаў (трэба, каб так яны начавалі, *так трэба*). Астатнія раніцаю разня-

суцца па суседзях, і пад загорнутым ражком абруса будзе што-небудзь ляжаць з бяседных прысмакаў. Такая завядзёнка, *так трэба.*

Уклаліся спаць позна, Ларыса, як і першую ноч, пайшла на ложак у сенцы, старыя палезлі на печ (Зося, праўда, папрасіла чаго больш пад бок — мулка ўсё-такі старым касцям). Але класціся не спяшалася, сядзела, спусціўшы ногі на прымурак, і пагладжвала плячо — абзываўся артрыт, і каб гэта было дома, то нацерла б плячук віпрасолам, памагаў пакуль што. Аляксана ж у закутку каля печы, на жалезным ложку. І ёй было мулка, здавалася, чула кожную саломінку ў сенніку, кожную нядобра падраную пярынку ў падушцы. Цела чамусьці балела, як пабітае, не знаходзілася ўкладу ні рукам, ні нагам. Падушку часта варочала халаднейшым бокам наверх, але хутка яна зноў угравалася ад галавы і пачынала пячы, нібы гэта была электраплітка. І чым больш адыходзілі турботы і перажыванні, тым больш тачылі і мучылі думкі. Што вярзла з печы Зося, Аляксана слухала і не слухала...

— ...у лясным боку гэта было, пад Буду недзека... Такога нарабілася — косы дыбам становяцца... Хлопец гнаў самагонку на сваё вяселле і ўчадзеў... Але ж так учадзеў, што ўпаў без памяці і суткі без дзьвіжэння... Пахавалі яго ў дарагім касцюме, што на вяселле справілі, пярсцёнак залаты на руку, гадзіннік залаты... А другі хлопец прыгледзеў усё гэта, у чым яго пахавалі, і пайшоў ноччу адкопваць. Адкапаў, узарваў дамавіну... Узяў за руку, каб гадзіннік зняць... А гэты ўчадзелы адышоў ужо, зямля адцягнула,— цап капацеля за руку! Дак той так закрычаў — мо ў сяле пачулі...

— Бра-ахня-я,— коратка зазначыў Пятрок.

— Ты вельма ўсё ведаеш! Ты там быў? — накінулася на яго Зося.

— А ты — была? — У голасе Пятра зняважлівая насмешка.

— Людзі саттуль казалі... Ага, дак вырваўся, пёр без аглядкі, забыў там пінжак свой і шапку — угрэўся, раскопваючы, скінуў... Ну, а той Росця ўстаў... Росцікам звалі таго хлопца, што ўчадзеў... Прыходзіць да бацькі-маткі, стукаецца ў дзверы. «Хто там?» — пытаюць. «Гэта я, Росця!» — «Згінь, згінь! — хрысцяц-

ца.— Ты — здань! Здань!..» І не адшчапілі. Пайшоў да роднага брата, той сваім хаджайствам жыў. І той ад страху не пусціў!.. Пайшоў да свае дзеўкі. Улез праз акно і на ложак да яе... А яна спрасонку і не ўшалопала, што і як, думала — усё нармальна... Прыняла яго... А тады ён паціху і расказаў ёй, як усё было. «Хто б, ты думаеш, прыходзіў адкопваць мяне? Мо на каго падазрэнне маеш?» — «Не прыдумаю-ся...» — кажа нявеста. «Я захапіў яго пінжак і шапку, уключы святло...» Уключылі — пазнала! «Гэта ж,— кажа,— Зоціка канцавога... Саперніка твайго...» — «Занясу заўтра»,— Росцік на тое. І панёс... А той як убачыў Росціка, то й зусім мову адняло! А тая рука, за якую нябожчык цапнуў, ушчэнт счарнела і пасінела, пальцы Росцікавы так і адпячаталіся... І пачаў той Зоцік сохнуць і чахнуць і праз два тыдні памёр... Во як — пайшоў у зямлю замест Росціка...

— Бра-а-ахня-я,— зноў працягла і міралюбна сказаў Пятрок. Голас яго далятаў ужо нібы здалёк, мабыць, дзядзька лёг.

Старыя пачалі сварыцца-тарокацца, даказваць адно аднаму сваю праўду. А Аляксана не адгуквалася — хай думаюць, што заснула. «Для чаго яна распавяла гэтыя страхі на ноч? Я ж не раздзявала Яся, не адкопвала труну... Не абдзірала яго... А мо пра кашалёк і яна што ведае? Хай ведае... Я ж нічога такога процізаконнага не рабіла. Я толькі сваё сыскала... Ды ўсё ж добра скончылася, ніхто не вінаваты...» — думалася ёй.

Але чаму ж тады ніякай уцехі, ніякага задавальнення не адчувае яна ад таго набытку? Чаму точыць нейкае сумненне, грызе трывога? Чаму не прыходзіць спакойны сон? Гудзе ў галаве, як у камбайне... Намэнчылася за гэтыя дні, натупалася, кожная костачка, цяглічка спакою просіць. А няма спакою, і ці прычакаецца той спакой? Цяжкая нуда запаланіла грудзі, нібы сэрца яшчэ нешта вяшчуе, нібы прорва холадна зеўрае наўкола яе, а яна завісла над прорвай на нейкім тычку, як пужак на калу, і зняцца не можа з яго, і асесці на дол не можа. А вецер свішча, матляе яе, а галкі і гракі цеўкаюць пранозліва і грачуць... Ажно прыўзнялася, галавою патрэсла, каб адагнаць ад сябе такое відовішча-праяву. «Госпадухна, я ж не сплю яшчэ, што гэта мне здаецца?..»

А мо ўвесь неспакой ад таго, што яна так і не ведае, колькі ж было грошай у кашальку, і ці ўвогуле яны там былі? Нядобра ж было стаць пасярод двара ці пасярод вуліцы і зразу патрашыць яго, лічыць. Прынесла і ўкінула кашалёк у куфар, прымкнула да лепшага часу. Прыхаваць прыхавала, а думка пра кашалёк спакваля паколвала, як затоеная стрэмка, не давала спакою праз усе турботы. «Зараз пайду... пагляджу і супакоюся... І засну... А мо там і лічыць няма чаго?» — І ўжо села на ложку, адкінула душную коўдру. Ды раптам успомніла, што там жа, у сенцах, спіць Ларыса. А што, як прачнецца і ўбачыць, чым яна займаецца сярод ночы? «Дацярплю да раніцы... Раз'едуцца заўтра, тады ўжо...»

— ...а я яму кажу: давай цэмент, сам пазамазваю... Работнічкі, мяліратарчыкі!.. Не паверыш — параскрышваліся на кавалачкі, на друз пліты... І каля мосцікаў, і каля плаціны, дзе абшыўку зрабілі берагоў. Праз гэтыя пліты травы напрабівалася, зелля — хоць касі. Памахаў трохі — касу тую новую, што летась купіў, парваў, павышчэрбваў.

— Твае дзела абкошваць берагі... Пліты табе трэба!

— Дак што ж яны, сукіны сыны, не ведаюць, што трэба пліты жалязіць? Развесці вадзенька аднаго цэменту... як смятана... І заліць зверху, замазаць кельмаю — укамянее, й зубамі не ўгрызеш.

— Мо цымент пакралі, от і сыплецца. Наробяць кепства, а ты хочаш за ўсімі парадак навесці! Спі от...

— Каб ім рукі паадсыхалі...— не можа супакоіцца Пятрок. Незнарок зачапіў стрэльбу, яна загрукала, зашоргала па сцяне.

— Асцярожна, а то яшчэ бабахне... Ох, божа, божа...— уздыхае Зося. Яна ўсё яшчэ не кладзецца, сядзіць, пагладжвае плячо.

Маўчыць Аляксана, не ўмешваецца ў размову. «Пустое ўсё, пустое...— адхрышчваецца яна ад іх турбот.— От мне як жыць? Што рабіць, куды кінуцца?»

«Лезла, як жаба на купіну... А цяпер во ляжы дагары, дрыгай лапкамі... Кашалёк што? Глупства. А от хата чыя будзе? Вытураць адсюль, з чым прыйшла, з тым і пайду. Здуравала, от жа здуравала: з першага дня трэба было дабівацца... То ўжо і распісаныя былі б, і гаспадыняю ў хаце была б. А так з'есць Рыгор, ненаеднік гэты... І костачак не выплюне. Каб хоць ка-

шальком не ўгневала, а то... Згарэў бы ён разам з тымі грашыма!»

«Мо ў сельсавет збегаць заўтра, папытаць у Дамашэўскага, што ж будзе? Што рабіць мне? Ды няўжо ж ёсць такія законы, каб мяне пад плот выкідаць?»

«Не, не ў сельсавет... Трасцу ён ведае... Трэба зноў да тае юрысткі, што кансультацыю мне давала. Мо ёй дадому мёду занесці? Панаравіўся ёй мёд... Разявеня, не выпытала ні ў кога яе дамашні адрас. Дадому б і занесла, каб не змушчаць на рабоце... І ні мінютачкі не трэба цяраць, каб Грыша першы не злётаў. Бо панэцца сваё права спраўляць...»

Пачала драмаць мо пад самую раніцу. І вярзлося нешта, блюзнілася, адзін сон вельмі быў падобны на колішні і страсянуў нейкім затоеным сэнсам.

Здаецца, яна зноў на сваім вяселлі. Не на першым і не на другім, не на вечарынцы з Ясем. А на нейкім тым, уяўным, што жыло ўсе гады ў марах. З духавою музыкаю, з шулаўцамі... І быццам Рыгор Сухавей — яе жаніх! Гэта людзі сказалі, што чарнявы, безбароды мужчына — Рыгор, бо яна толькі на картачцы бачыла яго без барады і вусоў... І, здаецца, кружыцца яна на вуліцы, скача ў крузе, хусцінкай памахвае, як Мардасава ў тэлевізары, а Рыгор ідзе наўкол яе ўпрысядку. «Барыня, барыня... Сударыня, барыня...» — нібы выгаворвае аркестр. І, здаецца, разарвалася кола глядачоў, і яна апынулася каля самых музыкаў. Трубач Янка — колішні, малады, а не цяперашні, састарэлы, кінуў іграць і насуперак «Барыні» выспеўвае дрыготкім і жаласлівым голасам словы з вальса «На сопках Маньчжурыі», дрыжаць губы з адбіткам бела-ружовых кругоў:

Плача, плача маць радная,
Плача маладая жана,
Плачуць усе, як адзін чалавек,
Свой рок і судзьбу кляня...

Прахапілася і ўжо ляжала давідна, перабіраючы на розныя лады радкі «Плача маладая жана... свой рок і судзьбу кляня...», пакуль не трэба было ўставаць к карове — паіць і даіць яе, выганяць пастуху.

## Раздзел чацвёрты

I

Аляксана яшчэ малако цадзіла ў кухні, як на двары пачулася мужчынская гамана, а потым і гучны Гардзееў голас: «Ларыса, ты гатова?» І адказ Ларысы з сянец: «Гатова, гатова...», хоць тая толькі засцілала ложак і не ўмывалася. Не дацадзіла, грукнула вядром аб лаўку, выбегла з хаты.

— Куды ж вы?.. Ды што ж гэта робіцца? А снедаць? — І да Федзі, і да Гардзея, і да Лявошкі працягвала рукі. Косця быў толькі ў майцы і штанах, чухаў голую грудзіну.— Ларыса, ты ж мне звечара нічога не гаварыла! — І да Ларысы павярнулася ў сенцы.

— А я і сама не ведала, што гэтак надумаюцца,— адказала знарочыста спакойна, але ўгадвалася ў голасе няшчырасць.

— Трэба, Аляксандра Піліпаўна. Спраў накапілася,— голас у Гардзея быў дзелавіты і сухі, ён павярнуўся да Лявошкі, каб штосьці дагаварыць.

— То паснедалі б... ці хоць малака напіліся б на дарогу. Ці мёду мо каму даць... на лякарства...— не ведала, як задобрыць іх Аляксана.

— Пілі малако. У нас пілі...— сказаў Лявошка.— І мы ўгаворвалі паснедаць, але ж, бачыце...

— Дома снедаць будзем. Па халадку ехаць добра.— Рашучасці ў Гардзея не паменела.

— Ды там жа ўся гаспадарка на Наташы. Адна круціцца — і дома, і ў школу трэба...— З сянец выглянула Ларыса, прамакаючы ручніком твар.— А машына хоць у парадку?

— У парадку. Дзе той дзядзька Пятрок — развітацца...— Пайшоў на Ларысу і Аляксану Гардзей, і тыя хутчэй расступіліся ў бакі, даючы яму дарогу. За ім ступіў у сенцы Федзя, ніякавата ўсміхаючыся.

— Ларыска, то хоць ты напіся малака! — як не ўмаляла Аляксана.

— Ой, дзякую... Не магу я малака нешта... Расстройства ў мяне робіцца,— адмовілася тая.

— То я з сабою табе дам. А дома як знойдзеце... Карову ж не дзяржыце...— Аляксана шуснула ў кухню, дацадзіла малако ў трохлітровы слоік, нашчоўкнула на яго пластмасавую накрыўку і — у сенцы. Сумку з рук Ларысы адабрала сілком, паставіла ў яе слоік.—

Во... Я ж кажу — як знойдзеце...— І аблегчана выпрасталася, выціраючы ў фартуху далоні.

І ў час, бо ўжо выступіў з кухні ў сенцы Гардзей, а за ім і Федзя, па чарзе падалі ёй рукі.

— Вы ж не забудзьце: у тую суботу дзевяціны,— напомніла яна.

— На дзевяціны не змагу. На саракавіны-шасціны — буду... Гэта... гэта будзе пятнаццатага кастрычніка,— сказаў Гардзей.

— А божа мой... А што ж людзі падумаюць? — ледзь стрымалася, каб не захліпаць, Аляксана.

— І я не змагу,— паўтарыў за братам Федзя.

— А пакровы ў пятніцу, чатырнаццатага, Аўдотка казала... То пра саракавіны хоць не забудзьце! Я ўжо спецыяльна не буду вам наказваць! — Аляксана гаварыла гэта наўздагон Гардзею і Федзю, якія ступілі з усходцаў. А Ларыса замарудзіла на ганку з сумкай, і Аляксана сама абняла яе, цмокнула ў шчаку.— Дзякуй, сястрыца, што памагла ў горы...

Лявошка прашкандыбаў да вулічных варот і ў варотцы выйшаў за гасцямі. Прайшла туды і Аляксана; стаялі, чакалі, пакуль тыя рассаджваліся, ляпалі дзверцамі; слухалі, як вуркоча, разаграваючыся, матор. Федзя, адзін Федзя не вытрымаў, выглянуў у акенца, памахаў рукою. Аляксане здалося — ёй адной, і гэта было ўцехай у тым холадзе, якім абдаў на развітанне Гардзей.

— То ты ж хоць не цурайся, заходзь з Настасаю на снеданне,— запрасіла Лявошку.

— Я зайду, Настаса не зможа.

І гэтае снеданне прайшло ў нейкім спеху і напружанні. Кожнага ўжо цягнулі з-за стала свае клопаты. Аляксана і не затрымлівала вельмі людзей, яе і самую браў рупесак: хутчэй бы паглядзець, што там, у Ясевым кашальку. Хаця не — у Слуцак спачатку трэба злётаць, у юрыдычную кансультацыю. Вось тут і праўда — адклад не ідзе ў лад.

Але толькі адправіла на аўтобус старых Пятра і Зосю (праедуць дзве суседнія вёскі, а да трэцяй, Буславіч, дойдуць пеша — два кіламетры), прыляцеў матацыклам сын Лёня. Нібы дзе падпільноўваў за плотам, калі ўсе раз'едуцца, і выскачыў як Пілip з канапель.

Матацыкл не кідаў на вуліцы, уцяг праз варотцы ў двор. І ў хату адразу не ішоў, а стаў пры плоце ў

куртцы-тужурцы, у шлеме, рукі на штыкецiны паклаў, узіраецца ў сад, на вуллі — мо пералічвае, колькі іх. Аляксана цікавала за ім праз кухоннае акно і не спяшалася, каб пагукаць у хату. Урэшце Лёня павярнуўся ад плота, і Аляксана спешна хіснулася ад акна.

— Дзень добры! — зайшоў у кухню — рыпучы, прапахлы бензінам, «жабкі» пад абцасамі — дзінь, дзінь.

Лёня хуценька правёў вачыма па кухні — няма на месцы стала, шмыгнуў позіркам за шторы ў пакой, нават шыю трохі выцягнуў, нібы хацеў выявіць уцекача.

Аляксана пасунула пад лаву сумку (пачала ўжо збіраць у горад) і глядзела, як водзіць вачыма сын.

— Не прыбрана ў мяне яшчэ... Такі вэрхал тры дні, усё дагары...— загаварыла першая, пацягнулася фартухом да вачэй, нібы сама прапаноўвала, пра што пагаварыць.

— Ну але-е-е...— Лёня — дзінь, дзінь касячкамі пад туфлямі — ступіў да таго месца, дзе стаяў раней пры перагародцы стол, і апусціўся на маленькі заслончык. Нібы знарок прынізіў сябе, паказаў на гэты момант сваю слухмянасць і пакорлівасць.— Да-а-а... А я ж і не ведаў нічога... Нічога ж мы з Валяю не ведалі... што тут нарабілася такога! І ты нам не наказала... Пятрок з Зосяю раптам сабраліся, паехалі, таксама слоўца не сказалі... Як хочаш, так і думай, а я ў вочы скажу: нядобра робіш. Не такія мы ўжо нелюдзі, як вам з Пятром Сухавеем здаецца. Сын я табе ўсё-такі... А Івана Іванавіча я зразу запаважаў, як пабачыў на вяселлі: самастаяцельны чалавек... Ну, а тады, як ад'язджалі з Буславіч сюды... трохі недаразумення было... палучылася. А ўсё ты вінаватая... З бухты-барахты, цяп-ляп — замуж! Ды хто ж так робіць? Трэба было зараней, намнога зараней пра ўсё сказаць... Абдумалі б, абмеркавалі, як лепш і табе, і нам уклад жызні арганізаваць. І ўсё мірна было б, спакойна... І людзі б на нас столькі непатрэбшчыны не валілі: не ўжыліся, выгналі... А хіба гэта праўда была? Калі што і сказалася пад гарачую руку, дык... Ну — вінаваты я, прашчэння папрасіў бы... каб і ты не парола гарачку...

«Бач ты, як мякка сцелеш... Бач, як ты ўжо запеў! Ну але, але, ліслівае цялятка дзве маткі ссе...» — падступіла пякотка пад грудзі. Пракашлялася і сказала

не тое, што хацелася б смальнуць у вочы, дні жалобы прывучылі многае хаваць у душы.

— Лёнічак, я пашці без памяці была...— («Хай будзе Лёнічак... Яшчэ ж невядома, чым скончыцца, мо зноў прасіцца трэба будзе да яго, мо вытураць Сухавеі з хаты...»).— Без мяне ззывалі людзей на пахаванне, на памінкі... Я, калі хочаш ведаць, і дасюль яшчэ не ачухалася...— Аляксана заўсхліпвала мацней, потым трубнула носам, снякаючыся. Слёзы былі шчырыя, але чамусьці іх было мала. А ёй хацелася прадстаць перад сынам зусім знябожанай ад гора, выклікаць да сябе спагаду і літасць. Каб і пашкадаваў яе, але каб і не лез з роспытамі, спачуваннямі... і прапановамі. Так, прапановамі! Бо ён жа не вытрывае, каб чаго не вымеркаваць у сваю карысць.

— Адбілася адна... і будзеш цяпер кукаваць сярод чужых. Захварэеш, то і вады не будзе каму падаць...

«Бачу, сынок, бачу, куды горнеш... Але нічога ты ад мяне не пачуеш...» — зноў трубнула носам, горна ўздыхнула.

— Падарвешся тут адна, кажу. Вярнулася б, то ўжо неяк жа... глядзелі б адны адных.

«Падарвешся...» А ты ж не ведаеш, што няшчасце ўбіла мяне і на кароўнік. Як уюн на гарачай скавародзе буду круціцца...»

— ...прадавай хату і... Я й машыну наняў бы, перавёз чын чынам...

«Дзіва што наняў бы... Машыну! А што я ад цябе прывезла? На коніку... У чым стаю выпхнуў... Гэта ж добра, што Ясь такі чалавек аказаўся — ні слоўцам не ўпікнуў. А каб другі які...»

«Наняў бы... Ты й рад быў бы, каб зноў на цябе парабкавала... Сказаў бы: гані грошыкі за хату, нашто яны табе...»

— Адна, сярод чужых, у чужым сяле... Ты ж нічым не звязана. І ні з кім...— Лёня як нюхам чуў, якую больку больш вярэдзіць.

«Што адна, то адна... Хоць бы гэты праклятты кашалёк не прымяшаўся... А то... Нават Дар'я і Аўдотка цурацца сталі...»

— Невядома яшчэ, як што складзецца... Пажывем — пабачым...— Аляксана не сказала, што і сама не ведае, як будзе з хатаю, з гаспадаркаю, што сядзіць сама як на вулкане. «Але чаму ён упэўнена гаво-

рыць — прадавай, хіба законы ведае? А я... Цёмны чалавек як дурны...»

Трэба ўжо другі раз даваць парасятам, малых кормяць часценька. Калі дома, то трэба даваць, бо каб вырвалася ў Слуцак, то трохі б і пагаладалі: не пайшла б ні да Дар'і, ні да Настасы прасіць, каб пакармілі. І яна раздушыла ў вядры пару вараных, «яшчэ без крыхмалу», бульбін, намачыла ў малацэ кавалкі булкі з памінальнага стала, перамацала пальцамі ўсе грудачкі, парасціскала, бухнула, не шкадуючы, малака і пайшла з кухні. Лёня не чакаў, а падаўся следам.

І ў хлевушок, скіданы пры сцяне як шопа, зазірнуў. Аляксана спехам ачысціла карытца ад укарэлага на берагах корму, выкідала курам, беражліва выліла свежую яду.

— О, многа падраслі ўжо... Мае горшыя,— пахваліў Лёня.

«Соль табе ў вочы, дзяркач у с..., жорна ў горла...» — хуценька прагаварыла ў думках заклён ад падзіву-ўроку, а ўголас сказала:

— Гэта ў хлевушку здаюцца вялікімі... А выганіш на двор — драбната!

Яна прычыняла дзверцы ў хлевушку і ўбачыла, што па гравейцы — ту! ту-у! — паляцеў назад у Слуцак аўтобус, той рэйс, што ў дванаццаць трыццаць. Наступны будзе толькі ў шаснаццаць, наступным няма чаго і рыпацца — у слуцкіх канторах канчаецца рабочы дзень. Уздыхнула і... злосць апанавала яе. «Чэрці цябе прынеслі, сыночак... Каб ты бокам ездзіў!» — Ледзь не сарвалася ў яе з губ.

А Лёня ўжо ішоў паўз плот і не зводзіў вачэй з вулляў, ішоў да варотцаў у сад.

— Слухай, я ў цябе вазьму адзін вулей... на развод,— знарок абыякавым голасам, быццам даўно ўсё было вырашана, сказаў ён.— На ліха табе столькі... Ці адкуплю... Толькі грошай сёння не захапіў... Пашукай якое вераўчакі — да багажніка прывяжу! — апошнія словы гаварыў ужо з саду.— Во гэтага невялічкага, сіненькага...

— Ты здурнеў?! — ашаламілася ад такога сынавага нахабства Аляксана.— Хто ж гэта перавозіць вуллі сярод белага дня? Усе пчолы па ўзятак паляцелі! — яна не знаходзіла, чым бы яшчэ адбіцца.

— Нічога, нічога... Многа і ў вуллі... Галоўнае — матка ў вуллі. Прыткну ляток, а тыя, што ў разлёце, хай ляцяць следам...

Лёня скрануў з месца вулей, прысеў, каб лепш яго ўзяць у абдымкі з ножак-падставак. Аляксана нават не паспела сказаць, што Ясь да пчол ніколі не ішоў у брудным адзенні, а толькі ў чыстым і толькі пасля лазні. Не любяць пчолы бензінавага паху, не любяць поту.

— Слухай, я табе дам мёду... гатовага... Толькі пастаў на месца!..— У Аляксаны нават у грудзях захалодала, яна ўявіла, чым пагражае ёй такое вось парушэнне Ясевай пасекі. І калі?! Мо нябожчык не паспеў добра астыць. «Няўжо знарок ён... з гэтым вуллем... каб хутчэй выпэндзілі мяне адсюль?»

Лёня дыбаў ураскірэчку, ледзь не ўпрысядку, і круціў галавою, цёрся то адным, то другім вухам аб плечукі, порскаў губамі, як конь, здзімаў з іх пчол. І раптам расцісзнуў абдымкі, упусціў вулей пад ногі — удзёўбнуўся ён рогам у зямлю і застаўся стаяць нахілена. Папёр, як шалёны, тузаючы маланку на грудзях, рыўком нацягнуў куртку на галаву. У паўзачыненыя варотцы як не ўламіўся, ажно пачуўся трэск. Яшчэ тры скачкі — і ўляцеў у сенцы, джвэгнуў дзвярыма.

У Аляксаны ўжо таксама пранозліва енчылі-зумкалі ў валасах, шыючыся ўглыб, пчолы. Але яна ішла павольна і ўсміхалася задаволена. Азірнулася па баках і назад: ці не бачыў хто, што рабілася ў садзе?

Бачыў: перад вокнамі свайго дома слупам стаяла з кошыкам у руках Настаса — мо гуркі выбіраць сабралася? Чарнее разяўлены ў здзіўленні рот, не зводзіць вачэй з абрынутага на зямлю вулля.

Адна пчала пеканула ў галаву, дабралася-такі...

Аляксана яшчэ больш замарудзіла хаду, нібы ішла на эшафот. З левай рукі не выпускала восілкі свінячага вядра, а праваю асцярожна вадзіла грабянцом па валасах, вычэсвала пчол («Галоўнае пры доглядзе, каб ніводнае не раздушыць, бо раз'ятрацца...» — павучаў неяк Ясь).

Горш пчол пяклі ў спіну Настасіны вочы.

— Хутчэй!..— выдыхнуў у шчыліну, прачыніўшы сенцы, Лёня.

Губа пад яго носам паспела ўспухнуць і вельмі нагадвала свіны лыч.

## 2

І Настасу загналі пчолы ў хату. Ніякіх гуркоў яна не збіралася шукаць, нядаўна выбірала дый саліць не было ў што. Яна выскачыла з хаты з кашом знарок, як толькі ўбачыла на бацькавым двары знаёмы вішнёвы матацыкл. «Прыпёрся ўжо? А чаго ён прыпёрся? Ну й груган, няйначай пажывіцца хоча ці вынюхаць што...» І як у ваду глядзела: пацяг Лёня з саду вулей. Сярод белага дня! Яшчэ і пясок на бацькавай магіле не прасох! Каб і немаведама хто быў, дык аслупянееш!..

Ускочыла ў хату, ад раптоўнай спазмы ў лёгкіх не магла добра ўздыхнуць, нібы на пажар ляцела з кіламетру. «А што ж гэта робіцца, людцы мае?! Грабяць сярод белага дня! І ні Косця не ведае, ні Рыгор... І Гардзей з Федзем паехалі... На мяне ўсё кінулі! На самацёк!.. А тады будуць грызці, пілаваць: «Куды глядзела? Ты ж дома заставалася...» А я ж выпадкова дома, мне ж трэба было на бульбакамбайн сёння, камяні з транспарцёра выбіраць. Зламаўся камбайн... А колькі зараз часу? Гадзіна па паўдні скора... Абед!.. І Віцьку са школы трэба сустрэць, ледзь сумку валачэ, небарака... І карову даіць... І Косцю збегаць сказаць, што такога нарабілася... А мо лепш Рыгору? Не, спачатку Косцю, ён спакайнейшы. Мо параіць, што рабіць... Бо Рыгор зразу дроў наломіць... А чаго ж я сяджу?! Віцька сам прыйдзе, людскія ж дзеці самі носяць... Пагуляе каля дому, пакуль я спраўлюся...»

Настаса схапіла вядро. Спачатку трэба да каровы... «Авой, хату ж не замкнула!..— вярнулася ўжо з агарода.— Аво-я-ёй, і каровы ж сёння не на Блюдзейку, а ў Капусніках... Больш за два кіламетры перці!..»

Да Капуснікаў лепш за ўсё ісці так: перакінуцца церах гравейку і Кавенькаю паўз сад, потым лугавою дарогаю каля ржэўніку, аж пакуль не сыдзе ён — на клін між Кавенькаю і «стаўбавою». Але Настаса часта не вытрымлівала, кідала лугавую гладкую дарогу, праставала па ржышчы, да крыві колючы і стрэмячы лыткі. Спадала гарачка, і Настаса не вытрымлівала ўколаў, зноў выбіралася на ўезджаную дарогу — і подбегам, подбегам. Праз хвіліну-другую забывала пра калючы ржэўнік, зноў лезла, шархацела, каб хоць крыху выгадаць, спрасціць шлях. Многія жанчыны паспелі падаіць, ішлі купкамі назад, па дарозе і дзівіліся на яе фокусы: «Глянь-ка... Па полі пайшла... На-

сцё-ё, што ты там шукаеш?» І гукалі, і жарты кідалі, а яна ўсядно як не чула і не бачыла нікога. Яе штурхаў наперад адзін імпэт: хутчэй, хутчэй! Яе падсмальвалі, як пчаліныя ўкусы, думкі: «Пачынаецца!.. А Гардзей думаў — знайшоў кашалёк, і ўсё па ўсім... І ціш ды гладзь, сядзеце і маўчэце... А гэта ж яшчэ кветачкі — ягадкі будуць!»

«А такою ж лісою прыкідвалася, так лезла ўсюды без мыла... Мякенькаю сябе паказвала, хоць у вуха кладзі... Тры дні, як бацька памёр, і ўсе маскіроўкі пазлазілі. Ай-яй-яй, а ў мяне ўжо тады, як жаніцца надумаў бацька, кошкі за сэрца скрэблі: не кончыцца гэта дабром, не кончыцца! І ось табе на...»

«Брацікаў бог даў... Ніводзін не пацікавіўся, а што ж там было ў кашальку? Чаго яна так убівалася па ім? Мо якія залатоўкі бацька хаваў, а мы не ведаем... І пра ашчадкніжку ніхто ў яе не папытаў... А колькі там грошай ляжыць? Ну няхай на дом многа пайшло, дык жа пасля таго і мёд прадаваў, і цялушку, і кабаноў... Разам гадавалі, разам жылі, а грошыкі сабе клаў на кніжку... І ўсё гэта ёй застанецца? А за што-о?! За якія выслугі, які яе мазоль у тых грашах? А ў хаце, у гаспадарцы?! Пусты куфар і парасят двое — і ўсё прыданае... То хай засуне іх у куфар і коціцца адсюль... Папіла, пажыравала за бацькавай спінай — і до! Совесь трэба мець... А ў яе і не начавала тая совесь... Песенькі распявала!.. Чаму ж ёй не пець, чаму ж не гудзець... Загладухай стала, а прыехала мошчы мошчамі. Усе спадніцы парасточвала ў поясе, гаплікі паперашывала...»

«Дарэмна тады не пашворыла добра ў хаце, як засоквала медалі глядзець... Як што схапіла за рукі, за ногі, не пусціла далей кухні... Здэцца, ступаю, а не магу нагі адарваць. Як пропасць там ці пелька бяздонная... А ўжо ж адзін грэх быў бы, адзін сорам. Але ж у мяне яшчэ совесь есь... Совесь!.. Я не такая, як некаторыя з Буславіч, што ўжо вуллі раздаюць...»

«Што будзе з гэтымі вуллямі? Каму дастануцца? Або стрэльба... на печы... І бацька забыў нават, калі хадзіў на паляванне, для красы вісіць... Ну — пчол часам страшыў, каб садзіліся. А ёй для чаго яна? Зайцоў пойдзе паляваць? Або медалі тыя... І бацькавы зноў у прыстолак склалі, і мацерын ордэн там недзе. Нашто яны Аляксане? Гэта для нас яны памяць, а для

ае — пусты звон... Мужыкі гаварылі, думалі, што я не чую... Што інструмент усякі, гэблікі, і ўсё такое нікому не трэба... Як гэта не трэба? Ды калі нікому не трэба, то хай Косцю аддадуць. У гаспадарцы ўсё згадзіцца, не трэба будзе пазычаць. Во, у нас жа і дубэльтаў добрых няма ў вокны... Памалу і зрабіў бы... зімою, скажам... Абы матэр'ялу добрага дастаць, а інструмент свой. І не святыя гаршкі лепяць!»

Уздоўж «стаўбавой» дарогі поўзаюць бульдозер і каток, раўняюць разоры, прыкатваюць іржышча. Стаіць вагончык-двухколка, дышаль абапіраецца на металічны шпень-падстаўку. Каля вагончыка куча залошчаных папяровых мяшкоў з аміячнай салетрай і капец ружовых калійных. На ўтравелай прыдарожнай броўцы пад клёнікам жоўтая палатка. «Аэрадром робяць...— здагадалася Настаса.— Самалёт, казалі, прыляціць, мінералку рассяваць будзе пад азімыя. Толькі дзе ж яны будуць сеяць? Нават ранняя бульба яшчэ не выбрана... Ад сяла і да самага Канапелькавага хутара ранняя, а за ім, да Капуснікаў, позняя. Людзей жа мала, зусім мала... Вунь там, дзе бульбакапалкі, хлопцы ў сініх берэтах і спяцоўках, нагналі са Слуцкага СПТВ... І Сашка Рыгораў там недзе... А бульбакамбайн стаіць яшчэ, лятучка каля яго... Больш у рамонце, чым у рабоце. Разэрва: і жаць не кончылі, і бульбу трэба прыбіраць...»

Даіла паспешліва, мо нават і не выдаіла добра. Падхапілася з-пад каровы, калі ўбачыла, што пад аэрадромны вагончык пад'ехаў «беларус» з прычэпам-самаскідам. Сіненькі, на такім Рыгор ездзіў да таго грамабою. Мо ўжо яго адрамантавалі? Паманеўраваў каля кучы мінералкі — ш-шух! —ываліў з прычэпа. А з кабіны ніхто не вылазіць, і Настаса павагалася, кудою ісці дамоў — Кавенькаю ці «стаўбавою»? А мо гэта не Рыгор? Але дзверцы адкінуліся, скокнуў на дол трактарыст. Кінуў рукі ў бакі, потым угору-ўніз, угору-ўніз. Сеў на дышаль вагончыка — мо перакусіць. «Рыгор!..» — пазнала па барадзе. Папраставала па ржышчы туды...

«Косця — што... Скажа: не суйся, куды не трэба. Скажа: табе чаго не хапае? Ты галодная сядзіш, босая і голая? А хіба калі не босая і не голая, не галодная, дык хай што хочуць вытвараюць? Хай гадзяць на галаву, а ты маўчы ды ўсміхайся?»

— Я так і знала, што сухім давішся...— сказала падыходзячы.— Здароў! — Паставіла вядро на зямлю, пачала развязваць марлю.

— Здароў...— Рыгор вяла, як не сваім ротам, жаваў сала і хлеб.

— У гэту пору каб якога памідора, а не сала... Ты ж бы хоць да нас заскокваў, калі ў сталовую лянуешся. У мяне ўсягды наварана. Я прывучыла Косцю, дык амаль кожны дзень прыязджае на абед. У што табе наліць? Не цэджана, праўда...

— Я і так магу...— укусіў яшчэ раз і другі, а рэшткі загарнуў у газету, сунуў у бакавую кішэню пінжака. Устаў, узяў вядро аберуч. Піў доўга, стоячы... Не дачакалася Настаса, не вытрывала, каб не сказаць:

— А наша благаверная... пчол ужо раздае... Лёню свайму толькі што адзін вулей аддала.

Рыгор ледзь паспеў адвярнуць твар убок: пырхнуў, дзіка закашляўся, ледзь вядра не ўпусціў.

— Во... не туды...— ступіла да яго Настаса, пастукала кулаком у плечы.— Кажуць, што і ў лыжцы вады ўтапіцца можна...

— Як гэта... раздае? — прасіпеў, не перастаючы кашляць і адплёўвацца белым. Выцер вусы і бараду.

— А так! Сама бачыла: ашчаперыў аберуч, прэ вулей з агарода... Але пчолы далі дыхту, кінуў на паўдарозе, у сенцы заскочыў. То мо да гэтага часу ўцішыліся, павёз. Я сюды пабегла, даіць, не бачыла...

— І ты нічога ім не сказала?

— А што я скажу? Хто мяне паслухае? Ды ў мяне нервы не вытрываюць... Я ж расплачуся, раскрычуся... А тады самі скажаце: развяла бабскія сваркі.

Рыгор загнуў мацюка, сястры не пасаромеўся.

— Усе маўча-аць, маўча-аць!.. Я не ведаю, чаго вы сваім маўчаннем даб'ецеся? — з нейкай злосцю папракала Настаса.

— Гэта ты пра сябе?

— Пра вас. Браты ж у мяне ёсць... Мне то з бацькавай гаспадаркі нічога не трэба. У мяне — дом, дзякуй яму, што адпісаў. Але ж вы! Вы! Я на тваім месцы даўно б у суд падала! Не мае яна права карыстацца хатай і гаспадаркаю! А мо і падаваць не трэба, мо яно і так усё ваша? Але ж вы нічога не ведаеце... На бацьку дык некалі не пасаромеўся ў суд падаць, а тут... Грабяць сярод белага дня, а мы маўчым!

— Ну... ты мяне тым судом не папікай... Ты тады яшчэ смаркачкай была. Што ты ведала, што разумела? — Рыгор рашуча пайшоў да трактара.— Сядзеш са мною ці пабяжыш?

— А ты куды?

— Куды, куды... Туды!

Настаса ўхапілася ўвязваць вядро.

— То пажджы ж! — Забегла з другога боку, а дзверца ўжо сама адкінулася. Падала Рыгору вядро.— Ой, сукенку ўраблю...— але ўсё роўна палезла.

Пакуль выехалі на дарогу, трымала вядро адною рукою перад сабою, на вісу, другою хапалася, за што папала, каб не разбіць галаву. Хоць і завязана было вядро, малако плюхалася, сцякала ручаямі па вядры, і пад нагамі скора забялела лужына.

— Чуў, што людзі гавораць? Тоўстая Волька...

Трактар вільнуў крыху ўбок, нібы хацеў аб'ехаць якую перашкоду, і зноў — праменька. А Рыгор і слова не сказаў.

— На матацыкле Лёня, на вішнёвым...— зноў сказала Настаса.— Прыглядайся, мо дзе ляцецьме... На матацыкл хацеў вулей узбамбэрыць!

Матацыкл нідзе не мільгаў. І ў вуліцу заехалі — няма, і да самай хаты падляцелі, рэзка тармазнуўшы (вядро стукнулася і плюхнула вельмі моцна),— няма! Мо ўцёк?

Забеглі на двор і першым чынам вочы ў сад. Раз... два... тры... Восем... Дзесяць... Усе!.. Адзін толькі не на месцы — малы, аблезла-сіні, стаіць, скасабочыўшыся, недалёка ад плота.

— Не забраў...— выдыхнула Настаса і павярнулася да дзвярэй. І Рыгор павярнуўся...

На дзвярах вісеў замок.

— Сетку надзень. У падпаветцы сетка, ты ж ведаеш дзе...

Настаса бачыла, што Рыгор трохі разгубіўся, і гэтым напамінкам пра сетку хацела падахвоціць яго, паддаць духу. І Рыгор адчыніў падпаветку, хоць абое ведалі, што гэта палічаць за самаўпраўства, замах на чужую ўласнасць. Настаса, зразумела, магла апраўдацца: яна не гаварыла — адчыняй ці ўзломвай, ды яна і стаяла збоку, сама і пальцам не кранула дзвярэй. А Рыгору патрэбна было супраціўленне — аж да сваркі, і тады б ён распаліў сябе, мог бы пад гарачую

руку пахапаць вуллі, перавезці ў цешчын агарод, на гэта і Настаса спадзявалася. Хаця б палавіну іх, сваю і Гардзееву долю. А здарылася так, што супрацiўляцца не было каму, хітрая Аляксана знікла, і ён нехаця надзеў сетку, вяла пайшоў у сад. Падняў кінуты вулей, занёс на месца...

Выходзячы з саду, старанна зашчапіў варотцы.

— Пачакаем трохі...— адказаў на Настасін непаразумелы позірк, больш не глядзеў на яе, павесіў сетку ў падпаветцы на месца. Акінуў вокам варштат і інструменты на ім, развешаныя на сцяне пілкі і пілачкі. Ад усяго патыхала халоднасцю і ачужэласцю, нібы інструментам не карысталіся ўжо сто гадоў.

Настаса была расчараваная і незадаволеная, што гэтак скончылася. А яна ж так ужо была наструнiла сябе на баявы лад! І гэтак перлі сюды на трактары!..

Правяла Рыгора да варот. І яшчэ не развіталіся, як насустрач зайшла ў брамку Дар'я. У руцэ навязанае марляй вядро з малаком.

— Вы Аляксану шукалі? — здагадалася яна.— Гэта ж як віхор заскочыла да мяне, бразнула вядро і ключ — «Падой! Карову падой!» — і бягом да свірна. У Слуцак трэба скоранька — здалёк ужо сказала, з двара. А каля свірна ж машыны... А мне, дальбог, не хацелася ні даць, ні ў хату яе ісці...— Гаворачы, Дар'я дайшла да дзвярэй, пачала адмыкаць.

Не ведаючы самі — чаго, Настаса і Рыгор пайшлі з ёю ў хату.

У кухні на лаве стаяла вялізная каструля кіслага малака, мабыць, назлівала Аляксана, каб адтапіць на тварог. І на лаве, і на падаконніку, і ў шафаўцы — усюды стаялі збанкі і слоікі з малаком. Не выносіла дзён чатыры зборшчыку, ажно залілася ім...

Цадзіць не было ў што, і Дар'я паставіла вядро на лаўку, махнула на яго рукою.

— Пайшлі, пайшлі адсюль...— прыспешыла Рыгора і Настасу.— Не будзем нічога чапаць.

3 Паехаў Рыгор па мінералку, а Настаса, пакінуўшы дома малако, замітусілася: «А дзе ж Віцька?» Скоранька схадзіла да Расолькавых хлапчукоў, мо з імі гуляе. Быў, але ўжо даўнавата няма — сказалі ёй. Адмахваючыся ад звяглівай сучкі, прай-

шла Расолькавым дваром на загуменную дарогу, па ёй — да свірна. І там не застала: «Толечкі паехалі... А ты кудэю сюды ішла? Ну, а яны кругом да ў выган...» — сказала Калядова Марыля, якая затарвала мяхі з жытам.

Вярталася дадому подбегам, адчуваючы, што правінавацілася. Вельмі ж балюча рэагуе Лявошка, калі яму здасца, што яна менш уважліва аднеслася да Віцькі, чым да Светы. Рыхтавалася ўжо аскірзацца, калі што скажа.

Мужчыны, большы і меншы, сядзелі па тарцах стала і дружна сёрбалі зацірку са свежым малаком. Час ад часу зіркалі адзін на аднаго і ў талеркі заглядвалі, выцягваючы шыі — хто першы? На яе з'яўленне ніяк не зрэагавалі. «Сярдуе...— па выгляду Косці вызначыла яна.— Ну і я ж буду маўчаць...» Наліла заціркі і сабе, забяліла не свежым, а ранішнім малаком (не любіла свежага — кароваю пахне).

— З'еў? А цяпер пашукаем, што там яшчэ ў печы...— Лявошка заблытаўся, загрукаў пратэзам аб ножкі стала. Настасу ігнараваў.

— Сядзеце, я падам! — Кінулася першая да печы Настаса.

— Ах, вы тут, Анастасся Іванаўна... Добры дзень, Анастасся Іванаўна! — Лявошка ўжо выблытаў ногі з-пад стала, крутнуўся на табурэтцы тварам да печы і Настасы, не ўстаючы, нізка пакланіўся.

Віцьку гульня спадабалася, ён радасна зарагатаў, ускочыў з нагамі на крэсла і таксама пакланіўся:

— Добры дзень, Анастасся Іванаўна!

— Абучай, абучай на сваю галаву... Потым і сам не рады будзеш! — сказала з крыўдаю, не адварочваючыся ад печы. Заставіла віламі чыгунок назад у печ, прысланіла засланку. Дзве металічныя талеркі з тушоным мясам і бульбай паставіла ім пад нос са стукам. Села бліжэй да Віцькі, паправіла яму каўнерык:

— Чаго ж ты не пераадзеўся, сынок? Яшчэ форму ўробіш...— і зноў схілілася над талеркаю.

Не абзываліся больш і словам, чакалі, пакуль падсілкуецца Віцька, каб пусціць яго ненадоўга з хаты. Абое адчувалі, што пагаварыць ім трэба, інакш могуць узарвацца ад маўчанкі.

І вось Віцька «на трошачкі» выбег...

Загаварыў Лявошка.

— Хто прыязджаў? Саляркі каля варот накапала лужу...

— Рыгор... Мяне з поля падвёз.

— Уга — персанальны трактар падагнаў.

— Тут жа цэлы базар мачыха ўстроіла. Вуллі Лёня цягаў... Але трасцу, не даліся пчолы.

— Ог-го!

— От табе і ого! Пакуль мы сядзім, вушамі мух зганяем, другія...

— Што... ты... ад мяне... хочаш? — Лявошка вымавіў з прыцiскам ледзь не кожнае слова.

— Нічога не хачу! Я не ведаю, ад каго хацець... Жывых нікога няма, усе — «маё дзела — старана».

— «Рыгор пад'язджаў»... Гэта ты яго прывяла, нацкаваць хацела!

— Ён не сабака, каб нацкоўваць. А калі ён сабака, дык я хто?

— Жаночая логіка: «Ты хлусіш!» — «Ах, я хлушу?! Брашу, значыць? Значыць, я сабака?! Мама, ён мяне сукай назваў!»

— Ага, ты разумненькі, усе разумненькія, адна я дурная... Ты як быў чужым у хаце, так і застаўся чужаком. Нічога табе не трэба, нічога не цікавіць...

— Мяне многа што цікавіць. Толькі не вашы інтрыгі, крыхаборства, бабскія плёткі...

— Ну але, ты ж не нажываў — чаму б і не раскідвацца. Табе ні па чым галава не баліць! Ты і сюды на гатовенькае прыйшоў!

— Ну-ну-ну, што ты яшчэ хочаш сказаць?

У атамным рэактары і то рэакцыя кіруемая. А такую вось схватку-перапалку на нейкай крытычнай мяжы спыніць немагчыма. Настаса сама сябе не пазнавала.

— А тое! — выдыхнула са злосцю.— Дом не на твае грошы пастаўлены! Не на цябе запісаны!

Сказала і... божа мой, што гэта яна? Чаму сама сабе язык не адкусіла?! Што з ёю робіцца?!

Лявошка цяжка ўстаў, тузануў штору на дзвярах так, што тропнуў уверсе шнурок. Перайшоў пакой — і ў спальню.

— Значыць, я чужак... І дом, значыць, не мой...— мармытаў гучна сам сабе, вышмаргнуў з-пад ложка стары фанерны, мо яшчэ з ваенных часоў чамадан. Вытрусіў з яго ўсё Настасіна барахло на ложак (паспе-

ла напхаць!). Ступіў цяжкімі крокамі ў пакой, шпурнуў чамадан на канапу, пачаў збіраць свае рэчы.— То чаго ж я, дальбог, замінаю людзям, застую свет? Гэ-э-э... Дык гэта ж лёгка робіцца... Аслабанім, аслабанім ад свайго прысуцсцвія!

— А-а, дык унь чаго ён хаты не прадаваў! Уцячы збіраўся!.. А я, дурная, не здагадвалася... Вушы развесіла, як ухаджваў, улешчваў: ах, які чэсны! ах, які рахманы! Ах, які парцейны!

— Ты маю партыйнасць не чапай,— холадна і суха сказаў Лявошка — як чужы. Павыкідаў з шафы касцюмы, рубашкі, насоўкі, шкарпэткі, узяў з акна брытвенны прыбор — кінуў з бразгатам на дно чамадана.

— А я яшчэ пашкадавала яго... Гарушчы чалавек, мэнчыцца адзін з дзіцем...— Ёй бы хацелася ўжо і адступіць, але як лепш гэта зрабіць? Хто ведае? Палезла на табурэтку, каб звязаць шнурок, начапіць парцьеру.

Лявошка нібы не чуў яе.

— Віцька! — падышоў да акна.— Ідзі збірай свае кнігі!

Не, такога яшчэ не было. Не даходзіла да такога. Настаса саскочыла ўніз, а рашучасці адхіліць гэтую парцьеру не хапіла, ступіць Косцю насустрач не змагла. Гонар дурны не даваў прасіць прабачэння. І скоўваў страх — не так за сябе з дзіцем, як... Што людзі на гэта скажуць?!

І тут выпнулася парцьера, праступілі вострыя канты чамадана, потым крамніна марудна спаўзла, і Настаса ўбачыла гэты аблезлы чамадан з адною незашпіленаю сапсаванаю бляшкай (аднабока растапырыўся, нават крысо шэрага пінжака відаць).

Упала на калена...

— Не пушчу! — абхапіла здаровую Лявошкаву нагу, прытулілася тварам да калашыны.— Косцік, даруй, я дурная, дурная, дурная...

Лявошка патузваў нагу, спрабуючы вызваліцца, і гаварыў:

— Вашага... твайго я нічога не браў... Можаш праверыць чамадан... Пражыву... Да цябе жыў — пражыву і далей. Віцька трохі падгадаваўся — пражыву... Палавіну зарплаты буду табе аддаваць і без суда...

— Ну чаму ты такі крут? Ну прасьці... Вельмі ж мне крыўдна было...

Настаса тузала да сябе здаровую нагу. І каб не ўпасці, Лявошка крутнуўся, гэпнуў на табурэт.

— Да-а-а... Што адняў бог разум, то адняў. А здаецца ж, і бацька разумны, і дзесяць класаў кончыла. У савецкай школе выхоўвалася...

— Прасьці, ну я прашу!

— Ну, дапусцім прашчу... А далей што? Зноў да першай успышкі? Калі няма ў нас сапраўднага кахання, то хоць паважаць павінны адно аднаго... І дзіця ж у нас, Светка... Я ведаю, стары ўжо я для цябе.

— Не стары ты, Косця! І не трэба мне маладзейшых...

— Натуру трэба мяняць табе... Нялёгка гэта, як па жывому рэзаць, балецьме — уга! Але ж трэба... І калі раз пераступіш цераз сябе, другі — радасць з'явіцца: перамагла! Чалавек павінен заўсёды быць вышэй за абставіны. Вышэй гэтых праклятых ануч, гэтых пчол, гэтага саду, хаты... Не бог аднімае розум, а вось такая трасца, магчымасць пажывіцца на дармшчынку... А трэба жыць, каб усё гэта не заступала свету. Яно... Ты колькі жыццяў хочаш пражыць?

— Вой, хоць бы адно... як-небудзь перапаўзці.

— Бач — перапаўзці. Хоць адно... Хоць ракам... А я не хачу поўзаць. Тым больш што жыццё толькі адно... І такое кароткае, халера на яго! Чуеш? Каро-откае... А ты яго яшчэ ўкарочваеш, псуеш. Паліш нервы і сабе, і мне... А сквапнасць разрастаецца, як бур'ян, дай толькі ёй паблажку... Прага ўласнасці, нажывы і сварыць людзей, душы ім раз'ядае, на подласць змушае... Даўней брат на брата з косамі ішлі, рэзалі, забівалі: «Маё-ё!!!»

— Дык то ж раней... Дый хіба гэта забойства?

— Ну, калі не ў прамым сэнсе, то душу забіваеш, атручваеш... і сабе, і другому... Ты мне здорава паласнула, не скора рана загоіцца. Я чалавек ранімы... У мяне яшчэ з вайны нервы без ізаляцыі... То вот так: я цябе папярэджваю — нас развядзе толькі вось такое... Дапусцім, я сёння застануся, але ж паміж намі ўжо сцяна лёду, не скора яна размыецца... А як што-небудзь падобнае паўторыцца?!

— Косцік — не паўторыцца... Клянуся табе!

— Дзе ты падзелася — тая, што дзеўкаю была?

У самадзейнасці нават была, у хоры... Папусцілася, апусцілася... Яшчэ камсамолка, а ўзносаў не плаціш, на сходы не ходзіш.

— Я па ўзросту выбыла.

— Да дваццаці васьмі ў камсамоле.

— А мне трыццаты пайшоў!

— Мая віна... Патакаў я многа табе, стараўся не заўважаць таго, што не падабалася. Перамелецца, думаў, мука будзе... Пасталее, думаў, паразумнее... Ажно не... На што ты сваю мазгавую энергію траціш, сілы? Ты ж бы змагла ўжо завочна які тэхнікум ці інстытут скончыць...

— На чорта мне гэтыя інстытуты. І без іх моташна...

— Моташна, бо не ведаеш, чым свае звіліны ў мазгах загрузіць. А без работы яны атрафіруюцца, тлушчам заплываюць... Я і то думаю экстэрнам за дзесяць класаў здаць.

— Не смяшы людзей... Табе шосты дзесятак...

— Не ў гэтым смех... Смех у тым, што чалавек нічым не цікавіцца. А ты часам паглядзіш кіно ў тэлевізары — і ўсё. Забыла, калі ў бібліятэку хадзіла...

— Ёсць мне калі! На работу нават не хадзіла, са Светай сядзела... А накруцішся за дзень, пад вечар нічога не міла, толькі б, здэцца, прылегчы і ногі выцягнуць... Усё ж старалася, каб табе менш клопату было, каб табе большую палёгку...

— Знойдзеш і час, абы захацела. Трэба прымусіць сябе захацець. Тады не будзе ў голаў абы-што лезці.

— Гэта не абы-што. Гэта ўсіх нас падточвае, Косця... Яна ж нас ганьбіць... Бацькаву памяць!

— Будуць шасціны, збярэмся, пагаворым пра ўсё. Нават па вашых бабскіх забабонах, і то нельга сорак дзён нічога чапаць... пасля нябожчыка...

— Мы будзем чакаць, а яна ж не чакае. Яна ўжо дзейнічае!.. І ў Слуцак вунь паперла!

— Законы не пераскочыць ні яна, ні ты... ні мы...

Калі Віцька ўрэшце з'явіўся дадому, тата і мама сядзелі на заслоне побач і не зусім мірна гутарылі. Каля іх ног ляжаў няўклюдны, нядобра зачынены чамадан. Ён ужо хацеў зацікавіцца ім, але тата і мама нібы не заўважалі Віцькі, і ён шморгнуў за дзверы зноў.

4 Аляксана як ні спяшалася ў Слуцак, усё-такі дачакалася каля свірна «свайго» шафёра — Панкрата Шапчыца. Другім і тлумачыць трэба, і ўпрошваць іх, а гэты і так усё разумее. Другому трэба нейкую ласку рабіць, аддзячваць, а гэты ўжо «аддзячаны»: мёду яму давала ж! «Кінь перад сабою, знойдзеш за сабою» — яшчэ ж як праўдзіць прымаўка. Панкрат і распытваць не стаў. Памагаў садзіцца, схапіў Аляксаніну сумку з напружаннем, думаў, там не менш пуда чаго напакавана, а рукі падскочылі лёгка, ледзь пад бараду не стукнулі. «Ёлкі-маталкі, дык яна ў цябе пустая?..» — толькі і здзівіўся.

Той раз ехаў хмуры і маўклівы. Сам шчуплы, твар трохі скрыўлены на адзін бок, даўно не голены. Плямкаў усю дарогу цыгарэту. А зараз выглядаў і маладзейшым, і чысцейшым. «Ёлкі-маталкі, а мёд праўдзівы ваш, без фальшу... Жонка хваліла...»

Аляксана слухала яго і нібы не чула, успаміна Ясевы словы. Той раз, прыехаўшы са Слуцка, расказвала пра Панкрата, а Ясь адно ўздыхнуў: «Пан крот» і «Пан крут» яго завуць, а то яшчэ «Пан круткі»... Заездзіла яго жонка, затузала». А от жа, мабыць, сказала разок ласкавае слова, то і ажыў чалавек.

— Цяпер ужо не будзе каму так пчол глядзець... А які ўход, такі і даход,— усё ніяк не мог забыцца пра мёд Панкрат. І Аляксана зусім перастала яго слухаць — хапала ў яе сваіх думак.

І трэба ж было так здарыцца, што перад самым Слуцкам пачуўся стрэл, машына ўздрыгнула і трохі асела, пайшла цішэй. Панкрат зруляваў убок і першы выскачыў на шашу, падбег да задніх колаў. Вылезла і Аляксана.

Правы ўнутраны скат быў сплюшчаны — спусціў дух.

— Ш-ш-ш-штоб цябе... І запаскі няма...— драў кіпцямі патыліцу Панкрат.— Слухай, Аляксандра, павартуй мо крыху збожжа, я прабягу ўперад, мо дарвуся дзе да тэлефона, у калгас пазваню. Каб запаску захапілі... Тут жа будуць нашы машыны ісці, прывязуць.

— Панкратка, мне ж няма часу... А так — што я табе памагу? Замінаць хіба толькі пад рукамі? Ты ўжо чакай тут адзін...— выцягла з кабіны сумку і ходу. Балазе недалёка, праз які кіламетр, быў канцавы прыпынак гарадскога аўтобуса.

А от у юрыдычнай кансультацыі не было ў гэты дзень той юрысткі з белаю палойкаю валасоў над ілбом, якой першай прадала мёд. Дзяжурыў мужчына, строгі на выгляд, пад гальштукам. Калі спачатку пашкадавала Аляксана, што няма знаёмай жанчыны, то потым і радавалася. Сама сыдзе за незнаёмую, расказа ўсю сітуацыю. А тая магла б папытаць: «Дык вы ж нядаўна прыходзілі пра шлюб даведвацца, як распісацца з чалавекам. А гэта ўжо...» Яшчэ і паглядзіць падазрона, падумае, што Аляксана яго ўтрубіла, не дачакалася з адраснага ўпраўлення адказу. А хіба яна вінаватая?

Выслухаў юрыст моўчкі, з каменным тварам. Па ім было відаць, што наслухаўся чалавек за многія гады ўсяго ўсякага, нічым яго не праймеш.

— У вас не саўгас?

— Не, калгас.

— Дык у чым жа справа? Вы апошні член калгаснага двара, вам усё і застанецца.

— А ў суд не трэба падаваць... ну, каб засталося?

— Не. Калі хто захоча аспрэчваць, хай той падае.

— Міленькі, а я ж была не распісаная з ім. Вяселле, праўда, спраўлялі, ды так і жылі. Не паспелі распісацца.

— Але ж факцічаскі жылі! І ўсе гэта ведаюць... Так жа? То й жывіце спакойна.

— Ну, але, але... Мы ж *факцічаскі* жылі, дарма, што яму было шэсцьдзесят пяць. Уга, які здаравец! — Аляксана ўбачыла, што юрыст ад яе слоў трохі збянтэжыўся.— А калі б гаспод адмераў больш гадоў, не паскупіўся, то і больш жылі б. А як, міленькі, будзе з грашыма? На кніжцы ў яго тры тысячы ляжыць...

— Надпіс на кніжцы завяшчальны ёсць?

— Няма.

— А мо так завяшчанне ёсць? У сельсавеце не цікавіліся ці ў натарыуса?

— Людзі трохі гаварылі пра нейкае завяшчанне, а потым перасталі.

— Калі няма завяшчання на грошы, то на іх спадчына адкрываецца праз паўгода. Атрымаюць грошы пароўну ўсе спадчыннікі першай чаргі — сыны, дочкі.

— А я?

— А вы не маеце права. Калі б распісаныя былі, то і вам была б доля.

— От жа доля ліхая... То як жа ж яно так: на хату, на гаспадарку, хоць і не распісаныя, маю права, а на грошы — не?

— Нічога больш у законах не магу знайсці...— паклаў юрыст белую далонь з доўгімі пальцамі на стос кніг.

— То дзякую вам...

— Калі ласка.

— А я думала...

— У касу заплаціце рубель. Следуюшчый!

Не, усё-такі мужчына — не тое. З ім не пагаворыш па душах, не паўздыхаеш. «Трэба было б тую жанчыну ці пашукаць, ці распытаць, калі яна дзяжурыць. Мо яна больш чаго сказала б... «Жывіце спакойна...» Дзіва што! Адкуль ён возьмецца, той спакой?»

## Раздзел пяты

1 Жаўтабрухі і тоўсты, нібы паросны, біплан «АН-2» прыляцеў апоўдні.

Пранёсся над «стаўбавой» дарогай нізка, ледзь не чапляючыся за драты, махнуўся ценем над галавою, заглушаючы трактар, ударыў рэзкім ровам па вушах (нават у кабіне хацелася ўцяць галаву), развярнуўся над Капуснікамі і ўжо зайшоў з захаду, пачаў зніжацца на пасадачную пляцоўку. Трэ-т, трэтр-р-р, крахкрах... Прабег крыху па зямлі і паруляваў, калываючыся, бліжэй да вагончыка. А тут і Рыгор падскочыў з прычэпам, ліха зманеўраваў узад-уперад, каб шчыльней стаць да кучы бартом, уключыў гідраўліку. А сам кінуў неўзабачкі вокам на шыбы самалёта — ці глядзіць хто? Бо і яны, механізатары... дакладней — ён, Сухавей, не ў просты вугал рублены. Пакуль зноў апускаўся кузаў на месца, стаяў і курыў, глядзеў на самалёт, як ён уціхамірваецца. Невялікі, як цацачны, ветрачок-прапелерчык на спіне самалёта, нейкія бляшаныя сплюшчаныя трубы пад жыватом... Стаў «АН-2», адкінуліся дзверцы збоку, на дол скокнуў пілот без фуражкі, без кіцеля, у адной рубашцы з гальштукам, павярнуўся да цёмнага праёму дзвярэй. Яму падалі металічную складную, такую, што рассоўваецца, як літара «А», лесвіцу, і ён тут жа палажыў яе на зямлю, потым прыняў з рук і жбурнуў напакаваны

чымсьці мяккім мяшок, потым — бляшаны шырачэзны шчыток на палцы, расфарбаваны напалам — адна палавінка белая, другая — чырвоная.

— Саша, тужурку! — папрасіў яшчэ той, што знізу, і калі атрымаў тужурку, мо яшчэ і не надзеў добра, як ускрыкнуў па-заліхвацку: «Ге-е-ей — гэ-эх!!!» і скокнуў-прыскокнуў да капы саломы непадалёку, зрабіў пярэдняе сальта, бухнуўся спінаю на салому. Раскінуў рукі крыжам, ажно прастагнаў ад задавальнення: «Мама, радзі міня абратна!»

А другі, што скокнуў з самалётнага нутра, быў у шэра-блакітнай форме, у фуражцы, кашуля яго ажно сляпіла белізной,— і таксама пры гальштуку. Падышоў да Рыгора, падаў руку:

— Дарафеенка. Аляксандр. Першы пілот,— нібы рапартаваў ён, а Рыгор, цiснучы яго крэпкую далонь, паспеў разгледзець на грудзях значок пілота трэцяга класа і значок «За безаварыйный налет 3 тысяч часов».— А той — другі пілот, Анатоль Кулеш.

— Вельмі прыемна.

— А дзе ж начальства? Старшыня сказаў па тэлефоне, што будзе сустракаць.

— Сказаў — значыць, будзе.— Рыгор разглядаў твар Дарафеенкі: хударлявы і смаглы, крыху каршукаваты невялікі нос, губы выразна і хораша ачэрчаны. «Красаўчык... Бабаед...» — падумаў.

— Да-а-а...— працягнуў Дарафеенка і пасунуў рукаў кіцеля, паглядзеў на электронны гадзіннік.— «Американская» точнасць — гадзіна сюды, гадзіна туды...— Выняў пачак цыгарэт, ліха пстрыкнуў пад донца: — Прашу!

«Прыму» суе... А форсу не цярае...» — Рыгор прытушыў у вусах насмешку.

— Толькі што курыў.

— Дык у вас жа нічога не гатова! Гэта ўсяго мінералкі? А дзе трактар-пагрузчык? Дзе сігнальшчык?

— Вунь старшыня пыліць, у яго і пытайце.— Рыгор палез у кабіну.

«Іш, атлёт... Вымі і пакладзі яму пагрузчык... Камандзёр знайшоўся!» — тросся Рыгор на сядзенні, і невядома чаму ўзнікала непрыязь да першага пілота. Мо таму, што так і пыхала з яго фанабэрыя, ці таму, што вылез з самалёта чысценькі і пад гальштучкам. Не тое што яны, мазутчыкі, калгасныя механізатары. Праўда,

у жоўтай палатцы дрыхлі матарыст і авіятэхнік, прыехалі аўтобусам, паспелі недзе выпіць і яшчэ не прачыналіся. У тых робы не лепшыя, чым у механізатараў.

Думаў, што Пеця Скакун прытармозіць, мо захоча што Дзеньдобры сказаць-папытаць, а машына не спынілася, праскочыла міма. На заднім сядзенні, здаецца, бялеў нечы твар. «Ну і хрэн з вамі...» Рыгор апошнія дні быў як пад токам, а разрадкі не хапала, хацелася бліснуць маланкаю, а даводзілася ўсё гнясці і тушыць усярэдзіне. І гэта прыводзіла да знямогласці і дрыжання ў мышцах, ныцця ў сэрцы.

Ну хіба можна так жыць, як ён жыве? А от жа жыве... З самага таго дажджлівага вечара, з «прымірэння» цягнецца ў хаце пакутлівае суіснаванне. Ніхто Рыгора не глядзеў, не мыў яму, неварыў. І ён вытрымліваў прынцып, ні з чым не звяртаўся ні да Мані, ні да цешчы. Калі і трэба было што сказаць, то звяртаўся толькі цераз дзяцей. Зусім бы дзеці падзічэлі і змізарнелі, каб не ўпрасіў Дзеньдобры Слуцкае СПТВ і не прыслалі ў парадку выключэння (у іх ёсць свой пастаянны саўгас для практыкі) групу першакурснікаў на бульбу, і Саша апынуўся фактычна дома. Яго сябрукоў размясцілі па хатах, нават у Дар'і пасялілася двое шпінгалетаў. Першыя дні Саша нікуды вечарамі не хадзіў — даглядаў малых. Правяраў раз урокі — рогат, аж кладуцца. А што было? Задачку смешную Саша вычытаў... Тры кані запрэжаны... Сярэдні бяжыць са скорасцю сорак кіламетраў у гадзіну. З якой скорасцю едзе ўвесь экіпаж? Алена першая крыкнула: «Сто дваццаць!» А Ваня лёг на спіну, задрыгаў нагамі, паказваючы на яе пальцам: «Купі-ілі! Купілі!» А то раз у лазню сваёй мужчынскай кампаніяй хадзілі... То Саша і галаву Ваню памыў, і спіну пацёр, нават дахітрыўся памыць сабе і яму майкі і трусікі, пакуль Рыгор курыў пад сцяною з мужчынамі, адыходзіў ад пары.

«Не спыняецца старшыня... І нічога не гаворыць, як быццам я наняўся яму... А сам жа казаў: пакуль уборка — не адпушчу. А жніво ўжо канчаецца, бульбу ўбіраюць. А пра бульбу ж не было гаворана — пра жніво! Ды якая ад мяне была палёгка на жніве?! Знайшлі затычку... для ўсякай дзіркі... А я не хачу быць затычкай і не буду!.. Гэта Сташэвіч усё камандуе... Помсціць... А калі ён на мяне нуль увагі, фунт знявагі, то я на яго і пагатоў!»

«Вольку ніяк не сустрэць. Хаваецца ад людзей, з хаты — ні кроку... Па начах ходзіць... Тайком прынесла сярэдначы мяшок з рабочымі трантамі, паклала пад сенцы... Давялі чалавека — людзей саромеецца... А хто ж давёў? Сам я і давёў!»

«А мо хацела сустрэцца, мо чакала, што выйду? Мо параіцца хацела, што рабіць? А я зашыўся ў сена, як крот...»

— Чуў я, міла, такую навіну,
Што ты маеш чужую дзяціну...
— Начавалі цыгане ў мураўцы
Дый забылі дзяціну на лаўцы...

«Настаса — скочка жыгучая... «Волька тоўстая...» Як быццам я без цябе не ведаю...»

Але Рыгор крывіў душою. Не ведаў ён гэтага. Волька сама не сказала, а людзі ў вочы не асмеліліся... Так — намёкамі, падсміхамі, перашэптваннямі. І зараз да яго ў поўнай меры дайшоў сэнс Настасіных слоў, і стала горача і непамысна. «От так вот... Кончыліся забаўкі... Пасеяў, то і жаць трэба... І, канешна ж, яна не захоча скідваць... Ей не дваццаць годзікаў... І казаць пра гэта не буду,— зусім можа мяне выракчыся...»

Да станцыі — пяць кіламетраў, назад — пяць, ды пагрузка (Будай грузіць, экскаватар — адна назва: той, што манціруецца на трактары «Беларусь»), і кожны рэйс займае па сорак і болей мінут. Калі прыехаў зноў да самалёта, каля вагончыка стаялі ўтрох — першы пілот, старшыня і Сташэвіч, глядзелі ў разасланую на дышлі карту і спрачаліся. Даказваў нешта Сташэвіч:

— Але ж вы захапілі мяшэчкі? Захапілі! Хлопцаў з вучылішча паклічам — і будзем грузіць! Дапатопны метад, а што зробіш? Не гатовы пагрузчык...

— За дзвесце метраў на рабочую вышыню заход. А дзе ў вас тут дзвесце метраў? Каля самых хат бульбянішча пачынаецца, коміны пазварочваю...

— Адтуль заходзьце, ад Капуснікаў, там хат няма... А над вёскай узмыеце ўгору,— павучаў Сташэвіч.

— А вецер адкуль? Напрамак ветру, скорасць ветру — усё ў разлік трэба браць,— даводзіў сваё першы пілот.

— Ве-цер йшчэ мо-жа па-мя-няцца,— сказаў Дзеньдобры.

— І плошча не гатова! Плошча! Бульба не выбрана! — гарачыўся Дарафеенка.

— Да хутара выбрана, а за хутарам — на два дні работы. Сто пяцьдзесят гектараў амаль што ёсць... Ды папар прымыкае да ранняй бульбы — яшчэ пяцьдзесят гектараў...— пералічваў Сташэвіч.— А ў тых брыгадах яшчэ...

— «АН-2» — гэта вам не кабыла Зюська. Гэта цацка дарагая! Мы прыменім штрафныя санкцыі або пераляцім у суседні калгас! Мы не можам два дні чакаць! — наступаў Дарафеенка.

— Санкцыі... Дзе сядзеш, малады чалавек, там і злезеш! — пачаў заводзіцца і Сташэвіч, і слухаць яго было смешна: сам быў не старэйшы за пілота.— Вы нас упрасілі на два дні раней самалёт прыняць, а не мы вас!

— Ці-ха, хлоп-цы, нешта прыдумаем... Зянон, а мо пусцім пакуль што на балота самалёт? Хай сеяныя травы падкорміць... Ёсць дзе разгуляцца...

— Тады пад жыта азотных можа не хапіць... Хіба на травы просты суперфасфат і калійныя даць, дзе больш нізка? І то на новыя ўчасткі. Акупаемасць кілаграма мінеральных угнаенняў у дзействуюшчым начале большая, калі падкармліваць вясною, а не цяпер.

— Кінь павучаць, я не хлоп-чык. Трэ-ба і ім пай-сці на-суст-рач.

— Як вы лёгка на ўсё згаджаецеся! А тое, што страты на гэтым панясем, вас...— і не дагаварыў Сташэвіч, нібы прыкусіў язык.

«Высока скача «благадзецель наш»... І нібы пакручваецца на вачах — ач, які я гаспадар... Ці не меціць на месца старшыні? А што, *такі* — спіхне! Вельмі ж дзярэ зямлю капытамі...» — Рыгор зноў палез у кабіну.— Не ўклініцца са сваёй справай... Хай, яшчэ рэйс зраблю, мо выкрычацца за гэты час...» Але яшчэ пачуў цвёрды голас Дзеньдобрага:

— Значыць, так: пач-нем з ба-ло-та. А потым кінем усю тэхніку на мінералку, падвязем і пад азімыя.

— А ўвогуле, Іван Кузьміч, з будучага года трэба канчаць гэтую самадзейнасць. Ёсць аграхімпункт, заключым з ім дагавор, у іх тэхніка, угнаенні, хімікаты... Будзьце настолька любезны, унясіце нам згодна тэхналагічнай карты...— віціійстваваў Сташэвіч, хацеў, каб яго быў верх.

Але паехаў Рыгор, не даслухаў тырады. «Не майго розуму справа. Хай самі разбіраюцца... Мая справа круціць баранку... Пра такія штучкі гавораць — галава пухне...» Трохі здзівіўся — нахапаўся навук Сташэвіч! — але павагі, чуў, да яго не прыбавілася, хоць і хацеў аграном паказаць сябе рупліўцам. А сам чэрствы, як сухар, фанабэрлівы, і пэўна ж сакратаром выбралі, яшчэ не ведаючы добра яго чалавечых якасцей. «Увосень справаздачна-выбарны сход, могуць і на вараных пракаціць камуністы... Шкода, што я не ў партыі, я знайшоў бы, што яму сказаць на сходзе... Шкода, што Дзеньдобры не сакратар, а старшыня... Ха, а чаму шкода? Ён і як старшыня на сваім месцы, хоць і акадэміяў не канчаў, як Сташэвіч. Мала такіх засталося ў старшынях, сыходзіць старая гвардыя...»

Калі Рыгор яшчэ раз прывёз мінералку, каля самалёта быў вялікі рух. Каля куч угнаенняў завіхаліся «фабзайцы», некаторыя шуравалі рыдлёўкамі і шуфлямі, насыпалі ўгнаенні ў невялікія, у калена, мяшэчкі. Рыгор ведаў, што навучэнцаў СПТВ так цяпер не завуць, але старая мянушка яму падабалася. Яшчэ здалёк пазнаў і Сашу, ён быў нібы за начальніка — загарэлы, голы да пояса,— паказваў рукою сюды і туды, распараджаўся. Налічыў восем чорна-сініх хлапечых постацей. Яшчэ двое вырасткаў подбегам валаклі цярэспаля з бульбяных загонаў бітон, за імі беглі ўслед трое. «Вінні Пух! Чабурашка! Скарэй! Даганяюць!!!» — дралі горла і гэтыя, што каля мінералкі, махалі тым двум узбуджана, падскоквалі. Усе пяцёра бегуноў грузнуць у раллі, спатыкаюцца на цяўніку. І дагналі каля «стаўбавой» дарогі: пачалі валтузіцца, адбіраць бітон. А потым валтузня спынілася, тыя, што дагналі, выпілі па дзве конаўкі малака. Рыгор нават уявіў размову пры гэтым: «Ну што — напу́галіся? А мо яшчэ па конаўцы? А цяпер уматвайце... Нам малако больш патрэбна, у нас шкодная работа — хімія». І трое пайшлі назад да бульбакапалак, пагладжваючы жываты і, мабыць, сытна адрыгваючы: здрадзілі грамадзе, спакусіліся на лішнія конаўкі малака, «прадалі» за іх бітон.

А машыны старшыні не відаць... Рыгор падруліў старанна, піпікнуў на «фабзайцаў», перакуліў кузаў.

Пухлявы Кулеш ляжаў у саломе, чытаў растрэпаную кніжку. «Таварыш пілот, а куды загружаць? Мяшкі поўныя!» — крычалі лётчыку хлопцы, энтузіязм так

і пёр з іх. «Мардахі яшчэ дзіцячыя... Ды яны і ёсць дзеці, горкія дзеці... Губкі пухленькія...» — глядзеў Рыгор на хлопцаў, узіраўся ў натхнёныя твары, на якіх быццам напісана было: «Нам асобы давер аказаны... Самалёт — не бульбакапалка...» І яшчэ раз пракрычалі лётчыку хлопцы, пакуль ён махнуў ім супакойліва рукою — «Астыньце!», а сам не адрываўся ад кніжкі.

Рыгор пайшоў да яго, на хаду дастаючы з кішэні цыгарэты. Працягнуў Куляшу, і той зіркнуў на яго адчужана і няўцямна і зноў упіўся вачыма ў старонку. «Пра шпіёнаў, мабыць, чытае... Такі ж малакасос, як і «фабзайцы»...

— Ба-бах!!! — крыкнуў над вухам Куляша, і той усхапіўся, ашаломлены. Рыгор зацёкся рогатам, а пілот сплюнуў, павярнуўся да яго спінаю.— А дзе... усе?

Нават не паварухнуўся Толя Кулеш.

— А-а... гэта... На балота паехалі. Арыенціроўка на мясцовасці...— І зноў нібы растварыўся ў кніжных старонках.

Што ж рабіць — пачакаць? Ці яшчэ адзін рэйс пракруціць? «Трэба абавязкова з Дзеньдобрым пагаварыць. Адклад не ідзе ў лад... Колькі ж можна...» Падышоў да Сашы:

— Ты ведаеш, колькі якіх насыпаць? Распараджаешся тут...

— Зянон Станіслававіч сказаў. Загрузка — 1200 кілаграмаў, кожны мяшэчак — дваццаць... На адну загрузку васемнаццаць мяшэчкаў фосфарных, дванаццаць — азотных, трыццаць — калійных. На гектар пападзе 200 кілаграмаў...

— Ну-ну...— пайшоў да хлопцаў, што прынеслі біton з малаком, адчуваючы міжволі павагу да сына: «На хаду падноскі адрывае. От бы яму на агранома вывучыцца... А што — кончыць вучылішча, і калі ласка... Паедзе ў Горацкую акадэмію і з атэстатам, і спецыяльнасцю механізатара...» — Ну як, не ўсё яшчэ выпілі?

Хлопцы расступіліся, выціраючы белыя вусы.

— Калі ласка! — у адзін голас выгукнулі «фабзайцы». Адзін з іх зачарпнуў поўненькую, падаў, а другі выгукнуў: — Хто яшчэ сасмаг?

Падышоў Саша, яму зачарпнулі адразу пасля Рыгора, але ён не выпіў сам, а занёс пілоту, і толькі калі вярнуўся, выпіў і сам. «Чабурашка» і «Вінні Пух»

перадыхнулі і зноў пацягнуліся да конаўкі. «Я ўжо шостую бабохаю...» — «Глядзі, будзеш свістаць на дзесятае бервяно...» — шапталіся яны. І Рыгор адышоў усміхаючыся: «Дзеці, горкія дзеці... Скокну яшчэ разок на станцыю...»

2 На дзверцах кабіны бялела паперка.

«Грыша, я зараз прыйду. А калі пячэ ў пяты, то садзіся за рычагі і шуруй. Ты сам шырокага профілю. А мне ентая пятрушка вантробы пераела. Сем мінут грузіш, трыццаць ста...» Не хапіла ў Будая лістка з блакнота, каб дапісаць слова. А Рыгор таксама не дапісаў сваю рэзалюцыю наўскасяк лістка — «Маржовы хр...» — закапрызіў «шарык». Ірвануў ручку дзвярэй, палез за рычагі.

У яго не было столькі спрыту. Пакуль прылаўчыўся, пакуль нагрузіў прычэп, прайшло мінут дваццаць. Калі ўжо ехаў назад, падгэцваўся на сядзенні, перабіраў у галаве размову Сташэвіча, старшыні і Дарафеенкі. І яшчэ раз прызнаў: Сташэвіч у нечым глядзіць больш рацыянальна. Самадзейнасць, яшчэ ж якая самадзейнасць... Нешта адчэпнае, пыл у вочы: во, маўляў, і ў нас ідзе падрыхтоўка да сяўбы азімых. Шырокі фронт, як і патрабуюць з раёна... «А гэтыя ўгнаенні са станцыі можна было за дзень-два вывезці, дай толькі больш тэхнікі. Забаўляюцца, керпаюцца... На мой бы характар — ніякі мне ўказчык не ўказаў бы...»

Рыгор бачыў, як узляцеў самалёт, набраў над вёскай трохі вышыню, паляцеў паўкругам у бок Капуснікаў над Вольчынай хатай, заклаў круты віраж і зноў паляцеў да вёскі, за вёскай развярнуўся над балотам вялікім кругам (атрымалася поўная васьмёрка) — і на пасадку. Ніякага шлейфа-хмары за самалётам не цягнулася, мо рабіў арыенціроўку зверху.

Маруда-трактар пакуль затэпаў да вагончыка, самалёт ужо стаяў побач з мінералкай. Каля самалёта тырчала А-падобная лесвіца, на верхняй пляцовачцы яе прыладкаваўся «заяц», а на самалёце — Саша, ён спрытна перакульваў-спаражняў у лючок мячэшкі з мінералкаю, мускулы на руках і грудзях ажно перакатваліся. На сярэдняй перакладзіне стаяў яшчэ адзін «заяц», каля лесвіцы — чацвёрты, астатнія — як працяг канвеера: і падносілі мяшэчкі, і насыпалі ў іх

шуфлямі мінералку. Саша паспяваў сачыць, хто колькі чаго насыпаў, камандаваў, што падаваць.

Самалёт стаяў так, што закрываў сабою вагончык, і Рыгор, высыпаючы «хімію», не мог з-пад самалёта распазнаць, хто там сядзіць, што за жанчына. А мужчын пазнаў: каля яе стаяць, штосьці гавораць. Дарафеенка, Кулеш і Сташэвіч («Дзеньдобры недзе ўжо дзеўся...»). Выключыў гідраўліку, выключыў матор, як звычайна — закурыў.

— Вады б ёй... Ці ёсць тут у каго вада? — хутка выйшаў з-за самалёта Дарафеенка.

— Малако яшчэ ёсць!..— Саша кулём зляцеў уніз, збіўшы з сярэдняй перакладзіны падавальшчыка, кінуўся да бітона, які сіратліва стаяў у баку ад куч мінералкі. Сцадзіў рэшткі ў конаўку, пабег за самалёт. Дарафеенка — за ім...

«Што там... і хто там такі?..» — павярнуў туды і Рыгор.

Гэта была Волька! Бледная, як смерць, адна рука ўчапілася за дышаль, нібы зямля пад ёю ўсё яшчэ калывалася, прападала з-пад ног, другая — пад горлам. Убачыла каля сябе конаўку з малаком, нават зазірнула ў яе — і рэзка адвярнула галаву: стала горш моташна. Рыгора яшчэ не бачыла.

— Эх ты! Лётчыца! Грызадубава! — нібыта ўпікаў яе, нібыта бадзёрыў Дарафеенка.— А як жа мы па сорак — пяцьдзесят пасадак-узлётаў робім?

«Вазілі яе... Волька лятала...» — здагадаўся Рыгор. Ён толькі на долі секунды спыніўся каля вінта, але паспеў падумаць, ці добра гэта, калі ён на вачах ва ўсіх падыдзе да яе, паспеў пачуць, як ад матора, нібы ад звычайнай машыны-працаўніцы, патыхае цёплым бензінным духам. «Чаму ж ніхто больш ніякай рады не дае?» — пайшоў хутчэй. Саша сам выпіў малако з конаўкі і падаўся за самалёт. Адышлі ўбок і Кулеш са Сташэвічам.

— Чаго ты тут? Табе нядобра?

— Здароў, Грыша...— аж сцялася яна і хваравіта ўсміхнулася.— Нічога, пройдзе... Цяпер гэта ў мяне бывае... Гэта ж на работу ўгаварылі мяне, сігнальшчыцай пастаяць. А чорт мяне падбіў у самалёт лезці...

— Гэта я — чорт?! — Дарафеенка скінуў фуражку.— Дзе ж у мяне рогі?

— Яшчэ вырастуць,— сказаў Рыгор.— Волька, мо

цябе дадому падкінуць? — зашчымела ад жалю і спагады сэрца.

— Не-не, я ото ўстану. Трэба ж на балота...

— Якое дадому?! — пачуў іх размову Сташэвіч.— Самалёт канчаюць грузіць! Ды ад гэтага бабы не паміраюць...

Рыгор бліснуў на яго вачыма, і ён змоўк.

— Не рызыкуй... Я ўсё ведаю... Ты пабеpainжыся, чуеш? — сказаў Рыгор і не падумаў, што яна гэтак успрыме: затулілася насоўкай, усхліпнула.

— Вольга Апанасаўна, слухайце, што я скажу...— зухавата, каб развесяліць, сказаў Дарафеенка.— Бачыце, вунь пад самалётам такія трубы сплюшчаныя? Тунельны распыляльнік угнаенняў, «штаны» па-нашаму... Дык во анекдот! Ха-ха... Даю ў атрад тэлефанаграму: «Сапсаваліся «штаны». Што рабіць?» А начальнік атрада ў адказ: «Зніміце і чакайце далейшых указанняў». Ха-ха, смешна, праўда?

Рагатнуў толькі Сташэвіч.

— Шурка! Ты добра патупай каля яе... Яна дзеўка падатлівая...— кінуў Зянон і зноў павярнуўся спіною да Волькі і Рыгора.

«Што-о... Што ён сказа-аў?!» — хлынула ў галаў, туманячы мозг, затапіла ўсё цела гарачыня.

Ламануў да яго, нібы абрываў з сябе прывязь. Кулеш першы ўбачыў страшны Рыгораў твар, акругліў ад страху вочы. Гэты спалох заўважыў Сташэвіч, рэзка крутнуўся... І тут Рыгор леваю рукою здушыў яго за каўнер, прыўзняў з долу. А праваю наводмаш — па левай шчацэ, па правай, і ўжо дзвюма рукамі штурхануў ад сябе. І не глядзеў, як Сташэвіч кульнуўся дагары, хутчэй да Волькі. Дарафеенка адхіснуўся з дарогі...

Падняў Вольку пад локці не зусім далікатна:

— Пайшлі! Паедзем адсюль! — І сціснуў за кісць, як абцугамі, пацягнуў за сабою.

## 3

Ён не чуў, што крычаў наўздагон Сташэвіч.

— Сцяжок! Сцяжок трэба...— тлумачыла Волька Рыгору і ішла спехам, спатыкалася.

А ён не разумеў, пра што гэта яна. І не бачыў, як успрыняў гэта здарэнне Саша (скочыў з самалёта, ірвануў дзверы — і ўсярэдзіну; кусаў за пыльным бункерам губы, сутаргава, не стрымліваючыся, усхліпваў).

¹/₂17 Зак. 347

Не бачыў Рыгор, што ад Капуснікаў па ўзлётнай палосе імчыцца «уазік» старшыні...

Падсадзіў Вольку ў трактар, ляснуў дзверцамі — ледзь паспела адхапіць руку. Забег са свайго боку...

Тузануўся з месца, ледзь не адарваў прычэп.

— Куды мы? Куды ты, дурненькі?..— учапілася леваю рукою ў яго локаць, хацела атушыць Рыгораў шал.

Выскачылі на «стаўбавую»... Набычыўшыся, глядзеў уперад, круціў руль, ціскаў сківаніцамі. На лобе пульсавала набухлая жыла.

— Ты мяне хочаш на балота падкінуць? Сцяжок сігнальны не захапілі...

— Яко-ое балота?! Які-і сцяжок?! — урэшце прарвала яго.— Паедзем адсюль! Усё! Хопіць!!!

— Кіруй раўней, а то падумаюць — п'яныя.

— Начхаць! Што хочуць, хай думаюць... Кропку трэба ставіць!

— Так на трактары і паедзем? У чым сядзім, з голымі рукамі?

Пад'язджалі ўжо да гравейкі.

— Ну, то заскочым на хутар! — Рыгор рэзка тармазнуў і павярнуў руль. Трактар ледзь не абярнуўся, ажно паднялося левае кола. Прычэп стаў упоперак дарогі.

І зразу — парасячы віск чужых тармазоў, скрыгатлівы ўдар, ажно здрыгануўся трактар.

— ...!!! — пачулі мат, яшчэ і дзверцаў не адчыніўшы, каб паглядзець, што здарылася.

Пад бок прычэпа загнала амаль увесь перад старшынёўскага «уазіка»...

— У цюр-му за-ха-цеў?! Ці ў вар'яцкі дом? — выкуліўся з машыны Дзеньдобры. Такім яго Рыгор яшчэ ніколі не бачыў.

— Дурыла конскі... Што ж ты паварот не паказваеш?! — трос кулаком, выскачыўшы, Пеця Скакун.

— А дзе твае вочы? Ляціш, як засляпіўшыся! — агрызнуўся Рыгор.

— Іван Кузьміч, вы ж бачылі! Я не вінаваты, Іван Кузьміч! — У голасе Пеці плаксівыя ноткі.

Дзеньдобры моўчкі мацаў лоб, глядзеў на пальцы, ці ёсць кроў. Скакун сеў за руль, пагазаваў, ірвучы коламі зямлю. Але так і не выбавіўся з-пад прычэпа. Вылез з аптэчкай у сіняй сумачцы, хуценька дастаў бутэлечку з празрыстай вадкасцю, мабыць, перакісам вадароду і шматок ваты. Мачаў ватку ў перакіс, аб-

мываў драпіну-сіняк Дзеньдобрага. Старшыня стаяў пад Пецевымі працэдурамі як злоўлены, не вырываўся і не крычаў, слухаў Рыгора.

— Рашчот давайце! Поўны! Сёння ж! Нагі маёй больш тут не будзе! — Рыгор паспрабаваў уключыць гідраўліку: чулася толькі сіпенне, кузаў прычэпа не падымаўся. З цыліндра ніткай выцэджвалася масла.— І Вольку разлічвайце, адпускайце!

— Дамо раз-лік... А то яшчэ і на мя-не з ку-ла-ка-мі кінешся. А Волька сама за сябе можа сказаць,— супакоіўся ўжо Дзеньдобры і ўрэшце вывернуўся з-пад рук Скакуна.— Волька, дзе ты там хаваешся? Ідзі паедзем.

Волька выйшла з-за трактара, але яе тут жа ўхапіў за руку Рыгор:

— Не ідзі! Усё! Хопіць!

— Пусці, Грыша,— ціха сказала Волька.— Самалёт чакае...

— Ух!..— вырвалася ў Рыгора. Падышоў хутка да прычэпа, падставіў пад кузаў плячо.— Газуй! — вызверыўся на Скакуна.

З другога боку «газіка» падышоў да прычэпа і таксама, падставіў плячо пад кузаў Дзеньдобры: «Давай!»

Зароў матор — вырвалася машына. Капот быў пакарэжаны моцна, давядзецца мяняць, замест правай фары вялікая ўмяціна.

— Усё пад-лі-чым! Прад-ста-вім ра-хунак... Яшчэ і не ра-ды будзеш...— гаварыў нібы сам сабе Іван Кузьміч, чакаў, пакуль залезе ў машыну Волька.

«Уазік» аб'ехаў прычэп па кювеце, пераскочыў гравейку і знік у завулку-выгане за прысадамі.

А Рыгор паехаў яшчэ не скора. Тупа, амаль не цямячы, глядзеў на расколаты цыліндр гідраўлікі, на вылітае масла. Зямля ўсё яшчэ нібы грукала ў пяты, пульсавала. Залез у кабіну, узлёг на руль, няўцямна ўзіраючыся ў пярэдняе шкло. Пульс чуўся ў руках, у лобе, на скронях, усё цела ўздрыгвала ад бунтоўнага, неўтаймоўнага грукату сэрца.

У вачах «таўклі мак камары».

## 4

Ён кінуў трактар з прычэпам каля майстэрняў, не заглянуў нават у расчыненыя дзверы, адкуль выляталі скрыгат і звон такарнага станка, людскія галасы. Яму ўсё зрабілася абыякавым, рукі і ногі бы-

лі млявыя, як ад вялікага Перапампленыя, і такая нуда тачыла сэрца, што хацелася завыць, як сабаку на месяц. Так было ўжо не раз пасля нервовых успышак.

«Чаму ж яна нічога мне не сказала... Не зразумела, што я еду ўжо? Што я не жартую? Не магла ж не пачуць — мёртвы мог пачуць!»

«Але ж і не крычала больш: «Я ненавіджу цябе! Ненаві-джу!» Мо людзей саромелася: Не-не, мабыць, адышла трохі пасля Апанасавай смерці... Час — добры лекар... А як яна тады на мяне — бож-жа мой!.. Цяпер — што, цяпер, як той казаў,— свяцІся. На чалавека падобная... Але ж трэба, каб канкрэтна сказала: так і так, тады і тады пераязджаем. Або: пачакай сёння, заўтра паедзем...»

Балота і забалочаны луг цягнуліся з усходу ўздоўж усёй Дубровы. Некалі пасярэдзіне яго на роўнай адлегласці ад Дубровы і Паддубцаў цякла невялічкая рачулка Ва́верка. Замест яе цяпер шырокая і амаль бязводная канавішча. Упоперак да яе некалі таксама былі парэзалі канавы, меншыя, цяпер паклалі ганчарны дрэнаж, а канавы пазасоўвалі. Толькі каля Блюдзейка ёсць яшчэ і канавы, і нарэзаныя імі «карты». На некаторых «картах» добра растуць буракі і морква, на некаторых спрабавалі сеяць жыта і ячмень. Але збажыну глушыла пустазелле, а камбайны па пульхным тарфяніку ішлі слаба, патрэбна было надзяваць на колы гусеніцы, і ад збожжа адмовіліся, пусцілі пад залужэнне.

Ішоў Рыгор на балота і больш думаў не пра гэта, а пра Вольку — як гаварыць з ёю, як угаворваць... Але гэтая думка абрастала іншымі, зачэпвалася за іх: Саша... дзеці... Маня... Смерць бацькі і катавасія з яго кашальком... Ці будзе якая спадчына, ці не... І што рабіць, каб не ўсё падгамтарыла пад сябе мачыха. Бо дзе ж тады справядлівасць, людцы?! Але *калі* рабіць, куды кінуцца? Няма ж часу, на ім другое вісне: пераезд у Навасёлкі...

Волькі спачатку не бачыў, мабыць, сядзела ў канаве, і толькі як выскачыў з-за прысадаў Дубровы і затрашчаў над галавою самалёт, заходзячы ад Блюдзейка, узнікла Канапелька як з-пад зямлі, над галавою чырвона-белы шчыток, той, што, бачыў, выкінулі з самалёта. Засігаў да яе напрасткі...

І трэба ж так (а мо Дарафеенка ўбачыў яго звер-

ху?) — самалёт прайшоў хоць і не над галавою, а больш на захад, усё ж трапіў Рыгор пад доўгую хмару мінералкі; шчодра сыпнула на галаву, за каўнер, хоць, здаецца, і ўгнуўся, уцяў галаву ў плечы, і нават упаў. Ускочыў, пагразіў кулаком, але хіба Дарафеенка ўбачыць, калі самалёт аж над Беразанню, заварочваецца ляцець назад. І не хацеў бегаць Рыгор, а пабег — хутчэй з таго месца, бліжэй да Волькі! Яна ж адышла ўжо, паказваючы шчыткам новую паласу, і глядзела, як ён цярэбіць на бягу галаву, нібы абселі пчолы, і нават усміхнулася. Ды пэўна ж усміхнулася, хоць відаць былі адны вочы — так захуталася хусткамі...

— Лажыся!..— дабег да яе, прыгнуў рукою. Упалі разам, нібы трапілі пад кулямётную чаргу, а самалёт спусціўся зусім нізенька, ледзь коламі па спінах не праехаў, і Рыгор уявіў, як выскаляецца Дарафеенка. Пакуль асеў пыл, пакуль разагнуліся, зноў не было каму гразіць кулаком.

І яшчэ два разы пераходзілі на новае месца, уторквалі той шчыток-сцяжок, і хоць можна было не падаць, ахвотна падалі, і Рыгор чуў пад сваёю рукою зваблівую цеплыню схудалых Вольчыных плячэй, бачыў, як цёпла свецяцца ў шчыліне між складкамі хустак яе вочы, і адчуваў, што ён зноў шчаслівы, як хлапчук.

Паляцеў Дарафеенка на загрузку, а яны падаліся да крутога берага Ваверкі, прыселі. Волька разблытала хусткі, сцепанула імі збоку ад сябе і не завязвала пакуль што, пакінула на каленях, падправіла крыху скамечаныя валасы — праваю рукою, бо левая была заціснута, Рыгор моцна туліўся да Вольчынага боку.

Трэба было гаварыць пра тое, што прычáпаў сюды, бо хутка зноў прыляціць Дарафеенка, не дасць. А гаварыць не хацелася, хацелася забыць на ўсё на свеце і гэтак вось сядзець, чуючы Вольчына цяпло з аднаго боку, а сонечнае — з другога, хоць і схілялася ўжо сонца да захаду.

— У цябе крупінкі белыя ў барадзе...— Волька трошкі павярнулася пад яго рукою, патрапала пальцамі бараду.

Рыгор злавіў яе руку, прытуліў далоняй да губ, пакзытаў барадою і вусамі. Сам не чакаў ад сябе такое пяшчоты!

— Еду сёння...

— Ага... Чым ты едзеш?
— Аўтобусам, апошнім рэйсам. Рэчаў у мяне мала.
— То лепш ужо зранку. Сёння і сабрацца трэба, і разлік... І туды пакуль дабярэшся — блізкі свет...
— Нічога, паспею.
— А лепш пачакаў бы разводу, і тады...
— Не магу. Ты ж бачыла, што сёння нарабілася.
— Бачыла. І ён вінаваты, Скакун... Але трэба, Грышачка, браць сябе ў рукі. А то гэтак і да турмы нядоўга.
— А ты? Ты калі?
— Не ведаю... Мо ніколі.
— Ты думаеш, што гаворыш?!
— Думаю. Каб ты ведаў, як мне страшна, не пытаўся б... Усяго страшна. Нават цябе баюся... А што, калі і на мяне ты руку падымеш? Добра ж, як добра, а раптам? Я ж не такая, як Маня, я табе не дазволю і пальцам сябе крануць.
— Клянуся!..
Волька заціснула яму рот далоняй.
— Я не патрабую ад цябе клятваў...
— Я не кідаю сваіх слоў на вецер, я магу быць як крэмень!
— З нічога, з пустога месца ўсё пачынаць... Ох-ха...
— Ты не пра тое гаворыш. Абы жывыя былі і здаровыя — усё будзе. А так не можа цягнуцца далей! Не можа!
— А дзеці як?
— Як... Народзім — выгадуем.
Вольчыны шчокі заірдзеліся.
— Я пра тваіх з Маняй.
— Пры Мані будуць — я табе казаў ужо. І Марфа яшчэ вёрткая — паможа. Страха ж над галавою ёсць!
— Аднае страхі мала.
— Ты адно і тое! Адно і тое! Колькі можна буксаваць на месцы?!
— Ото шасціны па бацьку... А хацелася б і «паўгода» справіць... у роднай хаце, і «год»...
— Ты звар'яцела!..— Рыгорава рука апала з яе плячэй.— Для мяне тыдзень без цябе — год! Пакуль з'едземся, то нічога й не трэба будзе! З кірмашу будзем ехаць!
Пачуўся рокат матора, і Волька падхапілася на ногі, падбегла да ўторкнутага шчытка, каб перанесці яго

на новае месца. Пакуль не заглушыў усё роў самалёта, крыкнуў услед:

— Дык што-о?!

— Падумаю!

Яшчэ нешта крычала Волька, але з-за прарэзлівага трэску матора Рыгор нічога не разабраў. Угнуўся, наставіўшы каўнер: на яго ападала шэрае, як неразвеяная нуда, воблака.

## Раздзел шосты

I

Можа, хто і не паверыць: Аляксана пачала баяцца кашалька. Тады адразу, як уручыў яго Гардзей, магла з гарачкі і распатрашыць. А мінуў дзень, другі, больш цвярозай развагі прыйшло ў галаву — і ўзрос яе страх. Ну хто яна такая, каб распарадзіцца Ясевай таямніцай? Ніхто з сям'і, яна ведала ўжо гэта, пры жыцці Яся не заглядваў у яго кашалёк. Так выхаваны былі... А яна адразу замахнулася на гэта свяшчэннае і недатыкальнае. «Глядзелі на мяне, як на здань з таго свету... Дзіва што будуць глядзець! Абгадзіла сябе перад усімі... Нашто мне быў той кашалёк — век бы яго не знаць! Каб той розум наперад, што цяпер... Але што ў ім? Што?!»

(Адзін раз толькі схадзіла пасля Ясевай смерці ў абору і адмовілася ад даення начыста. Нявыкрутка адной.)

І вось прыйшоў такі вечар, калі цярпець больш не стала сілы. Ухадзілася раней, рукі памыла старанна — як урач перад аперацыяй. Унесла з куфра кашалёк... І раптам ёй захацелася пайсці замкнуць сенцы, завесіць у кухні акно, каб ніхто не зайшоў, не перашкодзіў, каб ніхто не бачыў, што яна робіць. Нібы яна якая падпольшчыца і зноў вярнуліся немцы-акупанты. І пакпіла з сябе, і палаяла ўсякімі словамі, а духу так і не паддала: пачало дрыжаць ўсярэдзіне, халадзець пад «лыжачкай». «Тфу, госпадзі... Ды што гэта такое?! Чаго мяне трасца трасе? Я ж не чалавека рэзаць збіраюся...» Пайшла ў сенцы, як дыктаваў нейкі інстынкт, тромкнула засаўкай. Вярнулася ў кухню, сцягнула са свайго ложка ў запечку посцілку і тут жа збракавала яе: не гадзіцца, будзе прасвечвацца; разабрала пасцель, дастала коўдру-паўшарсцянку, добра ўваленую, узлезла на лаву. А цвікоў і ўбіваць не трэ-

ба, яны тырчаць над акном яшчэ з ваеннага часу. Начапіла ражкамі, падаткнула з бакоў і знізу, каб не прасвечвалі шчэлькі, скокнула ўніз. Уключыла святло...

І пачула, як пачала супакойвацца. Толькі твар усё яшчэ палаў, і яна лінула на руку вады, змачыла лоб, шчокі, шыю... «Ф-фу, ну — цяпер усё. Саджуся...»

Кашалёк быў некалі чорны, а цяпер амаль шэры, патрэсканы, на сузбінах ажно папраціраны. Дзве часткі яго, складзеныя кнігай, зашпільваліся на такі ж вышмарганы і выбелены раменьчык з бліскучай, ажно выпаліраванай кнопкай. Раменьчык, калі пацягнуць, мог і больш выдавацца з гнязда (трымаўся на гумцы), і пры жаданні кашалёк можна было яшчэ напакоўваць ды напакоўваць — хапіла б раменьчыка сасцігнуць.

Расклала...

Левая палавіна дзялілася на два аддзяленні. Адно, верхняе, было са сваёй накрыўкай-клапанам. Адвярнула і заглянула, запусціла пальцы... Выняла грошы — тры чырвонцы і тры пяцёркі — мабыць, апошняя пенсія. А што ў другім аддзяленні? Беражкі яго абжалезеныя і зацiскаюцца бляшкаю-зашчапкаю... Два металёвыя юбілейныя рублі і яшчэ дзевяноста тры капейкі дробязі... Вываліўся і наглуха зашыты цыратовы мяшэчак тры на чатыры сантыметры. Не ўтрывала, падпарола ніткі, пастукала аб далонь — вываліліся пярсцёнак і мосцік — дзве каронкі і два зубы. Залатыя! Ужо крыху з'едзеныя... Патрэсла яшчэ — і нічога больш не вытрасла. Схавала ўсё у мяшэчак зноў...

У правай палавіне кашалька ажно тры аддзяленні. Першае нізенькае, яно спачатку здалося пустым. Не, усё-такі штосьці там ёсць, зашамацела нейкая маленькая і нібы напарафіненая паперка. Выкалупіла яе кіпцем адтуль, разгарнула... І напісаныя словы паплылі, размыліся ў вачах. Хуценька рванула прыстолак, узяла чахольчык з Ясевымі акулярамі, тымі, што даўно не карыстаўся, якія былі «слабымі». Дрыжалі рукі, ледзь не ўпусціла акуляры, пакуль няўмела пачапіла на нос. «Маю пасмяротную волю знойдзеце ў завяшчанні. А завяшчэанне ў сейфе ў сельсавеце. Дамашэўскі можа ўскрыць яго толькі ў прысутнасці маіх дзяцей Гардзея, Рыгора, Хведара, Насці». Скінула акуляры — усё-такі не падыходзяць: хацела другі раз перачытаць і не змагла. Забалелі вочы, разбегліся літары... А мо і галава закружылася, павяло ўбок? Дык

вось яна, вось тая галоўная таямніца... Ёсць усё-такі завяшчанне, недарэмна людзі гаварылі!.. А на ашчаднай кніжцы няма — прыбраў. Хіба той надпіс, у кніжцы, супярэчыў таму, што ў завяшчанні? І што там, у тым завяшчанні? Мо і пра хату што напісана, пра маёмасць? Каму ўсё гэта ён адпісаў? А каму грошы, што на кніжцы?.. Расшпіліла каўнер... «Задуха ад гэтай коўдры... Закупорылася, няма чым дыхаць...— устала, таўханула дзверы ў сенцы, расчыніла як мага шырэй.— Позна ўжо сёння к Дамашэўскаму бегчы... Мо б ён і сказаў што... Ой, дык яго ж і няма! Казалі бабы ў аборы — у больніцу паклалі, ажно ў Бараўляны, што пад Мінскам... А раз у Бараўляны, то мо на самае горшае падазраюць... О, божачка, дык што ж гэта будзе?»

Не ўвесь кашалёк агледзела, яшчэ ёсць дзве кішэнькі; самыя разбухлыя. З сярэдняй дастала штосьці загорнутае ў пацёрты кавалак газеты. Разгарнула — аблігацыі... Сорак шосты, сорак сёмы, сорак восьмы, сорак дзевяты, пяцідзесятыя гады... Многа, ладны стосік, і мо ніхто іх ніколі не правяраў, не пагашаў. Адклала ўбок: займецца калі-небудзь імі, яна не Пятрок Сухавей, што абклеіў імі ўвесь запечак. А ў трэцяй што? Пакецік — і таўставаты, цвёрды, у белай паперы ў лінейку, перавязаны ніткамі...

Разгортвала, стойваючы дых. Прадчувалася, што ў гэтым пакеціку не меншая таямніца...

Выпаў роўна выпілены кавалачак фанеры, памер — з палавінку звычайнага канверта... Два канверты, згорнутыя папалам... Адрасаваны на слуцкі галоўпаштамт, да запатрабавання, Сухавею І. І. Зваротнага адраса ніякага, толькі кручок-роспіс. З аднаго канверта дастала тры пісьмы — кароценькія, з палавіну старонкі вучнёўскага сшытка, з другога выпалі чатыры фотакарткі... Аляксана расклала іх перад сабою веерам, потым патасавала трохі, і атрымалася так: на першай злева, пажоўклай, з паламанымі ражкамі — чарнавокі голы таўстунок, ляжыць на жываце, вачаняты-жучкі ўжо разумныя; ручкі пухнаценькія, каля кісцяў як перавязаныя ніткамі. На другой — школьнік у шэрай куртачцы з белым каўнерыкам навыпуск, лапавухі, з віхорчыкам у грыўцы над ілбом. На трэцяй — прыгожы, чарнавокі і чарнабровы юнак у касцюме пад гальштукам з прыкметнымі вусікамі. На чацвёртым — мажны мужчына ў лётчыцкай форме, маёр.

Вельмі падобныя былі паміж сабою юнак і маёр, можна было адразу сказаць, што гэта або сваякі, або адзін і той чалавек. І яшчэ напамінаў гэты двуадзіны твар некага вельмі знаёмага... Кінулася Аляксана ў пакой да прасценка, тузанула рамку з картачкамі. Вярнулася на кухню, працерла рамку фартухом, паднесла бліжэй да лямпачкі. «Ну, канешне ж, на Яся падобны! Во на гэтага, што сядзіць паміж двума ваеннымі ў белых паўкажухах і зімовых шапках. І нечым трохі на Гардзея падобны, на Федзю з універсітэцкім значком. «Сын Ясеў! Дальбог — сын! Яшчэ адзін сын...» Прысела зноў да стала, прыклала картачкі юнака і маёра заместа ваенных, што каля Яся... «І кропелькі пабраў! Як браты!»

Зноў пачалі дрыжаць рукі... Акуляры старалася начапіць акуратна, каб не ўпусціць. Перавярнула першую картачку, з карапузам: «Це Олесь, коли йому всього сім місяців». На другой картачцы, дзе школьнік, прачытала: «Дивись, Ясю, якій наш Олесь у сім років». На трэцяй: «Дорогий Иване! Це — Олександр Иванович, коли йому «грюкнуло» сімнадцяць (після закінчення десятирічкі). На чацвёртай, ужо інакшым почыркам, больш вострым і вуглаватым, было напісана: «На память отцу от сына. Здесь мне 27 лет, у меня уже свой сын, законный, двух лет». І подпіс: «Аляксандр Иванович Язвицкий. 3 марта 1972 года, г. Москва». А на трох першых картачках ніякага подпісу, ні даты, ні адраса — адкуль высланы. «Ач ты яго... Язвіцкі... Не Язвіцкі, а язва... Не ўтрываў, каб не папракнуць бацьку...» Скінула кофту, памахала ёю на сябе, потым устала, узліла на далонь вады, яшчэ раз апаласнула сцюдзёнкай твар.

«Дык што ж гэта робіцца, га? Сын, значыць! Незаконны, бо фамілія была б Сухавей, а не Язвіцкі... Ай, яй, яй... Вось дык Іван Іванавіч, вось дык мужанёк!.. І няўжо ніхто пра гэта не ведаў — ні Сарафіна, ні дзеці? А мо Сарафіна і ведала, але дзецям не казала... Ходзяць жа размовы, што не ўсё было ладна ў Яся з Сарафінаю, а ў апошнія гады ўвогуле чарнела і сохла... Ай, яй-яй...»

Зірнула на коўдру на акне, ёй здалося, што нехта падглядвае за ёю, нават хіснуўся беражок — сыпнулі мурашкі па спіне. Хуценька ўстала, адхінула — нідзе нікога... Зноў старанна завесіла, падаткнула край.

З адчування, што нехта за ёю падглядвае, ад таго, што і яна нібы падглядвае ў замочную шчыліну і бачыць нечы... не нечы — Ясеў! — сорам, рабілася нядобра і млосна. Але непераадольная цікаўнасць і неўсвядомленая яшчэ трывога падштурхоўвалі далей. Хацелася і абараняць Яся, нібы хто ўзвёў на яго паклёп, і да канца ўпэўніцца, што гэта — праўда, праўда!

«Ён жа казаў, што здымак... у кажухах каторы... на Карэльскім фронце зроблены, на поўначы такая Карэлія... А пры чым тут Украіна? На картачках жа па-ўкраінску напісана...»

Адняла ад 1972 года 27 гадоў, атрымаўся 1945 год. У сорак пятым трэцяга сакавіка нарадзіўся Олесь, Аляксандр. Значыць, быў там Ясь у сорак чацвёртым, у маі ці чэрвені ўсё завязалася ў іх там. Аляксана набрала паветра, нібы збіралася нырнуць, і да канца выдыхнула, разгарнула пісьмы. Пачала з самага мятага і жоўтага. «Ружа Язвицка, 10 вересня 1945 року» — значылася ўнізе старонкі. Почырк гэткі ж самы, як на першых трох картачках... «Мій милий, мій коханий Ясю! Я не вчиню ніякого бешкету... Наше майбутне...» Зразумела Аляксана «Мой мілы, мой каханы», [illegible] далей ужо з пятага на дзесятае. «А хто казаў, што ўкраінцаў можна зразумець, што яны гаворацць гэтак, як і мы, толькі «перакручваюць» словы? А Ясь жа разумеў тую Ружу-кветку, што б ні гаварыла... Хаця на тое дзела і без слоў можна дагаварыцца...»

Але ж далей, далей — што далей?

Зразумела Аляксана, што Ружа зусім не навязвалася яму на шыю, а нават дзякавала за сына, за тое, што цяпер яна не будзе адзінокаю... І ўгаворвала больш нічога не прысылаць ёй, сама выгадуе дзіця, і прасіла дазволу хоць раз у дзесяць «років» паведамляць яму, як расце сын, якіх поспехаў дабіўся ў жыцці... І, мабыць жа, дазволіў ці нават прасіў Ружу, каб пісала, і вельмі даражыў яе пісьмамі, калі так захоўваў, так дрыжаў над імі... «Але што ж гэта за каханка, што нічога не патрабуе, а толькі дзякуе? Божа праведны...»

У другім лісце паведамляла Ружа, што Олесь вельмі здольны хлопчык, яшчэ да школы навучыўся чытаць, а ў школе стаў круглым «відмінником» (выдатнікам?). Што пытаў, дзе яго бацька, і яна сказала, што загінуў у Карпатах у сорак чацвёртым, яшчэ да нараджэння Олеся. Што цяпер яна працуе «цукроваркаю» на заво-

дзе ў Збаражы, хоць мела магчымасць уладкавацца і ў Тарнопалі. Не хоча, маўляў, з'язджаць з таго месца, дзе гэтак шчасліва, хоць і ненадоўга, звёў іх лёс... Дзякавала за грошы і зноў прасіла не прысылаць іх, бо ў самога сям'я і патрэбны выдаткі ды выдаткі...

«Божа праведны, ды што гэта за жанчына? Або залатая, або зусім дурная...» — Аляксане хацелася ўжо ёй спачуваць.

У трэцім пісьме было пра тое, што Олесь скончыў школу з залатым медалём і паступіў у ваеннае лётнае вучылішча, каб потым трапіць і ў ваенна-паветраную акадэмію. Што хлопец вельмі разумны і ўжо ўсё ведае пра свайго бацьку, і што Олесь зразумеў яе, маці, і дараваў ёй. І што больш яна не будзе нічога пісаць Ясю, «прощаюся навіки». Калі захоча сын калі напісаць бацьку, то хай напіша, але яна не раіць яму, каб не бунтаваць Ясеву сям'ю.

Прачытала збольшага Аляксана пісьмы, і трывога запаланіла яе ўсю. Такія два выяўленыя факты звязаліся напрамую: з'яўленне ў Яся сына і палюбоўніцы і прыхаванае да часу ў сельсавецкім сейфе завяшчанне.

«Быў ён там... каля Тарнопаля. І ў Карпатах ваяваў, ён жа казаў мне... Маглі і перакінуць яго туды, з той Карэліі...»

Доўга сядзела, як здранцвеўшы. Часам торкала пальцам то ў адну, то ў другую картачку, няўцямна разгладжвала пераломы на лістках-пісьмах. І слухала, як расце ў сэрцы пякліває пачуццё, горш пякліває, як тады, калі выявіла прапажу кашалька і пакутавала — расказаць Гардзею ці не.

«Божа праведны, як дачакацца белага дня?!.»

## 2

Ганіна маці, Лідзія Пятроўна, на гэты раз сустрэла Федзю больш ласкава. Паставіла бутэльку «Чараўніцы», пасадзіла частавацца. Быў нядзельны дзень, і Лідзія Пятроўна прычапурылася, нібы рыхтавалася да сустрэчы.

— Ой, нашто ўсё гэта... Ды хай мо потым... Ды я не мастак на гэта зелле,— аднекваўся Федзя.— Пакажыце лепш пісьмо... калі можна.

І пакуль Федзя чытаў Ганіна пісьмо, Лідзія Пятроўна накладвала ў Федзеву талерачку салату са свежай капусты з яблыкамі («Ганя такі салат выдумала...»), скрылікаў сухой, аж вішнёвай, нібы заінелай

ад солі каўбасы, лустачку клінковага сыру — жоўтага ад смятаны.

— Яна ў мяне змалку такая малахольная. Ніводзін хлапчук не мог зачапіць у школе... Падумаць толькі — шафёрам самазвала пайшла! Гэта ж не мапед, што яна сабе думае! Учора казалі па тэлевізары, што на тым БАМе мароз ужо... А што ж зімою будзе? Сорак градусаў! А як прыйдзецца пад машыну лезці? Хіба гэта дзявочая работа? А тут жа мела такую добрую, такую ціхую должнасць...

— Не ціхая ў яе была работа, я чуў раз, як даводзілася ёй схопвацца з закупшчыкамі.

— Усядно! Уся вучоба яе, заатэхнікум, кату пад хвост... Спачатку замуж абы-як выскачыла, а цяпер...

— Лідзія Пятроўна, раз налілі, то... за ваша здароўе! І за Ганіна! Каб ёй лягчэй баранка круцілася...

— Самазвал — гэта ж не легкавушка! Паспрабуй павярні такую махіну!

— Гідраўліка памагае! Вы за гэта не турбуйцеся. Галоўнае, што яна пры дзеле, што месца далі ў бараку, койку мае.— Федзю хацелася ўсміхацца. «Ёсць Ганіны каардынаты! Ёсць! Галубачка, ні ад сябе не ўцячэш, ні ад мяне! Сёння ж напішу...» Падняў паўшклянак, каб пачокацца, і ўпершыню добра разгледзеў Ганіну маці: бруснеюць загарэлыя шчокі, гладка зачэсаныя назад валасы сабраныя ў «куклу», белая з вышаўкаю на грудзях блузка падсвечвае, малодзіць твар, робіць не так прыкметнымі «жмурачкі» каля скроняў — ад работы на сонцы, на паветры. «Ёй бы самой яшчэ замуж... Сорак пяць — і жанчына зноў на яць...» І Лідзіі Пятроўне падабалася, што ў Федзі так падняўся настрой, і яна шчыра, як свайму, усміхнулася і стала зусім прывабнаю.

— І за ваша! Будзьце і вы здаровыя! — адказала яна і каўтнула адзін глыточак, але неяк ліха зрабіла выверт чарачкаю, нібы асушыла да кроплі.— Мы са сваімі льнаводкамі, як прэміроўку даюць ці якія медалі, гэтым віном частуемся. Як няма ў Паплавах, дык у Салігорск заказваем, у Старобін, Слуцак, Мінск. Распанелі — абы-чаго і ў рот не бярэм... Ты ўжо выбачай, што бабскім частую...

— Гэта вы мне выбачайце. Нязваны госць... Дый па мне ўвогуле магло не быць ні гарэлкі, ні віна.

— Не, каб зусім не было віна — нядобра... Хоць

яно і прынесла мне столькі гора... Мужык жа мой, можна сказаць, з-за віна згінуў. Пятнаццаць гадоў ужо... Эксперціза гэтак сказала, што быў выпіўшы... А як атрымалася? Трактар з раёна гнаў новы, «Беларусь»... А знайшлі і трактар у кювеце, і Яўсея. Трактар не перакулены быў, а так — з'ехаўшы... І гэта... Яўсей ляжаў па грудзях пераеханы... Вот... Сама і гавала Ганю... То мо што і не дагледзела? Гэта ж каб быў мужчына ў хаце, то...

— Прабачце, але чаму б вам было не выйсці замуж другі раз?

— За каго? Ды яшчэ з дзіцем.... А так пад'ехацца, то і многа ахвотнікаў знаходзілася. Уга! Толькі папусціся... Але трасцу!

Лідзія Пятроўна раптам адчайдушна кульнула чарку да дна і нічога не ўзяла прыкусіць. Зрабілася журботнаю, і гэтая журботнасць не меншала, а ўсё расла, і цямнеў твар, нібы трапіў у цень хмары. Вось ужо і слязіны расцерла па адной шчацэ, па другой, глядзела ўбок. І Федзю зрабілася непамысна — не то сядзець, не то брацца за шапку.

— У самой так не склалася жыццё... а тут і ў дачкі... шыварат-навыварат... Я цябе, Фёдар Іванавіч, не віню... Ёй трэба было шукаць паратунак... Але ж хіба о так, цераз скандал? Магла ж спакойна падаць на развод, не вэдзгаць сябе дзёгцем. Ды яшчэ сама і пахвалілася: «Гэта,— кажа,— каб дэсантнік не супраціўляўся развод даваць...» А ты, відаць, хлопец совеслівы... Толькі ж не судзі яе памылкова, яна ў мяне гордая... І не любіць, каб яе шкадавалі... Яна ні ад кога не прыме шкадавання, і ад цябе тожа... Калі ўчуе, што ты з жаласці ўсё робіш, нічога не выйдзе. Ёй або ўсё або ніяк, тут ужо мая натура ў яе...

— Лідзія Пятроўна...— Федзю было хоць пад стол лезь.— Лідзія Пятро-оўна!..

— Не, чакай!.. Я скажу, а тады як сабе хочаш, так і рашай... Ты, канешна, і цяпер можаш напісаць ёй, у любві будзеш клесціся, да сябе клікаць...

«Іменна так! Пад зямлёю бачыць!..»

— ...але ты не спяшайся, падумай не раз і не два... Ты ж старэйшы і разумнейшы... І ёй дай падумаць: не дай бог, яшчэ раз паверыць у шчасце і зноў памыліцца... У баб ёсць крытычная мяжа, ты яшчэ не ведаеш нас. Пасля той мяжы — усё трын-трава... Адуванчыка-

мі робяцца... Дэсантнік той, думаеш, што? Цяля цялём, хто яго толькі і паслаў у тыя дэсантнікі... А ёй мужыка трэба з характарам, каб у рукі ўзяў... А хлопцаў на тым БАМе многа, мо і яе доля ў Сібіры бродзіць?

— Лідзія Пятроўна! У тым-то і справа, што многа! І ўсякіх, не толькі добрых і герояў... Ды вы ж не знаеце, як у нас усё было! Хораша было... Яна знайшла мяне! Я не буду хваліцца — *яна* мяне, а не я... Вы можаце паверыць, што бываюць такія мужчыны? Не цяля цялём, але... неініцыятыўныя... Гэта з іх бабылі і робяцца. А могуць і добрыя мужы атрымацца, гэта залежыць ад таго, ці трапіцца ім на дарозе такая жанчына. А мне трапілася!

— Федзя, Федзя!.. Ужо ж быў у яе адзін такі... неініцыятыўны.

— Дык справа ў тым, што ў ім не абудзіўся мужчына з характарам. А ўва мне... тыгр прачнуўся! — Федзя ўскінуў сціснутыя кулакі, нават плечы развярнуў — і засмяяўся, каб змякчыць трохі сваю браваду.

— Мо кот...

— Не — тыгр!

Пасмяяліся ўжо абое.

— Эх, Федзя, Федзя... Якія вы, мужыкі... тупаватыя... Праходзіце міма свайго шчасця.

— У нас будзе з Ганяй усё добра. От пабачыце!

— Дай тое бог... Адно табе скажу... Хоць гэта мо і не мацеры трэба гаварыць... Калі ты пачуў сябе тыграм, то і выпусці кіпці. Хлопец ты, здаецца, нішто. Бяры яе добра ў кіпцюры, і будзе жонка — пашукаць.

— Бакі прыйшлі да пагаднення. У гонар замежнай дэлегацыі быў дадзены абед, які прайшоў у цёплай і дружалюбнай абстаноўцы...

— За тваё здароўе, Фёдар Іванавіч!

— ...На абедзе бакі абмяняліся тостамі, у якіх...

— Баламут ты, а не настаўнік. Як цябе дзеці слухаюцца...— у куточках вачэй Лідзіі Пятроўны ўсё яшчэ паблісквалі слязінкі.

— Абы дзяўкі слухаліся. За ваша здароўе, матулька! — У вачах Федзі скакалі «чорцікі».

Ой, калі-іна ў лу-узе,
Зацвіла-а ў цянё-ёчку-у-у...

Лідзія Пятроўна ў шчырым здзіўленні расплюшчыла вочы.

— Дак ты не толькі песні збіраеш, а і сам добра пяеш?! — і ўклеіла свой высокі падгалосак у Федзеў барытон:

Спара-а-адзіла мя-яне-е маці,
Няшчас-асную до-очку-у-у...

3 — ...А лепш за ўсё на аўтобусе. Без клопату галава.

— Ну, тады я зусім не паеду. Можаце з Наташай... Наташа, чуеш, паедзеш у Мінск!

— Нікуды я не паеду, пакуль і атэстат не палучу! — пракрычала з-за дзвярэй свайго пакоя Наташа.

— Ну, вот і пагаварылі. Можаце ўключаць тэлевізар.

— Угаворваў мяне з'ездзіць, а гэта ўжо адбой?

— Ну, дык і паедзем, як усе людзі. А не то хоць да Слуцка аўтобусам, а там таксі возьмем.

— Ага! Свая машына стаіць, а я таксі буду браць, грошы выкідваць.

— А на сваёй не трэба грошы? У Мінск сто трыццаць кіламетраў, назад сто трыццаць... Сама крычала, што бензін падаражаў, трэба эканоміць.

— На бесталковай яздзе трэба эканоміць, а не тут... Паняў моду: на работу — на машыне... Паўтара-два кіламетры да мехдвара — і на машыне!

— У горадзе многія на сваіх машынах на работу ездзяць. Паглядзела б, што каля заводаў робіцца, якое стоўпатварэнне з гэтых машын.

— Дак там жа дабірацца да работы дзесяць — пятнаццаць кіламетраў! І ў транспарце задуха!

— Скажы проста: ты хочаш, каб я сядзеў, як Хрыстосік, ручкі склаўшы, і кроплі ў рот не ўзяў.

— Ты ж не напівацца едзеш!

— Многа я ў цябе напіваўся? Калі ты бачыла мяне п'янага?

— Госпадзі! Ды хопіць вам!.. Не даяце займацца!..— Зноў пракрычала Наташа і моцна зашастала старонкамі кнігі, каб і ў калідоры пачулі. А сама трымала перад сабою невялікае люстэрка і выпрабоўвала «цені»: адно павека і ўсю вачніцу падсініла, а другую — падзеляніла. Што лепш, прыгажэй? «Цікава, якія «цені» ўжываюць артысткі? Пэўна, усё— імпартнае... А мо во так і фарбаваць па-рознаму? Хэ, тады

горш на сіняке будзе падобна... Мама ўбачыць, скажа: «Вой, дзе ты падлезла? Хутчэй бадзягу прыкладвай...»

А Гардзей і Ларыса перайшлі на пальчыках на кухню і шчыльна прычынілі дзверы.

— Ты сядзела за рулём па дзве-тры гадзіны, ведаеш, што гэта за смак? Не, не ведаеш... І плечы, і рукі адбірае... А там жа горад, сталіца, чуць перавысіў скорасць ці даў зевака — пракол.

— Не сядзела і сядзець не буду. Хопіць і таго, што вы ўмееце круціць. А будзеш асцярожна ехаць, мяне слухаць, то ні ў якую шкоду не ўлезеш.

— Скажы лепш, што табе хочацца фарсануць перад сваццяй, пыл у вочы пусціць: «Вось мы якія... Не тое што вы!»

— Нічога я не хачу! Мо ў іх «Волга», і яны нас за пояс заткнуць з нашымі «Жыгулямі». Нічога ж не напісаў гад той печаны...

— Ну... Хоць бы слова ці намёк, хто бацькі яе, якія падарункі везці. А з голымі рукамі заявіцца... Свяці тады вачыма!

— Гардзей, як сабе хочаш, а трэба вяселле справіць. Калі ў іх усё насур'ёз пайшло... Можам і тут, дома, па-вясковаму, а можна і ў Мінску, у якім рэстаране. Усе ж людзі спраўляюць.

— А мо яны ўжо справілі! Цесць з цешчай...

— Ну але! А нас чаму не пазвалі? Што ён — сірата круглы ці бязбацькавіч?

— Сяргей мо так загадаў... Баяўся, што хай падымем.

— Мо ўкладземся ў тысячу?

— А хто гэта ведае? Гледзячы на колькі гасцей і гледзячы дзе... Калі ў рэстаране, то і не ўмыешся тысячай. Распытаць бы ў каго!..

Падобныя размовы-спрэчкі вяліся не раз, пакуль чакалі нядзелі, а ў суботу то і раніцай, і ў абед, і вечарам. І ў нядзелю раненька, калі ўрэшце такі рушылі ў Мінск на сваёй машыне. Хапіла гаворкі і на ўсю стотрыццацікіламетровую дарогу да Мінска.

Ларыса раз-пораз паглядвала на канверт, Гардзей — на Ларысу. Выфранцілася, начапіла на пальцы жуковіны з каштоўнымі камянямі, у вушы — завушніцы. Адрас называў Слуцкую вуліцу, і яны думалі што гэта недзе пры ўездзе са Слуцка ў Мінск, з поўдня, там набудавана многа панельных дамоў і баль-

нічны гарадок. Ажно не, трэба ехаць цераз увесь горад аж пад Камсамольскае возера і там пытаць. Гэтак міліцыянер ім сказаў, які спыніў пацікавіцца, хто такія, чаго тут блытаюцца.

І праўда, дапыталіся, даехалі, звярнулі з трамвайнай лініі на тую вуліцу. Звычайную вясковую вуліцу, такіх шмат і ў Слуцку. Сады-прысады, вішняк, нават сям-там лапікі кволенькага асфальту. А мо гэта не асфальт, мо зямлю так укаталі?

Гардзей ціха ехаў па вуліцы, углядаўся скрозь лісце на вуглы дамоў, зіркаў і на Ларысу: у тае рабіўся ўсё больш кіслы і разгублены выгляд. Па твары яе можна было прачытаць: «У Мінску такія вуліцы могуць быць?! І Сяргей недзе тут жыве, а не ў шыкоўнай кватэры шматпавярховага дома з усімі выгодамі?»

— А мо ў сватоў свой домік? — не вытрывала яна.

— А хто гэта ведае?—пытаннем адказаў Гардзей і падруляваў пад вішаннік, спуджваючы курэй, што купаліся ў попеле пад плотам, стаў перад вокнамі.— Тут!

— Гараж...— не то спуджана, не то ўзрадавана (спраўдзіліся меркаванні!) прашаптала Ларыса.— Глядзі, во, побач з варотамі, дзверы гаража — на вуліцу выезд. Іхні!

— Гараж як гараж — бляшаны. На яго месцы, то я з цэглы зрабіў бы — свой жа ўчастак... І зімою цяплей было б. Ну — выходзь, чаго прыкіпела...

— Вой, мяне ногі не дзержаць...

— Перастань... Дзе сумкі?

— Ну дзе ж — ззаду, на сядзенні.

Гардзей вылез першы, адчыніў заднія дзверцы, дастаў сумкі. Адна была напакавана яблыкамі-пуцінкамі, другая — іншымі вясковымі прысмакамі: каўбасамі, добрым кавалкам сала, клінковым сырам, купленым у суседкі, што трымала карову. Была і загорнутая ў плёнку-цэлафан жоўтая, трохі староватая, але тлустая курыца. Гатовая,— хоць бяры ды кідай у каструлю.

Гардзей хацеў адразу рынуцца ў varотцы, ды Ларыса спыніла:

— А машыну? Дай сюды сумкі... Замкні машыну!

— Ты што — думаеш, украдуць? — Гардзей сказаў знарок абыякава, з нейкім найгрышам, але паставіў сумкі на мураўку, пазацiскаў кнопкі-заглушкі ў дзверцах, старанна ляпнуў-зачыніў, а са свайго ша-

фёрскага боку замкнуў на ключ. Рабіў усё ў замаруджаным тэмпе, і Ларыса нічога не казала. Яны абое чакалі, што хтосьці выйдзе з двара гэтага дома з распеўна-прыветлівым: «О-о, да нас го-осці... Дык вы тата і мама Сяргея-я? Вельмі прыемна...— І пачнуць здароўкацца-вітацца, можа, нават абдымкі будуць і далікатныя, стрыманыя ўзаемныя пацалункі ў шчокі.— То праходзьце ж, праходзьце...»

Але ніхто не выходзіў, не выбег і Сяргей ці нявестка, і давялося ісці самім. На гэты раз Гардзей пусціў першую Ларысу, улегца, але яна схітравала: адчыніла варотцы і прытрымала, пакуль ён не пралез з сумкамі. Потым падкрэслена старанна зачыніла і — апынулася ў яго ззаду.

Ніякага двара не было, хоць і стаялі ад вуліцы вароты і варотцы. Паўз мураванку можна было прайсці толькі па вузкай утравелай сцежцы, а замест двара былі чахлыя, заглушаныя садам градкі. І сад быў стары, з ненатуральна выцягнутымі ад гушчыні галінамі. Толькі за домам высвечвалася палянка, градкі ажно гарэлі ад гладыёлусаў і астр, каля чужога плота блішчала плёнкаю цяпліца. І там, сярод гэтых кветак, перад цяплілцай, стаяла ўгнутая поўная жанчына, зрэзвала кветкі. На іх крокі і стрыманую гаману яна разагнулася — у адной руцэ нож, у другой галінка гладыёлуса з ярка-аранжавымі кветкамі. Каля ног жанчыны ў разоры, мабыць, стаяла вядро, бо густа тырчалі вострыя пікі гладыёлусаў.

— Здрастуйця...— як мага ветліва, зараней усміхнуўшыся, паздароўкаўся Гардзей цераз грады.— Сяргей Сухавей тут пасяліўся?

— Сяргей? Тут, тут... Здрастуйця...— вымушана пасміхнулася і жанчына, але на поўных шчоках пазначыліся ямачкі.— Во тут у іх асобны ход...— паказала нажом з тылу будынка, дзе ў вясковых дамах сенцы. Там была прыбудоўка з амаль пляскатым дахам.— А вы Сяргеевы тата і мама? Во радасці ім будзе...

— А вы, значыць, маці нашай нявесткі? — прыветліва ўсміхнулася і Ларыса, пайшла разораю да яе, каб абняцца і пацалавацца.

— Я — хазяйка... А гэта яны ў нас пакойчык знялі.

Ларысу як хто за ногі ўхапіў — ледзь не расцягнулася. І каб упала, то добрае логвішча выламала б у кветках! Дзівам астоялася каля самага вядра, угнула-

ся над ім, нібы гэтак спяшалася паглядзець і панюхаць кветкі.

— Ух, якая прыгажосць!..— А сілы разагнуцца, паказаць, які зрабіўся твар, і не было.

— Не заўважылі, дома яны? — паспяшаўся Гардзей.

— Дома, дома... Тамара, бачыла, хадзіла па малако, ■ Сяргей мо яшчэ спіць.

— Паўдня на дварэ, а ён спіць?! Ён не хворы?! — разагнулася ўрэшце Ларыса, зірнула недаўменна на гаспадыню, зірнула з трывогаю на Гардзея, і твар яе зусім зламаўся ад разгубленасці.

— Не-е... Гэта ён ходзіць ноччу на халадзільнік вагоны разгружаць...

Ларыса, хістаючыся, пайшла да Гардзея, выставіла перад сабою рукі, як сляпая. Твар яе нібы хто нацёр бялідамі, а румяны пакласці забыў.

— Пачакайце трошкі... Я хацела вам сказаць...— пайшла за ёю і гаспадыня. Гардзей, кінуўшы пад ногі сумкі, падхапіў Ларысу пад плечы. Атрымалася поза, нібы яны абняліся, сабраўшыся патанцаваць.— Сяргей жа, як прыходзіў да нас дагаворвацца, нічога не сказаў...— дайшла да іх на травяны «пятачок» гаспадыня.— Я, і праўда думала, маладажоны, на год можна пусціць, пакуль тое дзіця... А мы ўжо так адвыклі ад дзіцячага крыку!.. Гляджу, а ў іх не праз год, а якія тры-чатыры месяцы — і гатова! Недзе якраз сярод зімы. А мой Захар...— гаспадыня асеклася, убачыўшы твар Гардзея. А Ларыса абвісла ўжо на яго руках, мо згубіла прытомнасць.

— Вады!.. У вас няма вады?! — хрыпла, чамусьці шэптам папытаў Гардзей і павёў-панёс Ларысу да сцяны прыбудоўкі, дзе ляжалі стусам пры ганку прыкрытыя толем дошкі.

Гаспадыня, хоць і мела салідную камплекцыю, хуценька кінулася ў свой, бакавы, ганак дома і тут жа вынесла шклянку вады.

— З дарогі ёй, мабыць... Укачала... Я ж тожа — так ужо не пераношу гэту дарогу! Мой Захар крычыць: «Уперад глядзі! Далёка ўперад, а не па баках. Не абмарочышся!» А ўсё роўна, пакуль прыедзем з грыбоў, як смерць раблюся...

«На табе камяні вазіць можна...» — падумаў Гардзей.

Ларыса каўтнула вады, расплюшчыла вочы.

— Гардзей... Паедзем дадому...— і зноў заплюшчыла.

— Ну але! Яшчэ ў хаце не былі, нявесткі не бачылі — і дадому...— патрымаў трохі шклянку і аддаў назад гаспадыні. Тая адразу хліснула ваду на кветкі.

— Дык мой Захар кажа: хай шукаюць другую кватэру, пакуль не зіма... А то тады, з грудным дзіцем, зімою — самі ведаеце... Скажуць, што сэрца ў нас няма... А мы ж хочам, каб па-добраму... Ды ў нас і сын пасля Акцябрскіх з арміі прыходзіць, таксама жаніцца зразу хоча, дзеўка ўжо і да арміі была...

— Добра... Мы яшчэ пагаворым пра гэта... Як вас зваць? — Гардзей хацеў, каб яна хутчэй адліпла.

— Таіса... Таісія Ксавераўна.

— Мы пагаворым пра ўсё...

— Ага... То вы заходзьце да іх... Тамара! Сяргей! Бацькі прыехалі! — пагукала яна і пайшла да кветак.

Калі яна ўгнулася сярод градак і чакаць, што адыдзе далей, дарэмна было, Гардзей зашаптаў Ларысе:

— Зараз мы зойдзем... Толькі давай так: ніякіх эмоцый і крыку... Ты чула? Ім і так тут па самую завязку хапіла... Маўчы і слухай, я гаварыць буду!

Ларыса ўставала цяжка, як хворая, нічога не казала.

Гардзей узяў абедзве сумкі ў левую руку (ценжар — як утрымаць!), праваю адчыніў дзверы. Прапусціў Ларысу ўперад, у невялікі тамбур. Другія дзверы павінна была адчыняць Ларыса, але раптам яны адчыніліся самі.

— Ой, прабачце...— выглянула ў шчыліну бледнае дзеўчанё з цёмнаю, увесь лоб закрывае, грыўкаю, ірдзістымі шэрымі вачыма і пухленькімі губамі.— Праходзьце, калі ласка...— і адкінула дзверы шырэй.

Пераступілі парог насцярожана. Адзінае невялікае акно выходзіла на захад, у суседаў густы сад, і ў пакойчыку быў прыцемак. А як трохі асвоіліся вочы, то ўбачылі, што пад акном стаіць абшарпаны аднатумбавы пісьмовы стол і табурэтка з ускінутым на яе адзеннем. Справа — вынесеная з гаспадаровых пакояў старая канапа, на ёй спіць пад плашчом стрыжаны хлопец. Куткі пакоя цёмныя ад сырасці.

Тамара ў просценькай, здаецца, блакітнаватай сукенцы зашылася між сталом і канапай, нібы хацела

ўхавацца, адною рукою папраўляла на пукатым жываце сукенку, а другою шоргала па стрыжанай галаве хлопца, патузвала за вуха і ўсё аглядвала гасцей.

— Сярожа... Сярожка, устань ты...— схілілася ўрэшце да яго вуха, ажно губамі пеказытала.— Прыехалі да нас...

— Умг?! — падхапіўся ачумела Сяргей, пацёр вочы і тут жа ўскочыў, скінуўшы дадолу плашч.— Ба-аця?! Мама-аня?! — пайшоў да іх у адных плаўках і майцы. Худы, чужы, нечакана высокі...

Ларыса адразу захліпала носам. А Сяргей і руку пацiснуў, і пацалаваўся нават з абаімі, хоць раней гэтага саромеўся. «Прывет!», «Добры дзень...», «Ну — пака...», «Ну — я пайшоў (паехаў)» — вось і ўсе яго вітанні-развітанні, і добра, калі яшчэ руку падаваў.

— Ужо? — Гардзей не адпускаў яго рукі, а леваю пацёр сыну калючую гузаватую галаву.

— Ага... Абы галава была, то будуць і валасы...— стараўся бадзёра ўсміхацца Сяргей.

— Каб жа была ў цябе галава... Божа мой, божа...— У Ларысы быў зусім знямоглы голас.

— Ціха, маці... Што яна зашылася ў куточак? — Гардзей ступіў ад дзвярэй, але яго апярэдзіў сын:

— Тома, ты чаго там скуксілася? Гэта ж мае тата і мама, пазнаёмся...

Тамара як падняла з долу плашч, дык і стаяла, не асмельваючыся сашупіць з месца.

— Здрастуй, дочка... Здрастуй...— узяў яе Гардзей за плечукі, прыцягнуў да сябе, жартам прадзьмуў грыўку і пацалаваў у лоб, потым у шчокі.— Дык вось вы якія, героі!..

А Ларыса так і не падышла да Тамары, нібы забыла, а ступіла колькі крокаў і апусцілася зняможана на канапу, адразу сунула ў хусцінку нос.

— Мама, ну — перастань! Ну што ты мяне адразу хаваеш?! — прысеў каля яе Сяргей, абняў за плечы. Ларыса не адказвала, толькі хліпала носам і снякалася.— Тата, ну скажы ты ёй, што ніякай трагедыі няма! Няма трагедыі! Ёсць часовыя цяжкасці!

— Садзіся, Тома...— прапанаваў Гардзей нявестцы адзіную табурэтку і зняў з яе адзенне, хацеў пакласці на стол, але Сяргей выхапіў штаны, пачаў надзяваць, выпростваючы то адну, то другую нагу.

— Гэта вы садзіцеся... Вы ж госці, а не я! А я за-

раз у магазін збегаю...— Тамара ніякавата пераступіла цераз ногі Сяргея, пайшла да кутка пры ўваходзе, дзе пад газетамі вісела трохі адзення, і пачапіла плашч на цвік.

— Нікуды не трэба бегчы... Мы ўсё прывезлі, хіба што хлеба...— сказаў Гардзей.

— Я хлеба, хлеба...— Тамара яшчэ пашамацела газетаю, поркаючыся ў кішэнях адзежак, навытрэсвала ў жменю манет — і ў дзверы. А пакуль яна трэсла, Ларыса на ўсе вочы, раз-пораз праціраючы іх хусцінкаю, прыглядалася да яе стану. І горка падцінала губы: «Праўда!..»

— Мог бы і ты схадзіць,— сеў Гардзей на табурэтку насупраць сына.— Яе трэба берагчы зараз.

— Нічога, баця... Гэтая прагулачка для яе карысная. Мацыён, кісларод!

— Не заві мяне «баця», я не цыган... Папаў дурацкае слова!

— Усёк! Не буду... Ну, расказвайце, як вы там? Уборку ўжо закончылі?

— Закончылі... Без цябе. А я ўсё чакаў, чакаў...

— Закруціўся, баця... тата.

— Сыно-о-ок, ты ўскруціўся, а не закруціўся! — Ларыса, бядуючы, захівалася ў бакі, вочы зноў запоўніліся слязьмі, і яна нічога не бачыла перад сабою.— Мой божачка, гэта ж так уздурнець, так паламаць сабе жыццё! І за што нас гаспод пакараў? Аво-я-ёй,— загаласіла яна.

— Мама, ну не рабі ты трагедыі!

— Я думаю, ён праўду кажа: трагедыі няма. А пагэтаму давай, маці, не пра тое, што прайшло, а пра тое, што будзе. Як лепш выйсці з сітуацыі.

— Ды як гэта няма?! Што я людзям, суседзям скажу?! Мне ж брыдка будзе ім у вочы глядзець!

— Ну пры чым тут суседзі, мама?!

— Праўду сын кажа... Гэта суседзяў не датычыць. Без іх будзем разбірацца. Тамара — не мінчанка?

— Не.

— А дзе бацькі жывуць?

— Няма ў яе... Яна з дзіцячага дома.

— Бож-жа мой! — зноў мацней заплакала Ларыса.

— Перастань, маці.— Гардзей пакашляў — перахапіла раптам голас.— Прывыкай, яшчэ не тое пачуеш.

— Усё! Больш нічога новага! — Сяргей спрабаваў

усміхацца, разглядваў свае абабітыя і падрапаныя рукі, потым нібы засаромеўся іх, сунуў сабе пад сцёгны.

— Яна вучыцца — дзе? — распытваў Гардзей.

— У політэхнічным. Архітэктарам будзе.

— Дык не ў тваім інстытуце...

— Выдатніца яна, павышаную стыпендыю мае. А інстытут механізацыі хопіць мне прыпісваць!

— Чаму? Ты ж казаў, як прыязджаў, што дакументаў не забіраў.

— Тады было так, а цяпер — забраў.

— Гардзей, не слухай, што ён пляце! Яшчэ месяц усяго прайшло, заняткаў не было — студэнты на бульбе. Схадзеце разам да рэктара, папрасіцеся, каб прынялі назад. «Хвастоў» жа мо няма?

— Няма «хвастоў»! Але прасіцца не буду... Не хачу я канчаць гэты інстытут! Я і ў ваенкамат сам схадзіў, каб паскорыць справу. Скарэй адслужу, скарэй вярнуся. У першую партыю абяцалі ўключыць.

— Ну — хай, ну — дапусцім... З інстытутам гэтым... Да гэтага мы былі падрыхтаваны. А Тамара? Ты ж нам ні славечка пра яе, як прыязджаў на дзедава вяселле! І во... абухам па галаве: і жонка, і дзіця скора...— Гардзей і рукамі развёў, і ўпусціў іх, як нежывыя. На сына ўжо не глядзеў, ён уяўляў сябе на Сяргеевым месцы — што б сам рабіў? — і губляўся.

— Ды я й не хацеў яшчэ жаніцца... Я ёй казаў: можа... гэта самае... каб не было... дзіцяці...

Ларыса ашчаперыла рукамі галаву, прастагнала: «Мярзотнік, мярзотнік...»

— Мама, ну што я такога сказаў? Хіба мала дзяўкі... гэта самае...

— Ну й цынік жа ты... мастацкі дзеяцель...— Гардзей устаў — яму было не ўседзець. І Сяргей разагнуўся напружана, нібы намерваўся ўскочыць, калі што.

Але пляснула Сяргея па мардах Ларыса:

— Нягоднік!.. Нягоднік!!!

Ён ускочыў, як ашпараны: не чакаў удару з гэтага боку. Але ў дзвярах заступіў яму дарогу Гардзей і гэтак пагардліва і гнеўна насупіў бровы, што з Сяргея нібы выпусцілі дух, нібы ён і ў росце паменшаў,— адступіў ад дзвярэй, закруціўся, як злоўлены.

— Ну чаго вы?! Я ж не кінуў яе, ажаніўся! Ну — памарудзіў трохі... А яна тожа штучка добрая — адразу ў мясцом, у камсамольскае бюро пабегла!..— ска-

заў гэта Сяргей і адступіў бліжэй да маці, бо ў бацькі, бачыў, скамячыліся кулакі.

— Сапсаваў дзеўцы жыццё, а на цябе яшчэ павінен мясцком ці бюро ціснуць? Сам не разумееў, што нарабіў? Мале-енькі? — упустую, бо было не ў пару, ушчувала яго Ларыса.

— Біце... Можаце біць... А больш нічога не скажу...— Сяргей закусіў губу і набычыўся.

— Цябе жыццё яшчэ наб'е... Не адзін гузак знасіш... От ты пакруцішся яшчэ пару месяцаў — і гайда. А яна? Адна з дзіцем... Мо яшчэ якраз на зімовую сесію роды прыпадуць — значыць, сесію сарве. Дапусцім, на год возьме водпуск... акадэмічны, ці як ён там у вас называецца... Год выкінецца... Ну, гэта яшчэ не так страшна. Ёсць у іх завочнае аддзяленне? — Гардзей зноў сеў на табурэтку, амаль спінаю да Сяргея, але, пытаючы, трохі паварочваў галаву да сына.

— Мо ёсць... Яшчэ не цікавіўся...— Сяргей падпёр вушак плячыма, глядзеў сабе пад ногі.

— Чуеш, маці? Нават не цікавіўся. Нам за яго думай.

— Я не прашу, каб за мяне думалі...

— Чуеш, маці? Ён яшчэ і грубіць, агрызаецца... Можа, мы ва ўсім вінаватыя?

Сяргей на гэта і галаву ўскінуў, і рот разявіў, але змоўчаў, зноў унурыўся.

— О божа...— прастагнала Ларыса.— Галава расколваецца... Мо парашкі якія ёсць?

— Няма,— хуценька адказаў Сяргей.— У мяне яшчэ ні разу не балела галава.

— Чуеш, Ларыса? Ні разу не балела галава! Шчаслівы чалавек... Мо ручнік намачыць — і на лоб?

— Намачыце... Ох, кончуся-я...— Ларыса легла на канапу.

Сяргей зняў з цвічка на сцяне ручнік, паліў яго з чайніка, дастаўшы недзе з-пад стала, абышоў бацьку — і да маці. Але Гардзей забраў з яго рук, сам асцярожна прыклаў мокрым да Ларысінага лоба, а сухія кончыкі прытуліў да вушэй.

І тут зарыпелі-грукнулі адны дзверы, адчыніліся другія, на парозе стала Тамара. Не гледзячы на Сяргея, сунула яму ў рукі авоську з хлебам і нейкімі пакуначкамі, а вочы яе ўжо спыніліся на Ларысіным твары. Кінулася да канапы...

— Мамачка, што з вамі?! — У голасе яе былі непадробныя шчырасць і трывога. Упала на калені, узяла Ларысіну руку, як нежывую, прыклала да сваё шчакі.— Даруйце нам, мамачка! Дару-уйце! — Ларыса нічога не адказвала, і Тамара нервова павярнулася назад, зірнула на аднаго, на другога.— Што ў яе — вобмарак?

Сяргей нібы не чуў Тамары. Памаўчаў і Гардзей, але нядоўга:

— Ага... «Даруйце, мы больш не будзем... Пагулялі трошкі, і хопіць...» Дзіцячы сад! Жылі-былі вар'яты-акселераты!

— Можа, «хуткую дапамогу» выклікаць? Тут таксафон блізка, пабягу пазваню! — усхапілася Тамара.

— Нічога... Адпусціць... Руплівая ты — гэта добра...— Гардзей працягнуў руку да Тамарынай галавы, ускалахмаціў ёй валасы.— Збірай лепш на стол... Гэта мы, Томачка, вельмі зблізку на ўсё глядзелі, вот і замільгала, закружылася ў вачах. Каб не абмарачыцца, будзем глядзець далёка ўперад... Далёка ўперад!

Сяргей, быццам тыдзень не еў, першы кінуўся да стала, вытрас усё з сеткі: «Тома, дзе нож?»

— А ты распакоўвай, дочка, сумкі... От падсілкуемся і будзем вязаць манаткі. Я думаю, што табе ў нас будзе лепш...

Сяргей абагнаў Тамару, першы і да сумак падскочыў, адразу хрумснуў яблыка, ажно пырскі веерам.

— Што ты хапаеш, няўрымста? Яны ж нямытыя! — забрала ў яго сумку з яблыкамі Тамара.

— Нічога... У нас няма заразных мікробаў,— сказаў Гардзей.

## Раздзел сёмы

I

І настаў для Сашкі зорны час...

Калі ўсё пачалося? У школе... Вядома ж, там! Але тады Рая Русак была яшчэ проста Рая, хоць ён і праяўляў «сімпатыкі», чуў нейкую міжвольную цягу да яе, хоць яна займала яго думкі не раз, хацелася ў яе вачах быць лепшым і прыгажэйшым. І, вядома ж, мужчынам-рыцарам — паблажлівым, спагадлівым, чулым, з моцнай і надзейнай рукой, на якую гэтыя жанчыны-слабакі маглі б аперціся. Не ўсе жанчыны, не! Адна — Рая... Часам у марах ён узносіўся

і вельмі высока, часцей за ўсё балюча падаў — нібы той сталёвы шарык на каменныя прыступкі: з вялікім падскокам і ўсё ніжэй, ніжэй. І надрыўна думалася: скончылася школа, канец дзяцінству, канец усяму — бо там, у дзяцінстве, застанецца Рая, бо сцежкі іх навек разышліся. А выявілася, што яго ад'езд-уцёкі ў СПТВ, разлука з Раяй былі крокам да сустрэчы, Вялікай Сустрэчы!

Быська, Бычок-трацячок, Алег Жухалаў першы прыкмеціў, што ў іх адносінах з Раяй «адбыўся рэзкі крэн на збліжэнне». Мо таму, што і Алег быў неабыякавы да Раі і, як у кожнага адвергнутага паклонніка, у яго рэзка абвастрылася чуццё «на ўсякае такое... на такія штукі», ён стараўся пры кожным выпадку «ўкалупіць» і былую паклонніцу, і суперніка. А такіх выпадкаў было многа штодня, бо і дзевяцікласнікаў кінулі на бульбу, на той самы палетак каля «стаўбавой» дарогі.

...Палае агонь на ўскрайку поля, ледзь не пад самымі дратамі. Насохлы цяўнік то гарыць зырка, то ў неба вывяргаюцца магутныя клубы бела-шыза-зялёнага дыму, калі «зайцы» navальваюць стогам свежыя «прынашэнні». То адзін, то другі разганяецца і скача ў дым і цераз дым, каб выкуліцца з другога боку, як чорт з пекла, а з-пад камбінезона, з-за каўняра блузы, са штаноў, з-пад шапкі-берэта і пыхаціць і курыцца, нібы самога падпалілі і падсмажылі. Усе правэндзіліся гэтым дымам да мармуровай ружовасці, нават скокі цераз чыстае полымя не ачышчаюць ад паху гарэлага цяўніку. Дзяўчаты спачатку баяцца скакаць цераз дым і агонь, вішчаць, і хлопцы, то дзевяцікласнікі, то «зайцы», хапаюць у абдымкі палахлівак і валакуць да вогнішча, каб «асмеліць». Віск робіцца пранэзлівы, дзяўчаты вырываюцца, нібы іх хочуць сасмажыць на вячэру. Але ім прыемна вось гэтак вішчаць, вырывацца, прыемна, каб іх так хапалі, а хлопцам прыемна ўдвайне, бо так, без агню, чорт бы яго асмеліўся і закрануць каторую. Адну Раю не адважваюцца чапаць: вельмі ж строгая, вельмі ж нядократка. Алег перастае пстрыкаць фотаапаратам, абхоплівае ззаду Раю, але тут жа чуецца такі пляск, што адскоквае на добрую дыстанцыю і цалуе свае кісці, дзьме на іх, нібы папёк. «А што было б, каб я ўхапіў яе так?» — частымі штуршкамі абзываецца на гэтую думку Са-

шава сэрца. Але яму сорамна такіх грубых заляцанняў, сорамна пры ўсіх хапаць Раю...

Палае агонь...

Ах, як цудоўна, што і майстар з вучылішча, і класная кіраўніца з дзевятага пайшлі ўжо, наказаўшы доўга не бавіцца, нібы і яны разумелі, што і дзецям («ха, а яны ж не дзеці ўжо!») трэба часам пабыць адным, без дарослых...

— Бульба прыгарэла! Налятай! — разгрэбвае Жухалаў палкаю вогнішча, выкочвае бульбіны.

Кідаюцца да бульбы ўзахапкі — штурханіна, войканне, смех. («Зайцы» забылі, што ў сталоўцы стыне вячэра, што сталоўніцы нервуюцца і лаюць іх — у кожнай жа свая сям'я, гаспадарка, трэба спяшацца дадому.) Ахкаюць, дзьмухаюць-прысвістваюць на бульбіны, на папечаныя пальцы, з прыдыхамі і нейкім шчаслівым мармытаннем жуюць, жуюць... У каго ў кішэні быў ножык, тым зайздросцяць, і ўладальнікі нажоў задаюцца, звысака глядзяць на бяззбройных, памагаюць лупіць бульбіны дзяўчатам. Толькі Рая адмаўляецца ад Алегавай дапамогі, лупіць сама і не войкае, не ахкае, нібы ёй і не пячэцца, і Сашу радаснаўцешліва: якая трывушчая Райка! Які характар! Ён стараецца не глядзець у Раін бок, каб не выдаць сябе, і Рая стараецца на яго не глядзець, а от жа бачаць абое, што яна ці ён робіць. І Саша чуе пад «лыжачкай» зварушліва-трывожлівы халадок, быццам ён пад прыцэлам, і вядуць, вядуць руляю, вось-вось бабахнуць дуплетам.

Сыходзіць куродымам разгрэбенае вогнішча...

— Маэстра Дон Кіхот, прабачце велікадушна...— падлазіць да Сашы Жухалаў.— У цябе вус намаляваўся...— І ён нібыта хацеў падушачкаю вялікага пальца сцерці той «вус», але... мазнуў указальным (нягоднік, начарніў спецыяльна) з другога боку носа. Адскочыў і сам першы зарагатаў: — Во! Во — цяпер выліты Дон Кіхот!

Усе хлопцы зарагаталі, зарахталі, і была ў гэтым рогаце першабытная дзікунская радасць. А Рая падышла да яго (божа, як пасавала ёй чорная вадалазка, чорнае трыко-штаны!), дастала з рукава насоўку: «Чакай, не адмахвайся, зняверany... Ты ж не бачыш сам дзе...» Прытрымала яго леваю рукою за локаць (як блізка яе разрумянены твар, пунсовыя вусны, якія га-

рачыя ў яе пальцы!), выцерла намаляваныя вусы. Алег паспеў пстрыкнуць раз і другі фотаапаратам. Зноў хто-ніхто хіхікнуў, а Рая спакойна падышла да вогнішча і кінула хусцінку на самую тлеючую грудку прыску. Секунда, другая... На хусцінцы праступілі чорныя плямы... Хлоп! — успыхнула чырвоным агнём.

— Рыцар! Што ж ты не ратаваў?! — усклікнуў да Сашы Алег і гнусава праспяваў:

З неба зорачка упала,
Проста ў яму галавой.
Ўся любоў мая прапала
І платочак насавой!

Саша аціраў карэлыя і чорныя ад бульбы пальцы травою і... чырванеў. Як хлапчук. Да той стадыі, калі за каханне і каханую б'юцца, або да той, калі на ўсе насмiхі адказваюць дарослай халодна-пагардлівай усмешкай ці паблажлівасцю як на ўсе дзіцячыя выбрыкі, яшчэ трэба было расці і расці.

Першыя дні ён не хадзіў у клуб, хоць там кожны вечар былі танцы-выдрыганцы (калі дэманстраваўся фільм, то да кіно і пасля кіно). А калі «Вінні Пух» і «Чабурашка», што жылі ў цёткі Дар'і, сказалі Сашу, што на танцах бывае і Рая, нават аднойчы пра яго пыталася, што Жухалаў «б'е ўсіх па мазгах» сваім магам (магнітафонам), што верхаводзіць на танцах, запрашае каго хоча ў круг Саўка Дыракол (сапраўднае прозвішча Гук, гэта адзіны «дзед» у групе, нават армію адслужыў), на сэрцы Сашы зрабілася ліхое: «Чаго Рая ходзіць туды? Чаго яна там не бачыла? Што там згубіла?»

Але ён і яшчэ не пайшоў бы на танцы, каб не выпадак. Старшыня Дзеньдобры ўпрасіў лётчыкаў правезці чатырох самых лепшых «зайцоў», стаханаўцаў, а з дзевяцікласнікаў Раю Русак, на самалёце. Заслужылі, як не падахвоціць! Трапіў у стаханаўцы і Саша, і гэта быў яшчэ адзін крок да Вялікай Сустрэчы.

Як залезеш у самалёт, то адразу злева каля дзвярэй высокі і пузаты, падобны на гладыш, металічны бункер, у які засыпалі зверху мінералку, каля супрацьлеглага боку адкідная рэйчатая лаўка. І бункер і лаўка былі запыленыя, садзіцца ніхто не хацеў, хоць і загадаў Дарафеенка. Усе збіліся каля акенцаў, і атрымалася, што Сашу і Раі, каб не ўпасці і каб зручней было глядзець цераз галовы астатніх трох, давялося

ўчапіцца адно ў аднаго. Потым, пры асабліва крутым віражы, Рая абхапіла яго за сярэдзіну, падбіла пальцы пад яго папружку з процілеглага ад сябе боку і так трымалася, тулячыся да яго голага плечука. Левая рука яго прыціснулася, яна раптам стала замінаць, і давялося вылузаць яе, абняць Раю за стан. Але, божа мой, як нясмела і няўмела ён гэта рабіў, як лё-ге-неч-ка-а... А ўсё роўна пякло ў руку неміласэрна, і Сашу кідала ў пот, затуманьваліся гарачынёю вочы — паціраў лоб праваю рукою, шморгаў носам. «Вух ты, глядзі! Глядзі!..» — ліплі да акна хлопцы, і Рая ўскліквала: «Ага! Ага!..», выцягвала шыю, але і яна не бачыла, што там, за акном, а Саша і пагатоў. Яны толькі чулі адно аднаго і, здаецца, бачылі адно аднаго, хоць стараліся не глядзець вочы ў вочы, а калі знячэўку і глядзелі, то тут жа апускалі вочы, разбягаліся позіркамі ў бакі. Але нібы паспелі трошачкі перамовіцца вачыма, пагадзіцца на нешта. Рая знарок віскнула ад рэзкага крэну, яшчэ мацней учаперылася ў яго пояс, і тут ужо Саша абняў яе мацней і нават прыціснуў крыху да сябе, чакаючы, што Рая кіне рамень і мо нават плясне па руцэ, як Жухалаву, а то і па шчацэ... А яна нічога такога не зрабі-іла! Нічога! Значыць, і ёй было прыемна гэтае прытулянне?! І ёй хацелася туліцца?! «Што... Што гэта... робіцца са мною?! Людзі, ратуйце... Што-о гэта?! Я кахаю яе? І яна — мяне?!»

І яму здалося, што больш нікога няма ў самалёце...

Што яны ўдваіх нават не ў самалёце, бо ўжо і гуду-рокату не чуваць, быццам заклала вушы,— цішыня-я-я... І яны двое плывуць у небе, у сонечнай сінечы... Вось гэтак плывуць, прытуліўшыся... Ці не — ён час ад часу адштурхоўваецца ад пагоркаў і ў зацяжным скачку лунае-лунае-лунае, і на руках у яго Рая... І яны вялікія, вялікія,— як богі-веліканы, а ўсё аддалілася і апала ўніз разам з зямлёю ў лёгкі і празрысты туман-вэлюм...

Яшчэ дрогкі штуршок «талчковаю» нагою — ілюзія рассейваецца: гэта сутыкнуліся самалётныя колы з пасадачнай дарожкай, і ўжо не дзівосныя птахі яны, і нават не ў самалёце, а нібы ў нейкай непрыгляднай таратайцы, прыгарадным прапыленым аўтобусе...

Хлопцы першыя выскачылі з самалёта. Саскочыў і Саша, павярнуўся — Рая знарок кінулася так, каб ён падхапіў яе, і ён падхапіў і моцна сціснуў-абняў,

каб утрымаць, беражліва апусціў долу. Яшчэ раз адчуў усю яе, асабліва вострыя грудачкі грудзей. І счырванеў, і быў збіты з тропу дарэшты. «Няўжо гэта ва ўсіх так?! У тых, што любяць... каб гэтак кожнае дакрананне адчуваць...» Паставіў яе, так і не адважыўшыся шапярнуць на вуха: «Прыйдзі сёння ў клуб на танцы... Там і мяне ўбачыш...» Праклятая сарамяжлівасць! Праклятая, праклятая... А як бы яму хацелася хоць на момант мець развязнасць і смеласць, быць падобным на Саўку Дыракола! Ці мець такі язык, як у Алега Жухалава... А мо ў Алега таму язык без прывязі, што ў яго яшчэ ні з кім з дзяўчат не было вось такога... каб вось такое адчуваць? А здарыцца, і ў яго будзе заплятацца, а душа заскокваць у пяткі...

Дома, хоць занудліва крычала баба, мо хацела якое помачы, Саша яе не чуў. Круціўся каля люстэрка, разглядаў сябе і то радаваўся, што ён хлопец нішто сабе, прыгожы і кучаравы, то засмучаўся: не, непрыгожы! Доўгі, як Дон Кіхот, Алег правільна прыкмеціў, і твар падоўжыўся больш, чым трэба, і нос распух, як гуля, і валасы залішне становяцца дыбара, асабліва калі памыеш галаву... І гэтыя вусікі... Хоць ужо добра прыкметныя і, мабыць жа, увесь час растуць, але ж вельмі яшчэ рэдкія! А што, калі пагаліць іх? Хлопцы казалі — калі пачаць галіцца, то і вусы, і барада будуць расці, як на дражджах. Хаця не — адкуль гэтым малакасосам-свістунам ведаць? У саміх першы пушок паказаўся... «А што, калі праўда? А што, калі пагаліцца?» І ў хаце якраз нікога няма: малая спіць, а Ваня і Алена галёкаюць недзе на вуліцы, і бабка не можа даць ім рады, пазаганяць «на седала», як курэй... То смялей жа, вунь і станочак брытвенны на акне, і лязо закладзена, трошкі, праўда, саржавелае, і памазок у шкляначцы. «Намыльваць не буду, так разок скрабану... адзін разок!» І ўзяў дрыжачаю рукою, і скрабануў левы вус — па ўсім целе прабег мароз, а пад носам так заказытала, што чыхнуў раз і другі, а з вачэй сыпанулі слёзы... Ну во, што ён нарабіў?! Цяпер ні тое ні сёе, цяпер хоць з хаты не паказвайся... Хай бы ж скрабануў зверху, а не з кончыка, то можна было б і другі вус так падтанчыць, і было б фацэтна, як у піжона якога. А цяпер трэба галіць усё!

І ён мужна скроб — насуха! тупым лязом! — і слё-

зы сыпаліся з вачэй, а ва ўсім целе адчуваў эратычную ўзбуджанасць. Канчаў правы вус — і парэзаўся! Вось табе і бяспечная брытва... Як жа ж цяпер быць?! Змыў кроў трайным адэкалонам, даскроб да канца вус і зусім зжахнуўся: што ён нарабіў?! Быў твар як твар, а стаў без вусоў нейкі голы, як не раўнуючы... Пакажыся з такою мордаю з хаты — што Рая скажа? А хлопцы то абавязкова ўбачаць парэз — засмяюць! «Гэ, хай толькі паспрабуе каторы...» — узбуджанасць яго то ападала, то ўзрастала, то зноў ападала. Вусы, вядома, адрастуць, мо нават скарэй, чым думае. Затое ў яго цяпер будзе драпіна-шрам ад брытвы — чым не адзнака ўзмужнеласці? Мужчыны, бачыў, залепваюць парэзы малесенькім клапцічкам паперкі. Можа, і яму заляпіць? Шык — вышэйшага класа...

Адабраў лепшыя, любімыя дыскі — прайгравальнік-магнітола ёсць і ў клубе. Трэба схадзіць: таварышы могуць няправільна зразумець, чаму ён так старонiцца кампаніі, «адрываецца ад мас». Нават гэтыя шпінгалеты «Вінні Пух» і «Чабурашка» прападаюць вечарамі ў клубе. Каб здавацца больш дарослымі, і курыць вывучыліся, ліха-хвацка цыркаюць слінаю ледзь не кожную секунду і лаюцца як не праз слова...

Заняты думкамі, ашаломлены новымі пачуццямі, захоплены зборамі, ён амаль не чуў, як зноў і зноў пачынала сварку баба: «Каб ты загуляў у пустым розуме... Нікому нішто не ў галаве... А тут хоць драбней маку рассыпся...» Чысціў і прасаваў штаны і кашулю старанна, як ніколі дагэтуль, хацелася быць прыгожым.

## 2

«Любіць — не любіць... Любіць — не любіць...» Ішоў вуліцаю і выглядаў, дзе яшчэ расце пад плотам рамонак, каб паваражыць. Калі выпадала на апошні пялёстак «не любіць» — не даваў веры. Каб не памыліцца, у наступных адшчыкваў толькі кончыкі пялёсткаў. З дзесяці шэсць скончыліся на «любіць», тры на «не любіць», у адным зблытаўся. Вунь яшчэ бялее кветка... Збочыў ледзь не бягом — пёрца, гусінае пёрца! «Усядно больш «любіць». Больш!» Але добра было б апошненькі разок — што атрымаецца? І знайшоў яшчэ адну кветку, хоць няўдалую, нераспукнутую добра... «Любіць — не любіць... Любіць — не любіць...»

Прайшла міма Сашы нейкая жанчына, можа, і не адна. Але толькі гэтая неяк заўважылася, бо яна сказала: «Бог ты мой, як свет перавярнуўся... І гэты ўжо «любіць — не любіць»! Во сямейка! Навыперадкі з бацькам бегацьме!» Як вады ўзлілі... «Дурнем выглядаю... Здурнеў я... Здурнеў — пальцам паказваюць...» Не даскуб рамонак, растаптаў. І тут жа нейкі спалох працяў: а раптам «любіць» было? Растаптаў «любіць»? Растаптаў «любіць»?! Хацеў вяртацца, падымаць расчаўленую кветку і ледзь перасіліў сябе. «Падумаеш, гавораць-папракаюць... Хай гавораць. Я ўжо дарослы... Я — дарослы! Я праз тры гады... Нават праз два з палавінаю... жаніцца магу. Васемнаццаць стукне! А васемнаццаць — гэта не пятнаццаць з палавінаю... І механізатарам буду... Абы Рая мяне чакала... Абы не саромелася, што я — толькі механізатар... Што ў сяле буду жыць, што ў сяле мае месца... А хіба кепска быць такім, як дзядзька Гардзей? Ордэн нават зарабіў... А калі Рая рвецца ў якія артысткі, як сястрычка дваюрадная?! Во будзе... Што ж тады будзе? Не ведаю... А куды яна хоча паступаць? Не ведаю... А трэба ўсё ведаць, пра ўсё распытаць. Гэта ж не шуцейнае дзела — як дзед Ясь казаў...»

«А як жа тады Таня, Алена, Ваня?! Як жа я змагу і іх глядзець, калі бацька адцураецца зусім? Сышоў жа з дому — няма...»

І зусім апаў бы ўзнёслы Сашаў настрой, каб трэба было ісці да клуба яшчэ нейкія дзвесце метраў. Можа, і назад павярнуў бы. Але ж клуб — вось ён, аднапавярховы і доўгі, як абора. Даўно будавалі, ніякага выгляду не мае. З расчыненых акон залы грыміць джаз — ірве, паласуе, дратуе слых, трамбоніць у самыя перапонкі, і вясковая цішыня (а павінна ж яна яшчэ тут жыць!) рассыпаецца на друзалачкі, і вокны ў бліжэйшых хатах зачыняюцца шчыльней: хоць і без кіслароду будуць людзі, але ж цішэй трохі. Ліля Пахілька сабрала было на рэпетыцыю старых бабак, ды так і пусціла іх, аглушаных, дахаты. Саша бачыў, як яны выкульваліся, мітуслівa перабіраючы нагамі і затуляючы вушы, з другога канца клуба, дзе бібліятэка і чытальня.

Чорт ведае што палезла раптам у галаву: распісвацца ён так і не навучыўся. Правільней, не прыдумаў яшчэ, не вынайшаў, які будзе канчатковы роспіс, з які-

мі завітушкамі. У ведамасцях, калі плаціў камсамольскія ўзносы, проста выводзіў «А. Сухавей» — як першакласнік які. Але ж проста выпісваць сваё прозвішча — сорамна, як быццам ён нездар які ці мяшком пыльным здзяжаны. Дый падрабіць такі подпіс вельмі лёгка, любы зможа, хто навучыўся ручку ў пальцах трымаць. А трэба нешта такое прыдумаць, каб ніхто-ніхто не змог. А то давядзецца на якім важным дакуменце ставіць подпіс... ну, скажам, як... калі ў загсе будуць распісвацца... А ў яго яшчэ дзіцячы роспіс — «А. Сухавей». Хоць скрозь зямлю правальвайся!

— А хто к нам прыйшо-о-оў...— выглянуў у акно Дыракол.— Дзеткі, станьце ў круг, паздароўкайцеся з дзядзькам Сашам. Дружненька, ну!

У акно ўбілася некалькі расчырванелых мардах, дружна раўнулі:

— Здравія жалаем, таварыш енарал!

— Ты чаго чухаешся? Заходзь! — узлёг ззаду на «зайцоў» Жухалаў.— Давай скарэй! — Камплекцыя ў Алега дай бог, а галасок танклявы.

«Давай» адносілася да пласцінак, якія трымаў пад рукою Саша.

І толькі зайшоў, як іх выхапілі, нібы галодныя хлеб, а потым яшчэ і адзін у аднаго вырывалі, чыталі-выкрыквалі нараспеў назвы, дралі ўгору рукі, каб перадаць наступнаму, ці рабілі баскетбольныя фінты, падныраючы пад рукі, каб не адабралі. І кожны стараўся паказаць свой досціп, абхаяць дыскі ды заадно развесяліць трох дзяўчынак, бязбожна падгрыміраваных, якім вельмі хацелася быць падобнымі на дарослых. «Маляўкі, «ча-ча-ча!» — скамандаваў Дыракол і паставіў на магнітолу гэтае «ча-ча-ча». Адразу затрэсліся, затузаліся, як у ліхаманцы, пазбіваліся ў купкі па некалькі чалавек, самі з сабою, выраблялі нагамі выхілясы, якія хто мог прыдумаць, «балдзелі» самі, бо «чувіх» было вельмі мала.

Пацепваў плячыма, выкідваў ногі, круціў кісцямі каля жывата і Саша, а з вышыні свайго росту азіраў усіх у зале. Няма Раі, як ні глядзі, ні шукай... «Чаго я прыпёрся сюды?» — стукала па цемю мацней, чым музыка. Ураз яму зрабілася ўсё нецікавым, захацелася забраць пласцінкі і пайсці. А тут яшчэ Жухалаў прывалюхаў, як мядзведзь, у Сашаў круг, пачаў таптацца, шматзначна паглядваючы на яго.

— «Блаженство ра-ая... изведал я душо-о-й...» — вывеў раптам Алег «упоперак» музыкі. Усе зразумелі, на што і на каго ён намякаў — раўнівец Жухалаў, таўстаскуры Быська. За гэта «ра-ая» можна было б і па носе з'ездзіць... І даслужыцца, заробіць! Саша не паглядзіць, што Алег, мабыць, перацягнуў на свой бок каторых «зайцоў» і нават дзевяцікласнікаў, падабраў хеўру.— «Блаже-е-енство-о...» — зноў завёў Жухалаў і раптам запаяснічаў: — Сашуля, родненькі, а дзе ж ты Раечку падзеў? Так хочацца ёй пару цёплых слоў... масу найлепшых пажаданняў... у яе цвятушчай жызні...

Пласцінка раптам зашыпела — дакруцілася да канца, і Саша адышоў пад акно глынуць паветра: у зале было дымна, хтосьці таемна пакурваў, мо нават танцуючы, хоць усюды віселі таблічкі «не курыць», а Ліля Пахілька не-не дый заглядвала з бібліятэкі, крычала, што павыганяе самых «адпетых і хуліганістых».

Вызірнуў Саша ў акно — і сэрца быццам зрабіла сальта, стала ў грудзях упоперак. Пад ручку з Яршовай Аняй ішла алейкай ад вуліцы Рая. У кветастай сукенцы, бліскучых лакірках... І адна, і другая трымаюць у руках букеты кляновых лісцяў. Лісце ў прыцемку пры бляклым месяцавым святле выдае шэра-белым. Падышлі бліжэй да клуба, дзе пад казырком ганка гарэла лямпачка, і лісце здалося ўжо спрэс жоўтым. Рая ўся свяцілася, гледзячы на Сашу, і ён дзяўчатам заўсміхаўся, знарок абедзвюм, знарок пераводзіў погляд з аднае на другую, хоць на тую Аню і глядзець не было на што: дробная з твару, з маленькім роцікам (хіба Рая знарок падчапіла яе для кантрасту?). А тут у акно ўжо і хлопцы высунуліся, галёкаюць радасна, нібы знарок ігнаруюць і Сашу, і яго нейкае права на Раю. З гамам высыпаюць насустрач дзяўчатам, як не ўсцягваюць на прыступкі. Іх лісце ўмомант разбіраецца ўсімі. Лісты ўторкваюць у шапкі, у пятліцы, за каўняры, пад барты, лямантуе Дыракол: «Залатая восень! Грамадзяне! Лічу баль «Залатая восень» адчыненым!» Рая пакідае сабе два маленькія лісточкі, прышпільвае над сэрцам... А музыка ўжо зноў грыміць, зноў садом і гамора, і Сашу адціснулі ад Раі: ён, як і дасюль, танцуе ў гурце хлопцаў, якім няма пары. І пакутуе, і перажывае, і раўніва глядзіць, хто найбольш блізка віхляецца каля Раі.

Але ўсё на свеце мае канец, скончыліся і танцы-выдрыганцы, Саўка Дыракол аб'яўляе «белы вальс». І невядома, на што ён спадзяваўся, калі аб'яўляў, мо думаў, што Рая выбера яго, кінецца яму на шыю...

А Рая падышла да Сашы, злёгку схіліла ў паклоне галаву, як гжэчны кавалер, нібы дала ўрок і яму, і многім шпінгалетам — як трэба паводзіць сябе з дамаю.

Ах, вальс, кароль танцаў! Яго трэба ўмець танцаваць кожнаму, гэта не проста пераступаць з нагі на нагу і нібы абтрэсваць іх. Не! А Саша амаль не ўмеў — не было каму вучыць, не было калі. Ды яшчэ гэтая Раіна блізкасць, гэтыя пякучыя яе рукі... Саша блытаўся і наступаў ёй на пальчыкі, спатыкаўся і чырванеў, чырванеў... А яна ўсё шаптала яму: «Супакойся, вазьмі сябе ў рукі — не святыя гаршкі лепяць... Слухай музыку — рытм ўлоўліваеш? Тры такты, тры такты... Раз, два, тры, раз, два, тры... Ну во, амаль што атрымліваецца... Адною нагою нібы спатыкайся на паўдарозе... драбі адзін крок, даўжэйшы, на два...» І шаптала ўсё гэта з мілай усмешкай, нібы не гэтыя празаічныя словы гаварыла, а нешта вельмі ласкавае і чароўнае — на зайздрасць усёй шпане. І Саша трымаў яе ўсё больш упэўнена і адчуваў, які гнуткі яе стан, як слухаецца ён Сашавай рукі, хоць яшчэ і не вельмі ўмела гэта рука весці. Адчуваў Раю ўсю — вяснова свежую, родную-раднюсенькую, адну на цэлы бел-свет, такую блізкую, што бліжэй маткі, бліжэй бацькі. У чадзе пачуццяў ён нічога і нікога наўкола не заўважаў і ледзьве ўрэшце ўшалопаў, што шаптала яму Рая з той жа ўсмешкай на вуснах: «Зараз скончыцца вальс, я пастаўлю танга... І ты зразу мяне запрашай, каб ніхто не паспеў... «Толькі з табою мне хочацца бы-ыць, то-о-олькі з табо-ою-ю... Радасць і гора, і шчасце дзяліць, то-о-олькі з табо-ою...» — праспявала яна для яго ціхенечка, толькі для яго! І Саша зусім захмялеў.

І было тое танга, аргенцінскае танга... Парывісты, на напале пачуццяў танец... І Раіны рукі ляжалі на яго плячах, Раіна галава тулілася да яго грудзей (так многія танцавалі, гэта нікому не ў дзіковіну), і Саша прытрымліваў, абдымаў яе за стан, пяшчотна туліў да сябе, баючыся і хацеў сціснуць так, каб і ў самога, і ў яе хрумкнулі костачкі... «Ды што ж гэта... Што гэта?! Гэта такое і бывае шчасце?! Яна сама, першая, прызна-

лася, што кахае мяне? Не так сябе ж яна песню праспявала, гэта яна хавалася за песню!.. А мне што ёй сказаць ці праспяваць? Што гавораць у такіх выпадках?! Так і бухнуць з пляча, што і я яе... люблю?! Дык жа не тут, не ў гэтым бедламе! Ну, а скажу, то што далей? Далей — што?!» Ад нейкага страху, ад невядомасці, што далей рабіць, што робяць, як паводзяць сябе ў такіх выпадках, слаблі ногі, рабілася моташна... I зноў блытаўся, збіваўся...

Пасля «ліпсі» ўсе пачалі вывальвацца на двор, каб перадыхнуць, перакурыць. Дзяўчаткі стабуніліся шчыльным колам, спляліся пад рукі, спрабавалі спяваць. Вакол іх тапталіся і заўзята дымілі хлопцы. Дыракол хацеў паднырнуць пад рукі дзяўчатам, трапіць у кола, але тыцкаўся між дзяўчат то ў адным, то ў другім месцы, зарабляў па шыі, а прарвацца не змог. Гэта ж хацеў прарабіць і Алег, лезучы пад Раіну руку, і ці не ўшчыкнуў яе, бо зарабіў тумака ў плечы. Калі дзяўчаты заспявалі «Последнюю электричку» (хоць тую электрычку мала хто з вёскі бачыў), Жухалаў зацягнуў «упоперак»:

И такой-ой-ой
на небе ме-ге-гесяц,
Хоть иго-голки соби...рай!..

Гэтыя «ой-ой-ой», «ме-ге-ге», «и-го-го» і «рай» ён так падкрэсліў голасам, што ўсе грымнулі рогатам. Не мог ён, каб неяк не зачапіць Раю.

А месяц і праўда свяціў ужо на здзіўленне — вылез з-за прысад жоўта-белым дыскам, і былі выразна відаць на ім цёмныя плямы «мораў». I зоры ззялі, як ніколі,— за ўсе пятнаццаць з паловаю гадоў Саша не бачыў такога месяца і такой зоркавай ілюмінацыі — нібы на свята начаплялі!

— Тут лямпачка перашкаджае! Хадзем на вуліцу, там яшчэ лепш відаць.— закамандавала Рая, і дзяўчаты адбегліся крокаў на трыццаць ад ганка і дружна заахкалі і завойкалі, задзіраючы галовы. А хлопцы пацягнуліся хто за імі, хто ў клуб, Саша — за Раяй.

«Дзе Лебедзь? Дзе Арыён?» — «А дзе Мядзведзіца?» — «Праўда, што Палярная зорка на месцы стаіць?» — «А вунь там, нізка,— Венера?» — «Однажды лебедзь, рак да щука...» — апошняе эрудыт Жухалаў выкрыкнуў, і, як заўсёды, чулася ў яго словах спроба сапсаваць настрой — у першую чаргу Сашу і Раі.

Натоўп рассыпаўся, дзяўчаты і хлопцы рванулі ў клуб, адкуль зноў пачуўся музычны тарарам.

Засталася Рая, застаўся Саша.

Само сабою неяк атрымалася, што ён працягнуў ёй руку, а яна — яму. Ім не хацелася вяртацца ў той вэрхал, забыўся Саша і пра свае пласцінкі — пайшлі далей ад клуба, пайшлі па вуліцы...

Жухалаў у зайздрасці выкрыкнуў з ганка:

Р-р-уки... жалкие... сплете-ом!
И куда...а-а, не знаю са...-а-ами,
Словно пьяные бреде-о-ом!..

Саша ўжо не рэагаваў на яго фокусы. Ён адчуваў сябе намнога больш сталым (і разумнейшым) за гэтага тоўстага і няўклюднага хлапчыну. Яму ўжо хацелася быць памяркоўна-велікадушным і паблажлівым да няўдачнага суперніка...

3 А яны і праўда не ведалі, куды ідуць-брыдуць... Ішлі ды ішлі, пакуль і вуліца не скончылася. Ішлі і маўчалі, ім добра было маўчаць удваіх. Бо пра што гаварыць? Дый страшна нават гаварыць, каб не развеялася тое салодка-шчымлівае, што перапаўняла душу. Трымаліся за рукі, як дзеці, і гэтага ім было дастаткова, каб адчуваць сябе шчаслівымі. Пастаялі ў канцы вёскі, паўглядаліся ўправа, дзе яшчэ гарэлі сям-там агні суседняй Беразані, павярнулі назад. Дабрылі да выгану-праезду, дзе перасякалі вуліцу правады і пачыналася «стаўбавая» дарога,— павярнулі на «стаўбавую»...

— Так піць хочацца... Яблычка ў цябе няма? — першая загаварыла Рая.

— Яблычка? Зараз будзе! — Ён кінуў яе пасярод дарогі, спрытна перамахнуў ліхенькі плацец. Шахмах — з аднае яблыні скубнуў, шах-мах — з другое. У двары заліўся, закашляўся ад брэху сабака, і Саша сігануў назад цераз плот.

Ішлі паскораным крокам, каб хутчэй супакоіўся той паганы брахун. А потым і самі супакоіліся, хрумсталі яблыкі. Саша даваў ёй пакаштаваць свайго, Рая — свайго. А потым так і забаўляліся, кусаючы адно ў аднаго яблыкі, не выпускаючы з рук,— хто хутчэй з'есць, жартам цапалі зубамі за пальцы. Не моцна — толькі для смеху.

— Сашка, які ты ўсё ж малайчына! Цяпер я ўжо

ведацьму, што не адна застануся ў калгасе. А то мае...

— Райка... кхм...— Саша падавіўся ад неспадзяванкі крошкаю яблыка і далей ужо сіпеў: — Дык ты... нікуды не паедзеш... пасля школы?!

Рая грымала яму паміж лапатак то адным, то двума кулачкамі разам, а ён і кашляў, і пырхаў, і шчасліва смяяўся, а потым яны схапілі адно аднаго за локці і западскоквалі, бязладна, без сэнсу выгукваючы: «Го! Го! Го-го-го!!»

— А я ж гэта сама думаў, Ра-айка! Чэснае камсамольскае! Думаў, ты паедзеш куды, паступіш вучыцца, а я адзін тут буду. А як жа я змагу без цябе?!

І зноў дрындавалі, як ягняты: «Го! Го! Го-го-го!!!» І каб хто збоку падгледзеў, то падумаў бы: звар'яцелі, дальбог, звар'яцелі.

— А мае... Ледзьве ўгаварыла сваіх, што вучыцца і завочна можна... А ты мне духу паддаў, сілы! Тым, што ў вучылішча пайшоў...

— А каб ты ведала, Раечка, якое наша вучылішча! Ва ўсім Саюзе лепшага няма!

— Кожны цыган сваю кабылу хваліць...

— Раечка, клянуся! Ты ў жыцці нічога такога не бачыла. І я не бачыў... Уяўляеш? Выкладчык адкідвае на сваім стале накрыўку, а там пульт кіравання. Націскае кнопку — зашторваюцца вокны, другую — апускаецца экран, трэцюю-чацвёртую — уключаецца кінаапарат ці праектар, пятую — тэлевізар, шостую — магнітафон, сёмую — відэазапіс пракручваецца па тэлевізары... А дошкі, крэйдай пісаць, ведаеш якія? З матавага шкла! Яе і замест экрана можна скарыстаць, пускаць з другога боку, з лабараторыі праектарам малюнкі, чарцяжы... А ў класе, дзе трактар вывучаюць, націснеш кнопку — трактар «Беларусь» на 360 градусаў паварочваецца... Ён разрэзаны, уяўляеш? Самі навучэнцы распілавалі, кожны вузел у разрэзе відаць... А якія сталы ў класах! Светленькія, пад лакам, як люстэркі... І ніводнай плямкі, ніводнай драпінкі! А ў вестыбюлі ўсё драўлянымі панелямі аздоблена, чаканкаю па метале... А ў кабінеце хіміі...

— Стоп, стоп, стоп! А то яшчэ сагітуеш, і я ў вучылішча падам дакументы.

— А што?! Разам будзем вучыцца! Праўда, дзяўчат у нас мала...

— Мы і так будзем разам, Саша!

— Ага...

— На ўсё жыццё, Сашачка?!

— На ўсё...

Гоп-гоп, скок-скок... Рая схіляецца да яго, цалуе недзе каля вока, і Саша ад нечаканкі ажно адхістваецца. Глядзіць на яе ва ўсе вочы і дыхае, дыхае... А Раіны вочы ледзь улоўна блішчаць і здаюцца вялізнымі-вялізнымі... І ці толькі правады звіняць? Мо і ў Сашкавай галаве ўсчаўся звон?!

— Рая... а мне можна... цябе пацалаваць?

— Можна...— яна павярнулася да яго ўсёй постаццю, вочы, здаецца, яшчэ пабольшалі.

Ён не пусціў яе рукі, пачаў нахіляць сваю галаву. Заплюшчыўся ад страху зараней... І ткнуўся носам недзе ў шчаку ёй, цмокнуў, як дзіця спрасонку.

— А цяпер ты мяне...

Рая пацалавала яго — гэтаксама няўмела, у шчаку, але бліжэй да куточкаў губ.

— А цяпер я-а-а...

Саша пацалаваў яе ў самыя губы — мацней і даўжэй.

— А цяпер разам, удваіх...

Дык вось ён, самы смак пацалунка! Казытлівая слодыч, ад якой заходзіцца сэрца... Калі ўдваіх і ў губы!

— Я губамі шрамік чую... Ты галіўся?

— Ага... Парэзаўся...

— Дурненькі... А мы танцуем, думаю — што такое ў ім змянілася? Ніяк не дацямлю... Хай бы ж раслі вусікі... Ты такі прыгожы з імі...— Рая шаптала блізенька-блізенька, амаль не адрываючы сваіх губ ад ягоных, ад Сашкавых шчок...

— Не відаць у цемнаце, ці прыгожы...

— Прыгожы! — Рая павадзіла пальчыкам па тым месцы, дзе былі вусы.— Ой, ужо колюцца! Дальбог жа!

— Не выдумляй... Гадзіны тры ўсяго, як брытву ў рукі браў...— Саша стараўся гаварыць самавіта і павольі — як сталы мужчына, як чалавек, які пазнаў ужо, што такое «слабы пол», які адчуў сябе мацнейшым за гэты «слабы». І туліў, гарнуў Раю да сябе — усю-ўсенькую, ён насмеліўся ўжо гэта рабіць. Рая, нібы чаго спалохаўшыся, адштурхнула яго далонямі, выкаўзнулася і пабегла. І ён прабег за ёю, але больш не абдымаў, пайшоў побач, цяжка дыхаючы.

— Ты так і не сказала... Што — на ферму пойдзеш?

— На комплекс! Аператарам па адкорме. У нас будзе будавацца комплекс: міжкалгасны, высокамеханізаваны, на дваццаць тысяч галоў. Спецыялізацыя і канцэнтрацыя... А малочную ферму паступова звядуць. Бацька ўчора казаў...

— Не выдумляй. Дуброву лічаць неперспектыўным населеным пунктам. Дый лепш у нас не свінакомплекс, а малочны ці бычкоў адкормліваць. У нас жа лугоў многа!

— Усё цячэ, усё мяняецца. Перспектыўным! Яшчэ ж якім перспектыўным! Скрозь па гравейцы пойдзе другая вуліца — шматпавярховыя дамы з усімі выгодамі!

— Не чуў. Нічога не чуў...

— Уся вёска гаворыць, а ён не чуў. У беспаветранай прасторы ты жывеш?

— А дзе будуць будаваць? У нас і месца падхадзяшчага няма.

— Каля Капуснікаў, займецца і Вольчын хутар.

— Такога не можа быць. Комплекс на захадзе, а Дуброва на ўсходзе? А ружа вятроў? У нас жа вецер пераважна з захаду дзьме! Гэта галавацяпства... Куды глядзіць Дзеньдобры?

— Два кіламетры да вёскі, лічаць, нічога страшнага.

— Гэта ўсё трэба не раз прадумаць,— сказаў Саша такім тонам, нібы ад яго залежала — быць ці не быць такому комплексу.— Ага! Ды там жа азімыя сеюцца! Які можа быць комплекс?!

— Дык старшыня ж хітруе! Пакуль размовы, пакуль планіроўка, прывязка, пакуль пачнуць будаваць, то яшчэ, кажа, раз жыта сажнем.

А самі ішлі ды ішлі, пакуль не забрахаў уперадзе сабака. Сабака ў чыстым полі?! І толькі як азваўся старэчы голас, пачуўся знарочысты кашаль, схамянуліся: гэта ж яны прыйшлі ледзь не да самага самалёта, вартаўнік занепакоіўся!

Павярнулі назад, прабеглі, трымаючыся за рукі...

...Вярнуўся Саша дадому недзе пасля дзвюх гадзін ночы. Каб нікога не трывожыць, палез начаваць на хату, у сена, дзе было вылежанае бацькам лёгвішча.

4 Саша са страхам лічыў дні: чатырнаццатага кастрычніка апошні. Гэта пятніца, а на суботу і нядзелю, майстар казаў, распусціць групу па дамах на пабыўку, з панядзелка — фарсіраваныя заняткі ў вучылішчы, бо праграма вельмі насычаная. Бульба ў калгасе канчаецца, але работы яшчэ хапае: моркаў, буракі, капуста. Ну, капуста можа і да марозаў пастаяць, яна яшчэ прыбывае ў вазе (як і буракі). Калі што — школьнікі мясцовыя памогуць. Сёння дванаццатае, засталося, значыць, тры дні, плюс субота-нядзеля — пяць. Сашу не трэба «распускаць», ён і так «распушчаны» — жыве дома. Пяць дзён! Так мала, так мала! Эх, каб вучылішча было не ў Слуцку, а ў Дубромаве ці хоць бы ў якой суседняй вёсцы. Кожны вечар бегаў бы да Раі, кожны вечар быў бы з ёю!

«Ах, Рая, Рая... «Что в имени твоем?..» Як жа быць без цябе?»

«Буду пісьмы ёй пісаць... Кожны дзень... Пра ўсё! Эх, каб такі алфавіт прыдумаць — каб ніхто не ведаў, а толькі я ды Рая... А то ў яе брацік ёсць, восьмы клас, усюды любіць нос соваць... А так бы напісаў — і душа спакойная, толькі Рая змагла б расшыфраваць...»

Некалі, у пятым ці шостым класе, трапіла ім у рукі кніжка Конан-Дойля, там было апавяданне «Пляшущие человечки». Напала тады на ўсіх у класе эпідэмія, толькі чалавечкамі і пісалі адно аднаму запіскі. На якія літары не хапала ў апавяданні чалавечкаў, дадумалі самі, трошкі не так сагнеш чалавечку руку ці нагу, от і другая літара. Эх, каб цяпер тую кнігу з апавяданнем, усе ўжо забылі чалавечкавы алфавіт, а Раі можна было б спецыяльна перапісаць на паперку і ўручыць...

Дванаццатага кастрычніка, дзень як дзень... Толькі адно, што маці паехала ў Слуцак — суд сёння, развод. Ну і правільна, хай адбудзе фармальнасць. Даўно трэба было рашыцца на гэта. Усё роўна ж бацька не жыве разам, то хай будзе пастаўлена кропка над «і». І будзе хоць помач якая грашовая, аліменты... І ў бацькі будуць рукі развязаны. Калі ў яго сапраўднае каханне... чаго ж! Бывае і ў такім узросце... То хай ідзе, хай сыходзіцца з Волькаю. «Я ведаю ўжо, што такое каханне,— не маленькі... Хай ідзе, хай перастане мама мучыцца... А мы не прападзем. Ура!»

Дванаццатага кастрычніка... Танцы ў клубе пача-

ліся як звычайна, як і ў іншыя вечары. I ніякае прадчуванне кепскага не таміла Сашава сэрца...

Душа спявае, душа іграе,
Калі кахае Русак Рая...

Жухалаў не ведаў ужо, як зачапіць Сашу, каб вывесці яго з раўнавагі, падбіць на скандал ці на бойку. I тое, што Саша не рэагаваў на Алегавы наскокі, прыводзіла гэтага флегматыка як не ў шаленства. Нібы памянялася ў Жухалава натура, стаў халерыкам... А дзяўчаты і хлопцы, Саша бачыў, спачувалі ўжо яму і Раі, нават нападалі часам на Жухалава, абрывалі яго досціпы на паўслове, не смяяліся з іх. Сёння, як і ў тыя вечары, Саша і Рая хацелі «змыцца», не чакаючы канца танцаў. Ім было цікава толькі ўдваіх, іх цягнула ўжо адасабляцца.

У разгар танца ў залу зайшла Ліля Пахілька, крыху пастаяла каля дзвярэй, некага выглядаючы ў варухлівай масе. Выраз твару ў яе быў журботна-ўстрывожаны. Пашылася ў натоўп, а Саўка Дыракол адразу адвярнуўся ад сваёй партнёркі — і да Лілі. I за рукі яе хапаў, падбіваў іх угору, нібы вучыў лятаць, і пакручваўся перад ёю, а Ліля адмахвалася ад яго прыставанняў, прабіралася бліжэй да Сашы. I дабралася, Дыракол урэшце адстаў,— патузала за кашулю: «Выйдзі скоранька...» I пайшла да выхаду, не чакаючы яго згоды. «Я зараз...» — сказаў Раі і пабраўся следам. Падалася за імі, непаразумела пацісківаючы плячыма, і Рая.

— Саша... Са Слуцка званілі...— загаварыла паспешліва Пахілька, як толькі сышла з ганка.— Я была якраз у праўленні... З маткаю тваёй кепска... Проста з суда «скорая» забрала.

— Што здарылася? Ліля, чаго вы яго паклікалі? — з'явілася на ганку і Рая, за ёю высунулася яшчэ некалькі цікаўных твараў.

Ні Саша, ні Ліля не спяшаліся ёй адказваць, і Рая ўзлавалася: «Ну — чаго вы маўчыцё?!» А Сашу як мову заняло: вось яна, расплата за яго шчаслівыя хвіліны, за невымерную раскошу, якую дазволіў сабе ў такіх абставінах... Што забыўся пра ўсё і ўсіх... Што развесяліўся не ў пару: і дома такое становішча, і дзеда толькі што пахавалі (добрыя людзі яшчэ ў жалобе ходзяць).

— Ліля, што здары-ылася?! — Рая была ўжо каля

Пахількі, затрэсла аберуч за плечукі. Сашу не чапала, той быў нібы ў здранцвенні.

Ліля гэтак жа шэптам, як і Сашу, пераказала навіну.

— А што ў яе — сэрца? — спытала Рая, ужо гучней. Яна нібы інстынктам угадала, што папытаць, на што не хапала сілы і адвагі ў Сашы. «Ага, ага...» — утаропіўся і ён у Ліліны вочы. І заўважыў: быццам нешта здрыганулася ў зрэнках загадчыцы.

— Нічога не сказалі...

— Ліля, ты нешта ведаеш! Чаму ты не гаворыш? Яна жывая?! — У Сашы пачала тузацца шчака.

— Нічога я не ведаю... Што мне сказалі, тое і я: у цяжкім стане забралі.

— Хто па тэлефоне гаварыў? Хто падымаў трубку? — Ужо і Саша зацерабіў Лілю.

— Дзеньдобры сам, у яго пытай...

— А бацька — што? Гэта не бацька званіў?

— Не. З бальніцы... З бальніцы быў званок.

— А бацька — што?! Чаму не бацька званіў? Гэта пры бацьку было з маці?

Ліля нічога не магла сказаць.

## Раздзел восьмы

I

Саша зусім разгубіўся: такога, каб і маці не было, ён не ўяўляў. «Не прападзем! Падумаеш...» — не раз гаварыў ці думаў, і меў на ўвазе, што з дзецьмі ўсё-такі будзе маці, што сям'я патрымаецца на ёй, пакуль ён вывучыцца, набудзе спецыяльнасць. А выходзіць, што і гэты, апошні, камень з падмурка выбіты!

— Ну што ты стаіш? Нешта ж рабіць трэба! Пабеглі, мо яшчэ старшыня ёсць...— церабіла яго Рая, а ён як прыхінуўся да плоціка, дык і баяўся адарвацца — не трымалі ногі.

— Адстань...— мармытаў,— адстань... — і, здаецца, не бачыў яе.

Рая на першы раз не пакрыўдзілася, не чмыхнула — «Ах, я прыстала да цябе?!» — не крутнула плечыкам, не пайшла. Рая разумела, што робіцца з Сашам, спачувала яму ўсім сэрцам. І здалося ёй, што вельмі ж не пасуюць да моманту тыя легкадумныя круцюлечкі-локанчыкі, якіх яна нарабіла на скронях,

збіраючыся сення на танцы. Палавіла іх, пазапіхвала, пападтыкала ў валасы, каб не ідаць было.

— Пабе-е-еглі, кажу-у! — пацягнула яго рашуча ад плота.

І Саша нібы падужэў, папрутчэлі ногі. Яны пабеглі, не чуючы ўтомы,— спачатку ў праўленне калгаса.

Няма нікога, цёмныя вокны...

Пабеглі да белага доміка Жухалавай — старшыня жыў у яе, усе гэта ведалі.

Ёсць святло! На кухні гарыць лямпачка, праз дзіркі-рышалье фіранкі ўбачылі: Іван Кузьміч і Таццяна Іосіфаўна п'юць за сталом чай. На плечы заатэхніцы накінуты шырачэнны і рэдзенькі, як сетка-мярэжа, белы шаль, яна ў доўгім халаце ў кветы, устала штосьці прынесці яшчэ на стол ці падліць — масіўная, нават велічная. Старшыня таксама па-хатняму расцялешаны, пінжака і гальштука няма, кашуля наросхрыст.

Рая першая ўзбегла на ганак...

У сенцах трохі палапала ўпустую, пакуль намацала клямку. Адчыніла дзверы — каля самага парога Жухалава.

— А я думала — Алег скрабецца... Думала, падпіў, нягоднік...— адступіла ўбок, дала ім зайсці.

Чамусьці толькі зараз дайшло да Сашы: гэта ж тут жыве Алег! Гэта ж Дзеньдобры стаў яго айчымам! Ці не з-за гэтага ў яго і выбрыкі ўсякія? Псіхалагічны стрэс: раптам маці прыводзіць ці пускае ў хату прымака...

Саша зайшоў другім, і Жухалава трывожна зазірнула за яго спіну, у сенцы.

— Няма такі Алега з вамі... Нічога з ім не здарылася?

— Не-не, мы... У нас другое... Да Івана Кузьміча...— Рая не марудзіла ні хвіліны.

Дзеньдобры ўстаў за сталом, але не выходзіў, трохі нават збянтэжыўся і пачырванеў.

— Ся-дай-це з на-мі, ма-ла-дыя лю-дзі... Па-га-няем чаі.

— Ага. Сябры Алега — нашы сябры...— Таццяна Іосіфаўна пачала падсоўваць да стала крэслы, нібы гаворачы гэтымі рухамі: «Гэты — для цябе, а гэты — табе...»

— Што з мамаю, Іван Кузьміч? — Саша з крохкай надзеяй упіўся вачыма ў яго вочы.

— А-а... Мы з Тацянай Ёсіпаўнай тут ужо гаварылі пра гэта. Захварэла маці... Званілі з псіхіятрыі...

— А што...— пачаў Саша і асекся: дык жа зразумела — не сэрца схапіла маці. З псіхіятрыі званілі! «З псіхіятрыі... З псіхіятрыі...» — біла, як молатам, па галаве.— І нічога больш не сказалі? Іва-ан Кузьміч...— як не вымольваў Саша.

— Нічога амаль... Толькі тое, што даставіла «хуткая дапамога» з памяшкання суда грамадзянку Сухавей Марыю Міхайлаўну...

— Бацька яе туды запраторыў?!

— Не трэба так, Саша... Прасілі бліжэйшых сваякоў заўтра пад'ехаць. Заўтра мой Пеця паедзе ў горад, можаш з ім... падскочыць.

Ні «дзякуй» не сказаў Саша, ні «да пабачэння!» — крутнуў за дзверы. Штосьці яшчэ ззаду гаварыла Рая — мо дзякавала, мо развітвалася...

Зразумела, заўтра трэба ехаць. І ён паедзе як самы блізкі сваяк. Бабка і ёсць бабка, хоць маці і дачка ёй. «Што бабка, малаграматная, можа там даведацца, распытаць? Ёй «да лямпачкі», калі і ў які момант здарылася тое, з-за чаго прыляцела «скорая» і забрала яе ў псіхіятрыю. Бабцы не цікава, быў пры гэтым бацька ці не, бацька арганізоўваў «скорую» ці хто чужы...» — Сашу здаваўся гэты момант вельмі важным. Калі рабіў усё бацька, а пасля нават не пазваніў (а мог бы і сам прыехаць, расказаць пра такое!), дык хто ж ён такі пасля ўсяго гэтага?! Якім словам можна назваць яго?! Калі ж усё рабілі, клапаціліся чужыя людзі... сказалі ж бо — не з вуліцы яе падабралі, а ў судзе ўзялі... То дзе быў у гэты момант бацька?! Дзе?!

І яшчэ... Пры разводзе неяк прысуджаюць, з кім застаюцца дзеці, хто каму будзе плаціць аліменты... «Канешне ж, нас не дзялілі напалам — двое мацяры, двое — бацьку... Мы павінны былі з мацерою застацца... То як жа будзе цяпер? Маці ж няма дома... Мо нават доўга не будзе... То як жа малыя? Бабка можа іх у дзіцячы дом паздаваць. Трое на яе галаву... Ды яшчэ да маці ў бальніцу трэба ездзіць... У дзіця-ячы дом?!» Чамусьці гэтыя тры словы вельмі крыўдзілі Сашу, кідалі ў халодныя дрыжыкі. Гэта была крайняя мяжа, да якой можа прывесці крушэнне сям'і.

«Вось табе і бацькава каханне... Во да чаго ўсё дайшло... Во да чаго каханне даводзіць...»

Мінаў клуб, у якім яшчэ было шумна, але маўчала музыка.

А хто ж гэта часценька тупаціць за ім? Хто гэтак дыхае — як загнаны? Агляну ўся...

— Рая?! Ты не пайшла... у клуб? Прабач мне... Ці дадому...

— Я пайду, пайду... Дадому... Я правяду цябе трошкі — і пайду.

Сашу пачуўся ў яе словах нейкі папрок.

— Ты правядзеш, а тады мне цябе праводзь. А я не магу... І вабшчэ...— махнуў долу рукою, рэзка павярнуўся ісці далей.

— Што — «вабшчэ»? Што «вабшчэ»? — Рая стала, ёй і дыханне перахапіла, і голас паглушэў. Але раптам прарваўся балючым выкрыкам: — Ах, так?!

Цяпер ужо яна рэзка павярнула назад. Але куды?! Назад да Жухалавай, у канец вёскі? Ім жа абаім можна было ісці разам да Сашавай хаты, а Раіна стаяла яшчэ далей за дзедаву, у глыбіні вёскі, пад школу.

— Ра-ая! Рая, ты куды? — апамятаўся, пабег следам, заступіў дарогу і рукі развёў, нібы якую авечку пераймаў. А потым абхапіў яе, утрымліваючы, а яна вырывалася і гразіла: «Пусці, бо зараз як...» Але Саша толькі сціскаў мацней, каб атушыць яе парыў, і ўрэшце яна перастала вырывацца, аціхла.

Ішлі зноў разам. За рукі не трымаліся і не размаўлялі. Мінулі Сашаву хату, і Рая суха сказала: «Усяго добрага!» — думала, што ён зверне дадому. А ён моўчкі ішоў побач далей, аж да дзедавай хаты, і там сказаў Раіны словы і Раіным тонам — «Усяго добрага!» — і звярнуў у дзедаў двор, хоць ён ужо і не быў дзедавым. І не азірнуўся ні разу, хоць Рая стаяла і глядзела, пакуль ён перасякаў двор, падыходзіў да дома Лявошкі.

З кім жа яшчэ пагаварыць Сашу, як не з цёткаю Настасаю, з дзядзькам Косцем?

## 2

Іх правяла з прыёмнага аддзялення сястрычка — сама кнопка, абцасы мо на пядзю, на галаве, на самай макаўцы, узбіты, нашамшураны кусцік бялявых валасоў. Ішоў Саша і думаў, што ўрач, да якога вядуць яго і Лявошку, абавязкова з вялізнай галавой. І паголеная, аж сіняя барада квадратная, і лоб

вялізны, у маршчынах, падобных на цагляную кладку, навіслы над цёмнымі, прытопленымі пад надброўнымі дугамі вачыма (лоб пераходзіць у шырокую, на ўсю голаў лысіну). Рот шырокі, з вузкімі губамі... Як Фантамас, толькі такі выгляд можа мець псіхіятр-гіпнатызёр. А прыняў іх зусім звычайны і спакойны чалавек, і Саша нават расчараваўся... Сеў пры сцяне на засланую просцінай канапу, з празрыстай плёнкай «у нагах». Лявошку як інваліду і старэйшаму ўрач паказаў на крэсла перад сваім сталом.

Спачатку дастаў нейкія паперкі і пісаў толькі сам, потым перапытваў, хто яны для хворай Сухавей Марыі Міхайлаўны, потым запоўніў з іх слоў усю картачку, звяраючы з другою запоўненаю і час ад часу хмыкаючы. На многія пытанні адказалі, толькі не ведалі, якімі хваробамі хварэла ў дзяцінстве, як вучылася ў школе. І чым далей распытваў урач, тым больш насцярожваўся Саша. Ці не хварэла менінгітам, энцэфалітам, ці не назіраліся прыпадкі эпілепсіі, ці не стукалася галавою цяпер ці ў дзіцячым узросце, ці не было траўмы чэрапа. Ці не былі якія адхіленні ад нармальнага ў бацькоў ці іншых сваякоў Марыі Міхайлаўны, чым яны хварэлі? Якія паводзіны Марыі Міхайлаўны дома, у сям'і, на рабоце, ці не заўважалі чаго дзіўнага, ненармальнага?

Лявошка расказаў пра выпадак, калі яна хацела падпаліць магазін, і ўрач выслухаў гісторыю вельмі ўважліва. У Сашы выпытаў пра тое, што маці зрабілася вельмі замкнутая, увесь час маўчыць, усё нешта думае і думае, нічога не робіць, не памагае бабе, нават дзяцей апошнім часам не глядзіць. Што раніцаю баба будзіць яе ісці на ферму, а яна ледзь падымаецца і па некалькі разоў перапытвае, куды ёй трэба ісці. А нядаўна прыходзіла да іх дадому заатэхніца Жухалава, распытвала штосьці ў бабы. Саша трохі чуў, што здарылася на ферме. Пачалі псавацца каровы з матчынай групы. Калі даілі кароў у полі, уручную, то маці даіла добра, усе цыцкі. А раніцаю і вечарам, у аборы, дзе ёсць даільныя апараты, пачала раптам даіць толькі па дзве цыцкі, два «стаканчыкі» не падключала і ўсіх угаворвала так рабіць, бо апарат смокча добра, высмакча і з тых цыцак, хоць іх не падключыш. Казала нават механіку, каб адняў лішнія два «стаканчыкі», а то целяпаюцца, замінаюць.

Потым урач папрасіў Сашу выйсці ў калідор і яшчэ гутарыў з Лявошкам асобна, напаўголаса. Саша і стаяў, і хадзіў пад дзвярыма, а потым рашуча рвануў за ручку, уляцеў у кабінет.

— Я сын яе ці не сын? А вы ад мяне нешта хаваеце! Я павінен усё ведаць! Я не выйду адсюль, пакуль вы мне не скажаце, што з мамаю! І я хачу пабачыцца з ёю! — крычаў над сталом, ажно ўрачу давялося адхінуцца да спінкі крэсла.

— Я ведаю, што ты — сын, што акрамя цябе ёсць яшчэ трое. Праўда, Марыя Міхайлаўна спрабавалі ўчора распытваць, гаварыла, што ў яе няма дзяцей, што... Хаця не, не буду паўтараць... Дык вось, ты ўжо хлопец дарослы, і ніхто ад цябе нічога не хоча скрываць... Твая маці, Саша, захварэла, і ёй трэба трошкі падлячыцца... Зараз яна спіць, гэта таксама лячэнне для яе, будзіць не будзем. Вечарам яе паглядзіць камісія, хутчэй за ўсё, што адправім Марыю Міхайлаўну ў Мінск, у Рэспубліканскую псіхіятрычную бальніцу. Там жа, сам разумееш, урачы вышэйшай кваліфікацыі і вопытныя практыкі. Усё будзе добра, падлечаць і выпішуць дадому...

— Гаворыце — дарослы, а размаўляеце са мною, як з дзіцем. Вы мне прама скажыце: яна звар'яцела?!

— Дарагі мой, ты занадта катэгарычны. У нас няма такога паняцця... Можна гаварыць пра сіндром, сукупнасць некаторых сімптомаў, калі браць у анамнезе, аб праявах дысфорыі і аўтызма пры лабільнай дэградацыі інтэлектуальнага ўзроўню. А магчыма, што і цыркулярны псіхоз мае месца, асабліва гэты афект у судзе гаворыць за сябе... Зразумела?

— Зразуме-ела...— каўтнуў Саша сліну: нічога не зразумеў!

— Кемлівы ты хлопец... Усё разумееш, нават тое, у чым яшчэ мы не разабраліся. Паўтараю: мо сёння, мо заўтра адправім яе ў Мінск, у Рэспубліканскую псіхіятрычную бальніцу... Кансіліум будзе вырашаць... Вось вам тэлефон...— урач пісаў на кавалачку паперы, мо на рэцэпце, і працягваў гаварыць: — Штосьці праясніцца ўжо каля васемнаццаці гадзін — званіце... Або заўтра паміж дзевяццю і дзесяццю раніцы... Усяго добрага! — падаў Лявошку паперку.

3 Ехалі ў Навасёлкі. Саша ўпрасіў-умаліў, у яго аж смылела ўсярэдзіне, так хацелася пабачыць бацьку, выпытаць, што было ў судзе і як сябе паводзіў ён. І проста паглядзець яму ў вочы — хай пакруціцца... Няўжо можна да такога дайсці: адправіць маці ў бальніцу, а самому спакойна ехаць у Навасёлкі?

— Пра што ён выпытваў без мяне — урач той? — не вытрываў Саша.

— А нічога такога... Ты ўжо думаеш — чорт ведае што, а яно ўсё проста. Цябе не хацеў траўміраваць... Пра адносіны бацькі і маці пытаў, як яны развіваліся, у што выліліся... Прычыны разводу, так сказаць...

— Усяго?

— Усяго.

— А пра той афект у судзе, успышку? Што там была за ўспышка?

— Не гаварыў ён пра гэта нічога, а я не пытаў. Неяк няёмка... Ды што гэта дасць, калі і выведаеш?

— Можна было б і ў суд заехаць, распытаць.

— Не трэба, Саша, гэта рабіць. Павер мне — не трэба... А з бацькам пагаворым. От заедзем і пагаворым.

І Лявошка то маўчаў, то распытваў пра Сашаву вучобу (хоць тае вучобы было яшчэ кот наплакаў), ці добра іх кормяць у вучылішчы, ці такімі, як у школе, падручнікамі карыстаюцца, каб мець і агульную сярэднюю адукацыю. Саша адказваў адрывіста, не вельмі ахвотна і ўжо не так горача расхвальваў свае СПТВ, як Раі. Ён вельмі добра адчуваў, што ўся гэтая цікавасць дзядзькі Косці мае знарочысты характар — каб развеяць яго панылыя думкі і зацятасць. Супраціўляўся роспытам Саша інстынктыўна, яму хацелася быць у гэтым настроі, у гэтым одуме. Дый хацеў абдумаць, што гаварыць бацьку, пра што і як пытаць, што патрабаваць ад яго. Бо сітуацыя змянілася карэнным чынам, такога развіцця падзей ніхто не чакаў.

4 Думалі — папашукаюць бацьку: і ў людзей будуць пытаць, і да Гардзея заходзіць, і ў кантору саўгаса заглядаць, дзе працуе Ларыса. Урэшце ім пакажуць, дзе жыве, а яго, выявіцца, няма дома — на рабоце.

І ўсё было не так...

Мінулі лес, і на гарызонце замаячылі навасёлкаў-

скія сянажныя вежы, купалы блішчалі на сонцы, нібы царкоўныя. Гэта — крыху правей, наводшыбе. А самую дарогу было не пазнаць: звычайная гравейка ператварылася ў асфальтаваную шашу. «Праўду кажуць, не конь вязе, а дарога...» — нават Лявошка не ўтрываў, пахваліў. Набліжаліся, раслі вежы, яны таксама здаліся нейкімі абноўленымі... «А-а, гэта сцяг на першай трапеча...» А яшчэ наблізіліся, то ўбачылі, што каля адкормачнага комплексу-гарадка тлумна, з-за сянажных вежаў выглядваюць чырвоныя аўтобусы «Ікарусы». Ад гравейкі-шашы перпендыкулярна адбягала да комплексу асфальтаваная дарога, у кутку тырчала з бетоннай глыбы віціеватая канструкцыя з пафарбаваных у жоўтае і чырвонае труб. На ёй прымацавана жоўтая бляха з надпісам «Жывёлагадоўчы адкормачны комплекс саўгаса «Навасёлкі». Адразу за дарогай-папярэчкай стаяла пры кювеце міліцэйская жоўта-сіняя «Волга». Мо метраў сто не даехалі да машыны, як ззаду на ёй загарэлася табло: «Остановитесь!»

Падрулявалі да машыны, сталі. Выйшаў маёр міліцыі — строгі, рослы, унушальны, казырнуў Лявошку і папрасіў вадзіцельскія правы. Разглядаў іх доўга, асабліва талон, потым папытаў яшчэ якіх дакументаў і зноў доўга разглядаў. Папытаў, хто з ім яшчэ ў машыне, чаго едуць у Навасёлкі, да каго.

— Цеснавата сёння тут... Семінар... Ну ладна, пакуль яны на комплексе, праскочце. Толькі не заграмаждайце транспартам цэнтральны праезд і плошчу, скора яны будуць ехаць у пасёлак,— аддаў дакументы і зноў казырнуў.

Ад'ехалі ад патрульнай машыны, і Лявошка пахітаў сам сабе галавою: «Чуць не ўліплі... Добра, што ў талоне ніводнай дзірачкі...»

Каля самай плошчы ўпоперак над вуліцай чырванее палотнішча «Прывітанне ўдзельнікам рэспубліканскага семінара па інтэнсіфікацыі жывёлагадоўлі!» На плошчу, за транспарант, не выязджалі: Саша паказаў дарожку ўправа, што вяла з тыльнага боку цагляных доўгіх хлеўчукоў. Ледзьве прабраліся па гэтым завулку: і справа, і злева стаялі легкавікі і «газікі». Завярнулі ў двор Гардзеевага дома — і там машыны...

— Вы пакуль не падымайцеся, я адзін збегаю — ці ёсць хто дома ў дзядзькі Гардзея,— сказаў Саша і прыпусціўся ў пад'езд.

Не паспеў Лявошка працерці пярэдняе шкло, зняць люстэрка бакавога агляду і замкнуць машыну, як Саша і назад прыбег. У дзядзькі Гардзея нікога не было.

Выйшлі на плошчу.

Фантан пасярод плошчы пырскае, плюскоча. Там, дзе плошча мяжуе з маладзенькім паркам, ззяе ружовым пластмасавым шыферам дашчаны павільён, можна пазнаць, што пад страхою стаяць накрытыя белым сталы з пузатымі самаварамі. Але ніхто не тоўпіўся каля іх, групкі людзей там і сям стаялі ці хадзілі па плошчы каля фантана, але больш за ўсё было каля палісадніка школы. Там ажно стракацела ад белых фартушкоў і букетаў кветак, адтуль разлятаўся звонкагалосы шчэбет. Стаялі і старшакласніцы — больш паважна і самавіта. Многа людзей было і на аднараднай вуліцы, што прымыкала да плошчы з поўдня, дзе былі звычайныя падфарбаваныя вясковыя хаты.

Пачалі абход плошчы ўправа, прыглядваючыся да народу, ці не трапіцца хто знаёмы. І праўда, толькі параўняліся са школьнікамі, як пачуўся звонкі вокліч:

— Сашка?! — І з натоўпу старшакласніц выбегла з кветкамі Наташа. Узбуджаная, вочы блішчаць, ажно не верыцца, што гэта яна. Дацокала абцасікамі да іх, паздароўкалася: — Добры дзень, дзядзька Косця! Ой, я нават вачам сваім не паверыла... Вы з семінарам да нас?

— Не, мы — па сваіх справах,— суха адказаў ёй Саша.— Дзе тут бацька пасяліўся — ведаеш?

— Ведаю, я нават падлогу мыць памагала... Управа, далей па вуліцы, будуць пяць фінскіх домікаў... Ён у другім, злева ўваход... Вы пачакайце трохі, скончыцца ўсё — я вас правяду. Позняцца «семінарысты».

І памахала ручкаю, пабегла да сяброўак.

— Мы самі, не трэба,— кінуў наўздагон Саша. А Лявошка памахаў па-дзіцячы пальчыкамі ў адказ і цяжка переступіў пратэзам: паварочваўся, аглядаў плошчу.

— А што? Нядрэнна... Нядрэнна...

Прайшлі яшчэ трохі па перыметры, і заварушыўся натоўп на вуліцы, каля хат, і вось праляцела, бліскаючы мігаўкаю, міліцэйская машына, затармазіла на выездзе з плошчы. Групкі людзей заварушыліся жвавей, нібы капнулі якога рэактыву. Школьнікі сыпанулі да фантана, дзе згушчаўся натоўп. Мабыць, там і

меркавалася сустрэча гасцей. І тут злева, з вуліцы, паказаўся першы «Ікарус», стаў, не ўз'язджаючы на плошчу, астатнія — у вуліцы, за дрэвамі і хатамі. Яшчэ колькі хвілін — і нібы вывяржэнне лавы, паваліў натоўп гасцей, удзельнікаў семінара. Рэй вёў высокі і стройны чалавек, павярнуў ён не да натоўпу ў цэнтры плошчы, а да людзей на вуліцы, і тыя рушылі насустрач гасцям, апладзіруючы. Патокі зліліся, у кругаверці не відаць было, хто з кім і як здароўкаўся, у гудзе галасоў не чуваць былі пытанні і адказы, але прарываліся выбухі шчырага смеху.

— Сакратар ЦК... Вунь той, у цэнтры, высокі... Павел Мацвеевіч Мажарын...— Углядаўся ў натоўп Лявошка і таксама ўсміхнуўся.— Ну — цяпер не скора адпусцяць... Не запланаваная гутарка!

Сашу закарцела пачуць, пра што людзі гэтак запраста гавораць з самім сакратаром ЦК партыі рэспублікі. Ці хоць бы паглядзець зблізку на яго, ні разу ж не бачыў. Сашу хацелася быць з гэтымі людзьмі, як і яны, рабіць штосьці значнае і вялікае, жыць агульным з імі клопатам.

І яны зліліся з натоўпам на вуліцы, які выплеснуўся нават на ўскраек плошчы. Але Мажарын і іншыя высокія госці ўжо развітваліся з людзьмі, паціскалі рукі, усміхаліся прыязна, а нейкі мажны мужчына, мо хто з арганізатараў семінара ці памочнікаў сакратара, усё падспешваў: «Павел Мацвеевіч... Павел Мацвеевіч, на дзве гадзіны познімся!..»

— Саша, тут нават пісьменнікі ёсць...— зашаптаў Лявошка.— Дальбог, знаёмыя твары: былі дні літаратуры ў вобласці, прыязджалі выступаць у наш клуб...

Саша з Лявошкам павярнулі назад, пайшлі з удзельнікамі семінара да фантана, дзе, хвалюючыся, выстройваліся школьнікі. І вось малыя сыпанулі ўручаць кветкі... Мажарын узяў букет, пацалаваў дзяўчынку, нават прайшоў з ёю трошкі, абдымаючы за плечыкі, і ўсе прымалі кветкі і цалавалі дзяцей. Але на сантыменты зусім не было часу, і Павел Мацвеевіч адразу прадставіў удзельнікам семінара невысокую жанчыну (Саша заўважыў яе яшчэ раней каля фантана сярод людзей): «Аўтар праекта забудовы... Вера Мікітаўна, вам слова. Абараняйце яшчэ раз свой праект». На гэта архітэктарка сказала не без гонару: «Мой праект абараніла само жыццё... Павел Мацвеевіч...» —

«Ну, не зусім, не зусім. Вы не чулі, што людзі гаварылі толькі што? Новаму пасёлку — усё, а на старой вуліцы толькі водаправод з калонкамі. Калі так збліжаць горад з вёскай, кажуць, то сто гадоў будзем збліжацца. І правільна гавораць, заўважце! Трэба прадумаць, таварышы архітэктары, каб раёны старой забудовы, індывідуальныя дамы арганічна ўпісваліся ў пасёлкі гарадскога тыпу. Не кожнаму падабаецца жыць у такім гмаху... Ну — даруйце, што перарваў вам расказ,— прашу!» — «Думаем ужо над гэтым, Павел Мацвеевіч...» — сказала, счырванеўшы, жанчына і пачала расказваць пра цэнтр пасёлка. Амаль такімі ж словамі, як некалі Наташа гаварыла Сашу! Нават усміхнуўся ён сам сабе: здорава тады сястрычка некага капіравала, мо нават гэтую жанчыну.

Мо яшчэ і не скончыла гаварыць архітэктарка, як Мажарын зноў далікатна ўклініўся ў яе расказ:

— От за што варта вас пахваліць, дык гэта за індывідуальны праект дзіцячага сада-ясляў. Праект сапраўды арыгінальны, адпавядае сучасным патрабаванням, нават свой купальны басейн ёсць. Вера Мікітаўна, не ўвялі яшчэ ў строй?

— Канчаем аддзелачныя работы... Думаем, што праз месяц прымем маленькіх навасёлаў.

— Адступленняў ад праекта няма?

— Амаль што... Так — па дробязях.

— Ніякіх уступак будаўнікам! Я на вашым месцы зубамі з імі грызся б. Сярод будаўнікоў, асабліва сельскіх, яшчэ нямала інертных людзей. Прывыклі ўсё па-дзедаўску рабіць, страшацца выйсці за рамкі ардынарнасці. Шукаць трэба! Дзярзіць, калі не дзярзаць! Вялікая мэта патрабуе і намаганняў вялікіх...

Саша слухаў сакратара з захапленнем: шэсцьдзесят гадоў чалавеку, а столькі ў яго камсамольскага запалу, столькі энергіі! Хацелася і слухаць яго, і ісці за ім.

— Спазніліся мы, таварышы, на дзве гадзіны супраць раскладу,— звярнуўся Мажарын да «семінарыстаў».— Але ж вельмі комплекс спадабаўся, столькі цікавага на ім... Давайце спознімся яшчэ на трохі, але гэты дзіцячы сад усё-такі паглядзім. Наша будучыня! А нельга шкадаваць на будучыню часу, не заглядваць у яе. За мною!

Некаторыя «семінарысты» ўжо ласа паглядвалі на

дашчаны павільён з самаварамі на сталах, хацелі прагнаць смагу, але аддзяляцца і выдзяляцца было нязручна, і ўсе павалілі за сакратаром. Відаць было, што ён тут, у Навасёлках, свой чалавек. Не раз пабываў, ведае ўсе хады і выхады, дэталі забудовы, мае асабістае дачыненне да ўсяго, перахварэў за справу. І нібы ён сам выступае за гіда...

Саша з Лявошкам ішлі следам за «семінарыстамі», абодва нібы забылі, чаго сюды прыехалі. Ішлі за школу па дарожцы, выкладзенай цэментнымі плітамі сярод маладых пасадак. Ішлі да старога парку, дзе сярод пажаўцелых клёнаў і ліп віднеліся ружовыя карпусы дзіцячага сада-ясляў. Вялікая тэрыторыя дзіцячага сада была абнесена драцяным плотам-сеткаю, такія ж сетчатыя вароты і варотцы былі замкнутыя. Не прадугледжваўся, мабыць, планам семінара дэталёвы агляд-знаёмства з садам, і ніхто не паклапаціўся адчыніць. Вартаўніка шукаць не было калі.

Мажарын не доўга раздумваў. Здаецца, і рукамі добра не абапёрся аб верх плота-сеткі — раз! Скокнуў пярэмахам на той бок...

Пачуліся захопленыя выгукі, смех. Пажылыя і самавітыя дзядзькі раптам адчулі сябе гарэзамі-хлапчукамі — палезлі на плот штурмам. Жанчыну-архітэктара Мажарын лёгка пераставіў на другі бок плота.

— Смялей, таварышы! Плот невысокі, метр дваццаць! — падбадзёрваў Павел Мацвеевіч.

Адзін тоўсты і вялізны дзядзька засеў на плоце («Мо які акадэмік...» — сказаў са смехам Сашу Лявошка). Ён доўга прымяркоўваўся то адною, то другою нагою ўніз, каб намацаць якую апору, лацвей злезці. Але ячэйкі ў сетцы былі дробныя, ні абцас, ні насок туфля ніяк не маглі зачапіцца. Крахтаў, кешкаўся і пакуль ссунуўся на той бок, як сяннік, усе былі ўжо каля садзіка.

— Перашкоды на шляху да новага толькі і трэба браць пярэмахам, а не карабкацца і чапляцца за кожную ячэйку...— сказаў Лявошка.— Ты куды?! Не палезем, у нас часу няма,— асадзіў ён Сашаў імпэт, павярнуў назад.

Ішоў, грузна прыпадаючы на пратэз, пастукваючы палкаю аб пліты. Саша дагнаў яго, пайшоў побач. Бачыў збоку, як усміхаецца сам сабе дзядзька Косця: мусіць, ён усё яшчэ трымаў перад вачыма Мажарына

і яго фарсіраванне нечаканай перашкоды. А мо таго няўклюду-акадэміка, які надта ж ужо раздабрэў, бязвыезна седзячы за пісьмовым сталом.

Саша таксама ўсміхаўся: ён захапіўся Мажарыным з першага позірку.

## 5

Рыгор, голы да пояса, з чырвонымі ад крыві рукамі, канчаў разбіраць другога япрука. Праўда, якія там япручкі — ні сала добрага, ні мяса не паспела нарасці,— падсвінкі. Саша і Лявошка нават вачам сваім спачатку не паверылі. Не на рабоце чалавек, а дома, не на вуліцы, дзе сёння гэтак людна, а зашыўся ў сваю нару. І чым займаецца! А ніякіх жа свіней тут не паспеў нагадаваць, дый не было чым. І гэта ж не галаву трэба мець на плячах, а качан капусты, каб у такім веку і такіх няўкормленых парашыць. І калі! Яшчэ ж і халадоў добрых няма.

— Не глядзі на мяне так,— сказаў Рыгор, не падымаючы вачэй ад тушы. А от жа паспеў улавіць здзіўлены позірк Лявошкі.— Саўгасныя... Кажуць, камбікормам патруціліся, жыватом мучыліся — папрырэзвалі. Бралі саўгаснікі, хто хацеў,— па рублю кілаграм. А я так думаю, што проста свінаферму прыхарошвалі, пусцілі на распыл бракусоў... Баяліся, каб Мажарын туды не заглянуў... У Навасёлках, аказваецца, яшчэ і свінаферма ёсць — на ладан дыхае.

— Халадзільнік купіў? — спытаў Лявошка, не ступаючы ад парога глыбей у пакой. Хоць і так было добра відаць, што ніякага халадзільніка ў пакоі яшчэ няма. Былі толькі груваcткая, мо саракавых ці пяцідзесятых гадоў, жоўтая шафа, два старэнькія крэслы, канапа з драўлянай высокай спінкай з паўстаўлянымі ў спінку прамакутнымі люстэркамі, стол каля акна. Мэбля, якую хтосьці выкінуў з кватэры як непатрэбшчыну. Была і кароткая лаўка, на якой Рыгор разбіраў япручка.

— Няма халадзільніка... Нічога няма... Гэтую «небель» Гардзей з сарая падаставаў,— зноў нейкім чуццём улавіўшы дадатковае Лявошкава пытанне, сказаў Рыгор.— Так і жыву — з поўным камфортам... Хочаш сказаць — сапсуецца свініна? А я яе пасалю добра, пер атушу, залію тлушчам. Парасяцінка будзе — пры-

ма, зер гут. Нічога больш не прыдумаеш, каўбас няма з чаго рабіць. Вы пасядзіце трохі, я зараз памыю рукі, насмажым свежаніны, будзем абедаць.

Лявошка пракульгаў да стала, дзе было свабоднае крэсла, бо на другім стаяў таз, накладзены з копам вялізнымі кавалкамі свініны. Такім чынам Саша, які трохі прыхоўваўся за Лявошкаву спіну, апынуўся ўвесь навідавоку. Пакуль дзядзька Косця грукаў палкаю, паварочваючы лепш крэсла, Саша і чырванеў, і шарэў, уціснаў голаў у каўнер, ён ледзь стрымліваў сябе, каб адразу не абрушыць на бацькаву галаву грамы і маланкі. Ён ненавідзеў на гэты момант бацьку, чужога і страшнага чалавека, такога далёкага ад сям'і і дзяцей. Але яшчэ стрымліваўся, бо Лявошка пераступаў з нагі на нагу і кідаў на яго выразныя позіркі, папераджальна насупваў бровы. Урэшце клекатанне пары ў Сашавых грудзях зрабілася нясцерпнае.

— Ты... Ты!.. Я ненавіджу цябе!.. Ты нават не пытаеш!.. чаго мы!..— Саша заікаўся і задыхаўся, прыціскаў кулакі да грудзей, каб не так відаць было, як трасе яго нейкі калатун.

— Саша!..— хутка ступіў паміж імі Лявошка. А Саша ўжо застукаў у падстаўленыя Лявошкавы грудзі, а потым уткнуўся тварам, мочачы слязьмі пінжак. Лявошка абняў яго за плечы, цісnuў да сябе, каб хутчэй атушыць яго прыступ.— Маці там! У вар'яцкі дом запраторыў... А сам... рукі ў крыві! — тросся Саша.

Дзынкнуў аб падлогу кінуты нож.

— Гаварыце... чаго прыехалі і што там нарабілася... Які сумашэдшы дом?!

Калі паглядзелі на Рыгора, ён ужо сядзеў на крэсле, скрушліва ўгнуты, чырвоныя кісці звісалі з каленяў так, каб не запэцкаць штаноў.

— А ты н-не ведаеш... які дом?! Сам загнаў — і не ведаеш?! — Сашу зноў пачало трэсці, і Лявошка ледзь утрымліваў яго.

— Саша!.. Ну — прашу цябе... Зараз разбярэмся... Бач — ён нават не ведае нічога... А ты на яго...

— Я і сапраўды нічога не ведаю! Ні пра які дом, ні пра якую бальніцу! — Рыгор гаварыў цвёрда, відаць было, што душою не крывіў.— І нікуды я нікога не заганяў! Я выскачыў з гэтага суда... як абсмалены... Нават выпісак з рашэння ніякіх не ўзяў... Няма ў мяне яшчэ на руках ніякага дакумента аб разводзе!

— А Маня? Маня пры табе пайшла? — У голасе Лявошкі чулася надзея на нешта калі не добрае, то хоць на палёгку ў развязцы.

— Яна яшчэ засталася... Сядзела як каменная.

— У тым-то і справа, што не сядзела... Што ўсё і пачалося, як пасяджэнне скончылася... Обшчам, натварыла яна там дзялоў, «хуткую дапамогу» выклікалі... А што канкрэтна натварыла — не ведаем, не заязджалі ў суд... Карацей — у псіхіятрыі яна. Урач выклікаў на размову...

— Клянуся! Чым хочаш клянуся — нічога я не ведаў пра гэта! — Рыгор забыўся на брудную руку, прыклаў да лоба, нібы пазнаваў, ці ёсць у яго гарачка. Устаў і захадзіў туды-сюды, увесь час натыкаючыся на таз, ледзь не скідваючы яго з крэсла. Спрабаваў скласці рукі на грудзях, потым закінуў ззаду на крыж.

— А што ты ўвогуле знаў ці знаеш? — закрычаў зноў Саша.— Ты ніколі не цікавіўся, як мы жывем! Што ямо, у што апранаемся! Нарадзілі дзяцей, а цяпер — як хочаце, так і жывіце!

— Саша, ты таго... Ідзі ў калідорчык, спаласні твар. Рыгор, там, здаецца, ёсць у цябе вада? (Рыгор: «Есь...») А то такі жаніх — і слёзы, пацёкі слёз... А мы тут пагаворым трохі...— Лявошка злёгку падштурхнуў Сашу з пакоя. Нават дзверы за ім прычыніў шчыльней.

Павярнуўся да Рыгора, які ўсё яшчэ кідаўся па пакоі. Пастукаў палкаю па падлозе, а потым узважыў яе ў руцэ.

— Каб ты ведаў, як мне хочацца паламаць яе ў цябе на гарбе — аж рукі свярбяць! — Голас Лявошкі стаў суровы, без ніякай расслабінкі.

— Ну й дай, калі так ужо хочацца... таварыш партыйны правадыр... А што ад гэтага зменіцца? — Рыгор гаварыў з прыхаваным напружаннем, а скончыў з выклікам.— Што?! Выздаравее Маня? З'явіцца ў нас любоў ці хоць нейкая павага адно да аднаго?

— Любоў, любоў... Пашалелі ўсе ад гэтай любві...— Інтанацыя ў Лявошкі была такая, нібы зусім не Рыгору прызначаліся словы, не яго хацеў папракнуць — мо нават самога сябе, для сябе рабіў нейкія вывады.— Каханне, праўду кажаш, вялікую ролю мае... Можна сказаць, рухавік прагрэсу... Своеасаблівы... Але ж нельга ўсё і зводзіць да яго! Ёсць яшчэ сотні важных рэчаў, пра якія няварта забываць.

— Не кармі мяне прапіснымі ісцінамі, прапаведнік... Нябось у самога недзе шчыміць сэрца па сапраўдным каханні.

— Я не кармлю... Ты лепш адкажы, як жыць будзеш, з дзецьмі што рабіць меш.

— Прыдумаецца... Не прападуць.

— Да шасці гадзін вечара будзе вядома, урач казаў, што з Маняю рошаць... Ці тут лячыць будуць, ці ў Мінск у псіхіятрычную павязуць. Пазваніць трэба... А яшчэ лепш было б, каб ты пад'ехаў туды сам, пагаварыў з урачом. Усё-такі не чужая яна табе... І як мужу мо больш чаго скажуць...

— Былы муж. Былы!.. А пазваніць... пазваніць можна... От прыбяруся тут, паабедаем і пазвонім.

— Ну то прыбірайся... А мы тут... падыхаем трохі з Сашам, паходзім. Удушлівая ў цябе атмасфера.

— Акно трэба адчыніць. Забыў я пра акно...— Рыгор нейк дагодліва-мітусліва, што было неўласціва для яго росту і камплекцыі, забразгаў зашчапкамі. Адчыніў і выкрыкнуў у расчыненае акно: — Саша, скокні ў магазін, тут во, на плошчы, хлеба вазьмі. Капейкі ёсць у цябе?

— Знойдзем капейкі...— Лявошка, важка стукаючы, нібы мацаючы падлогу, пайшоў да дзвярэй.

## 6

Абедаць, есці парасяціну Саша катэгарычна адмовіўся: «Труцізну?!» Такі бацькаў аргумент, як «Дурань дурны!» пакінуў без увагі.

Хадзіў па ўтравелай і запушчанай палавіне садуагарода з дзвюма старымі, напалову ўсохлымі антонаўкамі, ссякаў дубчыкам галоўкі высокага, ледзь не ў пояс асоту, чакаў, калі наядуцца бацька з дзядзькам Косцем, калі пойдуць на пошту званіць. Хадзіць-бадзяцца, марнаваць час было проста нясцерпна.

І ўсё ж дыхаць Сашу зрабілася лягчэй. Было ясна, што знарок не памагаў бацька запратарваць маці ў бальніцу...

У хаце галасы то бубнелі прыглушана, то вырываўся напаверх бацькаў голас: «Што ты ўсё мяне павучаеш? Хто ты такі?!» І зноў — бу-бу-бу-бу... І зноў, ужо Лявошкаў: «Хочаш з печы ўпасці і не пабіцца?» — «Не пабіцца?! Ды на мне месца жывога няма! Адны сінякі!»

Калі надакучыла слухаць і ўсякае цярпенне скончылася, Саша зайшоў у кватэру, стаў з выклікам у парозе, не гаворачы нічога. І яны зразумелі яго без слоў, засабіраліся, заспяшаліся...

На плошчы было ўжо ціха і пуста, толькі каля дашчанага павільёна стаяла машына з будаю, і ў яе грузілі сталы і ўсё, што было на сталах...

Дазваніліся не скора, але дазваніліся.

Марыю Міхайлаўну Сухавей заўтра адпраўляюць у Мінск, у Рэспубліканскую псіхіятрычную бальніцу.

Выйшлі з пошты, і Лявошка пачаў гаварыць Рыгору штосьці не зусім зразумелае:

— Значыць, другі варыянт уступае ў сілу. Заўтра ж, у крайнім выпадку паслязаўтра, едзеш у Мінск. Усё, што трэба, праясняеш з Маняй... Заадно ў Бараўляны, к Дамашэўскаму заскочыш. Каб даў запіску да сакратара сельсавета. А пятнаццатага пойдзем глядзець, што ў тым пакеце.

— Да Гардзея будзеце заходзіць?

— Няма калі. Ехаць трэба...— Лявошка барзджэй падаў руку развітацца, каб зразу павярнуць у двор Гардзеевага дома, да машыны.

Механічна працягнуў руку і Саша і тузнуў, як апёкся, назад, першы павярнуў у двор. Ён ужо не бачыў і не чуў, як хмыкнуў бацька, як падцяў узлавана губы.

## Раздзел дзевяты

1 Марфе было не ўлежаць, не ўседзець. Саша прыехаў позна, расказаў, што ўведаў, пра маці, павячэраў і лёг спаць, адвярнуўся да сцяны. І скора ж заснуў — маладосць бярэ сваё.

А да яе сон не ішоў.

Абзываўся застарэлы радыкуліт. Удзень за работаю і клопатамі не было калі вельмі вохкаць, не было перад кім. А дзеці — што яны разумеюць? Вохкае баба! Дык на тое ж яна і бабка, каб вохкаць — і ні ўвагі, ні спагады. І вось цяпер, ноччу, калі ніхто не чуе, усе спяць, Марфа з асалодай вохкала сама сабе і трохі богу (сядзіць недзе там, на небе, і не шманае, а на зямлі робіцца абы-што). І трэба ж наслаць на людзей такую пранцаватую хваробу, нават «страляе» ў левую нагу. Да вялікага абвастрэння яшчэ далёка, проста

ные і нібы хто накручвае на кручок жылы, збіраецца віць з іх вяроўкі.

Трэба будзе повідну заглянуць да Аўдоткі. Яна раней кожны год мухаморы закопвала ў слоіках у зямлю, а месяцаў праз два выкопвала, злівала ў бутэлькі чорную, што дзёгаць, жыжу. Давала яе людзям ад раматусу і радыкуліту, каб націралі балючыя месцы. І Марфе раз давала, даўно ўжо, і добра тады памаглося...

Марфа трэ каравымі рукамі ўсохлае сцягно, потым укручвае яго старым шарсцяным зімовым шалікам — не то Рыгоравым, не то Сашавым (даўно ўжо яго ніхто не носіць). Мо зябканазе, мо сагрэецца і парастане ныць?

А горш за радыкуліт ные, скавыча душа — па няшчаснай долі дачкі, па сваёй няшчаснай долі. У людзей усё па-людску, і старыя дажываюць свайго веку спакойна, цешацца з унукаў. Але ж толькі цешацца, толькі забаўляюцца з імі — патрохі, колькі ахвота. А тут жа дзень і ноч, без адхлання. Каб не такі ліхі зяць трапіўся, не Рыгор, то мо і ў іх усё было б па-людску? Сям'ю кінуў, з другою зблытаўся, Вольцы чэрава зрабіў... Што кінуў, то ўжо д'ябал з ім, парвалася — не сточыш. Усе дні, якія жыў у хаце пасля таго разбірання ў праўленні, хадзіў, як ваўкалака, пужаў і яе, і дзяцей. Гора, нічога не папішаш, але ж і гэтае гора было б горачкам, каб усё добра абышлося з Маняю. А калі ж — не? Во ўжо дзе гора будзе, невымернае, без канца і краю...

«Няшчасная Маня, няшчасная я... Няшчасныя дзеці... Той кінуў-рынуў усё, гэтая захварэла — а што мне рабіць з такою прорваю дзяцей? Я ж не дзевяціручка... З якога калодзежа сілу і здароўе чэрпаць? Дзякуй богу — восьмы дзесятак, і аджыла сваё, і адрабіла, магу ў любы секунд богу душу аддаць. А што? Хай добра ўднее — лягу на лаве і рукі складу... На вачах людзей памру, мо хоць тады ў таго ваўкалака сэрца зварухнецца...»

«А калі не адумаецца ён ці не скора адумаецца, то як дзеці будуць, з кім? Хто іх падгадуе? І куды глядзіць дзяржава, чаму не прышчэмвае хваста такім летунам? Або старшыня... І адзін, і другі... Дамашэўскі то хоць у бальніцы качаецца. А другі, Дзеньдобры? Здаровы, як вол... Але яму, блазну старому, свае лю-

бошчы ў галаве, хіба зможа чужога каго ў строгасці трымаць? Хіба Маня горшая з усіх даярак, каб не падбаць і пра яе, і пра сям'ю? Калі ты пастаўлены ад вобшчаства над усімі, то і спаўняй усё так, як людзям трэба...»

Мо на волас замгнула пад раніцу Марфа, ды скора зноў прахапілася. Няма ж калі вылежвацца, мо ўдзень прыкархне, калі парасправуляе дзяцей у школу.

Падаіла і выгнала пастуху-радоўшчыку карову. А ў печы не паліла, нічога не варыла. Паспее яшчэ... Трэба хутчэй злётаць да Дзеньдобрага... Можа, ён і не ведае, што такога нарабілася з Маняю? Дык хай уведае, хай параіць што, мо якую помач можна выпатрабаваць. Сам пусціў Рыгора, хай сам і сыcквае назад да дзяцей. А ў яе няма ні здароўя, ні сродкаў, каб гадаваць іх. Колькі тае пенсіі, сюд-туд, ды ўся. Пастуха каб наняць на дзень, дык і то пяцёркай не ўмыешся...

Прымерала пад паху драўляную качаргу — на выслізганым тронку абгарэлая папярэчынка, а ўсё разам вельмі нагадвае рыбацкі боўт. Вытанчыліся кончыкі папярэчкі, узяліся вугалем. «Нц... Высакавата трошкі...» — пажалкавала яна. З-пад лавы, з-за чыгуноў і каўша, выграбла заржавелую нажоўку, сто гадоў ёю ніхто не карыстаўся. Яшчэ раз прымерала качаргу, паклала тронкам на табурэтку і адпілавала з канца пядзі на дзве (прапала кароўка, прападай і вяроўка!). Адрэзалася няроўна, як адгрызлася, нават вышчамілася трохі, і давялося нажом падраўноўваць... (Захапілася качаргою, і не бачыла, што Саша ўжо не спіць, а ляжыць, утаропіўшы вочы ў размаляваную рудымі падцёкамі столь, і нават не зміргне, маўчыць і маўчыць.) Абгарэлую папярэчынку і тронак каля яе абцерла мокраю анучаю, а потым самую папярэчынку тоўста ўхутала, угарнула ў другую, краі прыхапіла ніткаю, каб не целяпаліся, і ўжо смялей, не баючыся ўрабіцца ў попел і вугаль, прымерала качаргу пад паху — ці добрая атрымалася мыліца? (У гэты час Саша павярнуў галаву на хату і ў непаразуменні глядзеў на яе штукарствы.) Прайшлася з мыліцаю па хаце...

— Баба, нашто гэта?! — пачула Сашаў голас і ўздрыгнула, адразу закульгала мацней, завохкала.

— Не магу хадзіць... Не магу сагнуцца... Нагу адбірае і круціць — спасу няма... Каб дзе ў гразь не забурыцца...— Марфа пачакала, мо што яшчэ папытае

ці скажа Саша, але ён зноў пачаў таропіцца ў столь. І тады сама сказала больш: — Я скора прыйду, да старшыні сцягаюся... Калі табе некалі, то ёсць і раняшняе малако, і вячэрняе, можаш снедаць... А тварог у місачцы на паліцы. А мо не пойдзеш сёння ў поле?

— Трэба... Апошні дзень! — Саша рыўком сеў на ложку, быццам прыняў для сябе нейкае рашэнне, махнуў ногі на падлогу, пачаў хутка засцілаць пасцель.

Пакульгала Марфа з хаты, ментам махнулася цераз двор, а па вуліцы то ішла спакваля, наровячыся і моцна кульгаючы, каб людзі бачылі яе нямогласць, то адштурхоўваючыся качаргою, як лыжнаю палкаю: раз-два, раз-два — і штурхець, чатыры крокі — штурхець. Нават зусім была забылася, што трэба кульгаць, схапіла качаргу ў руку, каб не замінала, прамчала трохі ўподбежку, а ўспомніла пра сваю хваробу і спужалася — што людзі падумаюць? — зноў старанна закульгала. «Дам пытлю старшыні... Я ім не Маня, што баіцца рот разявіць...»

І добра, што спяшалася, каб якая крыха — спазнілася б. Ужо стаяла каля ганка старшынёва машына з брызентавым верхам, а шафёр Пецяхадзіў каля яе, лянотна пакурваў і пакалупваў у зубах, сяды-тады стукаў нагою па колах.

— О, добрага ранку, Марфа Сідараўна! — У яго голасе чулася сяброўская прыязь.— Вы хіба нюхам пачулі? А я толькі збіраўся падскочыць да вас... Грошы вам, дапамогу выпісалі. Лавіце касірку, у яе павінен быць энзэ, а то зараз у банк паедзем, у горад...

— А ці старшыня тут?

— У сябе. Але таксама ото паедзе. На пленум...

Марфа адштурхнулася качаргою, сiганула адразу цераз дзве прыступкі.

У бухгалтэрыі, дробненька накульгваючы, патупала да акенца касы ў закавулку. Дзяўчаты пакасіліся на яе дзіўную мыліцу і спынілі, паказалі на старшынёвы дзверы: там і касірка, і Дзеньдобры.

«Ага-га, абаіх мне і трэба...» — патупала да тых дзвярэй, тузанула. А зачыняла іх знутры ўжо, то пацягнула паветрам, дзверы ляснулі, і ад гэтага ляску ўсе думкі ў галаве распырхнуліся, як і не начавалі там. А мо ад таго, што хоць і ранні час, а ў старшыні было завозна? І Сташэвіч, і Загаецкі, і касірка, і Жора Будай, і Каляда-брыгадзір. Касірка першая вылузалася

ад стала Дзеньдобрага са жмукам папер, астатнія ж падступіліся яшчэ бліжэй. Касірка натыкнулася на Марфу, узяла яе за локаць, але абедзвюм трэба было адступіць ад дзвярэй, бо зайшла яшчэ і Жухалава.

— О, баба, хадзем са мною... Я вам трохі грошай дам, а пасля абеду падыдзеце, то і Манін заробак за паўмесяца аддамо...— І пакуль Марфа, хуценька прайшоўшы за ёю і падбіраючы мыліцу, каб дзе не ўчапіцца, уткнулася ў акенца касы і доўга цэлілася трымцячаю ручкай, каб паставіць колькі літар роспісу, касірка лічыла трохрублёўкі і гаварыла: — Адна дробязь у касе засталася... Распісаліся? Але нічога, і гэта грошы... Як вы там цяпер гаруеце? Гэта ж такога нарабілася... Распісаліся? Во, лічыце — пяцьдзесят рублёў, шаснаццаць траячак і дзве рублёўкі...

І Марфе не было калі што расказаць ёй, хоць, відаць, і спагадлівая жанчына, дый адвярнулася тая да жалезнай шафаўкі, зазваніла ключамі. Падзякавала і, дзівячыся, што ні з таго ні з сяго звалілася на галаву столькі грошай, зноў заспяшалася, каб засцігнуць старшыню на месцы.

Не вельмі і парадзела каля стала Дзеньдобрага, і гаманы не паменшала. І Марфа цярпліва тапталася каля дзвярэй, не падыходзячы гэтак блізка, як астатнія, а толькі старалася, як расхіляліся трохі людзі і з'яўлялася прадухавіна, трапіць на старшынёвы вочы. І заўважыў яе старшыня, сам пачаў распытваць, як там Маня (тым часам не пераставаў падпісваць нейкія паперкі), і калі пачуў, што адпраўляюць у Мінск, пачаў суцяшаць:

— Ну й правільна... У Мінску, ведаеце, якія ўрачы? Ураз на ногі паставяць... Падлечаць, падрамантуюць — усім нам трэба рамонт, прафілактыка... Вернуць дзецям маці, вернуць у калгас добрую даярку... Справа наладзіцца... У вайну горш было, і то перажылі... Вы грошы палучылі? Ну во... Там яшчэ мясцком паглядзіць, як вам памагчы. У вас, па-мойму, ёсць малышка садзікавага ўзросту? Ну во... Сёння ж можаце весці яе ў садзік, там і дogляд, і ўсё, што трэба... Ці мо ўжо водзіце, а я не ведаю? Не? То вядзіце смела... А большыя ўжо школьнікі, людзі самастойныя... Імі толькі пакіраваць разумна, то яны самі сябе абслужаць. Во, Каляда яшчэ хацеў з вамі... Костусь! — акнікнуў яго старшыня і кіўком паказаў на яе.

«Не даюць самой і рота разявіць...— не то задаволена, не то з крыўдаю падумала Марфа, але паслухала Каляду, калі ён павёў яе да крэслаў каля глухой сцяны.— А што з мыліцаю хаджу, з качаргою, то быдта і не бачаць...»

— Як у вас з дрыўмі, Марфа Сідараўна,— адразу спытаў брыгадзір,— з торфам?

— Дзе тыя дровы? На распал трохі леташніх ухавала... А то вярбу звалілі старую, паўагарода глушыла, дык німа каму апрыходаваць, так і згніе... Трэба, усё трэба,— і дровы, і брыкет... Мухі скора белыя залётаюць, а ў нас ні цурынкі... Усё як на згубу ідзе, як на звод. Божа міласэрны, і за што такая кара?! — Яна трохі паплакала, бо ведала, што гэта нікольні не зашкодзіць справе, а наадварот.— А я ж такая немагушчая стала, прастрэл замучыў... Ногі аднімаюцца...

— Бываюць цяжкасці, дзе іх няма? Але трэба справацца... От брыкету прывязем, дроў... Страха ўжо не цячэ?

— Не, страха — не... Толькі от пабяліць усё не збяруся, паплеснела ўсё, як у паграбе.

— Ну от бачыце, патроху ўсё наладзіцца... А з нагамі... Мо Каменскага падаслаць? Я ў тым баку скора буду, папрашу заглянуць. Націрання мо якога дасць... Нам, старым, Марфа Сідараўна, ніяк яшчэ нельга са строю выходзіць. Яшчэ многае на нас трымаецца.

— Які ты стары? От дажыві да маіх гадоў...— ужо зусім лагодна прагаварыла Марфа.

— На памінках жа Рыгор будзе, з ім таксама пагаворым — як ён і што думае. Мо ўгаворым вярнуцца...

— Вярнуцца?! — не на жарты перапалохалася Марфа.— Без Мані ж ён мяне зусім са свету зжыве! Або выганіць! На яго ж хата запісана... І Вольку прывядзе!

— Не выганіць. Вы ж яму дзяцей гадуеце... Дый якая яго хата, такая і ваша.

— З мае хаты сенцы скіданы... Дурная, далася, каб разбурыў, мела б свой куток! А хату ж ён купіў некалі...

— І ўсе ведаюць гэта — значыць, ніяк не можа выгнаць. Жывіце спакойна, калі што — калгас заступіцца.

І пакінуў Каляда яе сядзець, а сам зноў да старшыні.

«Жывіце спакойна... Жывіце спакойна...» — чаўплося ў Марфінай галаве, і старую ўсё больш разбіраў неспакой. Чаго яе няшчасце прыперла сюды? Хай бы ішло ўсё, як ідзе... Нашто падспешваць падзеі? А калі, і праўда вернецца Рыгор, як жа будзе ўжыць з ім? Калі будуць дзеці з ёю — за дзяцей можна хавацца. А калі не пакіне дзяцей? «Голенькая, як бізун, перад ім буду... Не ўседжу ў хаце!»

Патузалася, патузалася Марфа на крэсле і, хоць мерылася ад Дзеньдобрага таксама пачуць яшчэ нейкія добрыя словы, рыўком устала і патупала за дзверы.

«Хай іншым разам... Хай...»

Пад якою ж гэта рукою яна трымала мыліцу? Не галава — рэшата...

## 2

Аляксана не раз і не два кляла сябе з апошніх слоў: ну нашто ёй быў той кашалёк-раскладанка? «Што рабіць цяпер з гэтымі пісьмамі і картачкамі? Іх жа не так сабе хаваў ад усіх Іван Іванавіч...»

«От жа патайны чалавек... Ніхто не ведаў, што Ясь такі патайны... І якую сіламоц трэба мець, каб вытрываць столькі гадоў, ухавацца з гэтаю тайнаю... Во чалавек, во крэмень характар... Усе такім прыстойным яго лічылі... Ды ён і быў прыстойны! Аўтарыцет па ўсём сяле і ў рукаводстве... А нашто ж мне выварочваць на свет яго брудную бялізну? Хай і застанецца парадашны... І так усякай брахні хапае, а скажу, то зусім спляжаць... І мяне...»

«Спаліць мо і пісьмы гэтыя, і картачкі? Дальбог! І ўсё па ўсім... А запіску пра завяшчанне пакінуць. Запіску паказаць трэба — хоць Лявошку спачатку... Што ён скажа... А што ён скажа? Там жа напісана: От ускрыць завяшчанне, як усе дзеці будуць у зборы. От ён і скажа — чакайма ўсіх дзяцей, прыедуць жа на шасціны...»

«А калі ўскрыюць, а там — усё Ружы Язвіцкай... ці Аляксандру Іванавічу Язвіцкаму? Усе грошыкі з кніжкі — ім, усё дабро — ім... Во ўдар будзе, як доўбняй па галаве... Ускруціцца Рыгор: хто такая, хто такі?! І тут я бах на стол і картачкі, і пісьмы. Чытайце, любуйцеся!»

«Хаця — не-е... Не такі Іван Іванавіч. Няўжо яму

той байструк даражэй за астатніх дзяцей? Дочка, тры сыны... А мо ў завяшчанні не толькі Язвіцкая, мо яшчэ хто? У кожнага мужчыны душа — пацёмкі, ніколі бабы іх таямніц не будуць ведаць... А мо і не трэба ведаць? Спакайней будзе жыцца...»

«Ну але! Калі не будзе пісем і картачак... зусім учэрняць Івана Іванавіча. Скажуць — нейкай прасці гаспадзі, з-за свету, адпісаў усё... Не-не, не трэба паліць...»

Не вытрымлівала Аляксана, не раз садзілася перачытваць тыя пісьмы, амаль на памяць пазавучвала. Яшчэ і яшчэ раз пераконвалася: нічога «непарадашнага» нельга пра тую Ружу-кветку сказаць. Не каханне, а дзіва-дзіўнае, быццам нейкі ўгавор быў: пажыць як муж і жонка, пакуль не завяжацца завязь, і бывай здаровы, ідзі, салдат, ваяваць...

Міналі дні, і Аляксана ўрэшце рашылася. Ішоў раз дваром, пакінуўшы машыну, Лявошка, паклікала ў кухню, паказала запіску. Чакала, што пачне чухаць патыліцу, а ён толькі мармытнуў: «Ну што ж, усё — нармальна... Збяруцца — сходзяць у сельсавет». Не вытрымала Аляксана:

— Дык я ж ужо была там, Косця! У сакратаркі... А яна мне і рапартуе: «Не аддам ніякіх папер кацегарычаскі... Дамашэўскі для мяне больш закон, чым усе законы...» То я кажу: а як напіску напіша, распарадзіцца аддаць, тады аддасі? Тады, кажа аддам...

— Трэба запіска — будзе запіска. Важнасць! — прагаварыў Лявошка стомлена — і да дзвярэй.

Не спыніла яго, не сказала пра пісьмы і картачкі. Нейкія халоднасць і насцярожанасць чуліся ў Лявошкавых словах. І яшчэ: жаданне ні ў што не ўмешвацца, быць у баку ад гэтых спадчынных перапалак. Каб на яго месцы Гардзей быў — асмелілася б, сказала і паказала. І той, пэўна ж, параіў бы ўсё знішчыць і нікому не гаварыць... ці другое што разумнае... А пакажы Лявошку, возьме скажа: «Ну што ж — збяруцца ўсе, ім і аддайце». І ўмые рукі, быццам не муж ён Настасе, а Настаса не дачка Ясю.

Ды Лявошка — што... Ён, можна сказаць, роўна трымаецца з ёю. А от Настаса... Ого штучка, Настаса! Здаецца б, з'ела і костачак не выплюнула. Пасля здарэння з тым вуллем воўкам глядзіць. Як быццам ёсць нейкая Аляксаніна віна ў тым выпадку... І віжуе, ві-

жуе, за кожным крокам сочыць... Зайшла, прыцемкам ужо,— каб паставіць той вулей на месца (думала, падолее гэта зрабіць), глядзіць, а ён ужо на падвалінках, на месцы. Яшчэ і пастаяла каля яго, гайданула — ці моцна хтось паставіў, пералічыла вуллі — дзесяць, усе, дзякуй богу. Павярнулася ісці... Грук! — Настасіна веранда. Паспела скмеціць: Настаса схавалася.

І кожны раз, варта выйсці ў агарод, то і яна выскоквае чаго-небудзь, калі дома якраз. Мо сочыць, каб не пакрала чаго з іхніх градак. І толечкі ўбачыць, што спыніўся каля яе Віцька, як ужо крык і скандал, гоніць дадому...

Як адмовілася ад кароўніка, часу стала многа. А за Настасіным домам прысядзібны ўчастак дзяліўся прадольнаю разораю на два загоны. На абодвух расла бульба, левы загон быў Ясеў, гэта значыць і яе. Астатняя зямля, «соткі», таксама з бульбай, былі не пры доме. І Аляксана, раней мо, чым хто, пачала капаць бульбу ў агародзе. А за дзень перад тым агледзела і вычысціла бетанаваны склеп за хлявом — вялікі, хоць танцы гуляй (усё лета дзверы ў ім былі нахлашч — прасыхаў), выцягнула, прасмаліла на сонцы, прасушыла дошкі ад засекаў. Рабіла ўсё дыхтоўна, як у сваім склепе, як для сябе. І калі выкапала ладны, мо з сотку ці паўтары, кавалак, назбірала два кашы падсохлай бульбы, паставіла ў каляску і пафуравала пад склеп. Не паверыла спачатку сваім вачам: на дзвярах вісеў вялізны, як падняць, замок. Адкуль ён узяўся і калі? Ці ў гэты ж дзень, як пачала капаць, ці ўчора звечара, як укінула ў пограб прасушаныя дошкі? Хто яго павесіў — Лявошка ці Настаса? «Гэта ж трэба — паперла на агарод і нават не зірнула на пограб...»

Прайшла да веранды Настасінага дома, патузала за ручку, націскаючы з усёй сілы. Зачынена на нутраны замок... «Няма нікога дома? А мо знутры зачыніліся?»

Села на прыступку... Што ж цяпер рабіць? Ісці капаць больш ці пазбіраць толькі тую, накапаную,— і ўсё? А куды ж яе дзець, накапаную, не ў сенцы ж вазіць, не ў капец засыпаць? У капец загортваюць толькі тую, што хочуць прыхаваць да вясны. Дый салома ж трэба... Ісці да Лявошкі ў свіран, скандаліць, адваёўваць склеп? І ў суд ніхто не падае, каб аспрэчыць што з гаспадаркі, а самахоццю забіраюць, што пада-

баецца. І гаспадыня ж калгаснага двара і ўсяго, чым гэты двор валодае,— яна. Яна!.. Так і юрыст у кансультацыі казаў...

«Божа, як млосна... не вытрываць... Як жа далей жыць? Ваяваць кожны дзень? Але ж і папусціся, то зусім са свету зжыве... І нашто Ясь пакінуў старую хату на старым котлішчы? Чаму не вынес дзе за сяло? От жа дзетачкі, от жа дачушка...»

Чым больш сядзела Аляксана, тым больш пераконвалася, што не Лявошка вытварыў такое. «Ён сазнацельны... Ён разумнейшы і старэйшы за яе... І ён жа парцейны, ён жа кіруе па парцейнай лініі...». І яшчэ трохі падумала пра яго, прыпомніла, якім выглядаў ён апошнія дні, як паводзіў сябе, калі клікала паказаць запіску, і хітала сама сабе галавою: нелады ў Лявошкі з Настасаю... Дальбог, нелады. Часам і моцная гамана з дому вылятае, і спрэчкі-сваркі. Усё выхоўвае Настасу Лявошка, а яна, мабыць, не паддаецца. «То я вам паддам гаманы... Паддам!.. Не ўзрадуецца Настаса!»

Рашуча пайшла да каляскі, выхапіла кош (са злосці нават здаўся ён лёгкі), адступіла ад дзвярэй склепа крокаў тры і вывернула бульбу пад ногі. Збоку ад яго, у другую кучку,— кош дробнае. От так і будзе сыпаць ледзь не на самым праездзе-праходзе, хай спатыкаюцца. Лявошка папытае Настасу, чаму такое дзеецца..

Пакуль ісці карову даіць, яна сабрала ўсю накапаную, падсохлую, і яшчэ ледзь не сотку вывернула, раскінула ўраструс. Ведала, што трохі і папсуюць куры, паклююць і тут, і ў тых кучах каля склепа, але пакінула паляжаць. Хай памазоляць картоплі вочы! Хай!

І пасля абеду капала і збірала, звозіла да склепа з нейкай зацятасцю і адчайнасцю. Пакінула гэтак бульбу і начаваць, а раніцаю крыху прыкрыла цяўнікам і мяшкамі, каб не зелянела ад сонца, і зноў капала, збірала, звозіла, нагрувашчвала кучы...

Вечарам другога дня, ухадзіўшыся па гаспадарцы, нават памарудзіла крыху на двары, а каб не кідалася ў вочы яе гультайнічанне, падгрэбла двор, укінула ў хлеў смецце. І з асалодаю слухала скандал у Настасіным доме. Потым выйшла нават на вуліцу, на лавачку, чаго даўно ўжо, з часу смерці Яся, не рабіла, і з задавальненнем прыслухоўвалася. Нішто «гамана» ў Лявошкі, і на вуліцы чуваць.

Раніцаю, ідучы з кашамі і рыдлёўкаю ў картоплі, убачыла, што склеп адчынены насцеж, як і раней. Не спынілася прыбіраць кучы, толькі параскрывала іх, каб падсохлі ад расы, і ўсміхнулася сама сабе: «Га-а, во як табе... Яна думала, сварыцца буду з ёю, крычаць... І каб было за што?! Зайздра гэтая... Склеп, як стадола, хопіць месца і мне, і вам. Разгарадзіць толькі трэба — і калі ласка... Вядома, гэта не тое, што сама сабе гаспадыня. Але ж можна нейк памергавацца...» Так яна і Лявошку сказала, пераняўшы з работы, і той памаўчаў, падзёўб палкаю зямлю. А потым згадзіўся, што так яно будзе лепш і скарэй, чым распачынацца яму зараз будаваць новы склеп. Хай ужо будзе гэтую зіму так, як Аляксана кажа, а на тое лета нешта прыдумаецца.

Аляксана нават перагароджваць памагала пограб. Толькі перагарадзілі не проста на два засекі, а паставілі яшчэ асобныя дашчаныя дзверы ў кожную палавіну, са сваімі замочкамі — ці не Настаса так пакамандавала? А перад гэтымі дзвюма дзвярыма выгарадзілася нібы прылазенька — нейтральная камора. Тут паставяць на зіму бочкі ці цабры з капустаю.

Вядома, пры такіх адносінах не чакала Аляксана ніякай дапамогі ад Настасы. Усё на сябе ўзяла, усё сама рабіла, каб падрыхтавацца да шасцін як след...

3 І засталася б без рук, без ног, каб не прыехалі пятнаццатага, яшчэ і паўдня не было, Гардзей з Ларысаю. Той ледзь паставіў каля варот машыну і ўвалок у хату сумкі, як адразу спытаў: «Дзе прарыў, на які фронт кідацца?» Раней за Аляксану паспела сказаць Ларыса: «Спаласні хоць рукі!» — а сама тут жа распакавала сумкі (і атрымалася, нібы выхваляецца прывезенымі дарамі) — выставіла на стол два двухлітровыя слоікі з жоўтымі марынаванымі баравічкамі, з другое — не меншы слоік перакручаных з цукрам журавін — на кісель бабкам, здаравушчае палена варанае гарадское каўбасы і маянэз на мясны салат, кавал — кілаграм, не менш! — «бачка сяўругі» халоднага капчэння, слоікі зялёнага гарошку. Аляксана паглядзела моўчкі і не стрывала:

— Ой, нашто ж было так траціцца... Гэта ж вельмі дарагая рыба, я ведаю...

— Дарагая, але і такое не дастаць. У рэстаране ў Мінску знаёмая працуе, разам інстытут канчалі. Дзякуй ёй — памагла...

— То вы спецыяльна з-за гэтага ў Мінск ездзілі?

— Не спецыяльна... Былі справы...— Ларыса нічога не сказала пра Сяргея і нявестку, змоўчаў і Гардзей.

— То Рыгор, значыць, не...— рупіла Аляксане.

— Не прывезлі. А мы і думалі захапіць... Падрулілі, пытаем у суседа... А Грыша, аказваецца, у Мінск катануў. Паехаў, а нам ні слова — чаго і што.

— То хіба вам Лявошка і Саша нічога не расказалі? Яны ж былі ў вас!

— Не-а...— у Ларысы і Гардзея выцягнуліся твары.

— А, божа... Дык жа з Маняю бяда! — паспяшалася Аляксана расказаць.— Трапіў Рыгор у такі нерат, такі нерат. Ай-ей-ей, гэта ж мала нам усякай чарнаты, дык яшчэ і гэта...— Яна не аддзяліла сябе ад Сухавеяў, ад гэтага няшчасця з Маняю, і Гардзею спадабаліся яе паводзіны.

Ён круціў мяса на фарш, супіў бровы ў роздуме і слухаў, пра што яшчэ гавораць жанчыны. Потым, пакуль варыліся бульба і яйкі на салат, лупіў, плачучы, цыбулю, крышыў кубікамі каўбасу і гуркі, ускрываў слоікі з гарошкам. І яму напраўду было горка, без цыбулі: як намагчы брату ў сітуацыі? Што рабіць самому Рыгору?

Потым Аляксана сказала тое, што ад Лявошкі пачула: павінен Рыгор сённячы прыехаць з Мінска. І «напіску» прывязе ад Дамашэўскага, і пра Маню ўсё выведае. Якую «напіску»? Ды як жа ж, як жа ж... Ёсць завяшчанне ў сельсавеце, а без паперы ад старшыні сакратарка, казала, не пакажа пакета.

Пры гэтым паведамленні Гардзей паглядзеў на Ларысу, а Ларыса на Гардзея.

— Значыць, завяшчанне ўсё-такі ёсць...— не так папытаў, як адказаў на задаўненыя свае думкі Гардзей.— Значыць, ёсць! — яшчэ раз паўтарыў, больш цвёрда.— Нечага начудзіў стары... Бо ў сяле мала каму прыходзіць у галаў, каб завяшчанне пісаць.

— Ёсць, ёсць... Ёсць, Гардзей Іванавіч.— І з гэтымі словамі Аляксана мезенчыкам аднае рукі прыпаднята цырату, мезенчыкам другое тузнула на сябе кацёлку шуфляды стала і гэтак жа мезенцам (рукі мок-

рыя) падчапіла Ясеву запіску.— Вось... Указанне пакінуў...

Пакуль Гардзей чытаў запіску то сам сабе, то ўголас, каб і Ларыса чула, Аляксана маўчала і прыкідвала, як лепш аб'явіць пра пісьмы Язвіцкай. Каб не атрымалася так, нібы яна казыры выкідвае ў картачнай гульні. Дачакалася, калі Гардзей кіне запіску ў шуфляду і грукне далоняй, заганяючы яе на месца, сказала з уздыхам:

— У кашальку ў тым знайшла... Недарэмна мы з бумажнікам важдаліся... Я цябе, Гардзейка, больш за ўсіх Ясевых дзяцей паважаю. Самастаяцельны ты... От...— павагалася трохі.— Але буду казаць і пры Ларысе, свой чалавек і яна. Я ж яшчэ папер назнаходзіла ў кашальку. Пісем... Замучылася з імі, хацела спалатку папаліць. Рашай, Гардзейка, ты старэйшы...— І яна выцерла рукі аб фартух, пайшла ў сенцы, пагрукала куфрам, тут жа вярнулася.— Вот... Чытай і кажы, што з імі рабіць...— Паклала на стол, дзе было незанятае месцейка, разбухлы, як плякатая падушка, канверт (усе паперы былі сапханы ўмесца), і коратка патлумачыла, што гэта за пісьмы і ад каго.

На работу забылі. Разбіралі, што напісана ў пісьмах, тлумачылі адно аднаму незразумелыя словы, разглядалі картачкі і подпісы на іх.

— От... Я ж кажу — замучылася з імі... Мо лепш, каб пра іх больш ніхто не ведаў? — нібы падштурхоўвала Гардзея і Ларысу да рашучага выказвання.

Але Гардзей толькі паспеў сказаць: «Нашто ж паліць?», як у сенцах загрукала, паволі адчыніліся дзверы і цераз парог ступіла, скасабочыўшы сябе на качарзе, Марфа. І зразу запрыказвала, заплакала:

— Гардзейка, я прачула, што вы прыехалі... Што ж нам рабіць цяпер, куды дзе-ецца? А дачухна-а ж мая, няшчасніца-а-а... А ўнучкі-і ж мае... А як ж я вас дагледжу, сама така-ая хворая-я-я!.. А таму рыштанюгу і не ў галаве-е-е... Сабакам сена косіць...

«От так, народны засядацель... Усе да цябе, усім параду дай, паратунак. А ў мяне ж звычайная галава, а не Савет Міністраў...— пакутліва ўздыхаў Гардзей.— Усе — да мяне, а от мне — да каго?»

— Марфа Сідараўна, рана панікаваць. Усё наладзіцца... От Рыгор прыедзе, раскажа, як там... У Мінску ж урачы не то што... як тут...

— Гардзейка, ты ж за бацьку цяпер, пагавары з Рыгорам... Яна ж мо матка яго дзецям... Яна ж... Яны ж...— І нічога больш не сказала з-за слёз Марфа, надломлена ўгнулася і нібы вывалілася ў сенцы.

А потым на двары пачуўся трэск-рохканне матацыкла. Ларыса была бліжэй да акна, атрэпнула рукі ад фаршу — ляпіла катлеты — вызірнула і аб'явіла:

— Піліпаўна, Лёня твой прыехаў... З дзядзькам Пятром... Зосю хіба дома пакінулі?

— Мо захварэла? — Аляксана, схаваўшыся за занавеску каля печы, «хімічыла»: разлівала з біклагі ў бутэлькі самагонку, і рэзкі сівушны пах разлятаўся па кухні.

«Недзе ж расстаралася... Заказала некаму выгнаць... На гарэлцы сэканоміць хоча...» — думаў Гардзей. Ён так і не змог выказацца пра пісьмы і картачкі, што з імі рабіць, укінуў і іх у шуфляду. Ды нават рады быў, што так усё ідзе: не меў чаго сказаць. «Нарадзіў стары... Што начудзіў, то начудзіў...» — толькі і вярзлося ў галаве.

Пятрок зайшоў у хату, не здзіраючы з галавы чырвонага круглага шлема-каскі.

— Ці не тут у касманаўты запісваюць? Дзень добры...

— Тут, Пётр Іванавіч, тут,— падтрымаў яго тон Гардзей.— Праходзьце, зараз мы вас у цэнтрыфугу засунем, пракруцім — ці годныя?

— Ў-га... Мяне ўжо як ні круці, ніякага клёку не выціснеш... Выпетраў, як гарохавая лапатка. А от каб яе...— стары паляпаў Аляксане па крыжы,— во соку было б!

— А хай вас...— Адкінула з сябе Пятрову руку і зноў схавалася за занавеску Аляксана.

— Да-а-а, ну й сукін кот твой Лёня. Дзіва што тая Грыпа некалі ні стаць, ні сесці не магла... як на вяселле прыязджала... Думаў, што адарвуся і ў космас палячу. Гардзей, ты от мне скажы, нашто такія скорасці? Куды мы познімся? Бог чалавеку сваю скорасць даў. Чалавечая скорасць — ногі, і то не бягом бегчы, а павольна хадзіць, ступою. Тады чалавек — чалавек, не забывае пра галаву на плячах. Ду-у-умае! — Стары высунуў нагою з-пад прыпечка малы заслончык, прысеў, пачаў расшпільваць каску.— А пры такой матацыклетнай скорасці хіба падумаеш? Хіба ты чалавек?

Мяшок касцей, прыдатак тэхнікі... Трасе яна яго, як хоча, скора зусім душу вытрасе, мазгі паперавараочвае...

— Дзядзька! — моцна, як глухому, прагаварыў Гардзей.— Не задавальняюць чалавека старыя скорасці! З такімі скорасцямі далёка не заедзеш! Самалёты па некалькі тысяч кіламетраў у гадзіну робяць, а ракеты — увогуле... І першую касмічную могуць, і другую — ад зямлі адрываюцца, на другія планеты ляцяць.

— Ракеты... Усё на скрут галавы, на пагібель... Узяць атам той самы ці вадародную бомбу. Хіба нармальны чалавек мог такое прыдумаць? Хіба не памяшаліся яго мазгі ад гэтых скорасцяў? І на каго прыдумаў? Не на звера, не на ваўка шалёнага... На ваўка стрэльбы хопіць... На чалавека! А б-божа мой... Раней старыя спакойна паміралі, а цяпер жа... Як жа ты памрэш спакойна, калі пад табою, у зямлі ўжо ўсякіх бомбаў нахавана? Ды тут жа такога можа натварыцца — спалне ўсё ў агні, распырхнецца!

— Дзядзька Пятрок,— перапыніла яго філасофстваванне Аляксана.— От каб яшчэ Федзю і Рыгора, то можна было б і на могілкі ехаць. Абед Ясю везці...

— У Яся добрая смерць... І настрахацца не паспеў...— вярнуў на сваю тэму Пятрок.

— Дзядзька! Усе там будзем! — сказала легкадумна Ларыса.— Той толькі не памрэ, хто не нарадзіўся.

— От Амерыку мне адкрыла! Ты яшчэ мо будзеш мне гаварыць, што паязды, самалёты, аўтобусы, машыны ўсякія — гэта добра, палёгка чалавеку. А я хіба кажу, што не палёгка? Але ж мелка ты, галубка, арэш, глыбей займай. А то адно пустазелле на тваёй ніўцы парасце...

## 4

Аляксана, не дачакаўшыся Лёню ў хату, сама выскачыла. Той таптаўся каля матацыкла, паціраў анучаю то рукі, то шоргаў па бензінавым баку: не хапала адвагі ісці ў хату.

— Чаго ты прыехаў? — Голас Аляксаны адразу сарваўся на нейкі прыдушаны шэпт.— Гэта не вяселле, і я цябе не прасіла!.. Ото-то прыскочыць Рыгор з Мінска, скандалу не абярэмся. Думаеш, ён не ведае, як ты цягаў вулей? Настаса ж бачыла...

— А я й не паехаў бы...— Лёня стараўся гаварыць абыякава.— Пятрок упрасіў, захацеў на старасці на матацыкле пакатацца. Зося яго прыхварэла... А калі гоніш, то я і назад магу катануць. Стары яшчэ вёрткі, сам прытупае.

— То чаго ўжо ты папрэшся адразу... Мяшок дам, грошы, у магазін скоч, хлеба прывязі. І нос нікуды не сунь, бо... такое можа пачацца...

— Не сунь... Ды яны цябе сёння, збяруцца, як ліпку абдзяруць! І абараніць не будзе каму!

— Знайшоўся абаронца... Не падскочыш вышэй пят.

Скора матацыкл патарахцеў, а яна вярнулася ў хату.

5 Невядома, ці паедуць Лявошка з Настасаю на могілкі. Абое нібы чужыя адно да аднаго. І Федзі няма, і Рыгора няма! Але ж трэба на могілкі абавязкова, такі звычай, і Аляксана пачала паспешліва, нібы ад нечага хацела ўцячы, збіраць сумкі. У адну паклала настольнікі — заслаць Ясеву і Сарафініну магілы, увапхнула бутэльку самагонкі і дзве бутэлькі віна, відэльцы, нож, чаркі. У другую пабольш харчоў-закускі, пячэння і цукерак, каб пакінуць на магілах. Збірала сумкі і адным вухам услухоўвалася, пра што гавораць Гардзей і Пятрок. А гаварылі яны пра комплекс, які будзе ў Дуброве, і Ясеў брат уздыхаў, што так і не давядзецца яму пабачыць, што гэта за цацка (ды пэўна ж дарагая!) — мала засталося жыць. І, вядома ж, усе дружна гаварылі, што яшчэ пажыве і пабачыць, а ён, як капрызлівае дзіця, круціў галавою і адгаворваўся: «Не, не, не!», усё роўна як Гардзей і Ларыса маглі загадваць прыходам смерці або яе адтэрміноўкай, а сам Пятрок вольны быў распараджацца сваім смертным часам. Гардзей быццам знарок пазбягаў гаварыць пра пісьмы Язвіцкай і картачкі наваяўленага брата Аляксандра.

— Хацела не ісці, а раз так, няма яшчэ ўсіх, то схаджу...— аб'явіла Аляксана.— Карову збегаю падаю!

І ёй сказаў Гардзей з той жа інтанацыяй, з якой толькі што гаварыў Пятру: «Бяжыце, бяжыце! Паспеем яшчэ...»

Пакуль «збегала», то прайшла амаль гадзіна, і шмат чаго перадумалася за гэты час. Вырашыла: хай толькі збяруцца ўсе свае, і яна аб'явіць «сюрпрыз». І ўжо зараней радавалася, як спусціць з катла пару і не будзе ніякага выбуху. Тым часам і сябе трохі «рэабілеціруе», а то і падвысіць у вачах Ясевых дзяцей. Бо хіба не адчувае яна скураю, якія токі высокага напружання пульсуюць наўкол, у якім сілавым полі даводзіцца жыць? Не такая яна цёмная і забітая баба, як некаторым здаецца, да вайны яшчэ шэсць класаў закончыла.

Дома былі ўжо Лёня і Федзя. «Я падвёз яго, я! — пахваліўся сын, пакуль яна падыходзіла.— Гляджу — скокнуў з аўтобуса, зайшоў у магазін цукеркі купляць...» Абодва стаялі пасярод двара і зусім мірна курылі, глядзелі, як яна падыходзіць і бянтэжыцца. Паставіла вядро на зямлю, паздароўкалася з Федзем за руку, а потым і абняла трошкі, прытулілася шчакою да грудзей, нават усхліпнула: «Во на якім вяселлі даводзіцца, Федзечка, сустракацца...» І заўважыла, як здзіўлена-коса зіркнуў на яе ў гэты момант Лёня, мо падумаў: «А са мною, як выйшла, нават не паздароўкалася, адразу з папрокаў пачала».

— Аляксандра Піліпаўна, і праз гэта чалавеку трэба прайсці. Нічога не папішаш.— Толькі і сказаў нечакана размяклым голасам Федзя, і Аляксана іх пакінула.

За варотамі на вуліцы стаялі ўжо і Лявошкавы «Жыгулі». Не відаць было толькі самога Косці, не відаць Настасы. А мо яны з Гардзеем у хаце?

Лявошкі і Настасы на кухні не было, мабыць, пайшлі да сябе дадому, і Аляксана паставіла малако на лаву, запытальна паглядзела на Гардзея: «Што рабіць? І што новага за гэты час адбылося?»

— Паедзем зараз, не будзем Рыгора чакаць,— сказаў ён.— Калі яшчэ ранавата прыедзе, то сам здагадаецца, дзе мы,— падскочыць... А яны... малога са школы дачакаюцца — і паедзем,— апошняе тычылася Лявошкі і Настасы.

Але прайшло яшчэ не менш паўгадзіны, пакуль выбраліся. Аляксана ўбачыла праз акно, што Настаса правалакла агромністую сумку, і скрывілася: «От заяда... Я ж узяла ўжо і настольнікі, і выпіць-закусіць... Не — сваё валачэ...» Пакуль Настаса ўсаджвалася з

віцем у «Жыгулі» (не спераду, каб разам з Лявошкам не сядзець, а ззаду!), Косця зайшоў па іх, і Аляксана адхіснулася ад акна, паспешліва паздароўкалася. Лявошка паклікаў з сабою Пятра Іванавіча і пакульгаў прэч. На Гардзееву машыну набіраўся амаль поўны камплект: іх двое, ды Аляксана, ды Федзя.

— Лёня! — пагукала сына ў акно.— Ты ідзі во, абедай... Ды пабудзеш тут за гаспадыню. Як будзе чатыры гадзіны, парасятам вынесеш...— напрамую не сказала яму, што не едзь на могілкі, але і так зразумела было, што не хочацца ёй, каб сын быў з усімі, не хочацца, каб сустрэўся з Рыгорам, які — пэўна ж! — таксама прыскочыць туды.

...За сялом ужо, выязджаючы з выгану на высыпанку, уехалі ў натоўп «пэтэвушнікаў». Напярэймы машынам, махаючы рукамі, кінуўся Саша. Спыніліся абедзве машыны, пакуль ён разабраўся, дзе свабадней, куды падсесці.

Не мог даўмецца Лявошка, раз-пораз кідаючы на Сашу збоку позіркі, чаго ззяе, як надраены пятак, быццам не ведае, куды едуць машыны, быццам забыў на ўсе беды-напасці, якія трэслі яго сям'ю.

А ўсё тлумачылася проста: памірыўся з Раяй Русак. Больш таго — і фоткамі абмяняліся, і пакуль Рая з усмешкай, што свяціла яму, як вясна, углядвалася ў рысачкі яго мікрапартрэта, гаварыў: «Во... Лепшай няма пакуль што... Не морда, а... «У свеце жывёл». На што Рая сказала яму: «Дон Кіхот, што ты ў гэтым сячэш?» Ды як сказала, з якою інтанацыяй!

Ехаў Саша, на дзесяткі ладоў паўтараў у думках гэтую фразу — і не мог перадаць усе адценні Раінага голасу...

...Вярнуліся гадзін у семнаццаць, так і не дачакаўшыся Рыгора на могілках, правёўшы ўсё без яго.

Зайшлі на двор і не заўважылі, што няма матацыкла. Але сенцы былі не замкнёныя, і думалі — чакае Лёня ў кухні, мо што робіць-памагае.

Нікога не было. Па ўсёй падлозе кухні было накапана крыві, а вялізная пляма-лужына растоптана, размазана нагамі. Валялася Ясева паляўнічая стрэльба, ляжала бокам табурэтка.

Аляксана першая зайшла, першая ўсё разгледзела. Слаба ахнула-выдыхнула, пачала звівацца пад ногі Гардзею... Той ледзь паспеў падхапіць яе.

6 А нарабілася дома вось чаго.

Лёня сядзеў у кухні, абедаў, што настаўляла яму Аляксана. Жаваў і разглядваў па баках, круціў галавою. І ўбачыў Ясеву стрэльбу, што вісела ў цяпле і сухаце. І ўжо прапаў яго спакой, позірк так і цаляў туды, галава так і рабіла круць-верць у той бок. Да таго ж, казытаў ноздры, нерваваў гарэлачны дух, які разліты быў па кухні. «А чаму яна мне гарэлкі не ўліла? А толькі малака — я ж не сысунок!» Устаў прынюхваючыся, і нос прывёў яго за занавеску пры печы. «Уга, ды тут цэлая батарэя бутэлек... Скажу — памылку тваю паправіў, не буду ж я душыцца ўсухама». Узяў адну, занёс за стол, набулькаў паўшклянкі. «Не вельмі ўдалася... У Буславічах лепшую гоняць...» Зноў налёг на закускі, раз-пораз кідаючы позіркі на печ. Цмокнуў малака і выбавіўся з хаты, далей ад спакусы.

Пахадзіў-паблукаў па двары, а ў галаве — стрэльба...

Адчыніў склеп, убачыў перагародкі з замкамі на дзвярах. Адобрыў: «Прыстасаваліся...» А ці многа накапана бульбы? Не вытрываў, спусціўся ўніз, зазірнуў у цёмную шчыліну. А мо не злева яе? Зазірнуў і ў другую палавіну: амаль пароўну насыпана, вазоў па пяць.

Далей глядзеў па парадку. У хляве ў закутку — колькі сена: «Мала, мо з паўвозіка... І леташняе, відаць... І з гэтаю крыхою хоча карову прадзержаць?!» У хлевушку-прыбудоўцы — ці вялікія парасяты. «А нішто выраслі, нелапы́я... Дурны, выбраў ёй самых лепшых. Яна б і горшых выхадзіла, і задохлікам была б рада... Прынясу зараз, улію. Хай хочуць ядзяць, хочуць глядзяць». Схадзіў у сенцы па боўтанку, якую падрыхтавала Аляксана, прынёс і перакуліў у карытца, павесіў вядро на слуп. Парасяты парохкалі, а потым адно ўстала, цмокнула раз, другі, пасмакавала.

«Нашто маці стрэльба? Што яна будзе з ёю рабіць?»

«Трэба было мне на машыне падскочыць, а не на матацыкле. На матацыкле ж нічога не возьмеш...»

Адчыніў падпаветку. У вочы перш за ўсё кінуліся два веласіпеды — мужчынскі і жаночы. «А нашто ёй гэтыя веласіпеды? Магла б мне адзін даць, мог бы сын вучыцца — пад раму хоць, калі не дастане педаляў». Адвёў ад цяслярскага варштата адзін, прыхіліў да ле-

сак, паравёў і другі, жаночы. Абодва спраўныя, хоць зараз садзіся і едзь, нават паветра не трэба пампаваць. Подступ да варштата вызваліўся, і вочы ў Лёні адразу разбегліся...

На сцяне над варштатам віселі пілкі — прадоўжныя і папярэчныя, нажоўкі і лучковыя, нават лобзікі. На рабочай дошцы варштата справа — доўгі, мо з метр, фуганак і напалову меншы, з чатырма ручкамі «баран», тут жа невялічкае кавадлачка з кавалка рэйкі. Зазірнуў пад дошку, у прыцемак — вывалак яшчэ два гэблі, шархебель і рубанак, невялікія металічныя цыклі, выгнутыя і прамыя скоблі. Усе — карысныя рэчы, і як бы яны спатрэбіліся!

Яшчэ былі тры рады шуфлядаў. У верхнім — чатыры невялікія, адчыняў іх адну за другою: у першай убачыў разнамерныя цвікі і шурупы, шрубы і болцікі; у другой — напільнікі і рашпілі, долаты і стамескі; у трэцяй — абцугі, шчыпцы, звычайныя і рассоўныя ключы, малаткі металічныя і драўляныя; у чацвёртай былі свярдзёлкі: пяровыя або лыжачныя, спіральныя, шылападобныя, цэнтравыя, бясцэнтравыя, нават такі, што падобны на каленчаты вал, з корбаю. У асобнай празрыстай каробачцы — алмаз, якім рэжуць шкло. Не ведаў, што глядзець спачатку, што мацаць, забыў на ўсё, нават пра стрэльбу. Выцягнуў шуфляду на ўсю даўжыню, набраў прыгаршчы свярдзёлкаў і тую корбу, вываліў на варштат, выняў алмаз, а прыскрынак забіў на месца нагою.

У другім радзе былі дзве вялікія і глыбокія шуфляды. І ў адной і ў другой ляжалі гэблі і гэблікі, пра якія ён нават не меў паняцця: тарцовы фуганак, цынубель, фальцгэбель, занзубель, шпунтубель, усялякія гарбачы і цацачнікі з наборам жалязак, нават невялікія, як у кішэню пакласці, цыклі з загорнутымі для драпання лязамі. Дзівіўся на гэблі-цацачнікі, а рука ўжо машынальна паклала ў кішэню некалькі цыкляў, металічны метр, алмаз. У ніжнім радзе ў апошніх дзвюх шуфлядах былі ўсялякія драўляныя прыстасаванні — вугламеры і вугольнікі, рэйсмусы і шрубцынгі, грабёнкі, кліны, цыркулі, стуслы. Але гэтыя штукі і спаруды не зацікавілі Лёню, загнаў шуфляды на месца.

Азірнуўся, пашныпарыў вачыма, з перакладзіны лесвіцы сцягнуў стары руды мяшок, пакідаў у яго свярдзёлкі, ірвануў малыя шуфляды — загроб некаль-

кі долатаў, шчыпцоў і малаткоў, усунуў шархебель і рубанак, пазаганяў на месца шуфляды. Патузаў, паштурхаў з бакоў мех і ўкалоў на нейкі свярдзёлак руку — шыла ў мяшку не схаваеш. Зладзеявата высунуў галаву на двор: ці ўсюды ціха, ці не прынеслі каго чэрці? Перабег двор, кінуў мяшок у буракі, была за плотам нявыбраная градка. Кепская схованъ, усё відаць! Бягом да дзверцаў, заскочыў у сад, назбіраў сям-там цяўніку, прыкрыў лепш. Абы да цёмнага ўхаваць, а пасля памінак забярэ — і дай бог нозі.

Выпрастаўся, аббіў рукі, паазіраўся. І толькі зараз пачуў, што сэрца радасна бабахае ў грудзях, трымцяць напружана калені. Гэта было знаёмае ўжо вострае і салодкае пачуццё, не раз перажытае, калі цягнуў з калгаса дадому тое, што кепска ляжала.

Прайшоўся дваром, выглянуў на вуліцу, закурыў. Але мо два разы цмокнуў і ўпусціў цыгарэту пад ногі, укруціў пяткаю ў зямлю. Барзджэй падаўся ў хату...

Каўтнуў яшчэ гарэлкі — з пляшкі проста. Пасядзеў, аддыхаўся: «Спакайней... Спакайней...» Устаў, пагнаў нагою з-пад прыпечка заслончык, каб лацвей было дацягнуцца да стрэльбы. Забылі пра яе ўсе, нікому яна тут не патрэбна... Як шкада, што гэта штука не кароткая, як абрэз, не сунеш у мяшок разам з жалязякамі!

Якая адпаліраваная і адшліфаваная ложа стрэльбы! Зняў выцягнутаю рукою, саступіў хуценька ўніз, і яго павяло ўбок — ад хвалявання ці ад гарэлкі.

«От гэта рэч!.. Красаці-і-шча...» Стрэльба была яшчэ не яго, а ён ужо любіў яе. Пагладжваў усю-ўсенькую з дзіцячым захапленнем і заміраннем сэрца: ложу, шыйку ложы («як ручка пісталета!»), цаўё, рулю да самай мушкі, калодку, спускавую скабу, кручок, рамень з антабкамі. Нацэліў прыкладам у столь над дзвярыма, прыплюшчыў левае вока, зазірнуў у дула — цёмна ў ім, нічога не разгледзіш; учуў адтуль мляўка-смуродлівы пах. «Такі гаспадар, а ружжо не чышчана...» Павярнуў ложаю да печы, каб з акна больш падала ў дула святла, зноў зазірнуў...

— Збродуеш? — голас, як з неба. Лёня скалануўся, ледзь не ўпусціў стрэльбу. Ад парога рэзка ступіў Рыгор.— Апсік пад лаўку! — ірвануў з яго рук аднастволку.

Лёня за цаўё і канец рулі тузнуў да сябе. Рыгор ірвануў мацней, і... гром стрэлу!

— А-ай! — енкнуў Лёня, стрэльба ўпала. Заматаў з гарачкі рукою, закруціўся, густа крэпячы крывёю падлогу. Хацеў сунуць пальцы ў рот і зжахнуўся: мезенец целяпаецца на скурцы, безыменны палец пашкуматаны, крывавіць і ўся далонь. Ледзь ракам не стаў Лёня, заціснуў, выючы, запясце, але кроў усядно лілася цурком.

Рыгор, прыглушаны стрэлам, нібы некалі громам, ачомаўся. Схапіў з цвіка на вушаку не зусім чысты ручнік, пачаў матаць Лёню на руку.

— Заткніся, баба! Да Каменскага трэба... Дзе ключ ад матацыкла?!

— Тут! — падставіў Лёня правы бок.

Рыгор сунуў руку ў кішэню курткі, і Лёня тузануўся, нібы прысмаліла агнём:

— У штанах, такую тваю!..— спужаўся, што намацае алмаз і жалезкі.

Кінуліся з хаты бягом.

Ісціна: раз у год ружжо страляе само...

7 Хацелі ўжо трывогу падымаць, у міліцыю званіць. Ды прыляцеў на матацыкле ўзбуджана-спалоханы Рыгор.

— Лёнева кроў... Балаваўся з ружжом...— растлумачыў збольшага.— Аніякага паняцця, як брацца за зброю. У Каменскага ён зараз... Мезенчык — чык-чырык... Каменскі гаворыць: «Можаце сабе на памяць пальчык узяць... А што з безыменным палучыцца, хірург у Слуцку рошыць...» Чакаюць «хуткую дапамогу»...

Загаласіла, заплакала Аляксана...

Вось яно, вось тое, ад чаго зараней ныла сэрца, як быццам вяшчала бяду. А магло ж і горай быць, гэта шчасце проста, што так абышлося. «Хаця — якое шчасце? Скалечыўся хлопец, а мог прапасці не за нюх табакі...»

У Рыгора язык не паварочваўся расказаць усё так, як было. Ён дасюль не мог уцяміць — як гэта зачапіліся пальцы за той спускавы кручок? Не мог паверыць, што стрэльба засталася зараджанай з чаго часу, як пужалі пчол. Дый Лёня, моршчачы твар і няньчачы руку, кінуў яму ўслед: «Не кажы ўсяго... Скажы — па неасцярожнасці я...» Быццам абодва адразу паразуме-

ліся, схамянуліся перад пропасцю, у якую маглі абрынуцца...

Як ужо назносілі сталоў і лавак, расставілі як след і Ларыса з Пятром пачалі завіхацца каля іх, пераносіць і расстаўляць закускі, Аляксана, супакоіўшыся крыху, сказала:

— Прысядзьце ўсе на хвілінку... Гардзей, я так от падумала: ты забірай сабе ўсе інструменты, усю бацькаву майстэрню. А Ясеў веласіпед давайце аддамо Федзю, яму па сёлах трэба ездзіць... А другі, жаночы, хай Настаса возьме. Усядно я не збяруся на ім раскатваць. А Рыгору хай будзе бацькава стрэльба... На памяць... Можаце яшчэ і памяняцца, калі што каму не ў нораў... Вулляў цяпер дзесяць, то пакіньце мне два сяголетнія, слабейшыя. А восем забірайце. Кожнаму па два выйдзе. Усядно я не ўмею з імі абрашчацца... От так от... Кажы што, Гардзейка, мо я не так чаго?

— Чаму? Якая ваша воля... Вуллі няхай пастаяць пакуль... мае. А хто захоча, хай аддзяляе свае... («І мае хай пастаяць!» — кінуў Федзя. «І мае!» — Рыгор). А я яшчэ дабаўку скажу...— Гардзей уздыхнуў.— У бацькі быў, аказваецца, няшлюбны сын. Тут пісьмы да бацькі ёсць, здымкі...— дастаў з шуфляды, выклаў на стол пад Рыгораў выгук: «Вот гэ-эта да-а-аў прыкурыць стары!» Рыгор і руку да іх першы працягнуў.— Дык значыць, што б там ні было ў завяшчанні, прашу ўсіх трымаць сябе ў руках... Прыстойна... У бацькі гэта не любоўныя прыгоды былі. Выконваў, можна сказаць, просьбу, сацыяльны заказ... Не павінен род чалавечы з-за вайны канчацца... Кгык-м-м...— І сам збянтэжыўся ад сваіх слоў.

Паклікалі Настасу, паехалі на Гардзеевай машыне ў сельсавет, па дарозе захапілі сакратарку з ключамі. «А запіска Дамашэўскага ёсць?» — Не хацела спачатку нават залазіць у машыну. «Ёсць! Далася вам гэта запіска...» — з нейкай злосцю сказаў Рыгор.

...У завяшчанні ні слова не гаварылася пра Настасу. Палавіну грошай з кніжкі бацька адпісваў Федзю. Другую палавіну трэба было дзяліць на тры часткі — Гардзею, Рыгору і... Ружы Язвіцкай.

Раздзел дзесяты

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Людзі заўсёды ўсё ведаюць.

Як ні стараліся Сухавеі, каб не выпусціць чаго з хаты, усім стала вядома, што нарабілася Лёнем. І пра тое даведаліся, як шчодра раздавала падарункі Аляксана, і пра тое, што яшчэ адны спадчыннікі з'явіліся — Ружа Язвіцкая з сынам.

А пра тое, што Рыгор падагнаў раніцаю пасля шасцін машыну і пакідаў у яе дзяцей, як глякоў, павёз з сабою, Марфа раструбіла. Бегала і бегала з качаргою па вёсцы, стрэчнаму і папярэчнаму цвердзіла:

— Адна я цяпер... Як былінка ў полі...

— Пахапаў дзяцей, як коршак які. А Таньку загарнуў з пасцелькаю разам, мо нават і не прачнулася...

— Мо скора прыляціць мяне выпэнджваць... Божачка, і дзе мая смерць ходзіць?!

Ледзь паспелі ў Дуброве пераварыць і абгаварыць гэтыя навіны, дайшла да вёскі яшчэ адна: кінуў сваё настаўніцтва Федзя. Сказаў, каб шукалі ў школе яму замену, і ледзь дачакаўся канца першай чвэрці, узбіў на плечы рэчавы мяшок і падаўся ў паход — ад вёскі да вёскі, ад сяла да сяла. З фотаапаратамі, з магнітафонам, з блакнотамі — колькі сілы хопіць, вытрывалсці і на колькі зможа расцягнуць бацькавы грошы, што атрымаў па завяшчанні. Кажуць, што пра гэта Настаса расказала, пісьмо мела ад Федзі... І было гэта людзям у вялікае дзіва («Кінуў такую работу! І з-за чаго? З-за нейкіх песенек, пабрахушак...»), але знаходзілася многа і такіх, што разумелі яго парыў, захапляліся Федзевым учынкам.

Але такога выверту, як Аляксана зрабіла, ніхто не мог уявіць. І паўгода не дачакалася, каб справіць яшчэ адны памінкі (не гаворачы ўжо пра год), як прадала хату і перабралася назад у Буславічы. Нават не прадала, атрымаўся своеасаблівы натуральны абмен. Пераехаў у яе хату дэмабілізаваны механізатар з маладою жонкаю (Дзеньдобры сагітаваў на работу), а сваю хату пакінуў Аляксане. Кажуць, што доўга і не тарокаліся, мо нават не даплочваў ніхто нікому. Згрузілі з машыны адны рэчы, на тую ж машыну Аляксаніны пагрузілі — і бывайце здаровы, жывіце багата. І лю-

дзі доўга і ўпарта гаварылі, што з-за Настасы не магла ўжыць Аляксана.

Маню ў бальніцы наведвалі рэдка — Мінск табе не Слуцак, не рукою падаць. Тры разы выбіралася да яе Марфа — раз у нядзелю і два разы сярод тыдня. Чатыры разы па нядзелях ездзіў у бальніцу Саша, усяго два разы быў Рыгор. Расказвалі — даюць Мані нейкія псіхатропныя сродкі-лякарствы.

Прывёз Маню дадому на сваёй машыне, калі напісалі, што ўжо здаровая, Лявошка.

Можа, і здаровая была, нават зноў у кароўнік хадзіла. Толькі ўсіх адно ўражвала: не цікавілася дзецьмі, не ўспаміналa пра іх. Забраў іх Рыгор? «Ну й добра... І не ва́дзіць... Будзе знаць, як вычаўпляць абы-што...» Саша і да бацькі заяўляўся, і да маці прыязджаў, а яна ні разочку не папытала — як яны там?

Заўважалі толькі людзі, што часта выходзіла яна на «стаўбавую» дарогу. Выйдзе і ходзіць сюд-туд, выйдзе і маячыць на віду ў Вольчынага хутара...

Тым часам ударылі першыя маразы. Нясмела, нібы ў роздуме, закружыліся рэдкія сняжынкі. Людзі задаволеныя былі: добрая, мабыць, ляжа зіма, не гнілая...

У адзін з такіх дзён трапілі дуброўскія бабулі са сваімі песнямі і найгрышамі ў Навасёлкі. Ішоў агляд народнай творчасці ў гонар юбілею рэспублікі, і ў раёне выступленне старых спадабалася арыгінальнасцю. Іх уключылі ў зборны канцэрт — везці эстафету ў суседні раён, гэтак і трапілі яны ў навасёлкаўскі Дом культуры. Ездзіла Дар'я з гармонікам, Аўдотка са скрыпкаю, Марыля Каляда, Кацярына Пахвалёная, Ліля Пахілька і аднарукі пастух Зосім Ёрш са сваёю дудачкай.

Пасля канцэрта ўсіх самадзейнікаў павялі ў кафэ частаваць, там заранеЙ былі накрытыя сталы. Доўга частаваліся і песні за сталом спявалі. А Дар'я і Кацярына пацІху выбраліся і пайшлі шукаць, дзе Рыгор жыве, паглядзець — *як* жыве. І знайшлі, і такога нагледзеліся, што і наўздыхаліся, і сэрцы разбалеліся.

Калі вярнуліся ў Дуброву, не марудзячы, пайшлі да Волькі — і ўшчувалі, і папракалі, і ўпрошвалі ехаць хутчэй да яго. Што яна тут выседзіць адна?

«Міленькая, у яго ж як у казарме ў салдат — у два паверхі...» — «Ага... Нары з дошак збіў. Знізу Аленка

спіць, а ўгору Ваня лазіць. Спрытнейшы...» — «А малую ў кругласутачны садзік водзіць...» — «А большыя дзеці запушчаныя, і сам чорны да цёмны...» — «Дар'я, не вельмі і запушчаныя. Але відаць, што гаруюць. Самі сабе мыюць...» — «Ага, заходзім да іх, позна так ужо, а Ваня і Алена мыюць штанцы Ваневы ў тазіку, жмакаюць... А Рыгор стаіць збоку і інструкцыі дае. І ў самога рукі ў пене... А на табурэтцы цэлая горка навыкручванага ляжыць...» — «Сам у трусах — засаромеўся нас...»

Толькі і папытала Волька: «Гэта ён вас прасіў зайсці сюды?»

«Нічога ён не прасіў! Зацяўся, як у смале...»

«Мы самі надумалі... Ну хіба ў цябе сэрца няма, га?»

Пайшлі жанчыны, а Волька гадзіны дзве сядзела каменем.

І пачала вязаць клункі...

Праз тры дні ўсё, што хацела ўзяць з сабою, ужо груваcцілася і дыбілася на грузавіку. Гарою тырчалі мяшкі з бульбаю, укрытыя ад марозу посцілкамі (адзін — з клубнямі-каранямі вяргіняў), каля задняга борта стаялі клеткі з трусамі і мегегекала каза. Волька сказала Панкрату Шапчыцу: «Пасядзім на дарогу, дзядзька... Нейк сэрца сціснула, не дыхнуць...» І Панкрат, як ні спяшаўся — дарога ж не блізкая,— залез у кабіну і моўчкі закурыў.

Сядзіць сабе, курыць і чуе, што не толькі тытунёвым дымам пахне. Выглянуў — а ў хаце займаецца полымем страха.

«Што ты нарабіла?! Ты звар'яцела, дзеўка!» — выкуліўся — і да калодзежа.

«Пасядзіце, кажу, дзядзька Панкрат... Палюбуйцеся, як палае...» — Волька яму спакойна. «Звар'яцела, звар'яцела... Як гэта, каб сваімі рукамі сябе паліць?» — «А што рабіць з гэтай парахнёй? Нават на дровы ніхто не купіць... Хоць месца будзе чыстае...» — і адышлася, бо ўжо прыпякала нясцерпна. Панкрат адагнаў далей машыну...

І здарылася так, што якраз у гэты час набліжалася да хутара Маня. Ішла напраскі, сутаргава заціскаючы ў кулаку запалкі. Ішла і радавалася, што ўрэшце падпаліць Вольчыну хату, зробіць тое, чаго даўно ёй жадом жадалася. Не вытрымлівала, часам чыркала па

адной запалачцы і любавалася кволым агеньчыкам, пакуль не прыпякаў у кіпці ці не тух. Яшчэ раз чыркнула і... што гэта?! Загарэлася Вольчына хата?! «А як жа гэта... Я ж не дайшла яшчэ... І запалкі — вось яны... Вось!..» — паліла па адной, па дзве, па шчопці, рассейвала вакол сябе. Рэшту высыпала ў далонь і чыркнула жменяю, сыпнула над галавою.— Я во як яе! Во як! Ха-ха-ха!!! Салют! Ура, салю-ют!!!» — заскакала, забегала з рогатам...

Прымчала пажарная каманда ратаваць хату, прыбеглі людзі. Але даведваліся, што нічога не трэба тушыць, і кідаліся па полі лавіць Маню...

Марыю Міхайлаўну Сухавей зноў адправілі ў бальніцу.

...Рыгор плакаў цяжка, як мужчына, і горна, як малы. І саромеўся слёз, і душыў іх — да спазмаў у горле.

Скрышылася ледзяная зацятасць у сэрцы і быццам аплавілася, сцякла са слязьмі і крывёю. І Волька сядзела каля яго на парозе, у насцеж адчыненых дзвярах, хоць, мабыць, у калідорчык і далей у хату напускаўся холад, і таксама плакала.

А Панкрат Шапчыц, заехаўшы за хату з машынай і паадкідваўшы барты, спачатку стаяў і курыў, балюча крывіўся. Чакаў, што наплачуцца людзі і ўрэшце возьмуцца згружаць: яшчэ ж работы, работы, ды назад трэба дабірацца. А Рыгор і Волька сядзелі абняўшыся і выціралі адно аднаму слёзы са шчок і нікога і нічога наўкол не заўважалі. Ім хацелася мо насядзецца, як перад вялікай дарогай, яны разумелі, што гэтая дарога будзе нялёгкая, і марудзілі, набіраліся сілы.

«Ваня! Аленка! Трусікаў ідзіце глядзець!» — пагукаў Панкрат, але ніхто не выбег з хаты, мабыць, дзеці былі ў школе, і ён моўчкі адвязаў казу, знёс яе перад сабою ў сад, прывязаў да яблыні. Там шмат яшчэ было прыхвачанага марозам зелля, можна было паскубці. Зняў і клеткі з трусамі, паставіў каля ганка, ускубнуў і ім нечага, прапхнуў праз дрот. Хай ядуць-хрумкаюць, жывым трэба жыць.

Аўдотка памерла вясною, на радаўніцу.

Памерла на могілках, каля магіл лётчыка і партызана, якога калісь хавала сама. Кожны год да іх пры-

язджала-прыходзіла і сёлета прытупала. Жанчыны засцілалі настольнікамі магілы сваіх родных і блізкіх, выкладвалі на іх чырвоныя яйкі і ўсякія прынесеныя ласункі. А каторыя пахаджвалі ўжо сярод магіл, пазнавалі, дзе хто пахаваны, разглядвалі, хто які помнік каму паставіў. І сцішана перагукваліся, і хвалілі тых дзяцей, хто хараша клапоціцца пра бацькоў.

«Вой, не ўзяцца — крапіва... Хай яе агонь высмаліць...» — чуваць быў голас Кірэйчыкавай Анэлі. Яна не ўчора, не напярэдадні, прывяла ў парадак матчыну магілу, а толькі сёння ўхапілася апратваць.

«Нагадавала — то рві і маўчы...— не вытрымала Аўдотка.— Думаеш, так сабе крапіва на магілах расце? Гэта маці лупцуе цябе крапівою... Голаю рукою рві! Голаю! Хай лупцуе! Каб не забывала, дзе маці пахавана... Ды хіба гэта крапіва? Ты от на сёмуху прыйдзі паглядзі — у пояс! От бы таею цябе — па голенькіх, па голенькіх!..»

Лётчыкава і партызанава магілы былі абнесены агульным плоцікам — Дзям'ян Пахвалёны зрабіў. Аўдотка адчыніла дзверцы, ускінула настольнік на абедзве магілкі разам, апусцілася на колінцы. «А мае ж вы сыночкі... А ніхто ж да вас не прыходзіць... Ні татка, ні мамка не ведаюць, ні сястрыца, ні брацік, дзе вы спіце... Ні яечка чырвонага, ні сухарыка вам не пакладуць...» І зажурылася, загорнілася, аддалася ў палон думак...

А сонца ўжо і добра прыгравала, і нібы задрамала старая. І ўбачыўся ёй «той свет», у які яна шчыра верыла. І здалося ёй, што і на тым свеце салдацікі, што ў вайну пагінулі, ходзяць строем, калонамі, як і на гэтым хадзілі. Божа, колькі іх, маладзенькіх, цьма незлічоная... Усё ідуць і ідуць, ваяваць ідуць, а вайна ж даўно скончылася... А яны ж нічагенька пра гэта не ведаюць, усё ідуць... Самыя дальшыя калоны пылам-імглою зацягнуты, растаюць у шэрані...

І здалося ёй, што ў бліжэйшай калоне ў апошненькім радзе сыны яе грукаюць чаравікамі — пыл курыць. У Сцяпанкі, малодшага, абмотка развязалася. Нагнуўся ён рады даць, закруціць, і Аўдотка зусім добра пазнала яго. Ірванулася з усёй моцы, ажно сэрца выскачыла з грудзей — «Сцяпа-а-а-а-а...».

*1975—1979*

ЗМЕСТ





*Литературно-художественное издание* | *Літаратурна-мастацкае выданне*

МИСЬКО
Павел Андреевич
Избранные произведения в двух томах
ТОМ 2
ГРАДОБОЙ
*Роман*

МІСЬКО
Павел Андрэевіч
Выбраныя творы ў двух тамах
ТОМ 2
ГРАДАБОЙ
*Раман*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *А. Дз. Куліш.* Мастак *Н. У. Сустава.* Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін.* Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская.* Карэктар *А. Т. Глушчанка.*

ІБ № 3594
Здадзена ў набор 19.04.90. Падп. да друку 04.04.91. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 31,5+0,11 укл. Ум. фарб.-адб. 32,03. Ул.-выд. арк. 33,09. Тыраж 3800 экз. Зак. 347. Цана 3 р. 20 к.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.